Аляксей Карпюк

# Свежая рыба



Аляксей Карпюк

# Свежая рыба

Аповесці і апавяданні

Мінск
„Мастацкая літаратура"
1978

## СВЕЖАЯ РЫБА

### 1

Я — настаўніца. У мяне двое дзетак, муж ледзь не пісьменнік.

Апошні час я пачынаю любіць вершы. Вучыць на памяць няма калі, таму запісваю іх на паперу, вешаю над ложкам, а перад сном прабягу вачыма па радках — і праз некалькі дзён, глядзіш, яны ўжо моцна сядзяць у галаве. Слабасці сваёй крыху саромеюся і нават хаваюся ад Косці.

Між іншым, калі з'явіцца новая паперка над ложкам, муж паблажліва і з палітаваннем прачытае яе, дасць прафесійную ацэнку аўтару, але чамусьці не цікавіцца, навошта яна вісіць, і нават не дзівіцца.

У школе мяне лічаць сур'ёзным педагогам, выдаюць пахвальныя граматы, а мне — няёмка. Мне здаецца, што я — проста дзяўчынка. Раптам захочацца марожанага, пацягне пагуляць у класы ці паўзірацца на свет праз каляровае шкельца; або раніцой, ідучы на работу, здаецца, вярнулася б і паспала яшчэ гадзіны чатыры ці ўткнулася б маме ў прыпол і прасядзела б так паўдня. Не раблю гэтак, бо мама далёка.

Жыву ў невялікім горадзе, хаджу на работу заўсёды ў адзін час, па адной вуліцы і той жа дарогай.

Ходзіш у школу дзень, два, месяц, год. Памалу звыкаешся з тым, што навокал цябе. Непрыкметна ўсё, што сустракае цябе кожную раніцу, робіцца тваім, нават інтымным.

Насупраць бібліятэкі — клумба, каля яе праходжу кожны раз а палове дзевятай.

Далей — дрэўцы, вельмі знаёмыя, выраслі на вачах: вясной нецярпліва чакаю, калі з набрынялых пупышак, нарэшце, з'явяцца тоненькія, свежыя стрэлачкі лісцікаў. Летам хочацца памыць знямоглае ад пылу лісце, а ўвосень — сабраць у букет: такое яно яркае і прыгожае!

А тут будуюць гасцініцу. Кожны ранак заўважаеш, як выраслі за суткі сцены. Муляры — зусім маладыя хлопцы, а як сур'ёзна працуюць! Асабліва падабаецца мне адзін: бледны, у акулярах. Гадаю, хто ён такі, як стаў будаўніком, пра што марыць. Вельмі яны мяне ўразілі пасля аднаго выпадку.

Раніцой трапляю на сцэнку. Хлопец на рыштаванні надзяе фартух, знізу яму крычыць дзяўчына:

— Вася, падкову знайшла на вуліцы! З вухналямі нават... Адшліфаваная — на серабро!.. На, замуруй яе на шчасце!

— Кідай! — ажыўляецца муляр.

Яшчэ больш блізкімі становяцца гэтыя людзі.

Многіх прахожых ужо ведаю.

Вось гэты, у шэрым палітэчку, пунктуальны: на работу выходзіць мінута ў мінуту.

А то сунецца, мабыць, бюракрат. Ідзе важна, ні на каго не гляне, пасопвае і так трымае галаву, бытта з яе што-небудзь спадзе. Няўжо і ён быў калісьці маленькім хлопчыкам, як мой Віця?.. Уяўляю яго ў кабінеце: слухае чалавека, уткнуўшыся ў настольнае шкло, і да яго гаварыць, што да шафы. А ёсць жа людзі, якія такое важнічанне лічаць аўтарытэтам!

А вунь маладзенькая будаўніца спяшаецца на работу. Новую вясеннюю касынку нясе на галаве як бы нядбайна, толькі ж ты мяне не ашукаеш, хітруня: мне ўжо хутка дваццаць восем, але яшчэ ўмею і я так рабіць!..

Наганяю групку дзяўчат. Адразу відаць, што яны першы раз у нашым горадзе. Ага, у Доме народнай творчасці ідзе абласны конкурс самадзейнасці... Абганяць іх не спяшаюся. Дзяўчаткі няўпэўнена ўзыходзяць на мост (а ён у нас высокі!), ім закружыліся галовы. Спыняюцца воддаль ад парэнчаў, нямеюць, зачараваныя.

— Ах, гэта ж — Нё-оман! — шэпча адна.— Колькі вершаў пра яго вучылі, песень пялі...

Па мосце праехаў цягач, заглушыў словы.

Здалёк паказаўся той, каго я называю сваім незнаёмым. Сёння нечым засмучаны, ідзе і на людзей не глядзіць: а чаму? Мо ўчора ў клубе яго дзяўчына танцавала з іншым?.. Спыніць бы і падбадзёрыць: хло-опча, гэта ўсё драбяза!..

У аднаго радасць, у другога смутак — у кожнага сваё...

З часам людзі позіркамі пачынаюць гаварыць табе, якая прыгожая сонечная раніца, як шмат паспелі зрабіць за суткі муляры.

І гэтак з дня ў дзень!

Ідзеш з работы стомленая, галава поўная клопатаў, у руцэ — партфель, пузаты ад сшыткаў, і вось цябе штосьці пачынае цікавіць. Хоць яшчэ і нязначнае, але радаснае, тваё, часамі таямнічае, прыемнае: ты паглыбляешся ў яго, і стомленасць твая кудысьці знікае. Тады табе здаецца, што ты ўжо была некалі на свеце. Магчыма, і нават напэўна,— не чалавекам, а мо галінкай, цаглінай, хмарай...

Калі мяне агортвае замілаванне да ўсяго свету — кветак, сонца, каменняў, людзей,— то здаецца, што гэтая бязмерная колькасць пачуццяў дасталася мне ў спадчыну ад таго Мінулага, ад тае Сутнасці...

## 2

Такім чынам хаджу ў школу і — назіраю...

З нейкага часу ў плыні прахожых пачынаю вылучаць таго маладога чалавека, майго незнаёмца. Ветлівы твар. Чыстыя вочы. Лёгкая хада спартсмена. Заўсёды акуратна апрануты. І наогул нейкі не такі, як іншыя.

Пачынаю гадаць — хто ён?

Гадаю кожную раніцу і амаль з нецярплівасцю чакаю выпадку зазірнуць яму ў твар.

Ён не заўважае маіх позіркаў. Гэта мяне нават крыху абурае: не забылася пра той час, калі кожны хлапец вытрэшчваў на мяне, студэнтку, вочы. Паступова чытаю ў вачах незнаёмага здзіўленне. А неўзабаве ён ахвотна адказвае мне вачыма. Але ж мы толькі... пешаходы, як гаворыцца ў правілах вулічнага руху.

...Вяртаюся дамоў. Інстытут даў мужу на год творчы водпуск, Косця цяпер дома. Застаю яго так, як і пакінула. Абкладзены слоўнікамі, даведнікамі, кіпамі рукапісаў, капіркай — ён упарта стукае па бліскучых клавішах машынкі.

— Косця, ты мяне чуеш? — адрываю яго ад работы і чамусьці не зусім складна расказваю: — Кожную раніцу на мяне паглядвае нейкі дзядзечка!

— Што? — злуе ён.

Мы, жанчыны, любім крыху рэўнаваць і выклікаць рэўнасць — гэта асвяжае.

— Вечна трапляецца мне на вочы нейкі чалавек, калі іду на работу. На цябе падобны! Такі ж лабасты, з упартым позіркам, рослы... І чаго ён прыстае? — смяюся ды сама не ведаю, чаму хлушу.

— От, дзівак, я ж яго зусім не ведаю!..

— Віншую!

— Але навошта ён мне патрэбны?

— Не можаш даць сабе рады з ім: такая бездапаможная?.. І наогул, дай мне спокуй!

Робіцца крыўдна.

— Паперы купіла?

— На-а, еш яе! — кідаю пачак яму пад нос.— Не адзавіся да яго ніколі...

Але ён не звяртае ўвагі на маю крыўду. Разрывае пачак ды радуецца шчыра, як дзіця:

— Ы-ы-ых! Першы нумар! Ну і малайчына ты ў мяне, Іра! Дай пацалую!

— Яе цалуй!

— М-м-м, а-ах!..— ён сапраўды цмокае лісты.— Мелаваная, раско-ошная!..

Збіралася расказаць яму пра сённяшнюю спрэчку з піянерважатай, але ўжо расхацелася. Адчуваю штосьці большае, чым нездаволенасць мужам. Хочацца кінуць яму ў твар: «Эгаіст, толькі сябе ды свае рукапісы бачыш!..»

Памыляецца той, хто зайздросціць жонцы вучонага.

Гэта калісьці я думала, што вучоны — бог, які ў прыпадку святога і таямнічага натхнення лёгка ды бясклапотна робіць адкрыцці. Дзе там, ён — рабочы вол! І Косця з такіх, якія ісціну здабываюць мазалямі.

Вазьміце які-небудзь навуковы рукапіс у рукі і ўявіце сабе, што вам далі заданне не напісаць, а толькі — перапісаць яго. І вам стане страшна. А мой муж апошнюю работу, пакуль паслаў у выдавецтва, перапісваў разоў дзесяць! На гэты час, калі яму «пішацца», ён нібы адыходзіць ад мяне і дзяцей на цэлыя тыдні, месяцы ды лунае ў нейкім іншым свеце.

Зрэшты, калі і не піша, то з Косці карысць малая. Жыццё для яго — матэрыял для сваёй працы. У інстытуце ён дзень і ноч прападаў са студэнтамі. Думала, пойдзе ў творчы водпуск, будзе інакш.

Вось ён дома. А што змянілася?

Я ведаю, я ўпэўнена: колькасць патрачанага чалавекам часу на рабоце залежыць не ад пасады, узросту, а — ад характару. Толькі настойлівасць ды ўпартасць даюць вынік. Але ж — як звыкнуцца з паводзінамі мужа?

Ён фанатык сваёй працы. Часта, бывае, пасваруся, набурчу, нагавару непрыемнага, як вось зараз, аднак жа самы паважаны для мяне чалавек — мой Косця. Яго ўпартасці хапіла б на некалькі чалавек. Мне б крыху!..

Іду ў пакой да дзяцей, разумеючы, што раззлавалася на мужа дарма.

— Ма-амачка прыйшла! — кідаецца да мяне сын.— Што прынесла?

— Марынцы лякарства.

— Якое?

— Стрэптацыд.

— Стр-р-р... Стр-р-рыцып?.. Гы, як песня! Цыпцып, мае касаткі, цып-цып, мае цыплядкі!..

— Ах, вы-ыдумшчык ты мой! — хапаю сына ў абдымкі, удыхаю родны, мілы пах: эх, дзеці, што можа быць даражэй на свеце за вас?!

— Ма-ам, а Віця не даваў рабіць мне ўрокі!

— Чаму, сынок?

— А от я ўжо ўмею гавар-рыць з зачыненымі вачыма!..

— Не слу-ухай, мама, ён зубы загаворвае!

— А чаму мая пудра рассыпана на стале?

Сын вінавата адводзіць вочы.

— Ён кляксу пасадзіў на сурвэтку і засыпаў яе, каб ты не бачыла! — кажа Марынка.

— Няпрра-аўда!

— А хто мне чарніліцу паракуліў?

— А ты што на мяне казала?

І пайшло, і пайшло! Эх, мілыя бунтары мае!..

Неяк памірыла іх.

Узялася за падручнік, каб падрыхтавацца да ўрока; пасля абеду трэба ісці зноў.

— Мама, табе сёння зноў трэ на Пецеў савет?

— Педсавет...

— Не хадзі-і!..

— Не, педсавета ў мяне няма. Увесь вечар буду з вамі. Толькі загляну ў школу, правяду адзін урок з дзеткамі.

Сын відавочна радуецца.

— Ма, а Тамарка, што ў замыкальную школу ходзіць, ударыла тут,— Віця паказвае сабе на локаць,—і кажа: калена пабіла!

— У музыкальную, дурненькі, у музыкальную!

## 3

Домработніца Тося просіць прыдумаць пісьмо свайму кавалеру ў Карэлію. Тося высылае іх заўсёды даплатнымі. Па яе просьбе раблю пад тэкстам прыпіску: «Ляці, маё пісьмо, ляці, а ты, Міша, рубель паштару за яго плаці!» Кажа, што, каб выйсці замуж, трэба пайсці афіцыянткай у Дом афіцэраў, але больш там у сталовую не набіраюць.

Не, тут мне не падрыхтавацца.

Прашу Тосю даварыць абед, бяру партфель і выходжу. На падворку бялеюць там-сям лісткі Косцевай паперы, яе хапае дзецям усяго двара на караблікі і самалёцікі.

Пасярод нашага двара — альтанка, абвітая гарошкам. У альтанцы — у сініх плашчах і саламяных капелюшах — мужчыны ляскаюць костачкамі даміно. Пад сцяной на лаўцы грэюцца на сонцы суседкі. Машчуся непадалёк ад іх, паглыбляюся ў кніжку.

Абрыўкі размоў адной і другой кампаніі далятаюць да мяне.

— Дзе быў вечарам, Нікіціч?

— Дуплет!.. Учора?

— Ага!

— У гасцях.
— Ну і як?
— О, далі мы там!
— У мяне муж такі харошы, такі харошы, мы так добра з ім жывём, так ладзім...
— Пуста!
— ...Што хачу, тое сабе і куплю...
— Мі-іма!
— Мі-іма!
— І я!..
— ...Хачу сукенку — куплю сукенку, хачу дзве — куплю дзве, хачу футра — будзе футра...
— Канец, здавай!

Ігракі ажыўляюцца, уздыхаюць. Нехта з лёскатам перамешвае костачкі. Цяпер чуваць толькі жанчын.

— А мой захварэў. Няма горшай бяды, як хворы мужык у доме. Скардзіцца, уздыхае, крэкча, каб толькі звярнуць на сябе ўвагу. То таго не хоча, то сяго, а дасі — у рот не бярэ! Паспрабуй скажы, што ў яго — нічога сур'ёзнага!
— Я свайго ў такім выпадку кладу на ложак.
— Гэтак і я раблю. Яшчэ мой любіць, каб класці сілай, нават упіраецца. Пакладу, пастаўлю градуснік, а там — трыццаць сем і дзве дзесятых! Бедны, які ён тады засмучаны! Угаворваю, што грып з такой тэмпературай якраз найгоршы. Супакойваецца тады. Ухутаю, як дзіця,— спі! Сяджу і зубы загаворваю: «Нічога, хутка паправішся...» Ох, такі тады даверлівы, пацешны, ціхі — смех і гора!
— Але ці даглядае ён вас?
— Э-э! Толькі тады, калі ў яго няўдачы па службе...
— Во-во!

У нядзелю гэтыя жанчыны з мужамі панадзяваюць габардзінавыя паліто, прыбяруць дзяцей, пабяруцца за рукі і чынна пойдуць на самую людную вуліцу шпацыраваць. Дзеці вырываюцца, мацяркі трымаюць іх і роблена ўсміхаюцца знаёмым. Я бачу наскрозь сэнс такіх рытуалаў. А сама люблю паходы ў лес, на поле. Але, калі Косця піша дома і ў нядзелю, а я, самотная, спатыкаю на вуліцы гэтыя прыкладна-паказальныя сем'і, то часам бывае вельмі сумна і прыкра. Вось і цяпер мяне кранае штосьці, як бы зайздрасць.

— Яшчэ раз дуплет! — зноў заладзілі ігракі.

— Прыемна, калі добра жывеш з мужам,— пазяхае з сумам другая жанчына.

— Салям алейкум, трымай тройку!

— ...А мне трэ дошку на кухню раздабыць...— пазяхае трэцяя суседка.— О-оэх!..

— Алейкум салям, шэсць!

— Міма!

— ...Паліцу трэба зрабіць на посуд... Хадзіла ўчора ў домакіраўніцтва, а там сказалі — няма! Тады я сказала: не дасце — напішу самой Валянціне Церашковай, будзеце тады ведаць!

— Гатова!

— Чорт! Рыба!

— Цяпер раздавай ты!.. Дык мы там пяць бутэлек віна, тры каньяку выжлукцілі!..

— Ну і далі-і!

Божа!

Яны з пароды людзей, якія на рабоце толькі і лічаць свой стаж, каб хутчэй пайсці на так званы адпачынак. І вось, адпачываюць!.. Які далёкі ад гэтага Косця!

Няўжо і мой незнаёмец па натуры такі? Я ж яго зусім-зусім не ведаю!

Бр-р-р! — калоціць мяне ўсю.

Я чагосьці трывожуся.

З дома вылятае Віця. Я забылася сказаць, ён толькі гэтымі днямі навучыўся вымаўляць «р» і з радасным смакаваннем паўтарае яго дзе трэба і не трэба. Ён мяне не бачыць і зацягвае на ўвесь падворак:

— Давайте, космонавты, закурррым перред старртом, ведь у нас оста-алось четырррнадцать минут! Врррагу не сдается наш горрдый «Варрряг», пррощай, Антони-ина Петрррровна!.. Толік, даць табе жалезнага шоўку?

— Нясі!

— Не, ты хадзі сюды! Ён у мяне пад ганкам ляжыць, я туды не падлезу адзін!

Хочацца зноў абняць сына. А ўрокі? Не, не падрыхтавацца мне тут. Дома адна Марынка з Косцем, вяртаюся да іх.

## 4

Косця, вядома, нават не заўважае, што я вярнулася са двара. Саджуся ля дачкі, мужа, каб набрацца ў іх рабочага настрою і ўраз закончваю паўрочныя планы. Абедаць яшчэ рана. Што рабіць?

— Пабачыў бы, што на двары робіцца,— асцярожна загаворваю да мужа.— Ты адзін толькі не любіш кампаніі, сяброў...

— Я ў такім узросце, калі мне патрэбны толькі аднадумцы! — буркае ён са злосцю, не перапыняючы работы.

Яго нічым не возьмеш.

Успамінаю пахвальбу суседкі. Я ж не горшая! Іду да шафы, перабіраю сваю вопратку. Спыняюся на ваўнянай сукенцы. Дарагі матэрыял купіў з першай кандыдацкай зарплаты Косця, а я шыла не ў майстэрні, а ў прыватнай швачкі.

Дастаю сукенку, нацягваю яе. Падыходжу да люстэрка. Цудоўна! Сама сабе ў ёй падабаюся.

— Косця, паглядзі, можна так ісці ў школу?

— Што? — узнімае ён здзіўленыя вочы, нібы першы раз мяне бачыць.

— Ці можна ў гэтай сукенцы ісці да вучняў?

— А чаму не? — дзівіцца.— Якая розніца?!

Да яго нічога не дайшло, людзі!

Успамінаю, як калісьці чакала прымерак, з якім дрыжаннем і заміраннем сэрца выглядвала яго з работы, каб ён мяне ўбачыў у новым уборы. Зноў робіцца прыкра.

— А я некалі з-за цябе стала нават модамі цікавіцца! — кажу з крыўдай.

— Не выдумляй!

— Праўд...— давіць мяне нейкі камяк.

— Чаго ты прыбядняешся, чаму так з-за мяне-е? — злуе.— Хіба ты не жанчына?

Збіраюцца слёзы — вось-вось заплачу.

— Ну-у, пачала ўжо! — Косця нездаволена ўстае, пачынае суцяшаць: — Ты для мяне ва ўсіх уборах прыгожая!..

Тут адчыняюцца дзверы, і ўваходзіць Галя, з якой мы, дзецьмі, былі ў эвакуацыі.

— Добры дзень, Старкевічы! — кажа збянтэжаная. Яна заўсёды баіцца Косці.— Ты куды так выфранцілася ў будні дзень?

— У нас сёння мерапрыемства ў школе...— хлушу.— Пойдзем адгэтуль, пагутарым сабе...

Вяду яе ў спальню, зачыняемся, і сяброўка расказвае пра сваё жыццё. Потым бярэ кніжкі, выходзіць.

Тося нясе на стол талеркі, хлеб. Клічу дзяцей. Косця шчоўкае замком машынкі, заўважае:

— Твая Галя нейкая бясколерная...

У вайну яна засталася калекай. Але не хочацца расказваць сапраўдную прычыну, як і наогул не хочацца з ім гаварыць. Толькі кажу:

— Ціхая, сціплая настаўніца.

— Во, во!

— А чаму табе гэта не падабаецца?

— Калі мне гавораць пра каго, што ён ціхі і сціплы, то вельмі ж хочацца дадаць: і бяздарны! Сціпласць найчасцей прытворства! У здаровых і нармальных людзей сціпласць — напэўна, прытворства!

— Тады мы не здаровыя і ненармальныя.

— Іра, навошта прыбядняешся! І ты ж любіш Чапаевых, Гагарыных. А хіба пра іх можна сказаць сціплы, ціхі, падумай! Хіба ты закахалася б у ціхага, сціплага? Прызнавайся па-чэснаму! Мы ж разам з табой вучыліся. Штосьці не памятаю, каб у інстытуце табе падабаліся ціхоні ды сціплыя...

І што яму такое сказаць?

— ...Мы па прыродзе рэвалюцыянеры і любім людзей дзёрзкіх, смелых, якія ўмеюць пастаяць за сябе і за другіх... Нездарма тваю Галю і замуж ніхто не бярэ! Пажыві з такой пару месяцаў — павесішся ад нудоты!

Мяне тут узрывае:

— А ці ты ведаеш, што ў яе няма па лытку правай нагі?

— Што ты вярзеш?

— Што чуеш!

— Ну-у?!

— Вось табе і ну!

— Не, праўду кажаш? — паціху ўжо з жалем пытаецца ён.

— Гэтак не жартуюць.

— А-яй-яй! Ніколі не падумаў бы!

— Яшчэ хвалішся, што назіральны... Ці не геройства дзесяць гадоў працаваць у школе і хаваць пратэз ад настаўнікаў ды вучняў? Не яе віна, што ніхто не бярэ!

Косця ўсё лыпае ад здзіўлення вачыма.

— Упартасці і геройства ў адной гэтай жанчыны больш, чым ва ўсіх тваіх кандыдатах, калі нават скласці разам! — крычу я з перакананнем.

— Мабыць, і праўда... Здаюся...

Адчуваю вялікую палёгку, што яму дапякла.

## 5

Пасля абеду выпраўляю Марынку ў школу і адпраўляюся сама. Памалу супакойваюся. Штосьці мела ўспомніць цікавае і прыемнае. Вось-вось улоўліваю нітку запаветнай таямніцы, але не паспяваю ўлавіць — мая школа.

На парозе будынка спатыкае мяне змрочны дырэктар:

— Вашы выхаванцы зноў сёння натварылі: запусцілі джаз на ўвесь пакой, што сцены задрыжалі! Настаўніца малявання вымушана была пакінуць клас!

Я маўчу.

— Разберацеся — што там?! — кажа начальства.— Учора з піянерважатай быў скандал, сёння вось з ё-ою... Вечна з вашым класам не дзякуй богу!..

Устрывожана імчуся па калідоры.

Вучні насцярожана ветлівыя. Адчуваю, яны нешта ведаюць і таму па-змоўніцку на мяне глядзяць. Допыт рабіць? Не, вытрываю. Пачну ўрок, раскажуць самі.

— Ірына Іванаўна, а ў Янусіка глядзіце што...— асцярожна кажа стараста.

На парце малюсенькі, з папяросны карабок, радыёпрыёмнік на транзістарах. «Ах, дык ву-унь з-за чаго ўцякла ты з класа, вунь чаго збаялася!»

Вучням надта хочацца пахваліцца дзіўнай навінкай, яны хочуць, каб нехта раздзяліў іхняе захапленне і радасць. А хіба мне, дарослай, часамі гэтага не хочацца? Трэба быць драўляным, каб спакойна да гэ-

тага адносіцца. Падыходжу да Янусіка. Клас насцярожваецца.

— Пакажы, пакажы, Коля!

Трыццаць грудзей уздыхаюць з палёгкай, столькі ж пар вачэй глядзяць на мяне з удзячнасцю.

— Во-о, Ірына Іванаўна, тут уключацель, гэты гузічак!.. А то — хвалі!..

Дзве мінуты захапляемся цудам тэхнікі, тады пачынаю ўрок. Дзяцей нібы хто падмяніў. Уважліва слухаюць і аддана глядзяць у вочы. Адчуваю іхні ўздым і паслушэнства, радуюся за сябе...

Выклікаю аднаго да дошкі, і ён бойка адказвае, як пішуцца складаныя словы. Прашу прыдумаць прыклад, якім мы яшчэ не карысталіся ў класе. Хлопчык напружана моршчыць лоб, маўчыць. Маўчу і я, толькі думаю: Валодзя, паў-яблыка, паў-яблыка... Ну, кажы ж ты, паў-яблыка...

— Паўяблыка!

— Яшчэ адзін — і зноў сама сабе: вадамер, вадамер, вадамер...

Вадамер!

Такія гісторыі ў мяне на ўроках бываюць не рэдка, я ўжо нават прызвычаілася да дзіўнай з'явы. Скажы каму, не паверыць, што свае думкі магу навязаць іншым. Але гэта праўда. Таямніца ўзвышае мяне ва ўласных вачах. Вось і зараз урок пралятае імгненна. Чуваць званок.

У канцылярыі мяне падзывае настаўнік фізкультуры.

— Ноччу жонка нарадзіла сына...

— О, дык чаму ж вы маўчыце цэлы дзень! — шчыра радуюся.— Віншую!

— Ш-ш-ш... Нікому не трэба гаварыць...— стогне ён і чырванее.— Думалі — праз месяц, нічога не падрыхтавалі, а трэба купіць усялякае... Вырашылі пазычыць у вас...

Я халадзею, але праўду сказаць яму не хапае адвагі.

— Колькі? — пытаюся.

— Пяцьдзесят...

У галаве нараджаецца выйсце.

— Заўтра рана прынясу, Міхась Макаравіч. Добра?

— До-обра...— выдыхае малады бацька з палёгкай, дастае нясвежую хустачку, выцірае лоб.— Прабачце, Ірына Іванаўна, неяк здарылася ўсё нечакана... Думалі праз месяц, яшчэ шмат часу, а тут — вось...

— Ну-у, што-о вы, ахвотна памагу!

Іду зноў дамоў. Перад вачыма — заклапочаны малады бацька. Няёмка ад яго прыніжэння, і ў той жа час яго вельмі добра разумею, спачуваю — і мы з Косцем былі ў такім становішчы, і нас людзі гэтак жа ратавалі!

У нашым гарадку — усяго адзін інстытут, у ім толькі тры кандыдаты навук. Яны на віду. Людзі лічаць, што ў нас шмат грошай. Косця пайшоў у творчы водпуск, каб папрацаваць. Я хацела здаць сына ў дзіцячы сад, запісалася ў чаргу, а мне сказалі: «Вы добра забяспечаны і можаце сабе ўзяць няньку. Вашае месца ў дзіцячым садзе няхай лепш застанецца сыну якой-небудзь тэхнічкі!» І мы ўзялі домработніцу. А што выйшла з гэтага? У Косці яшчэ нічога не гатова, грошы некуды падзеліся, мы нават і не заўважылі.

Не раз спрабавала давесці знаёмым, але дарма. Іх назаўсёды загіпнатызавала Косцева званне (а мо ім надта хочацца мець багатага знаёмага і яны не могуць адмовіцца ад сваёй фантазіі?!). Абрыдла кожны раз тлумачыць. І цяпер, калі хто дзівіцца, куды мы дзяём «свае тысячы», смяюся: «Дачу будуем на Чорным моры». Большасць верыць...

## 6

Крочу сабе па асфальце і паступова забываю пра ўспацелага настаўніка фізкультуры. Успамінаю выпадак у класе. Не, мяне ані кроплі не мучыць сумленне, што я не праявіла салідарнасці з настаўніцай малявання, не стукнула дзвярыма, не вылецела з класа. Паціскаю плячыма і паварочваю ў бакавую вулачку. Гэтай дарогай крыху далей, але яна высаджана каштанамі, і дрэвы якраз цвітуць.

Вось і мае прыгажуны. Казачныя кандэлябры белых свечак у зялёных кронах — не адарваць вачэй! Восенню тратуары тут будуць усыпаныя лупіннем, вучні стануць дарыць мне грыбочкі з каштаноў, а некаторыя настаўніцы зноў мне пазайздросцяць.

Клас для кіраўніцтва атрымала я нядаўна. Яму ніхто не мог даць рады. Яго ў настаўніцкай чамусьці празвалі бандай хуліганаў. Хіба ж мае вучні — хуліганы? Часамі яны чулыя, сардэчныя. У некаторых сваё, мне даверанае шчасце. Адзін мусіць няньчыць дзяцей у сям'і, у другога нядаўна бацька пакінуў маці і перайшоў да чужой жанчыны. Найцяжэйны — Янусік. Нястрыманы, востры на язык.

Днямі прыходжу да яго на кватэру. Стукаю ў дзверы. Адчыняе сам Коля. Чыстыя, абстаўленыя новай мэбляй пакоі ўсланы і ўвешаны дарагімі кілімамі.

— Мама — там! — паказвае насцярожанымі вачыма Коля.

На падлозе перад шафай — здаровая самаздаволеная жанчына перабірае нейкія транты. Яна не ўстае, каб мяне павітаць, толькі паказвае, куды сесці.

Пачынаю сваю скаргу.

Няўважліва слухаючы, жанчына без перакanання падтаквае, абзывае сына «паразітам», наклікае на яго хваробы і гібель. Коля высоўвае галаву з кухні. У яго вачанятах чытаю сорам за маці і адразу прыкусваю язык — каму я ўсё гэта кажу?!

Дачакаўшыся нарэшце, калі я змоўкну, жанчына дастала з шафы туфлі і, асліпленая шчасцем, пахвалілася:

— Паглядзіце, Ірына Іванаўна, якія прыгожыя! Праўда? А гэтак танна каштуюць! Сёння ва універмагу давалі...

Колю мне стала шкада, як сына.

Што і казаць, з пункту гледжання празмерна строгіх педагогаў, мае вучні, магчыма, і «хуліганы». Толькі менавіта таму патрабуюць яшчэ большай увагі, цярпення і цеплыні. А напаткаўшы непрывычнае, ляпнуць дзвярыма і збегчы з урока — спіхнуць усё на чужую галаву, каб самому лягчэй жылося!

Хочацца перад кімсьці выказацца, камусьці давесці, што паводжу сябе правільна. Шкада, што Косця гэтак заняты! Некалі ў такіх выпадках аблегчвала душу ў дзённіку. Пацягнула зноў заглянуць у яго. Прыйду дамоў і абавязкова пашукаю старыя сшыткі.

Паміма волі перад вачыма ўзнікае незнаёмы — ах, вунь што не магла ўспомніць!

«Разумееце,— скарджуся яму,— ну, падтрымала б

аўтарытэт той настаўніцы малявання. А вучні? Што ім да таго, што дарослыя дзядзькі прыдумалі застылую і нудную форму ўрока: праверка дамашняга задання, новы матэрыял, замацаванне?.. Настаўнік здаровым розумам павінен кіравацца і сэрцам, а не шаблонам! Розныя схемы да смерці не падабаюцца ўсяму жывому...

Учора піянерважатая завяла гутарку з маімі вучнямі:

«Давайце на свята арганізуем у школе чай!»

Востры на язык Янусік і ляпнуў:

«А па колькі лыжачак цукру будзеце класці нам у шклянку?»

Замест таго каб пасмяяцца разам з класам, яна — у амбіцыю:

«Я пайду ў інстытут, дзе твой бацька працуе, паскарджуся ў партарганізацыю!»

Хіба ж будуць такую паважаць? Сёння раніцой я выказала піянербажатай усё, што пра яе думала!.. Яна хацела б бачыць за партамі манекенчыкаў, а не жывых людзей!..

Настаўніку, ведаеце, трэба быць таленавітым, яго выхаваўчая работа — заўсёды імправізацыя. Гэта — псіхалагічная і дзелавая рэакцыя на любы ўчынак вучня, калі ты павінен імгненна знайсці адзіны справядлівы ход, і тут ніякія інструкцыі, шаблоны, падручнікі не памогуць.

Няўжо нельга ўцяміць, што вучні — не пасудзіны пустыя, у якія на ўроках мы павінны напампаваць энную колькасць ведаў?! Яны — каганцы, якія трэба запаліць!.. Пафатыгуйся, намацай у кожнага кноцік, запалі, і дзіця будзе табе паслухмянае, удзячнае і не ўчыніць глупства!..

Падтрымаць піянерважатую і настаўніцу, бо ім усяго па дваццаць гадоў? Педагогі не маюць узросту. Няважна, колькі табе — дваццаць ці сорак,— а вучні хочуць бачыць у табе чалавека, мудрага жыццёвым вопытам!»

Параўнанне з каганцом недзе я вычытала, але гэтую думку выдаю за сваю. Прыдумваю, што адказвае незнаёмы, і гавару, гавару, гавару. Нават прызнаюся яму, якая з мяне чараўніца на ўроках, як навязваю свае думкі іншым.

## 7

Аж шкада, што канчаецца дарога.

Зварочваю з тратуара, саджуся на нейкую лаўку. Паступова нібы прачынаюся і бачу бессэнсоўнасць такой дыскусіі.

Пачынаю гадаць зноў: хто гэты чалавек? Яго воблік спалучаецца з героямі, што асвойваюць Поўнач, пракладваюць трасы ў тундры, капаюць каналы ў пустынях. Чамусьці ўпэўнена — ён інжынер.

Абуджаюся ад нейкага спеву і гляджу, дзе я.

У парку. Пад вечар ён прыкметна напаўняецца людзьмі. Перада мной плывуць дзве маладзіцы: ні то п'яныя, ні то надта ўзрадаваныя нечым. Рукі перапleценыя, вочы ад радасці нічога не бачаць. Адна з іх прыслухоўваецца да свайго голасу і цягне:

В тол-пе наро-ода он глаза-ами меня по-искал!..

На іх аднолькавыя стракатыя пацеркі, старамодныя кофты, шырокія і разбітыя туфлі. Мабыць, сёстры з вёскі тут, у горадзе, спаткаліся...

Да мяне нясмела набліжаецца салдат. Доўгі, нескладны, белабрысы, з прышчыкамі на твары.

— Вы сумуеце? — пачынае ён са штучнай зухаватасцю.

— Не.

— Чаму вы адна?

— Мне так падабаецца.

— Падаба-аецца?

— Ага.

Салдат ужо не ведае, што гаварыць.

— Дык вы сумуеце?

— Я ж вам ужо сказала!

Мой спакойны настаўніцкі тон збіў беднага з панталыку. У яго выйшаў увесь набор фраз для такіх сустрэч. Ён разумее, што трапіў у смешнае становішча, але адысці ўжо не можа. Памагаю:

— Вунь пайшоў ваш сябар з дзяўчынай. Вы б у яго спыталі, як заваладаў яе сэрцам, і павучыліся б!

Салдат раптам робіцца шчырым, цяжка ўздыхае і даверліва скардзіцца:

— Толькі скажы яму, ага!

— А што?

— Аблае размазнёй, потым вернецца ў казарму і яшчэ будзе ўсім расказваць...

— А-а...

Божа, якія бываюць праблемы!..

А ён добры хлопец! Робіцца цёпла на душы. Успамінаю сваю Тосю.

— Увечары прышлю сяброўку. Прыйдзеце сюды?

— Абы не надта позна, бо нас не пускаюць...

Спяшаюся дамоў. Дзеці мяне чакаюць.

— Ну, што ў цябе, Марынка, было ў школе? Пыталіся цябе на ўроках?

— Не пыталіся. На арыфметыцы Валянціна Мікалаеўна задала загадку: у мяшку восем кілаграмаў яблыкаў, усыпалі яшчэ два кілаграмы. Што трэба зрабіць? Мукасей кажа: «Я ведаю. Трэба яшчэ раз адважыць!..» Ой, мама, а потым на ўроку спеваў наша настаўніца так стукнула па стале, што і гадзіннік спыніўся!

— Давялі яе, бедную!

— Мам, а ў Міколкі Кастыля машына ката забіла! — перабівае Віця.— І мы з Колькам закапалі яго на двары, каб фосфар выходзіў і ўсе баяліся!

— Фосфар?

— Ну.

— І ты браў дохлага ката?! Марш на кухню, мый рукі! І з мылам!

Выпраўляю дзяцей на двор, перадаю Тосі запросіны ў парк.

Іду да Косці, каб расказаць яшчэ пра незнаёмага. Падыходжу здалёк, з выпадку ў школе. Косця ўслухоўваецца.

Дарэмна ўзрадавалася. Ён адвярнуўся ад машынкі адно на хвіліну, каб запісаць выпадак з прыёмнікам і сустрэчу з салдатам. Потым механічна хавае блакнот ды паглыбляецца ў рукапіс.

Застаюся зноў адна. Саджуся правяраць сшыткі і ўспамінаю пра дзённік.

Пасля доўгага перапынку зноў пачынаю пісаць дзённік. Адвыкла. Запісваюцца толькі ўрыўкі думак, і то бессістэмна. Лянуюся напружыць мазгі. Навошта мне гэта, хопіць аднаго пісьменніка ў сям'!..

Успамінаю просьбу маладога бацькі, хаваю сшытак і адпраўляюся да сяброўкі.

## 8

Спатыкаемся ля яе дома і радуемся.

— Ой, Вера, суткі цябе не бачыла, а здаецца — вечнасць! — кажу.— Ведаеш, Косця гаворыць, што яшчэ не бачыў, каб жанчыны так шчыра сябравалі!

— Пра-аўда? — рагоча Вера. І сур'ёзна: — Ён у цябе вельмі разумны, ты шчаслівая...

— Не думала. Магчыма.

— Ты куды ішла?

— Да цябе!

— Ну-у? Ой, якая ты слаўная! То хадзем!

Мая сяброўка — каравокая поўная казачка, якая развялася з мужам. Яна таксама настаўніца, лічыць гэта выпадковасцю. Яе запаветная мара — стаць артысткай. Яна і на ўроках любуецца сабой, услухоўваецца ў свой голас.

Вера — хімік, але яе цягне да ўсялякіх гісторый на тэатральныя тэмы. Чытаць ёй няма калі: яна ахвотніца паспаць.

Ля дошкі аб'яў сяброўка мяне затрымлівае:

— Ой, ледзь не забылася табе сказаць! Сусед працуе рэферэнтам у таварыстве «Веды». Толькі што паехаў на аэрадром сустракаць нейкага прафесара. Прафесар будзе выступаць у горадзе, ведаеш? — сказала яна ўжо шэптам, з шырока адкрытымі вачыма ад важнасці весткі.— Скажы свайму Косцю!

У разуменні Веры мой муж — чалавек навукі, і калі ў Доме народнай творчасці ідзе лекцыя на якуюнебудзь навуковую тэму, то ён павінен стрымгалоў ляцець туды і садзіцца ў першы рад...

— Не мае часу ён хадзіць усюды...— кажу.

Але Вера ўжо лічыць, што абавязак сяброўкі выканала і да гэтай тэмы больш не трэба вяртацца.

— Ты мяне любіш? — пытаецца яна без уступаў.

Аб сваіх пачуццях я не ўмею гаварыць уголас, маўчу.

— Дзе-е там,— крыўдзіцца.— Ты — жонка вучонага, хіба нам з Ігарам да вас дацягнуцца?!

— Не балбачы, чаго не трэба, а то зараз ад мяне атрымаеш!

Успамінаю Косцевы словы пра сціпласць. Відаць, ён мае рацыю. Веру сціплай, надта ціхай не назавеш

аніяк, а хіба яна кепская?! Я вельмі прывязана да гэтай казачкі. І хоць я ёй нізавошта не сказала б пра свайго незнаёмага, але ўсе мае сямейныя беды і радасці яна ведае не меш за мяне. Прыйду пазычыць часам грошай, а ў Веры маёй толькі два рублі; мы раздзелім іх, і абедзве задаволены. Гэтаксама апошнім дзялюся з ёю і я.

Аднойчы праходзім мы каля рынку. Хутка ўжо вечар. Але хіба можам мы туды не заглянуць? Мо яшчэ там хто ёсць...

Пад стрэшкай сапраўды — пару цётак. Зморшчаная і счарнелая бабулька трымае ў кошыку яйкі.

— Па чым яны ў вас, бабка? — пытаюся.

Жанчына адказвае. Такіх цэнаў не было ўжо даўно. І ў магазіне танней. Але робіцца надта шкода старой. Хутка ўжо і цямнець пачне, ёй трэба яшчэ дабірацца бог ведае куды, а тавару не прадала.

— Вера, давай зробім дабрачынства і — купім! — прапаную.

— Давай! — ахвотна падхоплівае сяброўка.

Даём грошы. Бяром з кошыка яйкі. Гандляркі ад мяшочкаў з семкамі глядзяць на нас хто з зайздрасцю хто са здзекам: — ну і купчыхі!

Апаражнілі мы кошык, а бабка чагосьці глядзіць на нас падазрона.

— Усё. Мы вам заплацілі. Дзякуем, бабуся! Адпраўляйцеся сабе дамоў!

— Дык вы ж лішніх яек сабе наклалі!

— Што вы, бабка?! —чырванею.

Чырванее і Вера. Але старая ўжо запусціла жылістыя і халодныя кіпцюры ў кішэню і робіць рэвізію.

Моўчкі выходзім на вуліцу. Аддаляемся ад высокага плота, за якім рынак, глядзім адна на адну і рагочам на ўсю вуліцу:

— Філантропкі!

— Бедная цётка!

У Веры на кватэры кажу аб просьбе Макарэвіча.

— Ці наскрабу столькі...— заклапочана моршчыць лоб сяброўка і шукае грошай па кішэнях, між старонак падручнікаў, у партфелі, заглядвае ў кубачкі, якія стаяць на буфеце: яна ніколі не ведае, дзе ў яе што ляжыць.

— Няма такога дня, каб хто-небудзь не папрасіў

у мяне ці Косці пазычыць грошай,— апраўдваюся вінавата.— Усім здаецца, што я — мільянерка...

Вера і сама гэта добра ведае.

— Вось пабачыш, аб'яўлю ў настаўніцкай усім пра твае фінансавыя справы, каб не мучылі болей цябе...

Яна толькі так гаворыць, а сама задаволеная. Чалавеку памагчы заўсёды прыемна, а выручыць сяброўку — тым больш.

— На, трымай!..

— Дзякуй, Верачка. Толькі дробныя надта, яшчэ Міхась Макаравіч здагадаецца пра ўсё. Давядзецца, мабыць, зайсці ў магазін, памяняць.

— Ладна, па дарозе памяняеш... Ты чула, наша дырэктрыса злавіла мужанька з пісьмом ад любоўніцы!..

— Ён жа стары пень? — дзіўлюся я і прадбачу цікавую размову.

Вера пачынае ўжо маляваць займальную гісторыю.

Ой, гэтыя плёткі!! Як вы сабе хочаце, але я ў іх знаходжу і нешта карыснае! Слухаючы плёткі, мы перажываем сітуацыю, ад якой нас шчасліва ўсцярог лёс. На хвіліну і мы адчуваем сябе героямі незвычайнага здарэння ці скандалу, пра якія толькі што даведаліся. Адразу ў нас паляпшаецца і настрой, бо можам самі сабе зрабіць камплімент: «Каб са мной так здарылася, я не гэтак зрабіла б, ого!»

Я, мабыць, таксама добрая пляткарка. Верыну дырэктрысу і яе неўгамоннага мужа разбіраем мы па костачках. Позна ўжо. Збіраюся дамоў.

— Ірка, пачакай! — просіць, спахапіўшыся.— Сёння атрымала пасылку ■ Кубані ад мамы. Занясеш дзецям гасцінец...

Пакуль Вера робіць з газеты кулёк і, не шкадуючы, шчодра насыпае мне сушаных абрыкосаў і семак, уяўляю сабе, як мае малыя будуць вішчаць ад радасці. Расчулена кажу:

— Ведаеш, а мой Віця ўчора кажа: «Вазьмі мяне з сабой спаць, у цябе новы халат, як у царыцы».— «Ну, хадзі» — дазваляю. За ім і дачка. І пачалося: «А чаму, калі мы цябе казычам, ты не баішся, а так ты баішся козыткі?», «Хто такі Неру?», «А чаму ён называецца Неру?..»

— Ну-у, твае ж вельмі развіты-ыя! — прытворна прыбядняецца Вера.— А мой Ігар — рабацяга. Учора выпілаваў палічку на мыла і прыбіў. Унь, вісіць!..

Я зайздрошчу.

— А мая Марынка ўжо іграе на піяніна пару п'есак! — хвалюся, хоць кожную ноту ўганяю ў яе сілком.

— А мой...

Пакідаю сяброўку. Яшчэ трэба накарміць сям'ю, пакласці дзяцей спаць, праверыць сшыткі, падрыхтаваць на заўтра ўсім вопратку...

Так і праходзіць мой рабочы дзень.

## 9

Сёння ў мяне здарылася такая непрыемнаць у школе, пасля якой не хочацца жыць на свеце.

Прыходжу раніцой на работу, а мне заяўляюць, што мая вучаніца пасварылася з бацькам і спрабавала атруціцца.

Я расхвалявалася да таго, што аслабела, а пад канец дня нервы зусім здалі, і на ўроку літаратуры ў восьмым классе я... ударыла вучня!

Паплаўскі ля дошкі характарызаваў вобраз Любы Шаўцоваў з «Маладой гвардыі». Раптам адчыніліся дзверы, уварваўся аболтус з сёмага класа Данько ды пачаў крычаць нешта Паплаўскаму.

— Загадай свайму сябру выйсці з класа! — кажу я свайму вучню.

Паплаўскі толькі ўсміхнуўся.

Я, аднак, вытрывала, спакойна вывела нахабніка за дзверы.

На перапынку падыходзіць Данько.

— Пусціце мяне ў свой клас на заняткі?

— Ты гэтага не варты!

— То я сарву вам іх!

— Паспрабуй!

— І паспрабую!

Па ўзросту яму ўжо быць у дзесятым.

Пачаўся ўрок. Раптам адчыняюцца дзверы зноў, урываецца гэты самы Данько ды садзіцца побач з Паплаўскім. Той спакойна дае яму месца.

— Паплаўскі, выведзі яго за дзверы! — узрывае мяне.

— А што, хіба я наняты?

Са злосцю выштурхоўваю семікласніка ў калідор, тады нападаю на свайго вучня:

— Марш і ты з класа!

Паплаўскі неахвотна ідзе. Іду да дзвярэй за ім і я. На парозе ён паварочваецца да класа і з дурнаватай усмешкай гаворыць:

— За што выганяеце, хіба я ў швейцары да вас запісваўся?!

Яму падхіхікнула некалькі галаскоў з партаў, і гэта мяне даканала. З нейкай роспаччу і абурэннем я — плясь нахабніка па твары...

Клас ад жаху абмёр...

Паміж намі нібы вырасла сцяна.

Выпадак разбіралі на педсавеце. Адны мяне асуджалі, іншыя спачувалі, падтрымлівалі, але я была занадта ўсхваляваная, каб што-небудзь запомніць з таго, што гаварылі настаўнікі.

Вярнулася дамоў позна, расказала пра ўсё Косцю і з плачам прыстала да яго, бытта ён быў ва ўсім вінаваты:

— Ну, і што цяпер будзе?

Косця на гэты раз не толькі адклаў свае рукапісы, але стаў грэць мне вячэру.

Я не адставала:

— Чаму так атрымалася, скажы?

— Мне ўсё ясна...

— Табе заўсёды ясна, ты ніколі нічым не праймаешся!

— Супакойся, паслухай! Ты ўлажыла ў вучняў сваю душу. Адбірала ад сябе, ад дзяцей час і аддавала ім дні і ночы. Ты вучыла іх быць сумленнымі, такімі, якія б гатовы былі ў любы час заступіцца за пакрыўджаных, за жанчыну, за старых і бездапаможных, гатовых на барацьбу за ідэю, за праўду, як Карчагін ці Алег Кашавы, ці не так?

— Ну...

— І ты ўжо бачыла іх такімі. А вось жыццё дало магчымасць праверыць вынік тваёй працы. Нахабнік стаў крыўдзіць цябе — настаўніцу, маці, а твой выхаванец не толькі не кінуўся цябе абараняць, не засту-

піўся, а нават цябе прадаў, так? Дзеля шчанячай рысоўкі перад дзяўчатамі і сябрамі яшчэ і падыграў нахабніку. У класе знайшлося такіх больш, яны пазайдросцілі «герою», падхіхікнулі, астатнія — раўнадушна прамаўчалі. Табе стала крыўдна, што твая праца пайшла на марна. У парыве злосці ты пайшла на крайнасць — ударыла аднаго па мордзе. Малайчына!

Ён сказаў дакладна тое, што адчувала я сэрцам, толькі не знаходзіла слоў, каб гладка так і лагічна выказаць.

— Добра табе так казаць, але як мне заўтра паказацца ім на вочы? — пытаюся я, ужо ўстрывожаная.

— Нармальна. Такая крайнасць павінна дасягнуць свайго. На яе не ўсе здольны. Трэба быць адчайным чалавекам і мець вялікае жаданне дабіцца мэты. Супакойся. Перахварэеш ты, перахварэюць дзеці, але ў выніку — клас зблізіцца з табой яшчэ больш. Твой клас перажывае якраз момант, калі пэўныя колькасныя вынікі тваёй працы пераўтвараюцца ў маладых душах у якасныя. Пабачыш, Іра, заўтра вы ўжо будзеце не такія, якімі былі ўчора.

— Пра-аўда?!

— Сама пераканаешся!

— Ой, каб толькі так было!..

Я часам цярпець не магу самастойнасці, і тады я надта шчаслівая, што, вярнуўшыся дамоў, нарэшце магу быць ад каго-небудзь залежнай. Для мяне нават цана мужчыны вымяраецца па тым, на колькі хачу быць ад яго залежнай. Косця — такая адтуліна: сваю праблему я ўжо бытта пераклала на яго плечы.

Які ён у мяне разумны! А добра мець такога сябра, мужа! Якое шчасце, што такі чалавек — бацька маіх дзяцей! Я яго чула, з удзячнасцю цалую:

— Косцік, скажы яшчэ што-небудзь харошае!..

— Стань дарослай, без глупства!..

Праз нейкі час я, супакоеная і задаволеная, што сумленна правяла і гэты дзень, засынаю ў яго на грудзях.

## 10

Назаўтра выходжу ў школу ўпэўненая і як бы абноўленая. Сустракаю незнаёмага. І ён бытта пра ўсё ведае: усміхаецца мне ветліва, прыязна, і ад гэтага робіцца мне радасна.

Восьмы клас і сапраўды застаю бытта б іншым — больш дарослым, вінаватым. Я не злапомная і не помслівая, стараюся нічым не нагадаць учарашняга. З уздымам расказваю пра Тараса Бульбу, праводжу паралель з героямі «Маладой гвардыі», на памяць чытаю сцэны мужнай гібелі казака. Васьмікласнікі ўсё ж такі яшчэ дзеці. Стаіўшы дыханне, яны слухаюць мяне як ніколі.

Урок праходзіць непрыкметна, і званок, які звычайна ўспрымаецца з палёгкай, на гэты раз вучні сустракаюць расчаравана, хорам крычаць:

— Ужо-о?!

Лаўлю сябе на тым, што хачу, каб убачыў незнаёмы, якая я настаўніца, як у мяне спорыцца работа.

Шчаслівая, іду дамоў. Успамінаю, што няма з чаго заўтра варыць абед, заходжу ў гастраном.

Дзядзька ў белым халаце ля калодкі з сякерай чытае... Косцеву брашуру «Некаторыя псіхічныя ўласцівасці чалавека». Людзі пачалі надта цікавіцца такімі праблемамі. Вось і гэты ўглыбіўся ў чытанне, мяне не заўважае. Косця ўмее складаныя праблемы падаць неяк проста, займальна. Карціць сказаць прадаўцу: «Лепш адкладвай кніжку ды выберы добры кавалак мяса аўтару!» Але я — наадварот, нават вярнулася на пальчыках, каб чалавеку не перашкодзіць.

Дома нападаю на мужа:

— Ты ўсё сваё? Зараз жа кідай! Паглядзі, што на вуліцах робіцца: народу — не прайсці, аж у вушах гудзе! Ва ўсіх — абедзенны перапынак!

— Калі звычайныя людзі адпачываюць, наш брат працуе, гэткая наша доля...

— Косцік, у цябе, дальбо, яшчэ рукі паадсыхаюць! — цалую яго ў лоб па-мацярынску! — Вечна робіш тое самае і тое самае, свету божага не бачыш!

— Гэ, магу праседзець ля стала дзесяць гадзін або і цэлую ноч, і ў мяне нават не ўзнікне жаданне пера-

мяніць позы! Горай, калі перапісваю. Але і тады не рукі баляць ад машынкі, а — сківіцы.

— Скі-ві-іцы?!

— Але! Запомні. Калі будзеш пісаць пра мужа-акадэміка ўспаміны — прыдасца! — смяецца ён і пацірае падбародак.

Хоць з Косцем жывём ужо восем гадоў, але кожны дзень у ім знаходжу штосьці новае, да жудасці таямнічае. Яшчэ студэнткай звярнула ўвагу на яго шырокія сківіцы — як у героях Джэка Лондана.

Успамінаюцца мужчыны, якія дзень і ноч заганяюць «казла», праседжваюць у рэстаранах. З гонарам гляджу на мужа...

Хіба яго можна параўнаць з кім-небудзь з іх? Ён для мяне самы блізкі, паважаны і дарагі чалавек! Незнаёмы з вуліцы — міраж, фантазія, забава... Нездарма яго воблік ужо неяк растварыўся, знік... Толькі за нешта няёмка перад Косцем.

— Як, па-твойму, можа яшчэ хто цікавіцца мною як жанчынай?

— Як цябе спаткаў восьмы клас?

— Ты меў рацыю: усё скончылася добра.

— А Паплаўскі?

— Вінаваты — вачэй не падымае.

— Ці я табе не казаў?

— Казаў, казаў, памятаю і цаню... Чуеш, як па-твойму, можа яшчэ хто цікавіцца мной як жанчынай?

— Вы-ыдумала!

— А ты адкажы!

— Каму ты патрэбная?!

— Так-такі і нікому?

— Ну... мне, дзецям сваім...

— А яшчэ?

— Галі, Веры...

— Ай! Ты ж сам казаў, што я падобна на мадонну з карціны ў Пушкінскім музеі!

— Цяпер шкадую!

— Не выкручвайся: адказвай на пытанне!

— Чорт яго ведае! — пачынае няўпэўнена і заклапочана.— Тое, падабаецца табе хто ці не,— справа не волі, розуму, а — пачуццяў. Ім не загадаеш...

— Толькі? — вырываецца ў мяне.

Косцю мне шкада.

— Што галоўнае павінна быць у кабеты? Добразычлівасць і прывабнасць. Гэтага ў цябе — аж занадта!

— Ой, ты сур'ёзна?!

Косцю кранае мая радасць. Ён гаворыць ужо цёпла, узрушана:

— Яшчэ ў цябе ёсць абаяльнасць...

— І яшчэ?

— А яшчэ — маеш такі характар, што ты заўсёды мусіш пра некага клапаціцца: пра мяне, дзяцей, каго іншага... Ты гэтым падобна на маю маму.

— А яшчэ?

Ён папраўляе мае валасы і дзівіцца:

— Не, аднак, ты здорава падобна на Джаконду!

— О-го!

— Я не жартую. Такі самы авал твару, такі ж нос, канфігурацыя лба, такія ж вочы... Адно — чаму твае валасы такія непаслухмяныя?! Гэ, калі ты паспела зрабіць завіўку?

— Здрасце, толькі ўбачыў? Сем гадоў нявестка дома і не бачыла, што кошка без хваста!

— Калі?

— Ужо дзён [redacted] пяць.

Косця заклапочана стараецца разгладзіць маю прычоску:

— Табе яна не ідзе.

— Бо я завілася толькі крыху!

— Табе яна не ідзе, чуеш?

— Бо часу не было выседжваць паўдня ў цырульні!.. Ведаеш, як там жанчыны мэнчацца? Бы за часоў святой інквізіцыі на вогнішчы!..

— Не бараніся, а слухай!

— Слухаю, Косцік, слухаю...

— Думаеш, Леанарда да Вінчы зрабіў Монне Лізе звычайную прычоску і просты прабор так сабе? Кудзеркі ёй былі не да твару! Вазьмі з паліцы кніжку і прыглядзіся да малюнка сама, калі мне не хочаш верыць!

— Ве-еру! Дзякуй за параду! Больш ніколі не буду завівацца, от пабачыш!

— А голас у цябе зычны, пявучы, малады...

— Маладзенькі?

— Ён у цябе нават маладзейшы за твар! — Косця дзівіцца з уласнага адкрыцця.

— Значыць, я магу яшчэ каму-небудзь і падабацца? — крычу, шчаслівая.

— Можаш.

— Праўда?

— Праўда.

— Ой, які ты ў мяне харо-ошы! — кідаюся яго абдымаць.

— Пачакай, а чаму гэта табе раптам прыйшло ў галаву? І менавіта сёння?

— Проста так!

— Проста так нічога не бывае. Прызнавайся!

— Не прызнаюся!

— Хочаш, каб у цябе хтосьці закахаўся?

— Хачу!

— Хто?

— Не скажу!

— Скажаш!

— Не!

— Не адстану. Кажы, хто?

— Ты!..

— А-а...

— Фу, балбочам мы з табой пра нешта, як малыя!

— Сама ж пачала!

— А з кім мне пагаварыць, па-твойму?

Косця вінавата задумваецца.

Шкада яго.

— Давай лепш сходзім у кіно! Жыццё ідзе міма нас, а мы нават пахадзіць разам не маем калі, як людзі.

— Давай! — рашуча складвае ён паперы і спрытна ляскае замком машынкі, каб не дабраліся да клавішаў малыя.

— Толькі дзяцей накармлю.

— Кармі.

Як мала трэба чалавеку для шчасця. Крыху цёплых слоў, крыху ўвагі, спачування...

...Праз гадзіну мы ўжо на вуліцы. З Косцем я шчырая, чулая, вясёлая. Мне з ім добра, як было ў першыя дні, калі пажаніліся.

Вечарам кладзёмся спаць.

— Ты такі сёння добры быў да мяне! — уздыхаю, шчаслівая.— Мне так хочацца яшчэ з табой пагаварыць, ды сон разбірае...

— То спі. Яшчэ нагаворымся — цэлае жыццё наперадзе!
— Ай! Ты лепш скажы што-небудзь разбудзіцельнае!
— Як ты сказала? — рагоча муж.
— Разбудзіцельнае.
— Ха-ха-ха-ха!..— прыўзнімаецца ён.
— Толькі не ўздумай зараз даставаць блакнот, каб запісаць словы, бо расплачуся! Хоць на хвіліну забудзь, хто ты! Няўжо не зможаш?
— Паспрабую.
— Ну і добра.
— Значыць — разбудзіцельнае?
— Ага.
— Але што?
— Пахвалі зноў, як учора...
— Сёння ж ты нахабнікаў не лупцавала? Не лупцавала! Завошта хваліць?
— За што-небудзь!
— Ненармальная!
— Ну, што табе? Пахвалі-і, Косцік!..

## 11

Як тады ва мне спалучаліся думкі пра мужа з марамі пра другога чалавека, не ведаю. Потым думала пра гэта не раз. Відаць, тут выявілася і натура.

Калісьці з дзетдома на канікулы мяне ўзяла цётка. Яна жыла ў Мінску на першым паверсе. Калі цётка з мужам ішлі на работу, то мяне адсылалі на чацвёрты паверх пагуляць з равесніцай. Бацькі дзяўчынкі былі вельмі строгія, бегаць нам забаранялі, дакранацца да чаго-небудзь у пакоі — тым больш, і гэта была не гульня, а — пакуты.

Аднойчы, як звычайна, іду на цэлы дзень да сяброўкі. Спыняюся на трэцім паверсе перад такімі самымі дзвярыма, хоць добра ведаю, што трэба ўзняцца яшчэ вышэй, дзе мяне чакае Іна, але ў момант сябе пераконваю: мне — сюды. Званю. Ніхто не выходзіць. Націскаю на гузік званка ўжо смялей. Цішыня зноў. Узрадаваная, злятаю з лесвіцы. Са спакойным сумленнем бягу гуляць на падворак — я ж да Іны званіла, у іх нікога няма дома!

Тады мне было ўсяго дзевяць гадоў, але не толькі з-за ўзросту гэтак рабіла. Наўрад ці мой равеснік-хлопец стаў бы сябе так ашукваць.

Цяпер назіраю за мацяркамі сваіх вучняў. Чаго яны толькі не выдумляюць часамі, абы выгарадзіць свайго відавочна вінаватага Колю, Пецю, Вову!.. Бацькі ў такіх выпадках кіруюцца розумам, логікай, дзе іхнія жанкі — сэрцам, жаданнямі (гэта не значыць, што мы горшыя, часта такая жанчына ані не дурнейшая і можа быць куды лепшая за свайго мужа!).

Адным словам, мы, жанчыны, можам вельмі лёгка заплюшчыць вочы на тое, што нам нявыгадна. Ёсць сярод нас і цвярозыя, толькі, мне здаецца,— іх меншасць. Я такая, як большасць.

Вядома, вінаваты быў і Косця. Мог бы болей звяртаць на мяне ўвагі.

## 12

Дзеці ў бакоўцы паснулі. Тося пайшла на спатканне. Я праверыла сшыткі, напісала планы, але не кладуся, чакаю мужа. Шкадую, што не пайшла разам з ім.

Цікава, што ён цяпер піша?

Падыходжу да рукапісу, чытаю.

«Малое і вялікае

Нуклеінавая кіслата, якая знаходзіцца ў палавой клетцы чалавека, займае аб'ём у мікраскапічныя долі кубічнага міліметра. Арганізм наш развіваецца з дзвюх гамет — розны полаў. На зямлі нас — чатыры мільярды. Агульны аб'ём генетычных нуклеінавых кіслот у гэтых васьмі мільярдах гамет — два з палавінай кубічных міліметры.

Падумаць толькі: у аб'ёме дажджавой кроплі закладзена ўся матэрыяльная аснова, якая перадае генетычную інфармацыю пры нараджэнні трох з палавінай мільярдаў людзей!..»

Не паспяваю ні здзівіцца, ні захапіцца — нехта звоніць. Адчыняю дзверы.

Увальваецца п'яны Верын Барыс.

— Іры-ынка, Ір...— ледзь варочае ён языком і дыхае на мяне гарачым перагарам.

Не было мне клопату!

— Барыс, позна ўжо, ідзі дамоў!

— Вера, сволач, не пускае! Ты, Ірачка, добрая, пусціш пераначаваць...

Ён дужы, як мядзведзь. Трэ нагу аб нагу, скідае туфлі, адпіхвае мяне, ідзе ў пакой, валіцца на кушэтку і адразу засынае. Ад змагання з ім у мяне на руках засталося нешта аслізлае, брыдкае. Што рабіць? Хоць бы муж прыйшоў!

Барыс развёўся з Верай і прыстаў да ўдавы, старэйшай за сябе гадоў на восем. Калі вып'е, бяжыць зноў да Веры, але тая зачыняецца на ўсе замкі і выключае святло. П'яны барабаніць у дзверы, лаецца, пакуль суседзі не выклічуць міліцыю.

Гляджу з жахам на Барыса, на яго зашмальцаванае паліто з вырванымі «з мясам» гузікамі. Няўжо гэта той стройны і элегантны прыгажун капітан, з-за якога зайздросцілі мы ўсе Верцы, калі разам вучыліся ў інстытуце?

— Барыс! Бары-ыс! — тузаю мужчыну за халодныя вушы.

— А? — раптам расплюшчваецца яго мутнае вока.

— Калі ты ўжо кінуў Веру з сынам, то трымайся хоць гэтай жанчыны, не напівайся, як свінтус! Падумай, яна ж цябе недзе там чакае!!

Барыс маўчыць, скрыгоча зубамі, храпе.

— Што з цябе будзе? Звалішся п'яны ў канаву, памрэш, і не знойдзецца каму нават пахаваць! Толькі адзін прафсаюз і павалачэ цябе на могілкі...

— А?.. Хто? Прафсаюз? — пачынае да яго нешта даходзіць.

— Ну, мясцком!

— Толькі — мясцком...— адразу як бы цверазее чалавек і крычыць з жахам: — Ну, не-е!..

Барыс садзіцца і ўздыхае. Тады глядзіць сабе пад ногі, дзівіцца:

— Халера, а дзе ж мае туфлі? Сюды я босы ішоў? — ківае галавой са спачуваннем да сябе. Упірае ў мяне алавяны позірк: — Дай, Іра, што-небудзь Косцева на ногі!

— Ты ж разуваўся ў калідоры. Ідзі туды, абуйся!

— Іду... Выганяеш?! Іду!..— зноў ківае з асуджэннем галавой.— Толькі прафсаюз... Мясцком...

— Во, во, будзеш мець цяпер над чым галаву паламаць — даўно трэба!

— Аднак ты, Іра, вельмі злая!.. Так бессардэчна абыходзіцца са мной!..

— А ты з Верай, з Ігарам абыходзішся мякка?! Ці не ты сапсаваў ёй жыццё?! А пра сына падумаў?!

— Ладна, ла-адна, толькі змо-оўкні!.. Ты, як Вера, адно зачапі вас... Этакаліся ўжо!..

## 13

Толькі выправадзіла Барыса, вярнуўся Косця.

— Ты куды хадзіў? — нападаю на яго.

— Крыху па полі палазіў...

Не магла на гэты раз пайсці з мужам, бо была занятая, аднак у душы бытта б радуюся, што злавіла яго на злачынстве. Мае паводзіны на вуліцы — плата за яго.

— Чаму мяне не ўзяў?

— Дык жа я табе казаў ісці разам, забылася?

— Казаў! Не паспела раскрыць рот, як цябе ўжо не стала! Каб хацеў мяне ўзяць з сабой, знайшоў бы словы ўгаварыць!

— Магчыма... Але ж я пішу, разумееш... Трэба часамі пабыць аднаму, каб адстаялася думка...

— А-а, дык ты сумысна адзін пайшоў?! Тады навошта прыкідвацца, што завеш? — ад сваіх слоў яшчэ больш пераконваюся, што ва ўсім вінаваты муж.— Ты заўсёды лічыў мяне за дурніцу!.. Калісьці ездзіў на сустрэчу да медыкаў — адзін: бачыце, яму са мной ісці ў клуб няёмка! У лес аднойчы пайшоў — адзін! Сёння ў поле — адзін! А мне тут самой змагайся з кожным п'яніцам, бойся, дрыжы ад розных тыпаў! — крычу, хоць Барыс для мне — свой чалавек і, вядома, яго я не баюся.

— І-ірка, ты ж ведаеш, што мне гэта патрэбна! Ды і ці мала мы з табой папахадзілі і ў лес, і ў...

— ...Нібы маю мужа, а на самай справе яго ў мяне няма! Да д'ябла мне слава, калі жыву бытта ўдава якая! — прарываюцца ў мяне слёзы.

Цяпер я гаварыла з такой крыўдай і жалем, што ўжо ані не сумнявалася — ва ўсім вінаваты толькі адзін Косця, а мой уяўны флірт з незнаёмым — адно

частковая кампенсацыя таго, што не дадае мне муж.

— Супакойся. Слова гонару, не ведаў, што табе будзе аж так крыўдна...

Але я не хачу слухаць яго каяння. Звяртаюся з просьбай, добра ведаючы, што яна толькі для формы:

— Косця, ну дай і мне якую-небудзь работу!

— Хіба мала табе заняткаў дома? Ці не па горла ў цябе работы ў школе? Якую табе яшчэ трэба?!

— А я хачу, як у цябе,— творчую! Дапусці і мяне да сваіх паперак!

— Піць гарэлку можна разам, а пісаць — толькі асобна...

— «Где уж нам, измученным в неволе, ликовать, резвиться и скакать!»

— Не раздражняй сябе! Я хацеў сказаць, што такая работа не для цябе!

— Ты ведаеш, што для мяне, што не? — выбухаю злосцю.— «Піць гарэлку разам, а пісаць — асобна»,— дражню.— Пачуў недзе фразу і паўтараеш, як папугай!

— Ну, пайшла!

— Эгаіст — толькі пра сябе думаеш!

— Іра, хіба ж гэта праўда? Хіба я пра сябе думаў калі? Што ты вярзеш?

— От бы пасадзіць цябе зараз на маё месца! — прарываецца ў мяне стары, набалелы жаль.— Ведаеш, як я здабывала сёння яду для сям'і?

— Чаго ты зноў усхадзілася?

— Што твае дзеці сёння абулі? Што робіцца ў маёй школе, пра што думаю, як хаджу на работу, што бачу, з кім спатыкаюся, ты ведаеш?.. Ды ты нават цвіка не вырвеш з крэсла, які сын увагнаў яшчэ летась, і будзе ён тырчаць, пакуль не парву суkenку і не выцягну сама!

— Я, па-твойму, бібікі б'ю? Супакойся! — моліць ён.— Павер, калі трэба было, то быў і добрым гаспадаром. Цяпер жа ўсім гэтым камандуеш ты!

— З сённяшняга дня адмаўляюся!

— Ну і добра. Тады займуся я!

— Не змагла б і я што-небудзь стварыць, каб ты даў умовы? Думаеш, я такая бяздарнасць?

— Ніколі так не думаў! От, запрацавалася, бедная, ушчэнт, дальбог!

Хоча мяне абняць.

— Не падлазь! Ты ведаеш, колькі разоў адно ў магазін сёння лётала?

— Нічога кепскага пра цябе не думаю, адкуль ты ўзяла ўсё? Супакоішся ты, урэшце?

— Маўчала дагэтуль, бо дурная была!

— Іра, зразумей, творчасць — як каханне, дзяліць ні з кім яго немагчыма, бо гэта тваё, асабістае. Я ж невінаваты, што на свеце так створана... Я табе вельмі ўдзячны за ўмовы...

— Што мне з гэтага?

— Дык пачакай вынікаў!

— Іх ніколі не будзе!

Што праўда, то праўда. У новы артыкул трэба ўкласці ўсю душу без астатку. Адно тады ён будзе добры. Гэта ведаю з уласнага вопыту — і ў маёй прафесіі гэтаксама.

Уздыхаю і скарджуся мякчэй:

— Усё адно і тое самае, і тое самае... Можна звар'яцець. У цябе ўжо — восем брашур! Ну, напішаш дзявятую, потым яшчэ адну, яшчэ...

Муж глядзіць на мяне, заклапочаны і здзіўлены: пра гэта ён і сам не думаў.

— Дурна-ая! — туліць ужо мяне.— Дык так і ў тваёй школе: выпусціш адзін клас, потым рыхтуй наступны... Так і ўсё астатняе на белым свеце. Табе яшчэ пашанцавала, я хоць заўсёды на вачах. Іншыя мужчыны як пойдуць раніцой з дому, то няма іх да ночы. А то і суткі, цэлы месяц...

— Вось-вось. І я месяцамі бацькоў не бачыла. Што ў гэтым добрага?

— У цябе справа іншая, не блытай. Тваю маму партыя пасылала на заданне ў цяжкі час.

— Магчыма, і блытаю...— выціскаю з сябе і калачуся ад жалю.— Аднак і гэтак, Косця, жыць нельга. І з дзецьмі табе болей трэба быць. І да мяне ты заўсёды такі няўважлівы...

— Напрыклад?

— Пайшла з табой учора ў кіно, а ты папёрся наперад: мне было сорамна перад настаўніцамі. Ведаеш, як некаторыя да нас з табой прыглядаюцца, як потым абмяркоўваюць кожны наш крок?

— Глупства!

— Такімі глупствамі ты мяне адштурхоўваеш, я пачынаю нават на другіх пазіраць...

— Вось як?

— Не хачу, а пазіраю!

— Ну-у? — ён коратка дзівіцца.

— Ага,— я задаволена, што прызналася нарэшце і што ён не стаў рабіць допытаў.

— Даруй, Іра! — вінавата просіць, уражаны.— Слова гонару, нічога не заўважаў... А ты наступны раз не маўчы, а кажы, калі я не ўважлівы!

— Трэба і самому ведаць!

— У мяне галава так задурана, што... Во, мяне выклікаюць у выдавецтва, хочаш, разам паедзем? Зараз грошай крыху зноў атрымаем за брашуру. Паехалі, а?

— Хто мяне пусціць, думаеш, я — вольны казак, як ты?!

— Адпросішся на два дні ў дырэктара. Веру папрасі правесці свае ўрокі! Дома Тося цябе заменіць!

— Ага, заменіць! Прывядзе салдата свайго сюды!..

— Ну і што? З'есць тваіх дзяцей! Не людаеды ў войску — і я быў салдатам! Паехалі!

— Неяк няёмка, сярод вучэбнага го-ода...

## 14

Жывём у век тэхнікі. Паўдня збіралася, а селі ў самалёт і праз гадзіну ўжо — сталіца. Мяне мучыць неспакой. Той, які дома быў прыглушаны рознымі справамі, тут мяне агарнуў усю, без астатку: мяне аж падмывае.

У гасцініцу прыбягае з рэдакцыі ўсхваляваны Косця і не заўважае майго настрою.

— Ну, віншуй! Падпісаў умову на новую рэч! Будзе называцца ведаеш як? «Значэнне памяці ў жыцці чалавека»!

— Што ты будзеш пісаць? Пра яе ж усё напісана.

— У-у, як памыляешся! Вы, настаўнікі, кажаце вучням: «Ты, Коля, далёка пойдзеш, у цябе выдатная памяць». А гэта — глупства! Амаль ніхто з вялікіх людзей ёю не вылучаўся! Ледзь не ўсе геніі памяць мелі цалкам звычайную! Наадварот, фенаменальная памяць часамі перашкаджае чалавеку! Расхалоджвае

яго, супакойвае! Памятаеш Станіслава, студэнта з фізмата? Прачытаеш яму з кніжкі старонку і — ён табе перакажа яе слова ў слова. А што з яго атрымалася? З божага дару ён зрабіў бізнес! Завочнікі прыносяць задачкі, у яго цвёрдая такса: ад трох да пяці рублёў за адну...

— Тады як, па-твойму...— неахвотна падтрымліваю размову.

— Ніяк. І тут павінна быць у чалавека мера. Што з таго, калі твая галава будзе поўная фактаў? Гурба вінцікаў і кольцаў яшчэ не народзіць трактар... Як? А чорт яго ведае, трэба падумаць! Мабыць, памяць не прыносіць карысці, калі факты не вядуць да пазнання сутнасці рэчы, не запальваюць іскры, не вядуць да вопыту, ведаў!.. Патрэбны яшчэ розум, эмоцыі, характар... Гарачае і сумленнае сэрца знойдзе і сілы і спосаб успомніць, калі яму што трэба! Здаровы парастак праб'ецца нават праз каменні да сонца, калі будзе ў ім гэтая сіла!.. Тут столькі можна фантазіраваць, прыводзіць прыкладаў — страх! От, работка чакае мяне — цуд!.. Але есці хачу, пайшлі абедаць!

Заходзім у перапоўнены рэстаран. Падсаджваемся да дзвюх дам.

— Што будзеш есці? — пытаецца Косця.

— Усё роўна. Выбірай ты! — кідаю нібы абыякава, а сама насцярожана кагосьці выглядваю, выслухваю.

Навокал завіхаюцца маладыя афіцыянты ў белых пінжаках з чорнымі банцікамі замест гальштукаў. Стаіць бязладная гамана. За суседнімі сталамі — арабы, негры, індусы. На сталах — стракатыя флажкі. Нашыя суседкі з прытворнасцю правінцыялак гавораць так, каб іх чулі афіцыянты:

— Ох, да чаго ж не люблю гэтых сталічных падавальшчыкаў у рэстаранах!

— І я! Яны — бытта лёкаі з дарэвалюцыйнага часу! У іх штосьці нізкае, фальшывае...

Косця вывучае меню, але я ўпэўнена — ён усё выдатна чуе. Зараз не выцерпіць, абрынецца на жанчын. Збіраюся сціснуць яго руку, выцягваю ўжо нават пальцы, ды раптам замірае сэрца, забівае дыханне: у залу ўваходзіць чалавек... Хаваюся з жахам за мужа.

— Эх, жанчынкі, жанчынкі, як вы можаце так легкадумна гаварыць? Вы ж гэтых хлопцаў зусім не

ведаеце! — бы праз сон, далятаюць Косцевы словы.— Яны ж вам могуць быць сынамі!

Не, гэта — не ён! Той чалавек, што ўвайшоў, мае толькі падобны касцюм!..

Да мяне памалу вяртаецца прытомнасць. І разам з гэтым робіцца сумна-сумна.

— ...Маладыя, адукаваныя, з атэстатамі. Узялі іх сюды па конкурсу. Гэтыя хлопцы нават валодаюць замежнымі мовамі. Я б на іх месцы не прыняў бы ў вас заказу!..

З той жа энергічнай упэўненасцю, з якой у гасцініцы разважаў пра памяць, Косця адчытвае жанчын, а я ўсё азіраюся, азіраюся, выглядваю і выглядваю, аж забалела шыя. Чагосьці страшэнна не хапае ў гэтым горадзе, надта цягне дамоў...

— Мараліст нудны, перастань! — шчыпаю мужа за локаць ды кажу: — Навошта ты мяне сюды прывалок?

## 15

Пасля доўгага перапынку я, нарэшце, сустракаю незнаёмага і ледзь стрымліваюся, каб не выдаць сваю радасць. Ківаю на прывітанне галавой. Ён усміхаецца. Нават прыпыніўся. На нагах у яго замшавыя чаравікі.

— Дзень добры! — кажа.— Ці не пара нам пачаць вітацца?

— І я думала пра гэта! — смяюся і ведаю, што ў мяне блішчаць зубы, вочы.

— Вось і дамовіліся! — з жартоўнай дзелавітасцю кажа ён.

— Дамовіліся! — у тон крычу і я.

Убягаю ў нейкі пад'езд, аглядаю сябе ў люстэрка. Ух, як усё атрымалася проста і натуральна! Перабіраю ў памяці, як усё адбылося, і зноў радуюся — лепш і быць не магло!

З таго дня мы вітаемся і нават абменьваемся нязначнымі словамі. Тое, што гавару я,— заўсёды з клічнікам; тое, што кажа ён,— дакладнае, нешматслоўнае, лагічнае і, як мне здаецца, разумнае. Голас у яго мяккі, спакойны, поўны затоеных пачуццяў, страсці і сілы.

«Ён — незвычайны! — кажа кожны раз пасля та-

кой сустрэчы маё сэрца.— От бы пазнаёміцца з ім бліжэй, запрасіць дадому, звесці іх з Косцем...— прыкрываю ўсё фігавым лісточкам і раблю выгляд, што нічога кепскага не адбываецца. І радуюся, бо знайшла прычыну для размовы.— Я павінна яго павіншаваць са святам, гэта будзе наш першы крок да збліжэння! Потым запрашу дадому, і будзем мець новага сябра!»

Муж адставіў машынку і пачынае гартаць газеты:

— Хоць кінуць вокам, халера, што на свеце робіцца! Мо там ён перавярнуўся дагары нагамі, а ты і ведаць не будзеш!

Дарэмна ён апраўдваецца. Я задаволеная, што Косця не звяртае на мяне ўвагі. Саджуся пісаць цётцы ліст. Механічна выводжу словы, а сама мяркую, як выканаю задуму.

Толькі чаму ён у замшавых чаравіках?.. Страшэнна не люблю мышэй і мужчын у замшавым абутку!.. Чаму?..

Але ж гэта глупства: такі абутак, як кожны іншы!..

Ужо гадзін дванаццаць ночы. Выходжу на вуліцу, каб кінуць канверт у паштовую скрынку. Можна кінуць і заўтра, але хочацца на свежае паветра, пабыць са сваімі пачуццямі.

Ад нашага ганка нехта зашлёпаў ботамі на босую нагу.

— Гэта мы! — чуецца вінаваты Тосін голас.

Калі я вяртаюся з вуліцы, Тося ляжыць ужо ў ложку.

— Цёця Іра...— шэпча.

Да гэтай простай дзяўчыны ў мяне шчырая цікавасць і спачуванне. Прысядаю на раскладны ложак.

— Уцёк пасля адбою з казармы праз плот! — са шчаслівым смехам і захапленнем, бытта хлопец да яе пралез праз пекла, хваліцца мая Тося і пырскае: — У адных трусах і шынялі!

«Вось табе і Тося!»

«А з-за мяне ўжо не будуць так сябе падстаўляць пад небяспеку! Ой, няўжо ніхто і ніколі не будзе?!»

— Яго не пакараюць за гэта?

— Ён кажа: «Днявальны — свой хлопец. У крайнім выпадку — дванаццаць сутак губы, падумаеш! Той не салдат, хто на губе не сядзеў!» Яшчэ летам

прабілі трактарам дзірку ў плоце, прыкрылі дошкамі і бегаюць...

Тосю маю не пазнаць.

## 16

Школа рыхтавалася да Кастрычніцкага свята. Трэба было маляваць транспаранты, прыбіраць класы, выводзіць ацэнкі за чвэрць, тэрмінова выпускаць насценную газету. Устала я ў гэты дзень, можа, гадзіне а пятай. Мяне напаўняе таямніца, радуе прадчуванне новага, абуджаецца якаясьці ненатуральная чуласць.

— І ты ўстаеш?! — з пяшчотай звяртаюся да Косці.

— Ага!

— Паспаў бы! Сядзіш і сядзіш, нельга ж так! Мяне вымушае свята. А цябе?..

— А па-твойму, як? — нагінаецца ён па гантэлі.— У мяне чартоўская прага да работы і радасць ад таго, што магу рабіць, што хачу!

— Геній аб'явіўся! Колькі разоў табе гаварыла: не хваліся, усё роўна састарышся...

— Во-о!.. І ў старасці жывуць. Тады, можа, толькі і атрымліваюць асалоду ад паўнаты жыцця, пільнасці вока, пачуцця меры з'яў!.. Давай старасць, я ведаю, як мне жыць, я — бачу неба! Якія ж вы ўсе... Не можаце адчуць нешта падобнае!

— О, зноў!

— Навошта мне хваліцца? Пабачыш, калі гэтая мая праца шугане на ўсю краіну!

— Тады што?

— Як — што? — застывае з узнятымі гантэлямі.

Гляджу на разгубленую постаць у адных трусах, на спіну і грудзі ў карычневых шрамах — слядах вайны — і адчуваю, які ён мне блізкі, родны і наіўны ў сваёй упартасці. Нібы Віця... Хочацца гэтаму роднаму і магутнаму зубру, што дзень і ноч заўзята працягвае сваё, перадаць частку свайго шчасця і радасці. Падыходжу і чула дакранаюся да рубца старой раны.

— Дзяўчынка, знайшла час!..— бянтэжыцца ён і грыміць жалязякамі аб падлогу.

Ад стуку прачынаецца Віця ды адразу свежым галаском, бытта не спаў, крычыць:

— Та-ата, ведаеш, што цікавае мне снілася?
— Не. Раскажы.
— Як... як...— сіліцца знайсці словы.
— Ну, ну!
— Мама, раскажы мой сон тату!
— Дурненькі, думаеш, і я бачыла яго?
— Ты не ба-ачыла? — дзівіцца Віця.— Мы ж разам спалі!..
Мы з Косцем смяёмся.
— Ой, Косцік, гані мяне да работы, а то трэба ў школу рана, а ў мяне спраў яшчэ колькі!
— А ну, гультай, марш! Што гэта такое?!
— Ой, іду, іду!
— Давай, давай! — пратурвае мяне ў другі пакой.
Рыхтую Марынцы суkenку, школьны фартух. Чышчу чаравікі. Гатую ўсім снеданне. Буджу Тосю. Мы снедаем, і я апранаюся, бяру партфель.

## 17

Выходжу раней, чым трэба. Горад яшчэ сонны. Асенняе паветра — сцюдзёнае, але свежае і бадзёрае. Бачу вакол сябе толькі добрае. Мяне абганяе машына. З акенца кабіны вылятае вугольчык папяросы і падскоквае на тратуары, рассыпае іскры. Не, горад ужо не спіць...
Спыняюся на аўтобусным прыпынку ля хлебнага магазіна. Побач два здаровыя дзядзькі ў камбінезонах з кузава крытай машыны выцягваюць кручкамі скрынкі з булкамі і ў ранішняй цішы нарабілі лёскату на цэлы квартал.
— Усё! — уздыхае адзін.— Закурым!
— Як усё? — пярэчыць другі.— А снеданне сябру?..
І кідае на тратуар кавалачак хлеба:
— Лаві сваю порцыю, браце. Наядайся!
Толькі цяпер у паўзмроку бачу жывы шэры камячок, які па тратуары скача да хлеба.
— Кожную раніцу, жэўжык, прылятае! — з захапленнем тлумачыць дзядзька мне.— Просіць есці...
Падкаціў біткам набіты аўтобус, уздыхае тармазамі.
Расшпільваю паліто, каб не адляцелі гузікі, склад-

ваю рукі клінам, прыціскаю локцем партфель і ныраю за тоўстай дзяўчынай. Ледзь зачыняюцца за намі пнеўматычныя дзверы. Вакол мяне — тугія бакі, плечы, локці ды незадаволенае гырканне. Людзі нязлыя — яны проста яшчэ сонныя.

— Не штурхайся!

— Яна так дыхае! — заўважае другі.

— Не заступайся. Лепш злезь з маіх мазалёў!

— Хіба ты тут выходзіш?

— А калі не выходжу, то не трэба злезці?.. А вы не падміргвайце!

— Я вам падміргваю?

— У вас такая звычка, вы і не заўважаеце!

— Елачкай, елачкай станьце, і — усім хопіць месца! А ты — не выхіляйся з акна! Закрый яго!

— Выхіляйся, выхіляйся, чым ты заўтра будзеш выхіляцца?!

У аўтобусе прачынаюцца, усім весела.

У гэтую пару нашым маршрутам ездзяць пераважна рабочыя ■ заводаў, людзі, якія любяць вострае і трапнае слова. У гуморы і наша кандуктарка.

— Грамадзяне, бярыце білеты, не саромейцеся! — крычыць зычным голасам і папраўляе на грудзях «Раман-газету», якая занадта вылезла з-за адвароту.— Тут мы усе свае, смялей, смялей! Вы, дзве дзяўчыны, чаго азіраецеся?

— А што, не пара ім хіба азірацца?

— Не хвалюйся, не на цябе!

— А чым я кепскі? Толькі што рыжы!

— Байчэй плаціце!

— Шукаем грошай у кішэнях!

— Доўга чагосьці!

— Ну, іншыя ў чужых кішэнях знаходзяць хутчэй, чым у сваіх!

— А ў мяне праязны!

— З праязным мог бы і прайсціся!

— Га-га-га-га!

Цяпер у аўтобусе — нібы адна сям'я. Здаецца, каб магла, азалаціла б усіх.

Нехта ўступае месца, саджуся. Маё сэрца як бы раздалося ўшыркі, увабрала не толькі гэтых пасажыраў, але і цэлы горад! Зноў здаецца, што я ўжо некалі жыла на свеце, я — вечная...

Што мой незнаёмы робіць? Яшчэ, відаць, спіць. Паспі, даражэнькі! Спіце і вы, добрыя людзі, каму яшчэ можна не ўставаць!..

Знадворку да мяне ўсміхаецца твар сімпатычнай маладой асобы з жывым і здаровым бляскам вачэй і зубоў. Я ахвотней гляджуся ў шыбу, чым у люстэрка. Косця смяецца, што гэта — самаашуканства, бо так менш відзён узрост. Ну і няхай! Крадком падцягваю ззаду касынку, і над лобам паказваецца просты прабор. Прыглядаюся. Сапраўды, цяпер падабенства да італьянскай сіньярыны бачу і я. Толькі мой твар маладзейшы і сама я больш жвавая.

А вось і школа.

Як ні рана выехала з дому, аднак у настаўніцкай ужо нехта ёсць. Мяне адразу падхопліваюць тысячы спраў. Камусьці на гвалт патрэбна выставіць адзнакі за чвэрць, дырэктару неадкладна давай справаздачу аб выхаваўчай рабоце, нейкі бацька, дзівак, прыйшоў якраз цяпер, каб я напісала яго дачцэ распарадак дня...

Аднак праз занятасць і клопаты я агорнута і прадчуваннем сустрэчы. Маё сэрца то калоціцца, то ад жудаснага і незнаёмага шчасця замірае. Недарэчы лезуць у галаву яшчэ і вершы. Цякуць лёгка, самі сабой словы Межэлайціса, вычытаныя нядаўна:

Так на картине Ренуара ты,
Земной и неземною возникая,
Являешь нам прекрасного черты,
И ты действительно такая,
И наяву такая ж, как во сне.
Вся красота, вся — радость.

## 18

Вяртаюся са школы. Іду паволі насцярожана, і ў мяне такое адчуванне, што вось-вось зараз нешта здарыцца. Здарыцца напэўна, няўмольна, немінуча — штосьці хвалюючае, важнае і фатальнае. Я нават ужо не ўпэўнена, ці сапраўды жыву, іду, ці мне толькі гэта ўсё сніцца.

Прадчуванне не ашукала.

Яшчэ здалёк бачу добра знаёмы капялюш, карычневае паліто і мяккую хаду мужчынскіх ног у замша-

вых чаравіках. Мне раптам не хапае паветра, заміраe сэрца і падгінаюцца ногі. Хаваюся за прахожага, пачынаю аддыхвацца.

Спаткаліся мы на мосце. З нейкай п'янай рашучасцю ды толькі таму, што было раней запраграміравана, я запыняю яго і на гэта трачу ўвесь запас смеласці. Гаварыць ужо не магу.

— Вы штосьці хацелі сказаць мне? — пытаецца ён ветліва, але паспешліва.

— Я?..

«Ну, гавары ж ты, гавары, калі пачала!» — чую свой кволы ўнутраны голас скрозь узрушанасць.

— Хацела павіншаваць вас...

— З чы-ым? — у яго вачах шчырае здзіўленне.

Пакутліва і дарэмна спрабую ўспомніць тыя душэўныя і прыгожыя словы, якія падрыхтавала.

— Са святам...— выдыхаю.

— А! Узаемна!

— Дзякуй...

Няёмкая паўза.

— Прабачце,— кажа ён.— Я вельмі спяшаюся!

Маўчу.

«Спяшыш... Ну і спяшы, ладна! Збіралася толькі цябе павіншаваць і свайго дамаглася!»

«Але чаму я не хачу, каб ты адыходзіў? Чым такая расчараваная?..»

Ён збіраецца бегчы і апраўдваецца:

— Ля рэстарана даюць свежую рыбу!

— Калі ласка...

— Трэба паспець захапіць!

— Што-о захапіць?

— Ля рэстарана ў падвале — свежую рыбу выкінулі, кажу!

— Яку-ую?

— Свежую!

Аслупянелая, гляджу на яго і ніяк не магу зразумець, пра што ён гаворыць. Пры чым тут якаясьці рыба?!

— Паслязаўтра ж — свята! — тлумачыць.

«Мабыць, сню».

— Ну, пабягу, а то расхапаюць!

— Расхапа-аюць?..

— Яшчэ людзі не ведаюць, але зараз наваляцца!

«Бо-ожа, што ён вярзе?!»

Некалькі секунд маўчым. Паміж ім і мной убілася кампанія вёрткіх вучняў з ранцамі, раздзяліла нас, але я не кранаюся з месца. Стаю, не магу адысці ад здзіўлення. Мяне агортвае адчай.

Школьнікі прайшлі — і зноў мы дваіх.

— Ну, пайшоў! — паўтарае ён.

— А як жа я-а?! — вырываецца ў мяне не то скарга, не то адчайны крык.

— Можа, і вам трэба? — на хаду пытае ён з гатоўнасцю.— За адно магу ўзяць, мне ж — усё роўна!

— Чаго ўзяць?

— Свежай рыбкі.

— Наво-шта?

— Вы яе не любіце?

«Не, я не сню».

Ён ужо бачыць — нешта здарылася, адчувае віну, спрабуе яе загладзіць. Бадзёра кажа:

— Давайце грошы! Колькі вам браць?

— Не! — паспешліва і з жахам баранюся я, нібы ён падбіваў на злачынства.

— То як сабе хочаце, я — ад шчырага сэрца!

— Не! Не-е!

— Тады я пабег! Бывайце!

# ПА КВЕТКУ ШЧАСЦЯ

*Светлай памяці свайго бацькі прысвячаю*

## УСТУП

### I

Мая вёска завецца Страшава. У ёй сорак восем двароў, раскіданых на пяцістах гектарах, або пяці кіламетрах квадратовых,— каля лесу Ліпнікі.

За страшаўскімі хлявамі праз рачулку перакінута дубовая кладка. На груба абчасанай і набрынялай гэтай бэльцы чарнелі выразанае прозвішча, праваслаўны крыж і дата смерці пачынальніка нашага роду — Кучынскіх. Нам, дзецям, гаварылі, што надпісу мо сто, а мо і больш гадоў.

Яшчэ на вёсцы казалі, што Кучынскі і быў першы страшавец. Чалавек гэты стаў мне блізкі, а ўсведамленне, што наш род заснаваў цэлае селішча, напаўняла мяне гонарам.

Я — незвычайны страшавец.

Радаслоўная нашай сям'і вядома толькі да чацвёртага калена. Пачынаецца з прадзеда, які служыў краўцом у пана Златніцкага.

Калі адмянілі прыгоннае права, прадзед не асеў на зямлі, [illegible] пайшоў на заробкі. Ён заходзіў да каго-небудзь у хату, жыў там тыдзень-два, покуль усіх не абшываў, тады кіраваўся далей.

Страшаўскія бабкі расказвалі, як кравец любіў жартаваць.

— Дзеці, прынясіце жменьку попелу, будзем іголкі вастрыць!

Тыя прынясуць. Ён нібы водзіць па попеле іголкай — раз! — і ўколе ў руку.

— Што, вострая?

А то ў адной хаце нявесткі пачалі варыць абед і пасварыліся. Гаршкі сабе кіпяць, а кравец, падкурчыўшы ногі, сядзіць і шые. Нявесткі то заходзяць, то выходзяць, надзьмутыя, маўчаць, а спытацца адна ў адной, ці пасолена страва, не дазваляе гонар.

Вярнуліся мужчыны з малацьбы. Села сям'я снедаць. Толькі паднеслі лыжкі да рота, і ўсе разам выплюнулі страву.

— То хіба і ты саліла? — вінавата спыталася адна маладзіца ў другой.

— Саліла...

Кравец дадаў:

— А я думаў, сёння такое свята. Бачу — усе соляць. Узяў зачэрпнуў жменю солі са збанка, кінуў у вар і я!

Краўцоў сын — мой дзед — гадоў сорак служыў леснікам. Ён амаль не начаваў дома. Дзень і ноч з кіем і сабакам, а зімой на лыжах праводзіў на службе. Памятаючы, як бацька пабіраўся па мужыцкіх хатах і прыкідваўся дзіваком, каб пракарміць з іголкі сям'ю, ён упарта, настойліва імкнуўся зрабіць сваіх пяць дачок (маіх цётак) і двух сыноў (майго бацьку і брата яго, Аляксея) незалежнымі. Дзед не піў, нікуды з вёскі не выязджаў. Збіраў грошы год, два, дзесяць, дваццаць...

Нарэшце, калі ў нашым Страшаве распрадавалі маёнтак пана Златніцкага, на саракавым годзе службы, дзед на ўсе грошы купіў зямлі і адразу памёр,— жывіце, дзеці, мацуйце наш род, бо я сваё зрабіў.

Зямлю пан прадаў, вядома, у палосках, ды падаспела Сталыпінская рэформа. У Страшаве з'явіліся каморнікі і выдзелілі гаспадарам асобныя надзелы для хутароў.

Леснікова ўдава, мая бабка, за нешта пасварылася з каморнікамі, і тыя са злосці далі ёй вялізны ўчастак, але дурны — пясчаную гару і балота.

Покуль перамервалі зямлю, цёткі павыходзілі ў суседнія вёскі замуж. Дзядзька Аляксей адправіўся ў Маскву служыць прыказчыкам. Памерла і бабка.

Мае продкі — вялікія гаротнікі, сумленныя людзі, няхай пухам ім будзе зямелька.

## II

Паабапал рэчкі Супраслі раскінулася мястэчка Гарадок.

Недзе ў XI стагоддзі ў глыбіні Блудаўскай пушчы, дзе крыжаваліся гандлёвыя шляхі, узнік умацаваны гарадок, якому чамусьці людзі не прыдумалі назвы.

У Гарадку хаваўся ад брата Вітаўт, і мястэчка тады было за сталіцу літоўскаму магнату.

У 1498 годзе беларускі князь і навагрудскі ваявода Аляксандр Хадкевіч пабудаваў тут манастыр Іаана Багаслова. З Афонскай гары, з Кіева-Пячорскай лаўры ваявода прывёз манахаў, якія пачалі жыць па ўзору ўсходніх схімнікаў.

Манахі жылі ў раскіданых па лесе келлях і толькі па суботах і на святы збіраліся ў манастыры на малітву. Калі ж Хадкевіч пабудаваў тут яшчэ і мураваны замак, суседства буяністага ваяводы і разгульнай світы стала манахам перашкаджаць.

«Трудно было,— гаворыць старажытны летапіс,— блюсти строгости иноческого жития ради докуки мирской». Хадкевіч дазволіў перанесці манастыр у іншае месца.

Паводле даўняга звычаю, манахі кінулі ў рэчку драўляны крыж, які меўся паказаць, дзе ставіць новую святыню. Крыж панесла вадой, «інакі» ішлі па беразе і сачылі, куды яго прыб'е.

Так узнік новы, славуты ва ўсёй Цэнтральнай Еўропе — Супрасльскі, Благавешчанскі манастыр.

Потым перасяліўся ў Беласток і сам Хадкевіч, а Гарадок заняпаў. З колішняй яго славы засталася легенда ўзнікнення мясціны і Замкавая вуліца. Ад магната Хадкевіча і былога манастыра дайшоў да нас адно ўзгорак, зарослы буйным лопухам.

Кожнай келлі ў лесе манахі для выгоды далі сваю назву. Людзей прыбывала. Яны ўсё далей ад Гарадка высякалі пушчу. Але мясціны, дзе маліліся схімнікі, яшчэ доўга выклікалі пашану. Назвы келляў людзі перанеслі на вёскі — Грыбаўцы, Скрабляки, Зубкі, Зубры, Страшава, Бялявічы, Меляшкі, Валілы...

Яшчэ з тых часоў захаваліся на вёсках паўднёваславянскія прозвішчы, перайначаныя людзьмі для лепшага вымаўлення,— Цішэўскі, Дудзік...

## III

У часы санацыі пры ўездзе ў Гарадок віднелася шыльда, а на ёй было акуратна напісана: «Мястэчка мае 2764 жыхароў, у тым ліку 1402 іудзеі, 615 праваслаўных, 521 католік і 226 іншых веравызнанняў. Жанчын — 1963, мужчын — 1715».

Ішлі гады, і людзі паміралі, нараджаліся, жаніліся ды пераходзілі ў другую веру, а лічбы на шыльдзе не мяняліся. Толькі потым я зразумеў — войт з Гарадка гэтым паказваў, які ў яго гміне парадак.

Без Гарадка нашыя сяляне не ўяўлялі свайго жыцця.

Пыхцела там каля дзесятка фабрычак сукна.

У Гарадку былі кузня, млын, воўначасалка, пошта і школа.

Там жыў доктар.

У мястэчку можна было прадаць масла, збожжа, цяля ці выменяць малако на флёкі для сенніка.

У Гарадку чалавек мог купіць і селядзец, і чаравікі, і сшыткі, і нават — з-пад палы — набоі для паляўнічай стрэльбы.

Між іншым, для мяне Гарадок яшчэ — мясціна, дзе я ўбачыў свет.

Аднойчы паехалі нашы часаць воўну — і ў маці пачаліся роды. Бацька завёў яе ў бліжэйшую краму, палажыў на тапчан. Маёй павівальнай бабкай стала гаспадыня крамы, прапахлая селядцамі і газай тоўстая Броха.

## IV

І на мястэчка і на вёску ўплываў прамысловы Беласток, куды ад Страшава — сорак адзін кіламетр.

Каліноўскі ў Беластоку друкаваў «Мужыцкую праўду».

Забастоўкі рабочых там пачаліся яшчэ ў 1870 годзе.

З беластоцкіх школ выйшлі генерал Парыжскай камуны Валеры Урублеўскі, забойца Аляксандра II — Ігнат Грынявіцкі.

У недалёкім Заблудаве Іван Фёдараў выпускаў свае першыя кніжкі...

Паўстанні 1831, 1863 гадоў пакінулі па нашых лясах такія назвы ўрочышчаў: Стойбішча, Вісельнік...

Хаты ў нас даўно на гарадскі лад: крыліся чарапіцай, сцены гладка габляваныя, з шаляванымі вугламі, а вокны — вялізныя, на тры шыбіны. Замест печаў людзі ставілі ўжо пліты, а для цяпла — з белай кафлі грубкі. Па два, па тры і нават па чатыры пакоі мелі страшаўцы.

Гэта з аднаго боку. А з другога...

Вісельнікам называўся лясок ля Свіслачы. У 1831 годзе Мураўёў павесіў у ім вучняў Свіслацкай гімназіі...

Маіх продкаў лясок уражваў не таму, што ў ім загінулі змагары за народ. Праязджаючы ля сосен на кірмаш, яны замiралі ад жаху — на гэтых суках віселі людзі. Замiралі б гэтаксама, калі б там віселі звычайныя бандыты.

Мужыкі нашыя доўга лічылі цара бацькам, які не ведае, што твораць мясцовыя начальнікі, а рэвалюцыянераў называлі з насмешкай — «цацалістамі».

У 1905 годзе праз Гарадок ішла дэманстрацыя. Абураныя рабочыя неслі на тычцы акрываўленую кашулю ахвяры самадзяржаўя. Нейкі Самойлік залез на свой дом і стрэліў па «цацалістах» з дубальтоўкі соллю.

У Страшаве ён праслыў героем.

У 1914 годзе рускія войскі з Заходняй Беларусі і Украіны эвакуіравалі ад немцаў у глыбіню Расіі чатырнаццаць мільёнаў людзей. Адзіным страшаўцам, якому ўдалося схавацца ад казакаў і не паехаць у тыл, быў стары Лукаш. Чалавек адстаў ад суседзяў на цэлую эпоху.

Пасля вайны бацька спаткаў ля Гарадка фурманку.

— Сцяпан, я вазіў бульбу ў Беласток! — спыніў дзед каня.— І бачыў там нейкіх, мусіць, бальшавікоў, ісціны бог!

— Чаму вы, дзядзьку, думаеце, што гэта былі бальшавікі?

— Бо трубілі ў трубы і ішлі ў сінім... А трубы бліскучыя, аж агнём гарэлі!

Дзядзька бачыў аркестр пажарнай каманды.

(Адсталасць дзядзькі перадалася, няйначай, і дзецям: яго сын Іван не вылазіў з турмы за крадзяжы.)

Астатнія страшаўцы папаездзілі па свеце, і ў іхніх галовах адбылася грунтоўная перамена.

## V

На дзедавай спадчыне, у Страшаве і Гарадку, у наваколлі Беластока, і праходзіла маё жыццё — яшчэ не напісаная аповесць, якой я даю назву «Па кветку шчасця».

Ці люблю я свае родныя мясціны? Гэта не тое слова.

Я мераю, буду мерадь да смерці і вучу сваіх дзяцей мерадь усё на Страшава: плошчу, дамы, людзей, іхнія ўчынкі, сумленнасць, прыгажосць ды брыдоту, подласць, памеры цярпення, бяду і радасць. Бо кожны чалавек — родам са свайго маленства.

## *РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ*

## 1

У нас ля акна вісеў кішэнны гадзіннік. Яго бацька атрымаў за выдатную стральбу з гарматы ў царскім войску і ганарыўся ім. Надта хацелася мне яго пакруціць. Дабраліся мы з братам Валодзькам да гадзінніка і сапсавалі.

Першае, што цьмяна памятаю ў сваім жыцці,— як страляе спружына гадзінніка, як мяне лупцуюць. Тады ўжо ідуць вобразы больш выразныя.

Праз вёску пара коней вязе брычку з памешчыкам Шастаковічам. Карычневая брычка блішчыць, гойдаецца на рысорах (нават не думай на яе пачапіцца!) — памешчык з Вераб'ёў едзе ў Гарадок да касцёла.

Вось поўная наша кухня кудзельніц. Вурчаць бадзёра калаўроткі. Гляджу на маміны пальцы, яна слініць іх, спрытна скубе кудзелю з прасла, а з-пад рук яе цячэ на шпульку тоненькая нітачка. Кудзельніцы пяюць. Чую толькі мамін зычны голас. Яна спявае, што хутка настане вечар, яна выйдзе на вуліцу, а там чакаць будзе яе мілы друг і яна на яго абапрэцца.

«Друг» для мяне — слова незнаёмае, але я ведаў

падобнае па гучанні — дручкамі абнесены нашыя агароды. Уяўляю, як мама выходзіць з дома і абапіраецца на дручок ля нашай капусты...

Мама бачыць мяне, раптам змаўкае і з цікавасцю і гордасцю пытае:

— А ты разумееш, пра што спяваем?

— Ну! — адказваю ўпэўнена.

Жанчыны смяюцца, а мне надта крыўдна: чаго ж тут не разумець?

Памятаю, як на вёсцы дзівіліся, што наш бацька не можа даць рады дзікам. Яны з Ліпнікоў панадзіліся ў бульбу. Бацька і воўчыя ямы капаў, і бітае шкло сыпаў, каб ад месяца блішчала — дзікі рылі загоны ўсё роўна.

Дзядзька Салвесь, наш сусед, параіў яму правераны спосаб.

Бацька ўкапаў слупы з перакладзінамі. Да перакладзіны дротам прывязаў старыя чыгункі ўверх дном. У кожны чыгун падвесіў кавалак жалязякі — нібы язычок у званку. А да жалязяк прымацаваў анучы.

«Вецер анучамі будзе махаць, жалезіны па чыгунах зазвоняць, і дзікі збаяцца!» — абяцаў дзядзька Салвесь.

Выразна памятаю раніцу.

Мы толькі што паўставалі. Праз акно заглядае сонца. Ля пліты ўстрывожаная мама даварвае снеданне і часта ўспамінае мацер божую. Мама гэтым разам не пабіла збан з малаком, не знайшла ў кумпяку чарвей, свіння не сцягнула з плота яе спадніцы — сёння бацька не начаваў дома.

— Бо-ожа, бо-о-ожа, што са Сцяпа-анам?! — гаворыць яна сама да сябе ўслых.— Дзе ён так доўго?! Рабі, рабі на гэтых пясочках дзень і ноч без толку, потым вартуй іх ды яшчэ невядомо, што цябе там спаткае!.. Халера на такую зямлю!.. Вунь у Рыжаго Ігната — і канюшына расце ўсюды, і ад лесу далёка!.. Ісусе Хрысце, мацер божая, чаму такая несправядлівасць на свеце?! Што нам далей рабіць?!

Але мы з Валодзькам сядзім сабе на падлозе, расцягваем каленьмі начныя кашулькі, грэемся на сонцы, як каты, і толькі робім выгляд, што трывожымся таксама. Мы перапоўненыя свежасцю ўспрыняцця, ад-

чуваем нават баразёнкі на кончыках пальцаў. Нам цікава, што будзе.

Нарэшце заходзіць бацька, вінавата апраўдваецца:

— Вечарам набліжаюсо да поля — штось бомкае, а ветру няма! Ліхо на яго, чэрці звоняць, ці што?! Падыходжу да загонаў — дзікі, халера, панажыраліся бульбы, чухаюцца сабе аб слупы. Перакладзіны трасуцца, а чыгункі звоняць!.. А ты ведаеш, колькі іх там у лесе яшчэ жыве?.. Мусіў заставацца на ноч вартаваць. Заснуў раніцой, ну і праспаў...

І ўжо здаецца, зусім нядаўна ў Цішэўскага Івана памерла груднoе дзіця. Паклалі дамавіну на фурманку, і з падворка Цішэўскіх людзі накіраваліся на могілкі. За фурманкай пайшлі заплаканыя жанчыны. Іван узяў свежавыгабляваны крыж, паклікаў мяне:

— Алёшка, панясеш праз вёску. Ідзі наперадзе фурманкі і трымай перад сабой... Ды не бяжы надта, азірайся на каня!

Асляплены шчасцем ад такога даручэння, хутка я асвоіўся, і мне надта захацелася пахваліцца. Забег на падворак да Грушэўскіх, закрычаў сябрам:

— Ага, а ў мяне во што!

Плакальшчыцы накінуліся на Івана:

— Ачмурэў? Каму даў несці крыж?!

Іванаў брат, Юлік, спакойна падышоў да мяне, паспачуваў:

— Ну, замучыўсо, нябось, і рукі памлелі? То дай, панясу ўжо я... О-о, халера, які цяжкі! Як ты яго толькі валок?!

А далей ужо запомніліся страшаўскія падзеі.

Наша вёска на хутары не раз'язджалася — бунтавала. Гаспадары з пясчанымі ўчасткамі патрабавалі новага раздзелу зямлі, але ім адмаўлялі.

— Ёсць жа на свеце справядлівасць! — пераконвала бацьку мама.— Ты быў у той час у салдатах!.. З-за таго, што хітранькі Рыжы Ігнат сумеў падпаіць каморнікаў, а твая маці іх аблаяла, дык ужо і мэнчыцца табе ўсё жыццё?! Хлопцы ў цябе растуць, трэба падумаць, з чым іх пакінеш!

Нездаволеных было шмат. Яны прыходзілі да нас, пісалі ў суд новую скаргу, выбіралі бацьку ў сталіцу хадатаем ды дзялілі, дзялілі лужкі і нізінкі. Малых

нудзілі такія размовы, і мы ўцякалі з хаты, шукалі цікавы занятак. А яго лёгка было знайсці.

## 2

Тады ў нашым Страшаве часта «абнаўляліся» іконы.

Пайшла чутка па вёсцы, што абнавілася мацер божая і ў Кавальцоў. Марцінаў Сашка, Рыгарулькаў Косця, я і мой брат Валодзька паляцелі ў канец вёскі і замерлі ў Кавальца на парозе.

У хаце былі толькі гаспадары. Нахмураны дзед Кавалец згорбіўся на лаве і курыў. Цётка Кавальчыха палажыла сабе на калені далонямі ўверх, як чарпакі, жылістыя рукі і сядзела на куфры. Над цёткай у покуце вісела з пятнаццаць ікон — у тым жа парадку, як яны віселі ў кожнай страшаўскай хаце: пасярэдзіне галава святога, абкладзеная ручніком, а па баках у счарнелых рамках — меншыя святыя. Старыя, мабыць, нядаўна пасварыліся, і нас нават не заўважылі.

«Дзе ж той цуд... каго спытацца?»

У Кавальцову хату ўвайшла адна цётка, другая, трэцяя...

Заходзілі яны насцярожаныя, прытыкаліся да лавы і перашэптваліся. Кавалец зыркаў на жанчын спадылба і адно бурчаў сабе пад нос.

Калі сабралася столькі, што не было на чым ужо і сядзець, і яны выціснулі нас, малых, у сені, Кавалец выбіў аб лаву муштук, схаваў яго ў кішэню, плюнуў са злосцю і пайшоў з хаты.

У доме адразу ўзняўся гармідар. Асмялелыя жанчыны ўставіліся на маленькую іконку, якая вісела асобна, і заахалі.

— Ты глядзі, як ззяе! — сказала цётка Настуся і азірнулася — падахвоціла астатніх.

— Няўжэ-э! — падтрымала яе Салвесіха.

— Як сонцо! — падхапілі іншыя.

— А вакол яе — зоркі, зоркі, зоркі...

Жанчыны стараліся не адстаць адна ад адной.

— Шчэ ўчора можно было сказаць — тут штось здарыцца! Вечарам выбегла я па ваду, глянула ў гэты бок, а над Кавальцовай хатай, ах, Езу — вогненны слуп!

— То анёлы па ім сыходзілі!

— Ах, бо-ож...— не ведала, як сябе паводзіць разгубленая мая мама, прыляцеўшы сюды таксама.

— І, скажыце, каб у каго багатаго?! Такое выдарэнне, і ў гэтай хаціне...

— Мацер божа заўсёды да такіх больш літасцівая!..

Кавальчыха сядзела ўжо на куфры з выразам фанатычнага шчасця на твары. Хоць яна і па-ранейшаму нікога не бачыла, але цяпер, як заведзеная, цвердзіла:

— А я ўсё жыццё маліласа, і бог мяне пачуў... Я ўсё жыццё маліласа, і бог мяне пачуў...

Мы глядзелі на ўсё здзіўленымі вачыма.

І вогненны слуп, і крылатыя анёлы (якія так і снуюць па ім: то ўніз, то ўверх, то ўніз, то ўверх!!) кружылі галаву, забівалі дыханне, прымушалі заміраць сэрца. Ды мы з Валодзькам дзівіліся: абноўленая ікона — такая ж самая, як іншыя, няўжо і мама не бачыць?! Мо дарослым відаць тое, чаго дзеці не бачаць?!

З пугай у руках у хату ўваліўся Настусін муж — Доўгі Мікалай. Жанчыны прыцісналіся да сцен, замерлі. Прыгінаючыся, каб не чапляць столі, Мікалай азірнуўся па хаце, знайшоў вачыма жонку, ускіпеў:

— Няма табе іншай работы?!

І выцяў з усяе сілы цётку Настусю гнуткім пугаўём — раз! другі! трэці!

— Цяпер у Ліпнікі пешшу ідзі, вярціхвостка, а я — паехаў!

Калі Доўгі Мікалай выбег і не стала чуваць пад акном яго фурманкі, абураныя бабы кінуліся шкадаваць Настусю:

— Ля, як ён табе распаласаваў твар!

— Хто гэто ба-ачыў, каб так бры-ыдзіцца пры народзе!

— Шрам так і выступіў!

Мама суседку не любіла, але тут і яна нахілілася над Настусяй, пашкадавала яе:

— Бо-ожа, ну і мужык у цябе, Настуся, ці ж так мо-ожно!.. Я і дня не жыла б з такім!..

Хтосьці сунуў канец хусткі ў Кавальцова вядро і прыклаў да шчакі жанчыны. Настуся не плакала і не скардзілася. Была шчаслівая тым, як з ёю муж абы-

ходзіўся, выстаўляла свой крывавы шрам, яшчэ і ўсміхалася.

— Дурна-ая будзеш, Настуся, калі цяпер пабяжыш за ім. Няхай адзін у лесе пуп сабе надрывае, тады ведацьме! — раілі жанчыны.

— О-о, я свайго правучыла б ху-утко. Убачыў бы ён мяне ў Ліпніках пасля гэтага, рыхтык!..

Настуся іх не слухала. Яна папраўіла хустку, ускочыла з лавы і з паказной ахвотай пабегла за мужам.

Доўгі Мікалай сапсаваў усім песню. Разгубленыя бабы паўздыхалі яшчэ некалькі хвілін ды паразыходзіліся па хатах.

## 3

Болей пра абноўленую мацер божую ў Страшаве ніхто не гаварыў. Затое слава аб ёй пакацілася па суседніх вёсках.

Назаўтра з Меляшкоў, Грыбаўцоў, Вейкаў ішлі і ехалі людзі паглядзець на цуд. У Кавальцоў кампаніі нам не было, малых цяпер туды не пускалі. Мы тырчалі то на падворку, то на бруку і з вялікай цікавасцю спатыкалі і праводзілі кожнага госця.

Ашалеў Рыгораў Бобік. У вёску прыслалі двух паліцыянтаў пастраляць сабак. Паліцыянтам таксама захацелася паглядзець на цуд. Падыходзячы да Кавальцовай хаты, яны нават пазнімалі свае круглыя шапкі з сярэбранымі нумарамі.

У Кавальцоў паліцыянты забавіліся нядоўга. Выйшаўшы, зноў надзелі шапкі, і я чуў, як адзін кінуў па-польску:

— Яка цемнота!

Сябар пакруціў галавой і ўздыхнуў.

І вось тут Валодзька, што бегаў дамоў па хлеб, падляцеў да нас:

— Хутчэй, і ў Настусі абнавілася!

Мы надта любілі справядлівасць. Страшава было намі падзелена на дзве палавіны. Калі адны з нас хваліся, што найлепшыя коні ў іхнім канцы, другія зараз жа знаходзілі не горшых і ў сваім канцы вёскі.

— Ура! — і мы будзем мець сваю абноўленую ікону.

Ад Кавальца нас нібы ветрам панесла.

Прыбеглі мы да Настусі ў хату. У паўзмроку нашая равесніца Вера калыхала сястру і насцярожана зыркала ў покуць. Там кленчыла яе бабка — маці Доўгага Мікалая. Таго, што старая нас не праганяла, не заўважала, малілася сярод белага дня ў будзень, было дастаткова.

Як апантаныя паляцелі мы па вёсцы і закрычалі з хаты ў хату:

— Цётку, і ў Настусі абнавіласа!

— Хутчэй, дзядзьку, ідзіце да Доўгаго Мікалая, і ў яго ікона ўжо пачала свяціцца!

Цэлы дзень Мікалаева маці ў покуце біла паклоны, а мы — разносілі навіну. На дзіва, да Настусі не пайшоў ні адзін чалавек.

— Старая знарок пусціла пагаласку! — гаварыла мама за вячэрай, хочучы зацікавіць бацьку.

А ён якраз правёў цэлы тыдзень у Варшаве — судзіўся за зямлю — і цяпер наводзіў парадак у гаспадарцы. Выслухаўшы маці, ён адно на хвіліну ўзняў галаву над міскай і буркнуў:

— Што ж, захацелася і ёй славы!.. Каб Мікалай быў разумнейшы, то ўчора панадаваў бы вам усім!..

Я шкадаваў Верыну бабку, высокую, касцістую, насатую, з маршчынамі і чорнымі вусамі — сапраўдная ведзьма. Яе мне было шкада, як Бабу Ягу, якую Ясь пад канец казкі ўкінуў у кацёл з варам.

Бацька еў, а маці гаварыла і гаварыла пра старую — як яна за ўсімі шпіёніць, падглядвае, які ў яе дрэнны характар.

Між іншым, бацька наш знахарак не прызнаваў, але мама вадзіла да старой лячыць Валодзьку, насіла рэшата жыта. Старая сеяла над братам попел, перацягвала праз хамут...

«Здагадаецца тата ці не? Калі даведаецца пра жыта, пабяжыць да старой. За яе заступіцца сын! Мужчыны пачнуць біцца! Цікава, здужае наш бацька Доўгага Мікалая ці не? Пэўна, зду-ужае!..»

## 4

У Беластоку жыла наша сваячка Ганулля. Яна Настусі даводзілася стрыечнай сястрой. Чаму ж тады мы з Настусяй не лічымся сваякамі?

Чаму пра суседку ў нас заведзена было гаварыць або кепскае, або не гаварыць зусім нічога?

Зразумеў я ўсё потым, ужо дарослы.

Гэта пачалося яшчэ перад імперыялістычнай вайной. К таму часу бацька стаў кавалерам, паспела і дзеўка Настуся. Мяркуючы па тым, якое яна насіла імя (не Настуля, не Анастася, Настася, а — Настуся), у дзяцінстве бацькі песцілі яе, любілі. І выгадавалі — дужую, рухавую, галасістую і вясёлую.

Аднойчы хлопцы, сярод якіх быў і мой бацька, упіхнулі дзяўчыну ў гумно, завязалі вышэй галавы спадніцу. Жанчыны пачулі крык, папрыбягалі з поля...

Што там у гумне было, ніхто толкам не ведаў. І, калі гаварыць па-справядлівасці, Настуся найменш вінавата. На дзіва, асудзілі не буянаў, а якраз бедную дзеўку, якая бытта бы не змагла сябе зберагчы.

Жанчын злавала, што Настуся пасля таго выпадку не плакала, не апраўдвалася, а паводзіла сябе так, нібы ўсе бабскія размовы — з зайздрасці.

Праз нейкі час Настуся паехала ў Беласток служыць да паноў, дрэнная слава пра яе разраслася. У горадзе бытта бы да яе на ноч прыходзілі салдаты і плацілі грошы.

Мінуў год-другі.

Нечакана Настуся вярнулася ў вёску назаўсёды ды прывезла з сабой беластачаніна. І такога, што ўсе ахнулі: чарнявага, белазубага, высачэзнага, прыгожага.

На вяскоўцаў прымак глядзеў звысоку, нібы каланіст на тубыльцаў. Але і страшаўцы яму адплацілі. Празвалі — Доўгім.

Доўгі Мікалай падпёр з усходу дручкамі хаціну, якую заходнія вятры моцна нахілілі, і больш не ўбіў нікуды і цвіка. Якімі пакінуў пасля сябе Настусін бацька гумно і хлеў, так яны і засталіся стаяць.

## 5

За Настусяй у адной хаце жылі браты Грушэўскія: Марцін і Салвесь.

Калісьці наляцела на вёску бура, паваліла гумны, пазрывала стрэхі, павыварочвала з карэннямі дрэвы.

Віхор падняў малога Салвеся і занёс за вярсту ў поле. Дзіця знайшлі потым, калі яно, выплакаўшыся, спала ў баразне. На малым не было і драпінкі, але з той пары Салвесь пачаў заікацца. Бацькі надта шкадавалі сына, дрыжалі над ім, і ён вырас да смешнага чуллівы.

За нашымі агародамі чарнелі яміны, дзе мачылі каноплі. Летам тут вадзіліся жабы. Калі вада ўямінах высыхала, Салвесь збіраў малых дзяцей і насіў з імі ў ямы ваду з калодзежа, пакуль з малых апалонікаў не выраслі жабы і не распаўзаліся па балоце.

Ваду насілі каля Настусіных вокнаў. Убачыў нас Доўгі Мікалай, давай дзівіцца:

— О, дурны заіка дае жабам цыцкі!

Пакрыўджаны дзядзька як вёў за руку сваю маленькую Нінку, так і павёў яе далей. Адно сагнуўся, нібы яго ўдарылі ззаду. І ў гэты дзень да нас не прамовіў ні слова.

Неяк зімой дзядзька Салвесь саматугам валок Рыжаму Ігнату санкі. Мама несла ад Грушэўскіх вуголле ў збанку, і ёй захацелася падурэць. Яна ўпала ў палукашак, закрычала:

— Но-о, Салвеську, вязі-і!

Дзядзька гульню падхапіў, крутануў аглоблі — і палукашак перакуліўся. Доўгі Мікалай схапіў збанок, высыпаў вуголле на салому, зарагатаў. Мама з Салвесем кінуліся завальваць палукашак снегам.

Калі чалавек арэ, сее ці ўкопвае слуп, не будзеш сунуцца каля яго моўчкі, нібы свіння. Доўгі Мікалай паслаў бы таго к чорту, хто сказаў бы яму «памагай бог!».

Для Доўгага Мікалая не было ніякіх аўтарытэтаў.

Дзядзька Аляксей — былы прыказчык — з Масквы прыслаў нам чырвонцы і пісьмо. Прачытаў бацька яго і зазлаваў. Выяўляецца, Аляксей — «нэпман», кепскі чалавек.

Бацька адказаў брату на чыстай старонцы пісьма і чырвонцы адаслаў назад. Яго на вёсцы сталі паважаць яшчэ больш. Адзін Доўгі Мікалай смяяўся, што Сцяпан дурны — адмовіўся ад грошай.

Ад Доўгага наш бацька меў нямала клопатаў.

Ноччу мужчыны вартавалі вёску. З вечара да раніцы адзін чалавек у кажусе тэпаў сабе па бруку і са-

чыў, каб не было пажару, не швэндаліся чужыя. Раніцой вартаўнік «шыльду» дзяжурнага заносіў суседу пад акно: «Сёння, браце, на варту табе».

Калі пад сваім акном бацька бачыў знаёмую дошчачку, то бег да Грушэўскіх на разведку, бо Доўгі Мікалай часта яго абдурваў: Мікалаю раніцой «шыльду» прыносіў Салвесь ці яго брат, а хітранькі Доўгі дошчачку адразу ж сплаўляў нам...

Доўгі, казалі, з Лукашовым Іванам у Беластоку лазілі па кішэнях. Івана пасадзілі ў турму, а ён неяк выкруціўся. Свае замашкі прынёс Доўгі і ў вёску.

Аднаго вечара бацька зазірнуў чагосьці ў гумно, а ля горбы сечкі — чорная постаць. Уцякаць незнаёмаму не было куды. Ён забляяў бараном, кінуўся на снапы, адтуль — да шчыта, выбіў дошку і выскачыў на двор.

На вёсцы ведалі нават, што ў суседа варыцца на абед, а не толькі пазналі б яго мяшкі. Бацька са здзіўленнем падняў з тока чужы мяшок — «Настусін, здаецца?! Але ж у Мікалая свая сячкарня?! От, халера, гультай!..»

Але часамі ў словах Верынага бацькі была жудасная логіка.

Прыглядаючыся, як мужчыны зыходзяцца да нас, каб зноў выбіраць хадатая ў Варшаву, аднойчы Мікалай мне, бытта не пра майго бацьку мова, сказаў:

— Заладзілі!.. Ну, даб'ецца свайго Сцяпан, адбярэ хутар у Ігната, тады Рыжаму судзіса?..

Мяне так уразіла справядлівасць яго слоў, што я аж пахаладзеў.

Бессардэчна абыходзіўся Доўгі Мікалай і са сваімі. Мама часамі вярталася ад калодзежа з вядром вады і аб'яўляла дома:

— Доўгі зноў таўчэ Настусю!

Мікалаевы дзеці і жонка толькі і мелі клопату — дагаджаць яму.

Уся вёска ведала, якія рукавіцы пашыла мужу Настуся, якія звязала шкарпэткі. Мікалай заязджаў на падворак, а яго Верка кідалася валачы ў сені дугу, збрую. Старая маці жыла ў халупе, бытта толькі каб сачыць за нявесткай і ўнучкамі ды паддаваць іх сыну на расправу.

Лупцоўку Настуся пераносіла з нейкім радасным

цярпеннем, пра Мікалая не давала сказаць кепскага слова. Яна з захапленнем расказвала, як яны з мужам добра жывуць.

— Бабы, а здаро-овы ён, а ду-ужы!.. Калі ноччу праз сон выцягне руку, паложыць на мяне — не паварушыцца, так і прасплю да самай раніцы!..

Апрача Веры ў Настулі былі яшчэ дзве меншыя дзяўчынкі. Але покуль Мікалай не захварэў, я ніколі не бачыў, каб ён з імі гуляў ці хоць падвёз калі малое на возе.

Чацвёртае дзіця — сын — пажыло адно пару месяцаў. Казалі, Мікалай таму так уз'еўся на жонку, бо не мог дараваць смерці сына.

Настуся мела гектар пясочку, на ім нават жыта расло слаба. Мікалай наняўся працаваць у лесніка. На карай кабылцы са збруяй, прыбранай, як на вяселле, чырвонымі стужкамі, Доўгі ездзіў кожны дзень у Ліпнікі на леснікова поле. Як мірыліся з леснікам, як разлічваліся, мала каго ў вёсцы цікавіла.

Мае бацькі да Настусінай сям'і адносіліся незычліва. Мама не магла дараваць бацьку грэх, і гнеў свой пераносіла на Настусю. А бацька цярпець не мог такіх людзей, як Доўгі.

## 6

Я і не заўважыў, хто ўбіў мне ў галаву, што кожны страшавец — «мужык». Ён цяжка працуе, рыхтуе мяса, малако, масла, а сам гэтага не есць. У гарадах жывуць паны, яны толькі балююць ды жаруць тое, што нарыхтуе ці выгадуе мужык. Страшаўцам вельмі крыўдна. Мне, сыну мужыка Сцяпана, рабілася крыўдна таксама.

— Ух, паны, свалата, толькі пачакайце, няхай адно вырасцем з Валодзькам!..

Прытаіўшыся ля камення пад плотам, мы з братам слухалі, як людзі чыталі з «Маланкі»:

«Век дваццаты — век харошы, абы грошы, толькі б грошы!.. От бы мець іх хоць з паўпуда, ну й зрабіў бы ж тады цуды! Накупіў бы рыбы, мяса, кіло кракаўскай каўбасы, хлеба белага з паўторбы і, дальбог, адзін упёр бы!.. Дзе ўзяць грошай, вось пытанне. Ад світання да змяркання льецца пот, працуй, цягайся,

за ўсё бульбай аддувайся! Бульба парана, пячона, бульба сёння, бульба ўчора, мой трыбух стаў як калода, дый без бульбы ж няма ходу!.. Век дваццаты — век харошы, абы грошы, толькі грошы!» *

Якраз у тыя гады, калі ў малога глыбока ўкараняецца сэнс і значэнне новага слова, суседчын сын, Сахарышын Юлік, мне растлумачыў: мы не толькі «мужыцкія» дзеці, а яшчэ і беларусы. Нас, беларусаў, вельмі многа, палова з іх жыве ў Саветах, там ім вельмі добра, а мы ў Польшчы мэнчымся. Ды галоўны польскі начальнік Пілсудскі — наш закляты вораг.

Фатаграфіі Пілсудскага з даўжэзнымі вусамі і страшэннымі брывамі былі ва ўсіх газетах. Гэта яму на баляванне і курорты мужыкі прадаюць усё да кроплі малако, масла, свіней і плацяць падаткі. Гэта яго легіянеры нас адарвалі ад Саветаў. Яго паліцыянты страляюць сабак і наводзяць жах. Ён паслаў і жулікаў пабіць нашага пасла Валошына.

Сказаў Юлік слова — бы нешта ва мне запаліў.

Я не проста Алёшка, мужыка Сцяпана сын, а яшчэ і беларус, чаго ніхто ўжо не адменіць. Нават ні сам Пілсудскі, ні яго паліцыянты.

А галоўныя беларусы нікога не баяцца. Нашы паслы Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі, Мятла, Дварчанін паехалі аж у Варшаву і кінулі акрываўленую кашулю Валошына гэтаму Пілсудскаму пад нос: на, паглядзі і панюхай сваю работу!

От бы стаць такім адважным!

Што такое пасол, вядома, я не разумеў. Але па тым, як пра іх гаварылі, як вымаўлялі незнаёмае слова, сугучнае з услонам, паслоў я ўяўляў сабе магутнымі, дужымі волатамі.

Найболей запомніўся Валошын. Можа, таму, што прозвішча яго было мяккае, свойскае — нібы ў жытах валошка. Абвязаны бінтамі твар абышоў усе газеты, выклікаў спачуванне.

У Страшаве стварыўся гурток «Грамада» **. З уздымам мужчыны зацягвалі па вечарах:

---

* Верш Міхася Васілька.

** Беларуская сялянска-работніцкая Грамада. Прагрэсіўная арганізацыя ў Заходняй Беларусі ў 1925—1927 гг. карысталася вялізным аўтарытэтам, налічвала каля 100 000 чалавек.

Ад веку мы спалі, і нас разбудзілі,
Сказалі, што трэба рабіць,
Што трэба свабоды, зямлі чалавеку,
Што трэба буржуяў пабіць!..

Уздым перадаваўся і мне. У час спеву я бачыў сябе на полі сярод узбуджанага такога дужага і магутнага натоўпу, што не Пілсудскаму заводзіцца з намі.

Доўгі Мікалай прыглядаўся да «Маланкі», прыслухоўваўся да спеваў і смяяўся з мужчын:

— Знайшлі сабе гульню і гуляюць, бы дзеці. Бапты-ысты!

## 7

Адміністрацыйную ўладу над вёскамі мелі гміны *. У гміне памяшчаліся войт, паліцыянты, была халодная.

Бліжэйшая гміна ад нас знаходзілася ў Гарадку, але мы належалі да Ялоўскай, а да яе ад нашай вёскі кіламетраў з дваццаць.

Наша вёска давала ўраду нямала клопатаў.

Апрыкрала ялоўскім паліцыянтам ездзіць далёка, і яны з войтам адправіліся ў Страшава далучаць вёску да Гарадка. Склікалі сход.

— Што вам Ялоўка? — ганіў сваю мясціну войт.— Глухая вёсачка без мінулага і будучага, а Гарадок — каля станцыі, старажытны, яму ўжо тысяча год!

Потым ляснік таксама стаў даводзіць, што Гарадок бліжэй.

Страшаўцы адно слухалі прамоўцу, ківалі галовамі, уздыхалі.

Лесніка падтрымаў Доўгі Мікалай:

— Пакуль да Ялоўкі даедзеш, з Гарадка ўжо вернешся і забудзеш, а вы, цемната, яшчэ ўпіраецеса!

— Ве-едам, што блізка!

— Блізка — аж занадта!

— То-то і яно!..

Калі дайшло да галасавання, мужчыны дружна паднялі рукі супроць. За прапанову войта быў толькі Доўгі з леснікам.

---

* Воласць.

— Няхай ужэ нам, цёмным, гміна будзе ў глухой вёсачцы, куды нам да Гарадка,— пакпіў Марцін Грушэўскі.

— Дажыве-ем і гэ-этак...

Доўгі павёў раззлаваных гасцей да сябе. Яны ў Настусі цэлую ноч пілі.

Назаўтра сабраліся ў нашай хаце мужчыны абмяркоўваць сход.

Добра, што ўчора не паддаліся. Адно пачні выконваць панскія загады — ногі выцягнеш.

Май пабелены комін, плот. А навошта? Каб лашчыла вока пану, як будзе праязджаць у брычцы? Табе так хочацца — сам і бялі!

Каля студні зямлю выкладзі брукам, каб свінні ў лужыне не купаліся. І чаго ты, пане, брыдзішся? Нябось, сала ці кумпяк жэрці любіш! А зімой куды брук дзяваць — бабы ногі паломяць на абледзянелым каменні, калі пойдуць па ваду.

Не будзе сабака на прывязі — штраф. Ці ты таго сабаку заўсёды ўтрымаеш на прывязі?

Да воза чапляй бляшаную шыльдачку з адрасам. Яна мусіць быць без плямкі, з аднолькавымі памерамі літар. Каб набыць такую шыльдачку, цэлую курыцу трэба прадаць. На якую халеру селяніну гэтая шыльдачка — гной вазіць на поле? Калі ён раз у месяц прыедзе на кірмаш, а ты захочаш ведаць яго прозвішча — у цябе ж язык у роце!

Махорка дарагая. За пасаджанае каліва тытуню дваццаць пяць злотых штрафу. З якой рацыі! Каб нажыліся на ёй фабрыканты?..

Найгорш з падаткамі. Не заплаціш — прыедзе секвестратар і забярэ, што знойдзе: карову, швейную машыну, сувой палатна, што баба выткала на кашулі, мяшок зерня... Пабыць ва ўсіх, хто не плаціць, ён не можа. Секвестратараў пасылаюць толькі для страху, Далёка ад гміны ехаць яны лянуюцца.

Бялевічы належаць да Гарадоцкай гміны: ім, бедным, ні днём, ні ноччу няма спакою. У іх і падаткі заплачаны, і шарварак * выкананы, і пабелена ўсё...

Рыгарулька яшчэ ні разу не ўнёс падатку. Іншыя страшаўцы па некалькі гадоў не выходзілі на шарва-

* Дарожная павіннасць.

рак. У нас і тытунь у капусце расце, а — жывём. А там, глядзі, і перамена якая-небудзь прыйдзе.

— Добра зрабілі, што не паслухалі! — са здавальненнем і пашанай да сябе сказалі мужчыны.

Успомнілі і Доўгага Мікалая.

— Ліха яго ведае, ці ён знарок, ці не разумее? — дзівіўся бацька.— Столькі ўжо ў Страшаве — пара б і навучыцца!

Наш ляснік калісьці быў легіянерам, яго паны прыслалі з-пад Варшавы, каб сачыў за вёскай. Усе яго баяліся і ненавідзелі.

— Гэ, Сцяпан, разумее ён не горш за цябе! — азваўся Марцін Грушэўскі.— Толькі што за карысць яму ісці з табой?! Нябось ведаў з кім знюхацца — з легіянерам!

— Яму напляваць на тое, чаго людзі дамагаюцца! — уздыхнуў ужо бацька.— Ы-ых, без карысці чалавек жыве, цьфу!

— Горшы за лесніка! — падхапілі мужчыны.

— Той ідзе адкрыта. А гэты — нібы свой, здаецца, і з бедных, а — бачыш!

— Калі такі прадасца — бяда!

— Гарадскі фраер!

Настусінага мужа цярпелі як непаразуменне, як нешта чужое.

Мяне Доўгі Мікалай уражваў сілай — ішоў насуперак вёскі, быў з паліцыянтамі, Пілсудскім. Яго лаялі, не любілі, а Доўгі — хоць бы што.

І вось гэтаму дужаму ў маім уяўленні чалавеку выпала ўразіць мяне неўзабаве бядой, трагедыяй зменлівасці, няўстоўлівасці чалавечага жыцця.

## 8

Пра ўсё карцела ведаць. Бацька дома бываў рэдка, і мы прыставалі да мамы:

— А што на небе?

— А як рыбы спяць?

— А чаму сонцо раніцой жоўтае, вялікае, а днём — белае і малое? І як гэта брычка Шастаковіча едзе ўперад, калі колы яе круцяцца назад?

— А ці праўда: капай і капай зямлю — дакапаешса да Амерыкі?

Яна не ўмела адказаць і часам злавала.

Каб не заміналі ў рабоце, пачала пасылаць нас да сваёй мамы, у вёску Бялевічы. Ішлі мы туды ахвотна.

Наша бабка, удава Дудзічыха, мела яшчэ трох сыноў і дачку: жанатага Мікалая, кавалераў Івана і Валодзьку ды дзеўку Вольгу. Зямлі ў іх было мала, жылі бедна, але дружна. Гаспадарку абрабляў Мікалай з жонкай. Валодзька хадзіў некуды на сталярку, Вольга — на заробкі то ў лес, то да суседзяў, а Іван дома вучыў... англійскую мову.

Іван намерваўся ехаць у Амерыку, каб адтуль уцячы ў Савецкі Саюз.

Каб выехаць за акіян, патрэбны загранічны пашпарт, а яго, вядома, паліцыя дзядзьку не дала б — Іван не прайшоў яшчэ службы ў войску. Ды існавала магутная трансакіянская фірма «Рэд стар лайн» — мацнейшая за паліцыю і некаторыя ўрады. Абы грошы. За тое, што чалавек купіць у фірмы білет на карабель, яе агент дабудзе табе любы дакумент.

Уся сям'я зарабляла грошы Івану на дарогу.

Хоць баба нас занадта перасцерагала — моцна не дзьмі, а то будзе расшырэнне лёгкіх; не скачы, бо расцягнеш жылы на нагах; не наядайся вельмі, а то будзе расцяжэнне жывата, калі прышывала на мне гузік, давала ў зубы трымаць клубок, каб не «прышыць» памяць,— аднак яна была добрая і многа цікавага ведала. Пра ведзьмаў, «цацалістаў», Расею...

Гэта баба расказала, што ў цэнтры Беластока зусім няма платоў. Мы з Валодзькам дзівіліся і спачувалі беластаччанам: як жа яны, бедныя, без платоў там жывуць?!

Яшчэ яна апавядала, як некалі памешчыкі прадавалі людзей, а аконам збіў яе дзеда, бо той не хацеў ажаніцца з дзеўкаю, якую пан яму вызначыў. Эх, каб тады жылі мы з Валодзькам — ну і паказалі б крывасмокам!

Бабцы трэба было на ўсю сям'ю наварыць, наткаць, усіх абшыць. Ёй часта таксама было не да нас, яна давала ўнукам свабоду. Нават аднойчы адправіла далёка ад дому.

У дзядзькоў была сучка — старая, глухая і ад слёз нічога не бачыла. Цяпер ля буды сядзеў сын яе, якога дзядзька Іван назваў Брытанам.

Бабка загадала нам суку завесці да сабакара, прадаць і купіць сабе што-небудзь.

Сабакар жыў за Гарадком, пад Валілямі. Мы валаклі суку на вяроўцы паўдня і меркавалі, што купім, калі разбагацеем.

Нарэшце, наводшыбе, убачылі хаціну. Мы адчулі раптам подласць, якую задумалі зрабіць. Але было позна. Выйшаў сабакар, прывязаў суку да плота, паклікаў нас у хату. Узяў з падаконніка скрыначку з ніткамі і гузікамі, выграб мядзяк, падаў.

Нейкі час брылі мы праз пясчаны ўзгорак у Бялявічы. Замучаны Валодзька хліпаў. Я быў расчараваны.

Вось тут неба сыходзілася з гарой, калі глядзець з нашага падворка. Мне ўсё карцела дабрацца сюды, прасунуць галаву праз хмары і паглядзець, а што ж там вышэй?.. Цяпер яно тут было гэтаксама недасяжна высока, затое хмары ледзь не craналі хутароў у у Страшаве, Бялявічах. Выходзіць, усё мана?

Успомніў я пра грошы і павёў Валодзьку ў краму Брохі па цукеркі. Старая яўрэйка накінулася на мяне:

— Ты — Сцяпанаў сы-ын?! Мой унучак?.. Гэткі ўжо вялікі?! Уй, пакажыся!.. Ой-вэй, які кірпаты — як бацька!.. Голда, Рыва, комт а гэр!..

Я вырваўся з яе халодных рук і павалок Валодзьку на двор.

Апынуліся мы за мястэчкам. Брат расплакаўся зноў: шкадаваў сучку. Ды лёс злітасціўся над намі.

Ля бабінай хаты дагнала нас Брытанава маці з вяроўкай на шыі. Мы кінуліся яе абдымаць.

Потым дзядзька Мікалай паехаў да млына ў Гарадок, сука ўвязалася за возам. Пакуль ён малоў, яна збегла ў лапухі і прывяла там шчанят. Дзядзька пра гэта не ведаў: паклікаў яе, паклікаў і вярнуўся дамоў адзін.

Назаўтра ўстала баба раніцой, выйшла на падворак, а пад парогам — ляжыць нежывая сука, па ёй лазяць пяць сляпых шчанят. За ноч перанасіла іх на свой падворак (да Гарадка — тры кіламетры), сама ад натугі здохла.

— Ах, бо-ожа...— успляснула яна рукамі і кінулася ўсіх будзіць.— Дзеці, хутчэй уставайце, паглядзіце, паглядзіце, што здарыласо на падводку!

Павыходзілі дзядзькі, дзядзіна, цётка Вольга, мы

з Валодзькам. Пашкадавалі сучку, пастаялі над ёй.

— Ты глядзі, як любіла дзяцей! — дзівіўся вінаваты Мікалай. Яму было няёмка, што не пашукаў яе ў Гарадку.

— Ну,— згадзілася дзядзіна Зося,— з-за любові да іх і памерла.

— Я бачыла, як сука ад Лявіцкіх прывалакла дохлае парася,— падхапіла цётка Вольга.— Брытан паленаваўся нават прачнуцца. Нешта раблю сабе на падворку, а яна ўсё сядзіць ля яго буды. Зганяе з парасяці мух, цярпліва чакае і не зводзіць вачэй з сына.

— Такая ўжо наша мацярынская доля! — уздыхнула баба і пагнала дзяцей да работы: каго кароў даіць, каго араць, каго дровы сячы.— А ты, Вольга, пазбірай шчанят у прыпол і занясі ў крыніцу, няхай не мэнчацца. Амэрыканец яе пахавае...

Дзядзька Іван узяў рыдлёўку, закапаў сучку за хлявом і ўбіў асінавы колік.

— Бо сабакі — не людзі, крыжоў ім на магілу не ставяць! — растлумачыў уражаным пляменнікам.

Заехаў на падворак бацька, загадаў:

— Хлопцы, збірайцеся дамоў, мамка кліча!

Даведаўшыся, чаго мы тырчым утрох за гумном над свежым капцом, ён пакпіў з Івана:

— Каб ты скіс, швагру, няма табе чаго рабіць, як шкадаваць сабак! Вунь па турмах маладыя людзі гніюць!.. У нашага Доўгага Мікалая дактары прызналі гарлавую сухоту!..

## 9

Сухоты на вёсцы лічыліся невылечнымі: хворым куплялі лякарствы, але ў іх ніхто не верыў.

Перад Настусінай хатай тырчаў счарнелы слуп, укапаны яшчэ да першай сусветнай вайны. Цяпер ужо Мікалай з раніцы да вечара стаяў перад сваёй хатай, паклаўшы локці на гэты слуп. Жонка адзела яго ў святочнае. Як усе сухотнікі, Мікалай нічога не рабіў — выглядаў сваю смерць.

Мікалаю давялося кінуць леснікоўства, карую кабылку прадаць на дактароў і паязды. Цяпер на сям'ю зарабляла па суседзях адна цётка Настуся.

Змірылася яна — што зробіш, так бог даў. Бяду

цётка Настуся прыняла яшчэ і па-свойму: надарылася магчымасць паказаць, якая яна клапатлівая жонка.

У цёткі абудзілася новая энергія.

На ўсю вёску ў нас быў адзін багацей — Рыжы Ігнат, якому пашэнціла пры раздзеле маёнтка пана Златніцкага. Ігнат трымаў служанку, парабка. Настуся яму, а ён Настусі не падыходзілі. У Ігната трэба было забыцца на ўсё і з раніцы да вечара рабіць. Настуся ж патрабавала працы на свой характар.

Страшаўскія бабы — сардэчныя, спагадлівыя. Адразу пайшлі ў небыццё ранейшыя плёткі пра Настусю. У кожнай гаспадыні знайшоўся ёй занятак. Той трэба было перабраць мяшок бульбы, той — нацерці паўкапы льну, іншая клікала Настусю памагчы снаваць кросны...

І цётка ўсюды паспявала: заўсёды быў новы слухач і спагадлівец. Ва ўзаемных охах і ахах неўзаметку праходзіў дзень, пад вечар цётка несла дамоў кавалачак сала, кошык бульбы ці торбачку круп.

Застаючыся ў хаце, Доўгі адрабляў мінулае, гуляў з дзецьмі. Вера дома мела шмат работы (бабка некуды знікла), але сярэдняя і зусім малая дзяўчынка праводзілі час з бацькам ля слупа.

## 10

Мне ўжо было гадоў восем.

Вярнуўшыся са школы, я ўцякаў з-пад бацькоўскага вока — імчаў пад Настусіну хату. Было страшна, але цягнула да Доўгага Мікалая як магнітам. Па многіх прычынах.

Я ведаў, што гэты чалавек хутка памрэ. Хацелася зразумець жудасную таямніцу смерці.

Надта карцела папрасіць Доўгага Мікалая: «Дзядзьку, разяўце рот, пакажыце сухоту!»

Тады ў мяне ішлі ўжо звычайныя пытанні:

«Ці праўда, што ў Беластоку на адным доме надбудаваны яшчэ дамы? І што там няма платоў, свіней?.. Праўда, што горад такі вялікі, як страшаўскае поле?»

«Ці праўда, што вы ў горадзе з Лукашовым Іванам лазілі людзям у кішэні? — мяне надта цікавіў сам працэс такой «работы».— Раскажыце, дзядзьку Мікалай, як гэта залезці, каб чалавек не пачуў?!»

Мне было вельмі шкада дзядзькі Мікалая. Я адчуваў, як яму сумна, цяжка, як ён пакутуе, перажывае, і мне здавалася — сваім прыходам раблю яму палёгку.

Доўгі спатыкаў мяне ахвотна, гаварыў, як з дарослым.

Пад плотам у Грушэўскіх ляжалі гранітныя глыбы — вулічны «клуб». На каменнях сядзелі, сабраўшыся, людзі і пра што-небудзь гаварылі.

І вось мы стаім удвух каля слупа. Я не ведаў, што рабіць з рукамі, намагаўся быць сур'ёзным. Пад нагамі ў Мікалая, як пад аркай, шмыгаюць малыя. Мікалай сяды-тады мірыць дачок, выцірае ім насы і ўсё сочыць за камянямі.

І мне цікава, што там робіцца.

На граніт прысела цётка Кірыліха. У эвакуацыі Кірыліха была на Каўказе, наш Валодзька яе атакаваў:

— Цётку, а што бывае на горах?

— Цякуць рэчкі, расце лес.

— Гы!.. На баку гары лес расце?!

— Ну!

— І не зваліцца з яе?

— Не зва-аліцца, укаранеў! О-о, ліха на яго, яшчэ які лес — аж буяе, што наш лопух!

— Гы!.. А больш там што?

— Анічога!

Ад нашага Валодзькі адчапіцца не так лёгка.

— Ну, а калі перайсці лес, рэчкі, лезці і лезці на гару, то што ў ёй на самым-самым версе?

— Адны свечкі ўжо толькі гараць! — незадумваючыся, кідае цётка.

— Ы-ы-ых! — уцягвае ў сябе паветра Валодзька.— І на кожнай гары?!

— Ну. На іншай яшчэ па дзве, тры!..

Брат заклапочана ўздыхае:

— Многа свечак трэба!

— А няўжо ж, мно-ога! — ахвотна згаджаецца Кірыліха.

Доўгі Мікалай не заўважае, як яго штурхаюць малыя. Ён шукае майго позірку. Я паслужліва задзіраю, як да вежы, галаву. Мікалай з іскрынкамі ў вачах хмыкае. Падрабляюся і я пад яго — хмыкаю таксама. Мяне распірае шчасце, што адзін аднаго разумеем.

З хаты выходзіць Верка з кубкам вады, ад слупа мерае цень, дае бацьку пілюлю:

— Тату, выпіце, мама казалі, калі цень будзе тры крокі!

Доўгі Мікалай глытае лякарства і запівае вадой так хутка, што я зноў нічога ў роце не паспяваю ўгледзець, хоць і чакаў гэтай хвіліны.

Дачка адыходзіць. Ён даверліва і з гідлівасцю мне скардзіцца:

— Фу, гарката якая!.. Не даводзілася каштаваць?

— Не-а! — трасу галавой.

— Праглынеш — нібы палыну з'ясі, цьфу!.. І колькі мне яшчэ яго...

Мікалай змаўкае на паўслове, а я ківаю галавой са спачуваннем, па-мужчынску стрымана. Гэты вялізны, таямнічы і страшны чалавек становіцца мне блізкім-блізкім — як Валодзька. Аж дух забівае ад нейкага шчасця.

Зноў назіраем.

Па лісцях над намі забарабанілі кроплі. Малыя зрываюцца з камянёў, узрадавана крычаць:

— Дождж! Дождж!..

Мікалай выцягвае руку, ловіць кроплю і таксама нібы дзівіцца, нібы пытаецца:

— Гэ, падае?!

Я з апошняй сілы стрымліваю сябе, каб не сарвацца з месца і не памчаць як апантанаму разам з Валодзькам насустрач хмарам і дажджу.

## 11

Калі Доўгі Мікалай захварэў і пачаў выходзіць да слупа, мужчыны на камянях пачалі збірацца як бы часцей.

Бацька абвясціў навіну:

— Лукашоў Іван, кажуць, дабіраўся да золата ў Супрасльскім манастыры. Ужо выдраў іканастас, але манахі пачулі.

— От, зараза, і ведаў куды дабірацца, скажы ты!..

— І нічога не баіцца!

— Стары Лукаш ляжыць пры смерці, нават вады няма каму падаць, а сын, глядзі,— усё сваё!

Лукашоў Іван сябраваў з Доўгім. Усім было вельмі

цікава пагаварыць пра багацце манастыра, але з-за Мікалая загаварылі пра другое.

Вярнуўся стары Кот з млына і прывёз навіну:

— Аптэкар зноў ездзіў у Беласток сала зразаць з жывата!

З аптэкаравай дачкой я хадзіў у школу. Маленькая шустрая Фаня была вельмі сяброўскай. Бацька яе цярпеў на сэрца, не раз бываў пры смерці, але ў Страшаве гэта тлумачылі па-свойму: калі чалавек тлусты, значыць — пан. Па таўшчыні пана вызначалі, колькі ён выпіў народнае крыві.

— Ну. У яго трыбух ужо быў у тры полкі! — падтрымаў бацька Ката, і ўсе дружна загаварылі:

— От крывасмокі! У цябе кішкі ад работы і пустой бульбы да крыжа папрысыхалі, а яны ўсё тлусцеюць!..

— На нашым поце і крыві!

— Калі на іх згіненне прыйдзе!

— Прыязджаў сёння войт і напаў на Рыгора, што ў яго ёсць зямля, дзве рукі, а падатку не плаціць. Рыгарулька слухаў, слухаў і кажа: «Пано-очку, бярыце мае абедзве рукі, зямлю і рабіце з імі што сабе хочаце!»

Мужчыны засмяяліся.

— Саветы, нарэшце, разбілі кітайцаў на Далёкім Усходзе! — паведаміў Сахарышын Юлік.

Зыркнуўшы на Доўгага Мікалая, пераканаўшыся, што слухае, Марцін паставіў кропку.

— Цяпер яны і ўнукам закажуць не зачапляцца з рускімі!

Нагаварыўшыся пра тое, як буржуі баяцца бальшавіцкага духу, пачалі ўспамінаць хто пра што.

— І это, і это, стаялі мы тады пад Пярэмышлем,— успамінаў Салвесь.— І-і пы-перад наступленнем пасадзілі мяне да палявога апарата. Сы-сяджу. Ды-дзяжуру. І это, звоніць тэлефон: «Пы-перадай камандзіру, што ў Петраградзе — абдыкацыя цара Мікалая!» От, думаю сабе, мо так называецца баль, бяссонніца ці панос у цароў?! І это, зайшоў камандзір. Я: ваша благароддзя, так і так! Афіцэр мой збялеў што палатно. «Маўчы», — загадаў. Чы-чорт зы табой, па-памаўчу. А яны, сы-волачы, каб не сарваць наступленне раніцой, утаілі перад палком. Сколькі паспелі загубіць яшчэ народу зра! Даведаліса нашы толькі ад палон-

ных немцаў, што людзі цара скінулі. Мы-мне, халера, было першаму вядома, але я, і это, дурань яловы, маўчаў!

Дзядзька добра ведаў — яго пярэмышальскую гісторыю людзі чулі сто разоў. Ён яшчэ ведаў — пакуль яго, заіку, даслухаеш, у цябе на лобе выступіць салёны пот. Гісторыю дзядзька апавядаў сто першы раз знарок. Няхай Доўгі Мікалаў ведае, што ён, Салвесь, не ўсё жыццё насіў з малымі ваду на балота жабам, хаваў з дзецьмі дохлых вераб'ёў і ластавак, што і ад яго, заікі, нешта залежала, нават — лёс цэлага палка.

Слухачы ўсё разумелі і яго нават падтрымлівалі — накіравалі гутарку пытаннем:

— Выходзіць, немцы ведалі лепш, што робіцца ў Расеі?

— Усё-о ведалі! — запэўніў падбадзёраны Салвесь і не прамінуў даць зразумець Доўгаму Мікалаю яшчэ і пра тое, што ён бываў не толькі ў Беластоку: — І это, у немца, халера на яго, не толькі ў гэтым парадак! І это, калі мы з войскам увайшлі ў Прусію, на ўласныя вочы бачыў, у іх ля кожнай хаты — свой нужнік!

Ігра мужчын захапіла і мяне. З гонарам за дзядзьку Салвеся я адчуў (а мо мне толькі так здавалася?), што апошні аргумент прымушае Доўгага Мікалая скарыцца.

Памалу людзі загаварылі пра лясы, звяроў.

Страшаўскі лес на поўдні пераходзіў у Белавежскую пушчу. Многія пакаленні страшаўцаў лес карміў, адзяваў і абуваў, а ўсё іхняе жыццё праходзіла на дзялянках, ля смалярань і каля сажняў дроў.

— Карчавалі аднаго разу пні для смалярні,— правіў ужо дзед Кавалец,— жылі ў шалашы, ежу варылі самі, ваду насілі з крыніцы. Дзе тая крыніца, ведаў толькі адзін я. Бывала, прыйдзем з работы, усё разбаліцца, камары пякуць, хоць ты гвалт крычы. Мае сябры пасядуць сабе ля вогнішча і чысцяць бульбу, а мне — цягніса па ваду. Павячэраем, яны палягуць на саломе, а мне зноў смалі да крыніцы — трэба ж мыць посуд! «Хлопцы, хадзем са мной, будзеце ведаць, дзе вада!» Не ідуць. Хітранькія, бачыш. Ладна, буду і я такі. Скончылі працаваць, узяў чайнік, прывалокся да крыніцы, давай крычаць: «А-ей, рату-уйце!» Пастаю, паслухаю ды зноў: «А-ей, ратуйце!» Праз мінут пяць,

чую, мае хлопцы ламацяць праз гушчар. «Што з табой?» — пытаюцца, здышаныя, а ў руках — сякеры. «Во крыніцы, бачыце?» — і паваліўся на мох, рагочучы.

Мікалаю надта хацелася да людзей (ці мне толькі так здаецца?), якіх ён лічыў за нішто, рабіў ім шкоду. І бачыў я (мо мне так хацелася бачыць?), што Верын бацька перажывае, пакутуе, а я не магу яму памагчы.

## 12

Памёр Доўгі Мікалай нечакана.

Вярнуўся я са школы, і мама загадала гнаць кароў на пашу.

Перакусіўшы на хаду, паляцеў я да Марцінавага Сашкі дамаўляцца гнаць быдла ў зуброўскі хвойнік. Хвойнік быў перапаласаваны старымі акопамі з першай сусветнай вайны. Калі пагрэбацца ў іх, можна знайсці рускія і нямецкія патроны і нават гранаты. А мінулы раз там знайшлі мы нямецкі браўнінг. І самы сапраўдны.

Ля Настусінай хаты чамусьці сабралася шмат прыціхлых баб. Праз акенца кінулася мне ў вочы галава Мікалая — ён ляжаў на лаве і чамусьці з падвязаным падбародкам, нібы яму разбалеліся зубы.

Адчыніў да Грушэўскіх дзверы.

На кухні — падлога выслана свежымі стружкамі. У горбе жоўтых ланцужкоў купалася Салвесева Нінка. Яе маці з Марцінавай жонкай у бакоўцы плялі вянок з кветак. Надта сур'ёзны Сашка сядзеў на парозе і паспешліва падчышчаў міску.

Яшчэ ў хаце былі ссунуты абедзве лавы, Марцін трымаў дошку за канец, а Салвесь шоргаў па ёй гэблікам і плакаў. Мяне мужчыны не заўважалі.

— Доўгаму Мікалаю труну робяць! — шапнуў Сашка.

## *РАЗДЗЕЛ ДРУГІ*

### 1

Дагэтуль беды здараліся з другімі. У дзесяцігадовым узросце кранулі і мяне. Я, наіўны, думаў, што найбольшая трагедыя — смерць блізкіх і знаёмых. Зусім не так.

Атрымаўшы за нешта ад бацькі лупцоўку, я, пакрыўджаны, уцёк з хаты і забраўся да суседа-халасцяка — Івана Антончыка.

Зайшоў да Івана хлапец і прынёс навіну — падпольшчыкі атрымалі інструкцыю, каб ачысціць рады партыі і камсамола ад кулакоў. А вызначаць іх проста — па колькасці зямлі.

Хтосьці абрадавана заўважыў — найбольш зямлі мае сам сакратар партячэйкі. Я не ведаў, што ў бацькі былі ворагі, яны сталі злараднічаць.

— Ага, дастукаўся Сцяпан!

— Арганізаваў ячэйку, а яна яго самога выжане з партыі, гэ-гэ-гэ!..

— Так яму і трэба, надта разумны!..

Вярнуўся я дамоў, а бацька ўсыпаў дзягі яшчэ і за тое, што недзе лётаю, не вучу ўрокаў.

Раптам я адчуў сябе Паўлікам Марозавым і ўжо не заплакаў, а кінуў помсліва:

— Ага, а цябе з партыі выключаць!

— Як? За што?

— Бо ты — кулак!

Мабыць, наймацней пакрыўдзіць бацькоў могуць толькі дзеці.

Я раптам убачыў, як бацька мяняецца з твару. Ён паглядзеў на мяне так, што ад жаласці ледзь не разарвалася маё сэрца.

— То што ты ведаеш, што? Кажы...— прамовіў бацька змененым голасам і нешта з цяжкасцю праглынуў.

Я стаяў з апушчанай галавой.

— Гавары ўжо, калі пачаў! — насцярожылася і маці, спыняючы калаўротак.

Я ўсё расказаў і расплакаўся. Але слова не вернеш.

Ішоў мне дзесяты год. У школу мы з Валодзькам хадзілі ў Гарадок.

Аднаго разу валокся я з кніжкамі. Са мной крочыла Ніна — унучка Рыжага Ігната, найбагацейшага страшаўца. Часу па дарозе хапала. Уяўленне і фантазія ў мяне былі. Перад Нінай я выхваляўся, выстаўляў сябе героем.

Якраз ноччу падпольшчыкі спалілі гумно бялявіцкаму Ёзіку Госціку, бо ён купляў з распрадажы мужыцкія рэчы, забраныя за падаткі. Ля спаленага гумна на вярбе мы ўбачылі чырвонае палотнішча з лозунгам «ТАК БУДЗЕ ЎСІМ ХРЫСТАПРАДАЎЦАМ!».

Калі прайшлі паўдарогі, нас спыніў доўгі, як п'яўка, у сінім мундзіры паліцыянт з Гарадка, Лукашэвіч. Ніна ішла паперадзе. Ён спыніў веласіпед і спытаўся ў яе, ці не бачыла яна дзе чырвонага палотнішча.

— Не бачыла!

Тады паліцыянт пад'ехаў да мяне і паўтарыў пытанне.

На хвіліну я забыўся, што перада мной вораг. Яго ўладарны позірк старэйшага чалавека нібы загіпнатызаваў мяне.

З жахам я пачуў свой голас:

— Вунь, на крывой вярбе!

Ніякага значэння маё прызнанне не мела, паліцыянт праз мінуту заўважыў бы і сам палотнішча, бо ехаў яго здымаць. Але для мяне тут справа была прынцыповая.

Здарылася — і не вернеш. Ніяк!

## 2

У той самы дзень выкінуў я такое і ў школе.

У аднаго вучня нашай школы, Дыгендышавага сына, вока сядзела ледзь не пасярод ілба, і страшна было глядзець на хлопчыка. У першым і другім класе наша настаўніца, прывабная варшавянка пані Стражынская, апрача клопату, каб мы добра вучыліся, былі ўсе роўныя, хадзілі пастрыжаныя і памытыя,— мела яшчэ клопат бараніць хлопчыка ад здзекаў.

Бараніла, пакуль ён усіх нас не ўразіў лютасцю. За доктаравай дачкой Соняй Цукерман увязаўся белы коцік. Соня ніяк не магла яго адагнаць. У перапынак выбеглі мы на падворак, а коцік вісіць на плоце на вяровачцы.

— Гэта ён зрабіў! — першакласнікі паказалі на касавокага.

— Ы-ых, Цыклоп! — з нянавісцю назваў яго так нехта ўпершыню..

Саша Шусцік з нашага класа аж падскочыў ад радасці:

— Дай мне! Дай мне! — схапіў ён нежывога ката і пагнаўся за дзяўчатамі.

Раней Сашка ўстройваў цэлыя спектаклі над Дыгендышыным сынам. Цяпер Цыклоп як бы здаў Шусціку экзамен і стаў яго правай рукой.

Калі ўваходзіць у Гарадок са Страшава, направа відаць мураванка. Вакол будыніны — ні кусціка, ні штыкеціны, ні агародчыка. Там жыла мнагадзетная ўдава з брыдкім прозвішчам. Нейкі пан пад п'яную руку ці для забавы такой абразлівай мянушкай абазваў свайго прыгоннага. Мянушка перайшла ў прозвішча і прыстала як кляймо.

Ніхто столькі не перацярпеў у школе, як дочкі няшчаснай удавы.

Дзіцячыя забавы і жарты не ведаюць мяжы. Бедныя сёстры не вытрымлівалі, кідалі школу з трэцяга класа. Пані Стражынская намагалася, каб дачка ўдавы Зося скончыла хоць чатыры класы.

Але найбольш варшавянцы даставалася ад жуліка і хулігана Шусціка.

Бацька яго быў аддалы багамол у царкве і толькі пра тое і клапаціўся, каб людзі бачылі, што ён першы прыйшоў на малебен, стаіць найбліжэй да алтара, а бацюшка яму давярае ключы ад царквы.

Не вылазіла з паперці і Шусцікава жонка.

Пакінуты сам сабе, іхні Сашка здзекаваўся з яўрэек. У класы вячэрняй змены запускалі з Цыклопам варон. Адбіралі ў малых снеданне. І ўжо беднай Зосі не давалі праходу, смакавалі яе прозвішча ў розных варыянтах.

Выбрыкі хлопчыкаў не абыходзіліся без мяне. Ад пачуцця сваёй віны я дома расказваў пра Шусціка і Цыклопа, але пра сябе маўчаў. Пасля суровай ацэнкі бацькамі хуліганаў я выкрэсліваў з памяці свае ўчынкі, і на душы станавілася лёгка і шчасліва.

Паказаўшы паліцыянту палотнішча, у школу я

прыйшоў як заведзены: у крыках і бегатні, мабыць, стараўся заглушыць пакуты сумлення.

Налілі мы вады ў калідоры на цэмент і коўзаліся. Шусцік штурхануў мяне, я стукнуўся галавой аб падлогу.

Пані Стражынская была нам, як маці, хацелася паскардзіцца, аблегчыць душу яе ласкай. На ўроку я падняў руку і, трымаючыся за гуз, расказаў пра здарэнне ў калідоры.

У малых — свая мараль. Калі б паскардзілася Зося, яе ўсе падтрымалі б. І аптэкараву Фаню падтрымалі б, скажы яна, што Цыклоп свіным салам намазаў ёй вусны. Але ж мы з Шусцікам коўзаліся разам!

З усіх бакоў пасыпалася здзіўленае абурэнне:

— Ы-ых, дано-осчык!

— Пла-акса!

Сардэчная настаўніца заступілася за мяне, але клас ужо мяне знішчыў, затаптаў. Падбадзёраны Шусцік з задняй парты адважна глядзеў пані Стрыжынскай у вочы, а на мяне — з пагардай.

І праўда — я паводзіў сябе як даносчык і плакса. Так мне і трэба! Я таго варты!

Выпадак хутка забылі, але не забыў яго я. Чалавек сябе ашуквае, што ён адзін. Малы ты ці стары, а ў табе заўсёды сядзіць нехта і вядзе ўлік тваім учынкам, ад яго нікуды не дзенешся. Прырода табе дала гэтага суддзю назаўсёды. Аблегчыць душу, расказаць аб усім бацькам таксама не мог: яны хацелі бачыць сына інакшым. І насіць у сабе такую бомбу не пад сілу. Агортваў страх, што выкідваю сябе з кампаніі страшаўцаў, бацькі, дзядзькі Івана.

Разбірала роспач — як у сне, калі топішся і няма табе ратунку.

Вярнуўшыся цяпер са школы, уцякаў я ў гумно ці хаваўся на ганак за дзікі вінаград і наследаваў маму. Падаў на калені, складваў далоні ды шчыра шаптаў:

— Я — кепскі, кепскі, кепскі, нікчэмны — не люблю, ненавіджу сябе!.. Бо-ожа, бо-о-ожа, чаму, чаму-у я такі?! Ісусе Хрысце, што рабіць? Мацер божая, ратуй, дапамажы — што хочаш табе за гэта зраблю!.. І ўжо ніколі, ніколі, ну, ніколі, павер, не ўчыню гэтак, от пабачыш, толькі даруй!.. Хочаш, сёння за гэта вячэраць не буду, хочаш?.. Або паражу сабе руку, хочаш?!

Гэта былі скаргі маёй душы, якія не вытлумачыш халоднай логікай, разважаннямі, пошукамі цвярозага сэнсу. Яны ачышчалі і супакойвалі.

## 3

У Страшаве стварыўся вобраз ідэальнага чалавека, яшчэ прывезенага з эвакуацыі ў першую сусветную вайну з Савецкай Расіі. Кожны яго разумеў па-свойму, але назву меў агульную — к а м у н і с т. Бабкі яго сабе ўяўлялі падобным да Ісуса Хрыста. Старэйшыя — разумным і багатым натурай волатам, як Тухачэўскі, Блюхер, Варашылаў, Чапаеў...

З Савецкай Расіі прывезлі і ўпэўненасць — вялікую, раз і назаўсёды засвоеную: у СССР робіцца тое, што трэба простаму чалавеку.

Пілсудскі разграміў Грамаду, але заставалася ў падполлі моцная Кампартыя. Недзе каля 1928 года і ў Страшаве ўзнікла ячэйка, яе сакратаром абралі майго бацьку. Нашым сялянам было не ўсё роўна, што рабіў з імі ўрад.

На хутары страшаўцаў перасялялі пад прымусам.

Падаткі выдзіралі з дапамогай паліцыі.

Людзі да ўрада адносіліся дзёрзка, бо ведалі: на ўсходзе — магутныя плечы.

Валошына, Тарашкевіча, Мятлу, Рак-Міхайлоўскага і Дварчаніна Пілсудскі засудзіў, а бальшавікі іх выменялі на ксяндзоў, нацыянальныя героі паехалі ў СССР. Усе газеты змясцілі фота, як яны ў Стоўбцах перасякаюць польска-савецкую граніцу — у купэйных вагонах, бы паны.

Пагражала хлопцу турма за палітыку — ён уцякаў на ўсход.

З гарачкі пажэняцца маладыя, убачаць, што ў іх — ні кала, ні двара, ні работы,— падаюцца за Баранавічы...

За граніцай — краіна, дзе ўсім хопіць і занятку, і страхі над галавой. Абзавесціся можна сям'ёй. Толькі рамантык дзядзька Іван надумаўся ўцякаць туды праз Амерыку, іншыя рабілі гэта прасцей.

З аднаго прымака з-пад Беластока, мабыць, і цяпер яшчэ пацяшаюцца людзі.

Прымака-недарэку цешча выгнала з хаты. Пакрыў-

джаны мужчына зайшоў да маці, тая дала яму торбу ежы, і ён накіраваўся на ўсход шукаць долі. Ішоў цэлы тыдзень. За Баранавічамі распытаў людзей пра граніцу. Тыя растлумачылі: будзе моцная агароджа з калючага дроту, за ёю лясок, а там — СССР.

Ноччу прымак наткнуўся на высокі плот з калючым дротам, лёг пад ім чакаць світання. Раніцой наламаў ядлоўцу, паклаў на дрот, пералез агароджу і заявіў чалавеку са стрэльбай:

— Таварышу, бярыце мяне, я цяпер ваш!

А гэта быў вартаўнік. Недарэка залез у Радзівілаў сад.

Уцякалі беспрацоўныя, спецыялісты, студэнты, дапрызыўнікі, салдаты...

Хто ўцячы не мог, суцяшаў сябе: нічога, тут Пілсудскі, але ў мяне ёсць радзіма.

Ва ўяўленні страшаўцаў Савецкая Беларусь была раем на зямлі.

— У СССР прыязджаў з Лондана самы галоўны міністар,— прынёс да нас нехта навіну.— Англічане надта фанабэрлівыя і зайздросныя. Пахадзіў лорд па Маскве, па Мінску, паездзіў па краіне і сабраўся дамоў. «Ну, як?» — пытаюць яго. Ён уздыхнуў: «Крыўдна, што такую файную сістэму прыдумалі першыя не мы!..»

Я развесіў вушы, стараўся не прапусціць і слова. Дзядзька Марцін заўважыў у мяне падручнік:

— Вучыш, бедны, урокі: баішся, што цябе выкліча настаўніца?

— Ну!..

— А ў Саветах дзеці ўрокаў не зубраць. Выходзіць да дошкі адзін стараста і адказвае за цэлы клас!..

Практычная мама адразу ацаніла такі парадак:

— І дзіцця мае час памагчы ў хаце, не трэба яму выседжваць над сшыткамі!.. А-а, падумайце, як добра, калі людзі самі сабой правяць!

К таму часу ўсе ўжо асвоіліся з думкай, што суды за перадзелы хутароў — недарэчная задума, бо як ні дзялі страшаўскую зямлю, а нездаволеныя будуць. У Савецкай Беларусі прыдумалі іншае выйсце. Людзі аб'ядналіся ў калгасы, працуюць на агульным полі, а за работу атрымліваюць залежна ад працаднёў.

Страшаўцы адчулі сябе праз калгас уладальнікамі

тлустых палеткаў Рыжага Ігната. Калі б ім такую сістэму — працавалі б дзень і ноч!

Калі чалавеку цяжка, калі ў яго душы — беспрасветная цьма і няма перспектывы, яго запаўняюць міфы аб збаўцах, усемагутных героях, цудах.

Пілсудскі стварыў цэлае ведамства, якое ўзамен «Маланкі» стала выпускаць ужо іншыя беларускія газеткі і рассылала сялянам бясплатна. А там — розная лухта пра Савецкі Саюз.

— Бачыце, як занепакоіліся паны?! Ой, мужчыны, там, відаць, пайшло дзело!.. Сталі б паны псаваць дарэмна грошы на прадажных пісак і на паперу!..

Гэтак пракаменціраваўшы газетку, людзі працягвалі сваё:

— Селі італьянцы ў цыпелін ды на чале з Нобіле паляцелі шукаць Паўночны полюс ды і разбіліса. Мусаліні да ўсіх звярнуўся за дапамогай, толькі СССР абмінуў. І амерыканцы, і французы, і немцы браліса ратаваць іх — усё панскай пароды, далікатныя, куды ім!.. Саветы глядзелі, глядзелі на гэта месяц, другі і не вытрывалі — ведайце нашых! Ледакол «Красін» выйшаў у Ледавіты акіян, іграючы, паздымаў з ільдзін адубянелых макароннікаў, прывёз іх у Архангельск і — у лазню!

— Ого, савецкія людзі ўсё могуць! — захапляўся Рыгор, Косцяў бацька.— Нельга было выжыць пырнік з палёў, спалучылі яго з пшаніцай і здымаюць па пяцьсот пудоў з гектара!.. А я сваё поле дзяўбу, дзяўбу бараной, выграбаю, выграбаю пырай на мяжу!.. Наваліў горы цэлыя, і што з гэтага? Толькі грыжу сабе нажыў — нават на падсцілку не прыдатны. Высахне — палю. Палічы, мэнш, колькі пшаніцы кожны год пускаю ў неба з дымам!..

Вера ў Савецкую ўладу была светлай да наіўнасці, упартай да смерці. І мой бацька быў у ёй гэтакі ж цвёрды.

За Беластокам недзе паліцыянты падпаілі падпольшчыка ды выпыталі ўсе таямніцы. Тады бацька сабраў сваіх камуністаў і камсамольцаў ды прыняў у іх клятву — ні ў якіх выпадках не піць гарэлкі.

Недзе каля 1930 года за мяжу ўцёк халасцяк з суседняй вёскі Зубкі — Раман, але пасля двух месяцаў чамусьці вярнуўся. Бацька запрасіў яго да нас. На ці-

кавую гутарку прыбег і Турак — бацькаў знаёмы з далёкай Ярылаўкі.

Раман заявіўся разбіты, пануры, маўклівы і пастарэлы. Я вучыў урокі. Мужчыны мяне не таіліся, лічылі маленькім і дурным. Пасадзіў бацька госця за стол, выгодна расселўся сам, сабраўся слухаць:

— Ну, то расказвай, як там!

Раман доўга маўчаў ды ўздыхаў. Тады пачаў расказваць, што ў Саветах жанчыны на нагах носяць галёшы, склееныя з гумы. І быццам бы ён на ўласныя вочы бачыў, як там стаяць у чарзе па звычайны хлеб.

На хвіліну ў нашай хаце запанавала цішыня.

— А-а, мярзотнік, паспелі ўжо і цябе купіць паны! — раптам схапіўся з лавы бацька.— Прэч з маёй хаты, прадажная шкура!

Чалавек сумеўся, заміргаў вачыма і ўстаў.

— Прэч, прадажнік ты! — бацька заскрыгітаў нават зубамі і затупаў.

— Сцяпан, паслухай...— задрыжаў у чалавека голас.— Іване, выслухай мяне ты, мы ж сваякі нават з табой!

Турак разгублена ўсміхнуўся. Бацька ўжо сашчапіў кулакі:

— Прэч, нягоднік!

Раман толькі заплакаў і пайшоў.

Паліцыянты яго азалацілі б, каб Раман згадзіўся расказваць усім, што бачыў за мяжой. Аднак гэты чалавек не хацеў падрываць веры ў сваім народзе, кідаць цень на СССР. Ды ці сам не мог перанесці душэўнага надлому, ці — мянушкі здрадніка.

Нікому не сказаў Раман больш ні слова. З нашай хаты пайшоў на зубкоўскія агароды і ўтапіўся.

Між іншым, рэчачцы, у якой ён прыняў смерць, людзі не палічылі патрэбным нават даць назву — у самым глыбокім месцы яна не мела і метра глыбіні.

## 4

Вера ў Савецкую ўладу запаланіла і маё сэрца.

Мамін брат Іван выехаў-такі ў Канаду, паступіў на лясныя работы. Калі зарабіў грошай, купіў турыстычную пуцёўку. З Таронта паехаў па ёй у СССР і там застаўся назаўсёды.

З Бялявіч прымчаў на веласіпедзе дзядзька Мікалай і аб'явіў маці навіну:

— Манька, ад нашага Івана пісьмо. Ён ужо ў Саветах!

— Ну, дзякуй богаві! — ад хвалявання мама апусцілася на куфар.

Уздыхнуў з палёгкай і бацька. Расчараваны сваім братам «нэпманам» Аляксеем, усю надзею ён ужо ўскладваў на швагра. Ён нават быў прадаў бычка, унёс і свой уклад у «шыфкарту». Не, не дарэмнай была трата, швагер выйшаў на дарогу.

— І даўно: тры месяцы там жыве, а мы, бачыш, нічога не ведаем!

— А што робіць там?

— У казанскім інстытуце... Вучыцца на вецерынара...

— Ве-це-ры-на-ара? — жахнулася яна.

Акоціцца ў якога дзядзькі авечка і — на ўсю вёску навіна, а тут — гэткая сенсацыя! Збеглася палова Страшава. Разгубленыя людзі пачалі абмяркоўваць здарэнне.

Расчараваны быў і я. Дзядзьку хацелася бачыць лётчыкам, камандзірам, палярнікам, вучоным, але не доктарам, каторы лечыць кароў, коней і свіней.

— То няўжо ён не мог сабе падабраць што лепшае? — раззлавалася мама на брата.— Хіба ён здурэў?!

Маму падтрымалі суседкі:

— Такі файны, фартовы хлапец!.. Няхай бы лепш на чалавечага доктара вучыўся!

— Трэ было дзеля гэтага рвацца ў Расею?!

— Ваша маці столькі трацілася на яго, мэнчыла вас, у голадзе трымала!..

Дзядзька Мікалай даў кожнай выказацца:

— То сціхніце, бабы, не спяшайцеся яго здаваць на могілкі! У Гарадку Іванава пісьмо прачытаў фельчар і растлумачыў: «Калі чалавек захварэе, то табе сам скажа, што ў яго баліць. А вось карова або авечка не скажуць нічога. Тут, браце, галаву трэба паламаць, здагадацца самому!»

— Далібог, праўда! — адразу павесялелі жанчыны.

Раптам да людзей дайшла такая простая ісціна:

з жывёлай працаваць цяжэй, ветэрынар важнейшы за чалавечага доктара. Значэнне, вартасць і сіла чалавека ў Страшаве вызначаліся па цяжкасцях, якія ён браў на свае плечы.

Усклалі і яны свае надзеі на Дудзікавага Івана.

З рук у рукі страшаўцы перадавалі кніжкі, часопісы пра СССР. Надрукаваныя на глянцаванай паперы «Новэ віднокрэнгі» дакладна пералічвалі, колькі ў Савецкім Саюзе трактароў, верацён у ткацкіх фабрыках. На прыгожых фатаграфіях у альбомах паказвалася, як шчасліва жывуць калгаснікі. Усё гэта ішло як бы ад мамінага брата.

У вачах равеснікаў мы з Валодзькам выраслі: наш дзядзька ў Саветах! Цяпер і гарадскія сябры прынялі нас, як роўных, да кампаніі.

## 5

Адной суботы жонка дырэктара школы паклікала мяне і Толю Пятэльскага нанасіць вады.

Не абы-якая падзея.

На дырэктаршу — строгую і пахучую ад парфумы паню — нават Стражынская глядзела, як на багіню.

Носячы з сябрам поўныя вёдры з калодзежа, я стараўся нічога не прапусціць на панскай кухні і ў калідоры — ото ж будзе пра што расказаць дома.

Усе сцены пабеленыя вапнай.

Кавалкі булкі разам са смеццем у вядры.

— Кухня і — ніводнага гаршка.

Паны па суботах мыюцца не ў балеі, а ў спецыяльнай пасудзіне, якая называецца ванна...

За работу мы ад дырэктаршы атрымалі па кавалачку цукру.

У той дзень і гэта было не самае галоўнае ў маім жыцці.

На перапынку ў школьны калідор убеглі задыханыя Сашка Кандрусік з Ванем Кулешай:

— Мальцы, хутчэй!

Мы вылецелі на вуліцу.

Наша школа стаяла ў канцы Гарадка. З мястэчка якраз выходзіла калона рабочых з тэкстыльнай фабрыкі.

Ткачы баставалі.

У вёсцы Пясчанікі была яшчэ фабрыка нейкага Готліба, але там ткачы не паслухалі свайго прафсаюза, выйшлі на работу. Гарадоцкія мужчыны цяпер ішлі разганяць штрэйкбрэхераў.

У кожнага рабочага быў здаровы кій. На нагах — лёгкі абутак: да Пясчанікаў — з пятнаццаць кіламетраў. Трымаючы кіі на плячах, мужчыны крочылі ў нагу і спявалі:

Ви-ихри вражде-ебные ве-еют над на-ами!..

Не паспелі мы нагледзецца на ткачоў, як аднекуль выскачылі два грузавічкі. «Варшавянка» абарвалася.

Машыны загарадзілі дарогу. З кузаваў выскачылі паліцыянты ў бліскучых, як у пажарнікаў, касках і з гумавымі палкамі кінуліся на калону. Узбіўся пыл. Узняўся лямант. Завішчалі жанчыны. Натужліва затупалі боты.

Мы назбіралі камення і таксама кінуліся да месца, дзе ўсё віравала.

Пакуль дабеглі, паліцыянтаў ужо загналі на падворак да Кандрусікаў. Утульваючы галовы ў плечы, яны праз плот скакалі ў садок. Узлаваны Сашкаў брат Сцяпан з мужчынамі шпурлялі ім услед каскі, крычалі:

— Падбярыце!

— Будзеце зноў выязджаць з Беластока — запасныя сподні захапіце!

— Цюцікі Готлібавы!

Узрушаныя і падахвочаныя перамогай, рабочыя паравярнулі яшчэ грузавічкі і накіраваліся ў Пясчанікі.

Я доўга глядзеў ім услед. Паабапал калоны насіліся шчаслівыя хлапчукі. Яны маглі пайсці з ткачамі: у каго бацька, у каго брат быў у шэрагах. Я ж мусіў вяртацца ў школу, цешыць сябе тым, як буду дома апавядаць пра здарэнне, а брат пазайздросціць.

У той дзень у школе сынкі чыноўнікаў і крамнікаў — нібы вады ў рот набралі. Чамусьці пакрыўдзіўся і Шусцік. Стаў панылы, як бы меншы ростам...

## 6

Старэйшыя дзеці — другі светапогляд.

Цяпер нашы зрэбныя кашулі, запэцканыя ў чарніла пучкі суровых нітак на чаравіках выклікалі насмешкі ў аднакласнікаў. Панічы ахвотна гулялі з намі на перапынку, але сядзець за адной партай лічылі за абразу. Яны забаўляліся з намі, як з сабачкамі, з якімі потым не сядаюць за стол.

Купілі мне атлас.

Атласы былі дарагія. Такога яшчэ не мелі ні дачка доктара Цукермана, ні аптэкарава Фаня, ні сын каменданта паліцыі. Бацька знарок вазіў у Беласток прадаваць цэлы воз бульбы, патраціў на дарогу двое сутак. Затое на другі дзень са схаванай гордасцю гартаў я, шчаслівы, каляровыя лісты з картамі і так, каб усе чулі, нядбайна казаў Кандрусіку:

— Во, Францыя, Германія. А во — Расія... Глядзі, якая вялізная: вунь, вунь, аж сюды цягне, да Кітая!..

Самалюбівыя панічы не падавалі і выгляду, што іх цікавіць.

На мяне нечакана наляцеў Шусцік:

— Ну і што? Германія маленькая, а пойдзе вайной на тваю вялізную Расею, за тыдзень і заваюе ўсю!

Гаварыў ён з перакананнем, як гавораць не толькі сваю думку, але і тых, хто стаіць за плячыма. Я разявіў рот ад здзіўлення. Не верыць у плаціны, камунізм, высокія ўраджаі з гектара? Які ён варты жалю, сумны, нецікавы. Яшчэ злосны, не скажы і слова.

Мы былі тады яшчэ ў такім узросце, калі выражалі светапогляд сям'і, не свой выражаў і Сашка... А бацька казаў, што стары Шусцік — бяскрыўдны выскачка, хоча толькі быць на вачах у людзей.

Нібы сутыкнуліся два светы. За ўсіх страшаўцаў я ўзненавідзеў Шусцікавага сына.

Зрэшты, хутка яго я і зусім перастаў заўважаць — было не да Шусцікаў.

## 7

Зімой мама ўпрасіла бацьку, і ён мяне ўзяў на выправу, падобную да той, якую рабочыя арганізавалі ў Пясчаніках.

Беластоцкі буржуй Кацман купіў у Ліпніку дзялянку. Лесарубы сосны яму спілавалі, але бярвенне павінны былі падвезці ў Валілы да чыгункі сяляне. Вазілі лес тады толькі фурманкамі.

Нашым людзям зімой рабіць не было чаго. Дзядзькі ахвотна паехалі б на заробкі і за два злотыя за кубаметр, якія даваў купец. Але загаварыла ў іх злосць.

Кацман купляў лес, каб перапрадаць яго ў Беластоку другому купцу і зарабіць. Ах ты, абармот, яшчэ хочаш на нашых конях, нашымі мазалямі нажывацца?! Тады плаці нам па тры злотыя за куб!

Мужчыны забаставалі.

Кацман хацеў падкупіць возчыкаў. Паліцыя разумела, што ўсю заваруху зрабіла падпольная ячэйка, і паабяцала купцу падмогу.

За лесам ад Страшава была маленькая шляхецкая вёсачка Вераб'і. Шляхту тут калісьці насадзілі каралі, каб яна была носьбітам польскай культуры сярод беларусаў. За стагоддзі вераб'ёўцы асіміляваліся, нават размаўлялі ўжо толькі па-нашаму, і хто цяпер на каго больш уплываў, нельга было разабраць.

Чатыры шляхціцы паддаліся спакусе заробку (штрэйкбрэхерам плацілі ў пяць разоў больш), павезлі лес на станцыю. Для бяспекі падводы з Ліпнікаў да Валіл праводзілі паліцыянты.

Ноччу, паскрыпваючы валёнкамі па снезе, прыйшлі мы з бацькам на дзялянку. Там ужо сабраліся сотні сялян у кажухах са Страшава, Скраблякоў, Грыбаўцоў, Бялявіч і Зубкоў. З сякерамі, піламі, дручкамі. Я аж жахнуўся — падобны малюнак ужо аднойчы бачыў! Пры святле месяца маляўнічае зборышча выглядала дакладна такім, якое я сабе ўяўляў, спяваючы некалі «Ад веку мы спалі...». Толькі гэтыя людзі кос і сярпоў не мелі.

— А мы з вамі знаёмы! — узрадаваўся я чалавеку з Зубкоў, які мяне часта падвозіў да школы.

— Знаё-омы...— нездаволена буркнуў дзядзька.— Вунь твая кампанія!

На такіх сходках не паказваюць адны адным, што знаёмыя.

Зубкоўскія і бялявіцкія мужчыны прывялі маіх равеснікаў. Я, прысаромлены, прыстаў да іх.

У ролі прамоўцы давялося бачыць бацьку.

Залез ён на пень, пачаў штосьці гаварыць, а мы слухалі.

Зрабілася няёмка, хоць ты праваліся ў сумёт. Мой аўтарытэт і пагроза стаяў цяпер на пні якімсьці нясмелым, а тое, як гаварыў, не вязалася зусім з тым, пра што гаварыў. Нібы сарамаціў Валодзьку за падраныя нагавіцы, нібы ўшчуваў маці. Але паступова ён набіраўся адвагі і голас яго мацнеў.

— Адным словам, хлопцы, хопіць мітынгаваць! — крыкнуў бацька раптам.— Трэба ўсім кагалам ісці ў Вераб'і і правучыць іх!

— Раз і назаўсёды! — падхапілі людзі.

— Дамо-о, гадам!

— Пайшлі-і! — аж затросся лес ад рашучых галасоў — з галін паляцелі пласты снегу, узнялі малочныя віхры.

## 8

Такую лавіну людзей на змёрзлым снезе, мабыць, было чуваць за тры кіламетры, і перапалоханыя шляхцічы даўно патушылі лямпы, пазаганялі ў сені сабак.

Хлопчыкаў мужчыны паслалі ў разведку. Шчаслівыя ад даручэння і робячы выгляд, што нам зусім не страшна, адзін перад адным бегалі мы ад хаты да хаты, прыстаўлялі вушы да шурпатых сцен і чулі, як у кожнай хаце прытаілася жыццё. Святло не гарэла нават у памешчыка Шастаковіча, яго доўгія будынкі выцягнуліся на сінім фоне, як крэпасць.

— Збаяліса, прадажнікі!..

Паліцыі не было нідзе.

Знайшоўшы каго трэба, мужчыны выбілі штрэйкбрэхеру вокны, папілавалі воз, сані.

Уваліўшыся на другі падворак, спаткалі растрапаную жанчыну. Яна выбегла з хаты босая нам насустрач, упала на калені, узмалілася:

— Лю-удзі, рабіце што сабе хочаце на падворку, толькі не біце вокан! У мяне дзе-еці хворыя, куды іх зімой дзену!.. Ко-оклю-шам зляглі!

Мужчыны пасталі ў нерашучасці.

— Шкадаваць тваіх бахуроў?! — напаў на яе Вінцак Грабцэвіч з Меляшкоў.— Каб павырасталі новыя прадажнікі?!

— Яны яшчэ надта малы-ыя!.. На мяне, рабі са мной што хочаш, толькі пакінь шыбы! — расхіліўшы на грудзях кофту, прапаўзла яна каленямі па снезе і ўшчаперылася Вінцуку ў валёнак.

— Вар'ятка, каму ты патрэбна, цьфу! — адскочыў хлопец, вырваўшы валёнак.

— Ла-адна, вокан чапаць не будзем! — супакоіў яе Сахарышын Юлік.

— Толькі скажы свайму дурню, калі заўтра выедзе ў Ліпнікі, то выражам яму гэта самае...— дадаў нехта.

— Я сама вочы яму выдзеру!

— Во, во! А цяпер — уставай, бяжы дахаты, не стой на снезе, пяткі памарозіш! — стаў падымаць яе Юлік.

Шляхцянка ўстала. Ад спагады соцень мужчын яна лёгка, як дзяўчынка, паляцела дамоў. Такая радасць адчувалася ў яе постаці, нібы шляхцянка дасягнула чагосьці самага галоўнага ў жыцці.

Цяпер ужо не так ахвотна пілавалі сані. З-за кабеты Вінцак Грабцэвіч зазлаваў на Сахарышынага Юліка. Я ўчуў, як Вінцак на яго зашыпеў:

— Што, выслужваешся, аўтарытэт сабе вырабляеш?!

— Ачмурэў?! — здзівіўся Юлік.

— Танны аўтарытэт!..

— Абсядзь, певень! — пасарамаціў бацька меляшкоўскага Вінцака.

Раздражнёны хлопец вывеў з хлява кабылу, пачаў лупцаваць яе кіем, прыгаворваючы:

— На, шкапа, на, здэхла, гэта табе за твайго вераб'я, каб болей не вазіла яго, на!

З натоўпу выскачыў дзядзька Салвесь, аперазаў хлопца кіем:

— Шы-то робіш, нягоднік?! І это, і это, і-і конь вінаваты, конь?!

— Дурань яловы!.. Дай яму, Салвесь, добра дай! — накінуліся на хлапца іншыя мужчыны.

Дзядзька завёў каня ў хлеў, палажыў яму сена:

— Еш, кы-коська, не бойса, еш...

І Грабцэвіч, які здзекаваўся з каня, і босая шляхцянка на снезе абяззброілі зусім яшчэ нядаўна так раззлаваных людзей. Ужо без ахвоты пайшлі яны да

астатніх штрэйкбрэхераў. Там нерашуча, не да канца рэзалі збрую, секлі хамуты, а вокан не чапалі... Шкадавалі ўжо і саней.

## 9

Назаўтра ўразіла ўсіх навіна: штрэйкбрэхерам у лес ездзіў і Марцін Грушэўскі з сынам Сашкам, той самы дзядзька, які апавядаў, што ў СССР вучням не трэба рабіць урокаў. Аднак з Вераб'ёў ніхто не выехаў болей, і гэта ўсё вырашыла.

Баючыся, каб не сапсавалася санная дарога, бо тады за калёсную вывазку давядзецца сялянам плаціць удвая, Кацман здаўся.

Людзі дружна рынуліся ў лес ладаваць на свае сані гонкія ліпнікаўскія сосны. Ап'янелыя ад перамогі, не заўважылі нават арыштаў.

Баставаць мелі права адно тыя рабочыя, якія былі ў прафсаюзе. Сяляне, вядома, да прафсаюза не належалі, і забастоўка іхняя лічылася незаконнай.

Знайшоўся сабака, выдаў бацьку — Госцікаў Ёзік з Бялевіч расказаў пра ўсё паліцыі. За арганізацыю забастоўкі і за бунтарскае выступленне ў лесе суддзя падпісаў ордэр на арышт бацькі.

Ноччу прыехалі да нас з Ялоўкі паліцыянты, разбудзілі бацьку, зрабілі вобыск і павезлі яго ў ваўкавыскую турму.

Канец зімы і вясну жылі мы без бацькі. Незнаёмыя людзі прывозілі на хутар дровы, грошы на адваката, малацілі наша збожжа, нават заставаліся ў нас на ноч, каб мы не баяліся спаць ля лесу.

Той час, калі гэтак выразна адчуў я людскую спагаду і салідарнасць, я доўга ўспамінаў, нібы якоесьці вялікае і шчаслівае свята.

Абыходзячыся без бацькі, мы пакрысе запускалі гаспадарку:

— Нічога, прыйдзе з турмы тата, навядзе парадак!

Тым часам вярнуўся ён з Ваўкавыска і доўга не хацеў ні за што брацца. У гумне перамяшалася салома з сенам. Падворак быў завалены ламаччам... Бацька, пагаліўшыся, падправіўшы перад люстэркам шчотачку рыжаватых вусікаў, хадзіў па хаце і спяваў астрожныя песні. А то апавядаў суседзям пра бунты

вязняў. Памаладзелая мама не то скардзілася, не то хвалілася Настусі:

— Ты паглядзі толькі — ён не супраць, каб трапіць туды яшчэ раз!

## *РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ*

### 1

Бацькі нас не песцілі.

Аднаго разу выгнаў я да студні быдла паіць і давай дражніцца з быком:

— Мацек, бу-у!

— Перастань! — закрычаў бацька ад гумна.

Я не паслухаў, быў у палоне жудаснага і заманлівага страху. Мяне ўсяго аж падмывала на небяспеку.

— Бысыка, бу-у!

Бык зазлаваў, рынуўся на мяне і прыпёр ілбом да плота. Убачыў я неба, учуў трэск штыкецін і страціў прытомнасць.

Бацька адагнаў раз'юшанага быка, нагнуўся нада мной. Паглядзеў, што я ўжо ачуняў і толькі выплёўваю кроў, падняў з зямлі мой кій ды давай мяне лупцаваць:

— Маеш, каб ведаў другі раз і не лез куды не трэ!..

Пачнём з Валодзькам варыць з вішнёвай смалы клей або ўцячом з Косцем ці Сашкам гуляць у пікара, як мама ўжо трагічным голасам крычыць:

— І не сорамна табе? Няхай ужо яны бібікі б'юць, але ж ты — да школы ходзіш, а паводзіш сябе бы Рыгарулькаў Міцька!

Косцеў брат, Міця, пачаў гаварыць толькі ў шэсць гадоў. Цяпер яму ішоў дзесяты, а ён усё яшчэ на падворку выкладваў чыгунку з дроў.

— Нябось, сын беластоцкай цёткі Ганулі ў пікара не гуляе! — упікала далей мама.

Надта ж рана яна хацела бачыць нас дарослымі! Няхітрым педагагічным прыёмам было ў яе — выстаўляць крайнасці: прыдуркаватасць Міці і — працавітасць цёткі Галены, якая бытта бы выбілася ў людзі

з-за працавітасці і цяпер сабе жыла, як пані, у вялікім горадзе. З пэўнага часу ў прыклад ставілі ўжо і шчётчынага сына.

Не могучы нічога адмяніць, я потым знайшоў выйсце.

Да школы было шэсць кіламетраў. Туды з Валодзькам адпраўляліся, калі напасвім кароў. Яшчэ насілі па шэсць-сем літраў малака на продаж, а з бутэлькамі — гэта паўпуда цяжару. Насілі дзень у дзень, восенню і зімой.

Ідучы ў школу, я на хаду чытаў кніжкі. З першых старонак забываўся на цяжар, быў у амерыканскіх прэрыях з траперамі ці ў джунглях.

На палявых работах кніжак чытаць не будзеш, і я выдумваў сабе розныя гісторыі. Станавіўся інжынерам, рабіў хітрыя машыны і раздаваў іх — Кірылісе, дзядзьку Кавальцу, Салвесю, Марціну, Настусі...

## 2

Калі я быў у пятым класе, бацькі перавезлі будынкі з вёскі пад Ліпнікі. Сталі мы жыць на хутары.

Ля нашага поля паставіў сваю хату Марцін Грушэўскі.

Цэлай вёскай страшаўцы памаглі скласці хаціну на новым месцы і Настусі. Не прымаў удзелу ў яе пераездзе толькі бацька. Уяўляю сабе, якую маці ўзняла б дома буру, каб наш бацька памкнуўся што-небудзь зрабіць для яе. Ён знайшоў апраўданне перад сваім сумленнем:

— Памагаць былой прыслужніцы легіянераў? Не дачакае яна! Няхай бы круціла менш хвастом!

Што ён хацеў сказаць гэтым «круціла менш хвастом», мы з Валодзькам не разумелі, а мама яго слухала ахвотна.

Настуся і па новых хутарах стала бегаць і адрабляць суседзям. Марціну — бо ў яго гумне клала на зіму збожжа. Кірылісе — за краўца. Нам — за каня ці за сячкарню.

Хоць Настусін вялікі круглы твар усё яшчэ прамянеў здароўем, усё ж пасля смерці мужа голас у яе прыцішэў, з'явілася дабрадушна-ліслівая ўсмешка. Суседак яна толькі слухала, падтаквала і падхвальвала.

Я, напрыклад, сядзеў на лаве з бойкай між каленяў і біў масла. Пры гэткім занятку думкі нікуды не накіруеш: можаш зламаць чаранок, выплюхаць смятану. Я паныла соваў калатоўкай і не ведаў, колькі яшчэ біць — паўгадзіны, гадзіну...

Адчыніліся дзверы, увайшла цётка Настуся.

— Дай мне!

Удава на хаду перахапіла бойку, гупнулася на лаву шырокім, туга абцягнутым рыжай спадніцай раздвоеным задам, і смятана пад калатоўкай у яе руках загаварыла на ўсю кухню. Я не дыхаў — мама магла паслаць да іншай работы, трэба было хітраваць. Зараз яна ўцягнецца ў размову, тады бяжы на двор і рабі што сабе хочаш...

Прыкінуўся галодным. Не спяшаючыся, аблупіў цыбуліну, ткнуў яе ў соль. Адрэзаў кавалак хлеба...

— Ах, як ваш Алёшка вырас, вы толькі глянь-це! — падлашчылася Настуся.

— Растуць дзеці!..

— Мусіць, з яго будзе якісьці вучоны. Учора спаткала пад Гарадком — ідзе і кніжку сабе чытае. Вецер, дождж сячэ — вачэй не падняць, дарога кепская, а ён нават са сцежкі не саб'ецца!

Смех: чытаць кніжку на хаду і дурань зможа, абы ведаў літары.

Вось кліночак пад маму цётка і падбіла.

Мама глянула на мяне гэтак, як могуць зірнуць толькі мацяркі, а ты і праўда пачынаеш адчуваць жудасна-шчаслівы страх перад тым, што яна табе абяцала ў будучыні,— узнікала затоенае жаданне хутчэй быць такім, якім яна цябе бачыла.

— О, ужо такіх файных дзяцей, як ён у нас удаўся, і не знайсці! Самі са Сцяпанам мэнчымся, яны абодва няхай ужо вучацца, выходзяць у людзі!..

І тут без ніякага пераходу і сувязі мама з гонарам пахвалілася:

— Але ты паглядзі, Настусь: унучцы папа Вінаградава наш старэйшы на перапынку парваў фартух!

— О-о, да каго падбіраецца! — пахаладзела Настуся.

— Настаўніца на сходзе скардзілася — парваў! — аж сцішыла мама голас да шэпту, нібы ў маім учынку — вялікі сэнс, а папоўну я зачапіў не выпадкова.

Яна ўжо не заўважала, што Настуся пакрыўджана маўчыць. Мама пачала з захапленнем расказваць, як на бацькоўскім сходзе хвалілі Валодзьку.

Усё. Цяпер — ходу!

## 3

Калі Настуся з дачкой прыходзіла да нас капаць бульбу, Веру апранала, як да царквы, а сама была ў той самай вылінялай кофце і спадніцы нібы з іржавай бляхі.

Па дарозе прамчала брычка з памешчыкам Шастаковічам. Мама паглядзела на яго і сказала суседцы:

— Ты, бо, зірні. Такая цяплынь, а ён, далібог, пад гальштукам і ў пальчатках!.. Ой, як кепска жыць важным людзям: не ўсміхніса, не сядзь на траву, не парадуйса сонцу, бо-ожа!..

Капала цётка і гаварыла, што паны, халеры, затое мала робяць і колькі сабе хочуць жаруць цукру, мяса...

Памешчыкі ў нас распрадалі маёнткі яшчэ да імперыялістычнай вайны і выехалі ў горад. На іх землях і ўтварыліся мужыцкія надзелы. Адзіным памешчыкам на ўсю акругу быў пан Шастаковіч у Вераб'ях. Ён цяпер служыў у Варшаве рэферэнтам міністэрства, у маёнтак прыязджаў толькі на лета, але ў свядомасці страшаўцаў жыў і зімой, і восенню, і кожны дзень, і кожны час.

— Шастаковіч калі есць у абед мяса, то, падумайце, яшчэ і масла мажа на хлеб!..— паведамляла, зайздросціла Настуся.

— От, ліха на яго! — дзівілася мама.

— А Шастаковічыха есць булак колькі хоча — і ў свята, і ў будзень!.. Здаецца, накарміць бы ўволю булкамі дзяцей, наесціса б іх самой, тады ўжо нічога ў жыцці болей не хацела б! — уздыхнула яна, і бульба з-пад яе пальцаў ляцела ў кошыкі як стрэленая — дробная ў адзін, вялікая ў другі.

Мы з Верай слухалі і моўчкі грэбаліся ў сваіх баразнах. Вера працавала лёгка, была поўная спакою і ўпэўненасці — нібы дачка каралевы, нібы ў Настусіным доме кожны дзень шакалад елі. А мне надта балела спіна. Я выглядаў дажджавыя хмары, Вера спачувала — з яе твару не сыходзіла спагада.

— Пастой, Алёша, крыху, боль мо адыдзе...

І павалакла да мяшка кошыкі, а я, абапёршыся на матыку, адпачываў.

Усё роўна ныла, агнём пякла спіна. Адкуль чакаць ратунку? Эх, каб дождж! Ды на небе — ні хмурынкі, паветра чыстае, сухое, аж звініць. Спакойна лунаюць белыя нітачкі бабінага лета, лезуць у вочы, у рот...

Работу маладзейшай за мяне на два гады сяброўкі правяраць не трэба. Я ж меў апраўданне: паду-умаеш, затое яна не чытае газет, не ведае, што робіцца на свеце, не хадзіла на Вераб'і біць штрэйкбрэхераў...

Высыпаючы ў мяшок бульбу, Вера запарушыла вока. Настуся — майстра на такія справы, хутка з-пад даччынога павека выняла парушынку языком. Вера паставіла ў разору парожнія кошыкі, згібам рукі выцерла слёзы, і мы зноў нагнуліся.

Цярпі да абеду. Мама толькі паставіла абед на пліту разам са свіной бульбай, наклаўшы пад гаршкі торфу, і прыбегла памагаць нам...

Забрахаў наш Бобік.

— Алёшка, падскоч паглядзі, хто там!

З палёгкай выпусціў я матыку, пабег дамоў.

Ля калодзежа трымаў за руль веласіпед, на багажніку якога стаяў куфэрак, касавокі і скуласты кітаец. Ён аб'язджаў хутары, прадаваў кілімчыкі з драконамі.

Паклікаў я маму.

Кінуў пад лесам кароў і адразу прыляцеў на двор Валодзька.

Разгубленая мама разглядала тавар і не ведала, што рабіць: шкадавала грошай. Госць з далёкай краіны напускаў таямнічасць, нешта па-кітайску лапатаў, не спяшаўся ад'язджаць і адчуваў сябе ў нас, як дома.

Не згледзелі, як чалавек на нашай пліце згатаваў у каструльцы рыс і пачаў яго спрытна палачкамі есці.

— Божа, які нешчаслівы чалавек! — разжаліў ён маму.— Хіба можа мужчына гэтага наесціса?!

Яна ўжо палезла па залатоўкі. Крыкнула ў адчыненае акно:

— Ты, Настусь, прышлі дачку, няхай таксама падзівіцца!

Праз хвіліну з сяней зыркнула пара цікаўных вачанят. Але Вера памятала, што яна ў людзей на рабоце, таму адразу вярнулася да бульбы.

Яна нават ела ў чужым доме з сарамлівай вінаватасцю.

## 4

Вучыўся я кепска. Польскай мовы не ведаў, дома не меў часу на ўрокі, астатнія вучні мяне апярэджвалі.

Яшчэ ва мне сядзела нейкая сялянская тупасць.

«Работа мужыка — такая цяжкая, як вол»,— напісаў я ў сачыненні і ніяк не мог зразумець, што ў маім сказе было кепскага.

Нягледзячы на гэта, у гадоў дванаццаць я адчуў у сабе якоесьці абуджэнне самасвядомасці.

Раптам ні з таго ні з сяго пачало мяне мучыць дзіўнае пытанне: хто ж я такі?

У Страшаве — дзвесце пяцьдзесят душ, і кожная з іх іншая. На ўсім свеце — два мільярды людзей. Навошта сярод іх яшчэ і я? Якая сіла здагадалася стварыць мяне? Для чаго ёй я спатрэбіўся? Чаму без мяне не маглі абысціся?..

Я стараўся залезці ў глыбіню свайго філагенезу, пачуць у сабе якія-небудзь флюіды — сляды таямнічай сілы і сэнсу. Але іх не знаходзіў. Тады ўспамінаў усё да дробязей, што некалі бачыў, што памятаю.

Сабраліся мужыкі і дзеляць страшаўскую зямлю. Мне і ўрокі трэба вучыць і цікава іх паслухаць...

Вось я яшчэ не хаджу ў школу. Цішэўскі Іван даў мне несці праз вёску крыж, і я гэтак абняславіўся, што сорамна і сёння.

Мужчыны пасмейваюцца з бацькі з-за дзікоў. Бацька вяртаецца з поля і апраўдваецца перад маці.

У нашай кухні пяюць кудзельніцы.

Праз Страшава імчыць брычка Шастаковіча, а я, дурань, доўга не мог зразумець, чаму колы ў ёй круцяцца назад.

Вобразы, нібы ў перспектыве, памяншаліся і памяншаліся...

Мы з Валодзькам накручваем гадзіннік, і страляе спружына...

За гэтым вобразам — нічога, хоць ты лопні ад думання. Калі хто апавядае пра ранейшыя здарэнні, я ўяўляю сабе іх як казку — нерэальнымі, несур'ёзнымі. Для мяне свет пачынаўся з маім паяўленнем.

Я куды-небудзь хаваўся, разглядаў свае грудзі, ногі, рукі.

Маё цела мне падабалася і было мілым, я так выразна адчуваў і бачыў, што адбываецца навокал...

Мо і праўду мама гаварыла — я асаблівы? Было на зямлі людзей многа, дык трэба ж нейкай сіле стварыць яшчэ і мяне!.. Мабыць, я — не такі, як яны.

І ведаў, што думаць так пра сябе нядобра, але ўжо нічога не мог зрабіць з сабой — аж задрыжаў ад шчасця. Толькі прыцішу ў сабе радасць — і зноў яна прарываецца.

Браты Грушэўскія раздзялілі будынкі і ніяк не маглі поўнасцю забудавацца — Салвесю не хапала дзерава на гумно, Марціну — на хлеў. Чырвонцы, якія бацька некалі вярнуў брату-нэпману, дзядзька Аляксей пераадрасаваў свайму хросніку, Рыгарулькаваму Косцю. Рыгарулька паставіў зруб, але жыў яшчэ ў хаціне, бо скончыць зруба дзядзькавых грошай не хапіла.

Я не выпадкам нарадзіўся: пачакайце, дзядзьку Салвесь, Рыгор, дастану вам дзерава!.. А вас, цётку Настуся, і астатніх страшаўцаў зраблю шчаслівымі і багатымі!..

## 5

Марцінавага Сашку і Рыгарулькавага Косцю вучыцца не пасылалі.

— Навошта мужыку вучоба? — даводзіў майму бацьку Рыгарулька, нібы яму вельмі шкодзіла, што мы з Валодзькам ходзім у школу.— Пабачыш, Сцяпан, яна толькі псуе хлопцаў. Хіба мы з табой вучаныя? А, далібог, някепскія людзі, хай нашы дзеці будуць хоць такія!

Праз нейкі час я заўважыў, што бываць з Сашкам і Косцем сумна.

Пасвілі мы кароў, пачало грымець. З захаду на неба напаўзала чорная, як ноч, з сівой барадой хмара. Ад грому дрыжала зямля. Неспакойныя каровы збіліся ў кучу, вадзілі пысамі ў паветры, штосьці вынюхвалі.

Мой хросны брат, Косця, схаваўся пад куст і запальваў грамнічную свечку; я заўсёды памятаў —

маскоўскі дзядзька Аляксей быў кумам на яго хрэсьбінах.

— Ці ж свечка не дасць, каб з хмар у зямлю праходзіла электрыка? — пасарамаціў я яго.

— Ты ведаеш, што куды праходзіць, ад чаго грыміць? — засланіў ён агеньчык.

— Ведаю!

— Ты ўсё ведаеш! Учора нават казаў, колькі да сонца вёрст!

— Бо гэта праўда.

— А ты мераў?

У непаразуменні я паглядзеў на сябра. У мяне нават бацька распытваў, чаму бывае зацьменне Сонца, Месяца, чаму грыміць, што такое маланка, электрыка.

— Ці хто другі залез на неба і памераў?! — не адставаў Косця.

На тры гады старэйшы за мяне, Марцінаў сын увогуле не прыслухоўваўся да нашай спрэчкі. Схаваўся пад куст і плёў сабе кошык.

А я ім хацеў расказаць яшчэ і пра расянку. На балоце яна жаўцела на кожнай купіне. Ніхто на вёсцы не ведаў, што блішчыць на ёй не кропля расы, а клей; валахатая раслінка ловіць ім мух. Пані Стражынская вадзіла нас на балота, мы назіралі...

Мяне наогул ледзь не разрывала ад навін, якія я насіў у сабе.

Настаўнік нямецкай мовы гаварыў, што навакольныя сяляне ўжываюць многа германскіх слоў. І праўда. Сёння прыходзіў да нас дзядзька Марцін і нават не заўважыў, што загаварыў ледзь не па-нямецку:

— Нічыпар, дай свайго *гэбліка*. У мяне *дрыль*, халера, *скапуціўся* ад *фуры*, трэ *дапасаваць* новы. Павязу *фасовачку* пшаніцы на кірмаш. Трэ купіць *шыбу* — Сашка, *гіцаль*, высадзіў на *ганку*. І пашукаю *файныя цуглі*, бо старыя конь пераргрыз *удыхт*...

Нашу мясцовасць стагоддзяў пяць таму назад часта займалі крыжакі. Забіралі ў людзей быдла, коней, а вытканае жанчынамі кужэльнае палатно і сукны прышэльцы дзялілі паміж сабой, мераючы не на аршыны, сажні ці метры, а — на пікі. Мужчын крыжакі выганялі ў Прусію.

Людзі ўцякалі з няволі, прыносілі новыя словы, як Рыгарулька гаворыць «мэнш». Косцяў бацька пабыў

у тую вайну ў нямецкім палоне і ўжо не заўважае, што паўтарае на кожным кроку гэтае слова.

Слухаць ад Стражынскага страшныя гісторыі было жудасна. Я са спачуваннем думаў пра нешчаслівых продкаў. Пачні апавядаць пра гэта Сашку і Косцю — не будуць слухаць таксама!

Шкода было Косцю і Сашку. Сумна з імі. Ужо лепш аднаму. Хадзі сабе за каровамі і выдумвай розныя гісторыі. А то разглядай хмары. Эх, як імчацца!..

Каб пазганяць хмары адна ў адну, закінуць на іх вялізную шляю і — панёсся б! Над Ліпнікамі, Скраблякамі... Толькі сабе глядзі зверху на вёску, палі, лясы... А хочаш — выводзь пальцам сваё прозвішча на яе баку...

Цікава, чаму наша такое?.. Сашкавы прадзеды, магчыма, даглядалі ў садку магната грушы, таму цяпер яны — Гуршэўскія. Лебядзінскія, мабыць, працавалі ў Златніцкага на ставах. Але чаму мы — Кучынскія?! Кучын... Ад кучы?!

Толькі з Настусінай Веркай я не сумаваў.

Не, ёй таксама нічога не расказваў. Яе даверлівасць і стрыманасць, пранікнутая верай і спакоем практычнасць мяне дзіўна супакойвалі. Пры Веры гадзіны праходзілі як мінуты. Ды Настуся часта Красулю сваю прывязвала да кіёчка на мяжы, а дачку пасылала да суседзяў адрабляць. Тады кароў на пашу я гнаў адзін...

Няпраўда, што непрызнанне, самотнасць губяць чалавека. Той факт, што ты маеш рацыю, хоць гэтага і не прызнаюць другія, дае ўнутраную сілу, фарміруе характар, служыць этапам твайго самасцвярджэння.



Калі хочаш, цікавы занятак знойдзеш заўсёды.

Страшаўскія палі рассякала чыгунка Беласток — Ваўкавыск. Па ёй хадзіў экспрэс Берлін — Варшава — Мінск — Масква. Не хадзіў — лётаў. Пусці паперку, і яна паляціць за апошнім вагонам, як голуб.

Пасля экспрэса на шпалах заставаліся сярэбраныя паперкі ад цукерак ды нейкія жаўтаватыя лушпінкі. У Страшаве ніхто не мог сказаць, ад чаго яны (апельсіны я ўбачыў толькі пасля вайны). Некалькі разоў

браўся я скуркі тыя есці. Горкія, агідныя — не праглынуць. Што ж, буржуям на курортах абрыдла звычайная ежа, у такой Францыі, кажуць, жаруць нават смажаных жабаў і салёных слімакоў. Пасля жабаў, вядома, і такую дрэнь можаш з'есці!..

А часамі на пуці траплялiся цэлыя скарбы.

Ля чыгункі я падбіраў савецкія карабкі ад запалак, абрыўкі «Праўды» — яны абыходзілі потым усіх сялян навакольных вёсак, а я на некалькі дзён станавіўся героем.

У сухіх Багенцах быў круты паварот, цягнік ішоў памалу. З высокага адхону можна разгледзець усё, што робіцца ў купэ вагонаў.

Аднойчы кінуў я кароў і пабег да чыгункі — ішоў экспрэс. Праз адчыненае акно выразна ўбачыў таўставатага чалавека ў бярэце. Мне здалося, што гэта наркам замежных спраў Літвінаў. За некалькі секунд, пакуль чалавек быў у полі зроку, я так дакладна яго разгледзеў, што на цёмным і круглым твары ўбачыў кожную маршчынку.

Фатаграфіі Літвінава друкавалі ў газетах, памыліцца я не мог. Я не знаходзіў сабе месца. Падзяліцца з сябрамі? Сашка і Косця нават не ведалі, хто такі Літвінаў. Страшаўцам гаварыць — не павераць.

Крыўдна. У той жа момант я вырас у сваіх вачах: бачыў такое, чаго не бачыў ніхто са страшаўскіх мужчын.

Зімой у Вене фашысты разграмілі шуцбундаўцаў. Некалькі соцень аўстрыйскіх бунтароў праз Польшчу падаліся ў СССР. Газеты пісалі, як шуцбундаўцы па дарозе госцяць у рабочых Кракава, Лодзі, Варшавы... У Маскву ехаць ім — толькі праз нас.

Пасажырскія цягнікі цераз страшаўскае поле хадзілі па раскладу, па іх вёска настаўляла гадзіннікі. Аднойчы я здалёк убачыў пасажырскія вагоны нечапланавага цягніка і паляцеў да чыгункі.

У вокнах — людскія галовы. Самавітыя мужчыны разглядалі наша поле і бедныя хутары сурова, насцярожана. Ім, няйначай, было сумнавата. Убачыўшы жывога чалавека, яны павярнулі да мяне галовы.

— Рот фронт! — крыкнуў я, шчаслівы і горды, падняўшы кулак.

Людзі нешта закрычалі. На іхніх тварах зацеплілі-

ся добрыя, паблажлівыя ўсмешкі бывалых людзей. Махалі яны рукамі, покуль цягнік не ўехаў у лес. Пэўна, гэта былі аўстрыйцы.

Шчаслівы, я вяртаўся дамоў — дакрануўся сэрцам да таго, што робіцца на свеце. Ля плота стаяла мама, радавалася разам са мной.

Мае разумныя бацька і маці!

У бацькоўскім захапленні дзецьмі праяўляецца вялікая мудрасць прыроды, векавы інстынкт. Дзіця, якое любяць і падхвальваюць, расце з верай у сябе, шчаслівае і духоўна падрыхтаванае праявіць потым свае здольнасці і лёгка пераносіць нягоды. Недагледжаныя дзеці часта вырастаюць потым на зайздроснікаў або на людзей, якія маюць жаль да ўсяго свету.

Сам таго не хочучы, дзядзька Марцін пасяліў у сына сумненне і недавер'е ў сваіх сілах, пасяліў у яго як бы комплекс непаўнавартасці.

Не мог даць таго, што трэба, і Рыгарулька свайму Косцю.

Адным словам, са страшаўскай кампаніі я вырастаў. Адно зайздросціў Валодзьку — яму нічога не перашкаджала дружыць з Сашкам і Косцем.

## 7

Скончыў я сямігодку.

Вучоба ў гімназіі з утрыманнем каштавала 70 злотых — столькі, колькі каштавала тады карова. Пра гімназію нельга было і думаць. А дзядзька Іван пісаў, што вучыцца ў казанскім інстытуце бясплатна, яшчэ атрымлівае і стыпендыю.

У школе сядзеў я за партай з Васем Курцэвічам з Валілаў. Згаварыліся мы з ім уцячы ў СССР, каб там вучыцца далей. Васеў бацька працаваў на чыгунцы, але паслаць сына ў гімназію таксама не мог.

Падрыхтоўку да ўцёкаў Вася пачаў з таго, што ўкраў у маці кавалак сырой цяляціны, распаліў у пліце і паклаў на дровы мяса пячыся:

— Так амерыканскія траперы рыхтавалі сабе ежу. І нам трэба прывыкаць. Думаеш, на граніцы хто дасць?

Вася быў на два гады старэйшы, а кніжак столькі перачытаў, што мне і не снілася. Я пранікся пашанай да сябра.

Ды Васева сястра, Нюрка, пачула смурод, уляцела з бакоўкі і ўзняла гвалт.

— З глузду з'ехаў? — трэснула яна брату па патыліцы.— Прэч з хаты!

Выхапілі мы цяляціну з агню, выбеглі на двор. Там нас чакала вялікае расчараванне. Мяса было такое нясмачнае, агіднае — не праглынуць. Што за дзівакі былі тыя траперы?!

Аднак ад задумы мы не адракліся.

Мама насушыла на дарогу сыроў, нарыхтавала кілбас. Бацька, хмыкаючы, склаў усё гэта ў вялізную кашолку, перавязаў вяровачкай (хмыкаў ён заўсёды, калі хваляваўся). Гаварыла адна мама:

— Тут дабра не дачакаешса, сынок, ідзі туды...

— Я ве-едаю! — не цярпелася мне.

— І не дурэй там, а — вучыса...

— О, пачняце ўжо зараз!

— Калі знойдзеш дзядзьку Івана ў Казані, то слухай яго.

— Ла-адна...

— Нябось, буду пра цябе ад яго ведаць усё-о, не думай, што мяне абдурыш!

— Трэба мне вам маніць, от вы-ыдумалі!

— Дык пішы, сыночак, з Расеі нам...— усхліпнула яна, цалуючы на развітанне.

Гэтую сцэну бачыў Вася, было сорамна перад ім.

— Ну, бу-удзе вам! — вырваўся я з абдымкаў.

— Ладна, не прыставай да чалавека! — заступіўся бацька.— Будзеш у Маскве, то адрас дзядзькі Аляксея ведаеш: Малы Галавін завулак... Але глядзі сам, як хочаш. Хлеба, Алёшка, я табе адно паўбаханкі паклаў, бо счарсцвее хутка — пераскочыў хутчэй ён на другое.— Хлеб танна каштуе, дакупі сабе ў Баранавічах, не забудзь, свежага.

— Дакуплю-у!

— Соль тут, у карабку ад запалкаў!

— Знайду-у!

— Ну, то валяй...

Пабралі мы харчы, рушылі на станцыю.

## 8

Да Баранавіч даехалі мы цягніком, а далей пабрылі пешшу.

Пару дзён праблукалі мы ў палескіх балотах за Ганцавічамі ля вёскі Колкі. Граніцай тут служыла рэчка Морач. Ні я, ні Вася плаваць не ўмелі і ледзь не патапіліся.

Заглянуўшы смерці ў вочы, выкараскаліся на купіны, пачалі абсыхаць. Мяне нібы токам ударыла — увесь дрыжаў і аслабеў так, што не мог падняць рукі да носа, сагнаць авадня.

Днём за рэчкай пачулася стракатанне матора. Гэта мог быць толькі трактар. І вядома, савецкі. Я ведаў нават, колькі цяпер трактароў у СССР. Адзін з іх перада мной! У Страшаве так многа пра іх гаварылі, спрачаліся, марылі, а я яго ўжо нават чую. Хутка — дакрануся рукой.

Дакупіць хлеба ў Баранавічах мы паленаваліся. Масла ад гарачыні расплылося, працякло праз анучку. З бацькавых харчоў у кашолцы атрымаўся тлусты камяк з сыра і кілбас, як макам, густа ўтыканы мурашамі. Здалося, есці гэта мы ўжо не зможам. Не бяда. Няхай толькі сцямнее, перабяромся цераз раку. А там, у Саветах, нас накормяць. Навошта насіць цяжар, хіба мы вярблюды?.. Не маленькія, да вечара вытрываем.

— Вася, кідаю кашолку з сырам, усё роўна хлеба няма! — сказаў я да старэйшага.

— Глядзі, каб пагранічнікам след не пакінуць!

— Не вучы вучонага!

Цяжар плюхнуў у ваду, я закідаў яго купінамі.

Пасля нам давялося яшчэ трое сутак блукаць па кустах і дрыгве, успамінаць матчыны харчы. Хоць бы кавалачак сыру, кілбасы, хоць бы размоклы, з мурашамі, чарвівы... Нам бы цяпер тую цяляціну, што з Васем смалілі на дровах!

Сябра пачаў лаяць мяне. Я зазлаваў: «Ты яшчэ параіў, каб схаваць ад салдат!»

Мы ўжо ледзь не біліся і гэтак узненавідзелі адзін другога, што не маглі глядзець. І разысціся не маглі — аднаму было страшна.

Тым часам голад не меншаў.

— Во, зноў ягады! — каторы раз нагінаўся Вася.

Ягадамі так напоўнілі жываты, што ні дыхнуць, ад аскомы не паварушыць сківаццамі.

Спрабавалі есці кару, травы — горкія, не праглынуць.

Пілі балотную рудую ваду...

Урэшце выбіліся з сілы зусім. Блізарукі Вася да таго ж згубіў акуляры.

Ноччу ў лясным гушчары мне, скусанаму камарамі, прыснілася мама. Прачнуўся я і расплакаўся — страшэнна захацелася дамоў. А да дому было далёка! Навокал усё — чужое, дзікае...

На шчасце, Вася спаў і не бачыў маёй слабасці.




Бацька не вытрымаў, праз тыдзень суседзям абвясціў:

— Пайшоў Алёшка ў Расею. Ён у нас нічога не баяўся. Ноччу, бывала, забрэша сабака на панадворку, ён сабе ўстане, выйдзе на двор, пастаіць, паслухае (на самай справе я засынаў так, што не прачнуўся б, калі б нават гарэла хата!)... Цяпер мне самому даводзіцца ўставаць. Дома сумна, хоць вешайся!..

Покуль ён так хваліўся, я, згаладнелы і абарваны, у кустах чакаў змроку. Прыцямнела — нарвалі мы бручкі і пабрылі праз капуснае поле, каб яшчэ раз паспрабаваць шчасця перайсці граніцу ў сухім месцы. Дарога вяла ў невядомае. Валокся я неахвотна, трызніў домам.

Я ўяўляў, як у гэтую хвіліну на хутар прыйшла з пашы жывёла і ад кароў нясе такой роднай сытасцю, цяплом. Вось бацька з Валодзькам ганяюцца па падворку за дурнымі авечкамі, каб зачыніць іх у хлеў. Маці збіраецца даіць кароў. У кухні на пліце кіпяць гаршкі з вячэрай. На стале — прыкрыты ручніком бохан хлеба, а над ім прыкручана лямпа. Покуль згатуецца страва — адрэж лусту, пасып буйназярністай соллю, каб пад зубамі аж хрумсцела, набяры жменю зялёнай цыбулі ці што сабе хочаш...

За нашым домам здзіўленыя і пакрыўджаныя — Марцінаў Сашка і Настусіна Верка. Вера глядзела з папрокам...

Успомніўся плач мамы, калі яна мяне праводзіла,— толькі цяпер стала яе шкода.

Думка некуды ісці здалася ўжо такой недарэчнай, наіўнай, што я сам сабе паказаўся вялікім дурнем. Захацелася завярнуцца і на крылах паляцець дамоў. Толькі што скажаш там у апраўданне? Нябось, усё Страшава ўжо ведае пра маё знікненне!

Раптам на фоне неба я выразна ўбачыў пагранзаставу і вартавога ў браме: мы ішлі проста на іх. Зямля стала ўжо роснай, мяккай, нас не чуваць. Звярні між радкоў капусты з завяззю, абыдзі пост і зноў растанеш у цемры.

Але я ўзрадаваўся: калі вартавы нас затрымае, то накіруе дамоў, зноў будуць хлеб, ежа, маці, бацька, страшаўскія сябры, Валодзька...

Далей са мной адбылася дзіўная рэч.

Нібы ўжо не я крочыў па дарожцы проста на пагранічніка і вёў сляпога Васю. Гэта рабіў нехта чужы, хто сядзеў ва мне, а сам я тым часам аднекуль ці збоку, ці зверху з жахам назіраў за ўсім і думаў аб выніках. На заставе будуць нас біць. Я раблю подласць таварышу. Так несумленна. Бацькі ўкладалі ў мой паход столькі надзеі. На білет бацька вазіў у Гарадок бычка прадаваць...

— Стой, не варушыцца! — крыкнуў пагранічнік і асвяціў нас батарэйкай.

Найсамперш я здзівіўся, што святло такое рэзкае, яно асляпіла мяне, нібы ўдарыла па галаве, раздзела, і я адчуў сваю нікчэмнасць.

— Кідай што ў руках! Рукі ўверх! — крычаў папольску.

Я выпусціў бручку і падняў рукі.

Усё было скончана так нечакана і хутка, што я не паспеў ні спалохацца, ні ўзрадавацца ад таго, што мяне злавілі. Толькі недарэчы... пашкадаваў бручку.

## 10

На пагранзаставе пры вобыску ў мяне знайшлі стары кішанёвы гадзіннік — той самы, які я некалі з Валодзькам паламаў. Было відаць, што ім ужо гадоў дзесяць ніхто не карыстаўся, але якраз гэта і насцярожыла начальніка заставы.

Афіцэр мучыў нас пытаннем — навошта мы ўзялі з сабой непатрэбную рэч? Не атрымаўшы тлумачэння, паручнік разабраў механізм да вінціка, да калёсіка. Узяў нават лупу і не мог надзівіцца — усе дэталі нікудышныя. Тады ён прыстаў да нас з пытаннем пра шыфр.

Бедны, ніяк не мог уцяміць — паламаны гадзіннік мы ўзялі проста для рамантыкі.

З пагранзаставы нас даставілі ў часць. Там адразу абкружылі салдаты. Сонныя, аслабелыя і абыякавыя да ўсяго, бачылі мы іх нібы праз слой вады, праз імглу.

— А-а, бальшавікоў захацелася вам?! — узяўшыся ў бокі, пачаў кпіць з нас нейкі тып.— Папа-аліся, птушачкі!

— Дурань! — абрэзаў салдата капрал.— Яны не чаго-небудзь, а вучыцца туды ішлі, зразумеў? Не шкодзіла б і табе розуму дзе-небудзь прыкупіць!.. Бяры, афэрма, два кацялкі, бяжы на кухню і прынясі супу. Ды — мігам: адна нага тут, другая — там!

З казармы перавезлі нас у Клецк. Там суддзя вызначыў нам па тры месяцы ўмоўна.

Крыху патрымаўшы нас абодвух у каталажцы на хлебе і вадзе, паліцыянт у цывільным павёў нас у нейкі склеп.

— Грошай выдзеляць, каб дамоў даехаць! — шапнуў Васіль па дарозе.

Бацькі на білеты грошай далі толькі ў адзін канец. Не ісці ж нам цяпер усе трыста кіламетраў! Паліцыянт меў элегантны шэры касцюм, твар — панскі, сур'ёзны. Я Васю і паверыў. Толькі чаму грошы даюць у склепе?

Унізе было пуста. За акенцамі ля столі мільгалі шматлікія ногі гараджан. Пакуль мы на іх дзівіліся, паліцыянт з шафы выняў бамбукавы кіёк.

— Хадзі сюды, хадзі, золатца,— пячатак настаўлю табе на развітанне,— яхідна паабяцаў пан.

Вася не паспеў і апамятацца, як пан жоўтым туфлем падчапіў за пад'ём яго нагу пяткай уверх і з усяе сілы стаў біць кіем у падэшву. Сябра, дзівак, сыкаў і цярпеў.

Калі дайшло да мяне, я ўзняў крык, нібы з мяне здзіралі скуру. Праходжыя спыняліся, заглядвалі ў вокны, і паліцыянту давялося бамбук хаваць за спіну.

— А ну, сціхні! — зашыпеў ён.

Паліцыянт доўга мяне лаяў. Але варта было яму ўзяцца за бамбук, як я пачынаў верашчаць зноў. Так ён і мусіў адпусціць мяне без хрышчэння.

— Ты што, не мог таксама схітраваць?! — з большым, чым трэба, абурэннем напаў я на сябра, калі мы засталіся адны.

Разгублены Вася вінавата маўчаў.

Увесь час я сябе абзываў нікчэмнасцю, здраднікам: падгаварыў Васю ісці за мяжу, першы ўбачыў заставу, здалёк разгледзеў і пагранічніка, але паддаўся наўмысна, подла выдаў таварыша. Цяпер жа ўмеў сябе ўпэўніў: Вася размазня, так яму і трэба.

## *РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ*

### 1

Вярнуўся я дамоў — і раптам вырас у вачах сваіх людзей. Падпольшчыкі адразу прынялі мяне ў камсамол.

Сакратаром нашай ячэйкі быў кравец Валодзька Цішэўскі — сын цёткі Кірыліхі. Мне лесціла, што і Кірылішын Валодзька, і іншыя хлопцы — шмат старэйшыя, а вось я ім раўня.

Кірылава хата стаяла ля самага лесу, як і наша. З браўнінгам у кішэні, які мы з Сашкам калісьці знайшлі ў зуброўскім хвойніку, дабіраўся я да Валодзькі кустамі, а тады асцярожна, каб не чуў сабака, прабягаў пару загонаў поля, прытойваўся ля сцяны. У бакоўцы пад акном Валодзька карпеў над швейнай машынай — са зрэбніны шыў нагавіцы, пінжакі (краўцом ён быў неважнецкім, мама аддавала шыць на мяне і брата ў Гарадок). Я кідаў у шыбу жменю пяску. Валодзька адчыняў акно, памагаў мне ўлезці і слухаў маю справаздачу.

Потым мы з Валодзькам кудысьці ішлі на спатканне з чалавекам, якога пасля ніколі ў жыцці не бачылі. Хавалі незнаёмых у гумне, насілі ім ежу. Былі людзі, якія перапраўлялі іх далей, за мяжу. Сляпыя і глухія ад шчасця, якое іх спаткала, нас такія нават не заўва-

жалі, чакалі толькі, каб загаіліся пабітыя ў дыфензіве пяткі.

Аднаго разу ноччу пастукаўся да нас у акно Турак Іван з Ярылаўкі. Ён быў сакратаром падпольнага райкома партыі. Яго з сябрамі паліцыянты завезлі ў Ялоўку, кінулі ў халодную. Тураку пагражала пятнаццаць гадоў турмы. Арыштанты выламалі краты, вылезлі з халоднай і прыбеглі ў Страшава. Бацька склікаў ячэйку, яна вынесла пастанову — сабраць хлопцам на дарогу грошай і адправіць у СССР.

Я ўжо забыўся, як плакаў на граніцы ў балотах, як страшэнна хацелася дахаты. Няўжо я сам здаўся пагранічнікам? Стараўся выкінуць свой учынак з памяці і таксама зайздросціў Тураку. Шчаслівец, ідзе ў казачную краіну, дзе Днепрагэсы, Кузбасы, трактары, а дзядзька Іван у Казані не дачакаецца пляменніка — бацькі намякалі ў пісьмах пра мяне...

Праз пару тыдняў вярнуўся Турак, схуднелы і абарваны. На граніцы ўзнялася страляніна, сябры мяжу праскочылі, а ён не паспеў.

Ячэйка зноў выносіла пастанову, збірала грошы. Бацька цяпер для маскіроўкі даў хлопцу касу і торбачку з ежай. Гэты раз Турак граніцу перайшоў.

## 2

Пераносілі мы і пакеты з кніжкамі, брашурамі, пракламацыямі. Гэтую літаратуру браліся не раз чытаць, але яна была напісана такой цяжкаю для нас мовай, што мы хутка пачыналі драмаць, прымалі ўсё на веру. Таксама адносіліся да дакладаў на сходках.

Сходкі адбываліся ў лесе, дзе-небудзь на паляне.

Людзі папрыходзілі з вёсак, з Гарадка. Прыйшла і мая кампанія — Міша Толуць, Мікалай Яроцкі, з якімі хадзілі біць штрэйкбрэхерам вокны ў Вераб'ях, з Ванем Кулешам, Сашкам Кандрусікам, Толікам Парэмскім — вучыліся. Іхніх твараў у цемры не пазнаць, але кагосьці шукаць нам не дазвалялі законы канспірацыі.

З'яднаная напружаным чаканнем і ўсведамленнем сваёй значнасці гурма ўзбуджана калыхалася, шастала сухой травой, напаўняла змрок нервовым шэптам. Усё было таямніча, незвычайна, да жудасці рамантыч-

на і незабыўна, давала прастор рызыцы, будзіла фантазію, пачуццё салідарнасці.

У гушчы змоўшчыкаў, з'яднаных адной мэтай і небяспекай (удзельніку сходкі пагражала чатыры гады турмы), сваіх сяброў я адчуваў толькі сэрцам.

— Ты чаму шапку не зняў! — вынырнуў з цемры Вінцак Грабцэвіч і збіў з мяне кепку.

— Навошта ён так?

Вінцак — нібы яго бацька. Ішоў я калісьці са школы, а стары Грабцэвіч ехаў  паражняком. Толькі я пачапіўся на задок, а Грабцэвіч мяне — пугай!..

Але кепку трэба было зняць самому, я вінаваты. Добра, ніхто нас не бачыў. Такі тут важны, а от браўнінга не маеш!..

Не паспеў яшчэ я праглынуць крыўду ад Вінцака і прыдумаць помсту — Цішэўскі Юлік нешта аб'явіў. Стогалосы шэпт і шорганне ботаў раптоўна сціхлі. Яшчэ малады інтэлігентны мужчына абапёрся плячыма аб сасну, нацягнуў для канспірацыі шапку на вочы, пачаў лекцыю. Словы яго паліліся гладка, нібы ён чытаў з паперкі.

Гэтую працу Леніна я асвоіў толькі пасля вайны, у інстытуце. Лектар гаварыў пяць, дзесяць, дваццаць хвілін, а я ўсё нерухома сядзеў на траве, разявіўшы рот, як іншыя, і быў заварожаны магічнасцю незразумелых слоў, упіваўся такой глыбокай вучонасцю, што аж кружылася галава.

Прызвычаеныя да канкрэтных разуменняў сялянскія галовы абстракцыі не ўспрымалі. Але і астатнія слухачы праніkліся да сябе пачуццём значнасці з-за справы, якой сябе ахвяравалі. Зноў адбывалася магічнае яднанне душ і людзей.

Зачараваныя, узбуджаныя, мы забываліся на камароў, слухалі чалавека.

«От жа-арыць!.. І хто? Не поп, не ксёндз, не пан нават, а наш, з ЦК, з СССР! Прывядзі сюды самога войта і — ні шыша не зразумее!»

Лектар скончыў. Цішэўскі аб'явіў:

— Хто да таварыша мае пытанні?

Дзівак, хіба яны могуць быць? Пытацца — ставіць пад сумненне. Гэта ж — словы Леніна: крыштальна чыстая, неўміручая, адзіная і канчатковая праўда.

— Ну, каму што незразумела?

Ліха яго ведае, задасі пытанне, пакажаш, які з цябе дурань...

Пакуль загадаць разыходзіцца па адным розымі дарогамі, Юлік з цеплынёй сказаў:

— Дзякуй вам, таварыш...

Усім сэрцам адчулі мы промні, якімі праз гэта слова дакрануўся ён незвычайнай асобы.

Каб Юлік загадаў памерці за тое, пра што лектар гаварыў, або знікнуць са свету за камсамол, партыю, то кожны з нас палічыў бы гэта за вялікае шчасце.

Горды, шчаслівы, прабіраўся я з мітынгу напрасткі полем, ля застылых у глыбокім сне суседскіх хутароў. Ляцеў як на крылах, бо нават не пачуў мяне сабака Грушэўскіх. Справа маячыла хата Марціна, злева — Настусі.

Удава мела толькі адну прызваітую рэч — бляшаную шыльдачку для паштальёна, якая вісела на шчытавой сцяне хаты. Нумар Настусінага дома і прозвішча на шыльдачцы былі акуратна намаляваны белай фарбай на сінім фоне, польскія паліцыянты за гэтым сачылі. У астатнім — ні хлеўчыка, ні кусціка, ні калодкі не было ля Настусінай хаціны, бо нават дровы яна з дочкамі секла на парозе, ад чаго і высеклі ў ім за шмат гадоў седлавіну.

Браўнінг, які мы з Сашкам калісьці прынеслі з зуброўскага хвойніку, убачыў дзядзька Марцін і цацку адабраў. Нядаўна Сашка палез чысціць калодзеж, знайшоў яго і зноў прынёс мне. Малайчына, цяпер яго халоднае жалеза адтапырвала мне кішэню. Спі сабе, Вера, спі, Сашка. І ты спі, Косцік. Я займаюся справай і за сябе і за вас...

...Вынік чытанняў і слуханняў быў такі, што некаторыя хлопцы лавілі на ляту вучоныя фразы, потым імі бравіравалі, а мы зайздросцілі сябрам, лічылі сябе нікчэмнасцямі.

Дружна мы білі правакатараў на музыках або лупцавалі іх, падпільнаваўшы на вуліцы.

Падпальвалі будынкі прадажнікаў, іхнія стагі сена...

Не ў кожным выпадку браў я ўдзел. Але кожны выпадак я так перажываў, што мне здавалася, нібы і я быў удзельнікам.

## 3

Ацэньваючы сябе цяпер крытычным вокам сталага чалавека, я бачу, што падзеі для нас тады былі галоўным чынам гульнёй, выпадкам, каб быць на відавоку, паказаць сябе арыгінальным, самасцвердзіцца, без чаго жыццё юнака траціць сэнс. Над намі патрэбна была рука, але нашым бацькам было не да нас.

Парадак з намі трэба было навесці даўно. Я не ўпэўнены, ці рабіць тое, за што браліся, мы мелі маральнае права.

Мікалай Лявончык любіў бравіраваць фразамі з брашур і дакладаў, а мы яму зайздросцілі.

Мікалай не ведаў, як там было на самай справе на граніцы, глядзеў на мяне, як на героя.

Ляжалі адной нядзелі хлопцы пад бэзам і жарылі ў падкіднога. Як толькі канчалі гульню, Мікалай кожны раз уздыхаў:

— Хопіць, мусіць. Халера, трэба ісці ногі памыць, маці сварыцца будзе...

— Ла-адна, сходзіш яшчэ, здавай!

— Ну, хіба апошні раз...

Гэтак Мікалай дацягнуў да вечара. Там ужо не было сэнсу ногі мыць: раніцой на рабоце забрудзіш зноў, а нядзеля — прайшла.

Аднаго разу ішоў ён па вёсцы і ля Тадорыхі ўздумаў перадаць мне брашуру. Ён не падаўся са мной туды, дзе няма дамоў. Яшчэ здалёк сваім выглядам даў зразумець — нешта перадасць. Правай рукой залез у левую кішэню (хоць левая рука была свабодная) ды стаў набліжацца — напружана, нібы намерваўся сekaнуць мяне шабляй.

Параўняўшыся, сунуў мне брашуру і са змоўніцкім выглядам пакрочыў далей.

Гэта ён рабіў дзеля Тадорышыных дзяўчат, якія, магчыма, глядзелі праз вокны хаты і бачылі, што ён не проста Мікалай, Міхалкавага Васіля сын, у якога яшчэ шасцёра мурзатых братоў і сясцёр...

Я таксама з-за Настусінай Веркі выкідваў конікі.

За вёскай, на скрыжаванні дарог, стаяў абеліск пану Златніцкаму, у якога некалі наш дзед купіў участак зямлі. Бабкі спыняліся перад абеліскам і маліліся, бо на ім стаяў чыгунны крыж з распятым Хрыстом.

Ішлі мы аднаго разу аднекуль кампаніяй, і я быў увесь заняты толькі тым — што-небудзь упароць.

— Валодзька, давай паб'ём крыж! — прапанаваў я брату.

Брат стараўся ад мяне не адстаць. Узяліся мы выдзіраць крыж і спяваць:

А мы і чорту скру-цім ро-гі,
Бо-огу вы-ырвем ба-ра-ду!..

Вера нас сарамаціла, упрошвала. І гэта мяне распаліла яшчэ болей. Я разбіў крыж аб камень на дробныя кавалачкі і радаваўся, што давёў дзяўчыну да плачу.

Праз акно нас убачыў дзядзька Салвесь, вылецеў з хаты і расплакаўся таксама. Я апамятаўся.

Дзядзька не пана шкадаваў. Ён быў і бязбожнік. Чалавек плакаў, што нягоднікі зганьбавалі сімвал, якому пакланяліся продкі.

Дома нас чакала лупцоўка ад мацеры.

Салвесь завёз кавалкі чыгуна да каваля ў Гарадок, яўрэй Мэндаль узяў іх у клямары, дзядзька ўставіў крыж у камень, заліў яго цэментам. Толькі тады ў мяне адлягло ад душы.

## 4

Раптам па Страшаве папаўзла жудасная вестка: быццам былыя беларускія паслы Валошын, Тарашкевіч, Мятла, Дварчанін, Рак-Міхайлоўскі, якія паехалі ў СССР,— ворагі народа!

У нашу хату пранікла чутка, што ў казанскім інстытуце арыштавалі дзядзьку Івана, бо ён быццам бы — амерыканскі шпіён.

— Та-рашке-евіч? — не верылі людзі.

— Ён пра-да-аўся?!

— Яго ж ведалі і ў Парыжы, і ў Вене!

— Во, во! Ездзіў па Парыжах і Венах за нашыя грошы і знюхаўся там!

— Не можа гэтага быць, хлопцы, брахня ўсё!

— То паслухай, што людзі гавораць! Дыму без агню не бывае!

— Няўжо прадаўся?! Такі, здаецца, праверany, свой...

— А Павел Валошын? Калі яго жулікі пабілі, то мы, пабраўшы сякеры, праводзілі яго на фурманцы да доктара. Павел думаў, што памрэ, і перад смерцю ўсё прасіў: «Хлопцы, толькі не паддавайцеся, каб не дарма была пралітая наша кроў!»

— А выходзіць?!

— Каму ж тады можна даверыцца, калі ўжо такія прадаюцца?!

— Не магу, не магу паверыць! Усё гэта паны, сволачы, выдумалі, каб збіць людзей з тропу!

— Не трэба слухаць, што брэшуць пілсудчыкі. Правакацыю пускаюць! Іхнія газеты што хочуць, тое і пішуць!

— Правака-цыя, па-твойму?! Мне ўчора ў Беластоку, думаеш, брахалі людзі?!

Мужчыны ледзь не бралі адзін аднаго загрудкі.

— Не ведаю, як там вашыя паслы, але наш Іван пайсці супраць сваіх не мог! — цвердзіла мама.— Не мог пайсці супраць сваіх людзей, не мог быць шпіёнам, каб невядома што там было!

Прайшоў яшчэ нейкі час, і ўжо з'явіліся ў польскіх газетах артыкулы.

— Брэшуць паны, свалата...— няўпэўнена спрабаваў яшчэ бараніцца бацька.

Вёска яшчэ доўга не магла паверыць. Пра ворагаў народа загаварылі і па радыё з Масквы і Мінска. Імі сталі ўжо і Тухачэўскі, Блюхер... Дыктары паведамлялі з такой упэўненасцю, абурэннем, што мароз па скуры праходзіў.

— Што натвары-ылаca!

— Мусіць, так трэба. У Маскве — разумнейшыя за нас, ве-еда-юць, што робяць...— з болем, уздыхаючы, мірыліся землякі.

— Сталіна не правядзеш, ён усё-о бачыць...

— І навядзе парадак са шпіёнамі, як навёў з буржуямі і нэпманамі!

А з гэтым паверылі ў подласць, здраду. Пачалі адзін да другога прыглядацца, адзін аднаго баяцца, не давяраць.

Страшаўскія камуністы, камсамольцы і сімпатыкі сталі шукаць ворагаў вакол сябе. Сусед пачаў насцярожана прыглядацца да суседа, таварыш не верыць таварышу, а сын — бацьку. Настаў спрыяльны момант

для парахункаў. Уступіў у дзеянне механізм самаабароны нашай псіхікі — у асабістым ворагу хутка мы пачынаем бачыць і ворага грамадскага.

## 5

У дзяцінстве мне давялося бачыць дзіўную з'яву.

Паяўляўся ў вёсцы значны чалавек — і вёў яе за сабой. Людзі да яго гарнуліся, пераймалі. Галоўную ролю тут, мабыць, адыграла імкненне да лепшага. З маленства маці вучыць цябе браць прыклад з чалавека, у якім яна мо падсвядома адчувае штосьці асаблівае.

Такім героем зрабілі ў нас людзі Юліка Цішэўскага. Самі яго зрабілі, самі потым з ім і распраўіліся.

...Вярталіся аднаго разу нашыя хлопцы ноччу праз стойбішча ў Каралёўскім лесе. Юлік чагосьці адстаў, і ў гушчары на яго накінуўся згаладнелы ці ашалелы воўк. Покуль сябры дабеглі, Юлік задушыў звера голымі рукамі. Пра здарэнне нават пісала беластоцкая газета і паслала хлопца на бясплатныя ўколы ад шаленства.

— Што-што, а ваўкоў ведаю до-обра,— апусціўшы галаву, казаў мой бацька.— Хлусяць усе. Юлік сабаку задушыў.

Пры людзях бацька маўчаў. Як бы і ён знаходзіў выгоду, здавальненне і прыгажосць у Юлікавым гераізме.

Бацька таксама лічыў, што з мужчын Юлік найлепш ведае, што робіцца на свеце, не палезе ў кішэню па слова ні перад войтам, ні перад паліцыянтам.

Аднойчы з Юлікам счапіўся Іван Антончык. Бацька хлопцаў расцягнуў. Разняў іх лёгка, як кацянят. Праўда, Юлік за бацьку ростам быў ніжэйшы, але бацька лічыў яго асілкам.

Летам мы вячэралі. Зайшоў Юлік, і бацька запрасіў хлапца да стала.

— Ужо вячэраў. Ледзь не тры талеркі морквы на малацэ выхлябаў, жывот — як барабан!

Адкуль брацца той сіле?

Страшаўцы трызнілі веласіпедамі, ды машыны былі надта дарагія.

— У Беласток прывезлі савецкія — амаль задарма! — прынёс аднойчы Юлік вестку з Гарадка.

Хлапцу надта хацелася мець свой веласіпед, і ён паверыў плётцы. Паверыў лёгка, як цётка Кірыліха.

Запомніўся яго погляд і на літаратуру.

Аднаго разу я вярнуў Юліку нудны для мяне томік. Хлапец выслухаў маю крытыку і ажывіўся:

— Разумееш,— не спадабаласа і мне!.. Прывёз яе з Гарадка, вечарам сеў чытаць і бачу — прыпсаваная. Усё ідзе ў ёй добра, добра, і раптам пісьменнік пачне выводзіць заход сонца, і, здаецца, ты бачыш, як сядае яно за гарызонт!.. Спахапіўся — цьфу! Каму гэта патрэбна?.. Не меў, далібог, чалавек што рабіць!

Адным словам, Юлік быў крыху больш разумнейшым страшаўцам, ды на яго долю выпала пачэсная роля быць прыкладам, духоўнай апорай людзям. Хлапец гэта добра адчуваў і, шануючы веру землякоў, не даваў прычыны для расчараванняў.

Збяруцца жанчыны ў нядзелю пад плотам і зайздросцяць сяброўцы:

— Цётко Сахарыхо, як гэта вам, удаве, на пяці гектарах пясочку ўдалоса выгадаваць такога файнага сына?

Сухая жылістая Цішэўская гордасцю маўчала. Толькі яе вочы свяціліся маладым шчасцем.

І вось закахалася ў Юліка Казлова Надзя з Бялявіч — непрыгожая, мо яшчэ «мікалаеўская» дзеўка. Яна працавала ў Беластоку служанкай у багацеяў. Юзіку яна не падабалася. Ён пакахаў Надзіну сяброўку і ажаніўся.

Аднаго разу паліцыя арыштавала Юліка, але не было доказаў віны, і мусіла выпусціць. Тады нехта подла шапнуў:

— А-а, выпусцілі!.. Думаеш, так?! Бо, мабыць, Юлік ім прадаўса!

Ніхто чамусьці не хацеў заўважаць, што найбольш старалася разнесці па людзях гэтую чутку помслівая і зайздросная Надзя Казлова.

Як бы настала такая мода. Некаторыя нібы гэтага толькі і чакалі, з бруднай падазронасці ўраз зрабілі «праўду» і паверылі ёй.

Пасаромлены некалі Юлькам меляшкоўскі Вінцак Грабцэвіч надта любіў уладу. Ён прагна хацеў яе. Яго раздражнялі Юлікава разважлівасць і аўтарытэт. Цяпер Грабцэвіч аж узрадаваўся:

— Памятаеце Вераб'і?! — нагадаў ён усім.— Памятаеце, як Цішэўскі абараняў шляхту, не даваў біць ёй вокны?! Я ведаў — ён яшчэ тады знюхаўся з панамі!

І фанатычная галава вызвалася пакараць «здрадніка». Яшчэ спрабавала ўцягнуць і мяне ў злачынства.

Аднаго зімовага вечара паіў я ля студні быдла і ўбачыў, што ад чыгункі нехта ідзе. Адставіў я вёдры, пайшоў да брамкі.

Увабраўшы галаву ў кажушок, да нас крочыў сваёй спружыністай паходкай меляшкоўскі Вінцак Грабцэвіч. Ля плота ён спыніўся, насцярожана абвёў вачыма падворак. Пераканаўшыся, што мы ўдваіх, хлапец павярнуў да мяне хударлявы твар, кіўнуў на прывітанне галавой ды прыступіў да справы.

— Алёшка, браўнінг у цябе?

Я адразу здагадаўся, што ён задумаў, і амярцвеў. Не змог выціснуць з сябе нават слова.

— Маеш яшчэ браўнінг? — нецярпліва паўтарыў ён пытанне.

— Не-а! — матнуў я легкадумна галавой.

— Брэшаш? — ужо больш рашуча і з пагрозай пристаў Вінцак.

— Даўно ўжо не маю, што-о ты!..— стаў я апраўдвацца.— Ён быў не мо-ой, я мусіў адда-аць!..

Хлопец адразу страціў да мяне цікавасць.

Вінцак не развітаўся, а, нездаволены мной, павярнуўся і пакрочыў да пераезда сваёй энергічнай паходкай.

## 6

Страшаўскага самародка забілі ноччу.

Юлік сеў за стол вячэраць. Падняў лыжку са стравай да рота — і ў той жа момант ад стрэлу ва ўпор з паляўнічай стрэльбы пырснулі падвойныя шыбы, згасла лямпа. Юлік атрымаў кавалак волава ў скроню ад былога сябра, з якім правёў не адзін мітынг, разам сядзеў у халоднай на пастарунку.

Вінцак яшчэ ў тую самую ноч, не астыўшы ад забойства, стаў новым сакратаром падпольнага райкома.

— Сабацы — сабачая смерць! — з жахам пачуў я ад Марціна каментарыі да трагедыі.

— Запаганіў адно вёску, заменак,— са шкадаваннем падсумаваў бацька.— Дагэтуль Страшава прадажнікаў не мела!

А я ў яго хацеў для Юліка шукаць ратунку!

Бацька на нейкі час мне стаў чужым і страшным, як тады, калі выгнаў з хаты Зубкоўскага Рамана.

Страшаўцы былі не такія кепскія людзі, я бачыў, як сардэчна адносіліся яны да хворага Доўгага Мікалая.

Немагчыма было зразумець паспешлівасць, з якой людзі паверылі ў здраду чалавека, перад якім яшчэ ўчора схіляліся. Мне было крыўдна, мучыла бяссілле, што нічога не зменіш.

Не звышпразорлівасцю і не асаблівым талентам я дайшоў да таго, што Юлік невінаваты. Часамі ў складаных і заблытаных справах дастаткова звычайнага дзіцячага ўспрымання (як з Кавалішынай іконай), каб адрозніць фальш ад праўды.

Зрэшты, уся трагічнасць выпадку дайшла да мяне значна пазней, калі я сам сабе зарубіў на носе, што жыццё — суровая барацьба за праўду, да якой увесь час заблытанымі і цяжкімі шляхамі імкнецца чалавецтва.

Адразу пасля стрэлу заляцеў я адным з першых у асірацелую хату Цішэўскіх і з жахлівым недаўменнем застыў над трупам свайго настаўніка і друга.

Ён валяўся на падлозе ў лужыне крыві з прастрэленай галавой.

Ніяк не хацелася паверыць, што свет такі бесталковы, бязлітасны, помслівы і суровы.

У хату ўвайшоў паліцыянт Бурсевіч, які выпадкам апынуўся ў вёсцы. Паліцыянт патрымаў хлапца за запясце, паспачуваў:

— Юлік, Юлік, да чаго давяла цябе палітыка... Ці я табе не раіў кінуць усё да д'ябла?!

У наступную ноч стараста вёскі вызначыў людзей вартаваць труп. Чарга выпала на нашу хату і Настусіну. Бацька на варту выправіў мяне, а Настуся паслала дачку. У кампаніі страшаўцаў паўночы прахадзілі мы з Веркай у Цішэўскіх пад акном, у якім замест шыбаў тырчалі падушкі.

Перад зменай наблізіўся я да Сахарышынага акна. У хаце нехта натужліва шастаў нажоўкай.

— На, ты пілуй, а то я ўвесь спатнеў! — пачуўся голас фельчара з Гарадка.— Ну і моцны ж быў хлапец — як корч!

Камісія ўскрывала Юлікаў чэрап.

Мокрыя шніты нажоўкі і захапленне працавітага медыка засталіся ў маёй памяці назаўсёды, як крык недарэчнай ахвяры.

## 7

Занятыя звядзеннем разлікаў людзі зусім забыліся, што ўрад пілсудчыкаў не дрэмле. А ён ужо даўно ў Беластоцкую акругу КПЗБ заслаў правакатара — Якава Стральчука.

Выхадзец з-пад Бельска, гэты тып, будучы сакратаром падпольнага райкома камсамола, яшчэ ў 1928 годзе завербаваўся на службу ў дэфензіву — тайную паліцыю.

Якава Стральчука як віднага камсамольскага дзеяча ў 1931 годзе паслалі нават у СССР на вучобу. Вярнуўшыся з Мінска, стаў ён ужо інструктарам ЦК. На гэтай пасадзе правакатар за пару гадоў выведаў і вынюхаў многае.

У хатах, дзе Стральчука, інструктара ЦК, хавалі ад паліцыі, кармілі яечняй і скваркамі, нягоднік пакідаў пасля сябе след, каб потым, вярнуўшыся сюды з паліцыяй, было лёгка дзядзьку абвінаваціць, калі той пачне адмаўляцца. Гаспадары пакідалі яго аднаго ў хаце, а мярзотнік запіхваў у шчыліну запіску або перакульваў стол і на дошцы алоўкам выводзіў: сёння, такога дня, тут быў сход камуністаў, на ім прысутнічалі...

Падрыхтаваўшыся гэтак, дэфензіва ў адзін дзень правяла масавыя арышты. Членаў партыі і камсамола забралі ■ усяе акругі. Толькі Вінцаку Грабцэвічу ўдалося ўцячы.

Арыштавалі мяне, бацьку.

Першую ноч правялі мы ў Кушнерчынага Юліка ў Бялявічах. На падлогу Юлік наслаў саломы, нас паклалі ў радочак, апрануты ў цывільнае паліцыянт з наганам стаў на варту. Пакуль што я не адчуваў бяды. Ляжаў і думаў. З кухні даходзіць цьмянае святло ад газовачкі — там плачуць дзеці. За намі прыглуша-

на шапталіся страшаўскія і бялявіцкія мужчыны. Ля дзвярэй — дрэмле на табурэтцы паліцыянт з наганам. Так і ў Меляшках, кажуць, драмаў ён, а Вінцак ціш-ком дапоўз да дзвярэй і — нырнуў у цемру, толькі яго і бачылі!

Адчыніліся дзверы. Увайшла ўжо старэнькая маміна маці, давай прасіць:

— Пано-очку, навошта вы трымаеце майго ўнука, га? Ну, старэйшых — толькі тае бяды, пацерпяць, але малога?.. Ён жа не цацаліст які і не бандыт, не злодзей, не забіў нікога, не абакраў!

— Матко, ён горшы! — пачаў ёй тлумачыць паліцыянт цярпліва, як маломy дзіцяці.

— Чаму?

— Бандыт зарэжа аднаго чалавека, ну, няхай — пяць. Твой жа ўнук замахнуўся на цэлую дзяржаву!

— Ах, бо-ожа, то чаго ён такога там навырабляў, гіцаль?! — не на жарты спалохалася бабка.

Мужчыны зарагаталі.

— Хацеў адрэзаць частку Польшчы і прылучыць яе да бальшавікоў.

— Адрэзаць?..

Бабка развязала вузельчык у хустцы, падала мне залатоўку. Я адмаўляўся ад грошай і аж захлынаўся ад шчасця.

Я, шкет, быў такой важнай персонай для ўрада?

Тып з наганам і не падазраваў, якім камплiментам мяне ўзнагародзіў.

## 8

У Ялоўцы на пастарунку (так называўся паліцэйскі ўчастак) адбылася расправа.

Укінулі мяне ў халодную з нашым камсамольцам Максімам.

Яшчэ я не мог цвёрда трымаць і касы, а ён ужо быў дужы мужчына. Быў нават самастойным гаспадаром, частаваў мяне ліманадам, калі мы ездзілі на веласіпедах у Беласток. Са мной яшчэ дзяўчаты не хацелі і танцаваць на музыках, ён жа лічыўся відным страшаўскім кавалерам. Да ўсяго быў заядлы паляўнічы.

І вось гэта чалавек вярнуўся з допыту, упаў побач са мной на падлогу, хапіўся за галаву і расплакаўся:

— Навошта, ну, на якую халеру, на якога д'ябла ўсё гэта мне?

— Ты чаго, Максім? — спалохаўся я.

— Каб жа мы ведалі, што так усё скончыцца, хіба ўступалі б у гэтыя праклятыя камсамолы?!

Ад здзіўлення я не знайшоў што і адказаць — паляўнічыя былі сімвалам мужнасці і вытрымкі.

Другім вярнуўся з пастарунка пабялелы Мікалай Лявончык.

— Хлопцы, я падпісаў! — аб'явіў паціху, каб не чуў вартавы.

— Што? — не зразумеў я.

— Паперу, што буду ім дакладваць пра ўсё...

Мікалай нібы выстаўляў сябе на суд: вось які я агідны, рабіце са мной што хочаце.

То была першая ў жыцці горыч ад здрады.

Затое ад мяне паліцыянты не дабіліся нічога. Хопіць, што некалі паказаў паліцыянту, дзе вісіць палотнішча, што падвёў Васю да пагранзаставы!.. Усё жыццё чакаў гэтага моманту, каб давесці сабе, людзям, усяму свету, хто я такі на самай справе. Мне можна даверыць. Можаце давяраць найбольшую таямніцу, вы яшчэ не ведаеце, які я!

Гэты самы паляўнічы на допыце сказаў, што я даваў яму грошы на МОПР. Колькі паліцыянты мяне ні таўклі, я не прызнаваўся. Тады зрабілі нам вочную стаўку.

— Аляксей, ты ж мне даваў дваццаць грошаў, калі мы ішлі ноччу з музык, хіба не памятаеш? — паныла, нібы выпрошваў у мяне прызнанне, увесь у сіняках і драпінах, хлапец.

Як і трэба было, я не прызнаваўся ні пра камсамол, ні пра ўдзел у сходках, мітынгах. Аб мопраўскім узносе я ўжо мог бы прызнацца, гэта не парушала этыкі падпольшчыка, але цяпер справа была ў прынцыпе. Я цвёрда стаяў на сваім.

— Не-а.

— Ну, прыпомні!..

— А што я маю прыпамінаць?

— Во, тады яшчэ за намі ішла босая Ясечкава Манька...

— А-а, у грыбаўскім хвойніку? — нібы раптам дайшло да мяне.

— Во-во!
— Калі ў Манькі на танцах адваліўся абцас?
— Ну.
— А яна яшчэ туфлі ў руках несла?
— Несла.
— Дык ты ж, Максім, не гаварыў мне, што на МОПР іх бярэш! Ты проста папрасіў пазычыць дваццаць грошаў, я табе іх і даў! У мяне якраз яны былі!..
— Ну да?!
— Ну да-а!

Так шчыра і эмацыянальна пераконваў я хлапца, што ён ужо стомлена і абыякава прамовіў:

— Не гаварыў?
— Не-а!
— Праўда, не гаварыў?
— Пра-аўда, Максім, ты толькі прыпомні добра! Ну, падумай, успомні...
— А мо і не гаварыў, чорт яго ведае...

Следчаму давялося здымаць з мяне і гэтае абвінавачанне.




Да суда нас адпусцілі на волю. Абавязалі хадзіць па два разы на тыдзень у Ялоўку на рэгістрацыю. Мяне чамусьці вылучылі з кампаніі і загадалі прыходзіць на пастарунак аднаму. Хутка я даведаўся прычыну.

У гэты дзень да Ялоўкі прыехаў я фурманкай. Ля доміка над рэчачкай стрымаў кабылу, прывязаў да плота лейцы і зайшоў, каб распісацца ў рэгістрацыйнай кнізе.

У пакоі застаў цэлы ялоўскі пастарунак — усіх чатырох паліцыянтаў. Не было толькі начальніка.

Паліцыянты атрымлівалі па 360 злотых на месяц, матэрыяльны дастатак прабіваўся нават у іхнім выглядзе. Ладныя цёмна-сінія мундзіры. Бліскучыя, «са скрыпам», боты. Элегантныя манеры. Гладкія панскія твары...

Убачыўшы мяне, паліцыянты зыркнулі адзін на аднаго і змоўклі. Устанавілася атмасфера, нібы вось-вось мела нешта здарыцца важнае.

— Пазвані шэфу! — як бы асцерагаючыся мяне, шапнуў нехта з іх.

Агорнуты трывогай, я папрасіў журнал, каб хутчэй распісацца і ўцячы.

— Потым! — сказаў дзяжурны і націснуў чорны гузік на стале.— Прысядзь!

— Калі ласка! — другі «пастарунковы» падставіў мне крэсла.

Такая ветлівасць насцярожвала яшчэ больш.

У час арыштаў паліцыянтаў памянялі.Ялоўскіх накіравалі ў Гарадок, яны паказвалі сваё майстэрства там. У Гарадку на допытах нехта з іх ліў Сашу Кандрусіку і Толю Пятэльскаму ў нос ваду. Цікава, каторы?..

Ялоўскія паліцыянты ездзілі ў Гарадок і на першамайскія дэманстрацыі памагаць мясцовай уладзе. Мінулы раз камендант нашага пастарунка сябе абсмяшыў.

Сталі рабочыя ў калону, і старшыня фабкома зачытаў, якімі вуліцамі дазваляецца ісці, якія можна спяваць песні. Назваў таксама «Інтэрнацыянал». Ялоўскі камендант на поўным сур'ёзе падказаў старшыні:

— Толькі не трэці, а — другі!

Людзі выбухнулі рогатам.

Нават я ведаў, што дзяленне «Інтэрнацыянала» на першы, другі і трэці адносіцца не да песні.

За тое, што аскандаліўся перад народам, каменданта адразу перавялі кудысьці аж на Украіну.

...На пастарунку мяне ўсё ўгаворвалі:

— Сядай, Кучынскі, сядай, будзь, як у сваім доме!

Сам не свой апусціўся я на крэсла, пачаў азірацца.

Дом быў раздзелены на дзве палавіны калідорам. Мы сядзелі ў першай палавіне, а ў другой была кватэра каменданта. Туды насцеж былі адчынены двое дзвярэй, за імі віднеліся фікус, этажэрка з кніжкамі і дзіцячай лялькай, калыска, пабеленая сцяна. Я нават паспеў заўважыць, што сцяна гэтая была пабеленая вапнай, як у дырэктара Гарадоцкай школы; у нас бялілі мелам, бо вапна маме рукі раз'ядала.

Праз хвіліну цераз адчыненыя дзверы ўвайшоў энергічны чарнявы мужчына ў балахоне, перавязаным шоўкавай вяровачкай, і сеў ля мяне. Ні то ў жаночай, ні то ў мужчынскай, ні то ў ксяндзоўскай вопратцы. Я абмёр.

Толькі цяпер я пазнаў нашага новага каменданта, грознага Клявітара.

Не гледзячы на мяне, некуды спяшаючыся, ён заявіў:

— Прыехаў адзін? Добра! Ты думаеш, мы цябе адлучылі ад кампаніі так сабе? Будзеш нам дакладваць, што робіцца ў вёсцы.

За бар'ерам над аркушам паперы сядзеў напагатове паліцыянт і, бытта я ўжо меўся гаварыць, а ён запісваць, нядобра ўсміхаўся да мяне, спытаў:

— Хто круціць у вас радыё на Мінск?

Наступіла напружанае маўчанне.

Я адчуў, што чырванею. Было няёмка, нават сорамна за іх, дарослых дзядзек, якія падбіваюць мяне, шкета, на ганебную справу.

Праходзіла хвіліна за хвілінай, я ўсё больш чырванеў, мяў пальцамі шапку і не ведаў, куды падзець вочы. Глянуў на падлогу і ўбачыў... валасатыя сінія лыткі каменданта і палатняныя туфлі без заднікаў.

Клявітар адчуў мой позірк, і ўпэўненасць яго адразу некуды знікла. Ён нават прыкрыў ногі палой халата.

За некалькі секунд здарылася нешта важнае. Было ўжо зусім не страшна. І — не сорамна. Мяне ўсяго распірала ад радасці: як пасля допыту, калі яны нічога не дабіліся. Я пранікся гордасцю, пашанай да сябе — я быў самы дужы, шчаслівы чалавек на свеце! Я зыркнуў на вокны. Усе — насцеж. За імі — цяплынь, спявалі птушкі, чуліся галасы ялоўскіх яўрэяў, і я асмялеў да дзёрзкасці.

Паліцыянты зрабілі выгляд, што ніякай прапановы не было.

— На, падпісвайся ў рэгістрацыйнай кнізе! — паклікаў адзін з іх і паўзіраўся на мяне так уважліва, бытта вобраз мой ён захацеў запомніць на ўсё жыццё.

## 10

Не здолеўшы нічога дамагчыся такім чынам, Клявітар перамяніў тактыку. Па дарозе дадому загадаў мне падвезці ў Вейкі Бурсевіча.

Бялявіцкі даносчык Ёзік Госцік разам з Бурсевічам

быў у Расіі ў эвакуацыі, ён і завербаваў Ёзіка для паліцыі, а цяпер ездзіў да дзядзькі па весткі. Хітранькі. У Вейках дачакаецца цямна, адтуль — у Бялявічы... З насцярожанай цікавасцю прыглядаўся я да паліцыянта.

— Ты не злуй, Кучынскі, і не дзівіся,— загаворваў ласкава, даверліва ён.— Думаеш, нам прыемна людзям рабіць прыкрасці? Чорта з два! Але ж, холера ясна, мусіш часам. Сэрца, разумееш, баліць, сумленне грызе, а ты — мусіш. Бо мы — патрыёты, слугі Польшчы. Няўжо і ты не патрыёт сваёй бацькаўшчыны? Ты ж вучыўся ў школе, быў гарцэжам *, скончыў сем класаў, пся крэў, адукаваны. Жыды-камуністы муцяць у нас тут ваду, няўжо мы павінны раўнадушна глядзець на гэта?

«А-а, вунь ты як!.. Дулю бачыў? Я табе не Госцік!.. І не ўнук Юды Іскарыёцкага!»

Бурсевіч якраз тры гады таму назад прыязджаў са старым камендантам забіраць у ваўкавыскую турму майго бацьку за забастоўку лесарубаў. Аж задрыжаў я ад радасці, калі гэта ўспомніў:

— А вы майго тату арыштавалі з-за чаго? Мо ён выступаў супраць Польшчы?.. Супраць беластоцкага буржуя, яўрэя Кацмана! Дык чый вы слуга?!

Нечакана для мяне Бурсевіч зарагатаў. Немалады ўжо і дабрадушны таўсцяк адкінуў галаву, паказаў устаўныя зубы і аж затросся ад смеху:

— Хо-олера ясна, ну і чло-овек з цябе! — штурхнуў мяне яшчэ ў бок.

Нарагатаўшыся ўволю, паліцыянт, як роўнаму, пачаў расказваць анекдоты.

Крыўдна было — нясцерпна крыўдна, што нас ніхто не чуе са Страшава. Хоць бы сядзеў тут паліцыянт Лукашэвіч з Гарадка. Або — Ігнатавага Арсэніка Нінка ці Настусіна Верка, наш Валодзька...

...Бацька мяне астудзіў:

— Пра гэта нікому ні слова! — устрывожыўся ён, калі я расказаў пра сцэну на пастарунку.— Памятаеш, што было з Юлікам?! То і маўчы!

---

* Грамадская арганізацыя школьнікаў у Польшчы.

## *РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ*

### 1

Ліквідацыя КПЗБ і КСМЗБ адбылася адразу на цэлым ваяводстве. Каб перасаджаць камуністаў і камсамольцаў, ураду не хапіла б і камер. Прыгаворы з турэмным зняволеннем суддзі выносілі адно сакратарам ячэек і тым падпольшчыкам, якія западозрылі ў забойствах правакатараў.

Бацька не быў ужо сакратаром і атрымаў невялікі тэрмін, да таго ж умоўна. Мяне з-за малалецтва нават не выклікалі на суд. Я расплакаўся. Надта хацелася, каб засудзілі, як Кірылішынага Валодзьку, а потым і пра мяне ўсе гаварылі б як пра героя.

Лепшыя людзі апынуліся за кратамі. Пайшла чутка, што Камінтэрн распусціў КПЗБ і КСМЗБ, бо яго кіраўніцтва быццам бы складалася з адных ворагаў народа.

Ці не зашмат гэтых ворагаў? — пачалі сумнявацца людзі. Ну, Стральчук. Ну, яшчэ было пару шпіёнаў і правакатараў. Але ж нашыя хлопцы ўвесь час на людзях, калі ж маглі прадацца? І за віну аднаго-двух нельга караць усіх.

У польскіх газетах пісалі, што ў СССР арыштавалі шуцбундаўцаў.

— Не ведаю, як вашыя паслы, як тыя аўстрыякі, але наш Іван не мог, не мог прадацца, каб тут невядома што! — упарта цвердзіла сваё мама.— Сцяпан, ты ж яго добра ведаеш, скажы?!

Бацька маўчаў. Толькі курыў цыгарку за цыгаркай. Відаць, задумаўся над гэтым па-сапраўднаму.

Сяляне, да якіх даходзілі адгалоскі падзей, цяпер, як сто, як дзвесце гадоў таму назад, думалі пра сваё — адкуль узяць грошай на запалкі, соль, мыла, падаткі. Паміралі, спраўлялі хрэсьбіны, вяселлі, гналі самагонку, напіваліся...

Вясной сабраўся жаніцца Сляпенькі Іван і прыйшоў прасіць бацьку за свата. Жаніх з яго неважнецкі — бедны, у дзяцінстве выпараў сабе вока, да таго ж яму даўно перавалiла за трыццаць,— страшаўскія дзеўкі выходзіць за яго не хацелі.

У Меляшках нявесце давалі ў пасаг толькі карову.

У Грыбаўцах — яшчэ і парася, авечку. Але ж Сляпенькаму патрэбна была гаспадыня з возам, канём — не толькі з каровай. Падахвочаны мамай, бацька запрагаў кабылу — і адпраўляліся яны з Іванам на цэлую ноч шукаць па вёсках такую князёўну.

Людзям было сумна жыць без мэты.

Мо толькі такія, як Настуся, не мелі расчараванняў і былі далёка ад усяго, што адбывалася.

...Мне мінула шаснаццаць гадоў, я нібы павіс паміж небам і зямлёй.

Праца на гаспадарцы не задавальняла. Асалода здабывання плёну зямлі, творчасць селекцыянера прыходзіць да вяскоўца разам з яго сталасцю, калі чалавек здольны на цярплівае і мудрае чаканне. Паэзія і смак земляроба паспытваў мой бацька, а для мяне, нецярплівага верхагляда, работа на гаспадарцы была нуднай.

Капай бульбу, вазі ў склеп, кармі жывёлу, а вясной цягай мяшкі на поле, зноў садзі бульбу.

Цэлы май капай торф, каб за зіму спаліць і ў наступным годзе брацца капаць зноў.

Не было рамантычнага занятку, зніклі кіраўнікі, аўтарытэты, не хапала рызыкі, не было з-за чаго хвалявацца, не было чаго выглядаць.

У мае гады ўвагу можна хутка пераключыць з аднаго на другое.

Зрабіў дэтэктарны прыёмнік.

Ноччу чытаў кніжкі, покуль бацькі дазвалялі.

Фантазіраваў. То з лютасцю варочаў віламі карычневыя пласты гною з-пад кароў, кідаючы іх на воз, паспытваў ап'яняльную мускульную радасць.

Але чым бы я ні займаўся, усё думаў, думаў і думаў пра Настусіну Верку.

## 2

Цёплай вясной на нашым падворку адбылася нязначная размова, якая для мяне абярнулася цэлай падзеяй.

Аднаго разу адчыніла брамку будачнікава жонка — Шпітонава Гандзя — і, як надзвычайную навіну, паведаміла:

— Цётко Маруся, ці вы бачылі, якой красуняй ста-

ла Настусіна дачка?.. Я ад пераезда ішла за ёю. Ах, бо-ожа,— што карціна! І, скажыце вы,— адразу!

Покуль адказаць суседцы, мама толькі разгублена і з трывогай азірнулася на мяне і Валодзьку.

Тым часам Гандзя аж захлёбвалася:

— Вочы — бы ў цыганкі — карыя, вялікія, як каштаны! А зу-убы, а бро-овы! І стройная якая, а хале-ра!.. Нават мой мужык казаў, што рэдка бачыў такую красуню, якой Верка расце!.. Я ёй сёння нават шаль падаравала, што з Расеі прывезлі. Дачок у мяне няма, сынам — не трэба, ужо і так моль дзірак нарабіў... Нічога, яшчэ файная: зацыруе сабе і будзе насіць!.. От шчаслівая Настуся, такую красуню выгадаваўшы.

— Гандзя, але што ў яе ў галаве? — непрыязна, як бы маму пакрыўдзілі, азвалася яна праз хвіліну.

— Я не прыглядаласа, што там,— насцярожылася суседка.— Але, здаецца, галава чы-ыстая...

— Не пра гэта я! Ці ты падумала, якія мыслі ў ёй?.. Пуста ў галаве, во што я хацела сказаць!

— А-а...

Да Гандзі толькі цяпер дайшоў сэнс мамінай варожасці: яна ўважліва прыгледзелася да мамы, зыркнула вачыма на мяне і Валодзьку.

— А вы чаго сланяецеся без работы! — накінулася на нас маці.

Расчараваная Гандзя яшчэ пагутарыла пра тое-сёе ды, пакінуўшы маму ўстрывожанай, пайшла да Грушэўскіх шукаць разумення ў Марцінавай жонкі.

Усё, пра што гаварыла Гандзя, я ведаў.

У Верцы ў апошні час раптоўна абудзілася жанчына, Верка не ведала, што рабіць. Прычасаная і апранутая ў святочнае, са смешнай сарамлівай сур'ёзнасцю яна ўжо некалькі дзён пахаджвала па дарозе — ад сваёй хаты да пераезда, нібы напаказ. Калі ж хто трапляўся насустрач, Верка бянтэжылася і паварочвала назад. Я цераз плот усё бачыў.

Узрадаваная Настуся нават вызваліла Верку ад работы. Цяпер зычны Настусін голас далятаў аж да нашага падворка.

У мяне было штосьці карыслівае да Веркі. Яшчэ і сам не ўяўляў сабе дакладна, чаго хачу ад Веркі. Толькі часамі выразна бачыў, як са зварынай лютасцю сці-

5 Зак. 561

скаю яе, цалую і мну, як воск,— мну, мну, покуль не заплача. Ад гэтага жадання нельга было нікуды падзецца, яно зацьмяла жаласць, развагу і сумленне. Здавалася, авалодаю ёю, падпарадкую сабе — і ўсе іншыя справы вырашацца самі сабой.

Гандзя мяне як бы падштурхнула.

Цяпер я ваўкавата, з дзікай настойлівасцю і энергіяй стаў вартаваць Верку. Адлучыцца з хутара было не проста. То бацькі, то Валодзька глядзелі на мяне, і здавалася, яны добра ведаюць, куды я рвуся.

## 3

Падпільнаваў я Верку пад вечар у нашым хвойніку.

Паказалася знаёмая постаць. Верка несла бутэльку і насцярожана азіралася.

— Рукі ўверх! — не прыдумаў я нічога лепшага, як выскачыць з-за куста і напалохаць браўнінгам.

— Ду-урань! — з перапуду Верка аж прысела, але, каб не пакрыўдзіцца, сілілася ўсміхнуцца.

— Чаго ноччу швэндаешся па лесе?

— Цётцы Кірылісе...

— Чаго лазіш тут?!

— Цётцы Кірылісе малако...

— Пытаю, чаго ходзіш ноччу па нашым полі? Штраф атрымаць хочаш, га?!

— Цётцы Кірылісе малако носім за паліто...

Мне здавалася, што я надта вялікі, дужы і жартую вельмі арыгінальна.

— А-а, малако-о?!

— Яшчэ засталоса на два тыдні...— трамовіла яна даверліва, нібы тыдні гэтыя я лічыў, нібы мяне супакойвала, што ўжо так іх мала засталося.

— А-а, малако-о?! — працягваў я сваё.

І страціў розум да рэшты.

Толькі цьмяна разумеў, адчуваў, што бессэнсоўна балбачу ды нязграбна, бокам, набліжаюся да Веры. Яна насцярожылася. Яе расшыраныя вочы глядзелі ўжо з дзіцячай пакорай і здзіўленнем, плечы ўзняліся, бытта я меўся яе ўдарыць па галаве.

Я апамятаўся, калі сядзеў на зямлі і трымаў Веру ў абдымках. Яна нязграбна сядзела на маіх выцягнутых нагах. Вера баялася, што аддушыць мне ногі, пад-

перлася ззаду рукамі, таму перахілілася назад. Седзячы гэтак невыгодна, старалася мяне супакоіць:

— Ну, хо-опіць, Алёшка, навошта ты так?! — гаварыла Вера, як гавораць п'янаму ці маломі — з мяккім папрокам, цярпліва, аднастайна.

Перад маім носам — пацеркі, няроўныя і патрэсканыя, зблізку жаўтаватыя. У рэштках дзённага святла я ўбачыў, што кофта яе звязана са звычайных нітак: неаднолькавай таўшчыні, грубых, месцамі парваных. Аднак кожная пацерка, кожная складка і нітачка мелі для мяне дзіўны сэнс і зманлівую чароўнасць.

Я ўспомніў, што павінен цалавацца. Зблізку яе твар паказаўся худым, бледным, і ці таму, ці па іншай прычыне мне ўжо цалавацца не хацелася. Я дакрануўся рукой да яе нагі. Верына нага была халодная, цвёрдая і непрыемная.

І вось не стала ў мяне ўжо ні ўзбуджанасці, ні дрыготкі, ні ўпартасці, з якой я пачынаў прыставаць. Я нібы прачнуўся. Нібы ў мяне раптам адлажыла ў вушах, і я пачаў нармальна чуць. Ужо зрабілася няёмка, сорамна за свае ўчынкі і за тое, што нязручна, ненатуральна сядзім — бытта кагосьці малпуем.

Адчуўшы гэта, Вера лёгка вызвалілася з маіх абдымкаў, ускочыла на ногі і пачала папраўляць косы.

— Уставай!..— кінула мне з ласкавай заклапочанасцю.— Не валяйся, як пан Шастаковіч!

Хоць я быў расчараваны, але не злаваў. Наадварот, за тое, што Вера не крыўдзілася, нічым мяне не абразіла і менавіта яна не дала зрабіць нейкае глупства, я адчуваў да яе ўдзячнасць. Расчараваны быў не Верай, а тым, што ад нас не залежала. Тое прыйдзе пасля...

Першы раз я сам сабе прызнаўся ў пачуццях да дзяўчыны, і нічога дрэннага не здарылася. Наадварот! Я пераадолеў нейкі псіхалагічны бар'ер. На душы зрабілася лёгка, святочна, сам я стаў дужы, дарослы...

Ух, як я ўзрадаваўся!

Я любіў сваё Страшава, поле, гэты хвойнічак, увесь свет, мы з імі мелі таямніцу — яны трымалі для мяне ў запасе шчасце.

Захацелася падскочыць да хмар.

— Пабі-ілі, эх...— засмучаная Вера падняла з зямлі шыйку ад літроўкі з драўляным коркам.

5*

Злётаць цяпер да каморы, узяць такую самую бутэльку і зноў прыбегчы сюды — немагчыма, адразу дома мяне разгадаюць. Але цяпер не было для мяне перашкод. Ап'янелы ад шчасця, я запрапанаваў:

— Хочаш, прынясу з хаты літар цэлы, хочаш?

— Не, не трэ-эба. Мама заўважыць, што мяне так доўга няма,— уздыхнула Вера.— Скажу — упала... Толькі шкло трэба пазбіраць са сцежкі, напорацца хто...

— Давай мне, схаваю!.. На корак, згодзіцца...

Падышлі мы да ямы, якую бацька некалі выкапаў на дзікоў, пакідалі шкло. Як не хацелася, але трэба было разыходзіцца.

— На Купала прыйдзеш? — успомніў я.

— Калі мама пусціць...

— Прыхо-одзь! — запрашаў я шчыра, нібы шмат чаго абяцаў.

## 4

З часоў паганства дайшло да нас свята Купалы.

Яшчэ з вясны сушылі мы карчы і дровы. У ноч на Яна, 24 чэрвеня, як звычайна, на гары ля рэчкі хлопцы і дзяўчаты раскладвалі вогнішча. Дурэлі, спявалі, пускалі па рэчцы вянкі... Апоўначы ішлі шукаць папараць-кветку, якая ў гэты момант бытта бы толькі і цвіла. Той, хто кветку знойдзе, мог быць навекі шчаслівы.

У легенду верылі ўсе.

Цётка Кірыліха расказвала, як тая кветка цвіце і свеціць усімі фарбамі вясёлкі. Цётка вучыла, як шукаць гэты цуд, як да яго падысці, каб не спужаць. Апавядала, як будзе табе добра, калі яго знойдзеш.

Шчыра верыў у легенду Кірылішын Валодзька, сакратар нашай ячэйкі; ён так і сеў у турму з гэтай верай.

Верыла мая мама, суседзі...

Свята Купала існавала і для другога: хлопцы заляцаліся да дзяўчат.

То было публічнае, узаконенае шматвяковай традыцыяй спаборніцтва: хто спраўнейшы, хто лепшы, галаснейшы і больш здольны.

На вольным паветры, у цёплую пару, ноччу чакала

цябе зманлівае шчасце з любай пад руку блукаць па лесе ў пошуках папараць-кветкі, якая дзесьці ззяла промнямі незямнога святла ў жудасна-таямнічым гушчары побач з ваўкамі, зубрамі і вужакамі.

Ці знайшоў хто гэты цуд, назаўтра нікога не цікавіла: увесь смак быў у зборах, вечары і шуканні.

## 5

Пасля размовы з будачнікавай Гандзяй Настусіну дачку мая мама нават не пускала на свой падворак, а гордая ўдава забараніла дачцэ са мной размаўляць. Але што значыць пры каханні забарона бацькоў?..

Надыходзіла першае маё Купала. І ў мяне была ўжо дзяўчына, з якой я мог шукаць папараць-кветку.

На Купалу Веру вадзіла за сабой старая дзеўка — Лушка з Бялявіч,— былая нявеста Вінцака Грабцэвіча; Лушка такім чынам старалася прывабіць да сябе хлопцаў, бо яе кавалер, уцёкшы тады з-пад арышту, перабраўся ў Чэхаславакію.

Не бяда, што Вера з Лушкай.

Поўны дапытлівай цікавасці позірк Веры і на адлегласці хваляваў мяне, будзіў надзеі, рабіў мяне апантаным.

Ля вогнішча я цэлы вечар быў у руху.

То па-змоўніцку шаптаўся з былымі камсамольцамі, то так скакаў цераз полымя, што асмаліў бровы і задымілася вопратка.

Пад самы канец свята я зразумеў сваю нікчэмнасць. Многія хлопцы скакалі за мяне і вышэй і далей.

Адчуваючы на сабе пару цёмных і гарэзлівых вачэй, я сеў зводдаль і стаў прыкідвацца маўклівым і задуманым. Нашы позіркі сустракаліся, я бачыў у яе заахвочванне, прыхільнасць і яшчэ нешта няяснае і хвалюючае.

Шурка Казёл з Меляшкоў зацягнуў новую савецкую песню:

Дан приказ: ему на запад, ей — в другую сторону,
Уходили комсомольцы на гражданскую войну!

Нашы галасы дружна паплылі ў маўклівую летнюю ноч, напаўняючы нас хмелем.

Уходили, расставаясь, покидая тихий край,
«Ты мне что-нибудь, родная,
На прощанье пожелай!»

Я выразна бачыў сябе з вінтоўкай на Валілскай станцыі — развітваўся з Веркай. На вайне могуць забіць, аднак я мушу ехаць — абавязак!

А родная отвечала: «Я желаю всей душой,
Если смерти — то мгновенной, если раны — небольшой!»

Верка гаварыла мне гэта сардэчна, чула, і такая разбірала жаласць да сябе, што хацелася плакаць.

А всего сильней желаю
Я тебе, товарищ мой,
Чтоб со скорою победой
Возвратился ты домой!

«Я вярнуся, абавязкова!» — крычаў я ёй праз грукат колаў.

Наступіў момант той душэўнай еднасці і спакою, які дае людзям харавы спеў. Хвіліну ўсе пасядзелі, памаўчалі. І тут нехта спахапіўся — дванаццатая гадзіна ночы, запаветны час!

Пары накіроўваліся ў цемру лесу.

Я не пабег за імі, як некалі, каб [illegible] узбуджанай цікавасцю выглядваць за хлопцамі і дзяўчатамі.

Але і не асмеліўся за цэлы вечар падысці да Веры, сказаць ёй хоць слова...



Па бялявіцкай дарозе плёўся я з Купалы апошнім.

Узышоў месяц. У цьмяным яго святле пад бэзам сядзела Лушка.

— Кіруй сюды, Алёшка, яшчэ зойдзеш!

Ад яе ласкавага і настойлівага голасу зрабілася страшнавата. Некуды падзелася стома.

І тут я перапалохана падумаў пра Грабцэвіча, але ўжо нічога не мог з сабой зрабіць. Я з жахам убачыў, як мае ногі міма маёй волі зварочваюць з дарогі, а я ўвесь аж устрапянуўся ад чакання.

— Прысядзь, адпачні! — паказала яна на лаўку каля сябе.

У Лушчынай хаце вокны адчынены насцеж; адтуль чуваць, як храпе яе бацька.

І Верка спіць там? Трэба ўцякаць.

Але я насцярожана, баязліва сеў. Валасы ў Лушкі былі распушчаны, з-пад расхрыстанай кофты відаць была бессаромная белізна. Убачыў я гэта, і ўсё астатняе для мяне перастала існаваць. Сядзеў я ўжо ў нейкім узбуджаным стане, слухаў ласкавы, мацярынскі голас і не мог паварушыць нават рукой. Адно нешта бясконца гаварыў. Гэта было трызненне чалавека ў ліхаманцы... Лушка слухала мяне паблажліва, па-апякунску.

Нейкай часцінкай мозгу я добра разумеў трагізм дзяўчыны. Яны з Вінцакам гулялі гадоў чатыры. Вінцак не хацеў вянчацца ў царкве, а на іншы шлюб старыя нявесты не згаджаліся. Нарэшце Лушка бацькоў угаварыла, рыхтавалі ўжо вяселле, ды паляцела ўсё к д'яблу. Ці Грабцэвіч калі вернецца, невядома, а каму патрэбна такая дзеўка? За цэлы вечар ні адзін хлапец не прамовіў да яе і слова, ніхто яе не праводзіў. Лушка ўзрадавалася і мне. Але якраз мяне гэта і абражала. Хацелася давесці — я такі ж, як і ўсе, хлапец, і не патрабую скідак: адукаваны, два разы мяне паны судзілі, было так, што на граніцы трое сутак нічога не меў у роце...

— Бо-ожа, як ты прапах дымам увесь! — перабіла яна мяне, нахілілася, пацягнула носам.

І зноў я плёў нешта далей, і ўсё здавалася — мала. Гэтак выхваляючыся, я схлусіў, што маю не абы-якую звычку — гавару праз сон. Праз сон якраз гаварыў Лушчын брат, а яе маці выпытвала ноччу ў сына, што хацела.

— Чаму ты мне ране-ей не сказаў? — з жахам адсунулася дзяўчына.

Я зразумеў: яна збаялася маёй мамы. Усхапілася з лаўкі і прагнала такога кавалера дамоў.

Ішоў я далеў і трывожыўся — Лушка раскажа Веры ці не, што сядзеў з ёю на лаўцы? А калі не вытрывае, пахваліцца?..

Спатканне з Лушкай я ўспамінаў ужо з непрыемнасцю, як кепскі сон. Валокся ў Страшава і сярод бляску вогнішча бачыў толькі жывы тварык з бліскучымі ад цікавасці ды напалоханымі вачыма.

Я не дамоў ішоў! Мы шукалі папараць-кветку, былі толькі ўдваіх на свеце, нам было жудасна добра, а ў твар свяцілі — мяккія промні.

А гэта ўзышло сонца.

Я і не заўважыў, што з-за нашага плота падае таямнічыя знакі напалоханы Валодзька.

У брамцы з адкляпанай касой у руках чакаў мяне ашалелы ад злосці бацька.

— Дзе ты валэндаешса цэлую ноч? Ты што — Шастаковічаў сын?!

— Дай яму добра, Сцяпан, няхай другі раз ведае, валацуга! — ад калодзежа азвалася маці.

Я не паспеў адскочыць, і бацька мяне нечым перацягнуў па плячах.

## 7

Зімой, як гром з яснага неба, уразіла ўсіх вестка.

У Віленскім акруговым судзе, калі Стральчук зноў сведчыў супроць камуністаў, ■ залы выйшаў хлопец і стрэліў у правакатара. Не забіў яго толькі таму, што Стральчук насіў пад пінжаком панцыр. Звалі героя — Сяргей. Паліцыя ўсадзіла ў яго шэсць куль — пяць у ногі, адну ў жывот,— але хлапец яшчэ жыве.

— Дахтары вылечаць, нічо-ога! — з надзеяй гаварылі сяляне,

— Ты ж яго ведаеш, Алёшка! — спахапілася мама.— Далібог, той высокі Сяргей, якога бацька раз прыводзіў, а я давала есці. Захацелася яму заціркі на малацэ, яшчэ бегала да Грушэўскіх мукі пазычаць!..

Мама ўзрадавалася, што хоць нешта добрае зрабіла для такога чалавека.

Прыгадаў і я хударлявага, у шэрым плашчы, хлопца. Наўрад ці быў гэта той самы Сяргей — падпольшчыкі ўжывалі псеўданімы.

Цяпер хлопца трэба было ратаваць, яму пагражала шыбеніца.

Выразна я ўжо бачыў, як мы з Верай забіраемся ў поезд, хаваемся ў тармазную будку, едзем у Вільню...

Газеты пісалі — Сяргей сядзіць у Лукішках, дзе некалі трымалі Кастуся Каліноўскага перад павешаннем. Нічога, гэтага выбавім! Столькі ёсць спосабаў! Можна пераапрануцца — я за паліцыянта, Верка за манашку...

Стражнікі на смуглую манашку загледзяцца, пачнуць з ёю вытанцоўваць, я тым часам з ключамі... Стражнікі спахопяцца — позна! Дастаю пісталеты — бэнц! бэнц! бэнц! — усе трое вылятаем з турмы ў поле, адтуль — у лес.

А можна зрабіць падкоп...

Можна і па вераўчанай лесвіцы.

Там побач з турмой — касцёл. У цёмную ноч залажу на касцельную вежу, адтуль кідаю лесвіцу на дах турмы. Вера ля брамы загаворвае вартаўнікам зубы, я гэтым часам — дахам, дахам дабіраюся да коміна. Вузкая гарлавіна, не праціснуцца. Разбіраю цэглу — во, далей чалавек пралазіць!.. Апускаю вяроўку...

Фантазіі мае былі лішнія.

Па Польшчы пракаціліся дэманстрацыі. У Варшаву пасыпаліся пратэсты з усёй Еўропы. Прэзідэнт Масціцкі замяніў Сяргею смяротны прыгавор на турму.

## 8

Выбухнула грамадзянская вайна ў Іспаніі.

Набіралі добраахвотнікаў у інтэрнацыянальную брыгаду. З Гарадка за Пірэнеі ўжо адправілася некалькі чалавек. Як даведацца, хто вярбоўшчык? Што няма семнаццаці, яшчэ нічога не значыць: я ўжо дарослы, можна мне верыць!

Пакуль знайду вярбоўшчыка, трэба рыхтавацца. Бацька завёў пасеку. Пчолы ўзятку на хутары мелі добрую, мёду насілі многа. Пакрыху стаў я насіць у Гарадок на продаж мёд. Купляў пістоны, майстраваў патроны, вучыўся страляць з рэвальвера.

Цэліў у бутэлькі, банкі, а потым нават трапляў у варон на ляту. Пачынаў страляць, калі на мяне глядзелі з Настусінага падворка.

У «Газеце беластоцкай» змясцілі рэпартаж з Іспаніі. Карэспандэнт апісваў, як франкісты збілі савецкі самалёт і ў штаб прывялі русавалосага лётчыка са звязанымі рукамі.

— Хто ты і адкуль? — праз перакладчыка прыстаў да яго фашыст.

Лётчык толькі хмыкаў і пераступаў з нагі на нагу.

Афіцэр ударыў лётчыка па твары, збіў з яго фуражку:

— Будзеш гаварыць?

Палонны паўзіраўся ў фашыста прыжмуранымі вачыма.

— Не хочаш — не трэба. Няма часу з табой важдацца.

Афіцэр кінуў паставому:

— Завядзі яго за скалы і шлёпні!

Лётчыка павялі.

Праз мінуту за акном прагучаў стрэл. У штабе фашыст заняўся абедам. Ля яго ног валялася перавернутая вайсковая фуражка. На шоўкавай падшэўцы віднеўся авальны штамп з надпісам:

«Фабрика «Спартак» Ленинградского военторга».

Газету з рэпартажам зачыталі ў Страшаве да дзірак.

Я доўга не мог знайсці сабе месца. На фоне выпаленых сонцам скал стаяў перад вачыма савецкі лётчык. Трэба было зараз жа дабірацца да Іспаніі, там б'юць нашых!..

Вярбоўшчык — які-небудзь падпольшчык. Няўжо нас не прыме? Мусіць паслаць, калі мы самі хочам. Верка згодзіцца, чаго яна тут не бачыла? Трэба пагаварыць...

Некалькі выпешчаных амерыканскіх паненак засыпалі абісінскага пасла ў Вашынгтоне заявамі, каб той стварыў з іх батальён амазонак і паслаў на барацьбу з фашыстамі. Бедны пасол доўга ламаў сабе галаву, як адчапіцца ад шукальніц прыгод. Нарэшце знайшоў спосаб. Аб'явіў, што толькі тых прыме ў батальён, якія па прыкладу амазонак апошняга караля Дагамеі згодзяцца адрэзаць сабе правыя грудзі *. Паненкі адразу перасталі дакучаць паслу.

Я гатовы быў адсячы сабе палец, каб мяне толькі ўзялі на такую гераічную справу.

Не зможам з Веркай паехаць па вярбоўцы, дабяромся «на зайца». Газеты друкавалі інфармацыі з Германіі, Францыі, Італіі, як там паліцыя выцягвала з вугалю на паравозах, з карабельных трумаў згаладнелых і брудных хлопцаў і дзяўчат, якія ехалі памагаць чырвоным. А калі не трапіць паліцыі ў лапы?..

Каля нашага хутара на платформах павезлі з Маск-

* Амазос — па-грэчаску бязгрудая.

вы ў Парыж на сусветную выстаўку велізарны брус нержавеючай сталі і скульптуру Мухінай — рабочага і сялянку. Набяры толькі ежы, вады, схавайся на станцыі ў такі вагон і праз пару дзён даедзеш ледзь не да самых Пірэнеяў!

З'яўляемся ў Іспаніі. Смуглявую Веру прымаюць за мясцовую сялянку, пры ёй і я не кідаюся ў вочы. Нібы пытаемся пра работу, ідзём на захад шукаем інтэрнацыянальную брыгаду. Я станаўлюся кулямётчыкам, Вера — медсястрой...

— ...Прыйшлі аднойчы Саша Кандрусік з Ванем Кулешам і Толем Пятэльскім. Сашу і Ваню, гэтак як і мяне, брала дэфензіва, і хлопцы таксама не прызналіся, хоць Кулешу паліцыянты адбілі печань, ён толькі што выйшаў з бальніцы. Наогул я ўжо іх з год не бачыў.

Сябры ўзмужнелі, выцягнуліся, басілі, і ў кожнага пад носам чарнелі смешныя вусікі. Хлопцы прынеслі навіну: працуе зноў падпольны цэнтр і ад яго ёсць загад збіраць сродкі для іспанскіх рэспубліканцаў.

Ледзь дачакаўшыся вечара, пайшоў я з мяшком па хатах. Шкода — не паклічаш на зборы Верку. Яна, мажліва, і не чула пра вайну ў Іспаніі!..

...Нарэшце ўдалося высачыць чалавека.

Добраахвотнікаў у нашай акрузе вербаваў мамін брат, дзядзька Мікалай з Бялявіч.

Прыстаў я да дзядзькі з просьбай. Ён расказаў пра намер пляменніка бацькам, і ўсе мае стараннi скончыліся сямейным скандалам.

## 9

У Польшчы мелася нешта здарыцца.

Забаставалі рабочыя фабрыкі гумовых вырабаў «Сэмперыт» у Кракаве. Іх з кулямётаў расстраляла паліцыя. Праз два дні ў Кракаў хлынулі сяляне. На пахаванне ахвяр выйшлі сто тысяч чалавек. Нават да труны Пілсудскага не прыходзіла столькі.

Усе чакалі грандыёзнага выбуху, але хітрая паліцыя пахавалася, аддала горад у распараджэнне рабочых. А тым запалу хапіла на паўдня. Памітынгавалі, паспявалі рэвалюцыйныя песні, пахавалі таварышаў і разышліся.

Схітраваў і ўрад. Ён зняў з пасады ваяводу Свідэрскага і каменданта паліцыі і гэтым супакоіў народ.

Толькі ўляглося ў Кракаве — выбухнула на ўсходзе.

У Львове камуністы арганізавалі мітынг. Разганяючы яго, паліцыя застрэліла рабочага Уладзіміра Казака. Прафсаюзы арганізавалі пахаванне. Выстраіліся калоны і з жалобнымі сцягамі панеслі труну на Яноўскія могілкі.

Працэсію перапыніла паліцыя і адкрыла па натоўпе агонь. Пападалі мёртвыя і параненыя, труна грымнулася аб брук. Яе падхапілі жывыя. Адны адбіваліся ад паліцыі камянямі, другія бегма неслі Казака на могілкі.

Увесь час насядала паліцыя. Многа разоў таварышы ля труны мянялі забітых, покуль яе — зрашэчаную кулямі і пасечаную шаблямі — данеслі да могілак. Там раз'юшаныя людзі павырывалі з магіл жалезныя крыжы, прэнты, адагналі паліцыянтаў і пахавалі падзіраўлены кулямі труп.

У гэты дзень у Львове паліцыя забіла і параніла каля паўтысячы чалавек.

Выпадак ускалыхнуў Польшчу. Мяне цягнула акунуцца ў віхор падзей. Нават згарэць пры гэтым здавалася вялікім шчасцем. Я з дня на дзень чакаў — у краіне вось-вось успыхне рэвалюцыя.

Праходзіў тыдзень, другі...

Але ў Польшчы зноў стала спакойна.

## 10

Рэспубліканская Іспанія памірала.

Камінтэрн сапраўды распусціў Кампартыю Заходняй Беларусі і камсамол з крыўдным абвінавачаннем. Зрабілася нечага шкада, нібы памёр хтосьці родны. Заставалася цяжкая праца на гаспадарцы. Жыць стала нецікава.

Да таго часу і Валодзька скончыў школу. Яго душа таксама рвалася далей ад капання торфу, свіней — на гаспадарцы спраўляліся мы ўдваіх з бацькам.

Пайшоў брат з Сашкам і Рыгоравым Косцем карчаваць дзялянку для пасадак. Работы хапіла на два з палавінай дні.

Атрымаў Валодзька першую ў жыцці палучку, сеў на веласіпед і купіў у Беластоку лупу. Бацька злаваў і пляваўся. Мама і радавалася і таксама шкадавала грошай. Валодзька займеў забаву. Разглядаў праз лупу мух, пясчынкі, травы... Яго таксама мучыла трывога — што рабіць далей?

Бацькі жахнуліся — гаспадарка, здаецца, і вялікая, аднак адзін сын на ёй — лішні. Вырашылі паслаць старэйшага вучыцца — няхай шукае сваёй дарогі ў горадзе.

— У Вільню еду, вучыцца,— аб'явіў я Веры, падпільнаваўшы яе на дарозе.

Вера таксама пахвалілася:

— І я еду, Алёшка, у горад! Мама пасылаюць мяне ў Беласток служыць!

Я не зразумеў, пра што яна гаворыць.

— За служанку быць!.. Мама ў гэтых паноў служылі яшчэ да вайны, калі дзеўкай былі! — як бы супакоіла яна мяне.— Багатыя надта. Фабрыкі маюць свае, на куро-орты ездзяць...

Мяне кальнула якаясьці рэўнасць. Не ведаў, пра што і гаварыць.

— Пасажыркай паедзеш?

— Дзядзька Марцін вязуць бульбу ў Беласток і мяне забіраюць.

— Фурманкай?..

— Ну і што? Накрыюса ад дажджу, дабяруса, а цётка Галена мяне завядуць да іх!

Яе радасць раздражняла яшчэ больш.

— Во, будзеш цяпер беластоцкая пані...

— Ну...— ахвотна згадзілася яна і шчасліва ўсміхнулася.

Веры не да мяне: ад радасці не магла ўстаяць на месцы.

— Паедзеш...

Я чуў пра паводзіны служанак у горадзе, пра прастытутак. Зноў укалола якаясьці рэўнасць. Ад неспакою і трывогі аж павяло ў галаве.

— Купіш сабе рыдыкюль і будзеш шпацыраваць па Ліповай вечарамі...

— Мама сво-ой даю-уць, яшчэ зусім добры, толькі замок не зачыняецца! Каб хто адрамантаваў?..

— ...І малявацць вусны бу-удзеш...

— Яшчэ няху-утка... Алёшка, а мама казалі, у гэтых паноў сабака проста ў пакоях жыве!

— Во, во. Будзеш яго выводзіць на двор кожны дзень!.. І жараных жабаў есці, салёных вустрыц...

Вера зноў шчасліва засмяялася.

Я яе дакараў, падкусваў, здзекаваўся і ведаў — паедзе яна на мяшках бульбы, ухутаная дзяругай, якой Марцін у Беластоку накрые каня. У горадзе чакае яе ганебная работа служанкі, а яна, дурніца, яшчэ радуецца. І радасць шчырая, ніякія словы да яе цяпер не дойдуць.

Я злаваў, пагарджаў ёю — і шкадаваў.

## *РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ*

### 1

Над Польшчай навісла пагроза агрэсіі. Другі раз у Вільню збірацца не было чаго і думаць.

У жніўні 1939 года польскі ўрад аб'явіў мабілізацыю. Мужчыны паваліл на прызыўныя пункты. Кожны страшаўскі дом атрымаў разнарадку на бульбу, фасолю, гарох... І нам прыйшла папера везці харчы ў гродзенскую казарму.

Ладавалі мы з бацькам мяшкі на фурманку і ўпершыню не лаялі распараджэнняў ненавіснага ўрада. Успаміналі, як збіралі харчы для Іспаніі.

Урэшце надышло фатальнае першае верасня 1939 года. Прыпала яно на пятніцу.

У гэты дзень ля палудня над нашым полем праляцела тры дзіўныя самалёты. Імчалі яны незвычайна хутка, упэўнена і на крыллях замест чырвона-белых шашачак мелі чамусьці чорныя крыжыкі. Нямецкія? У Гітлера, здаецца, эмблема — свастыка?

Яшчэ не паспеў я астынуць ад трывожнага здзіўлення, калі ўваліўся да нас Марцін і прымусіў мяне наладзіць дэтэктар.

Немцы перайшлі польскую граніцу...

Праз пару дзён вярнуўся з Гарадка бацька і стаў плявацца. У мястэчку не было ўжо ні войта, ні паліцыянтаў, а крамнікі пазачынялі крамы. Працавала адна пошта, ды ў ёй ніхто нічога не ведаў.

Яшчэ праз некалькі дзён з Захаду хлынулі ўцекачы. Пастушкі прынеслі навіну — з турмы з'явіўся Лукашоў сын і застрэліў у Ліпніках паляка.

Выслухаўшы пастушкоў, мы з Валодзькам кінуліся ў Ліпнікі. Месца расправы знайшлі самі.

Рассыпаныя і ўтаптаныя ў лясны чарназём папяросы...

Каляіны дарожкі здратаваны глыбокімі слядамі ботаў, быццам мужчыны тут піхалі воз з каменнем.

Выразны адбітак пратэктара вузенькай шыны і — ямка, выбітыя рулём, калі падаў веласіпед.

— Алёшка, глядзі! — перапалоханы брат паказаў у лес.

Між сосен нібы прылёг на ягадніку якісьці мужчына ў адной бялізне. Малады, чарнявы, з інтэлігентным тварам. Аслупянелыя, стаялі мы хвіліну, дзве, чалавек усё не варушыўся — і толькі тады да нас дайшло, што ён нежывы.

Хто гэта — студэнт, настаўнік? Жанаты, кавалер? Як яго прозвішча?

Асцярожна падышлі мы бліжэй.

Цёмныя і густыя валасы ў чалавека рассыпаліся на два крылы, і аж не верылася, што яны — у нежывога. Пад носам забітага закрэп чырвоны згустак. Над вухам ля скроні цямнела дзірачка. Не такая, як у Юліка. Круглая, з акуратнымі краямі і маленькая, што кузурка, якая паўзла па твары.

Другі раз за свой кароткі век бачыў я ахвяру нашай вясковай цемры.




Неўзабаве ля Гарадка з'явіліся нямецкія салдаты. З Веркай, Сашкам, Косцем і Валодзькам пабеглі мы ў мястэчка.

У наш Гарадок уязджалі перадавыя часці генерала фон Бока.

Першыя немцы былі добра дагледжаныя, рашучыя і фарсістыя юнакі. Яны нагадвалі рамантычных, ап'янелых ад поспеху спартсменаў. З рысоўкай, з ледзь стрыманым здавальненнем і спартыўнай лёгкасцю салдаты насілі сталёвыя каскі, падагнаныя да фігуры новенькія мундзіры і з гэткай жа свабоднай лёгкасцю

трымалі бліскучую ад лаку зброю ды рабілі выгляд, што нас не заўважаюць.

На пярэднім матацыкле з салдатамі ў зялёных касках тырчаў хлопец у мундзіры ні то швейцара, ні то цыркавога клоўна. Нешта як бы знаёмае — і раптам я здагадаўся: Лукашоў Іван!

Мяне здзівіла: калі ён паспеў? Нядаўна ж толькі быў дома, забіў бязвіннага паляка.

За матацыкламі павалілі разведчыкі на сытых і вялізных конях і — таксама юнакі — салдаты першага эшалона. Затым пайшлі тылы. Гэтыя салдаты былі ўжо самавітыя і падцягнутыя бюргеры, рабочыя і крамнікі, узятыя па мабілізацыі. Яны сталі падыходзіць да нас, ціснуць нам рукі:

— Вайсрусіш?.. О-оу, Москаў гу-ут!

— Нікс крыг!

— Гітлер унд Шталін — оу!

— Фрондшафт!

— Дрюжба!

І паказвалі газеты і фатаграфіі, на якіх новы нарком замежных спраў Молатаў зняты ў час гутаркі з Рыбентропам.

Тады падаставалі фота сваіх жонак, дзяцей...

Цяпер ужо звярнулі сваю ўвагу на нас і маладыя. Яны падлабуньваліся да Веркі — так жа, як гэта рабілі нашы хлопцы.

Але чаму з імі Лукашоў Іван?..

А крывавая расправа з рэспубліканскай Іспаніяй?!

Няма чаго ім верыць! Во, з такімі я меўся спаткацца за Пірэнеямі. Яны прыйшлі сюды...

Буржуазнай Польшчы не стала. Для Страшава адышла яна неяк лёгка, без болю і ўспаміналася ўжо, нібы сон. Але што будзе далей?

Дзесьці па-геройску яшчэ змагалася абкружаная Варшава. Параненыя, які прыехаў адтуль, бачыў Кірылішынага Валодзьку з падпольшчыкамі. Выйшаўшы з турмы, хлопцы добраахвотна засталіся бараніць польскую сталіцу ад фашыстаў...

Вярнуўшыся з Гарадка, мы з Валодзькам адправіліся ў Ліпнікі збіраць польскія вінтоўкі.

Семнаццатага верасня рушылі з усходу да нас савецкія войскі. Паляцела чутка, што Чырвоная Армія заадно ўдарыла і па гітлераўцах, вызваліла блакіра-

ваную Варшаву, маршыруе на Берлін. Мы згаварыліся ноччу напасці на нямецкі гарнізон у Гарадку.

Нарэшце нехта здагадаўся ўключыць радыё на Мінск. Дыктар пералічваў, дзе адбылася мірная сустрэча нашых войск з нямецкімі: у раёнах Брэста, Беластока, Гродна...

## 3

Праз тыдзень немцы спакавалі свае абозы, паздымалі кулямёты з агнявых пазіцый і адышлі.

Яшчэ пасля іх не абсеў у Валілах пыл, як на маленькіх і шустрых мангольскіх конях выскачылі з Ліпнікаў насцярожаныя і пранырлівыя разведчыкі Чырвонай Арміі.

Следам за разведкай павалілі бранявікі, танкеткі і танкі, машыны — грузавыя і легкавыя. Мы з Валодзькам пабеглі да страшаўскай дарогі, ва ўсе вочы прыгляндаліся да іх, хацелі знайсці сляды куль з-пад возера Хасан, Халхін-Гола. Машыны былі новенькія, пакрытыя свежай зялёнай фарбай. Так жа пафарбаваны гарматы на прычэпе ў машын і ствалы счацвяроных кулямётаў у кузавах.

Неба запоўнілі незлічоныя эскадрыллі самалётаў.

Цяпер ехала на машынах матарызаваная пяхота. За бартамі ў кузавах у строгіх цесных радочках — тысячы шэрых шынялёў і будзёнавак, адкрытых і запыленых, ды як бы даўно знаёмых, славянскіх твараў, маладых і сталых мужчын.

Разбягаліся вочы, не ведаў, на чым спыніць увагу.

Самае галоўнае ў маім жыцці адбылося!.. Вось Чырвоная Армія!.. На пілотках, фуражках, папругах, самалётах — пяцікутныя зоркі, серп і молат.

На душы рабілася лёгка, утульна і бяспечна.

Калоны байцоў у шэрых шынялях і вастраверхіх будзёнаўках, незлічоныя машыны, магутнае выццё матораў, таўшчыня гарматных ствалоў і лістоў сталі на танках, чорныя фігуркі грозных самалётаў — цяпер твае плечы, моц, апора. Гэ, зараз не толькі ялоўскія паліцыянты — ніхто ў свеце табе не страшны!

Каля Грушэўскіх спыніўся танк. З яго вылез малады танкіст, і мяне ўразіла, што рукі яго замазучаныя і рудыя ад масла.

У мяне быў даўно вынашаны вобраз савецкага камандзіра — элегантнага мужчыны ў скуранцы, у начышчаных да люстранага бляску ботах, з чырвонай кукардай на фуражцы і з маўзерам на баку.

На самай справе камандзіры цяпер зусім былі не такія. Шынялі, фуражкі, планшэты і партупеі мелі і сапраўды новыя, але самім было не да форсу. З заклапочанай дзелавітасцю меркавалі, кудой лепш праехаць, дзе размясціць людзей, дзе нарыхтаваць харчоў, як не нарвацца на засаду...

Я быў і расчараваны і ўзрадаваны.

Гэтыя камандзіры былі бліжэйшымі, выклікалі пашану, спагаду. Не любавацца імі хацелася, а дапамагчы.

## 4

Мінуў дзень-два — і ўжо закіпела ўсюды работа.

Гаваркія і прыветлівыя вайскоўцы ўзяліся за рамонт дарогі. Ставілі ўказальнікі, пракладвалі тэлефонныя кабелі, укопвалі трыганаметрычныя вышкі.

У калодзежы сыпалі нейкі парашок — дэзінфіцыравалі ваду.

Тэрмінова аж на дзевяць сантыметраў пашырылі пуць. Замянялі рэйкі, шпалы. Умацавалі насып — вагоны сталі хадзіць пяцідзесяцітонныя. Аграмадны «Сярго Арджанікідзе» валок эшалон з такіх вагонаў ледзь не на кіламетр даўжынёй.

Паадкрываліся школы — бясплатныя і са стыпендыяй. Валодзька Кірылішын і Вінцак Грабцэвіч паехалі на курсы...

На жаль, для маёй сям'і не пашэнціла.

Па колькасці зямлі нашу гаспадарку абклалі кулацкім падаткам. Бацька не пайшоў нікуды ні скардзіцца, ні апраўдвацца. Сцяўшы зубы, пачаў прадаваць, што можна, з хаты. За выручаныя грошы купляў на рынку збожжа, вазіў здаваць на Свіслацкую станцыю.

Недалёка будавалі аэрадром. Патрэбны былі камені, за іх плацілі. Дабра гэтага валялася ў нас цэлае поле. Бацька ладаваў каменнямі воз, ехаў зарабляць грошы на вучобу сынам і на падаткі.

Гаспадарка гэтым часам запускалася.

Бацька жыў бліжэйшым днём: здабываў грошы, разлічваўся і зноў думаў пра грошы.

Я вучыўся ў Навагрудскім педвучылішчы ў адным горадзе, Валодзька — у тэхнікуме сувязі — у другім. Прыязджаючы дадому па харчы, я бачыў, што бацьку цяжка, але, ап'янелы ад перамен, захоплены тэмпам жыцця і далей купляў дарагія кніжкі, чысціў зубы толькі пастай, а хлопцы завялі моду хадзіць у цырульню мыць галаву. Не адставаў і я.

Бацька счарнеў увесь і высах. Апранаўся абы-як, хадзіў босы, не галіўся, амаль не гаварыў з суседзямі, а да сябе азвярэў. Калі аднойчы зашчымеў яму зуб, зайшоў у хлеўчык, дзе былі сталярныя інструменты, узяў абцугі і выдраў сам сабе гэты зуб.

Я ўжо думаў — бацька не рэагуе на тое, што адбываецца. Але памыліўся.

Вярнуўся, як звычайна, ён са Свіслачы запылены і ўчарнелы. Я выйшаў распрагаць кабылу, але ён не даў. Дастаў нешта загорнутае ў газету, таямніча і па-маладому мне загадаў:

— Сам распрагу! А ты на, прыбі над сталом!.. Удалоса купіць!..

Я разгарнуў паперу. Там былі новенькія партрэты Леніна і Сталіна, вышытыя на шоўку.

Да нашай хаты быў прыбудаваны хлеў, дзе стаяла кабыла. Там за фундамент мы п Валодзькам хавалі падпольную літаратуру і зусім забыліся, што там і цяпер яшчэ ляжала добрая пачка.

Аднаго разу забегла ў хлеў свіння. Бацька яе адтуль прапёр, ды чамусьці сам застаўся. Я пакратаў дзверы — зашчэплены з сярэдзіны. Устрывожаны, падкраўся я да акенца без шкла і ўбачыў дзіўны малюнак.

Уся зямля ўслана белымі паперкамі — прызывамі выходзіць на дэманстрацыю і ратаваць Сяргея, які страляў на судзе ў правакатара. Іх са схованкі дастала свіння і растрэсла па саломе. Бацька сядзеў на парозе, браў гэтыя паперкі, выпростваў, праглядаў і беражліва складваў у стосік ды нешта гаварыў. Ён яшчэ з той вайны вярнуўся глухаваты, і падслухаць яго заўсёды было лёгка. Я стаіўся.

— Кепска, кепска, кепска!..— стагнаў, ледзь не плакаў ён.— Цяжка!.. Ой, як цяжка!.. А што ты прапануеш?!. Калі камуніст — мусіш вытрываць!..

Дагэтуль я не бачыў бацьку паверavailable. У спрэчках [redacted] мамай ён заўсёды выходзіў пераможцам. Ледзь не кожны страшавец звяртаўся да яго за парадай. Часамі з далёкіх вёсак прыязджалі заплаканыя сёстры са сваёй бядой і ад'язджалі ад яго супакоеныя. У мяне склалася думка, што ён вельмі цвёрды і ўсё гэта яму надта лёгка даецца. Нават не міргнуўшы вокам, адмовіўся ад роднага брата, калі той стаў «нэпманам»!.. Выяўляецца, я кепска ведаў бацьку. Стары ўмеў хаваць свае раны, таму мог быць лекарам.

## 5

З таго моманту, калі праз акенца ў хляве ўбачыў я так прыбітага бацьку над лістоўкамі, ён стаў мне блізкі, як мама. Зрабіўся нават як бы святы. Я стаў нібы часткай яго цела і нерваў.

Землякі нас разумелі, спачувалі, а бацьку ўсё гэта злавала. Ён нават не даваўся пра гэта гаварыць і пасылаў усіх да д'ябла.

Не быў бы я яго сынам, каб не рабіў тое ж самае.

Вывезлі нашага асадніка-лесніка. Пачало асыпацца на пні леснікова жыта. Страшаўцы без каманды, па адвечнаму і няпісанаму закону сабраліся грамадой ратаваць тое, што гінула. Мужчыны пабралі косы, жанчыны — збанкі з вадой і рушылі ў лес на дзялянку касіць палетак.

Пакасіўшы, прысеў я на сноп перадыхнуць. Да мяне падышла Настусіна Верка са збанком — у ім для кіслаты плавала скарынка хлеба.

— Алёшка, на, напіса.

— Не хачу!..

— Хало-одная, я пад кустом трымала...

У яе ціхім голасе было столькі гатоўнасці і жадання прыслужыць мне, пашкадаваць, зрабіць прыемна, і ўсё гэта ішло з такой глыбіні, што на хвіліну яна стала блізкай-блізкай, нібы мама (мабыць, каханне і трымаецца на тым, што хлопец у дзяўчыне бачыць нейкія рысы сваёй маці!).

— На, пі!

Выходзіць, і яна ўсё разумела, што адбывалася з нашай сям'ёй?! Пакутую не адзін — разам перажывае блізкі чалавек?

Ад жалю сціснула ў горле, забіла дыханне. І зараз жа загаварыла бацькава гордасць, самалюбства.

— Ты чаго прыстала да мяне?! — ускіпеў я і ўсхапіўся са снапа.

Каб не заплакаць, каб не зараўці, я кінуўся ў фальшывую злосць.

## *РАЗДЗЕЛ СЁМЫ*

### 1

Быў звычайны поўдзень 22 чэрвеня 1941 года — бясхмарны, спякотны і з густым летнім паветрам.

Настаўнік вайсковай падрыхтоўкі нашага педвучылішча ў Навагрудку, яшчэ царскай службы афіцэр, старэнькі і сівы Іваноў, вывеў вучняў за горад і размясціў нас паабапал пыльнай шашы Наваельня — Навагрудак.

Вестка, што на СССР напалі немцы, абудзіла нас раніцой, і, хоць яшчэ не было відочных прыкмет вайны, за палову сутак мы мелі час зжыцца з навіной. Цяпер мы вартавалі нямецкіх парашутыстаў, каб яны не асядлалі важную дарогу, і баранілі горад ад іх з поўдня.

Дзеля гэтага ўсёй нашай групе з ваенкамата далі ручны кулямёт з двума запаснымі дыскамі і тры вучэбныя вінтоўкі з прасвідараванымі патроннікамі. Як з такімі вінтоўкамі ваяваць, ніхто не задумваўся. Усе былі ў палоне рамантыкі. Хацелася зрабіць нешта гераічнае, незвычайнае. У вылоўліванні парашутыстаў мы покуль што бачылі страшэнна цікавы заняткак. Калі я сабе ўяўляў, як будзем іх, гадаў, вязаць, забівала дыханне.

Сябры мае акапаліся, выслалі вывернутую зямлю травой і са святочным хваляваннем азіраліся навокал. Я быў з кулямётам і сваю ячэйку абклаў нават дзёрнам, паслаў напарніка — аднакурсніка Ложачніка — на хутар адносіць рыдлёўку, а сам пачаў азірацца таксама.

Перад намі за шашой зелянела дуброва. Адтуль мы чакалі парашутыстаў. Злева ў летнім марыве раставалі

ўзгоркі. Справа віднелася панарама Навагрудка. Там на гары ў прысадах бялелі тэрасы дамоў, вежы касцёлаў. Зіхацелі на сонцы пазалочаныя цыбуліны царквы. Выставіў два амшэлыя зубы замак Вітаўта. З жоўтай лысінай пяску на самым версе маўкліва ўзвышаўся курган Адама Міцкевіча. Я адчуў да яго цёплую спагаду, любоў.

Будзьце спакойны, там, у горадзе, парашутыстаў не дапусцім!

Поўны рашучасці і нейкай унутранай сілы ад слушнасці сваёй справы, я зноў павярнуўся да дубровы і шашы.

Была нядзеля.

На хрыбце Наваельненскай дарогі вярталіся з горада па-святочнаму апранутыя сяляне. Тарахцелі на каменнях фурманкі. Ішла моладзь, дзяўчаты мільгалі лыткамі: туфлі і панчохі па адвечнаму звычаю неслі ў руках. Усе вярталіся з горада крыху расчараваныя. Ужо ўсім вядома было пра вайну, людзі спадзяваліся ў горадзе пабачыць яе праявы, а даводзілася вяртацца ў вёску ні з чым. І тут на полі ў ровіках — ні то вайсковыя, ні то цывільныя.

Людзі з прагнай цікаўнасцю вылуплівалі на нас вочы. Мае сябры адчувалі гэтыя позіркі і раслі. Хлопцы стараліся захаваць шык.

Вунь Лёве Васілеўскаму прыліпла да калашыны травінка, ён трэпле штаны, папраўляе старанна адпрасаваны кант. Коля Жураўлёў — сірата, уся яго вопратка на ім. Каб не запэцкацца ў сыры пясок і гліну, ён падкладае пад сябе газеты, лісткі сшыткаў.

Тыя, што далей, дражніліся з дзяўчатамі.

Не какетнічалі толькі старшакласнікі. Гэтыя ляжалі групкай недалёка ад мяне і стрымана гаварылі.

— Што робіцца, што робіцца!..— не мог супакоіцца Валодзя Арцюх.

— Чорт адзін ведае! — абураўся сталы мужчына Нос.— Вярнуўся мой бацька з Брэста: сваімі вачыма стары бачыў на станцыі, як у Германію ішоў эшалон пшаніцы!

— Гады! Нажэрліся нашага хлеба і пайшлі на нас вайной!

— Яшчэ невядома. Ведаеш, колькі ў Германіі было камуністаў? Шэсць мільёнаў галасоў атрымалі яны на

выбарах! А з сем'ямі палічы, колькі людзей будзе! Нямецкі народ не дапусціць да яе.

— А гэта па-твойму — што?

— Генералы.

— Ха, «генера-алы»!

— Яшчэ пабачым, як яны ўтрымаюць сваіх салдат. Тыя ж усе — з рабочых і сялян. Пяройдуць на наш бок і хто ваяваціме?

— Можна адурманіць.

— Адурманіш аднаго-два, не мільён!

— Учора пасля экзаменаў пабралі мы з Вольгай плашчы ды пайшлі ў лес на цэлую ноч... Цёпла так, камароў яшчэ мала, салаўі заліваюцца... Ідзём назад ды раптам недзе ў Слоніме — бум! бум! бум!.. Прылятаем у горад — манеўры, кажуць. Мы, дурні, і паверылі. Разышліся па пакоях спаць...

— Мане-еўры! Колькі нашых самалётаў ляснула ў Лідзе на аэрадроме адразу!

— А ты бачыў? — на курсантаў наляцеў абвешаны значкамі «Варашылаўскага стралка», ГПА, АСАВІЯХІМА сакратар камітэта камсамола Мароз — чорны, як жук, вёрткі і нізенькі вучань першага курса.

— Параненыя казалі. Сам чуў, калі іхняя машына спынілася ля фінтэхнікума...

— Слухай, што скажуць. А будзеш плесці глупства — пагаворым з табой у іншым месцы!

— Паду-умаеш, начальства мне такое!

— Ну і начальства табе сёння, зразумеў?

— Куды там!

— Пакудыкай... А ты сядзіш?

Апошнімі словамі разагрэты Мароз звярнуўся ўжо да мяне і адвёў вочы: у нас з ім асабістыя парахункі.

— Сяджу! — сказаў я з выклікам і яшчэ мацней сціснуў выглянцаваны прыклад, каб Мароз не ўздумаў часамі адабраць кулямёт.

— То глядзі до-обра! — варожа заявіў ён і пайшоў аглядаць іншых.

— Няма горш, калі выскачку назначаць начальнікам! — вылаяўся Нос.

І мне было непрыемна слухаць яго палоханні.

Нядаўна падаў я заяву ў камсамол, і мне адмовілі. Старая гісторыя: бацька меў шмат зямлі, для камсамола не падыходжу. І няважна, што я быў пад-

польшчыкам, што бацька сядзеў у турме пры Польшчы і лічыўся членам партыі: гэта яшчэ горш, бо КПЗБ была распушчана, ёй кіравалі ворагі народа ды шпіёны. Вярнуў заяву якраз гэты самы Мароз, яшчэ зазначыў: у яго бацькі зямлі было ў дзесяць разоў меней, ён пра гэта не забудзе.

З сённяшняй раніцы адбылася магічная перамена. Я ўраз забыўся на абразы. Іваноў яшчэ і раней адчуваў да мяне сімпатыю. У яго я бываў запявалам, правафланговым. Ён даручаў мне групу на вучэнні. Цяпер пачцівы стары вырашыў, што і на кулямётчыка я больш падыходжу, чым выскачка Мароз, які вунь бегае ды прыдзіраецца да хлопцаў. Горды такім даручэннем, я прыліп да прыклада, не вельмі на каго ўзіраўся і не надта прыслухоўваўся.

## 2

Мінула гадзіна, другая, а ў нас нічога не мянялася. Я ўспомніў бацькоў. Яны былі адгэтуль за дзве сотні кіламетраў — ля самай савецка-германскай граніцы. Што там робіцца?

Што робіць бацька? Мо ў абоз забралі...

Паўсталі перад вачыма нямецкія часці, якія ўвайшлі ў маё Страшава ў верасні 1939 года. Арганізаваныя, падцягнутыя. Згуртаваныя адной мэтай, падпарадкаваныя камандзіру і халодна ветлівыя, па-вайсковаму фарсістыя і закаханыя ў зброю...

«Пяройдуць на наш бок? Чакай! Занадта ўпэўненыя і самаўлюбёныя былі яны тады. А пасля занялі Францыю, Бельгію, Галандыю, Балканы...»

Наша каманда з дзіравымі вінтоўкамі здалася да смешнага слабой. Недзе пад сэрцам узрадзіўся і пачаў разыходзіцца па целе жудасны страх.

«Аднак паміж намі і немцамі — сцяна савецкіх войск з танкамі, самалётамі!» — пераконваў я сябе, ведаючы, дзе стаяць нашы часці на працягу двухсот кіламетраў. І хоць гэтыя тысячы вясёлых хлопцаў у шэрых шынялях яшчэ не мог уявіць сабе ў суровых ваенных абставінах, але ўжо адзінкай магутнай арміі адчуваў сябе і я. Калі хто з фашыстаў і прарвецца праз такую сцяну, то няхай лезе на акоп — перад маім кулямётам будуць класціся покатам, як снапы...

Покуль я сабе так развіжаў, маладзейшыя хлопцы пачалі ўжо дурэць, ганяць адзін другога па полі. З ноткай зайздрасці пачалі чапляцца і да мяне:

— Толькі зірні на яго!

— Аляксей, яшчэ карані пусціш!

— Чаго маўчыш?

Сябры лічылі мяне крыху фанабэрыстым. На самай справе з-за крыўды я проста быў замкнёны, маўклівы.

— Лепш памаўчаць, калі няма чаго сказаць!

Лёва запусціў у мяне грудай, але я не звярнуў увагі.

Вярнуўся Ложачнік.

Аб ім чамусьці склалася думка як аб хлопцу несамастойным, ніхто да яго сур'ёзна не ставіўся. Каб не блытаўся па полі, Іваноў вызначыў Ложачніка да кулямёта другім нумарам. Занёсшы на хутар рыдлёўку, хлопец цяпер упаў ля торбы з дыскамі, насцярожана і ваўкавата азірнуўся, ці яго не бачаць. Тады дастаў з кішэні чарэшні, пачаў есці. Пасля вагання некалькі ягадзінак працягнуў мне:

— На!

Чарэшні былі зусім няспелыя, а ў Ложачніка рукі — брудныя, з бародаўкамі.

— Не люблю кісляціны.

— Як сабе хочаш...

Зводдаль з чырвоным крыжам на сумцы перакладала бінты Зіна Маслоўская. Яна ўжо служыла санітаркай у нямецка-польскую вайну, і цяпер твар у дзяўчыны быў заклапочаны, сур'ёзны, як у сталага чалавека, які перажыў не адну бяду і вось — чакае наступнай.

Зіне памагала пляменніца нашага Іванова — Люся.

Ля дзяўчат прымасціўся Валодзя Касцюк. Адзін гэты хлопец ведаў мае таямніцы і разумеў.

Зіна з Валодзькам больш чым сябравалі. Цяпер яны нічога не бачылі і адчувалі толькі адно аднаго. Касцюк, паклаўшы ля сябе вінтоўку, рысаваў Зіну і агрызаўся з хлопцамі, якія цераз яго рукі заглядалі ў блакнот.

Валодзька мяне рэўнаваў да Зіны. Дарэмна. Ні Касцюк, ні хто іншы нават не падазравалі аб існаванні асобы, якой была занятая мая душа. Уласная таямніца яшчэ больш паднімала мяне ў сваіх вачах.

З далёкага ровіка Жураўлёў зацягнуў:

Heimat Land, kein Feind soll dich gefehrden!..*

Нямецкія словы надта прыйшліся да густу. На ўроку замежнай мовы, як на тое, вызубрылі іх усе групы вучылішча, і цяпер дзесяткі галасоў падхапілі песню, агорнутыя хваляй патрыятычнага ўздыму.

Каб дасаліць Жураўлёву, Лёва Васілеўскі пачаў з пафасам скандзіраваць:

Ты ме-ня, Ро-ди-на, в бой пос-ла-ла!
В пер-вой боль-шой вой-не!
Ты мне вин-тов-ку в ру-ки да-ла —
Цель у-ка-за-ла мне!

І тут вучні раптам сціхлі.

## 3

Як толькі змоўклі галасы, я павярнуў галаву.

На шашу ўзбіраўся Іваноў. Ён узлазіў на яе задыханы, махаў рукамі і крычаў нам:

— Во-оздух! Во-оздух!..

Гэтае слова стала потым на вайне страшным. Пачуўшы яго, ты аўтаматычна і з усяе сілы кідаўся ў роўці ў яму. Тады ж яно яшчэ ў нас не выпрацавала рэфлексу. Мяне нават здзівіла — што стары мае на ўвазе, які «во-оздух»?

Запанавала напружаная цішыня.

Прыслухаўся і я. Заліваліся жаўрукі. Звонка і на адной ноце звінелі конікі. Ляскацелі колы фурманкі па бруку. І раптам у гэтыя гукі ўварвалася гудзенне.

— Самалёт? — віскнуў нехта з радасным, даўно чаканым здзіўленнем.

Усе ўскочылі з месц, пазадзіралі галовы і з узбуджанай цікаўнасцю сталі дапытвацца:

— Дзе, хто бачыць?

— Во-о, шпарыць!

— Гарыць!

У нервозных галасах хлопцаў адчувалася пераможная радасць — чаго так чакалі цэлым педвучылішчам, убачылі першыя.

---

* Широка страна моя родная!.. *(ням.)*

— Падбілі, сволачы!

— Нічо-ога, на сваёй тэрыторыі, сядзе!

Нарэшце ўбачыў самалёт і я.

Машына дзіўнай канфігурацыі— тонкая, няскладная, з цёмнай афарбоўкай — імчала проста на нас, валакла за сабой чорны і доўгі хвост дыму. Ад яе раптам аддзялілася якаясьці кропка, пачала аддаляцца.

— О, штосьці выпала!

— Вымпел!

— Лётчык выскачыў!

— Жывы-ы!

Сапраўды, кропка ўжо знерухомела на небе, а над ёю ўзняўся белы парасон.

Самалёт апісаў вялізную дугу і грымнуўся ў дуброву. Там бухнула, бытта разарвалася бомба. Над дрэвамі ўзняўся шэры грыб дыму і лянiва пачаў распаўзацца на бакі.

Да нас спакойна спускаўся парашутыст. Стала ціха, і здалося — мы чуем, як над галовамі шархацяць стропы белага парасона. А яшчэ здавалася, што парашутыст выскачыў тут спецыяльна і спяшаецца да нас, каб нешта пільнае сказаць. Усё было нечаканым, розум не мог звязаць бачанае ў адно цэлае, інакш можна было б падумаць — тады навошта лётчык даў самалёту ўпасці?!

Чалавека ветрам адносіла за дарогу. Калі ўжо можна было разгледзець падэшвы на ботах парашутыста, вучні сарваліся і памчалі да месца прызямлення.

Усё, што звязана з авіяцыяй, для мяне было напоўнена надзвычайнай рамантыкай і прывабнасцю. Мая мара — хоць дакрануцца да самалёта, хоць паўзірацца на яго зблізку. Я разумеў, што павінен заставацца ў ровіку, бо дам лішні повад Марозу лаяцца, але нічога не мог з сабой зрабіць. Нястрыманая сіла падмыла мяне таксама.

Я схапіў «дзягцяр», не адчуваючы нават цяжару, паляцеў за хлопцамі.

Грэбень дарогі перашкаджаў мне бачыць момант прызямлення. Калі я ўзабраўся на шашу, парашут на раллі паволі ўжо патухаў і ператвараўся ў разасланую на траве для прасушкі бялізну. Уражала — не такі ён і белы зблізку. Хутчэй — шэры, як суравое палатно.

Падзівіўшыся з парашута, стаў я разглядаць яго гаспадара.

Вайсковец ужо скончыў адчапляць лямкі. Першыя хлопцы, якія да яго даляцелі, перапалохана рванулі назад.

Лётчык падняў рукі, гэта быў — немец!!!

Мяне таксама агарнуў страх, падагнуліся ногі. Ля мяне застыў Іваноў: і ён быў ашаломлены.

Першым ворагам аказаўся малады атлет, апрануты ў чужога пакрою уніформу, з сярэбраным арлом і свастыкай на грудзях, чатырма чайкамі на лацканах і з бліскучымі жоўтымі папругамі. Паднятая далонь лётчыка крывавіла, спалоханы твар сіліўся ўсміхнуцца.

Іваноў закрычаў:

— Ну, чаго стаіце, абяззброіць!

Касцюк выставіў на немца штык вінтоўкі з прасвідраваным патроннікам.

— Адбірайце пісталет, ну!

На першым курсе вучыўся мужчына са смешным прозвішчам — Нос. Ён скочыў да лётчыка і нязграбна, хвалюючыся, пачаў расшпільваць жоўтую папругу з кабурой. Нос быў з Касцюком з адной вёскі. Валодзя яго супакоіў:

— Коля, не спяшайся!

Па ўзбуджаным голасе Касцюка было відаць — сам ён хвалюецца не менш.

Каля мяне прытаіліся анямелыя дзяўчаты.

— Маслоўская, зірні, што ў яго! — загадаў выкладчык.

Зіна кінулася з насыпу, узяла немца за руку. Люся хапілася адкрываць у Маслоўскай сумку.

— Ы-ых, як разарвала далонь! — паспачуваў нехта.

— Es schmerzt? * — скрывілася Зіна, бытта пакалечыла далонь сама.

— О-оў, на-айн! — узрадаваўся немец.

Ад таго, што загаварылі з ім па-нямецку, ён адразу пасмялеў, стаў як бы яшчэ вышэйшым.

— Асцяро-ожна ты яго! — раіў нехта Зіне.

— Яму баліць жа! — закрычалі ўжо з усіх бакоў.

Лётчык прыязна ўсміхаўся, перавёў позірк са шты-

---

* — Баліць?

ка на Зіну, на яе рукі, якія з паспешлівасцю бінтавалі далонь, на Люсю. Вакол моўчкі тоўпіліся вучні, у іхніх вачах я заўважыў не толькі здзіўленне, але і захапленне.

Яшчэ я злавіў сябе на тым, што калі мы адышлі ад перапуду і ўсвядомілі — з неба ўпаў нам у рукі жывы нямецкі лётчык,— нам страшэнна захацелася перад ім паказацца, якія мы культурныя, гуманныя і незлапомныя.

— Не тапчыце парашута! Васілеўскі, збяры яго! — закамандаваў Іваноў ды кінуўся з шашы таксама.

Пасыходзіліся ўжо і сяляне. Дзядзькі таксама глядзелі, як Зіна перавязвала немца. Каторыя стаялі бліжэй, шапталіся, нібы не хацелі немца абразіць. Маладая жанчына ў сіняй сукенцы падняла дзяўчынку гадоў чатырох:

— Во, Манечка, немец, глядзі!

— А чаму ён — не-емец?

— Такія людзі, дачушка, так называюцца...

Селянін з бутэлькай алею ў кошыку заўважыў кабеце:

— Ты бачыш, як на ім усё блішчыць?! Халера яго не ўзяла, ладны, нічога не скажаш...

— Але, фа-айны! — згадзілася і маладзіца.

Дзядзька папрасіў Зіну:

— Сястра міласердзя, спытайся ў яго па-нямецку, чаго яны супроць нас вайной ідуць, якога ражна ім трэба?

І тут мяне нібы ўкалолі.

Вось цяпер і настаў той момант, з якога пачалася для нас вайна.

## 4

Ля сонца я хутчэй адчуў, чым убачыў, злавесныя цені, і ногі самі панеслі мяне з шашы. Я паспеў толькі віскнуць нейкім танклявым і не сваім голасам:

— Самалёты!

І зараз жа пачуў за сабой напружаную і напалоханую тупатню.

Не памятаю, як даляцеў на агнявую. Калі падаў у ровік, над намі ўжо раўлі чужыя самалёты. Паспеў яшчэ заўважыць, як злева з разбегу ныралі ў ровікі

хлопцы — нібы яны былі гумавыя. Іншыя лёталі па полі, не ведалі, куды падзецца. Я зараз жа страціў сяброў з вачэй, забыўся пра іх — пачало адбывацца нешта жудаснае.

У момант паветра напоўнілася злосным выццём, дымам і пылам. Страшэнна забухала, ходырам захадзіла зямля і застагнала, бы перапалоханы чалавек:

— Ух! Ух! Ух! Ух!..

Наступіў канец свету.

Рэшткамі свядомасці я адчуў, як у мяне мутнее розум, знікае воля, а душы цесна ў целе ад бяссілля, што нічога не магу зрабіць, каб адхіліць гэтае страхоцце. Здавалася, самалёт са смяротным ладункам наязджае менавіта мне на плечы. Я нават злаваў, чаму пясок не расступаецца, не дае магчымасці глыбей залезці ў зямлю. Ля вуха адчуў цвёрды прыклад кулямёта, мільганула кволенькая, як цень, думка — дзеля чаго ён тут, ды нехта подлы і ўсемагутны, бязжаласны і злы з лёгкасцю гэтую думку змахнуў ды прымусіў клапаціцца толькі аб сабе. Ногі былі наверсе, я ўцягнуў іх у ровік, галаву накрыў рукамі.

Не ведаю, колькі часу быў у палоне жаху.

Праз грукат і землетрасенне, памалу, вельмі памалу мной авалодала здагадка, што з цэлага педвучылішча на ўсім гэтым прасцягу поля паміж дубровай і Навагрудкам толькі ў мяне кулямёт, і трэба з яго страляць.

Я паступова прачынаўся ад страху.

Ну і што, калі бамбяць? Неяк жа страляюць і пры такіх умовах!.. Праз суцэльнае выццё і грукатанне я ўжо стаў вылучаць выбухі, шастанне кінутых з магутнай сілай веерчыкаў пяску, мяккі ўдар грудак. Стала не так страшна.

Я ўжо нават спалохаўся за баязлівыя думкі і паніку і тут жа ўзрадаваўся — ніхто іх не бачыў. Пацягнуў «дзягцяр», адчуў цяжкасць жалеза і вагу поўнага дыска, прыставіў адпаліраваны прыклад да пляча.

Адразу зрабілася лягчэй.

Чамусьці не на стрэльбішчы, а толькі цяпер так сваім нутром адчуў сілу, скрытую ў мікраскапічнай дакладнасці сталёвага механізма, у жоўтых патронах са злосна наёжанымі чорнымі кулямі, якія эканомна сціснула затоеная спружына ў талерцы дыска. Ужо

нецярпелася, каб сіла гэтая сіганула ўверх па самалётах. Я сеў, развёў ногі, узняў рулю і стаў угары шукаць ворага.

Нарэшце ўбачыў цэль: ля сонца — маленькі чорны крыжык. Ліха на яго, няўжо гэты пыл і грукат праб'юць кулі і даляцяць вунь туды і зробяць яму шкоду?! — закралася сумненне.

З узнятым кулямётам цэнтр цяжару прыходзіўся мне па плячы — корпус валіла назад, задзіраліся ногі. Пры стральбе будзе яшчэ аддача. Не цалкам перакананы ў карысці таго, што раблю, узлез на бруствер і сеў. Тады ўпёрся наскамі чаравікаў у сценкі ровіка, паклаў локці на жывот і пачаў вадзіць ствалом за машынай, трымаючы мушку, як мяне вучылі, на цэлы корпус самалёта ўперад...

Ліха на яго, мушка таўсцейшая за чорны крыжык!..

Стрымаў дыханне, націснуў спуск. Прыклад не ўздрыгануў, кулямёт не стрэліў.

Ужо забыўся на страх. Я быў у палоне азарту. Адчуваў страшэнную прагу пырснуць усю сілу дыска па ворагу. Паспешна пастукаў кулаком па затворы, здзьмуў з яго пясчынкі, пацягнуў нават па ім рукавом, прыцэліўся яшчэ раз і зноў націснуў спуск.

І цяпер кулямёт не стрэліў.

Я нават заглянуў у рулю — мо не чуў чаргі?.. У канале ствала блішчалі кроплі масла.

У адчаі я азірнуўся.

Каля мяне валялася торба з дыскамі, а побач — ні адной душы. Па-ранейшаму ўзляталі слупы чырванаватай і тлустай зямлі. Пясок ляцеў у вочы, секлі па твары каменьчыкі, а праз усё гэта, як дэманы, па небе снавалі чорныя цені.

Я зноў узяўся за кулямёт. Спускавая скаба спружыніла, я дацісну́ў яе да адказу.

Стрэлу не атрымалася.

### 5

Паступова ўсё сціхла. Некуды падзеліся самалёты. Абсела зямля. Стала чуваць, як звініць у вушах. Нада мной вырас Іваноў. Настаўнік падабрэлым і змененым голасам спытаўся:

— Алёшка, ты страляў?

— Кулямёт адмовіў!

— Не можа быць, я сам яго правяраў, пакажы!..

Стары павярнуў яго ў руках, шчоўкнуў засцерагальнікам.

Толькі цяпер я ўбачыў сваю памылку і ад сораму ледзь не згарэў.

— На! — са спачуваннем вярнуў мне зброю настаўнік.— Нічога, вайна толькі пачынаецца, другі раз напэўна не забудзеш!.. Але што ты зробіш такой збро- яй ім — зенітку трэба!.. А дзе твой напарнік?

На самай справе, дзе ён?

Крануты прадчуваннем, пачаў трывожна азірацца. Хлопца нідзе не было.

Навокал дыміліся яміны з жоўтым і белым пяском на дне. Чуўся моцны смурод серы, гарэлага жалеза, бітага каменя. Над полем лена ўзнімаліся празрыстыя сінявагыя хмаркі з усечанымі конусамі. На тэлеграфным дроце гойдалася нейкае ашмоцце. У прыдарожных вербаў голле было перакручанае, лісты вывернуты, вербы здаваліся раптам пасівелымі. Па дарозе імчаў конь і ашалела хроп. У яго хамуце тырчалі кавалкі аглабель, канцы якіх бялелі свежым дрэвам.

Бомбы рваліся ўсюды, але ў ровікі не трапіла ніводная. З вучняў не хапала толькі майго напарніка. Засыпала выбухам, няйначай. Да Ложачкіна я адчуў братэрскую спагаду і жаль. Дзе яго засыпала? Перакопваць усю вываративую зямлю не было сэнсу.

З ровікаў павылазілі ўсе нашы. Сябры выплёўвалі пясок, абтрасаліся і не верылі сваім вачам, што жывыя. Якім жа далёкім і наіўным здаліся цяпер тыя клопаты і разуменні, якімі жыў кожны з нас усяго якіх сем-восем хвілін назад!

Жыццё стала дзяліцца раптам на два перыяды — да бамбёжкі і пасля яе.

З-за шашы выглянулі дзяўчаты — запэцканыя, змененыя, ледзьве іх пазнаць. Убачыўшы свайго дзядзьку, Люся прыстала да старога з істэрычным плачам, нібы да галоўнага вінаваўцы:

— Чаго вы тут стаіце? Чаму нашых самалётаў не выклікаеце?

— Люська, ты жывая? — кінуўся да яе Іваноў, толькі цяпер успомніў пра сваячку.

Тая яго не слухала. Вочы дзяўчыны блішчалі дзікім абурэннем.

— Чаго, чаго-о вы тут стаіце?! Чаму нашых самалётаў не выклічаце? Дзе нашы самалёты?! Чаму вы нічога не робіце, каб іх выклікаць? — стала яна роспачліва малаціць кулакамі дзядзьку ў грудзі.

— Вало-одзя! — з надрывам ускрыкнула Зіна і кінулася да Касцюка.

Хлопец злавіў яе ў абдымкі.

— Паглядзі, што на шашы робіцца!.. Я нічога ўжо там не магу дапамагчы!.. Бо-ожа мой, бо-ожа, што натвары-ылі!

Мы ўзляцелі на насып і анямелі.

На бруку ляжаў селянін. З яго бутэлек павольна цякла залацістая вадкасць і тлустым пухіром збіралася паміж каменняў. Побач у сініх абрыўках і ў мокрай рудой пляміне ляжала без ног жанчына. Рот яе то адкрываўся, то закрываўся — нібы ў рыбіны, якую вынялі на лёд. З-за кювета крычала дзяўчынка:

— Мамка-а, я баюся-а! Мамка-а, у мяне кроў на ножцы-ы!..

Я з жахам здагадаўся, якую жанчыну кліча малая.

— Во дзе яны! — ужо з варожасцю сказаў Нос і паказаў у бок Навагрудка.

Над горадам, не спяшаючыся, кружылі самалёты. Яны заходзілі адзін аднаму ў хвост, выцягваліся ў ланцужок, прыцэльваліся і пікіравалі на цэль. Скінуўшы бомбы, з-над зямлі машыны рэзка ўзмывалі ўверх, натужліва вылі маторамі. У Навагрудку дуднела, бытта там хто скідаў агромністыя лісты жалеза. У пару месцах над дамамі ўзнімаліся слупы ні то пылу, ні то дыму.

Ага, трапіць у цэль яму не так і проста, трэба раней рабіць складаны манеўр. І сектар, якому паграджае самалёт бомбай, зусім маленькі. На фоне ўсяго абшару — от, такія сабе іголачныя ўколы: адзін дом, адзін падворак, шырыня вуліцы...

Самалёты ўжо былі для мяне звычайныя варожыя машыны, якія прыперліся сюды нахабна і вось хочуць нашкодзіць нам. Я адчуў сябе страшэнна вінаватым — гэта ж я іх адпусціў жывымі!.. Хоць лажыся і цяпер выпусці ў іх дыск. Хіба толькі, каб апраўдацца, бо да цэнтра горада адгэтуль кіламетраў з тры.

## 6

Праз хвіліну я з Касцюком вёў у Навагрудак палоннага. Кулямёт узяў Нос, цяпер у мяне — Касцюкова вінтоўка з прасвідраваным патроннікам, а ў Валодзі — нямецкі пісталет.

Хутка на шашы ўбачылі мы наладкаваную мэбляй і дамашнім скарбам машыну. Сярод усяго гэтага дабра, абняўшы люстры, тырчала ў зімовым паліто раза-прэлая, з распушчанымі валасамі жанчына. Няйначай, машына ішла здалёк, з-пад граніцы. Ля колаў машыны ляжаў чалавек у саматканым пінжачку. Адна рука ў яго была выкінута ўперад, далонь ляжала на пакеце, абшытым палатнінай. На баку гэтай, мабыць, пасылкі старанна выведзены хімічным алоўкам адрас: «Магадан, п/я 76 648, Корзуну Михаилу Васильевичу».

Я ўбачыў, як у ноздры чалавеку бяспечна палезла бойкая зялёная муха, і ўсё зразумеў.

Да кузава з апошняй сілы валокся баец. Твар у крыві, замест падбародка — крывавая рана, ён прытрымліваў яго жменяй, а ў другой была вінтоўка. Баец замычаў, замахаў вінтоўкай — прасіў узяць яго ў кузаў.

— Васька, хутчэй, нягоднік, заводзь машыну, запэцкае мне ўсё крывёю! — залямантавала жанчына і забарабаніла ў шафёрскую будку.

Машына папырхала маторам, скрыганула каробкай хуткасці і стала аддаляцца, пакінуўшы ашаломленых салдата, мяне і Валодзьку. Я гатоў быў невядома што зрабіць, а тут яшчэ ўзіраўся палонны. Немец глядзеў з цікавасцю, з вінаватым адчуваннем.

— Стой! Сто-ой... тваю маць! — закрычаў аж пасінелы ад абурэння Валодзька і хапіўся за жоўты кабур.

Машына набірала хуткасці, уз'язджала ўжо на пагорак.

Касцюк нязграбна выняў парабелум і са злосцю пачаў яго тузаць. Нарэшце ўзвёў.

Тах! Тах! Тах! — не надта моцна, як з пугача, у густым застылым паветры пачуліся пісталетныя стрэлы.

Машына была ўжо на гары. Затым яна пачала хутка правальвацца, нібы яе знізу падсякалі.

— Гады! — у бяссіллі ледзь не заплакаў Касцюк і затрос кулаком.

Над дарогай яшчэ патырчала, нібы самавар, самотная жаночая фігура, але раптам праваліліся некуды і яна.

Узялі мы параненага і павалакліся ў горад.

## 7

Немцы доўга не заглядвалі ў Навагрудак. Яны прарваліся з поўдня па дарозе Баранавічы — Мінск, з поўначы — па шашы Ліда — Маладзечна, утварыўшы такім чынам «навагрудскі кацёл». Пачалася запозненая эвакуацыя. У педвучылішчы не стала настаўнікаў — яны павезлі сем'і на ўсход.

Некалькі дзён мы самі сабе шукалі занятак. Нарэшце я з вучнем другога курса Мікалаем Жураўлёвым накіраваліся ў ваенкамат.

Ваенкома, капітана Волкава, атакавалі жанчыны:

— Сынок, што я на гэтых шаснаццаць рублёў зраблю? — дакарала яго нейкая бабуля, трымаючы за рукі дзве заплаканыя дзяўчынкі.— Мы выскачылі з дому як стаім, ад самага Гродна і расінкі ў роце не мелі, а колькі нам яшчэ ехаць!..

— Мамаша, рускім языком кажу — больш выпісаць дапамогі не маю права! — цярпліва тлумачыў стомлены ваенком.

— Скажыце, калі, нарэшце, пададуць машыны? — пыталіся жонкі афіцэраў.— Мо нам лепш самім дабірацца? Так і аб'явіце народу!

— Вечарам адпраўлю. Вечарам... Авіяцыя цяпер лютуе...

— Адправіце, праўда?

Нам было шкада старой, яе ўнучак, жанчын. Мы спачувалі і капітану. Таму слухалі і цярпліва чакалі. Нарэшце падвартавалі момант і звярнуліся да яго.

— Куды я вас дзену, хлопцы? — цяжка ўздыхнуў ён.— Я не ведаю, куды адправіць нават мабілізаваных. Сувязі няма, дарогі перарэзаны... Сам чорт не разбярэ, дзе тут што...

Капітан сказаў гэта так, каб не чулі жанчыны. Нам палесціла, што ён заводзіць з намі сакрэты, гаворыць, як з людзьмі са сваёй кампаніі.

— То што ж мы павінны рабіць? — ужо смялей падступіліся мы да яго.

— Лепш валяйце дадому, не блытайцеся пад нагамі,— разгневаўся ваенком.— Там і чакайце загаду!..

Лёгка яму сказаць! Мая вёска за дзвесце кіламетраў на захад. Там ужо даўно немцы. А Мікалай — сірата, яму зусім ісці няма куды.

Але болей мы не рашыліся прыставаць да ваенкома. Павярнулі ў інтэрнат. Там сабралі торбы і ўліліся ў натоўп, які плыў дзень і ноч на ўсход.

## 8

Праз некалькі дзён дарога мяне так стаміла, што навакольнае даходзіла да маёй свядомасці нібы праз сон.

Пад Стоўбцамі забрылі ў апусцелую вёску піць ваду. Чамусьці нас агарнула трывога, і мы сталі азірацца.

За гумнамі па дарозе Баранавічы — Мінск упэўнена, не надта спяшаючыся, валілі незвычайныя машыны з салдатамі ў зялёна-шэрым адзенні і добра вядомых мне яшчэ з 1939 года касках.

Салдат абганялі матацыклісты.

З кароткімі хобатамі гармат сярдзіта раўлі маторамі танкі.

Па ўзбочынах з закасанымі да локцяў рукавамі і з засаджанымі пад пагон пілоткамі рытмічна крочылі ў калоне па тры салдаты ды высвісталі на тры галасы мелодыю.

Харавы свіст, незвычайнай канфігурацыі танкі, машыны і тое, што гэтая чужая лавіна так спакойна і ўпэўнена валіла менавіта на ўсход, дзе дагэтуль былі ўсе твае думкі, вярнула да жудаснай рэчаіснасці.

Вось яно, пачынаецца!

— Ком! Ком! — ад кулямёта пад плотам паклікаў нас нямецкі заслон, які мы толькі цяпер заўважылі. Салдат з царскай упэўненасцю падзываў рукой.

Мяне агарнуў страх, горла здушыў камяк: тваё толькі да плота, а далей — няволя, чужы свет, вораг!..

Аднак і я і мае сябры пайшлі.

Салдат прыўзняў нам шапкі, паўзіраўся, ці не стрыжана галава. Зазірнуў нават у кашулі, пашукаў

вайсковых штампаў і толькі тады перадаў нас другому немцу. Той завёў усіх на суседні падворак і напісаў пропуск — адзін на ўсю кампанію, закрычаў па-нямецку:

— Марш дадому! Жаць, малаціць, сеяць! Марш з вачэй, толькі хутка!

Колькі было знявагі ў яго словах! Ён нават нікому не глянуў у вочы, абыходзіўся, бы з жывёлай. Не ведаў і слова па-нашаму, а рабіў табе ласку, дазваляў хадзіць па тваёй зямлі!..

Сябры паразыходзіліся па сваіх вёсках. Я і не заўважыў, калі застаўся адзін. З роспачы, атупення і недасыпання свет стаў бачыць нібы праз слой вады, якую яшчэ і пагойдвалі. Нібы цябе перавярнулі дагары нагамі і ты глядзеў на ўсё з такога нязвычнага становішча.

Пацягнула мяне, пылінку, у родныя мясціны і пачало кідаць на хвалях падзей.

Пад Карэлічамі апрытомнеў ад стрэлаў.

Паабапал дарогі — перакопанае ровікамі жыта. Толькі што адгрымеў бой. У збэрсанай саломе цямнела і жаўцела вывернутая выбухамі зямля. Валялася некалькі забітых немцаў. Пад магутнай таполяй ляжаў радок параненых байцоў. Над імі ўзвышаўся малады унтэр-афіцэр. Немец, не спяшаючыся, цэліў з пісталета і страляў хлопцам у галовы.

Тах! Тах! Тах! — метадычна чуліся на полі пісталетныя стрэлы.

Параненыя не прасілі ў ворага літасці. З нейкай зацятай упартасцю і выклікам аскальвалі белыя зубы ў страшнай і адчайнай усмешцы — і моўчкі паміралі.

Ад жаху і бяссілля ў мяне падкасіліся ногі.

## 9

Пару дзён таму назад пакідалі мы Навагрудак, ахоплены пажарам, а цяпер застаў я паабапал вуліцы абгарэлыя сцены.

На плошчы ў цяню павялых ад полымя акацый стаялі танкі з чорнымі крыжамі на бартах. У аднаго на бране вісела зялёнае вядро з рускім надпісам: «Противопожарное». Зверху машыны былі зацягнуты вялізным кавалкам чырвонага шоўку з чорнай сваcты-

кай у белым коле. Чырвоны колер палотнішча паспеў стаць для мяне святым, абуджаў асацыяцыі з дзяцінства, з дэманстрацый падпольшчыкаў у мястэчку Гарадок, ніяк не вязаўся ў маёй галаве з павучыным знакам свастыкі і немцамі.

Побач са мной разважалі двое сялян:

— Прыкрыліся — каб свае самалёты не зблыталі.

Чалавек нават нагнууўся і паказаў суседу гачыкі, якія трымалі шоўк:

— Глядзі, прадбачылі, халера на іх, яшчэ да вайны!

— Сваё вядро немец згубіў, то, мабыць, у Лідзе здабыў сабе на аэрадроме...

— Разведка ў іх уся або на матацыклах, або на машынах, коней ужо вывелі!..

— Падрыхтаваліся, гады, як след! Не тое што нашы...

У голасе дзядзькоў адчуваўся дакор да сваіх і зайздрасць да ворага, абурэнне: чаму б нам не быць лепшымі?!

У ценю важна вылежваліся немцы. Гэтыя былі не тыя, зусім не тыя, што ў верасні 1939-га ўступалі ў нашу вёску. Ужо — нахабіста-ўпэўненыя, бяспечныя і вясёлыя да пустаты. Яны, не спяшаючыся, апляталі каўбасу, кансервы, здаволена рагаталі і ад шчаслівага свайго ап'янення ўжо не бачылі ні прахожых, ні горада.

На вежы танкіст заводзіў патэфон. Унізе ля гусеніц стаялі дзяўчаты і скалілі да яго зубы. Бытта ў насмешку, патэфон захрыпеў:

> Если завтра война, если враг нападет,
> Если черная сила нагрянет...

Немцу нешта не спадабалася. Ён выняў пласцінку і запусціў яе ў паветра, яна чырканула па галінцы і рассыпалася на чорныя кавалачкі.

Дзеўкі паслужліва захіхікалі.

Яшчэ зусім нядаўна, калі Іваноў вёў нас з дробнакаліберкамі праз горад на стрэльбішча, а я запяваў такую ж песню, укладаючы ў яе душу, магчыма, гэтыя самыя дзяўчаты стралялі на нас вачыма, таксама двухсэнсоўна, заманліва хіхікалі і паказвалі зубкі.

З люка вылез белабрысы танкіст, куснуў яблык, заіграў на бліскучым акардэоне і заглушыў патэфон.

У гэты момант два салдаты і цывільныя тыпы з вінтоўкамі правялі па вуліцы хлопца. Арыштаваны здаўся мне надта знаёмы. Збялелы, босы, са звязанымі назад тоўстай вяроўкай рукамі хлопец жаласліва азіраўся, сустрэўся са мной вачыма, нібы прасіў ратунку.

Гэта ж — міліцыянер, я яго часта бачыў на плошчы!.. Толькі ён без гімнасцёркі і таму здаецца маладым, меншы ростам...

Аднак я не кінуўся бараніць арыштаванага. Я нават злавіў сябе на тым, што не зводжу вачэй з белабрысага танкіста з бліскучым акардэонам, і сам на сябе зазлаваў.

## 10

На лесвіцы педвучылішча нейкая жанчына прыгіналася ад цяжару.

Яшчэ за тыдні два да вайны ў падвале нашага будынка размясцілі вайсковы шпіталь. Медсёстры раскладвалі там бялізну, а для нас настала новая забава — прыставаць да іх. Дзяўчаты нібы злаваліся, кідалі ў нас што трапляла ім пад рукі і какетліва рагаталі... Немцы сюды яшчэ не заходзілі. Жанчыны цяпер разбіралі бялізну. Калі падумаць, то лепш бы гэтыя рэчы дасталіся сваім людзям, але для мяне тут было ўсё святое.

— У такі час аб нажыве думаеш?! — зазлаваў я.

— Мы не зна-алі, што няможна! — з напускным плачам заныл кабеты ды пакідалі клункі на ступенькі.

— Хтосьці вам паверыць!

— Дальбо-о, не ве-едалі!

Аднекуль вынырнуў няголены чалавек з кіпай вайсковых ватнікаў.

— А ты, камсамолец, чаго стараешся?! — накінуўся ён на мяне з налёту.— Ты што сабе думаеш?! Скончылася ўсё тваё нябось!..

— Але, міну-ула тваё, го-одзе! — асмялелі бабы і пабраліся за клункі.

— Адкрыча-алі сваё, хо-опіць!

— Адкама-андавалі!

У мяне адняло мову.

Тып прыставаў:

— Хочаш, камсамолец, я цябе зараз запяку ў турму, хочаш? Там такіх — ого!..

— Бабы тыпу падтакнулі.

Узбуджаны і злосны, крочыў я далей па вуліцы і здзекаваўся сам з сябе. Хіба не гэтага трэба было чакаць?! Камсамолец! А што? У душы я даўно быў камсамольцам — і гатоў быў за гэта адказваць.

Хацелася некага біць, лаяцца.

Крыху ніжэй нашага педвучылішча — драўляная будыніна фінтэхнікума. На двары яго праз плот я ўбачыў дзіўны малюнак і спыніўся.

За плотам сядзела напагатове з дзесяць хлопцаў у новых касцюмах і ў белых кашулях. На руках яны мелі павязкі з нямецкімі надпісамі: «ГІЛЬФСПОЛІЦАЙ». На вытаптаным валейбольным полі нямецкі афіцэр дрэсіраваў іхніх сяброў.

Чатыры хлопцы таксама ў святочным адзенні і з гэткімі ж павязкамі трымалі савецкія вінтоўкі без штыкоў і старанна выконвалі каманды: зварот улева, направа, бралі вінтоўкі да нагі, на плячо... Першы стаяў з вінтоўкай... наш Мароз!

— Лажысь! — па-руску закрычаў немец і, бытта вось-вось наступіць канец свету, напружана, паступова павышаючы голас, пагнаў іх: — Па-пластунску, марш!

У мой бок поўз Мароз. Яго вочы блішчалі радасным захапленнем і якойсьці сабачай адданасцю немцу, бытта казалі — от, ліха на яго, дае-е!

Каб мяне ніхто з паліцаяў не пазнаў, я павярнуў галаву і паплёўся па тратуары ўздоўж плота, яшчэ больш уражаны.

Дагнала мяне задыханая прыбіральшчыца з нашага інтэрната, глухаватая цётка Нюра. Яна хапіла мяне за рукаў і адцягнула ў нечы двор.

— Уцякай адгэтуль, уцякай, хутчэй! — зашаптала ўсхваляваная кабеціна.

— Чаму-у, цё-отку?!

— Спаткала ля станцыі толькі што Ложачніка з немцамі!

— Ло-ожачніка?!

— Ну да!

— Дак ён — жывы-ы?!

— Пытаўся пра цябе і Касцюка! Я сказала, што ты пайшоў на Валеўку...

Ногі мае нібы прыраслі да зямлі.

— Яны вас шукаюць за лётчыка!

— Ло-ожачнік?! — я ўсё не мог яшчэ паверыць.

Але яна больш не сачыла за маімі вуснамі, не старалася зразумець, пра што гавару.

— Бяжы, з бо-огам!..

А мы ж Ложачніку нават магілку насыпалі на тым месцы, дзе ён ляжаў.

## 11

Часці гітлераўскага генерала фон Бока так імкліва занялі Беласток і нашу мясцовасць, што людзі апамятацца не паспелі.

Яшчэ да вайны нашы хлопцы параз'язджаліся. Валодзька Кірылішын застаўся ў Кузбасе. Сашку Марцінавага і Рыгоравага Косцю ўзялі ў армію. З маладых на вёсцы засталіся толькі я ды наш Валодзька. Пачалі мы з братамі Яроцкімі з Бялявіч меркаваць, як быць далей, ды прыляцела на наш хутар навіна: Яроцкіх разарвала выбухам! З Валодзькам пабеглі мы ў Бялявічы.

Немцы выгналі людзей вазіць каменне на шашу. Мікалай Яроцкі з малодшым братам Іванам і сястрой-калекай заехалі на поле, пачалі кідаць на фурманку каменне. Адзін камень не даляцеў да воза, трапіў якраз на міну.

На стале — шырокая труна, у ёй прыкрытыя посцілкай целы братоў. Ля дамавіны кленчылі прыбітыя горам бацькі. На ложку сядзела гарбатая і памешаная дачка. Яна радавалася, нібы на вяселлі, і шчасліва выхвалялася:

— А я таксама была на полі разам, але мяне не забіла!

Мы з Валодзькам патапталіся ў сенях, паўзіраліся скрозь адчыненыя дзверы на гэты жах і, як асірацелыя, папляліся ў Страшава.

Надышлі дні адчаю і пакутлівага роздуму.

У Меляшках жыў Шурка Казёл — душа Купалаўскіх вечароў і музык. Згаварыліся мы з ім сабраць на-

дзейных хлопцаў, хто яшчэ застаўся, і падумаць, што рабіць.

— Зайшоў я да таварыша праз пару дзён у Меляшкі, а маці яго пахвалілася:

— Дзякуй богаві, свайго Шурку мы з бацькам угаварылі. Паехаў-такі ўчора на заробкі ў Германію.

Вось гэта навіна для мяне.

Некаторыя акружэнцы папрыставалі да ўдоў.

У Ліпніках я трапіў на групу нашых салдат. Яны прабіраліся аднекуль з-пад Ломжы і зусім выбіліся з сілы. Адны, абняўшы вінтоўкі, стомлена драмалі, іншыя тупа глядзелі ў вогнішча. Быў холад, церусіў дождж, дровы не хацелі гарэць, і дзяжурны падкладваў пад іх пачкі чырвонцаў.

Па лясах і вёсках блукалі групкі са зброяй. Яны нікога да сябе не прымалі, а калі ўжо немцы заціснуць, што не вырвацца, бараніліся з адчаем смяротнікаў.

Гэтак загінула група на хутары пад Мастаўлянамі, другая — ля Пілатоўшчыны. Хлопцы адстрэльваліся, покуль былі патроны. Немцы падпалілі хаты. Пад Мастаўлянамі байцы выскоквалі праз вокны, босыя па снезе беглі з нажамі на кулямёты. Ля Пілатоўшчыны, калі не стала чым адстрэльвацца, пабраліся за рукі і спявалі «Інтэрнацыянал», покуль не абваліўся дах.

Здавалася, ты ў сне. Была такая моц — і яе не стала. Ніякія весткі з усходу не далятали. З нямецкіх газет нічога не даведаешся — фашысты знарок не пісалі, дзе праходзіла перадавая, каб весткі не выкарыстала савецкае камандаванне. Мы сталі глыбокім тылам. Усюды былі толькі дагледжаныя нямецкія салдаты і афіцэры.

Няўжо зноў давядзецца пачынаць усё з гурткоў, з пракламацый на папяроснай паперы, з падпольных рэдакцый, патаемных сходак?

## 12

Ішлі дні, тыдні, месяцы, а нічога не мянялася.

Нашу тэрыторыю немцы далучылі да трэцяга рэйха, да правінцыі «Ост Пройзэн». Усім дарослым выдалі «аўсвайсы». Цяпер маё існаванне пацвярджалася дакументам з арлом і свастыкай.

У Гарадку віселі каляровыя плакаты, на якіх Гітлер цісnуў рукі абарваным дзецям, вясковым кабетам, прыязна ўсміхаўся, а пад фатаграфіяй стаяў подпіс на трох мовах: «Вашай асобе нічога не пагражае, калі будзеце добра працаваць!»

Аднойчы я падабраў на шашы нямецкую газету «Фолькішэр беабахтэр». З артыкула выходзіла, што Беласточчына і Гродзеншчына аж па Зэльву — старажытная нямецкая зямля, яна стагоддзямі чакала вызвалення і, нарэшце, вось дачакалася. Артыкул падмацоўваўся фатаграфіяй знаёмага да дробязей Зэльвенскага вакзала ўжо са свастыкай і чорным арлом над будынкам, а пад фатаграфіяй стаяў катэгарычны подпіс: «Ад сённяшняга дня і назаўсёды ў лоне Гаймлянду».

Немцы ўвялі нечувана жорсткія законы. Было аб'яўлена, што за непадпарадкаванне мясцовым уладам чалавека чакае расстрэл.

У Страшаве покуль што не кранулі нікога. Праявілася ўменне трымаць язык за зубамі ў момант небяспекі.

## 13

Як некалі апрычнікі Івана Г褌рознага лічылі за ганьбу гаварыць з мірскімі людзьмі, а рымскія патрыцыі — з нявольнікамі, так цяпер фашысты размаўлялі з намі толькі рухамі пальцаў, галавы, у крайнім выпадку — камандай.

Фашыст не мог адчыніць дзверы ў хату інакш як нагой. Гонар адразу знікаў, калі фашыст бачыў, што можна пажывіцца.

У мацерыным куфры ляжаў гадзіннік, які мы з Валодзькам сапсавалі яшчэ гадоў семнаццаць таму назад. Польскія паліцыянты неаднойчы рабілі вобыск, але яго пакідалі. За падаткі апісвалі ў нас і вывозілі ў гміну рэчы, а на пачарнелую металічную сплюснутую «цыбуліну» ніхто не пакваліўся. Не пакваліліся на такую рэч і польскія пагранічнікі, калі мы з Васем Курцэвічам, уцякаючы за мяжу, захапілі яе з сабою.

Зайшоў салдат вермахта, дастаў з куфра бацькаву памятку з першай сусветнай вайны — і апусціў сабе ў кішэню. Яшчэ накрычаў на бацьку, чаму сапсаваная.

У Гарадку малыя дзеці навалаклі патронаў. З кожнай хаты, дзе знайшлі хоць адну такую цацку, немцы пабралі мужчын, вывелі іх з рыдлёўкамі ў поле. На выгляд такі сабе дабрадушны і мірны фельдфебель з пухлым тварам паспрабаваў рыдлёўкай зямлю, выбраў, дзе менш камяніцы, ботам нарысаваў на раллі квадрат, загадаў мужчынам капаць. Людзі добрасумленна ўзяліся за работу.

— Для зеніткі пазіцыі робім! — тлумачылі.

Калі яма была гатова, фельдфебель, не спяшаючыся, пазавязваў мужчынам вочы, выстраіў над ямай у радок, даў каманду салдатам, і тыя ўсіх пастралялі.

Спыніліся ў Гарадку маладыя эсэсаўцы начаваць і загадалі яўрэйскай абшчыне — «Юдэнрадзе» — прывесці ім на ноч чатырох дзяўчат. Абшчына загад выканала.

Праз дні два я ўбачыў пакутніц — Соню Цукерман, аптэкараву Фаню...

Былы даносчык — Ёзік Госцік — выйшаў з нашай ваўкавыскай турмы і зноў, ужо пры трэцяй уладзе, узяўся за свае справы.

Няўжо чалавецтва топчацца па замкнутым коле?!

Мы тут ужо болей не беларусы і не палякі, а — тубыльцы.

Школы для дзяцей тубыльцаў адкрыюць толькі пасля вайны, у іх вучыць будуць адно чытаць, пісаць, лічыць да сотні. Вышэй навука — толькі для немцаў. І не цікаўся, чаму так. Будзеш шмат думаць і дапытвацца — расстраляюць або адмераюць дваццаць пяць гумаў. Глянеш скоса на афіцэра — атрымаеш таксама. Ты не толькі тут лішні, але ты абразіў гэтых звышчалавекаў, бо карыстаўся тутэйшай вадой, паветрам, лесам, зямлёй...

Адным словам, дзяленне на гаспадароў і нявольнікаў стала афіцыйнай нормай.

Не стала ніякай справядлівасці. Няма куды скардзіцца. Для цябе, нявольніка, адзін закон — тэрор.

Было боязна ступіць і крок па сваёй зямлі. І гэта яшчэ — адно пачатак.

Нас, нявольнікаў, немцы будуць прарэджваць — як лес. Покуль што пакінулі ў спакоі, бо ў іх цяпер справы важнейшыя. Сяк-так жыві і памятай, што ты ў «Вя-

лікай Германіі», у бастыёне культуры Заходняй Еўропы, якой гісторыя наканавала ганаровую місію — ратаваць чалавецтва ад некультурных бальшавікоў.

Табе ноччу нельга хадзіць ля сваёй хаты. Нельга чытаць газет — яны не для цябе. Нельга мець радыё, веласіпед. За ўсё — расстрэл.

І мыш прыродай створана так, што пры небяспецы кусаецца. Фашысты ж не прызнавалі за табой нават біялагічнага права бараніцца.

Пра жудасці першага паўгода акупацыі не расказаць, іх і не апісаць. Здавалася — чалавек гэтак не зможа пражыць і гадзіны. Аднак людзі жылі. Многія сумняваліся, цярпелі, трацілі веру, паступова перамагалі сябе, а гэта значна цяжэй, чым таму, хто не сумняваўся ні хвіліны.

Зрэшты, цярпелі па-рознаму. Узровень пакут залежаў ад інтэлектуальнага ўзроўню.

Некаторыя ў вайне, у акупацыі бачылі толькі невыгоду, што не стала музык, што ў Гарадку не купіш таго, што трэба...

Немцы пачалі браць моладзь на работу ў Германію. Покуль што бралі халасцякоў і незамужніх (хопіць гэтых, да вясны вайна з бальшавікамі скончыцца!). Дарослыя — юнакі і дзяўчаты — параз'язджаліся яшчэ ў мірны час — хто на Урал, хто на Данбас. Людзей не хапала, а старасты вызначаную колькасць павінны былі даць пад пагрозай смерці. Пачалі яны ў спісы ўключаць малалетніх.

Па вёсках пайшла паніка. Сяляне падкуплялі старастаў, паліцаяў, жандармерыю, каб сына ці дачку выкрэсліць са спіса. Моладзь стала «хварэць», нават калечыць сябе.

Бялявіцкая Лушка заехала ў гродзенскую бальніцу, паскардзілася — баліць «сляпая кішка». Хірург ускрыў брушную поласць, убачыў, што яго абдурылі, і зазлаваў:

— А, ты гэ-этак?! Цяпер апендыкс выражу ўсё роўна, каб ведала другі раз, як маніць!

Лушцы толькі гэтага і трэба было. Покуль немцы вывозілі яе сяброўак, яна праляжала ў бальніцы.

Найбольш лёгкім спосабам застацца дома была жаніцьба. Бацькі згаворваліся, везлі сваіх дзяцей у Гарадок, вянчалі ў царкве, а потым «маладога» бацька

забіраў да сваёй хаты, а «маладую» — да сваёй, а даведку аб шлюбе неслі ў камендатуру.

Гэтак выходзілі замуж і жаніліся пятнаццаці-шаснаццацігадовыя. Стрыечныя сёстры бралі шлюб са стрыечнымі братамі. Што будзе, калі «маладыя» падрастуць, ніхто не думаў, бо надоўга не загадвалі — абы пражыць да вечара.

І вось у такі час на полі мяне дагналі сані. Ехаў стары Шусцік з сынам. Сашка служыў паліцаем, але цяпер апрануты быў у новае цывільнае паўпальтка з бабровым каўняром, у такой жа вушанцы, на нагах меў бліскучыя хромавыя боты. Царкоўны вартаўнік таксама выфранціўся, як на вяселле.

— Тррр, халера! — затрымаў ён каня і назваў мяне, па звычцы вясковых старых, па бацьку: — Добры дзень, Сцяпан!

Саступіўшы з дарогі ў снег, я адказаў на прывітанне, насцярожана чакаў.

Стары, мабыць, выпіў, бо ўвесь чырванеў, а вочы молада блішчалі. Затое сын сядзеў сур'ёзны, прыціхлы, як бы яго штосьці гняло. Школы ён так і не скончыў, выключылі яго з шостага класа. Падросшы, буяніць перастаў.

Гэта ён мяне некалі піхнуў на лёдзе, а я ганебна паскардзіўся настаўніцы. І дзіва! Калі потым даводзілася нам спатыкацца на музыках, я перад Шусцікам заўсёды адчуваў сябе вінаватым. Мне і цяпер перад ім было няёмка.

— Здаецца, Алёша яго зваць? — спытаўся стары ў сына і павёў са мной гаворку: — Пастой, Аляксей, мы цябе хочам спытацца пра нешта!

Цікава, які інтэрас маюць Шусцікі ў Страшаве?

Вылез я са снегу на дарогу, абапёрся аб сані.

— Аляксей, вы жывяце побач з Настусяй?

— Ага...

— Скажы нам праўду, як яе Верка?

Толькі цяпер я ўбачыў у санках кошык з бутэлькамі самагонкі і пахаладзеў. У мяне хочуць адабраць Верку, а я не магу гэтаму перашкодзіць!

— Пра што вы, дзядзьку, хочаце даведацца? — як бы з таго свету, пачуў я ні то свой, ні то чужы голас.

— Ну, як яна наконт таго... Ну, ці на баку ні з кім нічога ніякага, бы той казаў... Хэ-хэ-хэ-хэ!

— Та-ату, што вы ка-ажаце! — з павагай да старога сказаў сын.

Трэба было што-небудзь сказаць, штосьці прыдумаць, чаго я стаю як слуп? Трэ ўмяшацца, перашкодзіць, адгаварыць ад Настусінай дачкі. Але як? Мо аблаяць яе, абгаварыць, абы толькі пяехалі ні з чым, дзяўчат на вёсках многа, ім усё роўна якая.

Трэба было, яшчэ не позна. Але я, нікчэмнасць, стаяў і маўчаў. Нават адчуў на сваім твары як бы павуцінне ўсмешкі — у тон старому.

## 14

Дні праз два зайшла да нас Настуся.

Цяпер яна не лесціла маме. Яна пахвалілася, што аддае сваю Верку замуж.

У гэты момант сядзеў я ў другім пакоі, і мама нават знарок прачыніла дзверы — во, слухай: ці не добра рабіла, калі не давала табе з ёю гуляць?!

Амярцвелы, я лавіў толькі асобныя фразы.

— А што — дзевятнаццаты год тваёй дачцэ, дзякуй богаві, самы раз замуж ісці! — ухваліла мама, здаволеная, што цяпер ужо не будзе каму круціць галаву яе сыну.

— І ў Германію не забяруць! — уздыхнула Настуся.

Мама любіла казаць людзям праўду ў вочы, не выцерпела і цяпер:

— Толькі ж, бо-ожа, чаму за паліцыянта?!

— А што? — узялася Настуся бараніць зяця.— Ён не з такіх. Нікога не забіў, не абрабаваў... От, пастаіць дзе з вінтоўкай на каравуле над яўрэямі ці палоннымі. Каб не стаяў ён, то стаяў бы хто іншы — кожнаму вядома... Чатырнаццаць гектараў зямлі мае. І зямля куды лепшая за вашу — канюшына расце, пшаніца... Двое коней, чатыры каровы, адзін сын у бацькі...

— Ну, ну, пабачым...

Настуся маму не слухала. У яе, удавы, нават прабілася гордасць — во, і яе, забітую, бедную, заўважылі: бярэ дачку чалавек заможны, якога нават усе баяцца ў акрузе. Нават ты, Сцяпаніха, прызнайся, баішся, хоць была заўсёды такая ганарыстая...

— Да нас жа прыдзіраліся гэтак жандары з-за тых байцоў, што мы з Верай перавязалі і завалаклі ў ельнік, а ён ураз ублажыў амскамісара... Калі што якое, то нават зможа за вашага Алёшку, Валодзьку ці Сцяпана закінуць пару слоў перад немцамі! — шчодра абяцала наіўная ў сваёй веры кабеціна.

Было непрыемна. Мама і сёння яшчэ не магла дараваць бацькаў грэх з ёю, сваю непрыязнасць пераносіла і на дзяцей удавы.

Я цётку Настусю шкадаваў нават і цяпер. Усё жыццё яна бадзёрылася, цярпліва чакала лепшае долі і бегала па суседзях, адрабляла,— пры ўсіх васьмі ўладах, якія за век яе змяніліся ў Страшаве.

Настуся паводзіла сябе, як той замуляны наравісты конь, які валок сані з цяжарам, а калі яму заставалася ўжо зусім блізка да мэты, дык занатурыўся. На думку забітай і непісьменнай сялянкі з агрубелымі рукамі, ёй трапляўся зяць з зямлёй, багаты, самастойны. Служыць у паліцыі? Няхай сабе, покуль што паходзіць са стрэльбай, каб не вывезлі ў Нямеччыну, хлопцы заўсёды любілі зброю.

— «Закі-іне». Ат, мілая. Думаеш, немцы з такімі лічацца? От за дурняў сабе іх маюць! — з перасцярогай заўважыла мама.

Але ўдава была ў клопатах пра вяселле:

— Купіла цэлага барана. Выгнала два вядры самагонкі... Навару мяса, настаўлю на сталы кіслай капусты з журавінамі, натру рэдзькі — няхай ядуць. А што я ім другое дам?

— Не бяду-уй, Настуся, нажаруцца і капусты з мясам і рэдзькі, чорт іх не возьме, абы гарэлкі было ўдосталь...

Удава прапусціла міма вушэй рэзкія словы мамы пра яе гасцей і ўздыхнула:

— І я так думаю. Няма дзе толькі танцаваць маладым, хата ў мяне замалая... От каб мець такую, як у вас...

Мама адразу дала зразумець, што яе гэта не турбуе: Настусіны сваты і сваццi няхай танцуюць, дзе сабе хочуць.

## 15

Праз тыдзень спаткаўся я з Веркай.

Быў ціхі марозны дзень. Неба зацягнула высокімі і нерухомымі хмарамі. У полі ад марозу аж зліпаліся ноздры, а недалёкая хваінка пабялела ад шэрані. Вера ішла ў зграбным вышываным кажушку — падарунку жаніха. Пры яе паяўленні ў мяне і на гэты раз ажно падкошваліся калені, затуманіла ў галаве.

Мы набліжаліся. Убачыў я жахліва-хвалюючую глыбіню цёмна-карых вачэй і застыў як слуп.

Падвесіўшы на локаць, яна перла вялізны клунак з ватнай коўдрай і з кужэльнымі навалачкамі.

— Што, гаспадарку заводзіш? — хацеў я пакпіць, але ў мяне атрымаўся нейкі бесклапотны і пусты жарцік.

— У геце панашывала,— сказала яна зусім сур'ёзна, расчырванелая ад хадзьбы.

Покуль жаніх не прыехаў да Настусінай хаты са сватам, Верка яго не бачыла і нават пра яго не чула. Мяне заўсёды дзівіла, калі выходзілі замуж і жаніліся вось так, без сімпатыі і кахання — нібы на кірмашы выбіралі коней.

На хвіліну я авалодаў сабой, глянуў на Верку, як на звычайную дзяўчыну, але зноў анямеў.

З-пад цёплай хусткі непакорна выбіваліся на лоб заінелыя цёмныя пасмы. Смуглы прадаўгаваты твар быў распрамянёны, жывыя прыадкрытыя вусны пылалі, і над імі іскрылася на пушку некалькі расінак. Аж свяціліся роўныя зубы. Дагэтуль у яе позірку было нешта палахлівае, дзікае. Цяпер жа вольготныя і жывыя, разумныя, вялікія і свежыя — як толькі што вылушчаныя з лупіны дзіўнай чысціні спелыя каштаны — вочы блішчалі энергіяй і рашучасцю.

Верынай шыі было горача ў расхрыстаным каўняры з жоўтай аўчынкі. Голыя пальцы свабоднай рукі, нягледзячы на мароз, мякка і ласкава гладзілі коўдру. Нейкая грацыя, лёгкасць і сіла ішлі ад яе гнуткай і так знаёмай мне постаці.

— Алё-шка, ты прыйдзі-і на маё вяселле! — загаварыла яна пакрыўджана, нібы я абяцаў прыйсці і вось толькі яна даведалася, што не хачу выканаць абяцанне.

Удалечыні грукатаў па рэйках цягнік з цыстэрнамі: немцы на фронт валаклі бензін. У нашых Ліпніках з'явілася партызанская група Міцькі Высоцкага, я нёс хлопцам у лес брусок сала, загорнуты ў мацерыну хустку. У гета, адкуль Верка перла пашыты запалоханымі яўрэямі пасаг, учора раніцой Дыгендышаў сын — Цыклоп — застрэліў аптэкараву Фаню, Цукерманаву Соню...

Я быў поўны роспачы, злосці і бяссілля.

Няўжо ты не разумееш, што тваё шчасце — нібы гэты кракаўскі кажух, садраны паліцаем, мажліва, з такой жа дзяўчыны, як ты? Чаму тое, што навокал адбываецца, для цябе такое далёкае?!

Я не змог стаць вышэй асабістай крыўды і хоць параіць, каб не слухала мацеры, не выходзіла замуж за паліцая. Я стаяў і маўчаў.

— Хто ж тады да мяне пры-ыйдзе? — упрошвала яна.— Сашкі Грушэўскага няма, Косці Рыгоравага — таксама. З нашай кампаніі засталіся толькі ты ды Валодзька... Паба-ачыш, будзе добра. І наша цётка Галена з Беластока прыедуць з мужам... Я нікога вельмі не запрашаю, бо мама не даюць доўга гасцяваць — толькі адзін вечар...

Выходзіць, усе мае мары былі пустым фантазёрствам: я для яе нібы любы другі хлопец?!

Дзіва! Ужо, здаецца, я зразумеў, што мы зусім розныя людзі, а душа ўсё не хацела мірыцца.

## 16

Хутка я пачаў працаваць на чыгунцы і мог ездзіць цягніком без пропуска.

Аднаго разу муж Шпітонавай Гандзі падлавіў мяне і шапнуў:

— Чалавек з Навагрудка хоча цябе бачыць...

Па інтанацыі голасу, па насцярожаных вачах я зразумеў сур'ёзнасць прапановы.

— Прыцямнее — заходзь да мяне, падыдзем у лес... Толькі глядзі, каб жонка нічога не зразумела. Скажаш — на работу выклікаюць.

Вечарам зайшлі мы ў Ліпнікі. Ля вогнішча — невялікая група прамёрзлых, з сіплымі галасамі, няголеных, але бадзёрых хлопцаў. Пажылы камандзір адвёў

мяне ўбок, адхіліў крысо пінжака і асцярожна з падшэўкі выняў шэрую лапінку з выціснутымі тушшу літарамі. Ад хвалявання я не запамятаў нават, што там напісана. Болей адчуў, што гэта — упаўнаважаны Вялікай зямлі і чалавеку можна верыць, як сабе.

Мы разгаварыліся.

Група прыйшла з Налібоцкай пушчы, каб праз сваіх людзей накупіць у Беластоку стрэптацыду, бінтоў, паперы для рэдакцыі...

...Першае партызанскае заданне я выканаў лёгка. Аблазіў беластоцкія магазіны, аптэкі і чорныя рынкі, выдаткаваў усе маркі і з пакункамі накіраваўся да цёткі Галены.

Яшчэ пры цары пятнаццацігадовай дзяўчынай Галена пайшла да беластоцкіх багацеяў служыць і больш у вёску не вярнулася. У нашай сям'і ўспаміналі яе як сумленную гаротніцу, якая выбілася ў людзі. Калі мы з Валодзькам ленаваліся, бацькі прыводзілі ў прыклад Галену — жыве сабе ў горадзе, як пані, сына вывучыла на афіцэра...

На самай справе цётка жыла ў нэндзы. Маленькі пакойчык — ён і кухня, і спальня, і прыхожая. Паветра спёртае, са сцен ад сырасці абваліўся тынк. На яе мужу — латаныя-пералатаныя лахманы. Галена была як надзьмутая: рукі паадставалі ў бакі, бытта яна збіралася ўзляцець.

Я прынёс Галене гасцінца ды прыдумаў версію, што ў горадзе заказаў сабе шыць касцюм і вячэрнім цягніком збіраюся вярнуцца ў Страшава.

— Не хочацца швэндаць па вуліцы, мазоліць немцам вочы, лепш пасяджу ў вас...

— Сядзі, хаты не шкода! — запэўніў гаспадар, рамантуючы абутак.

Цётка Галена, на дзіва, не пыталася ні пра вёску, ні пра бацькоў, ні пра сваячку Настусю. Яна і гаварыла са мной на беластоцкім жаргоне — бытта і не паходзіла са Страшава.

Падабрэлыя ад гасцінца старыя пачаставалі мяне гарадскімі навінамі. Пахвалілася сынам Олекам (панашаму — Сашкам). Сын у іх быў падпаручнікам. Калі паступаў у афіцэрскую школу, Галена з мужам мусілі перайсці з праваслаўнай у каталіцкую веру. Олеку пашэнціла: ён адступаў праз Румынію на захад яшчэ

ў 1939 годзе і цяпер знаходзіўся ў Англіі. Праз польскае падполле хлопец прысылае адтуль бацькам пісьмы. Я адчуў сімпатыю да падпаручніка-сваяка.

Нарасказваўшы, які іхні Олек разумны, як за ім бегалі беластоцкія паненкі, старыя перайшлі да вайны. У чэрвені пры адступленні нашых з Беластока тут заставаўся склад з кансервамі. Старыя не маглі дараваць, што са склада людзі развалакалі кансервы, а ім нічога не дасталося.

— Праз нейкага нацмэна, каб яго чэрці мэнчылі на тым свеце! — заўважыў стары.

— Усё навокал гарыць, а гэты азіят з вінтоўкай тырчыць ля склада, нікога нават і блізка не падпускае! — паскардзілася яго жонка.— Мы яго палохаем: «Уцякай, немцы блізка», а ён: «Не твая мяне паставіла, не твая і здыме!» Калі хто хоча падысці да склада, настаўляе вінтоўку і страляе! Заб'е, паршывец, думаю, ну яго да д'ябла!

— І забіў бы, нягоднік. Такі і бацькі роднага не падпусціць! — зноў уставіў муж, заганяючы цвікі ў падэшву.

— Паляцела на Палескую станцыю і там набрала мяшок сухароў,— разварушаная ўспамінамі, нібы я яе аднадумец, апавядала цётка далей.— Валаку назад, а нацмэн — ужо мёртвы!.. Вінтоўка са штыком валяецца, і склад гарыць: Ха-алера, мне праз яго ледзь сэрца не разарвалася — бегала чорт ведае куды!

З жахам я падумаў: во, з такога балота — Доўгі Мікалай. Галена і пасватала яго Настусі.

Калі Верка служыла ў Беластоку, вось гэтая кватэра была для яе прыстанішчам, домам...

Разбірала злосць на сябе. Стала шкода сыру і масла, што ляжалі на брудным стале, якія хутка гэтыя пачвары будуць жэрці.

## *РАЗДЗЕЛ ВОСЬМЫ*

### 1

Яшчэ летась з гродзенскага лагера выводзілі немцы палонных ачышчаць вайсковыя склады. На савецкіх складах ляжалі дзесяткі тысяч пар валёнкаў. Палон-

ныя вывалаквалі іх на двор, скідвалі ў горбу, аблівалі бензінам і падпальвалі.

Палілі палонныя навюткі абутак і дзівіліся — дзе славутая нямецкая прадбачлівасць, гаспадарлівасць? Яшчэ ж прыйдзе зіма!

Салдаты ўпэўнена ім заяўлялі:

— Шайзэ. Праз месяц вайна капут, усе мы цурык нах гаўзэ!

Надышлі халады. Вясковым старастам з камендатур прыйшоў загад: збіраць па хатах кажухі, валёнкі, воўну...

Фюрэр звярнуўся да салдат: цярпіце, у наступную зіму я вас ўсіх апрану ў стандартную цёплую вопратку. У газетах пад зваротам былі здымкі. Нямецкі салдат у пробным экземпляры такога адзення лезе ў спецыяльную камеру з марозам у сорак градусаў. На наступным здымку — салдат відзён праз ілюмінатар, ён у халадзільніку спіць. Далей — вылазіць ужо з камеры, смяецца, закурвае...

Нямецкія вартавыя з чыгункі зайшлі ў нашу хату пагрэцца. Доўга разглядалі фатаграфіі і цешыліся, нібы дзеці. Потым развялі дыскусію. Мы з Валодзькам са здзіўленнем пачулі:

— Бальшавікі, фэрфлюхтэ, знарок паддаваліся ў фінскую вайну, каб нас абдурыць!

Салдаты ўжо ні то абураліся, ні то захапляліся хітрасцю бальшавікоў. Ім у Валілах лётчык з эшалона гаварыў, што савецкі салдат — не французскі і не бельгійскі: ён табе не кіне ў час бамбёжкі зенітку, не пабяжыць у бомбасховішча.

Нечакана прыляцела вестка — за Смаленскам наша армія затрымала фашыстаў. І тут усіх людзей акрыліла такая ясная, простая і бясспрэчная ісціна: якая ж гэтая армія магутная, калі ёй нішто не значаць такія страты, і якія ж немцы дурні, што палілі валёнкі перад зімой, думалі — хутка вайне канец.

Пачаліся маразы. Немцаў з-пад Масквы паперлі. Нехта ў Страшава прынёс з Гарадка анекдот:

— Чулі? Гітлер паслаў у Францыю генералаў, каб тыя тэрмінова знайшлі план адступлення Напалеона з Расеі!

Па беластоцкай шашы на ўсход паваліла зноў нямецкае войска. Цяпер ужо не на машынах. Валаклося

на фурах, ехала конна. Гэта былі старыя салдаты, захутаныя жаночымі лісінымі каўнярамі, хусткамі. Салдаты ішлі пад Маскву ратаваць сваіх. Яны не дамагаліся ўжо яек, масла і курэй, як летам, а былі шчаслівыя, калі дзядзька даваў ім кошык бульбы.

Людзі адышлі ад гіпнатычнага жаху. Ім як бы адкрыліся вочы. Спахапіліся: і раней не ўсё было кепска!

На аэрадромах згарэлі нашы самалёты? Бо на іх напалі знянацку.

Не было гаручага і снарадаў, таму пакідалі танкі і гарматы. А што было рабіць з мёртвым жалеззем?

Людзі пачалі з захапленнем успамінаць прыклады гераізму, якія ў агульным хаосе раней не заўважалі.

За Вераб'ямі, уздоўж рэчкі Свіслачы, ляжыць вёска Баброўнікі. У трагічныя дні адступлення па шашы апошнімі ішлі чатыры чырвонаармейцы з «максімам». Ад Баброўнікаў пачыналася голае поле — аж пад станцыю Бераставіцу, да вёскі Цецяроўкі. Дарога тут адна — цераз мост. Чырвонаармеец засеў на шашы з кулямётам прыкрываць адыход сяброў.

Паказаўся батальён немцаў. Салдаты з ранцамі, скаткамі, кацялкамі і біклажкамі, з закасанымі рукавамі крочылі ў калоне па трое і бяспечна спявалі.

Галава калоны была ўжо ад яго крокаў дваццаць — хопіць.

Баец націснуў гашэтку і не адымаў пальцаў ад яе, покуль не выкасіў батальён. Тады забраў кулямёт і ля Цецяроўкі дагнаў сваіх.

Засталіся пад Баброўнікамі ля шашы 64 бярозавыя крыжы з нямецкімі каскамі. Цэлыя могілкі зрабіў адзін чалавек, а параніў — у тры разы болей.

Адным словам, узнімаўся настрой, зараджалася надзея. Хацелася змагацца.

Злосць брала, што так мала можаш.

## 2

У лютым мяне, Валодзьку і бацьку арыштавалі. Адначасна немцы ўзялі многіх.

Я адразу заўважыў, што немцы арыштавалі нас не за сувязь з партызанамі. У такім выпадку забралі б яшчэ каго-небудзь з чыгункі. Большасць арыштаваных

былі пажылыя сяляне з навакольных вёсак. Мы дзівіліся і гадалі: па чыім жа даносе мы селі?

Другі раз перайшоў дарогу Стральчук.

Будучы ўжо памочнікам шэфа гестапа баластоцкага бецырка, доктара Герберта Цымермана, цяпер Стральчук ездзіў па былых ачагах падпольнага руху і рабіў спісы польскіх камсамольцаў, камуністаў і іхніх сімпатыкаў. Часамі нягоднік спісы складваў па памяці, таму сярод арыштаваных трапіліся людзі выпадковыя.

Пасля арышту завезлі нас у Гарадок.

Афіцэр гестапа выклікаў мяне на допыт. Гаварылі мы на нямецкай мове. Наша гаспадарка была не толькі вялікая па плошчы, але і з вуллямі, садком, малатарняй — гэта ў немцаў выклікала павагу.

— Столькі гектараў поля і балота! — шчыра дзівіўся ён.— А яшчэ пры Польшчы быў асуджаны за бальшавізм. Як гэта разумець?

Перад фашыстам выдаваць сябе высакародным рыцарам — неразумна. Можна было лёгка і лагічна давесці яму, што мы — не тыя, за каго нас прымаюць. Ды язык не паварочваўся адмаўляцца ад таго, што табе святое.

Я схітраваў.

У руках у афіцэра была папка з падшытымі даносамі. Аднаго аўтара паперкі — бялявіцкага Ёзіка Госціка — я, здаецца, пазнаў і паказаў на паперку вачыма:

— Між іншым, пан афіцэр, тыя самыя людзі, якія мяне з бацькам выдавалі пры Польшчы паліцыі, у саракавым годзе даносілі ў НКВД на маю сям'ю, што мы — кулакі!

— І гэта ведаю! — пацвердзіў маю здагадку немец. Ён, нібы з агідай, адсунуў папку і прыняў гульню.

Немец даволі ветліва спытаўся, хто ў мяне яшчэ ў сям'і. Пацікавіўся ўмовамі на чыгунцы. Пра партызан пытаўся нешта агульнае, і размова наша на гэтым скончылася. Калі мяне выводзілі з кабінета, я бачыў, як здзекаваліся з другіх, адчуў сябе нібы ў нечым вінаватым.

Вартавы вывеў мяне на двор. Свяціла сонца. Побач была гарадоцкая дарога — знаёмая да кожнага каменя, да кожнага сучка ў штыкецціне. «Не фашыст, а —

граф Монтэ-Крыста?!» — дзівіўся я, успамінаючы допыт; афіцэр абудзіў надзею, хацелася на волю, а мы тым часам ішлі ў халодную.

— Сюды! — паказаў вартавы, калі я ў змрочным калідоры пераблытаў дзверы.

Голас паліцая здаўся знаёмы.

Шусцік!..

Я разгубіўся і адскочыў ад яго як уджалены.

— Ты пачакай! — загаварыў ён да мяне чамусьці гнеўна, з абурэннем.— Алёшка, паслухай!.. Ты не думай, што я... Можа, і мне... Можа, і я таксама, разумееш?

Я не разумеў нічога. І разбірала дзіва. Калі табе няёмка, што служыш паліцаем, калі шкадуеш нас, дык чаго злуеш?

Было звыш сіл стаяць перад ім. Змрочная халодная, дзе чакала невядома што, здавалася ўжо збавеннем. Разгублены, я прамармытаў нешта і шуснуў у дзверы. Ужо ў камеры адчуў, як у мяне часта б'ецца сэрца, як мне горача, дрыжаць ногі, хоць не дрыжалі перад гітлераўскім афіцэрам!

З Гарадка перавезлі ўсіх у беластоцкую турму і цэлую групу — 60 чалавек — змясцілі ў адну камеру. Каб людзі не задыхнуліся, удзень і ўночы не зачынялі закратаваныя вокны.

## 3

Калідорным на нашым паверсе быў Лукашоў Іван (трапіў за пакражу і ў нямецкую турму!). Цяпер ён над намі ўзяў апеку.

Пацягнуліся турэмныя дні — доўгія, трывожныя. Мы насцярожана чакалі і слухалі навіны, якія прыносіў у нашу пастку калідорны зямляк.

Немцы злавілі на вакзале англійскага разведчыка, кінулі ў адзіночку. Праз паўгадзіны афіцэры зайшлі паглядзець на палоннага, а ён павесіўся.

Прывезлі нямецкага салдата-дэзерціра, ён павесіўся таксама.

Нехта ўцёк. Прывялі яго ў канцылярыю на допыт, чалавек выскачыў праз акно з другога паверха на вуліцу, падняўся з зямлі і знік. Не верылася ў такія ўцёкі. Там жа таксама закратаваныя вокны, па вуліцы

ходзяць людзі, другі паверх... Немцы паслалі ў партызаны лазутчыка. Але як пра гэта перадаць на волю?

На турэмным двары з'явіліся цыганкі з дзецьмі...

Аднак найбольш абурала дзейнасць Стральчука.

У турму прывозілі новыя партыі сялян — былых капэзэбоўцаў, іхніх сімпатыкаў.

Стральчук памагаў іх забіраць.

Ён, вырадак, да таго быў крыважэрны, што ў сваёй вёсцы Крывой пад Бельскам нават выдаў эсэсаўцам на расстрэл хлапчукоў, якія ў яго бацькі кралі яблыкі.

Нашы арыштанты пачалі пакрысе нібы мірыцца з лёсам.

Мужчыны гаварылі пра жонак і дзяцей. Бацькоўскія сімпатыі і чуласць выражалі наймаладзейшаму ў камеры. Сваім любімцам мужчыны выбралі Мішу Толуця з Зуброў. Міша быў высокі, хілы, танкашыі, валасы чорныя; жарты мужчын толькі і круціліся вакол яго першых вусікаў, каханай, якая недзе сохне ў Зубрах...

А то арыштанты напаўголасу спявалі «Волгу-Волгу», «Лучыну», «Валачаеўскія дні» — зладжана, на два-тры галасы, як ніколі дагэтуль, мабыць, і не спявалі.

Яшчэ гулялі ў самаробныя шашкі, шахматы. Адсыпаліся. Успаміналі выпадкі з жыцця.

## 4

Турмы немцы перапоўнілі, і кожны разумеў — хутка нешта будзе.

Аднойчы нехта выглянуў на двор і крыкнуў:

— Во, хлопцы, ён!

Калі глядзець з вокнаў зводдаль і асцярожна, то з вуліцы ў паўзмроку цябе не ўбачаць. Людзі ў момант ссунулі нары і згрудзіліся на іх, як на сцэне. Убіўшы галаву між чужых спін, выглянуў на падворак і я.

Мы былі на другім паверсе. Перад нашымі вокнамі — крокаў за трыццаць, у турэмнай сцяне — ніша з варотамі. У ёй стаялі два паліцаі і курылі.

Ля варот на муры расло некалькі пасмаў дзікага вінаграду. Сюды даходзіла сонца, тут цяпер грэліся яшчэ два тыпы.

Адзін з іх — эсэсаўскі афіцэр. Такі сабе звычайны.

У фуражцы з вялікай туліяй. У свежым мундзіры — яснейшага, чым у армейскіх афіцэраў, колеру. На адной пятліцы меў ён кубікі, на другой — лацінскія літары «СС» у выглядзе зігзагаў-маланкі, а на фуражцы — чэрап і дзве скрыжаваныя косці. Адзнакі на ім былі новенькія, боты — начышчаныя да бляску, галіфэ — адпрасаванае.

Другі быў Стральчук. Нават не ведаю, па чым яго пазнаў. Мабыць, проста — здагадаўся.

«Дык вось які ты!»

Чамусьці хацелася бачыць свайго ворага здаровым грамілай, упэўненага ды магутнага, прынамсі — роўнага немцам. Тым часам перада мной пахаджваў замухрышка. Малога росту. З кірпатым носам. Хоць на пятліцы ў яго, як і ў немца,— тыя самыя маланачкі; на другой па дыяганалі — тры кубікі, ды на фуражцы — чэрап, але адзнакі горшай якасці, цьмяныя. І мундзір меў Стральчук іншы, жаўтаваты, з бавоўны. Якраз з такога матэрыялу было адзенне і ў паліцаяў, якія курылі ў нішы варот.

І гэтая нікчэмнасць нарабіла гэтулькі бяды?!

Абодва яны жмурыліся ад сонца. Стральчук пра нешта гаварыў. Немец забаўляўся са скуранымі пальчаткамі. То нацягваў іх на руку, то падносіў да вачэй, як разглядаў. То здымаў і ляпаў сябе па халяве, то махаў імі на вераб'ёў у вінаградзе. І ўвесь час з застылым выразам твару — нібы думаў, нібы слухаў. Стральчук жа з нейкай ап'янелай усмешкай усё гаварыў, гаварыў і гаварыў. Было відаць — гаворыць пра такое, што не мае адносін ні да нас, ні да вайны. От, абодва кагосьці сабе чакаюць, ён і забаўляе немца.

Людзі стаялі на нарах і насцярожана маўчалі. Успаміналі, мабыць, як прымалі да вайны ў сябе гэтага тыпа, нібы дарагога госця, як частавалі...

— Ён. Я яго до-обра ведаю...— з перакананнем уздыхнуў нехта.

Стральчук павярнуўся да нас правым бокам, ад вуха да рота ў яго быў шрам.

— Гэта Прытыцкі зрабіў яму цацку яшчэ ў трыццаць шостым годзе на судзе ў Вільні! — заўважыў хтосьці зларадна.

— Кажуць, нядаўна партызаны яму нагу прастрэлілі, але не кульгае, здаецца...

— Скажы-ы ты, які жывучы!

Паліцаі пра нешта гаварылі, насцярожана зыркалі на немца і Стральчука, чакалі загадаў.

Праз хвіліну ўстрывожаны калідорны крыкнуў нам у дзірачку ад ключа:

— Землякі, слухайце! Слухайце ўсе: на кухні снедання загадалі варыць напалавіну менш!

Я аблізнуў перасохлыя раптам губы, абвёў вачыма застылыя твары.

«Не можа гэтага быць!» — роспачна страпянулася ва мне ўсё ўнутры.

Калідорны ведаў, што казаў. Палавіна з нас заўтра не будзе жыць. Няўжо сярод іх і я?

## 5

На дзіва, хоць з пачуццём страху, аднак пасля адбою я змог нават заснуць. І хоць пякучую льдзінку адчуваў і сплючы, але яшчэ, мабыць, ніколі ва мне сон не аднаўляў так сілы, не асвяжаў цела. Толькі працэс аднаўлення быў прыспешаны.

Прачнуўся я ў чатыры гадзіны. Уставалі і ўстрывожаныя сябры, лезлі да адчыненага акна. Кінуўся да кратаў і я.

На двары стаяла ціхая і цёплая раніца. Збіралася ўсходзіць сонца. На высокім небе — ні хмурынкі. Палаў ружовымі фарбамі ўсход. Шчабяталі птушкі. Вуркаталі галубы. Мякка, на нізкіх абаротах, гулі маторы, ды нехта вішчаў. Усё было такое прыгожае, пасвяжэлае, спакойнае, што я нават здзівіўся — адкуль ва мне трывога? Чаму на душы льдзінка і што гэта за такі недарэчны віск?

Прыгледзеўся лепш: у нішу брамы задам заязджала машына з брызентавай будай, там эсэсаўцы вязалі дротам рукі раскалмачаным і звар'яцелым цыганкам.

Як толькі ўсё гэта я ўбачыў, жыццё маё ў момант пацякло ў нейкім нерэальным ліхаманкавым тэмпе.

З трывогай нешта пытаўся ў мяне Міша Толуць з Зуброў. Мне было не да яго. Хацеў я Толуця абарваць — і не паспеў.

З ляскам адчыніліся дзверы. Уварваліся салдаты СС, адціснулі нас у глыбіню камеры, панастаўлялі аўтаматы.

Уляцеў энергічны сухарлявы афіцэр СД у шапцы, як у лыжнікаў, і са спіса, які трымаў у руцэ, пачаў выклікаць людзей. Тое, чаго з такой пакутай і трывогай чакалі, пра што столькі наслухаліся, надышло.

Усё! Канец!

Камера застыла. Чуўся толькі вісклівы і востры, як каса, голас афіцэра, які рабіў націскі ў прозвішчах на першым складзе:

— Цівуньчык Міхаль!

— Дудзік Аляксандр!

— Пецельскі Леон!

— Пецельскі Іван!

Людзі яшчэ не верылі сваім вушам, адказвалі нервозна, глуха, не сваімі галасамі. Раз'ятраны афіцэр пералічваў іх са злосцю і нецярпеннем, нібы яны забілі яго жонку, зарэзалі дзяцей, а ён даведаўся пра гэта і па гарачых слядах прыбег сюды расквітацца са злачынцамі. Называў іхнія прозвішчы, імёны з помслівай асалодай і на нямецкі манер — змякчаў «л», блытаў націскі.

— Новіцкі Алексей!

— Толюць Міхаль!

Міша паспешліва зрабіў крок ад мяне, азірнуўся. Я з сутаргай праглынуў сліну ў перасохлым горле.

Афіцэр на секунду заблытаўся ў спісах. Мы не дыхалі.

Вось-вось выкліча і тваё прозвішча, а ты — энергічны, здаровы і так сабраны, што адчуваеш кожную клетку свайго, раптам такога блізкага цела — не заткнеш яму горла, не абароніш сябе, пажылога бацьку, малодшага брата, непісьменных дзядзькоў.

Пра такія моманты я не раз думаў. Не верылася, што нельга нічога зрабіць. Кідайся на фашыста, вырві аўтамат і ратуйся!

Дзіцячыя фантазіі!

Фашысты стаялі зводдаль, уздоўж сцяны, пальцы трымалі на спусках і глядзелі нам не ў вочы, а ў жываты, адчувалі нас як масу, як мішэні.

У такім стане, калі зацьміла розум, а жудасны страх роспачліва і ліхаманкава маляваў табе абсурдныя, утапічныя планы ратунку, я ўсё ж такі выкінуў бы нешта і эсэсаўскі аўтамат скасіў бы мяне сярод камеры, каб не бацька. Ён абняў нас з Валодзькам

ды ціха, якімсьці падабрэлым і мяккім голасам сказаў:

— Хлопцы, не вешайце насоў, мы — разам!.. Адно не паддавайцеса!! Алёшка, Валодзька, вы што? У-ух, вы-ы! Не паддавайцеса, ну?!

І дзіўна. Інтанацыя слоў і дрыжанне ўпэўненага і моцнага бацькавага голасу раптам узрадзіла ў нас новую сілу. Калі немец пачаў называць новыя прозвішчы, мы ўжо смела глядзелі на афіцэра і слухалі — ну, нягоднік, выклікай, мы гатовы!..

— Парэмскі Семен!

— Здановіч Максім!

— Грыцук Васіль!

Кучынскіх не назвалі.

Афіцэр скончыў. Проці нас цяпер стаяла дваццаць сяброў і знаёмых — далёкіх на цэлую смерць. Мы ж адыходзілі ад жаху, з затоенай радасцю тапталіся, апускалі вочы, перарывіста дыхалі, нібы толькі што неслі непасільныя ношы.

— Айн, цвай, драй, фір, фюнф...— ашалелы ў сваёй бесцырымоннай рашучасці, лічыў афіцэр, праходзіў уздоўж шэрага, тыкаў кожнаму смяротніку пальцам у грудзі.

Нас гэта ўжо не абыходзіла.

Салдаты цяпер рулі аўтаматаў наставілі на выдзеленых дваццаць чалавек, але мы былі далёкія ад таго, каб кідацца на фашыстаў, выручаць хлопцаў, а яны, здаецца, і не чакалі цуду. Можа, над магілай потым трымалі сябе з выклікам, горда. Але тут, на захопленых знянацку, у першую хвіліну пасля прыгавораў, на гэтых шэрых сялянскіх тварах маляваліся жах, здзіўленне, бяссільная пакора лёсу. Некаторыя мужчыны яшчэ і пазяхалі якімсьці нервовым скурчам сківіц, нібы рыбіны, якіх выкінулі на бераг,— глядзець на гэта было непрыемна. Міша Толуць стаяў да мяне спіной, добра, што не трэба пазіраць яму ў вочы.

Толькі цяпер мы адчулі — тое самае адбываецца і ў іншых камерах. Праз адчыненыя дзверы відаць было, як па калідоры правялі суседзяў.

— Лёс, лёс, фэнрфлюхтэнэ гундэ, р-р-раўз! — прыкладамі і ботамі пагналі эсэсаўцы людзей з камеры.

Калі зачыніліся дзверы, камера стала большай, пустой, асірацелай...

Падкраўся я да акна, выглянуў на двор.

Людзей да машын падводзілі праз шэрагі салдат. Эсэсаўцы стаялі поруч з паліцаямі. У вочы кінуўся Настусін зяць з вінтоўкай. Па загаду таго самага афіцэра ў скураных пальчатках Шусцік ткнуў руляй у грудзі пярэдняму чалавеку, затрымаў. З калідораў эсэсаўцы выштурхоўвалі свае ахвяры на двор. Людзі бязладна і перапалохана ціснулі на пярэдніх, падпіралі Шусціка.

— Куды ён прэ, паглядзіце?! — як бы скардзіўся пярэднім паліцай.

Тут былі Шусцікавы знаёмыя з Гарадка. Паліцай інтанацыяй паказваў немцу, які ён службіст, і заігрываў з землякамі:

— От людзі!.. Ты рабі ім лепш, а яны — во!.. Куды лезеш, цюрык!.. Думаеш, мёду там дадуць, не паспееш?!



Пасля таго як частку людзей расстралялі, бацьку і іншых старых выпусцілі.

К абеду паадчынялі турэмныя камеры, павыганялі ўсіх на двор. Арыштаваным загадалі ісці ў канцылярыю ды разбіраць свае дакументы і рэчы.

Было ясна — нас некуды адправяць і, вядома, не на смерць, інакш зрабілі б гэта тут разам з іншымі. Нас агарнула адчуванне блізкай свабоды.

— Паедзем у Германію на работы,— цвярдзілі шчаслівыя людзі, якія яшчэ на досвітку глядзелі смерці ў вочы.— Немцу патрэбна такая маса нявольнікаў, хіба ён дурны іх нішчыць?!

З першага дня арышту нас з Валодзькам займала толькі адно: як уцячы? Каб не бацька, можна было б паспрабаваць шчасця, выскачыўшы з машыны ў лесе, калі нас везлі ў Беласток...

Добра, што тады не ігралі з лёсам. Падыходзіў больш зручны момант.

З'явіліся нейкія тыпы — бытта з міністэрства працы. Гэтыя цывільныя — кульгавыя і гарбатыя арыйцы з абшарпанымі партфельчыкамі — мацалі нашы мускулы, нібы ў коней на кірмашы, заглядалі ў рот, лічылі зубы, нешта пісалі сабе ў блакноты.

Мацай-мацай, заглядай-заглядай, халера,— няхай табе вылезуць на лоб слепакі. Будзеш ты, заменак, там бачыць нас, як сваё вуха...

Заехала ў двор грузавая машына з харчамі. Выдалі па баханцы хлеба і па вянку кілбасы з каніны — надайся, каб мог добра працаваць на «Вялікую Германію».

Няхай. І пад'есці трэба.

Шэсцьсот чалавек, у тым ліку і мяне з Валодзькам, раніцой загналі на станцыі ў таварныя вагоны, закруцілі дротам дзверы. Эшалон адправіўся на захад.

— Ну, Германія... тваю маць, прымай работнічкаў, ужо ж мы табе і напрацу-уем! — узбуджана крычалі ў натоўпе.

— Толькі пыл пойдзе!..

— Прыкусі язык! — абрывалі аптымістаў.

У вагон напхалі чалавек сто, можна было толькі стаяць. Праціснуліся мы з Валодзькам да шчытавой сценкі, стаў я на плечы брату і выглянуў праз шчыліну на свет.

Вагонаў з нявольнікамі было ўсяго шэсць, а сёмы — службовы. Калі мы ўз'язджалі на крывую, можна было бачыць, што ў іх робіцца.

З намі ехала ўсяго некалькі немцаў. Астатнія вартавыя — нашы прадажнікі з Гарадка ў брудна-жоўтых мундзірах.

На прыступках тармазной будкі сядзеў Настусін зяць. Адкрыўшы нямецкім штыком бляшанку, ён аплятаў кансервы, я бачыў яго рукі, разварочанае мяса ў бляшанцы, верх пілоткі са светлай акантоўкай, калені і звешаныя з прыступак ногі ў салдацкіх ботах. З-за пляча ў Шусціка тырчала вінтоўка, яна была ад мяне так блізка, што я выразна бачыў мушку і бляск варанёнай сталі.

«Нікога не забіў, не абрабаваў... От, пастаіць дзе з вінтоўкай на каравуле над яўрэямі ці палоннымі...»

Супрацьлеглы бок вартаваў Цыклоп. Ён трымаўся за парэнчы і страшнымі асіметрычнымі вачыма глядзеў уздоўж вагонаў. Вінтоўка яго таксама вісела за плячыма, а за папругу была засунута граната з драўлянай ручкай.

Цыклоп і Шусцік пра нешта гаварылі. Гулі колы, у вагоне стаяў гоман, іхніх слоў я не разабраў. Шусцік

ужо выкінуў бляшанку і цяпер аплятаў пачку галет; адказваў сябру ды з цікавасцю разглядаў вёскі, хутары. Аўтаматаў у іх не было, аж падмывала ўцякаць.

На хаду цягніка, ды яшчэ калі надыдзе змрок, не ім у нас пацэліць, а покуль цягнік затрымаюць, іх заняссе далёка. Адарваў дошчачку ў акенцы і вывальвайся з вагона ды сцеражыся, каб не ўдарыцца аб слупок.

Мала радасці... Ахова вернецца ў Гарадок, і гэтая самая пачвара адыграецца на бацьках. Трэба пачакаць, мо надарыцца лепшы выпадак.

Так яно і атрымалася: выпадак надарыўся, але гэта ўжо іншая тэма...

## ЭПІЛОГ

Я ўжо каторы год працую журналістам у Гродна. Бацькі мае пасля вайны аселі ў Ваўкавыску. У мірны і спакойны час нечакана памерла мама.

Пахаваўшы маму, ішоў я сам не свой праз Ваўкавыск.

— Дзень добры! — як праз сон, даляцеў да мяне жаночы голас.

Таўставатая, грудастая маладзіца перайшла дарогу. Я хацеў абмінуць кабету, але дарэмна.

— Здрастуйце! — маладзіца бліснула вачыма.— Не пазнаяце?! — не адводзіла яна вачэй.

У Ваўкавыску было шмат людзей, якія добра ведалі мяне і бацькоў. Для сялян, што эвакуіраваліся з маёй мясцовасці і тут аселі, я — ледзь не герой.

— Прабачце...— выціскаю з сябе ўсмешку.

— Я адразу ўбачыла, што не пазнаяце! — нібы ёй гэта рабіла вялікую прыемнасць, пахвалілася маладзіца.— А я — Аня з Гарадка! Вы вучыліся з нашай Зосяй і заходзілі да нас часта, памятаеце? Мы жылі каля Кулешы, у мураванцы! Нас сямёра сясцёр, я самая меншая!

«Бо-ожа, ты з той нешчаслівай сям'і?!»

Я забыўся на сваю бяду, зрабіўся пакорлівым і вінаватым — нібы за ўсіх тых, што калісьці так крыўдзілі гэтую істоту.

— Зойдзем да мяне, паглядзіце, як жыву! — про-

сіць яна, шчаслівая, што яе такі прыпомніў.— Зо-ой-дзем!

Адмовіцца я не мог.

— Дзякуй. А дзе ж вашы сёстры, мама?

— Надзя з Зосяй — у Магнітагорску, Лена з Валяй у Данбасе. Усе чатыры замужам таксама. Толькі Кася з Нінай не вярнуліся з Германіі. Адны людзі кажуць, што трапілі пад амерыканскую бомбу, другія — што павыходзілі замуж за французаў... Мама жывуць у Польшчы, не захацелі эвакуіравацца...

Гэта яе сёстры цярпелі з-за брыдкага прозвішча. Па вуліцы яны не хадзілі, а бегалі. Нацягнуўшы хустку на вочы, апусціўшы галаву, ляцела каторая-небудзь з іх па Гарадку, куды пасылала маці, і дзяўчыне здавалася — з-за кожнага плота кпяць з яе местачковыя хуліганы.

У агародчыку, засаджаным буракамі і вяргінямі,— маленькі домік. Уваходзім у яго.

— Мой муж шафёр на самазвале, а я на ліцейным раблю. Маем ужо сына... Шкода, не пабачыце — у садзіку!.. А цяпер я — Гапонік! — зямлячка паказвае пакой з нікеляваным ложкам пад пакрывалам, з лебедзямі на цыраце.

Маладзіца спрытна і на хаду папраўляе складкі бліскучай капы на ложку, падбірае з падлогі галубінае пёрка, камечыць яго ў вялізнай далоні.

— Заляцела толькі што праз акно! — тлумачыць вінавата.

Як чалавеку мала трэба!

Яе аптымізм перадаецца і мне. На душы зрабілася спакойна, я ўздыхнуў. Камедыя! Сам у горы, а ў другіх узнімаю дух. А мо на гэтым і свет трымаецца?!

Аня, мабыць, часта ездзіць да маці ў госці, яна пра ўсіх там ведае.

— Вы не памятаеце Дыгендышавага сына? — пачынаю здалёк.

— Цыклопа? — паважнее маладзіца.— Яго расстралялі. За тое, што паліцаем служыў...

— Я не чуў...

— Адразу, як толькі нашыя ўвайшлі ў Гарадок...

Цыклоп гэтага заслужыў. Мяне не ён цікавіў. Але болей пытацца ў Ані не змог. Перапоўнены ўражаннем, я развітаўся.

Я меў закаранелую з дзяцінства звычку — дзяліцца з мамай перажываннямі. Ад Гапонік я пайшоў ледзь не подбегам, але зараз жа спахапіўся — дарэмна лячу. Няма ўжо каму выкладваць назіранні, няма каму выліць свае радасці і гора.

І ўсё жыццё несці гэты груз?

Немажліва!

Толькі цяпер я адчуў усю глыбіню непапраўнай страты.

У юнацтве я ўсё чагосьці чакаў, сярод прахожых выглядаў асаблівых твараў і верыў, што мой самы шчаслівы дзень наперадзе. Цяпер стаў рэалістам, шчасце разумею інакш. Аднак, мабыць, у асноўным я не змяніўся.

Расказаў я тут фрагменты з жыцця. Каб апісаць жыццёвы шлях кожнага мужчыны і жанчыны майго ўзросту, матэрыялу было б не меней. Быў такі час, і людзей кідала ўсюды.

З дзяцінства я верыў у сваю выключнасць і марыў навесці на свеце парадак, ашчаслівіць людзей. Здзейсніў я што-небудзь?

Адзін — не. «Чалавек — частка агульнага чалавечага цела», і ў масе свайго пакалення мы тварылі гісторыю. Але мары мае ішлі не ад нясціпласці. Толькі цяпер разумею: прырода адарыла чалавека такой уласцівасцю, каб даць яму стымул да дзеяння.

Не ў асаблівым розуме, не ў нараджэнні вундэркіндам моц чалавека, а ў мэце яго намаганняў, у паняцці свабоды, жыцця і гуманнасці.

Жыццё наша — імгненне ў вечнасці. На каго той падобны, хто жыве адно сваім, асабістым? І жывёліна здольна толькі паравацца, жэрці...

Хто я? Хто ты? — будзе заўсёды пытацца ў сябе чалавек, не абыходзіць цяжкіх шляхоў, бо, толькі адольваючы іх, ён шчаслівы. Перагародак на маёй дарозе было многа.

Для чаго жыве чалавек? Для барацьбы за праўду. Самую вялікую радасць прыносіць гэты хмель барацьбы, калі ў чалавека праяўляецца патрэба творчасці.

Праўда ў мой век — у вялікіх ідэях камунізма, якім аддало сябе маё пакаленне. Ім аддаваў сябе і я.

Так здарылася, што мая вёска яшчэ ў 1944 годзе адышла пад Польшчу, і Страшава апынулася за восем

кіламетраў ад граніцы, калі ехаць па шашы Ваўкавыск — Бераставіца — Беласток. Толькі нядаўна туды я наведаўся ў складзе групы партызанскіх камандзіраў, якія дзейнічалі на Беласточчыне.

Пад'ехалі мы на машыне да Валіл.

Тыя самыя контуры ўзгоркаў, прысад — нібы я і не адыходзіў ад іх столькі гадоў.

Вунь там жыў некалі валілскі сабакар, мы да яго прыводзілі сучку.

На гэты ўзгорак мне калісьці гэтак карцела залезці і дастаць да хмар...

Гарадок. Хата Кандрусікаў не змянілася. З Сашкам Кандрусікам разам правучыліся сем гадоў, хадзілі на масоўкі, збіралі грошы і кілбасы для Іспаніі... Потым яго ўзялі ў Чырвоную Армію, больш нічога пра яго не ведаю. Яго брат, Сцяпан, які некалі пуляў каскі за паліцыянтамі праз гэты плот, загінуў у партызанах...

— Аляксандр наш пайшоў у царкву! — кажа Сашкава жонка.— Панёс сабраныя грошы. Збіраюцца рамантаваць храм, а ён — галоўны закапёршчык!

Гарадоцкая царква — суседка славутага Супрасльскага манастыра. Толькі ж няхай бы ёй ужо цікавіліся гісторыкі, а яна вось і зараз палоніць містыкай простыя душы. Нават непадкупны падпольшчык, Сашка Кандрусік,— ужо багамол, падмяніў старога Шусціка?! Ну і ну!.. Чаму ён не ідзе, напэўна, яму далажылі ўжо, што я чакаю?..

Мабыць, Сашу цяпер няёмка сустракацца са мной?.. Ладна, паехалі.

Тут некалі жыў Ваня Кулеша, не вынес ён франтавых ран, даўно памёр; трэба выкраіць час, заскочыць да яго бацькоў.

Во дзе стаяла крама Брохі...

Адгэтуль пачаўся я?.. Чаму тады мясціна не выклікае ва мне ніякіх біятокаў?..

Гарадок пасля пажару яшчэ не адбудаваўся. Вакол запусценне, адно ўзвышаецца царква.

Вось і страшаўская дарога.

Замест таго каб упасці на пясок і на каленях паўзці па знаёмай да жвірынкі зямлі, я еху у камфартабельнай машыне. Элегантны юнак-капітан пачціва нахіліўся да майго вуха, прашаптаў:

7*

— Нех пан Кучынскі адчувае сябе так, як дома. Пану і валасінка не спадзе з галавы, я за гэта адказны!

— Эх, малады чалавек!..— засмяяўся я, паляпаў фарсуністага юнака па плячы. Капітан не абразіўся.

На страшаўскай дарозе спаткалі старую.

Яшчэ здалёк разгледзеў я ў згорбленай пытальным знакам бабулі цётку Кірыліху. Папрасіў я спыніць машыну, павітаўся. Бабка мяне не пазнала. Яна, здаецца, нікога ўжо не пазнавала. У яе вычарпаным гадамі і змардаваным жыццёвымі нягодамі мазгу захаваўся толькі цэнтр, які кіраваў рухам ды яшчэ пару цьмяных ачажкоў.

Асцярожна ўзяў я старую на рукі і панёс у «Варшаву». Трымаў я адны мошчы. Божа, да чаго ж высах жывы чалавек?!

— Цётко, і зубровы пояс пазычалі людзям, і вучылі нас, як папараць-кветку знайсці, а самой нічога не памагло...

Кірыліха маўчала. Цьмяныя і паблеклыя вочы глядзелі насцярожана, неспакойна. Халодныя, з сінімі жыламі пальцы трымалі мяне панічна, учэпіста, бытта я бабку апусціў не на мяккае сядзенне, а ў рэчку, і яна баялася ўтануць.

Сын яе да вайны завербаваўся ў Кузбас.

— Цётку, а ваш Валодзька піша вам?

— Як прыслаў адно пісьмо адразу пасля вайны, так і няма болей ад яго,— раптам ажыла яна.— Не мае часу, мусіць...

— Во, во. Вы, мацяркі, заўсёды знойдзеце нам апраўданне!

У машыне бабцы было страшэнна нязручна, а галоўнае — яна не ведала, чаго ад яе хочуць.

Кірыліха пачала дзевяты дзесятак. Жыла яна адно таму, што кожны дзень прыдумвала сабе работу. Вось і сёння ўгаварыла сябе, што ёй трэба схадзіць да дачкі. Тэпала б да сваёй Мілашкі паўдня, мы ж заехалі да бабчынага зяця ва некалькі хвілін, пакрыжавалі старой усе планы. Як мы часам любім дарыць, бо нам гэта прыемна, і не думаем, ці будзе прыемна гэта чалавеку?

А можа, я падвозіў бабку Кірыліху, уносіў і выносіў яе з машыны, адчуваючы, як заўтра Страшава будзе абгаворваць кожны мой крок?

І найбольш стараўся з-за аднаго чалавека.

У Страшаве — электрыка, трактары, асушаныя балоты. На нашых дохлых тарфяніках, дзе ніколі нічога не расло,— добрая збажына, а па хатах хоць і ўчарнелыя ад сонца, вымаражаныя маразамі, сухарлявыя ад працы, але задаволеныя сяляне.

У будні дзень мяне спаткалі, нібы героя, са сцягамі, букетамі, падарункамі, прамовамі, песнямі. Як зачараваныя людзі разглядалі мой пінжак, гальштук, кашулю і кожны мой гузік. Было страшэнна няёмка, сорамна, хацелася збегчы.

Цяпер я тут не толькі Сцяпанаў Алёшка. Страшаўцы ва мне бачылі прадстаўніка казачнай і магутнай Савецкай краіны, якой яны шмат абавязаны,— мне трэба было вытрымаць ролю.

Завялі ў новы клуб на трыбуну. Глянуў я на загіпнатызаваныя вочы, твары і разгубіўся, не вытрымаў афіцыйнага тону.

Ля сцяны маячыў дзядзька Салвесь — родны, блізкі і з такімі самымі, гатовымі заплакаць ад сарамлівасці, вачыма.

А вось перада мой — малады чалавек. Валасы і абрысы галавы ў яго надта знаёмыя. Хто такі можа быць?..

Гэтая ў маёй памяці дзеўка, але на лаве — бяззубая бабуля.

Побач з Салвесем — прамы, нібы слуп, Лавіцкі. Прытэпаў нават з Бялявіч.

Мо яшчэ і цяпер ляжыць у яго на акне грэбень з зубровага рога?

Аднак хто гэта перада мной?.. Рыгораў Косця? Толькі ж ён, ведаю, напэўна, памёр у шпіталі ад ран, атрыманых на вайне! А калі б і жыў — павінен выглядаць на пакаленне старэйшым!

Косцеў пляменнік — сын Міці!

Шкада...

Я пазіраю і ўсё прагна, упарта, з заміраннем сэрца, не прызнаючыся нават самому сабе, шукаю і шукаю, выглядаю і выглядаю адну жанчыну і не магу знайсці. У хустках знаёмыя твары, кожны выклікае балючы ўспамін, але не той, галоўны.

— Ну, пазнаеш нас? — закрычалі з глыбіні залы.

— ?!

— Гэта ж я, Мікалай! Мы з табой раслі разам! Ты яшчэ быў нават на маім вяселлі сватам!

Няўжо я калі-небудзь і сватам быў?!

— Памятаю...

— А цяпер глянь сюды. Няўжо ты мяне не пазнаеш, Алёшка!

Заслала вочы, я нават перастаў бачыць людзей. Нешта падкацілася пад горла.

— Пра што б вы хацелі даведацца ад нашага госця? — паспрабаваў дапамагчы мне малады настаўнік.

З-пад адной хусткі азвалася да болю знаёмая старая (на дзіва, жанчыны да старасці захоўваюць ранейшы голас!):

— Алё-ошачка, а ты раскажы нам нешта такое, каб мы сабе тут паплакалі!

Я на хвіліну разгубіўся.

— Ды няўжо мы спаткаліся дзеля гэтага? Мабыць, нешта вясёлае трэба вам?!

— Гэта ім, маладым, а нам — паплакаць бы ўволю.

Я са здзіўленнем паўзіраўся ў залу.

— Ува-аж ты ўжо нас, дурных бабаў...— падхапілі просьбу іншыя.

— Але ж пра што-о, цё-отко? — пачаў я ўжо намагаць памяць, нават успамінаць партызанскія і франтавыя гісторыі.

І тут раптам я нутром адчуў, чаго хочуць.

Хацелі яны чагосьці мудрага і жыццёвага — ні то прытчаў, ні то трагедыяў, як пра велікамучанікаў Хрыста ці мацер божую. Яны прагнулі дастаць навонак яшчэ раз цярпенні і боль, якіх яны столькі паспыталі — у дарослага ўстанаўліваецца фізіялагічная ці псіхалагічная патрэбнасць трэніраваць душу болем.

Я мог бы дапамагчы аблегчыць ім яе — ведаў столькі трагічных гісторыяў, якія не менш уразілі б, чым тыя, што ў Евангеллі.

Мог бы адкрыць вочы на Юліка Цішэўскага, які на вёсцы некаторымі так і лічыцца прадажнікам...

Мог напомніць лёс Тарашкевіча, Валошына, Дварчаніна, Мятлы, Рака-Міхайлоўскага.

Мог нарысаваць ім складаную душэўную драму, вартую пяра геніяльнага Дастаеўскага,— расказаць пра зубкоўскага Рамана, які ўтапіўся ў плыткай рэчачцы, але не здрадзіў сваім.

Урэшце, мог знайсці фарбы, адкрыць ім вочы на долю Настусі — уся яе гаротнасць праходзіла побач з імі...

З трыццацігадовай дыстанцыі людзі глянулі б на падзеі іначай, убачылі б часамі жахлівую сваю ролю, перахварэлі б, сталі б чысцейшымі.

Але гэтага я не зрабіў.

Не хапіла ўнутранай культуры, такту, вынаходлівасці, шырыні душы. Мая мама, наш партызанскі камбрыг Вайцяхоўскі, ведаю, у дадзеную хвіліну не разгубіліся б. Чалавечнасць, спагада і сардэчнасць узялі б у іх верх над асабістым, чаго не магла зрабіць мая неўраўнаважаная натура.

Стаў я землякам хваліцца, як разграміў нямецкі батальён у Перацёсах. Расказваў пра гэта на сустрэчах, многа разоў і сам страціў пачуццё, дзе ў апавяданні праўда, дзе плён фантазіі.

Не трэба, не трэба было плесці гэтай гісторыі. Перацёсы недалёка ад Страшава, пра ўсё людзі ведалі самі. Але я ўжо стрымацца не мог.

Людзі бачылі, што праўлю глупства, аднак з ветлівасці з цярплівым расчараваннем сядзелі і слухалі.

Калісьці ў гэтым месцы было грамадскае поле, яго называлі — школьніска. З усяе вёскі збягаліся мы сюды гуляць у пікара, покуль не бачылі мацяркі, не гналі да работы.

А яшчэ тут была яма, адкуль людзі бралі пясок на печы, а мы з Верай пяклі ў ёй пірагі — гулялі ў гаспадара і гаспадыню. Вера ведала ўсё, што і як трэба рабіць, я выконваў яе загады, пераносіў апякунства...

Цікава, дзе яна тут сядзіць у зале?..

Пасля майго выступлення ў клубе пачаліся танцы. Як і калісьці, так і цяпер, для землякоў танцы былі радасцю мускулаў, сродкам выражэння пачуццяў пры дапамозе рытму і рухаў здаровага цела — мовай для іх не менш выразнай, чым словы.

Заігралі польку, і страшаўцы затупалі з ярасцю, з захапленнем — аж дрыжала падлога, заміргала лямпа. Пра мяне ўжо забыліся.

З капітанам і настаўнікам накіраваліся мы да выхада, як раптам мяне агарнула жахлівая роспач.

«І ўсё? Так і не пабачу ЯЕ?»

Дваццаць тры гады прыкідваўся, што мне ўсё роў-

на, ні з кім не адным словам нават не абмовіўся пра яе, і ўсё было мана. Верка ў душы маёй неяк ужывалася побач з іншымі дзяўчатамі, якіх я кахаў, побач з жонкай, маімі дзецьмі і living рознымі клопатамі і радасцямі. Адной з прычын, чаму я так ахвотна паехаў з дэлегацыяй, была таксама яна.

«Так нічога і не даведаюся?»

Варта было задаць адно пытанне настаўніку, каб супакоіць душу: бар'ер быў мне не пад сілу.

Бліскаючы свежай фарбай, якой звычайна малююць пажарныя машыны, на шырокіх пратэктарах па страшаўскім бруку каціліся сабе два трактары — нашы «Беларусы». Пра іх было столькі гутаркі калісьці ў вёсцы...

— Дзядзька, а там аўчар пахаваны! — запынілі мяне малыя.

— Які аўчар? — усё азіраўся я і азіраўся.

— Шавечкі. Ён не даваў немчам машыны.

— Вунь, дзе крывая дарога...

Толькі цяпер успомніў, як пры адступленні нашых войск праз вёску з ночы на дарозе ля Міхалковага Юліка засталася трохтонная цыстэрна. Ля яе ляжаў сабака і нікога не падпускаў. Сабаку застрэліў немец.

— А, памятаю!.. Што ж, экскурсаводы, вядзіце, паказвайце.

— А во— патрон, ім па фашыстах вы стралялі!

Рыжаваценькі, з кірпатым носам хлопчык — чый ён? — падаў гільзу.

— У Ліпніках знайшоў, дзе вы стаялі, на Стойбішчы. Там іх валяецца яшчэ мно-ога!

Бяру падарунак. Ты глядзі, якая счарнелая гільза. Нібы з тых, якія знаходзілі мы з Марцінавым Сашкам у зуброўскім хвойніку пасля першай сусветнай вайны.

Пабылі ў месцы, дзе пахаваны аўчар. Патапталіся яшчэ крыху на дарозе. І я ўсё роспачліва азіраўся і азіраўся, да болю ў шыі круціў галавой.

Ад'язджаў з капітанам у Беласток неахвотна, з жалем, нібы не выканаў самага галоўнага.

Раніцой з беластоцкай гасцініцы паехаў я яшчэ раз у Страшава без праважатых.

Заглянуў на свой хутар.

Звычайная вясковая хаціна, ужо ледзь не па вокны

ўлезла ў зямлю, дах выгнуўся седлавінай ад цяжару чарапіцы, так і глядзі праваліцца. І чаму яна калісьці здавалася такім палацам?.. Як жа, я не мог нарадзіцца ў звычайнай. Чорт на яго, як можна паддацца самаашуканству. Яшчэ знайшліся разумнікі, якія бацьку некалі кулаком аб'явілі...

За намі — Сахарышына поле. Юліка забілі. Іван рана памёр. Цішэўскія выродзіліся; пяць іхніх гектараў зараслі хваінай.

У падпраўленай Настусінай хаціне цяпер — яе сярэдняя дачка з сям'ёй. Дзе Верка і які яе далейшы лёс, я зноў не пасмеў ні ў кога спытацца, але для мяне пытанне ўжо здавалася ясным. Дзе ж паліцаевай жонцы быць? На гаспадарцы мужа, а Шусцік быў адзіны сын у бацькі.

Учарашняя атмасфера параднасці не дазваляла хадзіць па страшаўскіх хатах — было сорамна. Няхай гэты раз пабыўку скончу, у наступны прыезд буду разумнейшы.

За вёскай папрасіў шафёра спыніцца і пайшоў у Хмель — такая сабе альшанка на балоце за рэчачкай. Пайшоў туды шукаць кладку з выразаным на ёй надпісам, якую мае продкі, па старадаўняму звычаю дрыгвічоў, паклалі на памяць аб першым Кучынскім. Ішлі многія пакаленні касцоў па кладачцы, глядзелі сабе пад ногі на надпіс і ўспаміналі чалавека. Дзень, калі я ўжо сам прачытаю таямнічыя словы са стараславянскімі выкрутасамі на пацямнелай ад часу і вады калодцы, здаваўся калісьці такім далёкім, недасяжным.

Надта цягнула глянуць на кладку праз чвэрць стагоддзя вачыма сталага чалавека. Цяпер я ведаў цану такім рэчам. Хацелася прывезці падарунак. Беластоцкаму краязнаўчаму музею — у Гродна кладку не возьмеш.

Дарэмныя надзеі!

У Хмелі рэчачка цякла гэтаксама, але яе паглыбілі, кладка апынулася над вадой. Высахшы, дуб пачаў лушчыцца і абсыпацца. Надпісу на ім ужо не было. Цяпер наогул не пазнаць кладкі. От, чамусьці ляжаў сабе над вадой ад берага да берага нікому не патрэбны вузлаваты і патрэсканы дубовы слупок. Побач з ім людзі праклалі мосцік з аполкаў.

За мосцікам — гладкае поле чарназёму. Якая тут

была дрыгва! Па хрыбет правальваліся каровы, а на купінах расла расянка... Людзі перамянілі мясцовасць усяго за якія дваццаць гадоў. Перамянілі, але ўжо без мяне...

Затое і ў Ліпніках цяпер — Стойбішча — месца, дзе стаяў наш атрад. Будуць мяняцца пакаленні, а назва застанецца. І цяпер будзе іх дзве. Адна — у Каралёўскім лесе, другая — каля нашага хутара...

А наогул — усё цячэ, усё мяняецца.

Расчараваны, я ўжо збіраўся ісці да машыны, як убачыў сялянку. Яна набліжалася да мосціка.

І тут я пазнаў жанчыну: гэта была Яна!

Каб выказаць словамі мову нашых здзіўленых, уражаных і разгубленых позіркаў, выглядала б так:

«Ты-ы?.. Не можа бы-ыць?!»

«А гэта ты-ы?! Бо-ожа, што з табой зрабіў час: замуляная, патанчэлая, са счарнелымі і высушанымі кісцямі рук... Што з табой здарылася?..»

Не так, зусім не так уяўляў я сабе нашу сустрэчу.

Стаім, не ведаем, пра што гаварыць. Колькі ў нас агульнага, недагаворанага, нявысветленага, перажытага. Але якое цяпер гэта мае значэнне?

— Вось мы і спатка-аліса...— кажу я.

— А я іду і думаю — хто ж гэта тут такі стаіць! Чула, што ты выступаў у святліцы ўчора, але каб на балоце...

— Та-ак. Вось мы і спатка-аліса...

— Памагала Лебядзінскім складваць сена. Скончылі, іду і бачу — такі файны пан... Яшчэ сабе падумала — мо з ваявудскай рады хто...

— Гэта — я...

— Выходжу з Хмелю і бачу...

Спахопліваюся — Верка вось-вось заплача.

— Ну, Вера, расказвай — як жывеш? — паспяшыў я з дапамогай. У мяне задрыжаў голас.

Яна як бы пагасла, бездапаможна ўздыхнула:

— От жыву...

Зноў стаім і маўчым.

Чыстая белая хусцінка на яе галаве завязана назад. Твар — хударлявы, яшчэ малады і па-дзіцячы бездапаможны. Зблізку яна — непрыгожая.

— Мама жыве?

— Памерлі. Два гады назад...

Пра што спытацца яшчэ?

— А ў мяне, Алёшка, сухо-ота,— раптам успомніла яна і нібы пахвалілася. — Я егдзіла ў санаторыюм ад ваявудскай рады нарадовай.

Словы «ваявудскай», «санаторыюм» вымаўляла лёгка, правільна — нібы радавітая полька.

— Ого, у санаторый!

— Тры гады таму назад, яшчэ пры маме.

— Малайчына, што ездзіла. І добра, што цябе паслалі. Ну і як?

— Лепей...— у яе адпала ахвота гаварыць пра гэта. Не хвароба для яе галоўнае. Веры было куды важней, што людзі ўдзялілі ёй увагу.

— Глупства,— успомніў я Доўгага Мікалая, які ад туберкулёзу памёр.— Хваробу тваю цяпер вылечваюць лёгка. Галоўнае — не падай духам.

Маім словам Вера не прыдала значэння. Яна спяшалася выказаць усё.

— Дзякуй табе за кніжку, што напісаў пра мяне ў ёй, не забыў...

— Ты чытала?!

Вера апусціла галаву.

Выходзіць, кніжка дайшла і да яе, непісьменнай?! Даў паглядзець ёй страшавец ці сама знайшла?

Асобныя выпадкі з нашых адносін я апісаў у сваёй кнізе. Вера выступае там пад выдуманым прозвішчам. Апісаў падзеі не дакладна, як мяне прымушалі законы літаратурнага твора, падказвалі сюжэт і кампазіцыя. Там толькі дух таго, што было на самай справе. Гэта магла ўлавіць адна Вера. Улавіла.

Верыны вялікія вочы колеру намочанага каштана былі такія ж глыбокія, поўныя таямніцы і сілы. Калі б не прыбітасць і апусценне... Колькі ёй, тонкай, слабой, давялося перанесці?! Сама недзе гадавала дзяцей, дваццаць гадоў цярпела ганьбу суседзяў.

Чаму, чаму жыццё некаторых — адна суцэльная пакута?!

— Глупства, няма за што дзякаваць. Пра каго ж тады мне пісаць, як не пра блізкіх, як ты...

— Ай, не кажы, мог бы і не ўспомніць! — уздыхнула яна з сумам і задумалася.

Зноў памаўчалі крыху.

Успомніўся яе муж.

— Скажы, куды дзеўся Шусцік?
— Загінуў у шахце.
— Колькі ж ён прасядзеў?
— Тры гады ўсяго.
Не ведаю, пра што пытацца больш.
— Толькі пад канец вайны ён не жыў са мной, знайшоў сабе немку! — запэўніла яна, бытта гэта мела значэнне.
Зайшлі мы да яе на кватэру.
Хаты сваёй Вера не мела. Ад самай вайны наймала пакой з кухняй, адрабляла за гэта летам гаспадару.
У пакоі засталі мы дзвюх дарослых дзяўчат. Кінулася ў вочы, што яны надта злосныя на маці ад нейкай даўняй і закаранелай крыўды. Не саромеючыся чужога чалавека ў сваім доме, дзяўчаты вызвяраліся на маці, не слухалі яе. Няўжо яны сябе паводзілі так з-за мяне?!
Вярнуўшыся з сяней, Вера пачала паспешліва пілаваць тупым нажом сухі сіні і жылісты кумпяк.
Я не мог болей глядзець на Веру. Зрабілася страшэнна яе шкада. Ды нічога нельга было вярнуць, адмяніць ці хоць пераканаць гэтых дзяўчатак, што жыццё — складаная вельмі штука і нельга быць такімі эгаісткамі.
Я не мог, ніяк не мог тут заставацца — нават хвіліны. Пачаў развітвацца.
У Веры выпаў з рукі нож, яна бяссільна апусцілася на лаўку.
— Ганьбу-уеш?! — жаласліва папракнула яна, нібы брытвай паласнула па сэрцы.
І не разумела, што вінавата менш за мяне: я хадзіў, закаханы, і ўздыхаў, як семінарыст. А што зрабіў, каб вызваліць Веру, чым ёй дапамог?!
Пусты фантазёр!

*1959—1969 гг.*

# РЭПАРТАЖ З ПЕРОНА

*З дзённіка загадчыка агенцтва «Інтурыст»*

Праз Гродна праходзіць турысцкі маршрут Ленінград — Варшава — Берлін — Парыж. На гэтым маршруце ідуць два замежныя цягнікі. І едуць гэтымі цягнікамі турысты. Пасажыры тут розныя: савецкія — у Варшаву, Берлін, Прагу, Парыж, а іншаземныя — у Вільнюс, Ленінград, Маскву, Валгаград, Сочы.

Чаго толькі не ўбачыш і не пачуеш на гродзенскім пероне, асабліва калі маеш дачыненне да турызму.

*23 ліпеня*

Вечарам прыехала група з ГДР і італьянскі доктар з жонкай. Доктар — важны, сталы, уручае мне візітную картачку, дзе перад яго прозвішчам трайны тытул, які гаворыць аб вучонасці іншаземнага турыста. Сіньёр аднолькава гаворыць на многіх мовах, едзе на дваццаць дзён на Чорнае мора, а каштуе яму гэтая прыемнасць 1220 рублёў.

Аказваецца — група толькі па назве з ГДР, у ёй адзіны немец — яе кіраўнік. Астатнія: дзве японкі, індус, швейцарская пара, двое ізраільцян, француженка Надзіна Нікалаева!.. Усе яны — замежныя студэнты ды педагогі, якія вучацца і працуюць ва Усходняй Германіі. Разгаварыўся з прывабнай японачкай — упершыню ў жыцці гутару з чалавекам з Краіны Узыходзячага Сонца,— гляджу, а другія на мяне здорава пакрыўдзіліся. Чорт, трэба быць больш уважлівым!..

Поезд адпраўляецца, і выпадкова даведваюся на тамožні, што сіньёр італьянец, між іншым, вёз тры таў-

шчэзныя чамаданы... капронавых панчох ды іншага барахла для шмугелю.

Вучоны з трайным тытулам!..

*24 ліпеня днём*

Выязджае толькі група немцаў. Групы іх усе аднолькавыя, па 28 чалавек. Як і немцы, што ехалі раней, так і гэтыя надзвычай карэктныя, дысцыплінаваныя і паслухмяныя. Да ўсяго — сентыментальныя. Калі іх суправаджае ленінградскі ці маскоўскі перакладчык і на гродзенскім пероне яны развітваюцца, то ўсе плачуць. Вось і зараз сказаў ім толькі пару цёплых слоў прывітання, і ў многіх ужо звільгатнелі вочы. Іх кіраўнік раздала кожнаму рублі, і немкі адразу накінуліся на гродзенскае марожанае.

— О-о-оў, гу-ут! — захапляюцца яны і старанна аблізваюць вафельныя кубачкі.

У мяккім вагоне — амерыканскі бізнесмен. У яго бацькі 19 мільёнаў капіталу, сын валодае толькі часткай гэтага багацця. Малады чалавек год 28, апрануты з густам, элегантны, свабодна валодае французскай, нямецкай, італьянскай мовамі, а — англійская ў яго чыстая і без акцэнту, як у іншых амерыканцаў. Думкі мае ўлоўлівае з паўслова, і наогул прыемны субяседнік. Вяду яго ў рэстаран: цікава, што ж ядуць мільянеры? Амерыканец заказвае шклянку кавы, булачку, масла і... усё!

Заводжу яго да сябе ў агенцтва, даю фірменныя малюнкі з відамі Крамля, Мінска, Кіева. Бярэ ахвотна. Прыйшоў да мяне чагосьці дзевяцігадовы сын і ўважліва назірае, як амерыканец скручвае прыгожыя плакаты ў рулон.

Праз гадзіну ідзём дадому, і сын азадачана пытаецца:

— Та-ата, ён буржуй, а чаму такі сімпатычны?..

*24 ліпеня вечарам*

У мяккім — журналістка з Канады. Прыгожая, элегантна апранутая, маладая. З задавальненнем расказваю ёй аб горадзе, аб яго гісторыі, а яна... засадзіла пяцярню ў шавялюру і чухаецца, чухаецца, чухаецца...

Бр-р-р! — стала агідна.

Прыбыла сёння і група з Чэхаславакіі. Іду да яе. Здалёк вітаю:

— Добры дзень, браты чэхі!

— Чаму чэхі? — чую некалькі пакрыўджаных жаночых галасоў.— Я, напрыклад, славачка!

— І я!

— А я — венгерка!..

Зноў папаўся, як учора з японкай.

— Але ж вы — каралевы прыгажосці Чэхіі,— выкручваюся.— Ці няпраўда?

Улагоджаныя жанчыны пырскаюць смехам. Здаецца, сябе рэабілітаваў.

*25 ліпеня*

Выязджаюць галандскія настаўнікі. Выглядаюць молада, робяць уражанне заможных людзей. Можна з кожным дагаварыцца па-нямецку. Дзеляцца ўражаннямі. Убачаным вельмі захапляюцца, асабліва Ленінградам. Бачылі ў нас недахопы? Так, бачылі. Прагрэсіўна настроены настаўнік фізікі не можа даравадь, што нашы жанчыны поруч з мужчынамі ломікам разбіраюць брук, варочаюць цэментавыя пліты.

— Раўнапраўе? — не дае ён мне ўставіць слова і смяецца: — Нябось ніводнага вашага мужчыны не знойдзеш у яслях, дзіцячых садах!..

Столькі разоў «Літаратурка» ды іншыя газеты выступалі з гэтага поваду!.. Ці не пара ад слоў перайсці да справы?..

Лепш прыглядаюся да гасцей. Са здзіўленнем заўважаю, што большасці даўно за пяцьдзесят. І апрануты яны ў касцюмчыкі з дрэнненькага матэрыялу, але з густам пашытыя, выпрасаваныя; абутак начышчаны да люстранага бляску, твары старанна паголеныя — гэта і стварае ўражанне маладосці і дастатку. Стараюся ўявіць сабе іх жыллё. Прафесар мастацтвазнаўства Ніна Міхайлаўна Молева, вярнуўшыся з паездкі па Галандыі, апавядала нам на Вышэйшых Літаратурных курсах, што бачыла, як у нейкім гарадку пад Ротэрдамам жанчыны кожную раніцу каменні бруку перад сваімі домікамі мылі цёплай вадой з мылам. Ведаў, куды пасылаць моладзь вучыцца, Пётр Першы!..

Гутарым далей. Заводжу размову аб галандскай калоніі — Заходнім Ірыяне. Настаўнікам яўна няёмка, яны ўсяляк стараюцца мяне пераканаць: з каланіялізмам нічога агульнага не маюць.

Вельмі здзіўляюцца, што ў нашым невялікім горадзе тры інстытуты. І тут успамінаю: магу паведаміць ім прыемнае!

Больш двух стагоддзяў таму назад гродзенскі граф Тызенгаўз прывёз з Галандыі ткачоў, і яны ўтварылі ў нас Галандскую вуліцу, на рацэ Ласасянцы пабудавалі фабрыкі і цэлае стагоддзе пастаўлялі для рускай арміі выдатнае сукно. Цяпер наш тонкасуконны камбінат — у межах горада — выпускае дзевяць кіламетраў сукна ў суткі, і станкі яго прыходзяць у рух не ад вады.

Былая Галандская вуліца зараз называецца імем польскай пісьменніцы. Але і цяпер кожны гродзенец пакажа развалiны фабрык на берагах Ласасянкі і дзесятак галандскіх вастраверхіх домікаў па вуліцы Элізы Ажэшкі.

Турысты слухаюць са здзіўленнем, затым пільна разглядаюць прахожых, стараюцца знайсці ў іх прыкметы сваёй крыві.

*26 ліпеня раніцай*

Пасажыры сёння нецікавыя. Замест рэпартажу з перона — дзве гісторыі.

Восенню, калі праўленне «Інтурыста» выклікала мяне ў сталіцу, я назіраў такі малюнак.

Ахотны рад.

Ля мяснога магазіна тачыльшчык рытмічна націскае нагой на педаль, а з-пад вялізнага нажыска страляе імклівы струмень залацістых іскраў.

Па тратуары цягнуцца тры індусы ў белых турбанах, з тварамі бытта іх шчодра аблілі алеем, а потым доўга смажылі на патэльні. Індусы, відаць, у Маскве даўно, бо надта стомленыя і ўжо да ўсяго абыякавыя.

Раптам госці ўбачылі тачыльшчыка. Для іх — дзіва, што ён амаль дакладна такі, як і ў Бамбеі ці Калькуце. Іхнія масляністыя вочы ўжо аж гараць шчырай радасцю, выступілі нават слёзы — гучаць узбуджаныя галасы.

А мяне ўпікнула бяссільная рэўнасць, што вось так, як гэтае дурное тачыла, не кранае іх ні метро, ні ТУ-104, ні Крэмль, ні магутныя заводы...

Расказваю аб гэтым нашаму літаратурнаму крытыку, Валодзю Калесніку, а ён мне паведамляе зусім іншага характару карціну, якую ён назіраў у сваім Брэсце. Вось яна.

З вакзала чатыры негры пайшлі паглядзець горад. Ідуць, усюды спатыкаюць добразычлівыя і цікаўныя позіркі, прыязныя ўсмешкі. За імі ўвязаўся цэлы хвост хлапчукоў: такія госці бываюць у Брэсце не часта.

З піўной ля Дома афіцэраў вывальваецца п'яны. Чалавек хвіліну азіраецца асалавелымі вачыма, ловіць раўнавагу. Затым, узрадаваны, прэцца неграм насустрач, крычыць:

— А-а, Луму-умба, ві-іват, бра-ава, дру-ужба, гу-ут, дабро пажа-алаваць!

І лезе цалавацца. Моцна цісне гасцям рукі.

У разгубленых неграў выступаюць на вачах слёзы расчуленасці. П'яны ж блізку разглядае чорныя твары, губляецца і... грэбліва абціраае сваю руку аб пінжак.

Негры адразу моўкнуць, цішэюць і, пакрыўджаныя, вяртаюцца на вакзал.

*26 ліпеня*

Сёння апрача звычайных паяздоў прайшло два эшалоны з удзельнікамі VIII фестывалю моладзі і студэнтаў у Хельсінках. У абодвух было каля 900 французаў і 100 немцаў з ФРГ. Мяне здзівіла тое, што сярод паўтысячнай масы француженак я не ўбачыў ніводнай прыгажуні. На пероне з кветкамі многа нашай моладзі. Гродзенскія дзяўчаты і жанчыны куды прыгажэйшыя.

Вось табе і хваленыя француженкі!

*27 ліпеня*

Зайшоў польскі палкоўнік у ювелірны магазін, і ў яго нейкі мярзотнік выцягнуў грошы.

Я пасварыўся з міліцыяй.

У вузкіх сініх штоніках, з тырчма стаячымі пасмамі валасоў перакладчыца, якая прыехала сустракаць французаў, еядзіць у нас у агенцтве ды абураецца:

— Якая-ая га-аньба, які со-орам!..

— Нічо-ога, усё роўна зло-овяць...— няўпэўнена супакойвае дзяўчыну наша касір, Вера Аркадзеўна, якой непрыемна таксама.

Дзяўчына нервова рве кветку фіялетавымі пазногцікамі і кідаецца на мяне:

— Чаму ў нас так многа зладзеяў?

— Чорт яго ведае,— апраўдваюся вінавата.— У нас, здаецца, і п'яніц і нягоднікаў мала. Наша Гродзеншчына — радзіма пісьменнікаў: Ажэшкі, Цёткі, Міцкевіча... Адгэтуль Каліноўскі, генерал Парыжскай камуны Валерый Урублеўскі...

— Як так мо-ожна?! — не слухае мяне перакладчыца.— Што пра нас іншаземец падумае?

Адчуваю сябе вельмі вінаватым перад ёй. Не то дзяўчыну, не то сам сябе супакойваю:

— Думаеце, сярод іншаземцаў не бывае прайдзісветаў?

І, быць можа, не зусім да месца, а каб заняць час, расказваю гісторыю, якая ў Гродна перадаецца з вуснаў у вусны, з пакаленняў у пакаленні.

Вельмі даўно ў нас асталяваўся французскі граф О' Брыен дэ Лясі. Адзін яго сын служыў пад камандаваннем Макарава і трапіў пад Цусіму. Калі эскадра здавалася японцам, трэба было ворагу адвезці флагманскі сцяг. Па марской традыцыі гэта павінен зрабіць малодшы афіцэр. Але ўсе адмовіліся. Тады ўзяўся добраахвотнікам мічман О' Брыен дэ Лясі. Пасля палону маракоў перавялі ў сухапутныя войскі. Малады граф трапіў у 26-ю гродзенскую артбрыгаду. Да пачатку сусветнай вайны рускія афіцэры не падавалі яму рукі і не размаўлялі з ім. Потым у Пілсудскага ён камандаваў 10-ым палком уланаў і адначасна служыў Гітлеру шпіёнам — у 1936 годзе завербаваў яго вермахт.

Перакладчыцу не захапіў і гэты мой расказ. Яна з крыўдай у голасе скардзіцца:

— Ехалі мы з Брэста з групай ФРГ. Спыніліся чамусьці ў чыстым полі на вашай Беларусі. Адразу збегліся хлапчукі. Мае немцы накідалі ім цукерак, шака-

ладу, але ніводны хлопчык гэтага не падняў. Толькі шныраюць ад вагона да вагона і выпрошваюць этыкеткі ад запалкавых скрыначак. Дык гэта ж вясковыя дзеці, босыя, не зусім прыгожа апранутыя і то... Але каб у пагранічным горадзе вось так чалавека абакрасці ў белы дзень?!

Мы з Верай Аркадзеўнай пераглядваемся.

Увесь выгляд у дзяўчыны якраз такі, якіх у нашым друку чамусьці прынята бязлітасна высмейваць. Адчуваю да перакладчыцы прыліў бацькоўскай цеплыні.

— Трэба яму вярнуць страту...— уздыхае дзяўчына ды раптам ажыўляецца ад наіўнай ідэі: — А давайце зложымся ўтраіх, а?!

Я б ахвотна адзін аддаў пацярпеламу грошы, калі б гэта хоць што-небудзь змяніла.

І тут увальваецца старшы інспектар чыгуначнай міліцыі, разапрэлы маёр Драздоў. Выціраючы лоб, уздыхае:

— Ну, нарэшце, сцапалі!.. Рыжская кішэншчыца прыехала сюды на гастролі!.. Уф-ф-ф, а тут яшчэ спякота такая!..

— Злаві-ілі, праўда? — усхопліваецца шчаслівая перакладчыца, але ж адразу пераходзіць у жах: — Жанчы-ына?!

Толькі Драздову не да охаў і ахаў.

— Давай сюды турыста,— загадвае мне,— няхай забірае кашалёк!

Усё роўна непрыемна. Хацелася б, каб гэта быў сон.

*28 ліпеня*

У поездзе толькі адзін турыст, амерыканец, часу многа, і я цэлую гадзіну прысвячаю яму. Высокі, хударлявы, дваццацітрохгадовы электрык з Нью-Йорка расказвае сваю рамантычную гісторыю:

— Пасварыўся з нявестай і вырашыў чатыры гады не паказвацца на радзіме. Падарожнічаю вакол зямнога шара. Грошай няма, прыязджаю ў якую-небудзь краіну і адразу шукаю работу — найчасцей мыю посуд у рэстаранах. Папрацую так пару месяцаў, збяру грошай на дарогу і адпраўляюся ў суседнюю краіну. Так за год пабываў ужо ў сямі дзяржавах...

— І ў нас будзеце работу шукаць?

— Паспрабую... Як думаеце, не дазволяць мне ў Ленінградзе застацца хоць бы на месяц, калі там папрашуся? Ваша консульства дало мне візу толькі на праезд у Фінляндыю...

У хлопца вочы наіўна-шчырыя, сумленныя. Побач — невялічкі чамадан з запасной бялізнай, клятчастымі кашулямі, здаравеннымі чаравікамі, брытвай, некалькі прыгодніцкіх «покітбуксаў»...

Са свайго вопыту заўважаю, што ў амерыканцаў дзіўная цяга да падарожжа і ў адрозненне ад нас якаясьці спартанская непатрабавальнасць да ежы, выпівак...

Цікава заглянуць хлопцу ў душу і даведацца, якія ў яго палітычныя погляды, што думае аб сусветных праблемах. Асцярожна задаю некалькі пытанняў на гэтую тэму, але амерыканец адразу насцярожваецца і мнецца. Нічога не застаецца, як пажадаць яму шчаслівай дарогі. А яшчэ жадаю яму сустрэць больш згаворлівую нявесту.

*29 ліпеня*

З Ленінграда прыбылі дзве групы нашых турыстаў, якія едуць у ГДР, і з імі 37 аргенцінцаў і 4 амерыканцы. Савецкія турысты, ажыўлена пераклікаючыся, як свавольныя хлапчукі, якія толькі што вырваліся з-пад бацькоўскага кантролю, кідаюцца да буфетаў рабіць запасы на дарогу. Купляюць з рускім размахам — на ўсе грошы і колькі могуць умясціць сумкі, капронавыя сеткі.

Высыпалі і разбрыліся па вакзале, пероне і плошчы аргенцінцы — жвавыя, чорныя, таўставатыя — і загаварылі бойка-бойка, бытта затарахцелі калёсы.

Накіроўваюся да амерыканцаў.

Двое маладых — ён і яна — вяртаюцца з Хельсінак. Абое высокія, хударлявыя, у даволі бедных касцюмах. У хлопца брудны і грубы світэр, а гаспадару гэтага світэра даўно трэба было б пастрыгчыся і пагаліцца. Даведаўшыся ад мяне аб перасадцы ў Кузніцы, маладыя адпраўляюцца ў горад. Гродна лічыцца для іншаземных турыстаў закрытым горадам, але хто ідзе ў яго без злых намераў, таго ніхто не затрымлівае.

Спяшаюся да другой пары амерыканцаў.

Гэтыя — муж і жонка. Ён — прафесар-анколаг Вашынгтонскага універсітэта, вяртаецца з Масквы з VIII Міжнароднага супрацьракавага кангрэсу. Тыдзень быў госцем нашых акадэмікаў, адпачываў з імі на Чарнаморскім узбярэжжы. Яна — хатняя гаспадыня: капрызная, куды старэйшая за мужа, на ёй ультрамоднае паліто, якое зіхаціць, нібы сатканае з брыльянтавых ніцей. Падводжу да ларка з сувенірамі, але яны толькі разглядаюць рэчы. Ля буфета купляюць дзве... цукеркі. І наогул лічаць кожную капейку. Цяжка сабе ўявіць нашага прафесара, каб так скарэднічаў...

Вяртаецца першая пара амерыканцаў з горада. Аказваецца, у іх яшчэ засталося некалькі рублёў, яны хочуць штосьці купіць. Абое чулі пра славутую рускую ікру. Дзяўчына нясмела просіць сказаць, дзе прадаецца далікатэс. Падыходжу да буфета. Маленькі шкляны слоічак каштуе рубель і 64 капейкі. Маладыя бянтэжацца, нерашуча топчуцца. Ім трэба быць ужо ў вагоне. Афіцэр-пагранічнік, Артур Мікалаевіч Пыжоў, адчайна махае мне рукой, маўляў,— давай сваіх турыстаў, інакш сарвём адпраўку заграпічнага поезда! Пытаюся:

— Хто вы па прафесіі?

— Студэнты...

— Тады я на вашым месцы ікры б не купляў!

— Не-е? — даверліва перапытваюць юнак і дзяўчына адначасна.

— Вядо-ома! Яна не для студэнцкай кішэні! Скончыце ВНУ, разбагацееце, тады!..

— О-о, е-е-ес! — аблегчана ўздыхаюць абое.

Бяжым мяняць іх рублі на долары. У банку пачалі запаўняць бланк на абмен, і аказваецца, што абое... ляўшы!

Навокал — натоўп гродзенцаў, якія праводзяць сваякоў за граніцу. Гэтыя здзіўляюцца:

— У Амерыцы пішуць левай? Ну-у і ну-у!..

Студэнты бянтэжацца.

Выводжу пару да ачэпленага ўжо пагранічнікамі поезда. О, жах! У вокнах аднаго вагона — суцэльныя батарэі бутэлек! І гэтак яны будуць маячыць, едучы праз Польшчу?! Бягу шукаць кіраўніка савецкіх турыстаў.

*31 ліпеня*

Сёння з прыгодай.

З супрацьракавага кангрэсу зноў вяртаецца амерыканскі прафесар з жонкай. Англічанін па паходжанню, высокі і замкнуты, нічым не цікавіцца, застыў у сваёй англійскай велічы, сядзіць і маўчыць. Яна — падыходзіць яму ростам, але тоненькая, фарбаваная бландзінка. З імі — вялізныя чамаданы з наклейкамі ўсіх галоўных гарадоў свету. У чамаданах кінаплёнка, кіпы рукапісаў, медыцынскія кнігі, даведнікі і часопісы на розных мовах.

— На кангрэсе ў Маскве было чатыры тысячы вучоных! І трыста амерыканскіх! — з захапленнем расказвае бландзінка. Дадае з гордасцю: — Мой муж зрабіў цікавы даклад, паказаў дакументальны фільм з жыцця сваёй анкалагічнай клінікі...

Выгляд прафесара і яго рыштунак выклікаюць давер і міжвольную думку: ой, нездабраваць цяпер табе, праклятаму раку, калі гэтак дружна бярэцца за тваю паганую скуру сусветная армія вось такіх вучоных ■ навейшай апаратурай!!

Спрабую прафесара ўцягнуць у гутарку: не часта ўбачыш такога буйнога вучонага! Паступова разгаварыліся. Сцвярджае, што ў барацьбе з гэтай хваробай чалавецтва амерыканскія анколагі ідуць прыкладна на адным узроўні з савецкімі. Па дарозе з Масквы ён з жонкай заязджаў у Вільнюс. Цешча прафесара яшчэ да рэвалюцыі выехала адтуль у Амерыку, і вось бландзінка захацела глянуць на радзіму маці. Горад абоім спадабаўся.

Размаўляючы так, выходзім да ларкоў. Бландзінку прыводзяць у захапленне тавары на вітрыне; ёй і таго хочацца, і гэтага, але прафесар няўмольны. Купляе толькі рублёвую матрошку. Астатнія рублі нясе ў банк мяняць на долары. Пакуль муж у банку, я даведваюся ад яго жонкі, што яна хатняя гаспадыня, мае трое маленькіх дзяцей. Прапаную на памяць нашых карцінак, і жанчына ахвотна згаджаецца. Вяртаецца прафесар, мы ідзём у агенцтва.

Маляўнічыя віды Масквы і балярын прывялі ў захапленне лётоўку. Ды і непранікнёны твар прафесара таксама распагодзіўся. Амерыканец намерваецца за-

гарнуць плакат. Падаю яму «Известия». Ён па-гаспадарску раскладвае газету на стале, каб загарнуць у яе падарунак, і... прама перад сабой бачыць некалькі карыкатур. Адна з іх уяўляе сабой славутую статую Свабоды з... кінжалам у грудзях! Амерыканец раз'юшваецца, збіраецца шпурнуць у мяне плакатамі, але іх падхоплівае жонка ды пачынае згладжваць вуглы паміж намі...

Апускаемся на першы паверх, але размова ў нас ужо не клеіцца. Прафесар глядзіць на гадзіннік, заяўляе, што ідзе ў горад, але к поезду вернецца ў час. І вось яны адпраўляюцца ў бок вуліцы Ажэшкі. Абое высокія, у светлых плашчах. Ён бярэ ў яе рулон сабе пад паху. Адчуваю нейкую няёмкасць, цягне зірнуць на карыкатуру яшчэ раз. Ліха на яго, запрашаем адзін аднаго ў госці, збіраемся для мірнай гутаркі, укладваем у гэта многа намаганняў і сродкаў, і вось які-небудзь нязначны факт — і ўсё ідзе ў глум!

Ці варта нам чарніць тое, што іншым здаецца святасцю?!

Спяшаюся да начальніка вакзала, знаходжу той самы нумар «Известий» ад 27 ліпеня ў падшыўцы і прыглядаюся. Аказваецца, гэта — падборка малюнкаў, перадрукаваных з... амерыканскіх газет!

Вось дык штука!

Праз паўгадзіны вярнуліся амерыканцы з горада. Паказваю прафесару карыкатуру, называю газету, з якой яна ўзята, і вучоны раптам траціць усю англасаксонскую важнасць, пачынае на ўвесь голас смяяцца. Перастане, вытра слёзы, нахіліцца над малюнкам, прачытае на кінжале надпіс «Макарці» і зноў рагоча.

Дзякуй табе божа, кантакт адноўлены!

*5 жніўня*

З Кузніцы прыбыло 28 нямецкіх настаўнікаў. У суседнім вагоне — два амерыканцы. Нямецкіх турыстаў я вывеў на перон, расказаў аб далейшым шляху і пачынаю запісваць у блакнот звесткі для тэлеграмы ў Ленінградскі «Інтурыст». Настаўніца спеваў з Ростака, пажылая фраў,— кіраўнік групы.

— 14 жанчын,— дыктуе яна,— столькі ж мужчын і шэсць пар сямейных...

— Толькі шэсць пар? — жартую я.— Нічо-ога, фраў, калі будзеце ехаць назад, напэўна, сямейных пар будзе болей.

Выбух смеху. Немцам, я ўжо даўно ведаю, такія жарты па густу. Але ж тут настаўніца спеваў раптам адказвае на мой такім жартам, што я чырванею, як хлопчык. Папаўся!..

Раблю выгляд, бытта нічога не здарылася, расказваю турыстам аб нашым горадзе. Калі паведаміў, што за вайну фашысты расстралялі 40 000 гродзенцаў, немцы змаўкаюць надоўга. Да адходу поезда яшчэ 40 мінут, турыстаў адпускаю. Немцы адпраўляюцца ў горад, а я — да амерыканцаў.

Перада мной — высачэзны мужчына ў чорным і доўгім убранні. Тугі абадок цёмнага і стаячага каўнерыка ды якісьці лагодны пакорлівы позірк пасажыра адразу выдаюць у ім служыцеля культу.

— Так, я ксёндз...— пацвярджае маю думку іншаземец па-руску і, перахапіўшы мой цікаўны пагляд на яго маладую спадарожніцу, пратэстуе спалохана: — О-о, не-е, гэта не жонка! Мая сястра!

Далей размаўляць па-руску яму не хапае слоў, і мы пераключаемся на англійскую мову. Выходзім на перон. Аказваецца, брат з сястрой купілі трохдзённую турысцкую пуцёўку ў СССР і накіроўваюцца ў Вільнюс — месца, дзе калісьці нарадзіліся іх бацькі. Нас затрымлівае старшы лейтэнант Успенскі, махае пачкай нейкіх паштовак, просіць мяне:

— Перакладзіце свайму турысту, што іконы затрымліваем. Будзе ехаць назад — аддадзім! Я палічыў іх — 100 штук роўна!..

Са здзіўленнем гляджу на ксяндза. Ён вінавата апускае вочы. Бо-ожа, чым займаецца здаровы мужчына! Становіцца яго нават як бы шкада...

У банку амерыканец мяняе толькі пяць долараў. Бедныя цяпер ксяндзы і ў Амерыцы...

Вяртаюцца немцы з горада. У кожнага ў руках па вафельным кубачку. Настаўніца спеваў хваліцца:

— Мы ідзём, ідзём і глядзім — заапарк! Спачатку сваім вачам не паверылі, покуль праз сетку не ўбачылі слана!.. Я кажу білецёршы — дэлегацыён! Нас і ўпусцілі без грошай! — ззяе яна, шчаслівая, і зноў бярэцца за марожанае.

— І вы бачылі в'етнамскую партызанку, сланіху Машку? — пытаюся.

— Я-а-а-а!

— І нашых тыграў, і пітонаў, і зубра?

— Я-а-а-а! — хорам адказвае мне дваццаць восем радасных галасоў.

— Камарады, сядайце, шнэль! — упрошвае іх дзяжурны па вакзале.— Поезд трэба адпраўляць, ком!

— Я-а, я-а-а-а!..— згаджаюцца з ім немкі і неахвотна ідуць да вагонаў.

Гучыць песня «Дзеці розных народаў». Цягнік нясе маіх турыстаў у бок Парэчча, я збіраюся дадому. Ідзём па пероне з таможнікамі, пагранічнікамі. Начальнік таможні — Мікалай Фёдаравіч Горын — абураецца:

— Разумееце, сёння адзін пасажыр чамусьці паказаўся нам падазроным: якаясьці ў яго дзіўная паходка была. Запрасілі ў наш пакой, сказалі разуцца, а ў яго, шэльмы,— шэсць залатых пярсцёнкаў на пальцах ног! Тады памацалі гальштук — і там пярсцёнкі!..

Мы смяёмся. Але тут мяне адзывае насільшчык, падае некалькі замежных газет, паведамляе:

— Гэты, у чорным балахоне, нібы ксёндз, які мяняў у банку грошы, пакінуў на прылаўку!

З цікавасцю разгортваю вялізныя старонкі. «Neu Jork Herald Tribune», выдадзеныя трэцяга, чацвёртага і нават пятага жніўня, гэта значыць — самыя апошнія нумары! Ну, ну, што там у ім цікавага? Дагэтуль чытаў толькі асобныя вытрымкі ў нашай прэсе...

Заходжу ў сваё агенцтва і разглядаю першы нумар. Фатаграфія новага алжырскага ўрада і дзённік яго паседжання. Апісанне таго, як сёння амерыканскі фермер Дуайт Эйзенхаўэр прыехаў у Бон да Адэнаўэра ў госці. Далей артыкул пад сенсацыйным загалоўкам:

«Я не хачу пусціць на свет гэтае дзіця! МІС ФІНКБАЙН КУПЛЯЕ БІЛЕТ У ШВЕЦЫЮ, КАБ ТАМ ЗРАБІЦЬ САБЕ АБОРТ!»

На Захадзе атрымала шырокае распаўсюджанне лякарства-наркотык талідамід. І вось у жанчын, якія злоўжывалі ім, пачалі нараджацца дзеці-калекі — без рук і ног або з далонямі, якія выраслі прама з тулава. У ЗША і Заходняй Германіі ўжо для іх паадкрывалі спецыяльныя школы, а прамысловасць наладзіла выпуск — пратэзаў.

Муж акцёркі тэлебачання ў Лос-Анджэлесе Шэры Фінкбайн таксама дастаў талідаміду для жонкі. Здарылася, што акцёрка стала цяжарнай. Не жадаючы нарадзіць няшчаснага калеку, яна вырашыла ад яго вызваліцца. Але ў Арызоне зрабіць гэта ёй забараняе закон. І вось яна накіроўваецца ў шведскую паліклініку, бо ў Швецыі аборты ўзаконены. Пад артыкулам фота: прыгожанькая акцёрка цалуе двухгадовага сына перад вылетам у Скандынавію. Далей пайшлі рэкламы вермута «Марціні», машын «Фіят»...

У другім нумары «Neu Jork Herald Tribune» Джозэф Олсап павучае сваіх капіталістаў, як захаваць раўнавагу амерыканскай эканомікі. Побач рэдакцыйны артыкул пад загалоўкам... «Цень над доларам». Ніжэй нейкі містэр Друманд выступае з матэрыялам «Маркс памыляўся», а далей зноў пра акцёрку тэлебачання з Лос-Анджэлеса, але на гэты раз ужо падборка водгукаў на тое, што вырашыла рабіць маці. Спачатку ідзе выступленне ватыканскага радыёкаментатара, які сурова асуджае акцёрку і абвінавачвае яе ў замаху на адну з запаведзей хрысціянства — не забі! Ніжэй — нясмелае абурэнне амерыканскай грамадскасці супроць недарэчных законаў, якія забараняюць маці зрабіць разумнае рашэнне.

*6 жніўня*

Прыслалі нам план руху турыстаў праз Гродна на гэты месяц. Кожны дзень у абодва бакі па пяць-шэсць груп ад 20 да 75 чалавек у кожнай. Больш за ўсё італьянцаў, затым ідуць немцы, галандцы, бельгійцы, аргенцінцы.

Сёння прыбыло 65 італьянцаў. Група зборная, ёсць сярод іх і камуністы, і нават — графы. Першы раз у жыцці спатыкаюся з такім зборам патомкаў некалі магутнага Рыма. Цікава з імі пагутарыць. Ведаю, што брава па-італьянску — здорава, баста — дастаткова, сіньёр — пан, бонжорно —добры дзень, арэвідэрчы — да пабачэння, а карамба, Санта Марыя — нейкая лаянка, але з такім слоўным запасам не разгаворышся. Шукаю сярод іх такіх, што валодаюць нямецкай альбо англійскай, знаходжу.

Збіраем вакол сябе групу, і пачынаю хваліцца ста-

ражытнасцю Гродна — Каложская царква XII стагоддзя, Верхні Замак — XIII—XV... і раптам лаўлю чамусьці паблажлівыя ўсмешкі. У чым справа, што-небудзь не так гавару?.. Ах, унь што, італьянскія гарады маюць па дзве і тры тысячы год за плячыма, у параўнанні з імі наш — проста хлапчаня, схавайся ты з ім!..

Вымушаны перавесці размову на іншае.

Гавару ўжо аб ахвярах вайны. Агульная тэма адразу нас зблізкае. Вяду гутарку, а сам ўсё думаю: цікава, каторы з іх граф? Адкрыта спытаць няёмка. Падыходзіць наш чалавек з Маскоўскага «Інтурыста», які іх суправаджае.

— Арыгінальны народ! — дзеліцца ўражаннямі.— У поездзе адзін правініўся, дык усе шэсцьдзесят чалавек так на яго напалі, так адчытвалі, што я думаў — галаву адарвуць! У нас пасля такога наганяю па меншай меры два тыдні не размаўляюць адзін з адным. А яны праз пяць мінут зноў усе мірна гутараць, смяюцца, бытта нічога не здарылася...

— Гм... Гэта — граф? — перабіваю я перакладчыка ды паказваю на высокага і статнага малайца, які расхаджвае па пероне, нібы ў сябе на двары, бестурботна пазіраючы на свет карымі вачыма.

— Што-о вы, гэта — шафёр з Мілана, камуніст!.. Ідзём, пакажу графаў!

Узбіраемся ў вагон. З аднаго купэ на ўзроўні ніжняй паліцы высунулася маленькая галоўка са зморшчаным і абязвечаным старым шрамам тварам, з паўідыятычнымі вочкамі.

— Гэты! — шэпча перакладчык.— А там далей — графіня. Пойдзем, пазнаёмлю, ёй надта падабаецца, калі звяртаюць на яе ўвагу!

— Не-е, хопіць гэтага! — адхацелася мне ўжо ісці далей.

Вырадзіліся графы, ці што?

Начальнік поезда адзывае мяне:

— Калі ласка, у мяккім вагоне амерыканка штосьлапоча і лапоча, а мы аніяк не зразумеем, што ёй трэба...

Ужо ў гадах, але яшчэ бадзёрая і вельмі рухавая жанчына з тых, якія ніяк не могуць развітацца з думкай, што ім даўно не дваццаць, сустракае мяне весела:

— Гэлло, містэр, вы з «Інтурыста»? Вельмі добра, вельмі добра! — па-панібрацку ляпае мяне па плячы і задаволена рагоча на ўвесь ярка нафарбаваны рот.— Хачу абмяняць грошы. Дзе гэта ў вас робіцца?

Прычоска, сукенка, туфлі — апошняй моды, сама яна ўсыпана бліскучымі брошкамі, калье, як скіфская княгіня, аж рэжа ў вачах. Гляджу яе праязныя дакументы. Багатая міс едзе па класу люкс у падарожжа па СССР.

Ідзём да выхада. Убачыўшы правадніцу, амерыканка мяне спыняе і трашчыць:

— Скажыце ёй, хай пачысціць мне манто, покуль буду мяняць грошы. Учора ў Парыжы ліў неміласэрны дождж, заляпала цалкам па лужах ля Сены!..

Ад такой нахабнасці я сумеўся. Можа, я няправільна зразумеў? Гаворыць бесталкова, хутка, дзе трэба слова, сыпле дваццаць, і вымаўленне ў яе невыразнае — відаць адзін з амерыканскіх дыялектаў. На ўсякі выпадак маўчу.

У банку дама прыліпае да акенца. Да мяне падлятае перакладчык італьянцаў:

— Таварыш загадчык агенцтва, у нас адзін стары сур'ёзна хворы! Змералі цяпер тэмпературу, а ў яго — 39! Што будзем з ім рабіць?

Выклікаем «хуткую дапамогу». Урач вырашае: у хворага іншаземнага пасажыра крытычны стан, яго трэба неадкладна высадзіць з поезда і здаць у бальніцу на лячэнне! Санітары вядуць пад рукі бездапаможнага, як дзіця, і слабога старога, твар яго гарыць — нібы ён толькі што з лазні. Раней ён ведаў крыху пафранцузску, а наша касірка Вера Аркадзеўна жыла гадоў дваццаць у Францыі, гэтай мовай валодае выдатна, і цяпер яна спрабуе выпытаць у сеньёра, чым ён хварэў раней, якія прымаў прывіўкі. Ад гарачкі ён забыў усе замежныя словы і мармыча штосьці незразумелае ды час ад часу паўтарае:

— Мама міа, мама міа!..

Вера Аркадзеўна разводзіць рукамі. Перакладчыка з групы не можам знайсці. «Хуткая» вязе старога ў гарадскую бальніцу, і я думаю, як цяжка будзе нашым урачам дагаварыцца з капрызным іншаземцам. І тут спахопліваюся: Васіль Быкаў піша новую аповесць «Альпійская балада», у ёй галоўная гераіня — італь-

янка, і таму аўтар прасіў яму пазваніць, калі будуць турысты з Італіі. Як жа я забыў?! Шкада, дня не вернеш!.. Ладна, мо заўтра?..

Вяртаюся да амерыканкі, ідзём з ёй у поезд. Яна пытае:

— Ці пачысціла праваднiца мне манто?

Зноў тое самае!

Па катэгорыі люкс ездзяць да нас багацеі. Яны плацяць толькі за гасцініцу па 6 рублёў ды за харчаванне па 7.20 у суткі! Плацяць, вядома, замежнай валютай, і гэта нам вельмі выгадна. Па-першае, яны пераконваюцца, што на Ахотным радзе не бродзяць белыя мядзведзі, у магазінах поўна хлеба і ў СССР няма агульных жонак. Па-другое, яны прывозяць нашаму Дзяржбанку долары, фунты, ліры, франкі... Гэта зразумелі і нашы фінорганы, таму колькасць турыстаў па люксу ў савецкіх паяздах рэзка ўзрасла.

Палітыка палітыкай, фінансы фінансамі, але дзівацтва багатай гультайкі мяне ўзарвала. З абурэннем заяўляю, што патрабаваць ад паязднога персаналу пачысціць манто — нахабнасць, у праграму абслугоўвання «Інтурыстам» такія рэчы не ўваходзяць, слуг у СССР ёй не знайсці! Растлумачваю нашы звычаі: у нас гэта лічыцца знявагай! І дзіва! Жанчына спачатку слухае мяне збянтэжана, а потым — з захапленнем. Нарэшце просіць прабачэння ды апраўдваецца:

— У нас так прынята!..

Развітваемся мірна. Праваднiцы цікавяцца, з-за чаго мы спрачаліся. Расказваю. Дзяўчаты смяюцца і абяцаюць у дарозе яе правучыць. Яны гэта могуць зрабіць так, што не падкапаешся! Уяўляю сабе такі малюнак, і мяне разбірае смех.

*7 жніўня*

Прывозяць з бальніцы старога. Гэта — камерсант з Венецыі, ён жа і камуніст аж з 1922 года. Тэмпература ў яго спала, аднак італьянец яшчэ слабы. Ён упёрся ехаць дамоў — што б ні стала,— і давялося нашым медыкам яго выпісаць. Развітваецца з урачамі, плача і не знаходзіць слоў удзячнасці. Перакладчыкам са здзіўленнем бачу свайго суседа, доктара Кахоўскага. Мы з ім жывём у адным доме і ў адным пад'-

ездзе ўжо восем гадоў, пяць разоў у дзень спатыкаемся, і толькі цяпер даведваюся, што ён валодае італьянскай мовай так, як я сваёй роднай!..

Італьянца вядуць у купэ, чула з ім развітваюцца.

— Арэвідэрчы, компаньё! — крычаць ды сунуць яму сетку з апельсінамі: — На дарогу!

*9 жніўня*

Прыйшоў хуткі. Зноў многа італьянцаў — гэты раз я паспеў пазваніць Быкаву. Адзін італьянец нядрэнна гаворыць па-руску: малады, каравокі і нізкі здаравяка. Аказваецца — супрацоўнік камуністычнай «Уніты» з Рыма. Ён узначальвае і групу.

— Але астатнія — буржуа! — смяецца хлопец.

— Ну і як вы з імі ладзіце?

— Покуль што па-ленінску — суіснуем!..

Смяюся і я. Рэкамендую зайсці да нас у «Інтурыст» па сувеніры. Італьянец накіроўваецца на другі паверх у наша агенцтва. Там якраз сядзіць у мяне бацька. Ён прыехаў у госці з Ваўкавыска. Яму ўжо за семдзесят, пенсіянер, стары камуніст і вельмі любіць пагаварыць пра міжнародныя праблемы і палітыку. Думаю, што ён і італьянец вельмі хутка знойдуць тэму для размовы і сумаваць не стануць; а тут яшчэ да іх далучаецца і Васіль Быкаў. Мяне праваднікі просяць у мяккі.

У купэ — нейкія два сімпатычныя маладыя чалавекі: з чорнымі вусікамі, у белых накрухмаленых кашулях, у цёмных касцюмах, з гарэзлівымі агеньчыкамі ў вачах.

— Мы — кубінскія журналісты! — рэкамендуюцца мне абодва на добрай англійскай мове ды шчасліва ўсміхаюцца.

Дык вось якія гэтыя самыя кубінцы!..

Сардэчна паціскаем рукі, штурхаем адзін аднаго ў бакі, абнімаемся...

— Адкуль вы?

— З Масквы!..

— О-о, дзе мы толькі не былі!..

Трэба чакаць таможнікаў, а яны ўсё не ідуць. Заглядаю ў суседняе купэ, а там... знаёмы мне ксёндз з сястрой.

— Гэлло! — крычаць мне абое, здзіўленыя.

— Гэлло! — крычу і я, здзіўлены не менш.— Ужо вяртаецеся дадому?

Але тут мяне адцягваюць у суседні вагон.

Тут справа складаная. Немец, аспірант Ленінградскага політэхнічнага інстытута, прыехаў у Ленінград на стажыроўку і закахаўся ў выхавацельку дзіцячага сада. Аспірант датэрмінова кінуў стажыроўку і вось вяртаецца ў Лейпцыг прасіць бацькоў, мясцовую ўладу дазволіць яму ўзяць у жонкі рускую дзяўчыну. Вядома, як закаханы пераблытаў дакументы, узяў не тое, што трэба. Рускай мовай не валодае. Старшы лейтэнант Артур Мікалаевіч Пыжоў ломіць галаву, што рабіць. Я гляджу на заклапочаны малады твар немца і здзіўляюся:

— І дзе ж вы з ёю пазнаёміліся ў Ленінградзе?

— У кіно...

— Ну, і доўга былі разам?

— Два тыдні! — гаворыць ён так, нібы размова ідзе пра два гады.

— Яна валодае нямецкай мовай?

— Некалькі слоў...

Нічога не разумею!

Нарэшце фармальнасці з закаханымі ўладжаны, я вяртаюся ў мяккі і бачу дзіўны малюнак. У кубінцаў стаіць таможнік Юрый Паўлавіч Саяпін. Побач, нібы змрочная каланча, узвышаецца амерыканскі ксёндз і служыць таможніку за перакладчыка. Хітрыя кубінцы адчуваюць камізм сітуацыі, адказваюць таможніку з гарэзлівасцю, ледзь стрымліваючы смех. Камізм сітуацыі адчувае і амерыканец, але выконвае ролю перакладчыка пакорліва, з нейкай манашскай дакладнасцю і паслушэнствам, схіліўшы галаву набок. Перакладчык з яго дрэнны, рускую мову ведае ледзь-ледзь, часта блытаецца, а ў Саяпіна яшчэ дзвесце пасажыраў наперадзе, і ўсіх трэба абысці. У Юрыя Паўлавіча не хапае цярпення слухаць перакладчыка, і ён заяўляе ксяндзу:

— А-а, што я буду ў іх правяраць? Няхай перадаюць ад мяне Фідэлю прывітанне!

Саяпін махае рукой і адыходзіць у суседні вагон.

Я перакладаю словы таможніка. Кубінцы задаволена рагочуць. На вуснах ксяндза застыла недарэчная ўсмешка.

У кубінцаў больш гадзіны часу, іх трэба чымсьці заняць. Успамінаю пра бацьку. Цікава будзе старому глянуць на легендарных кубінцаў. Запрашаю іх у агенцтва.

Узыходзім утраіх на другі паверх вакзала, адчыняю дзверы ў «Інтурыст». Там ужо італьянец з «Уніта» гутарыць з маім старым і Быкавым. Васіль Быкаў дае італьянцу блакнот, каб той запісаў патрэбную яму фразу, я знаёмлю з імі кубінцаў, запрашаю іх сесці. Пачынаецца гутарка.

Раптам адчыняюцца дзверы, і ўваходзіць высокі сталы мужчына, звяртаецца да мяне:

— Я — Навічэнка Леанід Мікалаевіч, з Кіева. Еду сваёй машынай з Рыгі ў Брэст. Вырашыў паглядзець ваша Гродна, пабачыць вас і аўтара «Трэцяй ракеты» Васіля Быкава.

— Горад будзем глядзець вечарам, а цяпер, калі ласка, сядайце з намі, знаёмцеся!..

Украінскі пісьменнік апускаецца ў крэсла. Завязваецца жывая размова. Толькі паспяваю перакладаць кубінцам. Між іншым, абодва яны — з цэнтральнай газеты з Гаваны, а вязуць на радзіму нарысы і фатаграфіі пра СССР. Усё гэта так цікава! Эх, каб не трэба было ісці ў інтурысцкую касу — там недзе мае інспектары-аквізітары запарыліся, бо апрача турыстаў кожны дзень едзе яшчэ да тысячы замежных пасажыраў прыватных, гэтак званых «гасцявых», і кожнаму выдай праз нашу касу білет, а ён выпісваецца на трох паперках!.. Прашу прабачэння, роль перакладчыка даручаю італьянцу і выходжу.

У зале вакзала налятаю на амерыканскага ксяндза. Ён асцярожна нясе камусьці шклянку газіраванай вады з сіропам.

У нашай касе ўсё ў парадку. Гродзенцы сёння малайцы, далі выручку амаль чатыры тысячы рублёў, і Вера Аркадзеўна толькі паспявае шчоўкаць костачкамі лічыльнікаў.

Вяртаюся зноў у агенцтва. Давай пакажу свайму старому яшчэ і амерыканца. Азіраюся за ім і знаходжу доўгую фігуру ў сутане за фікусам, у куце чакальнай залы. Брат з сястрой апетытна аплятаюць булку і запіваюць яе... газіраванаю вадой!

Убачыўшы мяне, ксёндз ускоквае, просіць стаць по-

бач з сястрой для фатаграфіі. Я бянтэжуся на міг, але тут жа прымаю рашэнне: а чаго мне баяцца амерыканскага аб'ектыва?! Пазіраю. Затым ксёндз пераводзіць кадр, уручае апарат мне, просіць сфатаграфаваць яго з сястрой на фоне чырвоных сцягоў, якія засталіся на тарцовай сцяне ад фестывалю. Прыцэльваюся. У малюсенькай адтуліне — рамка. У ёй — брат і сястра. Толькі цяпер я здзіўлены пераменай, якая адбылася з ксяндзом. Гэта быў ужо не прадстаўнік адміраючай прафесіі, які толькі што еў булку і запіваў газіроўкай. Праз лінзы старэнькага і абшарпанага апарата ўсміхалася ў мой бок пара сімпатычных і абаяльных кіназорак-мільянераў!..

Націскаю спуск, апарат пстрыкае.

— Тэнк ю! — крычыць здаволены ксёндз.

Прапаную на памяць сувеніры, амерыканцы ахвотна згаджаюцца іх прыняць. Сястра застаецца сцерагчы шклянку і рэшткі яды, а яе брат спяшаецца за мной. Заўважаю, што едзе назад крышку іншы. Як бытта памаладзелы, менш абмежаваны. Відаць, думаў, што бальшавікі тут засмажаць яго жыўцом на малым агні. А можа, і па іншай прычыне.

Уваходзім у «Інтурыст». Тут беларускі і украінскі пісьменнікі, італьянскі і кубінскія камуністы ды мой стары — былы актывіст-падпольшчык — так разгаварыліся, што гоман стаіць, як на форуме. Вядома, нас ніхто нават не заўважае. Прыглядаюся, а бацька, Быкаў і Навічэнка ўжо ўвешаны нейкімі стракатымі значкамі, на якіх рэзка і катэгарычна, як чарга з кулямёта, напісана:

«Patria o muerte! Venceremos!!!» *

Амерыканскі ксёндз тут зусім лішні. Ды і я разумны! Хіба мой бацька за сваё жыццё мала наглядзеўся на ксяндзоў?!

«На халеру ты мне яго прывалок?!» — ведаю, скажа потым стары.

Уручаю амерыканцу пару праспектаў, для яго сястры знаходжу фірменныя цацкі і кажу на развітанне:

— Пагранічнікі сотню вашых ікон аддадуць у вагоне, не хвалюйцеся!..

---

* Радзіма або смерць! Мы пераможам!!! *(ісп.)*

8*

Вечарам Быкаў павёз Навічэнку паказваць Гродна, а я стомленага ўражаннямі бацьку вяду дамоў. Стары ківае галавой і дзівіцца:

— У цябе тут, як у ААН!..

*12 жніўня*

Учора запусцілі трэцяга касманаўта, а сёння толькі што паляцеў чацвёрты. На перон з ленінградскага эшалона вываліі дзве групы немцаў. Аб'яўляю ім пра Паповіча, і яны гарлапаняць з захапленнем і радасцю. Наўрад ці крычалі б яны мацней, будзь Паповіч не ўкраінец, а ўраджэнец Берліна. Наперабой мне паведамляюць: адразу за чацвёртым запусцяць пятага і лятаць будуць адначасна тры апараты, так сказаў нібыта Гагарын у інтэрв'ю для нейкай замежнай газеты і яны чулі па Бі-бі-сі. Падыходзіць афіцэр-пагранічнік, немкі вішчаць, затым кідаюцца яго віншаваць ды цалаваць...

З немцамі ў адным поездзе прыбыло паўсотні італьянцаў, двое амерыканцаў, англічанін.

Чамусьці затрымліваюць адпраўку замежнага поезда. У чым справа? Званю пагранічнікам. Аказваецца, канфіскавалі ў аднаго італьянца плёнку: нейкія абураныя прахожыя-гродненцы далажылі, што сіньёр фатаграфаваў у горадзе смеццевыя ямы!

Іду дадому. Галава задурана, мільгаюць нейкія абрыўкі ўражанняў, фраз, і здаецца, што ўсе гродзенскія прахожыя гавораць на замежных мовах. Стараюся апамятацца, збіраюся з думкамі. Такі і праўда, у небе ўжо чацвёрты касманаўт!.. Перад вачыма — амерыканец, які на гродзенскім пероне, не ўзнімаючы вачэй, паспешліва тыкае руку пагранічніку, віншуе з перамогай... Нічога не скажаш, самалюбства іх кранута за жывое...

Смешная гісторыя была сёння яшчэ. Расказвала перакладчыца італьянцаў.

У яе групе трапіліся адны арыгіналы. Даставіў іх ад граніцы ў Маскву адзін турыст і заявіў: «Я — лепшы ў свеце кандытар. Прывёз сіньёру прэзідэнту спецыяльны торт, хачу асабіста яму падараваць! Бясплатна!» Яна яго пераконвае і так і гэтак, а ён паўтарае адно: «Не-е, не паеду адгэтуль, не выканаўшы свайго

намеру! Адзін такі торт я ўжо ўручыў сіньёру Кенэдзі, у мяне на вітрыне пра гэта напісана!..»

Потым сустракаю дырэктара Гродзенскага заапарка Шайкоўскага. Віншую з чацвёртым касманаўтам. Адказвае мне тым жа, але, разгублены, дадае:

— Разумееш, увальваюцца сёння да мяне ў парк твае турысты. Я ім паказваю, што магу, яны задаволеныя і ўдзячныя. А адзін усё шнырыць і шукае якіхнебудзь развалін, лужын. Я не вытрываў ды кажу: «Нядобра, пан, так рабіць, ой, нядобра!» А ён ухмыльнуўся ды ўсё сваё — шчоўк! шчоўк!..

Шайкоўскі гадоў дзевяць сядзеў пры ўрадзе Пілсудскага ў гродзенскай турме за рэвалюцыйную дзейнасць. Потым усю вайну не знімаў шынялясь, а ў дывізіі Тадэвуша Касцюшкі прайшоў ад Леніна да Берліна. Колькі яму прынесла хваляванняў новае будаўніцтва ў парку... І вось табе, яшчэ не было клопату!..

— Нічога, далёка не завёз ён сваёй плёнкі,— суцяшаю старога.

— Ах, гні-іда! — не можа яшчэ супакоіцца чалавек.

*13 жніўня*

Сёння сярод дзвюх соцень пасажыраў з Кузніцы прыехала 17 чылійцаў. Успаміны з дзяцінства, прачытаны Фенімор Купер разварадзілі якіясь стрункі мае душы. Заходжу ў вагон. Углядаюся ўважліва. Дарэмна спрабую знайсці рысы гордых і непакорлівых індзейцаў сярод гэтых людзей.

Перада мной — поўныя і хударлявыя, бялявыя і цёмнавалосыя, з доўгімі ці кароткімі насамі... Што ў іх агульнага? Ва ўсіх аднолькава запаленая на сонцы скура. Што ж, гэта інтэлігенцыя, выхадцы з маёмасных слаёў, з белых! Тубыльцы засталіся дзесьці там, за Кардыльерамі, у прэрыях і джунглях, на аслах і ламах...

— Нам у Сант'яга няправільна афармілі праязныя дакументы на вашу тэрыторыю! — вінавата тлумачыць мне па-англійску староста групы.

Астатнія гавораць толькі па-іспанску і заклапочана, напружана, нібы прыгавору, чакаюць, якое будзе маё рашэнне, што перакладзе ім староста. У іх выраз

твару не той, які я прывык бачыць у амерыканцаў, французаў, англічан... У іх няма і той бестурботнасці ў вачах, якой вызначаюцца турысты з сацыялістычных краін. У чылійцаў якаясьці бездапаможнасць, усведамленне нязначнасці сваёй дзяржавы, імкненне знайсці сабе заступніка.

— Усё будзе добра! — як дзяцей, падбадзёрваю я іх з нейкім дрыжаннем у голасе.— Даафармім тут, галадаць і пяшком хадзіць па савецкай тэрыторыі не будзеце! Калі ласка, запрашаем да нас у госці!

Стараста перакладае. Уздыхаюць з палёгкай. І тут раптам я ўспамінаю, пытаюся ў іх:

— А Дамэйку вы ведаеце?

У людзей насцярожаныя вочы. І без перакладчыка разумею, што яны гавораць:

— Нашага Дамекос?.. Домейкосо?!

— Дык ён жа наш, з-пад Гродна! — тлумачу.— З-пад Навагрудка выехаў калісьці ў Амерыку, цяпер вы ў яго на радзіме!..

Чылійцы адразу смялеюць і пачынаюць пільна разглядаць усё навокал, нібы стараючыся ў адзін міг усё зразумець і запомніць. На здзіўленых тварах напісана: дык во-ось тая краі-іна, СССР!.. Адгэтуль славуты Дамейкус, чый помнік стаіць у іх Сант'яга!..

Ой, як трэба быць цяпер уважлівым на вуліцах! Калі ты шафёр, ты ездзіш не проста па вуліцах Гродна, а — бытта сярод дамоў Буэнас-Айрэса, Марсэля або па прэрыях Аргенціны, таму што на цябе ў гэты момант, магчыма, пазірае некалькі пар вачэй з іншага свету; ты для іх не проста вадзіцель, а — брат Гагарына, Паповіча... А ты не проста прахожы; калі бачыш іншаземца, то будзь гаспадаром, сябрам, пагранічнікам, дыпламатам! Гродзенскі кіраўнік, спытай сябе шчыра: ці ўсё ты зрабіў, каб вароты ў СССР былі такімі, як належыць тваёй вялікай краіне?

*1963 г.*

# ПЕРАМОЖЦА

## 1

Праз нямецкі горад на станцыю крочыў малады салдат. На ім былі шынель з эмблемай артылерыста, рэчавы мяшок ды новыя кірзачы. З-за густых ліп выглядала сонца, па вуліцы сяды-тады шмыгалі вайсковыя машыны ды рэдка паказваліся прахожыя. Батарэйца толькі што дэмабілізавалі, выпісаўшы з палявога шпіталя. Ён стаў вольным казаком і даўно не адчуваў сябе так добра. Малады салдат ужо быў упэўнены, што і бацькоў застане дома жывымі-здаровымі. А мо і брат з'явіўся з няволі, тады ў іх будзе ўсё, як да вайны. Эх, каб не гэтае калецтва!..

Ён быў яшчэ слабы. Пасля паўгадзіны хады адзенне, неабношаны абутак ды кілаграмаў з пятнаццаць ладунку даканалі яго зусім. У шпіталі яму заўсёды было холадна, таму надзеў і шынель,— цяпер гэты шынель аказаўся лішні: на двары ўсё ж такі стаяў жнівень.

Салдат звярнуў у скверык, распрануўся ды прысеў на лаўцы пад грыбком. Па жвіровай дарожцы за ім пахаджвала прыемная з выгляду немачка з дзяўчынкай. Пасля бальнічнага ложка батарэец і секунды не мог вытрываць, калі ў яго знаходзіўся хто за спіной — ён зараз жа паварочваўся плячыма да сцяны ці плота або закладваў руку за спіну, прыкрываў месца, дзе пад гімнасцёркай ля лапаткі быў правал.

Цэлулоідны падкаўнерык змакрэў і ліпнуў да шыі; салдат расшпіліў аплічкі пад барадой, гузікі гімнасцёркі і паганяў за пазухай каўняром паветра. За чатыры месяцы лячэння ён зусім адвык ад ботаў. Салдату надта карцела зняць яшчэ кірзачы і даць адпачынак нагам, аднак з-за немкі рабіць гэтага не стаў.

«Перакусіць, ці што?» — падумаў салдат, развязваючы рэчавы мяшок, дзе на пакункі ў яго накладзены быў сухі паёк на пяць сутак: кансервы, хлеб ды загорнутае ў марлечку сала.

Адрэзаўшы кавалак хлеба і крылец старога сала, салдат пачаў жаваць, незычліва азіраючы клумбы з чырвонымі кветкамі ды такую чысціню на дарожках, што не знайсці было там і смяцінкі. Нагадаліся яму

беларускія хаты, ад якіх засталіся адно абсмаленыя каміны і дрэвы з абгарэлым лісцем; батарэйцу пад горла падступіў камяк, расхацелася есці. Калі ў партызаны пайшлі і бацькі, яго хату немцы чамусьці не спалілі. Але ж можна сабе ўявіць, што засталося ад сялібы, пакінутай гаспадарамі. Знайдзі тут вінаватага цяпер...

Да ног яго падкаціўся стракаты мячык, і батарэец павярнуў галаву. Зводдаль застыла перапалоханая дзяўчынка з банцікам, не ведаючы, што рабіць. Ён падняў мячык, кінуў малой, сказаўшы па-нямецку:

— Лаві!

— Данкэ, пан салдат! — азвалася з лаўкі яе маці. У голасе жанчыны прагучала ўдзячнасць незнаёмаму за ўвагу да дачкі.— Грэта, падзякуй і ты пану рускаму!

Малая зрабіла кніксен.

Апанаваны сваімі думкамі, батарэец праз сілу ўсміхнуўся дзяўчынцы.

Тым часам немка не супакойвалася.

— О-оў, якая цудоўная пачынаецца восень, пан салдат, ці не праўда? — зашчабятала яна, заклікаючы да размовы.— Сонца і сонца, кожны дзень сонца, як на заказ, wunderbar!

Батарэец паходзіў з мясцовасці, дзе многія людзі добра гаварылі па-нямецку, умеў гэта і дэмабілізаваны салдат; заклік незнаёмай ён вымушаны быў прыняць.

З дзесяціметровай адлегласці немачка паспяшыла расказаць пра сябе. Робячы няшчасны выраз на пульхненькім тварыку з ямачкамі на шчоках, страляючы вільготнымі вачыма, на французскі манер картавячы «р», меладычным голасам яна паскардзілася яму на лёс. Муж яе служыў у афрыканскім корпусе Ромеля, але яшчэ ў 1942 трапіў да англічан у палон. Праз Чырвоны Крыж яна мала атрымлівала ад яго вестак — падумаць толькі, усяго па дзве паштоўкі ў месяц; цяпер пра яго і ўвогуле нічога не ведае. Работы па спецыяльнасці камендант ёй не дае, а тут яшчэ і малая на ўтрыманні. Што ёй рабіць, уяўлення не мае. Можна было б пайсці ў швачкі, ды яна ж — картограф, хіба для гэтага вучылася пяць гадоў у «гохшуле»?!

Жанчына ўсё гэта расказала міла, а далікатная

скура на яе пульхненькім тварыку тонка паружавела. Батарэец з распешчанай немачкай раней не стаў бы нават і гаварыць, але, як і ўсе цяжка параненыя, пасля шпіталя ён узмужнеў, стаў мудрэйшы, больш разважлівы, яшчэ нават падараваў ёй банку тушонкі, мяркуючы ў гэты час сваё.

Як толькі батарэя ўвайшла ў Германію, іх артылерысты як адзін сказалі сабе: ну, гітлераўцы ў нас гвалцілі, рабавалі ды палілі, затое мы не такія! Калі хто-небудзь дазваляў сабе выхадку, навальваліся на таго ўсёй кампаніяй. Дэмабілізаваны захацеў пачуць пахвалу сябрам, і таму спытаўся пра гэта ў немкі.

— Пра што пан салдат гаворыць?! — здзівілася маладзічка.— Гэта нашы мужчыны не мелі права крыўдзіць рускіх жанчын — немцы кожнага паўгода з фронту дамоў на пабыўку ездзілі! Вас жа ўсю вайну не адпускалі, і калі дзе што і здарылася, то гэта ж натуральна — мужчына інакш не можа!

Салдату расхацелася больш гаварыць з немкай.

— Пан рускі, у тым доме зноў жыве нацы! * — звярнуўся да яго раптам нейкі падлетак у шортах.— Уцякаў з усімі да Рэйна, аднак, шэльма, вярнуўся!

— Мэклембург?! — з перабольшаным абурэннем спыталася жанчына.

— Так точна! — павярнуўся да яе падлетак і паказаў батарэйцу валасатыя лынды.

Толькі цяпер салдат убачыў: перад ім сталы мужчына, а маладзіць яго так вопратка.

— Разбірайцеся тут самі! — махнуў ён рукой.— Або заяві пра гэта каменданту!

— Так точна, пан салдат!

Адчуўшы незычлівасць салдата, мужчына ў скураных шортах, бы скаўт, лёгка пакрочыў далей. Немка прымусіла малую зрабіць яму кніксен і панесла дамоў падараваную ёй банку кансерваў.

## 2

Батарэец сабраўся хаваць сняданак. Побач на лаўцы ўжо размясціліся двое старых: таўсцяк у ялавых ботах, зашмальцаваным капелюшы і грубай куртцы —

* Так некаторыя немцы называлі гітлераўцаў.

тыповы баўэр, а другі — невялічкі, шчупленькі паўінтэлігент. Раззлаваны немкай і «скаўтам», батарэец скрывіўся ад сала: ехаць яму недалёка, цяпер не зіма, на д'ябла яно яму здалося?! І тут салдат злавіў прагны позірк старога ды ўспомніў, як вясной вось такія, пад свіст куль, абступалі ў кювеце артылерыйскага каня з застылай ружовай пенай на зубах, адразалі кавалкі мяса ды клалі сабе ў торбы. Што зробіш, і ў іх быў тут не мёд, згаладаліся.

— Будзеш есці, фатэр? — злуючы на сваю дабрату, спытаўся батарэец па-руску.

— О-о, я-а!

— Вазьмі!

Баўэр жвава падскочыў, узяў пачастунак. Заадно ён захапіў і лусту хлеба, тады вярнуўся на месца. Таўсцяк і не падумаў дзяліцца з суседам, толькі паківаў галавой і прабурчаў:

— Та-кі-мі ка-вал-ка-мі рас-кі-ідацца, майн го-от!.. Нездарма ў сваёй Расіі яны там без портак ходзяць!

Насцярожаны ўжо, салдат хаваў у мяшок ежу, прастаў лямкі ды крадком сачыў за суседзямі. Тоўсты ўсё аплятаў пачастунак, трымаючы яго аберуч, а шчуплы сарамліва адводзіў вочы.

— Дык вы з Баварыі? — спытаўся праз хвіліну шчуплы.— Усе пруцца на Захад, а вы — на Усход?!

— У час вайны працаваў у мяне паляк Франак,— выцер баўэр далонню вусны ды змахнуў крошкі.— Ча самі падонак выводзіў мяне з цярпення. Польскую свінню я тады хапаў за горла ды біў патыліцай аб сценку. Гэты няўдзячны сабака потым паскардзіўся амерыканцам. Але я памаліўся дзеве Марыі, і яна мяне абараніла — удалося ўцячы. Заскочыў дамоў, хапіў за руку старую і — сюды!

— О-о, гэтыя паршывыя сабакі цяпер распаразаліся! — згадзіўся шчуплы.

— Бо залагодна мы, немцы, з імі абыходзіліся, задобра было ім!..

— О-оў, шчырая праўда!..— заварушыўся на лаўцы ўсхваляваны шчуплы.— Лагоднасць нас і згубіла, я сваім гаварыў не раз!..

— Цяпер позна каяцца! — тоўсты сумным позіркам абвёў наваколле.— Думаю дзе-небудзь гаспадарку пашукаць...

— Кінутых хутароў цяпер хапае, уладкавацца можна! А покуль што згаворымся. Пажывяце ў мяне, бо камендант іхні ўсё роўна каго-небудзь упіхне. Вы каталік? Не забудзьцеся падзякаваць дзеве Марыі.

— Сам ведаю: нельга царыцу нябесную толькі прасіць, трэба ўмець і аддзячыць. Адно ўладкуюся і пешшу схаджу да святой Гертруды ў Бельфаст!

«Божа, гэтыя пачвары так нічому і не навучыліся?!» — жахнуўся батарэец. Эх, з якім здавальненнем ён развярнуў бы сваю «палкавушку» ды ва ўпор смальнуў бы па гэтых гадах асколачным; ён ужо нават адчуў тугую сілу аддачы ад пасланага снарада. Салдат ад хвалявання пачаў задыхацца — давала пра сябе знаць пакалечанае лёгкае. Але намаганнем волі ён стрымаў сябе.

«Чаго тут дзівіцца?— падумаў толькі.— Мільёны гітлераўскіх галаварэзаў нарадзіліся не на пустым месцы — вось і таткі іхнія!.. Бедныя каменданты і тыя хлопцы, што з імі застаюцца, ото ж будуць мець тут работы!..»

Ён закінуў на плечы мяшок, на руку ўзяў шынель ды паплёўся зноў, адчуваючы ў душы дакладна такі настрой, як у час наступлення ў Памераніі, калі першы раз параніла і ён вымушаны быў пакінуць агнявыя — было і ніякавата, што ў разгар бою адпраўляецца ў тыл, і была ўпэўненасць — нічога, ёсць тут каму справу давесці да канца.

## 3

Гэта была не станцыя, а вялікае вяселле. Паралельна адзін да аднаго стаяла мо з дзесяць эшалонаў з дэмабілізаванымі. У адным поездзе ехалі сібіракі, у іншым — вайсковыя з Курска, а там — у Волагду... Усе вагоны расквечаныя зелянінай, у расчыненых праёмах тоўпіліся загарэлыя, паголеныя, гладкія ды ашалелыя ад радасці салдаты і выстуквалі нагамі. У паветры стаялі густыя пераборы гармонікаў, трафейных акардэонаў; грымелі бубны, пілікалі скрыпкі, а духавы аркестр, якога не было відаць, плаўна выводзіў «Амурскія хвалі»...

— Чужых не бяро-ом! — выхіліўся з дзвярэй, дыхнуў на батарэйца хмелем вусаты і вясёлы старшына

з цэлым іканастасам ордэнаў ды медалёў на грудзіне.— Шукай, браток, сваіх!

З вагона старшыну пачуў афіцэр. Перакрываючы музыку і гвалт, ён зацікавіўся:

— Ты з кім там, Рысакоў?

Батарэец ведаў, што дэмабілізаваным загадана не браць нікога староннягa. Напэўна, ён упрасіў бы ветэранаў — хіба ж не падабралі б свайго, са шпіталя?! Але раніцой салдат дэмабілізаваў сябе і ў душы, а голас афіцэра вярнуў яго ў атмасферу падпарадкавання: у вагоне трэба было зноў дняваліць, на ўсіх гатаваць ежу, мыць посуд, дакладваць, адпрошвацца — «цягнуць лямку».

«У Германіі не пакінуць, хто-небудзь падбярэ!» — супакоіў ён сам сябе ды шпарчэй пакрочыў далей.

Калі з вялікай небяспекі чалавек выходзіць цэлы, ён адчувае сябе двойчы жывым: кожная частка цела, кожны рух, усё ў ім жыве, усім ён здзіўлены, не можа нічым нацешыцца.

Салдату прыемна было нават адчуваць пад нагамі дрэва шпалаў, крупінкі жвіру, перасякаць рэйкі, дзе ўздумаеш, лезці пад вагоны...

Салдат, былы партызан, прыглядаўся ўважліва да стрэлак, колаў паравоза і раз-пораз заміраў — вось! У партызанах ён узарваў усяго тры паязды ды дзве стрэлкі, але гэта патрабавала такога напружання псіхікі, што ў яго засеў трывалы рэфлекс: каля рэек пачынаў меркаваць, куды б засунуў міну і колькі б у яе запакаваў толу, каб «добра рванула». Ён ужо думаў, што звар'яцеў, ды ў батарэю трапілі іншыя партызаны, і ўсе яны прызнаваліся, што і ў іх такое адчуванне.

Праз хвіліну батарэец валокся ўздоўж эшалона з палоннымі. Немцаў таксама везлі на Усход, але там іх чакала работка.

«Кожнаму паводле заслуг!» — разважаў батарэец і наткнуўся на нямецкага фельдфебеля ды нашага сержанта. Дэмабілізаваны за каўбасу выменьваў коўдру. Ён даваў адзін вянок, а фельдфебель за новую ваўняную рэч хацеў два. Батарэец памог ім дамовіцца, пастаяў з немцам, покуль сержант бегаў па каўбасу. Здаралася, што ў гарачцы бою ён браў немцаў у палон, вадзіў на зборныя пункты, але першы раз тварам у твар сутыкнуўся з палонным пасля вайны.

На цёмна-русым трыццацігадовым мужчыне з банцікам рыжаватых вусікаў пад носам мундзір [redacted] усімі адзнакамі быў ахайны, бытта немец толькі што выйшаў з казармы на пабыўку. Ён трымаў сябе незалежна, стараўся не сустракацца [redacted] батарэйцам вачыма і, што было ў яго на душы,— нічым сябе не выдаваў. Нічога не дабіўся салдат і пытаннямі: немец адказваў — так альбо — не. Батарэец не курыў, але вёз падарунак бацьку. Каб падбіць немца на размову, выняў з кішэні партсігар з папяросамі:

— Калі ласка!

— Што?! — немец нібы прачнуўся.— Дзякуй, не куру! — адказаў ён так жа коратка і зноў перанёсся душой кудысьці далёка.

Больш батарэец не прыставаў.

Вярнуўся салдат з каўбасою, адбыўся абмен. Сержант батарэйца пахваліў:

— Але ты здорава лапочаш па-іхняму, як фрыц!.. Малайчына, што патрымаў мне яго, а то ўраз перахапілі б! Маім старым будзе падарунак!— памацаў ён пакунак з любасцю.— На Арлоўшчыне ў нас не хутка купіш такое!.. Таксама дамоў? Айда разам! — браўся новы сябар ужо за парэнчу, каб лезці ў вагон.— Зараз адпраўляемся!

— Я лепш на свежым паветры! — салдат палез на тармазную пляцоўку.

## 4

Яшчэ ўзрушаны размовай з сяржантам, салдат адхіліў палічку на тугой спружыне пад ручкай тормаза і сеў. Перад вачыма ў яго ўсё стаяў немец.

«З'еў локшыну і яшчэ фанабэрыцца!»

Паўтары гады таму назад пад Ваўкавыскам ён, тады партызан, сядзеў у сакрэце ды назіраў за пераездам. На пераездзе пахаджваў франтаваты вартавы. Аднекуль вынырнуў на санях з цэглай дзядзька ў рыжым кажусе. Немец прыўзняў салому з цэглы, зазірнуў пад сані, ці не прывязана там што, і ўжо прапусціў чалавека, ды раптам спахапіўся. Ён загадаў селяніну здымаць кажух, а сам пачаў вымаць штых. Ні жывы ні мёртвы чалавек зняў кажух. Шырокім штыхом салдат адрэзаў у ім рукавы, кінуў іх чалавеку. Тады апрануў

кажух сабе на шынель, зноў падперазаўся ды гыркнуў:

«Анцыген унд вэг, ферфлюхтэ гунд!» *

Збялелы чалавек нацягнуў рукавы і, ненатуральна ўсміхаючыся, задам падаўся да каня, не адводзячы загіпнатызаваных вачэй ад аўтамата...

Успомніўшы цяпер тую сцэнку, салдат з гонарам за сваіх хлопцаў падумаў:

«Плаціў бы гэтак фельдфебель нашаму палоннаму за коўдру, а як жа!.. А бачыш, і сержант які сур'ёзны — ужо цяпер думае, з чым прыедзе да сваіх на Арлоўшчыну!..»

І салдат нахіліўся над рэчавым мяшком, развязаў яго зноў. Пад сухім пайком ляжалі на самым дне ў скураных пераплётах тамы Шылера і Гётэ з залатым цісненнем гатычных літар. Батарэец зусім не быў аматарам паэзіі, кніжкі захапіў з пашаны да аўтараў, а яшчэ таму, што былі прыгожа выдадзены, ды і дасталіся яму дарма. На кніжках ляжаў наркомаўскі падарунак дэмабілізаванага: шэсць метраў палатніны — маці на сукенку, па два кілаграмы цукру і белай мукі ды пачак грошай на абсталяванне (яго гадавы аклад, плюс — палявыя!). Навёўшы ў мяшку парадак, ён завязаў яго зноў ды адчуў, што таксама мае з чым ісці да бацькоў — яшчэ ніколі не быў такі багаты.

Поезд ужо ішоў, і салдат з сумам пазіраў на чужыя прысады, вастраверхія дахі з чарапіцай маркоўнага колеру. Былымі мазалямі, тым потам, які затраціў, капаючы па Германіі агнявыя для гарматы, насыпаючы брустверы, поўзаючы на жываце з ровіка ў ровік, ды тымі магіламі ад Кюстрына да Берліна, дзе яшчэ ў свежанькіх гімнасцёрках ды галіфэ ляжалі яго сябры-батарэйцы,— ён быў так прывязаны да гэтай чужой зямлі, што раптам расхацелася ад'язджаць.

Тым часам поезд вынес яго ўжо на поле сярод хутароў. Усюды мірна і спакойна. Пасвіліся пярэстыя каровы. Ганяліся на веласіпедах падлеткі. Час ад часу мільгалі машыны. Эшалон набіраў хуткасць, пачало прадзімаць, і салдат, спахапіўшыся, накінуў на сябе шынель, затым падсунуў пад яго руку і пацёр параненае месца, каб не застыла.

---

* Апрані і — прэч, паршывы сабака! *(ням.)*

«Будзеш цяпер мець цацку!..» — пакпіў ён, не могучы сабе дараваць, што так недарэчы падставіў тады бок пад асколак.

## 5

У той дзень ён, наводчык, быў і за камандзіра гарматы. Рыхтаваліся да штурму, чакалі падвозу снарадаў. Грунт трапіўся цвёрды, яго не брала ні кірка, ні рыдлёўка, і салдаты ляжалі амаль на відавоку ў немцаў. Плошчу перасякаў супрацьтанкавы роў — самае лепшае сховішча ад куль. Наводчык клікнуў нумароў, і яны ўсе разам адным махам апынуліся ў рове. На дне доўгай яміны перад атакай драмалі пехацінцы. Шчаслівы, што ўдалося нарэшце выскачыць з-пад абстрэлу, батарэец кулём скаціўся за хлопцамі і апынуўся супроць камандзіра батарэі, капітана Кучэрына.

— Самі пахаваліся, а там нямецкія хлапчукі гарматы пакрадуць! — з'едліва сказаў камбат, пачакаўшы, покуль яго артылерысты аддыхаюцца.

— Якая карысць з іх, Іван Пятровіч, усё роўна няма чым страляць! — уставіў асцярожна наводчык, мяркуючы — гаворыць камандзір проста для парадку ці гоніць разлік назад?

— Ваша шчасце, што снарадаў няма...

І тут батарэец пачуў над сабой міну. Выдарылася б гэта ў адкрытым полі, ён пачуў бы яе здалёк, паспеў бы ўпасці. Цяпер жа яго калені ў бездапаможным адчаі пачалі толькі падгінацца, галава павярнулася да чаканага месца сутыкнення з зямлёй, як страшэнны выбух кінуў салдата носам на адхон. Пачуліся енкі, ад удару пасачак пад барадой лопнуў, каска пакацілася ўніз.

«Што гэта?! — са здзіўленнем разглядаў салдат пясчынкі жвіру перад носам ды без панікі разважыў: — Ага, настаў і мой час, я — забіты!.. Але ж чаму выразна так усё бачу?! Ага, пяхотная міна разнесла ніз, галава цэлая, мозг яшчэ дзейнічае, таму магу думаць і разважаць... Як лёгка стала дыхаць! Чаму?!»

Яму надта хацелася агледзецца, ды страшна было ўбачыць месіва — як міны разрывалі людзей, ён нагледзеўся. Салдата агарнуў нейкі жаль.

«Зараз дойдзе да галавы і наступіць смерць?!

Я ж — у яму схаваўся! — пачаў ён бытта апраўдвацца, бытта таргавацца з лёсам.— Я ж — наводчык, хутка штурм будзе, камандзір гарматы свежыя снарады абяцаў! Я ж з братам не бачыўся! Як бацькі там будуць адны?»

«Ха, здаецца, магу варушыць пальцамі нагі, мо толькі паранены?» — з-за баязлівай забабоннасці, каб не абразіць, не спужаць таго, што давала кволую надзею, ён стлуміў радасць ды асцярожна павярнуў галаву назад. Фуфайка на спіне была цэлая. Далей убачыў пашчапаны прыклад аўтамата, палявую сумку ды — абцасамі ўверх — добра знаёмыя боты.

«Цьфу, панікёр!» — аблаяў ён сябе, абапёрся локцямі аб зямлю, каб усхапіцца, і толькі цяпер адчуў рэзкі, нечалавечы боль: бытта яму ў плечы раптам уваткнулі ні то вялікую стрэмку, ні то распалены шворан.

«Ага, чапіла!.. Нічога, нічо-ога, мяне толькі параніла, не бяда-а! — паспрабаваў ён авалодаць болем.— Але ж чаму так лёгка дыхаць?! Паветра заходзіць праз плечы?! Лёгкае прабіта!» — уразіла здагадка, і ён кулаком заціснуў месца на плячах, адкуль разыходзіўся боль. Дыханне стала нармальным.

Ён асцярожна ўстаў і азірнуўся. Міна трапіла ў суцэльную масу людзей. Камбат пакрыкваў на салдат і клаў на плашч-палатку замковага з акрываўленым тварам ды падкурчанай нагой. Усюды варушыліся салдаты, енчылі, перавязвалі адзін аднаго, моўчкі падступаліся да забітых — да наводчыка нікому не было справы. Толькі ён і не крыўдаваў, ім авалодала дзіўная апатыя.

— Кучынскі, хапай за рог, нясіце Дашкіна ў санроту! — дайшоў да наводчыка голас Кучэрына.

«Чаго ён прыстае, і мяне ж чапіла!.. Ат, так і так, трэба ў санроту на перавязку!» — разважыў наводчык і, не адымаючы кулака ад раны, узяўся за плашч-палатку ды з трыма байцамі павалок на адхон замковага.

Наверсе ад брусчаткі рыкашэцілі кулі. Ледзь не кранаючыся насамі зямлі, салдаты паперлі па адкрытым месцы ношу ды ўпалі за мураванку. Батарэец толькі тут адчуў — у яго боце поўна крыві: аўтаматная куля прастрэліла яшчэ і лытку. Болю не было,

заўважыў ён гэта абыякава, бытта праз сон, нібы параніла каго другога.

— Славяне, санрота — у падвале! — абвясціў ім нехта.

Апынуліся яны ў памяшканні, поўным насілак з параненымі. Праціснуліся з ношай па вузкім праходзе і апусцілі Дашкіна на цэментавую падлогу. Маладзенькая і шустрая медсястра правяла тампончыкам з перакіссю вадарода па драпінах на твары, разрэзала нагавіцы, пакратала на голені сіняк — больш у замковага нічога не было. Раззлаваная дзяўчына кірзачом праперла Дашкіна з палаткі, і тут яе спрактыкаванае вока заўважыла збялелага батарэйца. Малая кінулася да яго, бо чамусьці менавіта цяпер ён пачаў валіцца на цэмент. Апошняе, што ён пачуў, быў сярдзіты голас санітаркі:

— Нясіце жыва мне гэтага туды, дзе цяжкія!..

З таго моманту тыдні на два ён нібы праваліўся ў нейкую яму. Як праз сон, заўважаў бледныя твары ў белых халатах і заклапочаныя, уважлівыя вочы. Яго перадавалі з рук у рукі, бы нейкую эстафету,— раздзявалі, адзявалі, некуды валаклі, перавозілі, мылі, перакладалі з бока на бок, прыўзнімалі ды апускалі. Часамі яму надта балела — калі пілавалі рэбры; ён добра запамятаў, з якім бразгатам падалі ў таз косткі...

Паранены пачаў прыходзіць да памяці ад прыкрасці на агіднага ды надакучлівага тыпа, што хліпаў каля яго вуха, а батарэец усё яго супакойваў. Супакойваў чамусьці чужым голасам, гаварыў доўга, і так яму гэта было цяжка, што аж узмакрэў, а маладушны тып усё ныў. Не могучы даць яму рады, ён нарэшце ззлаваў. Поўны абурэння на мамінага сынка, ён раптам расплюшчыў вочы і азірнуўся.

Выяўляецца, што хліпаў ён сам. Батарэец ляжаў на бальнічным ложку з заплаканым тварам. Фактычна ляжаў не ён. Па нейкіх прыкметах батарэец адчуў, што ў яго цяпер вельмі тонкая шыя, ды ўбачыў свае тонкія, чамусьці без загару, пальцы. Батарэец быў нібы падменены — здзяцінелы, кволы і слабы. Захутаная ў бінты галава, што тырчала над ім, называла салдата па імені і супакойвала ўжо знаёмым голасам.

«Адкуль ён ведае, як мяне зваць?!» — падумаў батарэец, падаў голас, і чалавек узрадаваўся. Гэта быў

старшына самаходкі, ён чакаў самалёта, які забіраў «чарапнікоў». Абодва яны ляжалі ў шпіталі. І вайна ўжо скончылася. Батарэйцу раптам захацелася спаць: не даслухаўшы старшыну, ён адразу заснуў.

Спаў салдат доўга і прачнуўся ноччу. Праз зашклёныя дзверы ў белую палату прасвечвала святло. Стаялі чатыры ложкі. На дальніх двух дыхалі ў глыбокім сне параненыя, а на суседнім панавала мёртвая цішыня. Батарэец з прыемнасцю заўважыў, як сон уліў сілы ў яго патанчэлае і слабое цела. Хацелася з асалодай пацягнуцца ўсімі мускуламі, як бывала толькі ў дзяцінстве, калі хварэў запаленнем. Ён так і зрабіў бы, ды раптам заўважыў, што ляжыць на левым баку, а яго правы — бытта адзеравянелы і да нечага прывязаны. Ён узяўся за яго рукой — туды быў устаўлены гумовы шланг. Аднак гэта яго не спалохала — ім валодалі спакой і ўпэўненасць.

«А дзе ж старшына самаходкі?!» — спахапіўся батарэец ды азірнуўся яшчэ раз на суседні ложак.

На адлегласць выцягнутай рукі ад яго ляжаў нябожчык. З белага скафандра бінтоў выставаў толькі востры нос і кадык.

## 6

Поезд цягнуўся гадзін з шэсць, але час салдату здаўся імгненнем. У яго на душы панавала здавальненне, што канчалася важная старонка яго жыцця, ім было зроблена ўсё, што можна, толькі ён ведаў — яму будзе нялёгка. Выпісалі салдата толькі таму, што ён надта прыставаў да начальніка шпіталя з аргументам: пачынаецца навучальны год у інстытутах, ён хоча яго не страціць, лячыцца будзе дома. Але як будзе на самай справе?!

Адарвала яго ад думак Варшава — поезд далей не ішоў. Былы наводчык забраў свае рэчы і павалокся ў тое, што засталося ад польскай сталіцы. Седзячы на нейкім фундаменце над берагам Віслы, ён раптам успомніў, што ў сярэдзіне студзеня ўжо тут быў. Батарэя ішла тады ў трэцім эшалоне. Покуль коні па слізкім пад'ёме ўзвалаквалі ад пераправы гарматы, па вытаптанай у глыбокім снезе сцежачцы наўпрасткі ён пайшоў сюды ды прысеў на гэты самы мур, каб па-

правіць абмотку. Наш лётчык вось там трымаў за руку зарумзаную польку ды казаў:

«Паплач, Ганка, я цябе разумею! У мінулым годзе таксама вярнуўся я ў Мінск, а там — ні аднаго цэлага дома! Паплакаў, і палегчала адразу!..»

Праз хвіліну яны пайшлі ўздоўж Віслы, і батарэец яшчэ чуў, як лётчык даваў польцы настаўленне:

«Ступай толькі туды, дзе ўжо станавілася нага чалавека — след у след, бо ахне міна — і не будзе каму вяртацца да нашага «кукурузніка»!..»

Толькі цяпер батарэец разабраўся: фундамент гэты — усё, што засталося ад Каралеўскага замка, якім так ганарыліся да вайны палякі. На плошчы перад сабой ён убачыў рынак. Батарэйцу кінуўся ў вочы малады паляк-прыгажун, які расклаў тавар на брызенце і гандляваў гузікамі. Палякам батарэец нават сімпатызаваў. Быў з імі ў партызанах. Каля Шнайдэмюле яго батарэя ратавала польскі батальён ад разгрому, дзе наводчыка першы раз параніла. Палякі тады рухаліся па шашы, і на іх напала унтэр-афіцэрская школа, якая прабівалася з акружэння на поўнач. Батарэец запомніў маладых дзяўчат у «рагатыўках», якіх накасілі з аўтаматаў немцы: у амерыканскіх шынеліках і англійскіх чаравічках валяліся яны ўздоўж і папярок на мокрым асфальце нейкай аўтастрады. Успомніўшы ўсё тое, батарэец не змог доўга глядзець на прыгажуна з гузікамі і адправіўся на станцыю.

У машыніста ён даведаўся, які з таварнякоў неўзабаве адправіцца на Усход, і палез на дах бліжэйшага вагона. Там было ўжо жанчын з мяшкамі і рукзакамі, якія вярталіся з гандлю. Выбраўшы месца, дзе вальней, ён апусціўся на пакатую бляху. Дарогі хапала на цэлую ноч, можна было добра выспацца, і салдат пачаў меркаваць, як лепш уладкавацца, каб у сне не паляцець пад адхон.

Уздоўж вагона дах па цэнтры ўзвышаўся сантыметраў на трыццаць. Салдат падоўжыў лямкі, і не здымаючы мяшка з плячэй, закінуў яго на другі бок хрыбта, выцягнуў ногі ды паклаў на край мяшка галаву. Такім чынам прымацаваны на доўгіх лямках да плячэй, цяжкі мяшок зараз служыў у яго як бы падушкай-якарам: калі цяпер вагоны ляснуць буферамі, салдат не рызыкаваў паляцець уніз. Расшпіліўшы на сабе

гузікі, адпусціўшы папругу, батарэец параненым бокам улёгся так, каб не муляла і паравоз быў ззаду, бо інакш у вочы заносіла б з коміна вугельчыкі.

Гэтак грунтоўна ўладкаваўшыся, змардаваны за цэлы дзень салдат стаў чакаць, калі зморыць яго сон. Ён нагадаў сержанта з коўдрай і падумаў — як добра, што цябе ніхто ноччу не абудзіць на варту. Перад вачыма была густая цемра, а навокал чулася гутарка гандлярак. Галасы жанчын нагадалі шпіталь, і ён пачаў успамінаць пра яго.

## 7

Батарэец быў пэўны, што выжыў толькі дзякуючы медсёстрам. Металёвыя асколкі загналі ў лёгкае яшчэ і некалькі кавалачкаў дрэва з прыклада: ён лічыўся «грудніком» — трэцяй, самай цяжкай, групы: з адкрытым пнеўматораксам, з гумовым шлангам у баку, з прымацаваным да шланга посудам.

Пасля таго як у шпіталі ён прыйшоў да памяці, аслабелы яго арганізм распачаў марудную барацьбу за існаванне. «Груднікі» надта капрызныя, бо адзін выгляд дрэнажнай трубкі, па якой днём і ноччу сцякае ў бутэльку гной ды праходзіць у лёгкае паветра, давядзе ледзь не да вар'яцтва і самага здаровага чалавека, зробіць яго згрызлівым, бы схварэлае дзіця.

У шпіталі салдат высах да таго, што важыў трыццаць восем кілаграмаў. Ленінградка Нюра лёгка брала яго на рукі, выносіла ў садок ды клала пад вішні ў гамак. Бывалі дні, што не хапала ў яго сілы, каб узняць да рота руку, і сястра тады карміла яго з лыжачкі. Ленінградка пісала яму дамоў пісьмы, аднекуль прыносіла апельсіны, якія батарэец першы раз у жыцці бачыў, заглядвала ў раны:

«Ну, як мы зажываем? — з мацярынскай заклапочанасцю пыталася яна.— О-о, якія ружовыя рубчыкі!.. Ну-у, цяпер мы будзем мы-ыц-ца!..»

Халат у яе часамі быў прыадхілены; калі яна дакраналася да параненага незнарок грудзямі, месца тое ў яго потым гарэла. Нюра прылятала да салдата і са сваімі радасцямі ды бедамі. То знайшлася яе маці! То аб'явілася сястра! То прыйшла вестка, што бацька загінуў яшчэ ў сорак першым.

Што яна цяпер робіць? Далечвае астатніх. Абяцала пісаць на бацькаў адрас...

На гэты раз Нюра прыбегла да яго без халата ды спрытна падсунула пад яго гумовае кола ад пролежняў. Затым дзяўчына лягла побач, ад чаго панцырная сетка моцна ўвагнулася і Нюра ўся аж навалілася на яго. Ён адразу адчуў, як далікатная цяплынь памалу пачала ахінаць яго з галавы да ног. Шчаслівы, ён баяўся нават павярнуцца, каб не вылез дрэнажны шланг з раны, у той жа час яму было весела. Доўга яны гэтак ляжалі і нават дурэлі, а батарэец усё думаў — абняць яе ці не?..

А калі пакрыўдзіцца і ўцячэ?..

Раптам нешта стукнула, заляскаталі буферы, і ён прахапіўся.

Выяўляецца, батарэец ляжаў не ў шпіталі, а на вагоне. Ніякага дрэнажу не было. Ды і рана, куды ўстаўляўся шланг, зарасла ўжо даўно — два месяцы назад. Паварушыцца баяўся ён не з-за яе, а каб не зляцець з пакатага даху. Стаяла глыбокая перадасенняя ноч. З паравоза агністай грыўкай пралятаці над ім іскры. Паабапал пуці рухаліся назад даўзёрныя контуры будынкаў.

Цяпло яму ішло ад таго, што ён кагосьці трымаў у абдымках.

Салдат насцярожыўся.

Пад шынялём дыхала яму ў гімнасцёрку жанчына. Рука незнаёмай абдымала яго за спіну, а гарачыя ногі былі выцягнутыя ўздоўж яго ног. Батарэец выразна адчуў, што жанчына не спіць, нечага чакае і добра ведае, што не спіць ужо і ён. Памалу, не кажучы ні слова, ён стаў нібы нацягваць жанчыне на спіну край шыняля і сваю далонь перавёў непрыкметна ёй на плечы.

Жанчына не толькі яго не адштурхнула, а прытулілася яшчэ больш.

І батарэец, адчуваючы ў сабе раптоўны выбух дрыжыкаў, даў волю сваім рукам, адначасова не забываючы, што яму нельга прыўставаць, бо зверне ўвагу людзей на вагоне, злуючыся на якар-мяшок, што скоўваў яго рухі.

— Не рві-і, я сама-а! — нібы з таго свету, раптам пачуў ён ля вуха ўсхваляваныя словы маладзіцы.

Праз хвіліну батарэец ужо ляжаў без руху. Было такое ўражанне, бытта ён доўга цярпеў смагу, але вось дапаў да халоднай крыніцы і цяпер яе жыватворчая сіла разыходзілася па яго жылах у кожную клетачку спрагнёнага цела, даючы шчасце асалоды і моц. Па-ранейшаму трымаючы адну руку на плячы жанчыны, ён маўчаў, а маладзіца ляжала спакойна і таксама маўчала.

Эшалон набіраў хуткасць з гары, паравоз, чуваць было, ехаў на халастым ходзе, навокал перагаворваліся жанчыны.

— А нех яго! — пачуў ён раптам бясхітрасную скаргу маладзіцы: — Як прывыкнеш дома ўжо да гэтага, так і ў дарозе, калі прыйдзе той час, табе ўжо здаецца — аніяк не абыдзешса!..

Ёй было сорамна — яна так апраўдвалася. Яшчэ ён па гаворцы распазнаў у ёй тутэйшую маладзіцу з-пад Беластока — дакладна такую самую, якія яму не раз давалі ў партызанах есці, хавалі, мянялі бялізну ці вішчалі ды лямантавалі, каб ён з сябрамі хутчэй уцякаў, пашкадаваў яе дзяцей, бо унь, за ўзгоркам, пруцца на «равэрах» немцы. Трэба было з удзячнасцю падтрымаць яе хлусню ці хоць крыху прылашчыць, ды размовы весці ён не ўмеў, а хлусіць — тым больш не збіраўся.

Тым часам маладзіца разумела яго таксама і нічога не патрабавала. Раптам рука яе пад гімнасцёркай намацала правал пад лапаткай, і жанчына стрымала дыханне.

— Бе-едны! — пачуў ён праз хвіліну яе сардэчнае спачуванне.— Ну, паспі-і, паспі-і шчэ, табе мо-ожно, а мне — пара!..

Яна адхілілася, надта чула і старанна падаткнула пад яго шынель, прыкрыла твар каўняром, паправіла на сабе адзенне, села ды, прытворна пазяхаючы, пракрычала камусьці ў цемру:

— Броня, ужэ Фасты праехалі, трэ збірацца! Пасядзім на вакзале, покуль каменданцкі час пройдзе, як думаеш. Досыць вылежвацца, рыбачка, паднімай нашых бабаў!..

На даху раптоўна загрукатала, бытта на яго ўзвялі падкаваных коней; пачуўся скрыгат — цягнулі нейкія скрыні, мяшкі ды чамаданы.

## 8

Прыбылі яны на станцыю Беласток-Цэнтральны яшчэ зацемна. Гурба бабаў з мяшкамі і рукзакамі на спінах паваліла на вакзал. Як ён ні прыглядаўся, але ў натоўпе, асветленым цьмянай лямпай на слупе, спадарожніцы сваёй разгледзець не змог.

У бок Ваўкавыска, куды яму трэба было адпраўляцца, поезда покуль што не было. Ісці ў горад? Панаваў яшчэ каменданцкі час, і з патрулямі лепш было не звязвацца. Ля кубавой нейкія мужчыны палілі са старых шпалаў вогнішча, салдат падышоў да іх, прыслухаўся. Пажылыя і юнакі каратталі сабе час, успамінаючы выпадкі з вайны. Дзівакі, яшчэ мала ім?! Перасычаны ўсё тым жа адчуваннем здавальнення і бадзёрасці ва ўсім целе, салдат пакрочыў на вакзал. Яго як магнітам цягнула зірнуць на спадарожніцу пры святле.

Яе батарэец заўважыў здалёк. У заваленай мяшкамі ды чамаданамі пачакальні сядзела мноства жанчын — хто з іх драмаў, хто браўся за снеданне, хто застыў, згорблены, у тупым забыцці. Яна сядзела ў цэнтры на белым мяшку і некага выглядала, вочы яе аж гарэлі. Спаткаўшыся нарэшце з ім позіркам, шчасліва ўзрадаваная маладзіца заруменела яшчэ больш ды аблашчыла яго вачыма, поўнымі мацярынскай ласкі і спагады. Ён толькі на секунду затрымаў свой позірк на гэтым багацці прыемных адценняў ды адчуў, як душа яго поўніцца ўдзячнасцю да гэтага чалавека. У батарэйца нібы выраслі крылы: ён зрабіў энергічнае — кругом! — і пакрочыў назад.

Пачынала світаць. Ля вогнішча даўно не голены дзядзька з захапленнем казаў:

— А Саколе як ЯНЫ файно раскалашмацілі! Захапілі станцыю, варту звязалі, а поезд разнеслі мінай ушчэнт! Немцы перлі якраз на фронт зброю; яны падагналі сотні дзве фурманак, наладавалі аўтаматаў, кулямётаў, гранат. Спалілі станцыю і — у лес! Шчэ і запіску пакінулі з намаляванай фігай!..

Батарэец спахапіўся, што апавядаюць якраз пра яго партызанскія прыгоды. Толькі на самай справе ўсё было не так. Саколе не станцыя, а — паўстанак. Пад поездам пералажылі стрэлку, і эшалон усяго саскочыў

з рэек. Варты тады вязаць не трэба было, бо тры немчыкі з «вахі», пачуўшы партызан, уцяклі. Ніякай і зброі тады не здабылі — вагоны былі з параненымі. Паўстанак жа толькі падпалілі — у хлопцаў не хапіла бензіну. Не фігу, а цэлае пісьмо вывелі крэйдай на дошцы для немцаў...

«Ладна, няхай і так будзе! — пасмяяўся салдат у душы.— Але ж — ты глядзі, людзі ўжо стварылі легенду!»

Ён раптам адчуў сябе шчаслівым, яму зрабілася ўсё ясна і стала зразумела, як жыць. Не ўвязваючыся ў размову, напоўнены радаснай энергіяй, салдат закінуў рэчавы мяшок на плечы ды энергічна пайшоў яшчэ раз шукаць поезд. Разглядаючы ў бадзёрым бляску раніцы знаёмыя сілуэты будынкаў і вакзальных таполяў, батарэйцу ўжо здавалася, што адгэтуль на фронт ён і не ад'язджаў, а ва ўсім целе адчуваў такую мускульную радасць, што пра сваю рану забыўся зусім.

## АКУПАНТЫ

### 1

У Ізабеліне — ні то вёсцы, ні то маленькім мястэчку паміж Ваўкавыскам і Ружанамі,— у мясціне, названай так некалі магнатам у памяць дачкі Ізабелы,— немцы трымалі гарнізон. Ён мясціўся ў школе і налічваў усяго 20 салдат. Пры ім яшчэ былі на ўліку пару чалавек паліцаяў родам з бліжэйшых вёсак.

Паліцаі жылі ў прыватных кватэрах, а салдаты змяшчаліся ў класным пакоі. Іхнія двухпавярховыя нары, абвешаныя біклажкамі, ранцамі ды скаткамі, мог разгледзець і нават палічыць праз вокны кожны прахожы — немцы ў пачатку вайны былі бяспечныя, адчувалі сябе як дома, пра партызан у гэтых мясцінах тады яшчэ ніхто і не чуў.

Другія класы яны абсталявалі пад склады з радыёпрыёмнікамі ды паляўнічымі стрэльбамі, што знялі людзі па загаду, пад стаянку веласіпедаў, арыштантскую ды жыллё для амтскамісара — лейтэнанта Вернера.

Былую настаўніцкую акупанты абсталявалі сабе пад клуб. Дырэктарскую амтскамісар зрабіў сваім кабінетам.

Мінулай ноччу Вернер вадзіў гарнізон у засаду на савецкіх парашутыстаў. Цяпер яго салдаты, выставіўшы перад камендатурай на пост паліцая, адсыпаліся, а ён сам, адпачыўшы толькі пару гадзін, у кабінеце пісаў даклад начальніку Ваўкавыскага крайскамісарыята — капітану Шумму.

Амтскамісар — сын сярэдняга баўэра з Заходняй Прусіі — прыбыў у Ізабелін на адпачынак пасля баёў за Кіеў.

Гэты высокі трыццаціпяцігадовы мужчына належаў да тых афіцэраў вермахта, якія з педантызмам адносіліся да свайго вонкавага выгляду і да абавязкаў, бо ў гэтым бачылі галоўны закон нямецкай ваеннай традыцыі.

Добра падагнаны і заўсёды свежы мундзір «фэльдграў» каменданта гарнізона ўпрыгожвала чырвонабела-чорная істужка жалезнага крыжа ў пятліцы. Шырокая тулія яго фуражкі выгіналася элегантнай седлавінай. Боты блішчалі. Твар афіцэра быў старанна паголены і свежы, а ён сам — падцягнуты, спружыністы і дзелавіты.

Гледзячы на амтскамісара за сталом, ніхто не сказаў бы, што гэты чалавек цэлую ноч правёў без сну.

Вернера аж распірала ад гонару за маштабы тых грандыёзных перамог, якія тварылі яго суайчыннікі ў даны момант у шырокіх стэпах Украіны, у камарыных Вялікалуцкіх балотах, у высушаных на пыл лясках Афрыкі і бязмежным прасторы Акіяніі. Душой ён быў там, са сваімі бясстрашнымі камрадамі, адчуваў іх намаганні і напружанне: іх поспехі напаўнялі яго ўзнёслым настроем і не давалі спакою. Адначасна ён быў перапоўнены гонарам ад сваёй місіі ў глухой вёсачцы.

«Дарагая Роза,— пісаў ён сваёй сяброўцы.— Ты сабе не можаш уявіць, якія вы там шчаслівыя, на Захадзе. Чалавек тут вымушаны сутыкацца з такімі людзьмі, ад прысутнасці якіх валасы становяцца дыбам. Ад усяго рускага, польскага і яўрэйскага нясе гноем. Толькі тут я канчаткова пераканаўся, што адно мы з'яўляемся панамі, а рэшта — сапраўды Untermenschen. Гэтыя дзікуны, якім невядома, што такое лазня,

і летам усе як адзін ходзяць босыя, валодаюць магутнай біялагічнай сілай размнажацца, выжываць у цяжкіх умовах і тояць патэнцыяльную небяспеку для Германіі.

Я б ахвотна згадзіўся быць на перадавой, але і тут трэба некаму несці крыж. Шкода, закончаць вайну без мяне!..

Сёння ноччу вартавалі парашутыстаў, расстралялі двух камісараў. Зараз падрыхтаваў рапарт шэфу, дзе прыкінуў, колькі народу трэба адгэтуль тэрмінова выселіць, дзе на пясчаным полі пасадзіць лес, закласці дрэнаж, дзе пазбіраць камені і пусціць пад ворыва.

Не, тут я не хачу браць надзелу — не спадабаецца тутэйшая зямля і табе. Наш Вульф з дывізіяй на Украіне, я чыркнуў яму, каб тэрмінова напісаў, якая там зямля, быдла, вазы, батракі... Усходняя кампанія да восені скончыцца, возьмем на Украіне надзел і паедзем з табой туды...»

Вернер быў тыповым афіцэрам вермахта пачатку вайны з Савецкім Саюзам. За нястомную дзейнасць і прыкладныя паводзіны за тыдзень у Ізабеліне салдаты паспелі пранікнуцца да яго павагай, крыху баяліся і слухалі без усякіх пярэчанняў. Заваёваны ж раён быў для амтскамісара res nullies (нічыя рэч), як цвердзіла сярэдневяковае права аб краінах варвараў ды паганаў, для якіх не існавала ніякіх ні законаў, ні этыкі, а толькі — воля пераможцы.

## 2

Калі ізабелінскія немцы на ўзгорку пад лесам чакалі з начнога неба міфічных «чырвоных камісараў», у Ізабеліне заставаліся на варце салдаты Гофман, Брумель ды обер-яфрэйтар Ліке.

Ноччу ўсе яны ўмудрыліся выспацца і цяпер, адпрасаваўшы свае мундзіры, сумавалі ў клубе. Яны перачыталі старыя газеты да аб'яў з чорнымі крыжыкамі аб «гэфаленэн фюр фюрэр унд фатэрлянд» (пра загінуўшых за правадыра і бацькаўшчыну). Разгадалі ўсе рэбусы і шарады. Перагаварылі анекдоты. І вось цяпер, пакурваючы цыгарэты «Юньён», балабанілі пра ўсё, што прыйдзе ў галаву.

— Калі ўставіць чалавеку ў вуха рулю і выстра-

ліць — вочы павыскакваюць з арбіт, як корак! — дзяліўся сваімі франтавымі назіраннямі Брумель і кончыкам пальца манерна збіў попел у банку з-пад кансервы, якая служыла папяльнічкай.

— Го, колькі мы гэтак адправілі на той свет партызан у Полацку, майн гот! Я з прыемнасцю браўся за такую работу!

Гофман слухаў абыякава, чаго нельга было сказаць пра яго таварыша.

Обер-яфрэйтар прыбыў на Гродзеншчыну з Даніі. У арміі ён ужо пяты год, паспеў скончыць школу малодшых камандзіраў і атрымаць нашыўкі, але сапраўдных смерцяў яму бачыць не давялося. Адчуваючы, як яго агортваюць нейкія дрыготкі жаху і адначасова цікавасці, обер слухаў салдата з затоенай зайздрасцю і павагай.

— Але больш за ўсё нам давялося перастраляць камуністаў у Смаленску. Адны заходзілі на чацвёрты паверх бальніцы і выкідвалі іх праз акно, а мы цалялі ў людзей на ляту. О была пацеха, доонэр-вэ-этэр!.. Тысячамі адпраўлялі гэтых насякомых на ўлонне Аўрама!.. Тыя, хто застаўся жывы, назаўтра абміналі нас. Пачуе каторы мярзотнік нашыя крокі, адразу сходзіць з тратуара і пакорліва здымае шапку. Толькі так з імі можна. А з яўрэямі што вытваралі!.. Там яны носяць зоркі на вопратцы — адну спераду, другую ззаду, бы ў нас палякі ў Генералгубернатарстве...

## 3

Калі тры салдаты так сабе балабанілі, з кабінета выйшаў Вернер. Кампанія не ведала, што іхні начальнік быў на рабоце. Усе трое разгублена ўскочылі і выцягнуліся на «смірна».

Лейтэнанта аж распірала прага дзеяння. Ён уважліва прыгледзеўся да падуладных.

Вернер зразумеў адразу, што салдаты бяздзейнічаюць, і ведаў, як гэта для іх шкодна. Ды чым іх заняць? Да вонкавага выгляду не прыдзярэшся. Учора вечарам праверыў з імі ўсе ранцы і рэчавыя мяшкі — лішняе выкінулі, астатняе перамылі, адрамантавалі і вычысцілі да бляску. На бліжэйшыя тыдні гарнізон быў забяспечаны боепрыпасамі, лекамі, паперай, харчамі ды

дровамі для кухні, а два хлявы завалены калючым дротам і бочкай з гаручым. Даклад ён збіраўся паслаць фельдпоштай.

Падумаўшы хвіліну, афіцэр кінуў старшаму па званню:

— Обер-яфрэйтар Ліке!

— Слухаю вас, пан камендант! — яшчэ больш выцягнуўся падначалены.

— Бярыце салдат, перакладчыка, праедзеце па амтскамісарыяце!

— Яволь!

Камісар улавіў у голасе обера нерашучасць і адразу адрэагаваў:

— Што яшчэ?

— Мэта нашай паездкі, пан камендант?

Гофман з жахам глянуў на сябра. Брумель усміхнуўся: дзівак, яшчэ і пытаецца. Камісар жа цярпліва паўзіраўся на обера, даў яму магчымасць авалодаць сабой.

— Без лішніх слоў!

— Яволь! — вінавата адказаў Ліке, хоць яшчэ ўсё, здаецца, не зусім разумеў, чаго ад яго патрабуюць.

— Выязджайце!

— Цу бэфэль!..— стукнуў ён абцасамі і загадаў салдатам: — Комэн!

На варце перад камендатурай у той час стаяў якраз паліцай Мікалай Буднік.

— Ніколяс! — выглянуў у адчыненае акно і закрычаў Вернер.— Збірайцеся ў дарогу, паедзеце з обер-яфрэйтарам Ліке перакладчыкам!

Амтскамісар мог гэтага Будніку і не гаварыць — Ліке і сам забраў бы паліцая. Але афіцэр выказваў хлопцу асаблівую ўвагу. У ім ён бачыў прадстаўніка народа, якога перамог. І па той жа прычыне, па якой заўзяты кат-прафесіянал знаходзіць патрэбу і асалоду пагаварыць са сваёй ахвярай і давесці ёй, што адсячэне галавы — бытта дабро для няшчаснага, так і Ліке ўсе тры дні, якія Мікалай знаходзіўся на службе ў амтскамісарыяце, не прапускаў ні хвіліны, каб не весці разумную гутарку з паліцаем аб сіле і пачэснай місіі нацыянал-сацыялізму.

Вернер маляваў Мікалаю жахі, якія нясуць чалавецтву разбэшчаныя французы, скнары яўрэі, плута-

кратыя на чале з Англіяй ды наследнікамі ўсходніх дэспатаў — бальшавікі-камісары.

Вернер з захапленнем расказваў аб адраджэнні краіны Зігфрыда, аб свяшчэннай місіі Германіі і крыжовым паходзе, які распачаў фюрэр у інтарэсах культуры і прагрэсу супроць дзікага Усходу і гнілога Заходу.

— Яволь, гэр шэф! — пачуў амтскамісар у адказ голас паліцая.

Вернер пачакаў ля акна, пакуль чатыры веласіпедысты выехалі на вуліцу. Тады, зірнуўшы на гадзіннік, лейтэнант паклікаў дзеншчыка і загадаў будзіць салдат.

## 4

У Біскупцах ля крайняй хаты маладзіца карміла грудное дзіця. Падзяліцца навінамі да яе падсела поўная старая з мехам зелля. Хоць і так іх ніхто не мог пачуць, суседкі трывожна азіраліся і гаварылі пра тое, каго немцы арыштавалі, дзе забралі карову, у каго проста з воза ўзялі кошык з маслам і сырамі. Гаварылі, што хутка вернецца памешчык і стане адбіраць землі, што тады на людзей прыйдзе пагібель.

З боку Ізабеліна на веласіпедах выскачылі тры салдаты з нейкім цывільным. Маладзіца прыціснула да грудзей дзіця і з жахам прашаптала:

— Ах, цё-отачку, далібог, я н ы!

Суседка таксама перапалохалася. Калі салдаты загамавалі ды пачалі злазіць з веласіпедаў, старая ўскочыла, закінула мех на плечы.

— Нінка, гэта твой певень?! — знарок закрычала яна.— Ах, ліха на яго, палез ужо агарод мне палоць, я яму зара!.. Кыш, каб на цябе паморак, халера ты! — замахала яна рукой і хутчэй пайшла прэч.

Ліке хацеў папрасіць у маладзіцы халоднага малака са склепа, але ён нават не згледзеў, калі маладая маці знікла следам за старой.

— Фэрфлюхтэ гундэ! — вылаяўся обер.

Яму ўспомнілася Данія. Аднойчы ён ехаў на машыне ў Капенгаген і дагнаў сям'ю. Бацька з маткай па асфальце вялі дваіх дзяцей. Усе чацвёра добра чулі за сабой машыну, але і не думалі сысці ■ дарогі. Ён па-

сігналіў раз, другі — яны нават не азірнуліся. У Ліке ўзнікла жаданне наехаць на іх. Але ад таго, што зрабіць гэтага не мог, што давялося аб'язджаць гэтую жывую перашкоду, обер-яфрэйтара аж закалаціла, і ён цэлы дзень быў не ў гуморы.

І ў паводзінах гэтых басаногіх жанчын обер-яфрэйтар адчуў такое ж непаважанне да сябе, варожасць і выклік. Захацелася крыкнуць, вярнуць нахабніц, толькі стрымлівала самалюбства — зводдаль глядзеў паліцай-перакладчык.

Злаваў яго і гэты пракляты беларус.

Обер быў надта незадаволены Буднікам. Перакладчык паводзіў сябе так, бытта рабіў вялікую ласку, што служыць у паліцыі.

Зрэшты, паліцай сваёй прысутнасцю раздражняў і астатніх. Бо немцы свае радасці і клопаты не жадалі паказваць перад абарыгенам, які, як назло, аказаўся адукаваным, разумным, дужым ды чамусьці станавіўся любімчыкам іх шэфа Вернера. Усё гэта прымушала як бы выцягвацца перад ім, паводзіць сябе са штучнай ветлівасцю, што вельмі іх злавала. З маўклівай згоды паміж сабой немцы за ўсю дарогу паслугай перакладчыка ні разу не карысталіся, хоць знешне і былі карэктныя.

Каб не паказаць перад салдатамі, што ён спыніўся з-за гэтых паршывых бабаў, Ліке прыставіў машыну да плота, выняў ключ ды пачаў рэгуляваць педаль. Салдаты расшпілілі мундзіры, пачалі абціраць пот. Перакладчык разглядаў пажарышча.

З падворка выбегла шчаня, павалілася на спіну, выставіла блыхасты жывоцік.

— Фі-у, фі-у, фі-у!..— пасвістаў Брумель, як свішчуць на сабак толькі немцы — з дзвюма адрывістымі нотамі — сі і ля дыез. Салдат хацеў палашчыць шчаня, але яно спалохана вільнула куртатым хвосцікам і ўцякло.

Ліке схаваў ключы, азірнуўся.

Быў спякотны летні дзень. Праз дрэвы прабіваліся промні гарачага жнівеньскага сонца. Спакойна лазілі па вуліцы парасяты, куры. Цьмяна блішчалі шыбы. Цераз платы прабівалася запыленая крапіва, цягнуліся ўверх мальвы, сланечнікі. Пахла разапрэлай саломай і гноем, Сярод абгарэлых пнёў ліпы тырчала на-

паўразбураная печ са слядамі сажы, за ёй нейкі дзед у белым, нібы істота з іншага свету, вязаў кошык і нават не павярнуў на немцаў галавы. Затое з-за веснічак, вуглоў і з-за калодзежаў насцярожана сачылі за кожным яго рухам перапалоханыя да смерці хлапчукі.

— Трэба зазірнуць да старасты! — прамовіў чырвоны як рак Гофман, якога заліваў пот.— Ведаю, дзе ён жыве, у яго і нап'ёмся!

— Давай! — згадзіўся обер.

Немцы пабрылі па вёсцы з веласіпедамі ў руках. Крануўся і Буднік.

Услед за імі, трымаючыся дыстанцыі, ішлі, паланёныя жудаснай цікавасцю і страхам, хлапчукі.

За знешняй карэктнасцю ў кожным позірку немцаў Буднік адчуваў да сябе недавер і пагарду. Ён яшчэ не верыў, што незвычайную службу суджана несці яму доўга. Ён увесь час парываўся ўскочыць на свой «дюркопф» ды пакаціць у свае Зелянкевічы. Але што зробіш? Трэба было прывыкаць да свайго новага і чужога для сябе абавязку.

Буднік аж надта бачыў, як раздражняе немцаў, як яны змаўкаюць пры ім або гавораць зусім не пра тое, што хацелі б. Ды бегчы наперадзе немцаў і выслужвацца, як гэта рабілі іншыя паліцаі, было не ў яго характары.

Між іншым, праз многа месяцаў, калі начальніку Ваўкавыскага крайскамісарыята капітану Шумму ён прынёс атрыманыя ад дэсантнай групы Марцірасяна дакументы на фольксдойча, самастойныя і незалежныя паводзіны ў мінулым сыгралі яму на руку: пацвердзілі, што ён сапраўды з расы выбраных. Але покуль што жыццё для яго было суцэльнай невыноснай пакутай.

Адным словам, Буднік, які яшчэ не знайшоў патрэбнага такту, не прыцёрся да немцаў, адчуваў нейкую няёмкасць нават перад біскупіцкімі хлапчукамі і паныла валокся, як палонны, за немцамі ды насцярожана чагосьці чакаў.

Уперадзе была лужа. Уздоўж плота па цянёчку, фарсіста закінуўшы хвост на спіну, трусіў сабака. Спаткаўшы людзей, ён спыніўся і падумаў: абыходзіць іх ці не? Тады трэба лезці ў ваду. Тузік пачухаў лапай пераноссе, чхнуў ды вярнуўся назад.

Не выпускаючы з рук веласіпеда, Брумель імгненна зняў з пляча карабін.

Аглушальна прагрымеў стрэл.

З кудахтаннем паляцелі ва ўсе бакі куры. Заскуголіў, у прадсмяротных сутаргах забіўся на пяску сабака. Хлапчукі з вуліцы сыпанулі ў падворак. Гофман і Брумель зарагаталі. Толькі твар обера быў непарушны.

Буднік, вядома, не мог не адчуць, як Ліке разгубіўся. Яму трэба было аблаяць салдата. Але Ліке ў паводзінах сябра ўбачыў франтаватую зухаватасць. Обер нават захапіўся яго спрытам: трымаючы карабін адной рукой, амаль не цэлячы, трапіць у рухомую мішэнь — трэба ўмець.

— До-онэр-вэ-этэр! — вылаяўся ён са здзіўленнем.

## 5

Старасты дома не аказалася. Яго жонка — яшчэ не старая і нават прыемная з выгляду — на кухні рыхтавала свіням корм.

— Яйкі?! Млеко?! — з парога спытаўся Брумель.

— Нэ-эй, паночку! — узмалілася жанчына.— Яйкі муж у горад павёз мяняць на соль!.. І кароў яшчэ не даіла, а кіслае выпілі нядаўна!

— Маслё?..

— І ма-асла — нікс!..

Пакуль яны таргаваліся, Ліке агледзеў памяшканне.

Дзверы былі адчынены ў вялікі пакой, і там ён убачыў дакладна такую ж абстаноўку, якую назіраў тут у кожным доме. Па сцяне між вокнамі — рамкі з фатаграфіямі. Обера непрыемна ўразілі сярэбраныя зігзагі на каўнерыках мардатых польскіх салдат і фарсістыя фуражкі з царскімі кукардамі. У кутку ззяў пасярэбранай паперай радочак ікон. Пад іконамі бялеў накрыты сурвэткай стол. Уздоўж сцен ішлі дзве лавы. Ложак з горкай высокіх падушак...

Успамінаючы малюнак са школьнай хрэстаматыі, ён не без пагарды заўважыў сабе:

«Як у нас было сто гадоў таму назад!.. Бачыш ты, нахабнікі,— і фатаграфіі сваіх вайсковых паразвешвалі, яшчэ не хапае толькі — партрэтаў камісараў!..»

Старасціха, не спаласнуўшы нават цеста з рук і прыкідваючыся надта напалоханай, пачала совацъ салдатам шчарбаты збанок з вішнямі. Паскардзілася, што на кухні многа мух. Ліке заўважыў, што хітрая ведзьма спецыяльна выстаўляе брудныя рукі і дэманструе сваіх мух, каб выклікаць агіду, пазбавіцца гасцей.

Обер абурыўся, але прамаўчаў.

Патаптаўшыся крыху ў старасты на кухні, пакаштаваўшы цёплай вады і з жоўтымі кропінкамі мушыных слядоў вішань, накіраваліся зноў на вуліцу.

Хутка, ні то раззалаваны старасціхай, ні то галодныя, ні то прагныя дапасці да добрай вады, апынуліся яны зноў у канцы вёскі. У суцэльным зялёным масіве дрэў воддаль ад дарогі патанаў хутар.

— О, там вулляў многа! — прамовіў Гофман.— Едзем туды, паспрабуем мёду!

— Эўрыка! Я аднойчы так быў пажывіўся! — успомніў Брумель.

— Давай! — дазволіў Ліке.

[illegible]

На хутары ў гэты час панаваў спакой і парадак.

Пад хлявом сохлі акуратна складзеныя кастрагі дроў.

Пад акапам Грыцук у белай кашулі выпілоўваў планкі для рамак у вуллі. Ля яго ног ляжаў вялізны кудлаты сабака і ляскаў зубамі на надакучлівых мух.

Сярод падворка ля бетоннага калодзежа ў лужыну пчолам была насыпана сечка, і над ёй калясіў цэлы рой. На шчыце свірна быў прымацаваны ветрачок. Пад акном вялікай хаты цвілі вяргіні. Дах з ацынкаванай бляхі блішчаў на сонцы, як з серабра.

У чатырохкутніку паміж домам, свірнам, хлявом і гумном увесь падворак парос сакавітым зялёным дываном з дробнай мазаікай трыпутніку і рамонку.

У агародзе за плотам цвіў мак, буялі буракі, памідоры, гуркі і тычковая фасоля. Грыцучыха з нявесткай наводзілі там парадак — прарэджвалі расаду, а вырванае зелле кідалі свіням. Тлустыя пародзістыя парасяты, не спяшаючыся, выбіраючы сабе самыя смачныя лісты, плямкалі ратамі. Побач паўтарагадовая

9 Зак. 561

Тася стукала каменьчыкамі, яе сястра ў баразёнцы «пякла» з пяску аладкі.

За вогненнай ракой маку пад грушамі і яблынямі стаялі радочкі жоўтых, сініх і зялёных вулляў.

Райскую ідылію першы парушыў сабака. Ён нешта пачуў ды насцярожыўся: няйначай, што чужыя.

Гыркаючы, сабака кінуўся да брамкі.

Гаспадар узняў галаву ад верстака, убачыў немцаў і высокага ізабелінскага паліцая. Нязваныя госці ўжо ставілі пад плот веласіпеды.

— Нанесла іх аднекуль зноў, халера! — прабурчаў Грыцук і неахвотна адклаў нажоўку.— Рэкс, да буды!

Мужчына з планкай у руцэ накіраваўся да брамкі. Злавіўшы сабаку за аброжак, ён, шкадуючы, ударыў яго пару разоў планкай па кудлах, прывалок да буды, пачаў прывязваць на ланцуг.

Не павітаўшыся, немцы ўваліліся на падворак і адразу накіраваліся да калодзежа, дзе на бетонным крузе грэлася на сонцы вядро вады. Гофман выняў хустачку, пачаў выцірацца, а Брумель прыставіў да калодзежа карабін і ўсунуў у вядро палец.

— Оу-оу-у, абер, вун-дэр-ба-ар! — закрычаў ён з захапленнем ды пачаў расшпільваць мундзір.

А обер і тут быў нездаволены. Яго сябры, калі вярталіся з такой паездкі па раёне, заўсёды прывозілі цэлыя сумкі масла, сыру, яек і самагонкі, а ён з салдатамі нават паесці нідзе не змог — давядзецца, вярнуўшыся ў Ізабелін, брацца зноў за агорклы гарохавы суп, гуляш ды пудзінг. Яшчэ гэты доўгі паліцай паводзіць сябе, бы граф Валенрод!..

На хутары яго ўсё раздражняла. Не падабаўся і сам гаспадар, які зумысна доўга вазіўся з сабакам. Загарэлы і спакойны твар гаспадара ды закасаныя па локці мускулістыя рукі проста прыводзілі обера ў шаленства. У той час калі ён, Ліке, з такой тонкай і багатай, яшчэ нікім не адкрытай душой вымушаны цярпець такія нягоды, гэты вось грубы суб'ект з закасанымі да лытак парткамі радуецца тут сабе жыццём, бы на курорце...

Злаваў обер і на Брумеля — ён многа сабе дазваляў. І яшчэ яму здавалася, што салдаты ў душы насміхаюцца з яго, бяздарнага камандзіра.

— Ком, ко-ом! — нейкім сухім і злым голасам паклікаў Брумель гаспадара ды паклаў мундзір на рамонак.

Мужчына, не спяшаючыся, падышоў і спыніўся перад гасцямі. На яго шырокі лоб звісалі спатнелыя пасмы. У валасінках на разапрэлай грудзіне засела пілавінне. Разумныя шэрыя вочы глядзелі незалежна, але насцярожана.

На немцаў, што спыніліся ля калодзежа, з трывогай сачылі дзве жанчыны: маці і жонка Грыцука.

Злавіўшы на сябе позірк немца, спалоханая маладзіца сцягнула жменяй паркалёвую сукенку з вялікім выразам, патупілася, але сачыла краем вока за няпрошанымі гасцямі. Яе свякруха, адчуўшы сэрцам бяду, сагнала злосць на парасятах. Яна лупцавала іх фартухом і крычала:

— Ксю-уля!.. Хале-ера на вас, ксю-уля!..

Гофман зазірнуў у калодзеж. На ланцугу ў цёмную халаднаватую адхлань была апушчана банка з малаком. Ён пакратаў ланцуг, прыўзняў банку.

Брумель узяўся за край акутага вядра, усадзіў у яго галаву па самыя вушы, пусціў бурбалкі. Тады страсянуў мокрыя валасы і зарагатаў. Выцерся, паказаў гаспадару на вуллі ды патрабавальна кінуў:

— Геніх!.. Эсэн!..

Мужчына адразу зразумеў, чаго ад яго хочуць,— такія сцэны на падворку разыгрываліся кожны дзень. Ён ужо гатоў быў частаваць мёдам і гэтых прышэльцаў, каб толькі адчапіліся: вынесці міску з сотамі на табурэтцы — жарыце, чорт вас бяры.

Але ён прыкінуўся, што не разумее, і цягнуў час для парадку.

— Што-о? — спытаўся.— Нікс фэрштэйн...

— Гэніх!.. О, ням, ням!.. Бж-ж-ж!..

Немец яшчэ не скончыў фразы, як другі салдат нязграбна павярнуўся і заблытаўся ў ланцуг, якім было прымацавана вядро да калаўрота. Вядро з ляскатам перавярнулася і абліло першага. Той адскочыў ды ўлез у лужу з сечкай, адкуль пчолы бралі ваду. Патрывожаная пчала з налёту ўджаліла немца ў патыліцу.

— О-оу, мэншэзкі-інд!.. О-оу, сакрамэ-энт, фэ-эрфлюхтэ! — зароў ён, пляснуў сябе па патыліцы і закруціўся як ашалелы.

9*

Гофман зарагатаў.

Засмяяўся і гаспадар.

Звар'яцелы ад болю і абразы Брумель падскочыў і смальнуў яму па твары.

Грыцук спачатку здзівіўся, а потым закіпеў ад злосці. Ён, не спяшаючы, як і прывык усё рабіць, левай рукой схапіў салдата за грудзі, а правай узняў над немцам планку. Новая вайсковая кашуля, якую ён згроб на грудзях у салдата, затрашчала адразу ў некалькіх месцах.

— Ай, То-олечка, ай, сыно-очак, што ты ро-обіш, апамятайся! — праз плот узмалілася маці.— З кім ты ду-ужаешся, што ты ўзду-умаў!

Грыцук апусціў руку. Ён толькі стаяў і цяжка дыхаў.

Тое, што здарылася, на нейкі час аж ашаламіла немцаў. Брумель ад здзіўлення ажно раскрыў рот.

Але хутка ім траім прыйшло ў галаву, што гэты тубылец дазволіў сабе нечуваны жэст — узняў руку на нямецкага салдата — і таму павінен быць пакараны.

— Гэнуг! — зларадна сказаў Гофман, бытта толькі такога выпадку і чакаў. Ён сунуў у кішэню мокрую хустачку, падышоў да Грыцука, вырваў у яго планку і аб'явіў: — Ду біст — комуніст!.. Ду біст — большэвік!..

Обер-яфрэйтар Ліке раптам адчуў, якія слаўныя ў яго хлопцы, і злосць яго адразу прайшла. Ён ужо згадзжаўся, што перад ім сапраўды небяспечны камуніст. Уся злость, якая накапілася ў ім за цэлы дзень, раптам знайшла сабе высце.

— Ком!— обер кіўнуў Грыцуку пальцам і паказаў на брамку.— Форвэртс!.. Лёс!.. — з кожным словам ён усё больш і больш сябе распальваў, пераходзіў на віск.— Абэр шнэлер, фэрфлюхтэ, лёс!..

— Гэй!— штурхануў прыкладам Грыцука Гофман.

— Ну і пайду, што ты мяне палохаеш, думаеш, надта збаяўся?!.— узбуджаны, не разумеючы яшчэ таго, што з ім збіраюцца рабіць, сказаў Грыцук з выклікам.

Ля сцяны стаяла рыдлёўка. Гофман даў яе Грыцуку ў рукі і загадаў:

— Мітнэймэн!

Брумель паспешліва апранаў мундзір, бытта яго чакала штосьці вельмі вясёлае і цікавае.

У гародзе заенчылі жанчыны, узнялі плач дзеці. Ля буды хрыпеў, ірваў ланцуг раз'юшаны Рэкс.

## 7

За брамкай устрывожаны Буднік сказаў жанчыне:

— Цётку, вы не енчыце, а лепш прасіце за сына ў немцаў — яшчэ час!.. Каб вы мелі што сунуць ім у лапы...

Пакуль немцы выходзілі з падворка, разбіралі веласіпеды і кіравалі на сцежачку, цераз грады падбегла да іх Грыцучыха. Не разбіраючыся ў нямецкіх рангах і адзнаках, палічыўшы Брумеля за старшага, яна кінулася немцу ў ногі:

— Ах, пано-очку, за што-о ж вы яго?! Ах, зо-олатца, ён жа і мухі не пакрыўдзіць, адпусці-іце!..

— Капу-ут, капу-ут!..— зларадна заявіў ёй немец.

— То-олечка, куды-ы яны цябе вяду-уць?! — абнімаючы малых, здалёк, жаласліва і чула, бытта яна тут адно з мужам і дзецьмі, спыталася маладзіца.

— Не паказвай гэтага дзецям! — загадаў ёй яшчэ ўсхваляваны стычкай і поўны рашучасці муж.— Вядзі іх дамоў!

— Лёс, лёс, абэр лё-ос, фэрфлюхтэ! — стукнуў яго колам веласіпеда ніжэй пояса Гофман.

Усе рушылі са сцежачкі. Ліке ішоў апошнім, а за ім з веласіпедам — Буднік.

Обер заўважыў, як паліцай пра нешта дамаўляўся з жанчынамі. Слоў ён не разумеў, але і так было ясна — праклятьі паліцай з гэтымі басаногімі бабамі заадно. Заўважыўшы, як збялеў акамянелы Буднікаў твар, обер адчуў мсцівую асалоду — нарэшце настаў час правучыць гэтага смярдзючага тыпа і даць яму добра зразумець, з кім мае справу.

Ліке вёў веласіпед і рабіў выгляд, што нават не заўважае паліцая. Вочы яго спыніліся на крайнім гумне. Стрэху абляпілі разамлелыя ад спякоты вароны. Пры набліжэнні людзей птушкі паспрабавалі падняцца, нават узмахнулі крыллямі, але тут жа іх апусцілі — відаць, не чакалі ніякай небяспекі.

Ля дарогі рос тытунь, а паміж ім і гумном чарнела свежая ралля. Обер успомніў здымак расстрэлу партызан, які бачыў на стале ў Вернера. Саломай крыты

рускі хлеў з такімі ж варонамі на страсе. Побач — свежая яма. На краі ямы — голы мужчына і белыя, як цеста, целы жанчын. З пісталетамі, настаўленымі ў патыліцу асуджаных, вясёлыя салдаты...

Ліке надта пашкадаваў, што не захапіў апарата.

— Гін! — обер махнуў рукой у бок гумна.

Немцы прыставілі веласіпеды да жэрдак, якімі быў агароджан тытунь, і накіраваліся да паказанага месца. На дарозе застаўся адзін паліцай — ён бытта думаў і вырашаў, што яму рабіць.

Грыцук ішоў спакойна і ўпэўнена, яму яшчэ не хацелася і верыць, што болей ніколі не ўбачыць гэтага расцёртага на муку сотнямі пакаленняў і высушанага на попел дарожнага пяску, выгаралай травы, што апошні раз дакрануўся да яловых жэрдак, якімі сам гарадзіў яшчэ ўчора тытунь.

Грыцук сябе суцяшаў: не можа быць, каб яго расстралялі. Ён жа адзіны мужчына дома, гаспадар, як жа будзе жонка з дзецьмі, са старой маці?.. І рамкі для вулляў не паспеў зрабіць, цяпер мёдабранне якраз!.. Вечарам з Замкавага лесу меліся прыйсці на хутар тры байцы, што хаваліся два месяцы ў гушчары.

Грыцук яшчэ не ведаў, што двое з іх мінулай ноччу напароліся на ізабелінскіх немцаў, якія сядзелі ў засадзе, і загінулі.

Хлопцы прасілі, і ён падрыхтаваў дзесяць галовак квашанай капусты... Учора і ліпу спілаваў на клёпкі!..

Немцы не дурні, не павінны за нішто ўзяць ды і расстраляць здаровага мужчыну, яны ж ад яго карысць могуць мець. Нічога не зробяць, напалохаюць і пусцяць...

Грыцук быў і рэалістам. Адначасна ён бачыў і разумеў, што сапраўды вядуць яго на расстрэл. Успамінаючы падобныя выпадкі ў суседніх вёсках, ён адчуў — няма ратунку.

Што рабіць?

Стукнуць таго, якога пчала ўкусіла, рыдлёўкай па галаве, вырваць карабін, перастраляць здыхлякоў і — да рэчкі, у кусты! Покуль ізабелінскі паліцай зніме вінтоўку, покуль пачне паліць — да альшынкі дабяжыш, адтуль — у Замкаў лес!.. А куды падзецца Галі з дзецьмі?.. А Біскупцы?!. Хіба не так было ў Шаўлічах, за што потым знішчылі ўсю вёску?..

Няўжо няма выйсця?! І няма!

Грыцука агарнула жудасная трывога, у галаве ліхаманкава паўставалі абрыўкі вобразаў.

Учора вечарам вярнуўся ён з лесу ад хлопцаў, а Тася ўжо спала з маткай. Перакладваючы малую да бабкі, ён заўважыў — яна трымае нешта. Расшчаміў кулачок, а з яго выпала фасолька...

Прасіцца ў немцаў?.. Ліха іх бяры, дзеля дзяцей трэба застацца жыць...

— Шнэлер, гунд! — Гофман стукнуў яго ў плечы кантам акутага прыклада, а ў голасе пачулася такая варожасць, што ў Грыцука прапала ўсялякая надзея.

Цяпер ён не прасіў бы літасці, калі б расстрэльвалі і цэлую сям'ю,— усё роўна дарэмна. Калі Грыцук набліжаўся да паказанага месца, сэрца яго абліваў халодны страх.

Брумель пабег наперад. Вось ён спыніўся і з маўклівай згоды обера пачаў крэсліць ботам на мяккай зямлі квадрат: два метры на паўтара.

Ліке падвёў Грыцука і загадаў:

— Гір грабэн! Лёс!..

У обера злосць паволі праходзіла. Яму гэты мужчына станавіўся нават сімпатычны. Чалавек так спакойна і незалежна ўзяўся капаць сабе магілу, як гэта адно рабілі французскія камуністы перад расстрэлам, што паказвалі ў кінахроніцы. А як гэты мужык схапіў загрудкі выскачку Брумеля?! Гэтаму чалавеку тут можна паставіць помнік — Ліке лічыў сябе культурным чалавекам, паважаў гордых і смелых ворагаў.

Але обер-яфрэйтар быў перапоўнены пачуццём абавязку, а сімпатыі да гэтага селяніна былі не такімі моцнымі, каб адпусціць яго. Ліке быў цвёрда перакананы — перад ім сапраўдны вораг, а вораг мусіць быць бязлітасна знішчаны, гэта ясна. Нечуванае нахабства! Што атрымаецца, калі кожны паршывы славянін пачне кідацца на нямецкага салдата з кіем?! Толькі кулю і бізун заслужваюць гэтыя насякомыя, адно так можна іх выхаваць і прыручыць, каб былі нам карысныя!

Пра тое, што Брумель мужчыну абразіў, Ліке і не ўспомніў: па цвёрдым перакананні обера, не мог той пратэставаць, хто на гэта не меў права.

Аднак, обер-яфрэйтар быў ужо часткова задаволены і ранейшай злосці да чалавека не адчуваў. Цяпер

ён мог бы нават выканаць яго апошняе пажаданне, паказаўшы сваю велікадушнасць: завязаць яму вочы перад расстрэлам, даць пакурыць цыгарэту ці чаго-небудзь напіцца, але не было часу. Ды і з падворкаў за імі напружана сачылі дзесяткі пар вачэй. Не то што Ліке іх вельмі баяўся, але хацелася хутчэй скончыць гэты спектакль.

Недалёка ад іх пасвілася прывязанае да коліка пярэстае цяля. Устрывожанае крыкам, яно падняло сваю вільготную мысачку і нявіннымі вачыма здзіўлена глядзела на людзей ды пускала сліну.

«Цікава, пра што яно думае?» — спытаў сам сябе Ліке, але зараз жа выкінуў гэта з галавы.

Яму здалося, што ў яго цяпер вельмі маляўнічы выгляд. Усё яшчэ адчуваючы на сабе напружаныя позіркі вясковых людзей, Ліке нагнуўся да мяжы, сарваў васілёк і панюхаў. Знаёмы з дзяцінства пах... Эх, каб убачылі яго ў гэткай ролі родныя!.. Фэрфлюхтэ, як шкада, што не захапіў фотаапарата, атрымаўся б цудоўны здымак!.. Ладна, наступны раз будзе разумнейшы... Хацелася есці. Мабыць, даўно пара абедаць. Каторая гадзіна?

Обер па звычцы зірнуў сабе на руку, але там бялеў незагарэлы след ад раменьчыка. Адно цяпер ён успомніў, што збіраўся ехаць у ваўкавыскае гета к яўрэю па адрамантаваны гадзіннік — жыць без яго нельга. Ваўкавыск пабач, вярнуўшыся ў Ізабелін, абавязкова папрасіць у лейтэнанта дазволу, толькі змазаць трэба будзе заднюю вось у веласіпедзе, нешта заядае.

Ліке ўявіў сабе, як вяртаецца ў гарнізон. Дакладвае па форме амтскамісару пра выпадак, кладзе на стол планку. Амтскамісар з той няўлоўнай ваеннай грацыяй і спрытам, якія былі ўласцівыя толькі Вернеру, падносіць да казырка руку і ўхваляе яго ўчынак. Затым з маўклівай павагай сустракаюць яго астатнія: пакуль яны адсыпаліся, яму ўдалося знішчыць таго, хто кінуўся на нямецкіх салдат з кіем. Такі потым ліха ведае што мог бы натварыць — поезд узарваць ці машыну!.. Зайздрасць сяброў для Ліке — проста шчасце. Ён цэлы дзень ходзіць з узнёслым настроем. Вернер абавязкова пусціць яго ў Ваўкавыск. У Даніі ён з сябрам злавіў яўрэя, то яны атрымалі па тыдню пабыўкі... Вярнуўшыся вечарам з ваўкавыскага гета, ён

сядзе пісаць дамоў. На гэты раз будзе што апісваць. Але ж як гэта ён не захапіў апарат, паслаў бы заадно і фота, доннэрвэтэр!..

Тым часам Гофман, трымаючы карабін напагатове, умудрыўся разглядаць сябе ў люстэрачка і фатаграфіяй дзяўчыны ў купальніку і, здавалася, нікога больш не бачыў. А Брумель, прычасаўшы мокрыя валасы, пачаў церці ўджаленае месца. Гэта не дапамагло, таму ён выцягнуў з похвы плоскі штык і паспрабаваў прыкласці да патыліцы халоднае жалеза.

А Грыцук усё так жа моўчкі капаў яму.

Вось і жоўценькі пясок. Рыдлёўка прывычна ўлазіла ў мяккую вільготную зямлю, і чалавек рытмічна выкідваў яе наверх. Ад таго, што з вёскі глядзелі людзі, яму было як бы лягчэй. З імі яго яднала варожасць да немцаў і ўпартая зацятасць. Гэтае пачуццё было магутным, у ім ён бачыў працяг сваёй сутнасці, якая мала мела адносін да таго, будзе ён жыць ці не. Толькі часамі ў яго ад страху млела цела, аднімаліся ногі, перасыхала горла, і чалавеку многа каштавала, каб не выдаць сябе.

Халаднаватая і вільготная яма была ўжо яму па калена.

Грыцук раптам спахапіўся, што ў яго зусім мала часу. Няўжо так і не ўбачыць нікога са сваіх?! Баючыся, што не паспее пра ўсё нават падумаць, ён пачаў ліхаманкава ўспамінаць. Перад вачыма паўстала Галя — яна абнімае дачку.

«І трэба ж было мне на яе так напаследак накрычаць!» — папракнуў ён сябе.

Пад ногі шлёпнулася жаба. Грыцук падчапіў істоту на рыдлёўку, узяў у жменю і пусціў на раллю. Упершыню да гэтага стварэння не паспытаў агіды і адчуў, якое халоднае, моцнае і трапяткое ў яе цельца...

Ад хутара, выбіваючыся з апошняй сілы, цяжка бегла маці. Убачыўшы яе, Грыцук адчуў аблягчэнне і надзею. Зямлю стаў выкідваць павальней.

## 8

Сына старая ўжо застала ў яме па пояс.

— Пано-очку, за што-о вы яго?! — кінулася маці к Брумелю і ўпала перад ім на калені.

— Вэг! — вызверыўся салдат, запіхваючы штык у похву.

— Што ж гэта ро-обіцца?! Пашкадуйце вы хоць мяне-е — ён адзіны ў мяне, адзінае ў мяне дзіця!.. І ў вас недзе ж таксама е мацяркі!.. Сын мой пагарачыўся, так з кім гэта не бывае!.. Не пралівайце нявіннай крыві, дзеці, што вы ўзду-умалі?!

Раззлаваны салдат накіраваўся да старой і замахнуўся на яе падкутым ботам. Грыцук выскачыў з ямы. Гофман і Ліке кінуліся яго пераняць.

Калі старую з рассечаным тварам жанчыны адвалаклі на бліжэйшы падворак, Брумель ужо пра яе забыў. Але жанчына крычала на яго і адтуль:

— На, на, антыхрыст, страляй і ў мяне!.. Каб ты свету не бачыў! Вылюдак няшчасны, хай праклятай будзе твая маці, такога нарадзіўшы!.. Пусці, Тэкля, я яму слепакі выдзеру, сіла ў мяне шчэ е-е!.. Я задушу гэтага гада, пусці, Тэклечка!..

— Сціхніце, мама!.. Прыйдзе час і на іх! — крыкнуў ёй сын.— Даглядайце дзяцей з Галяй!..

— Швайгэн! — абрынуўся на яго Ліке.

Гофман выбіў нагой у Грыцука рыдлёўку.

## 9

Грыцуку загадалі павярнуцца тварам да ямы. Брумель прыставіў яму рулю карабіна да вуха.

Жанчыны і дзеці на падворках залямантавалі.

— Бах! — у сухім паветры грымнуў стрэл, чалавек асунуўся ў яму.

З гумна ўзняліся вароны. Цяля парвала вяроўку і, задраўшы хвост, панеслася да рэчкі.

Людзі прыціхлі і пахаваліся.

Брумель паклікаў да ямы сяброў, і яны ўсе хвіліну глядзелі ўніз. Затым немцы накіраваліся да дарогі.

Буднік заўважыў, што ішлі яны бадзёра, а ў іхніх вачах з'явілася нешта новае: у іх свяцілася калі не радасць, то нейкая самазадаволенасць: пачуццё выкананага абавязку.

— Біттэ! — Гофман з павагай перадаў планку обер-яфрэйтару.

— Данке! — адказаў той, засаджваючы кавалак дрэва за папругу.— Абфарт!

Пералазячы праз жэрдку, немцы неяк занадта велікадушна запрасілі Будніка не адставаць, разабралі веласіпеды і паехалі не азіраючыся.

Але Буднік застаўся.

Да ямы пакуль што ніхто не падыходзіў. На гурбачцы жоўтага пяску там сядзела Грыцучыха. На каленях у звар'яцелай жанчыны ляжала сынава галава. Растрапаная, з рассечаным і акрываўленым тварам маці старанна вытрасала з абсмаленых сынавых валасоў пясок, скідвала з аголеных грудзей пілавінне, дзьмула ў крывавыя ямы вачніц, як дзьмуць малому на драпіны, і ласкава, цярпліва пыталася:

— Табе, сынок, баліць?.. Нічо-ога, Толічак, пацярпі!.. Хутка з Ваўкавыска вернецца татка [illegible] доктарам... А покуль што я табе загавару: лішай-лішай, агонь мяшай!.. Лішай-лішай, агонь мяшай!.. Цьфу, згінь, Ярыла!..

Амярцвелы Буднік доўга глядзеў на дзікі малюнак. Затым сеў на веласіпед ды націснуў на педалі. Ехаў і думаў: гэтага акупантам ён не даруе ніколі.

## СІЛА ПЕСНІ

Гэта здарылася ў час грэка-персідскіх войнаў. У гарах Элады трымаў абарону невялічкі атрад грэкаў. Разведка далажыла, што на іх сунецца велізарная навала персаў. Абаронцы паслалі ў Афіны ганца па падмогу, ды адтуль ім на ратунак, бытта ў насмешку, прыслалі толькі нейкага лысага ды кульгавага чалавечка.

Раззлаваныя абаронцы ледзь не пасеклі яго на кавалкі.

Тым часам кульгавы чалавечак быў піітам. Праз пару дзён ён развучыў з абаронцамі патрыятычную песню і гэтак узняў у суайчыннікаў баявы дух, што зусім невялічкі атрад герояў неўзабаве разбіў ворага ўшчэнт.

Пра здарэнне гэтае я памятаю са школьнай хрэстаматыі.

У Вялікую Айчынную вайну на Беларусі здарылася нешта падобнае.

* * *

У Магілёўскай вобласці партызанам уеўся ў косці нямецкі гарнізон і чыгуначны вузел Чавусы. У ім акапаўся батальён салдат, які высылаў сваіх кулямётчыкаў для засад у самыя нечаканыя месцы. Партызаны цярпелі, цярпелі, а ў ноч пад Новы, 1943 год чатыры брыгады сабраліся разграміць Чавускі гарнізон.

Сярод ночы партызаны абкружылі станцыю ды занялі зыходныя пазіцыі, каб у тры гадзіны раніцы — па чырвонай ракеце — рынуцца ў атаку.

Толькі цяпер партызаны даведваюцца, што вораг іхні намер разнюхаў. Сувязныя з Чавусаў далажылі: учора прыйшло немцам папаўненне — два новыя батальёны. Салдаты пасля абеду выдзёўбвалі ў мёрзлым грунце гнёзды для станкачоў ды агнявыя для гармат і мінамётаў. Потым фашысты, назганяўшы з гарадка дзяўчат, цэлы вечар на пероне танцавалі.

Партызаны доўга думалі-гадалі, аднак вырашылі рызыкнуць.

Дакладна ў тры гадзіны над узгоркам узвілася сігнальная ракета, і чатыры брыгады рынуліся ў атаку. Як трэба было спадзявацца, немцы адкрылі з усіх відаў зброі пякельны агонь. Партызанская атака захлынулася. Не то што крок наперад — галавы ніхто ўзняць не можа ад зямлі, так сякуць фашысты: мін, снарадаў ды патронаў, як вядома, яны не шкадавалі. Да таго ж зброя ўся была добра прыстраляна — з улікам мясцовага рэльефу, асабліва ў месцах, дзе верагодней за ўсё паяўленне праціўніка. Партызанскія камандзіры ўжо думаюць, як зацемна вырваць з гэтага пекла людзей, бо днём на снезе партызаны будуць знізаны на мушку.

Але тут здарыўся выпадак, непрадбачаны ніякімі інструкцыямі, не вядомы нямецкім афіцэрам яшчэ ні па адным тэатры ваенных дзеянняў.

Партызанскі камандзір узвода прарваўся-такі праз варожыя акопы ды забег на станцыю. Там з гарачкі ён уляцеў у будынак вакзала пад ахову мураваных сцен. Ачухаўшыся крыху, давай разглядацца.

Карбідныя ліхтары. Блокі акумулятараў. Радочкі доўгіх рычагоў для пераключэння стрэлак і семафораў, сігнальныя шчыты, яшчэ нейкія прылады. Непачатыя

кніжкі квітанцыяў, даведнікі — малыя і вялікія. Тэлефонныя апараты. На тумбачцы — радыёпрыёмнік «Тэлефункен» і кубачак з недапітай кавай.

Цікаўны партызан уключыў прыёмнік, і шкала, на дзіва, загарэлася. Па-нямецку, вядома, хлопец разумеў няшмат, але «Москаў» прачытаў ды пачаў дакручваць ручку...

Яшчэ звечара ад «Тэлефункена» немцы правялі на перон гучнагаварыцель — вайсковы, магутны, яго чуваць радыусам у дзесяць кіламетраў; пад гэты гучнагаварыцель яны танцавалі. І трэба ж было так супасці, што ў гэты момант якраз у Маскве скончылася перадача на французскай мове (у Парыжы было яшчэ толькі 23 гадзіны), а маскоўскі дыктар запусціў пласцінку з песняй.

І вось ляжаць партызаны перад варожымі акопамі, мерзнуць, бедныя, на голым снезе пад кінжальным агнём, ды раптам — сваім вушам нават не вераць! Над Чавусамі ўпэўнена прабілі да болю ў душы знаёмыя куранты Спаскай вежы, а затым рускі густы бас загрымеў так, што ўмерзлая на камень зямля задрыжала:

Встава-ай, страна огромная!
Встава-ай на смертный бой!
С фаши-истской силой темною,
С прокля-атою ордой!..

Партызан бытта ўзняло ветрам. Без ніякай каманды яны ўскочылі, закрычалі ды, узбіваючы ботамі сухі снег, як на крыллях, ламанулі на фашыстаў: для іх перасталі ўжо існаваць агнявыя запоры, зробленыя чужаземнымі афіцэрамі.

На грэбені ўсё той жа эмацыянальнай хвалі партызаны занялі станцыю на працягу дваццаці хвілін.

* * *

На шматпакутнай беларускай зямлі ўзняліся пасля вайны помнікі.

Штыкі-сілуэты — сімвалы мужнасці гаротнікам-пехацінцам, царыцы палёў.

Т-34 — героям-танкістам.

Які і Ілы, «кукурузнікі» і По-2 — сокалам-лётчыкам.

Гаўбіцы, «ЗІСы» і «саракапяткі» — меткім артылерыстам.

Нават пастаўлены на вечны пастамент звычайныя кулямёты.

Усе гэтыя сімвалы народ шануе і беражліва перадае з пакалення ў пакаленне.

Але камплект сімвалаў няпоўны.

У бліжэйшы час у Чавусах узнікне яшчэ, вядома, і помнік савецкай ваеннай песні. Унікальны за ўсю другую сусветную вайну выпадак, замяніўшы легенду старажытнай Элады, яшчэ ўвойдзе ў школьныя хрэстаматыі ўсіх краін і народаў, знойдзе ўвасабленне ў мастацтве — як залаты праменьчык таго высакародна-святога ды бязмерна гарачага па напале агню, якім гэтак гарэў наш народ у часы цяжкіх выпрабаванняў,— і праз ланцужок пакаленняў панясе па ўсім свеце яго неўміручую сілу.

## ПАТРОН

У апошнія дні штосьці пачало тварыцца на чыгунцы. Немцы на Усход перлі эшалоны з нейкімі бутлямі ды цюкамі сена, хоць кавалерыі ў іх там не было, мы ведалі дакладна.

Неабходна было абавязкова разнюхаць, што ўсё гэта азначала.

Адправіліся мы на разведку. Пахаваліся ля чыгункі ў кусты, паслалі ў будку паклікаць памочніка машыніста. Невядома было, калі ён прыйдзе, таму стомленыя хлопцы адразу пазасыналі, а я сяджу на варце ля дарожкі, выглядаю чыгуначніка, а каб не задрамаць, выразаю сабе на кіёчку ўзоры.

Раптам налазіць на нас групка хлапчукоў і дзяўчынак з торбамі арэхаў. Што ж, вясковыя дзеці — не немцы, ад гэтых падшыванцаў нікуды не дзенешся. Тоўпяцца, разглядаюць нас вялікімі ад здзіўлення вачыма.

Лепш было б, каб яны нас не бачылі, ды цяпер ужо нічога не зробіш.

— Ну, здрастуйце! — стараюся супакоіць амярцвелых малых.

— Здра-а!..— шэпчуць хорам.

— Першы раз партызан бачыце?

— Пе-ршы!..

— То прыглядайцеся, прыглядайцеся добра, каб і ўнукам сваім расказалі!

Маўчаць.

Я пытаю:

— У школу ходзіце?

— Не-а, немцы закрылі. Ужо год! Дзядзя, а зімой, калі блакада на партызан была, немцы з бобікамі ўсе нашыя парты папалілі!

— Няўжо?!

— Ага! Есці сабе варылі!

— І ліпу з буслоўкай спілавалі на бункер!..

— Бо яны, дзеткі, фашысты! Нічога, хутка на іх згон прыйдзе, і буслы на школьны двор вернуцца ды новую буслоўку сабе зробяць — на даху, яны такія!.. А вы піянерамі былі?

— Ага!..

— Не ўсе-е...

Якраз гэткія самыя і мае, недзе пад Віцебскам. Мо калі засталіся жывыя, які-небудзь партызан і з імі праводзіць падобную палітгутарку.

— Як бачу, немцаў вы не любіце?

— Не-е! — крычаць ужо мацней.

— Хочаце ваяваць з імі?

— Хо-очам!

— То збірайце патроны. Кожны патрон для нас — адзін мёртвы фашыст.

Дзяўчынка, падобная на маю Галю, падняла запэцканую ў чарніцы вузенькую далоньку і, бытта перад настаўніцай у класе, пачынае гаварыць:

— Дзядзя-а, а ў мяне... А я маю...

— Стоп, маўчы! Пры людзях казаць нічога не трэба. Мы павінны з табой захоўваць канспірацыю, разумееш? У каго што ёсць, няхай адкліча мяне аднаго ўбок і скажа. Перад нашым адыходам гэты кіёчак я ўваткну пад тую разлапістую елку, і вы зносьце мне іх туды, на мох. Адно прыкырвайце карой, каб не моклі, бо ад вады яны не страляюць, ясна?

— Я-асна! — вельмі сур'ёзна адказвае дружны хор цалкам ужо асмялелых дзяцей.

— Цішэй, дзеткі, бо хлопцы спяць, бачыце?

Малыя на пальчыках пайшлі.

Праз паўгадзіны прыбягае памочнік машыніста.

— Даведаўся! — пацірае ад здавальнення рукі малады мужчына ў форменнай фуражцы з эмблемай чыгуначнікаў — кола і два крылы.— Напаіў за вашыя маркі свайго шэфа, паказваю платформу з бутлямі ды кажу:

«Ну, цяпер бальшавікам — капут, немцы іх газамі патруцяць, а яны, пан шэф, так гэтага баяліся, столькі панараблялі процівагазаў, і кожны валачыў з сабой у зялёнай сумцы!..»

«О, на-айн, Іван! — закруціў галавой немец.— У бутлях не газы мы з табой возім у Смаленск, а — кісларод, самалёты запускаць!»

«А што за цюкі з сенам?»

«А пад сенам — танкі. Сена — ад сама...»

Але скончыць паммашыністу не далі. Луснула галінка — і чалавек нырнуў у кусты.

З гушчару выходзіць перапалоханая да смерці дзяўчынка з запэцканай у чарніцы далонню ды нешта падае:

— Дзядзя, вазьміце...

Прымаю з дзіцячай рукі цёплы патрон. Счарнелы, з іржавай куляй. І... французскі. Мабыць, вытрас яго з падсумка тут легіянер Пілсудскага яшчэ ў 1919 годзе. Як вядома, з нашай вінтоўкі французскім патронам не стрэліш ніяк, але ж ці скажаш пра гэта дзіцяці, ці растлумачыш?

— Дзякуй табе, дачушка! От, харошая ты! Цяпер мы з табой аднаму фашысту зробім капут! Лічы — аднаго бандыта ўжо няма, мо якраз таго, што вам парты папаліў! Ну, бяжы сабе дамоў! Тату і маме перадай прывітанне!

— Добра...

— Дзякуй!

Пабегла яна, шчаслівая, а я гляджу на патрон ды ламлю галаву — што мне з ім рабіць?

І от, скажыце, фокус! Яшчэ два гады партызаніў я ў беларускіх балотах ды лясах, і бывала па-рознаму: уцякаў ад немцаў, тануў, галадаў, адступаў, наступаў, гарэў у нейкім хляве, ляжаў паранены ў зямлянцы, а патрон гэты так і пранасіў усю вайну ў кішэні!

## НАРАДЖЭННЕ ПАЭТА

Сержанта Гаўрылу з пярэдняга краю паслалі ноччу ў разведку. Ён пранік праз лінію фронту, разведаў што трэба, але заблудзіў і вырашыў пачакаць раніцы, каб разгледзецца. Разведчык не меў ні ежы, ні вады, ды лепш было дзень перацярпець і да сваіх прабірацца ноччу, чым па-дурному трапіць немцам у лапы.

Акапаўся салдат па статуту, травой прыкрыў пясок, чакае.

Калі развіднела, хлопец ад жаху абмёр. Кусцікі, сярод якіх ён выкапаў прыстанішча, аказаліся зусім рэдкімі, а ззаду — адкрытае поле. Крокаў за сорак перад ім, у гушчары — прытаілася стальная аграмадзіна «фердынанда» з зялёна-шэрымі разводамі камуфляжа на пакатых баках, а бяздонны зеў яго стоміліметровай гарматы скіраваны быў сержанту проста ў душу.

Днём з-за брані асцярожна выглядвалі зялёныя каскі, немцы паказвалі нешта адзін аднаму ў яго бок. Некалькі разоў над вежай бліскаў сонечны зайчык ад перыскопа, затым варушыўся ствол — артылерыст, мабыць, яго даводзіў да цэлі, пасля чаго ўсё навокал як бы прытойвалася ды замірала, і тады сержанту здавалася — самаходка вось-вось грымне агнём і распаленым жалезам, ад яго не застанецца нават і следу.

Ці немцы сваім стрэлам не адважваліся сябе выдаць, ці яны ўсё ж такі сержанта не заўважылі, а разглядалі што-небудзь за ім — хто іх ведае. Але што тады Гаўрыла да вечара перажыў, што перадумаў, як перахваляваўся, перацярпеў — апісаць, мабыць, немагчыма...

Потым яшчэ многа разоў сержант хадзіў у разведку і з баямі прайшоў з тысячу франтавых вёрст. Пад канец вайны хлопца з арміі дэмабілізавалі па інваліднасці — пяхотная міна выпаліла яму вочы.

Пасля вайны Гаўрыла Шутэнка пасяліўся ў Навагрудку і знайшоў у сабе сілы, каб не толькі жыць інвалідам,— ён стаў паэтам. Першыя паэтычныя радкі яго былі такія:

Вот если бы орудие стволом,  
Смерть затаив, в упор бы посмотрело —  
В глаза молодчиков, что нам грозят огнем,  
Тогда б они войны не захотели!

## УДЗЯЧНАСЦЬ

1953 г. Жыву ў Ваўкавыску. Напісаў першы твор. Дваццаць пятага мая з трывогай званю ў «Полымя». На другім канцы проваду чую бадзёры голас сакратара рэдакцыі Міколы Ткачова.

— Аповесць надрукавалі! Выйшаў той самы пяты нумар!.. Шуганула, братка, твая рэч на ўсю Беларусь, віншую! Лаві яе ў кіёсках, покуль не расхапалі!

Як на крыллях вылятаю з пошты — дзе тут кіёск? Не сваімі рукамі вымаю грошы і бяру свежанькі пяты нумар — тоненькі, у шэрай вокладачцы з паперы, у якую часамі загортваюць пакупку ў магазінах, і такі мне дарагі.

На старонцы, дзе ў карэктуры стаяла маё прозвішча, цяпер чамусьці: «Міхась Лынькоў. АГНІ ТАНГАНЫКІ, аповесць». Сэрца абмерла, ногі падкасіліся, і я апускаюся на траву.

Дзеравянымі пальцамі роспачліва гартаю старонкі далей.

Дурань, чаго панікую, вось жа і мая «У АДНЫМ ІНСТЫТУЦЕ»!!!

Ура-а-а!!!

Аповесць пра Гродна і яго педінстытут. Цікава, што там цяпер робіцца? У абласным цэнтры часопіс, вядома, з'явіўся раней, мой твор напэўна там прачыталі. Вядома, перачыталі ўсе, і не па адным разу, з-за гэтага там цяпер усё дагары нагамі. Трэба зараз жа туды ехаць.

Гэта я напісаў пра Гродна кніжку — я! я! я!.. Ай да мы-ы, ы-ы-ы-э-э-эх, раздайся мо-ора!!! Дабірацца да Гродна поездам — глупства, не цэлыя чатыры гадзіны. Паехалі!!!

Дарога мне здалася адным імгненнем — праспяваў у тамбуры пад грукат калёс усе песні.

А вось ужо і Ауліс. Капліца Вялікая. Капліца Малая. Першая стрэлка... Гродна!

На вакзале бачу здалёк у кіёску пяты нумар «Полымя». Звяртаюся да жанчыны за прылаўкам:

— Скажыце, а многа ў вас купілі яго?

— Восем экземпляраў,— ахвотна адказвае. Бачачы маё расчараванне, жанчына абураецца: — А чаго вы хочаце, часопіс толькі што атрымалі?!

З вакзала выбіраюся на вуліцу Ажэшкі. У мяне настрой сапсаваўся. Выходзіць, часопісы ўсё яшчэ валяюцца на прылаўках. І дамы гэтаксама стаяць, і непарушна высяцца слупы, і гэтаксама снуюць машыны, спяшаюцца кудысьці заклапочаныя людзі, а ніхто не тыкае ў мяне пальцам, і ні адзін чалавек не звяртае на мяне ўвагі, нават — самай малой.

Ля нашага педінстытута сноўдаюць юнцы з выглядам незалежных графаў, а ў дзікім вінаградзе гэтак жа нахабна цвыркаюць вераб'і...

Ладна, ліха вас бяры, ведайце маю дабрату! Ведай ты, старажытны горад! Ведай, дарагі мой інстытут! Ведайце, чытайце пра сябе, ды няхай вам будзе прыемна — мае настаўнікі, сябры-студэнты!..

Ля тэатра — піўная з брызентавым тэнтам, якой калісьці, здаецца, не было. За столікам сядзіць наш харошы і нястрымана буйны Вараціла — прататып аповесці, які ў інтэрнаце з трэцяга паверха з'язджае па лесвіцы на лыжах. Ён сапраўды рабіў гэта! Уяўляеце, што за грукат быў, калі падаў?! Гэ, ён і не такія конікі выкідваў!.. Цікава, ці ён пазнаў сябе ў маім творы? Прозвішча яго сапраўднае іншае. Напэўна, аповесць прачытаў і сябе распазнаў, там усё вельмі відочнае. Нарэшце ёсць каму мяне ацаніць.

— Валодзька! — крычу шчаслівы.

Хлопец адстаўляе куфаль з півам ды насцярожана прыглядаецца, працірае вочы.

— А-а, дак гэта — ты?!.

— Я-а...

Ён чамусьці са злосцю ўстае, закасвае адзін рукаў, другі ды падаецца ў мой бок.

— Поездам прыехаў...

— Прыехаў?!

— О толькі што...

Але ён мяне не слухае. Са злоснай рашучасцю пералазіць бар'ерчык, шыпіць:

— Дак якое ты свінства там пра мяне нашрайбаваў, мярзотнік, яко-ое?.. Прызнавайся!

Што за ліха — біцца лезе? З-за чаго?!

Мы займаліся разам у секцыі бокса. Валодзькаву сілу добра ведаю. Ды не станеш жа ў белы дзень, сярод горада, паказваць свае баксёрскія прыёмы з п'яным.

— Прыпёрся?! — кажа ён здзекліва.— Так пачакай жа, пісака, зара я цябе размалю-ую!..

Кідаюся ўцякаць.

— Сто-ой, пісацель з...ны! Сто-ой, не ўцячэ-эш!.. Трымайце яго!..

Валодзька гнаўся за мной праз усю плошчу Леніна да самага моста. На маё шчасце, у пачатку вуліцы Горкага ляжалі свежыя дошкі, стаяла вялізная скрыня з вапнай. Я праляцеў перашкоду адным махам, а п'янаваты хлопец адразу грымнуўся на будматэрыял, і толькі тады я ад яго адарваўся.

Адбегшыся, я спыніўся і думаю сабе:

«Цьфу, ліха на яго, я ж, здаецца, нічога кепскага такога пра Валодзьку і не напісаў!.. Вывеў толькі тое, што было! Чаго ж тады крыўдзіцца?!

За ўсімі аўтарамі так ганяюцца пратататыпы? Вось табе і на-а!..»

## ТРЫ СУСТРЭЧЫ З КОЛАСАМ

1954 г. У тэатры Янкі Купалы ідзе III з'езд пісьменнікаў Беларусі. Тры дні ішоў дыспут, а цяпер — галасаванне. Усе разабралі бюлетэні. Колас таксама ўзяў свой бюлетэнь, пайшоў за кулісы, сеў на пянёк ад нейкай дэкарацыі і старанна кагосьці стаў выкрэсліваць.

Я на дзядзьку Якуба наляцеў знячэўку ды вельмі разгубіўся. Гляджу, а ён — разгубіўся таксама і тарапка ды вінавата, як хлопчык, каб, барані божа, не ўбачылі, каго ён крэсліць, закрывае ад мяне бюлетэнь газетай, нецярпліва глядзіць мне на ногі ды чакае, калі я пайду.

Потым трапіў я ў Дом творчасці — Каралішчавічы. У час абеду нехта прынёс сенсацыю — Колас з нявесткай па грыбы прыехаў! Я хапіў на кухні нейкі кошык ды кінуўся даганяць незвычайнага госця, уяўляючы сабе ўжо, як буду аб гэтай сустрэчы калісьці апавядаць сваім унукам.

Яго з нявесткай знайшоў я ля дарожкі. Насцярожана-ветліва павітаўся. Дзядзька Якуб таксама даў мне «дзень добры» ды пацікавіўся, адкуль я родам,

як мяне зваць і што пішу — прозу ці вершы.

Адказаўшы на ўсе яго пытанні, здаволіўшы сваё самалюбства, я, перапоўнены шчасцем, яшчэ крыху пахадзіў з імі па лесе і, каб не быць надакучлівым, нырнуў у гушчар ды панёс на кухню кошык.

Назаўтра дзядзька Якуб прыехаў па грыбы зноў, і я яго знайшоў каля той самай дарожкі. У нас адбылася дакладна такая самая размова. Колас зноў пацікавіўся — адкуль я прыехаў, як мяне зваць, пішу прозу ці вершы...

Вяртаўся я тады ад яго надта расчараваны, што на дзядзьку Якуба не зрабіў аніякага ўражання і ён мяне праз суткі забыў. У той жа час я быў уражаны прастатой гэтага чалавека — ну, дакладна, як звычайны вясковы стары, а гэтак узрушыў душу народа!..

## РЭЛІКВІЯ

У Гродзенскім педінстытуце імя Янкі Купалы ўсім паказваюць пісьмо Кірылы Арлоўскага — славутага старшыні калгаса «Рассвет» Магілёўскай вобласці.

Студэнтка першага курса філфака С., родам з «Рассвета», дрэнна стала вучыцца. Бацькі паскардзіліся свайму старшыні. Ён і напісаў зямлячцы ў Гродна:

«Вольга, зубры там навукі! — раіць дзяўчыне слаўны герой.— Старайся вучыцца, не ганьбі сваіх бацькоў! Калі вернешся ў вёску, не скончыўшы інстытута,— не прыму нават у свінаркі, зарубі сабе гэта на носе!»

## ПРЫЗНАННЕ

Калі яшчэ Скідэль быў райцэнтрам, адправіліся мы аднойчы з Міхасём Васільком на яго радзіму праводзіць літаратурнае выступленне. Ехаў я і трывожыўся. Быў звычайны рабочы дзень, і не верылася, што выйдзе якая-небудзь карысць з нашай задумы. Сказаў я пра гэта Васільку, але Міхась прамаўчаў.

Прыбылі мы нарэшце ў Скідэль, зайшлі да начальства. Старшыня райвыканкома павёў нас у раённы Дом культуры. Па дарозе пахваліўся:

— Клуб у нас — новы, павінен вам спадабацца!

— Каб толькі былі ў ім людзі, каб недарэмна мы прыехалі! — заклапочана заўважыў я.

— Гэта наша бібліятэкарка прыдумала! — з раздражненнем прамовіў старшыня райвыканкома.— Я загадчыцы прапанаваў вечар на суботу вызначыць ці нядзелю, але яна ўперлася і — хоць ты што хочаш рабі з ёю, ведаеце, якія жанчыны ўпартыя?! Нічога, будзе мала народу, загадаем дырэктару школы прывесці вучняў старэйшых класаў, школа тут побач.

Міхась толькі хітра ўсміхнуўся.

Падыходзячы да клуба, яшчэ здалёк я ўбачыў фурманкі. Такое скапленне іх бывала толькі да вайны на кірмашах у мястэчках. Вазамі вакол новай будыніны былі літаральна забіты ўсе двары. Людзей не відаць. Распрэжаныя коні спакойна жавалі сабе аброк з торбаў. Ля сцен і платоў зіхацелі лакам шарэнгі веласіпедаў і матацыклаў.

— Вось і наш клуб! — аб'явіў узрадаваны старшыня.

Аднак увайсці ў яго было не проста. У калідоры мы наткнуліся на цесную сцяну людскіх спінаў і завязлі. Старшыня тады павёў нас хітрымі хадамі, і апынуліся мы адразу на сцэне. Зірнуў я ў залу, а там — галовы, галовы, галовы ды ў прагным чаканні напружаныя цікаўныя вочы.

Пачалі мы распранацца, складваць плашчы на крэслы.

На літаратурных вечарах заўсёды прытрымліваюцца няпісанага закону, падказанага жыццёвым вопытам,— слова даюць перш за ўсё празаіку, а ўжо затым — паэту.

Старшыня аб'явіў:

— Сустрэчу з беларускімі пісьменнікамі лічу адкрытай. Першым перад вамі выступіць Аляксей Карпюк. Калі ласка, таварыш Карпюк, просім!

Не паспеў я дайсці да трыбуны, як у зале нехта выгукнуў:

— А чаму яго-о?

Другі азваўся ўжо смялей:

— Васілька-а нам давай!

Трэці закрычаў на ўсё горла:

— Што ты нам якогось Карпюка сунеш, мы прыехалі не яго слухаць!

Во становішча, што рабіць?

Ад сораму гатовы я быў праваліцца праз падлогу, але дошкі насцілу не расступаліся.

Апусціўшы галаву, цалкам разгублены, пад абстрэлам соцень вачэй, некалькі хвілін я бяссэнсава перабіраў старонкі сваёй кніжкі.

На падмогу прыйшоў старшыня:

— Таварышы, таварышы, што за шум, чаго вы хвалюецеся? Наш паважаны Міхась Восіпавіч выступіць абавязкова! Выступіць потым! Пацярпіце! — стаў ён упрошваць аўдыторыю.— А покуль што паслухаем, давайце, мы...

Яму не далі гаварыць — узнялася цэлая бура:

— Васілька-а!

— Міхася-а нашага!

— Мы хочам толькі яго-о!

— Няхай нам прачытае «Як я пана перанёс»!

— І «Эх, гарэліца мая, што ты вычаўпляеш»!..

— «Век дваццаты, век харошы, абы грошы, толькі б грошы!..»

— І пра бульбу: «Бульба парана, пячона, бульба сёння, бульба ўчора!..»

Тут я ціхенька сышоў з трыбуны. Было невыносна сорамна. У той жа час я па-харошаму пазайздросціў паэту.

Гэты чалавек мог сказаць, што жыў на свеце недарма.

## РАЗВАЖАННІ АБ ХРАБРАСЦІ

У Судане водзіцца вялізная змяя аскала. З яе скуры робяць сумкі, туфлі, партфелі. А ловяць змяю так. Босы суданец мажа нагу вярблюджым тлушчам, кладзецца ля нары. Прывабленая цяплом чалавечага цела, аскала высоўваецца з нары. Калі б нага варухнулася, змяя імгненна абвілася б вакол чалавека і патрушчыла б яму косці. Суданец ляжыць нерухома.

Бяспечная аскала пачынае заглытваць нагу — яна няздольная зразумець, што нага гэтая з целам. Калі дабіраецца ўжо вышэй калена, паляўнічы сядае і дастае нажыска. Ён цяпер спакойна садзіць лязо ў зяпу ды ўздоўж сваёй нагі распорвае, як панчоху, аскале галаву, затым — шыю, тулава...

Ці патрэбна для гэтага геройства?

Тады і нашыя бабкі, што ловяць п'явак, былі б гераінямі. Такая бабуля ноччу з хаты баіцца і носа высунуць, а залезе ў балотную цёплую лужыну, стоіцца ды стаіць мінут з пяць. Затым вяртаецца на грудок, скідвае з лытак п'явак сабе ў слоік ды лезе ў балота зноў.

Нашыя продкі магутнага зубра заганялі на лёд, дзе ён станавіўся бяссільным ды рахманым, як спутанае цяля. Да барадатага валадара пушчы падыходзіў хударлявы мужычок у саматканай світцы, не спяшаючыся, пляваў сабе на далоні, узнімаў доўбню, аглушаў паўтаратоннага звера ды перараазаў яму горла.

Храбры быў першы суданец, які перамог гэтак аскалу. Храбры быў і першы дрыгвіч, які забіў гэтак зубра і ўратаваў ад галоднай смерці сваю сям'ю. Для астатніх такое паляванне — рамяство без рызыкі.

## У СТАЛОВАЙ

У чарзе за нікеляваным бар'ерчыкам нервуюцца людзі. Вось ужо з дзесяць хвілін, як знік кухар і няма каму раздаваць страву. Кліенты прыстаюць да пажылой жанчыны, што мые посуд.

— Ён, мабыць, да бочкі з півам пабег?!

— Па апельсіны!..

— Жывуць яны сабе тут, як на курорце!..

— Кнігу скаргаў давай!

— Пачакайце крыху, лю-удзі! — стрымлівае іх бабка, адным вухам бытта прыслухоўваецца да нечага важнага, што адбываецца за сцяной.

— Ого, дасць яна табе кнігу, так і чакай! За гэта іх па галоўцы не гладзяць!

— Абедзенны перапынак і так кароткі, а тут шчэ выстойвай чорт ведае дзе!.. У газету трэ напісаць пра іх!..

Паступова атмасфера награецца да таго, што, здаецца, каб увайшоў вінаваты, дык людзі з ім невядома што зрабілі б. Бабка ж з посудам у прыполе, выцягнуўшы шыю, усё гэтак жа з насцярожанай цікаўнасцю прыслухоўваецца.

Раптам на кухню ўрываецца ўзбуджаны і шчаслівы юнак у белым каўпаку. Ён механічна бярэцца за апалонік, абводзіць людзей за бар'ерам нейкімі непрытомнымі вачыма і сарамліва, ні то сабе, ні то пасудамыйцы, ні то ўсяму свету, аб'яўляе:

— Званіў у раддом — сы-ын у мяне!

Уся чарга вінавата сціхае, яму ўжо ўсміхаюцца. Кожны кліент цяпер, беручы ад яго поўную талерку, вінавата як бы гаворыць вачыма:

«Дык чаго ж ты?! Ляцеў бы *туды*, мы ўжо тут самі як-небудзь справіліся б!..»

## НА ПАВЕТРАНАЙ ТРАСЕ

Аб'явілі пасадку ў самалёт Гродна — Мінск праз Навагрудак. Мы, дванаццаць пасажыраў, бязладнай грамадкай пасняшаем да тупаносага біплана. Лётчык бярэ на рукі жанчыну і падае сябру, які выхіліўся з дзвярэй самалёта. Ніхто не дзівіцца. Перад намі «АН-2», у ім замест трапа — выслізганая драбінка, па ёй нават мы, мужчыны, ледзь узбіраемся на борт.

Залазім у машыну, месцімся ўздоўж сценак. Хтосьці адпускае жарт і сам жа з яго смяецца. Лётчык уцягвае драбінку, шчоўкае дзвярыма, шчэ і задрайвае іх, як на караблі, і — можна ехаць!

Праз ілюмінатар відаць кавалак крыла. Вось гэтая дзюралевая плоскасць з радочкам заклёпак урэжацца праз хвіліну ў нябесную высь. Як яна зможа абаперціся на паветра і ўзняць цяжкую машыну з людзьмі, маторам, грузам?! Недзе я чытаў, што ў Амерыцы калісьці ўзялі з прэрыяў індзейца ды пасялілі яго ў Нью-Йорку на кватэру. Ён да смерці меў занятак — адкрываў і закрываў кран, стараўся зразумець, чаму і як гэта цячэ вада. То быў рубеж яго фантазіі, а тут — для маёй. Тэарэтычна ведаю, што паветра пры нейкай там хуткасці прадмета становіцца для яго густым, як

вадкасць, але не магу з'яву адчуць плоццю, уяўленнем і заўсёды ў самалёце вось так дзіўлюся.

Самалёт гайданула, варухнуўся і адразу як бы некуды знік прапелер, а вецер пагнаў ад яго хвалі травы. У ілюмінатары ўжо паказаўся бок дэсантнага велікана з літарамі «ДОСААФ» на баку. Праплыў радочак аранжавых парашутаў на мурагу. За парашутамі — паўнагрудыя і гарэзлівыя дзяўчаты рыхтаваліся да скокаў. Адкрываецца даль лётнага поля.

Пажылая жанчына спаўзае з сядзення ды сядае на праходзе ў кабіны пілотаў. Гэта яе лётчыкі ўносілі на руках. Самалёт набірае хуткасць да ўзлёту. Агорнутыя страхам, ушчаперваемся ў металёвую лаўку, каб не зляцець пры старце, сашчэмліваем зубы, уцягваем жываты, насцярожваемся ў нейкім адчаі і мы. Толькі жанчына не выказвае ніякага хвалявання. Яна зручна выцягнула на падлозе ногі, плячыма абаперлася ў абшыўку самалёта і глядзіць на нас з лагоднасцю ды спакоем. Твар і вочы ў яе такія, з якімі малююць мацярок-гераінь, заслужаных настаўніц — самавіты, мудры і бывалы, свеціцца дабратой ды пашанай да ўсяго, што ў самалёце.

«Хто яна?» — зацікавіла мяне, калі АН-2 пайшоў раўней і страх наш некуды знік.

Самалёт павярнуўся ды лёг на курс. Адчынілася кабіна, і на лабавой сценцы ў ёй паказаліся на секунду незлічоныя прыборы, размешчаныя ў строгім шахматным парадку. Неўзабаве з кабіны выходзіць юнак у мундзіры авіятара, не гледзячы на жанчыну, сядае з ёю побач. Кабеціна нават не зварухнулася. Яна бытта чакала, што ён выйдзе.

Уладкаваўшыся на падлозе, авіятар паварочвае да жанчыны галаву. Абое скупа ўсміхаюцца: ён — вінавата і пакора, яна — шчаслівa, з любоўю. Абое здаюцца падобныя. Жанчына дастае хустачку і, хоць хлопец не даецца, выцірае яму спатнелы лоб, тады вачыма паказвае на кіцель. Хлопец яго паслухмяна здымае ды вешае на вінцік, застаецца ў белай накрухмаленай кашулі з чорным гальштукам.

Жанчына пасядзела некалькі хвілін спакойна, покуль хлопец не глянуў на гадзіннік. Юнак заклапочана ўстае і спяшаецца ў кабіну.

У Навагрудку мы вылазім на канюшыннае поле

аэрадрома. Я заходжу біплану наперад і праз ліхтар самалёта бачу, што хлопец у белай кашулі з чорным гальштукам — адзін з пілотаў.

Праз пяць хвілін наш АН-2 зноў нясецца па полі. За намі пагналіся навагрудскія хлапчукі. Але, калі мы ўзняліся, яны, знясіленыя, пасталі, бытта разам з намі адарваліся ад зямлі і іхнія душы.

Самалёт цяпер лёг курсам на Мінск. Ад матора ўсё вібравала. Як басавыя струны, дрыжалі і гулі тросы, якімі была перакрыжавана кабіна. Мы паспелі ўжо абвыкнуцца. Хто дрэмле. Хто задумана глядзіць у ілюмінатар. Хто ўткнуўся ў газету...

Толькі з ранейшым выразам твару сядзіць жанчына. Думаючы, што яе ніхто не бачыць, яна крадком гладзіць з любоўю цёмна-сіні кіцель.

## КУЛЬГАВАЯ

Да былога адваката ў Ваўкавыску стаў на кватэру маладзенькі шафёр. У адваката — вялікі асабняк, у доме дастатак. У яго адзіная дачка, але яна кульгавая.

Прайшоў нейкі час — і дачка адваката нарадзіла адно дзіця, другое.

На танцах у гарадскім парку шафёр закахаўся ў каравокую Жану ў спаднічцы, як сподачак (такая была тады мода), ажаніўся з ёй ды пераехаў да жонкі. Дачка адваката нікому не паскардзілася.

І зараз яна жыве ў бацькі. Старэйшага сына выпраўляе ў школу, маладзейшага — у дзіцячы сад. Да былога шафёра, які цяпер працуе на аўтабазе, нічога не мае. Толькі нейкім чынам даведваецца, калі ён выязджае ў камандзіроўку. Тады жанчына прыходзіць пад вакзал і цераз плот глядзіць да той пары, покуль поезд не знікне за семафорам.

## ШЧОДРАЯ АДПЛАТА

Каля аптэкі стаіць чатырохгадовая дзяўчынка са смешным рабаціннем на твары. Адной рукой яна гойдае каляску з дзіцем, якое надрываецца ад плачу, а з

другой — ліжа марожанае. Малочныя струменьчыкі цякуць па пальцах, падбародку. Вочкі яе бездапаможна ловяць прахожых.

Нарэшце малая заўважае, што я ўсміхаюся.

— Цёця, ён пла-аца! — скардзіцца даверліва.

Я калыхнула каляску, паправіла пялюшку.

— Як жа цябе зваць?

— Валянціна Іванаўна.

— О-го!.. А дзе ж твая мама, Валянціна Іванаўна?

— У аптэцы.

— Я пакалышу тваю сястрычку, а ты скокні па яе!

Адыходзячы, дзяўчынка кідае з дакорам:

— Ён брацік, а не сястрычка!

Праз хвіліну ў дзвярах аптэкі з'яўляецца жанчына і вінавата апраўдваецца:

— Малы есці хоча, таму і плача. А дзе пакорміш?

— А вы нясіце ў аптэку. Валянціна Іванаўна пабудзе ля калыскі!

— Хіба што!..

Жанчына панесла дзіця. Я намерылася ўжо ісці, але Валя робіць таямнічы рух пальчыкам. Я нахіляюся.

— Прыходзьце да нас,— шэпча,— я дам свае цацкі паглядзець!

Тут жа бачыць, што яе прапанова нерэальная. Хвіліну думае.

— Цёця, лізніце марозанае! Яно сма-ацнае, сма-ацнае!.. Лізніце!..

І яе ліпкая рука працягвае вафельны кубачак, а ў вачанятах свеціцца радасць: нарэшце знайшла чым аддзячыць.

## ПАКРЫЎДЖАНАЯ МАЦІ

У бабкі Агаты закквактала Чубатка. Агата паклала ў кошык сена, шэсць качыных яек і пасадзіла квактуху.

Мінула чатыры тыдні, і курыца выседзела качанят. Новую сям'ю бабка пусціла ў агародчык.

Гора было Чубатцы з дзецьмі. Адганяла катоў. Білася з варонамі. Прыблудзе Бобіку выдзеўбла вока. Ка-

лі на малое паўзлі кузурка або чарвяк, качаня, дурное, уцякала. А то брала ды дзяўбло сабе цень ад лістка...

Трэба было малых і ўсяму навучыць і — абараніць. Аднак качанят яна зберагла і падвучыла. Малыя густа зараслі шэрай поўсцю, акрэплі і ўжо на ноч не змяшчаліся пад квактухай.

Цёплай раніцай Агата адхіліла ў плоце дошку ды выпусціла сямейку на волю.

Чубатка з гонарам павяла дзяцей па загонах. Качаняты наравілі ў бок балота. Маці забегла ім наперад, грэбнула горбу свежага гною. Дзеці спыніліся ля горбы, але ненадоўга. Маці пайшла за імі, поўная недаўмення: чаго яны, няўмекі, туды пруцца? Калі ж убачыла, што набліжаюцца да мокрага, узняла такі гвалт, бытта ляцела варона. Качаняты пасталі. Тады Чубатка скочыла да зямлі, якую вывернуў крот, пачала клікаць дзяцей. Клікала так доўга і соладка, што качаняты хоць і неахвотна, але вярнуліся. Маці ўзяла ў дзюбу каменьчык, запрашаючы і дзяцей. Але тыя паўзіраліся на курыцу з недаўменнем. Бліжэйшае для ветлівасці скубанула травінку, прыязна нешта прапішчала.

З неба паляцелі кроплі. Чубатка панічна кінулася пад акап хлеўчыка, пазвала дзяцей. Ужо ліў добры дождж, курыца клікала і клікала. Качаняты нерашуча пасталі, здзіўлена аб нечым пасудачылі, аднак жоўтым ланцужком падаліся на возера.

Чубатка забылася, дзе зніклі дзеці. Пасля дажджу пайшла шукаць іх у агарод.

Рэдка траплялiся ёй такія ўдачы. Разадрала купіну з чырвонымі мурашкамі, паклікала дзетак. Яны ўсё не ішлі, і мурашкі пахаваліся ў норкі. Выкапала адразу некалькі дажджавікоў, але дасталіся яны нахабным вераб'ям. Высахлую Чубатку вецер перакульваў на загонах, але яна ўзнімалася ды зноў клікала малых.

А вечарам, калі растаўсцелыя качаняты, пераварваючыся з нагі на нагу, вярталіся ад возера, яны сустрэлі Чубатку, як чужыя.

Назаўтра дзеці зноў пакрочылі на балота. Як ашалелая, з настабурчаным пер'ем, Чубатка лазіла па агародах, падворках, задзіралася. Напалохала прывязанае да коліка цяля. Разагнала парасят. Качаняты грэ-

лісся на сонцы, прыстала да іх. Кошка прагнала, і яна падышла да куранят, што лазілі [redacted] квактухай у крапіве. Дзве маці счапіліся біцца — аж паляцела пер'е! Гаспадыня грудай прагнала Чубатку ды пайшла скардзіцца бабцы.

Агата злавіла Чубатку і акунула ў вядро з халоднай вадой.

Да вечара паніклая і мокрая Чубатка абыякава прастаяла ля калодзежа [redacted] настабурчаным пер'ем на шыі, што прыдавала ёй выгляд задумёнай, пакрыўджанай.

## ПАСЫЛЬНЫ

Усе мужчыны на фронце. У калгасе жанчыны, інваліды і дзеці. У суседнюю вёску за лесам трэба было паведаміць, што вызвалілася малатарня і суседзі могуць па яе прыязджаць. Жанчыны баяліся нямецкіх дыверсантаў; везці праз лес паведамленне вызваўся сямігадовы хлопчык.

Бязногі брыгадзір падабраў маломy рахманага каня і падсадзіў на яго хлопчыка.

— Толькі добра, Мішка, трымайся,— параіў.— Конь сам цябе завязе. А прыйдзе з вайны тата, раскажу яму, які з цябе казак, як ты памагаў яму фашыстаў адолець!

«Казак» ушчаперыўся ў грыву, паехаў.

Калі яны адолелі палову дарогі, з-пад куста раптам выскачыў заяц. Гняды рвануўся, малы перакуліўся праз яго галаву і ўпаў. Толькі конь уцякаць і не думаў. Ён нават нахіліўся над хлопчыкам, пакратаў яго цёплай аксамітнай губай ды ўздыхнуў — бытта спачуваў. А блізка, як на тое,— ні плота, ні пянёчка, ні валуна: як узбярэшся на каня, калі ты яму ўсяго да калена?!

І вось сем кіламетраў валакуцца праз лес двое: наперадзе заплаканы «казак», а за ім пакорліва — конь. Сырамятны павад ад вуздэчкі валачэцца па зямлі, гняды часамі на яго наступае і спатыкаецца...

Так яны і ўвайшлі ў суседнюю вёску.

Ля праўлення старшыня корпалася ў маторы гру-

завой машыны з газавымі калонкамі для драўляных чурак. Міша тузануў жанчыну за ватнік:

— Цёця-я, брыгадзір казаў, каб вы малатарню ўжо забіралі! Мы сваё памалацілі!..

## КАКЕТКА

У купэ з намі — сімпатычная кабетка. Кофтачка на ёй модная, прычоска зроблена з густам, твар і шыя — свежыя, голас прыемны і маладжавы. Але ж маладзічка... гарбатая. У кампаніі з ёю мы з таварышам едзем у Маскву.

На дзіва, жанчына заігрывае з намі. І што вы думаеце? Ад суседкі ідзе такая абаяльнасць, што мы паступова перастаём заўважаць яе калецтва. Робімся галантнымі, пачынаем адказваць на залёты. Справа даходзіць да таго, што пад канец падарожжа мы бессардэчна топім адзін аднаго, абы паказацца перад спадарожніцай.

І вось поезд наш спыняецца на Беларускім вакзале. Пасажыры выходзяць. Выходзім і мы, вырываючы адзін у аднаго суседчыны чамаданы. Яна спераду плыве каралевай.

На пероне нас сустракае яе муж — высокі і стройны хлопец.

— Прыехала? — пытаецца ён без энтузіязму.— Ну, як дарога, не стаміла цябе надта?

— Цудо-оўна! Ой, Рома, ведаеш, мне трапіла такая кампанія элегантных маладых людзей, мы так выдатна правялі час, нам та-ак было весела!..— І нявінна кажа: — Знаёмся, мае новыя сябры!..

Убачыўшы нас, твар у мужа насцярожана выцягваецца, а вочы ад здзіўлення шырока раскрываюцца.

І тут мы абодва зразумелі, як яна нас абвяла: усе яе намаганні ў купэ былі дзеля аднаго гэтага позірку.

## У БУХГАЛТЭРЫІ

— Паглядзіце, што ў мяне атрымалася! — з радасным здзіўленнем ускрыкнула маладая рахункаводка.— У астатку — 91 рубель і 91 капейка!..

Тоўсты бухгалтар з барадаўкай, як гарошына, на носе ўзняў на лоб акуляры, паціснуў плячыма.

— Ну і што? — строга зірнуў ён на дзяўчыну.— З чаго тут дзівіцца? У тваёй галаве — вецер! Ты б справай лепш займалася, а не розным глупствам!

Дзяўчыне раптам зрабілася так сумна, што яна заплакала без слёз.

## «МНЕ НЕ ДАКЛАДВАЕ»

Я заходжу ў прыёмную. Маладзенькая сакратарка прысоўвае шуфляду з кнігай да стала і, не ўзнімаючы галавы, чакае, што я скажу. Пытаюся ў яе пра загадчыка. Сакратарка нешта буркнула. Пытанне паўтараю.

— Я ж вам сказала — Івана Мікалаевіча няма!

Ветліва, нічога не скажаш.

Прайшоўся па пакоі я адзін раз, другі, і... Якое дзіва! На двары — люты месяц, сумёты, нават замёрз Нёман, а на падлозе божая кароўка. Самая сапраўдная, жывая! Нахіляюся і асцярожна лаўлю на паркеце стварэнне.

— О, зноў вылезла! — вінавата і з папрокам ускрыквае дзяўчына ды бяжыць ад стала.— Тут іх жыве дзве. У вазоне. Але гэтая непаслухмяная, усё вылазіць з фікуса, трэба ёй усё ведаць...

У яе вачах свеціцца сардэчная клапатлівасць і дзіцячая шчырасць. Але я ёй чамусьці не веру.

Звоніць тэлефон. Сакратарка хапае трубку, незадаволена хмурыць бровы.

— Не ведаю, ён мне не дакладвае! — жорстка некаму адказвае ды кідае трубку.

Ліха на яго, як сентыментальнасць ужываецца з чэрствасцю душы!

## БЫЛО І ТАК

Германія, Памеранія. Перадавыя часці пайшлі праз лес далей, а на палянцы разбіў палаткі ды выставіўварту медсанбат.

У гушчары чатыры немцы здаліся ў палон сержанту з гаспадарчага ўзвода. Восем раз паранены і кан-

тужаны, сержант служыў цяпер у гаспадарчым узводзе медыкаў. Убачыўшы немцаў, ён даў для страху ўверх чаргу з аўтамата, а тады паадбіраў у былых грозных ворагаў біклажкі са шнапсам ды да адной добра прыклаўся. Праз якой паўгадзіны ці менш галодны сержант ужо не мог ісці...

Медсанбатаўская варта ўбачыла паміж дрэў фігуры немцаў, узняла на паляне трывогу.

Перад вачыма насцярожаных урачоў і сясцёр праз хвіліну з'яўляецца каларытная працэсія. На паляну выходзіць унтэр-афіцэр і на выцягнутых руках трымае савецкі аўтамат.

Абвешанага біклажкамі сержанта вядуць пад рукі два немцы.

Убачыўшы медыкаў, унтэр-афіцэр крычыць здалёк:

— Не страляць! Не страляць!.. Пан сержант узяў нас у палон! Дзе рускі палон?

## «КЛАСІК»

Гэты літаратурны клешч трыццаць гадоў таму назад выдаў адну брашурку памерам у два аркушы. З таго часу ездзіць па ўсім Саюзе ў творчыя камандзіроўкі, жыве ў найлепшых гасцініцах, харчуецца ў дарагіх рэстаранах і кожны год па тры разы бывае ў дамах творчасці: Перадзелкіне, Малееўцы, Каралішчавічах, Дубултах, Адэсе. Малы, хілы, зморшчаны...

Пра яго ходзяць анекдоты, але я да сённяшняга дня не меў магчымасці пераканацца, наколькі яны праўдзівыя.

Зараз ён прыехаў да нас на пленум, жыве ў люксе і вядзе мяне да сябе ў нумар.

Заходзім.

На крэслах ватнія халаты.

На этажэрцы акуратна ў папках складзены рукапісы (?). На стале штук восемдзесят кніжак, якія яму падарылі аўтары на працягу трыццаці гадоў.

У кубачках — з дваццаць востра заточаных алоўкаў. Тут жа розныя гумкі, клей, нажніцы, пачкі выдатнай паперы, партатыўная друкарская машынка...

10 Зак. 561

Пад настольным шклом чытаю лозунгі:

ТОЛЬКІ САМАЕ ГАЛОЎНАЕ, НІЧОГА ЛІШНЯГА!!!

УЛАДАЮ ДНЁМ СВАІМ!

Гаспадар бачыць, што я ўважліва ўсё разглядаю, прамянее ад радасці ды паказвае надпісы на халатах:

— Гэта — падарунак узбекаў ■ 1954. А гэта — казахі далі ў 1956. А то — бурка ад асяцінцаў...

І ўсё гэта ён валочыць з сабой у камандзіроўкі? Божа, мілы!..

## ХАЙКЕЛЬ З ІНДУРЫ

Ён паходзіў з такой бядноты, якая «хвост селядца тыдзень смактала». Але па натуры шавец Хайкель — упарты, сумленны і заядлы. Уступіў у падпольную Кампартыю, паліцыянты яго не раз запіралі ў турму. Не маючы ні кала ні двара, ажаніўся на такой жа беднай Голдзе і пусціў на свет пяцярых малых.

Калі ў верасні 1939 года вызвалілі Заходнюю Беларусь, мнагадзетнаму Хайкелю і яго жонцы выдзелілі добрую кватэру ды самую лепшую памешчыцкую карову: жыві ў цяпле, браце, ты гэтага варт, кармі малых і пасылай іх у школу.

Раніцой пайшла шчаслівая Голда ў хлявок, надаіла поўнае вядро малака. Столькі ж карова дала ў абед, столькі ж і — вечарам. Хлопцы наперабой сталі пасвіць яе на толькі ім вядомых межах, адзін перад адным валаклі ёй бярэмы лістоў чужой капусты ды з захапленнем глядзелі, як Красуля з трэскам іх уміна; на ноч клалі ёй канюшыну...

Цяпер узрадаваная і шчаслівая сям'я стала піць малако як ваду, бяліць ім страву, гатаваць — хто гэта бачыў! — зацірку на чыстым малацэ! — а яго яшчэ і заставалася.

Кіслым і салодкім праз пару дзён запоўнілі ўсе каструлі, банкі ды міскі.

Голда не ўмела рабіць ні сыру, ні масла. Яна дала нарэшце вядзерца сырадою старэйшаму сыну, дала ў другую руку кварту ды адправіла яго прадаваць малако:

— Збярэш сабе і братам гэтак на школьныя ранцы, Люсічак!

Крочыць здаволены Хайкель дамоў на абед праз плошчу і сваім вачам не верыць: яго Люсік пад навесам разам з бабкамі, якія прадавалі яблыкі ды семкі, квартай адмервае пакупнікам малако. Шавец папёр сына дамоў.

— Ганьбаваць мяне ўздумала! — напаў ён на жонку.— Людзі нам дабро зрабілі, а ты нажыцца хочаш на гэтым?

— Хайкель, так жа псуецца малако! — перапалохана баранілася Голда.— Куды ж нам яго дзяваць?

— Ха! Не будзь скнарай! Надаі столькі, колькі адно можаш выпіць ці з'есці: трэба табе шклянку, ідзі і надой шклянку, трэба каструлю — надаі каструлю, а не будзь прагнай, як кулачка, не забывай, што я — камуніст!

Жонка паслухала: пачала даіць Красулю, як загадаў муж.

Праз тыдзень у каровы прапала малако. Голда збегала да ветэрынара, і бедны шавец павёў Красулю здаваць на мяса: не будзеш жа гэткую абжору дарма карміць да новага ацёлу.

## СЛЕПАТА

Студэнтку Юлю спакусіў адзін тып. Ён — забулдыга, п'яніца, хам і мае сабе ў горадзе некалькі жанчын. Да Юлі прыходзіць раз у тыдзень, каб добра нажэрціся, выманіць грошай. Юля ў такі вечар лётае па сямі паверхах інтэрната. За вочы ўсе яе асуджаюць, з яе смяюцца, абзываюць дурной, бязвольнай авечкай, але з жаласці даюць, колькі хто можа.

Сёння еду з ёю ў тралейбусе. Юля да мяне нахіляецца і давярае таямніцу:

— Ведаеце, я пасябравала з адным маладым чалавекам. Ён такі чулы і добры, так мяне разумее, так за мной глядзіць, пра мяне клапоціцца, і мы так з ім ладна жывём, што і не раскажаш!.. Ой, паверце мне, я такая шчаслівая, такая шчаслівая, мне так до-обра на душы!..

Голас і вочы ў яе шчырыя, чыстыя, натхнёныя...

Адкрыць ёй усю праўду? Тое ж самае, што надта слабому ды безнадзейна хвораму чалавеку сказаць, што ён усё роўна праз пару дзён памрэ.

## ЛЯ КАЗАРМЫ

Ля аграмадных варот — паласаты «грыб». Побач двое вартавых трымаюцца за рамяні ад аўтаматаў ды фліртуюць з дзяўчатамі. Нядзеля, камандзіраў блізка няма, а тут яшчэ цёпла, радасна свеціць сонца, шчабечуць ластаўкі.

Весела, гулліва, з выклікам бліскаюць вочы і зубы.

Зводдаль назіраюць за фліртам яшчэ два салдаты. Ім таксама хочацца, каб дзяўчаты зірнулі на іх. Толькі як жа ты гэта зробіш? І хлопцы пачынаюць спаборнічаць, хто з іх... даўжэй выстаіць на адной назе.

Я гляджу праз акно з клуба часці, і мне з трэцяга паверха добра відаць, як абодва салдаты стаяць з падкурчанымі нагамі, нібы буслы. Стаяць дзве хвіліны, тры...

У памяці маёй адразу ўзнік выпадак з мінулага года. Ішлі мы з дачкой па Варшаве, а перад намі крочыў юнак — ды неяк ненатуральна, хістка, нібы па дроціку ці хто яго спутаў.

«Тата, глядзі!» — пырснула раптам дачка ды паказала на ногі паляка.

Хлопец ішоў на жаночых «шпільках».

Ад таго, што мы заўважылі яго арыгінальнасць, твар худзенькага юнака аж расплыўся ў шчаслівай усмешцы.

А зусім нядаўна назіраў я і не такое дзіва.

Супроць нашага педінстытута сустрэў я трох волатаў з буйнымі шавялюрамі ды расхрыстанымі кашулямі. Мускулістая грудзіна ў крайняга кідалася ў вочы здалёк, а з яго магутнай шыі звісалі канцы нейкага шнура. Хлопцы крочылі памалу, упэўнена, ні на каго не пазіраючы, аднак сустрэчныя дзяўчаты чамусьці з жахлівым віскам кідаліся ад іх у бакі, а потым праводзілі кавалераў вачыма, у якіх гарэла ўжо вясёлае захапленне.

Толькі падышоўшы ўпрытык, я разгледзеў, што за

«шнурочак» у крайняга волата. На ружовым целе атлета спакойна разлёгся балотны вуж, пытальным знакам выгнуў тонкую шыйку, выставіў раздвоены язычок ды блішчастымі вочкамі глядзеў на свет.

Прыйшлі мне на памяць і свае конікі, што я выкідваў у юнацтве.

Прайшло хвілін дваццаць, я зноў выглянуў праз акно, а салдаты ўсё так і стаялі з падкурчанымі нагамі. Ужо нават пачалі, бедныя, хістацца.

Перавёў позірк на вароты, а нездагадлівыя дзяўчаты з вартавымі па-ранейшаму нешта шчабечуць.

Захацелася выбегчы ды накрычаць на іх:

«Бессардэчныя, зірніце вунь туды!»

## СПАЗНІЎСЯ

Ваўкавыск. Сын Д-ва трапіў за пакражу ў турму. На судзе падляцеў да яго бацька, дэманстратыўна выцяў наследніка па твары і заявіў:

— Ты больш мне не сын, ты мяне зганьбіў!

Малады Д-оў толькі кпліва ўсміхнуўся.

— Калі мяне б'еш? — сказаў ён.— Чаму не біў, як я быў малы? Тады не толькі не біў! Ты нават сам пасылаў мяне красці цэглу і кафлю, калі хату ставіў! Што, мо скажаш, няпраўда? Пасылаў кожную ноч!..

У зале — рогат.

## БАБУЛЯ

У аўтобус пнецца з кіёчкам сагнутая старая кабеціна. З тратуара бачыць яе намаганні малады рослы сержант. Ён падлятае, бярэ старую на рукі ды лёгка і беражліва ўносіць, як малую, у машыну, прыгаворвае:

— О-о, та-ак, бабуля, та-ак! Цяпер мы вас сюды паса-адзім ля акенца, а кіёчак тут во пастаа-вім, і вы сабе памаленьку паедзеце! Ну, бабулечка, шчасліва!

Зрабіўшы добрую справу, сержант спрытна выскоквае на тратуар, пнеўматычныя дзверы зачыняюцца.

Аўтобус ужо едзе. Пасажыры жыва абмяркоўваюць выпадак ды кажуць, што вось якія трапляюцца доб-

рыя маладыя людзі, а то іншы, зараза, не толькі не паможа, не ўступіць месца, а шчэ табе і папіхне старога чалавека.

Не прымае ўдзелу ў размове толькі старая; цьмяныя вочы яе глядзяць некуды ўдаль, застылы твар — без выразу.

— Цётко, то чаго ж вы яшчэ такая нездаволеная? — звяртаецца да яе праз два рады нейкая маладзіца.— Ён жа вас на руках нёс, так культурна абыходзіўся, бабулечкай назваў...

У аўтобусе ўсе змаўкаюць і з чаканнем узіраюцца на старую.

— Э-э, мілая, чаго тут радавацца? — раптам адзываецца яна глухім і абыякавым голасам.— Каб гэта ён назваў мяне дзе-евушкай!..

## ПРОСТАЕ ПЫТАННЕ

Пасля званка з задняй парты восьмага «А» ўстаў Андраюк Міша ды спытаў:

— Мар'я Іванаўна, скажыце, што такое каханне?

Памаўчаўшы крыху, класная заявіла:

— Цяпер, Міша, у нас Лермантаў. На перапынку падыдзі да мяне, і я скажу.

Вы думаеце, яна адвязалася ад яго?

Пасля ўрока ўжо дабягала да настаўніцкай, як вучань яе перапыніў.

— Мар'я Іванаўна, вы абяцалі мне расказаць, што такое каханне!

— Абяцала...— разгубілася яна вінавата.— О! Сёння, Міша, якраз я дзяжуру па школе да вечара і, разумееш, мне не да цябе!

— А калі скажаце?

— Ну-у... мо... А ты дома спытай у сваёй мамы!

Назаўтра Андраюк чакаў класную ў вестыбюлі.

— Я пытаўся ў мамы, яна не ведае. Сказала, каб растлумачылі вы.

— Гм... Дарагі Міша, як табе ўталкаваць больш зразумела... Ну, слухай! Ты маму сваю любіш?

— Люблю!

— І брата, і сястру, і мяне, сяброў, з якімі ў хакей гуляеш ды ў кіно ходзіш?

— І іх!

— Ну, дык чаго ж ты яшчэ пытаеш, калі сам ведаеш?

— Тады што такое дружба? Не, Мар'я Іванаўна,— закруціў ён галавой, расчараваны ў настаўніцы.— Паміж каханнем, любоўю да мамы і сяброў — розніца. Але — якая, каб хто растлумачыў? — уздыхнуў ён заклапочана.

«Вось і выраслі мае дзеці! — падумала яна журботна аб сваіх выхаванцах, якіх вяла з пятага класа.— Што ж, гэтага трэба было і чакаць. Трэба пагаварыць з дырэктарам і арганізаваць школьны дыспут».

І ў актавай зале ў бліжэйшую суботу ідзе ўжо дыспут на тэму: «Што такое каханне і што такое дружба». Выступаюць вопытныя людзі, заслужаныя дзеячы мастацтва, нават — адзін прафесар, які прыводзіць вельмі разумныя словы класікаў — ад грэчаскіх да сучасных. Усе гэтыя цытаты для выхаванцаў Марыі Іванаўны — гарох аб сценку. Ім трэба гаварыць канкрэтна, але што і як — класная і сама не ведае.

У зале моладзь сумуе — такога дыспуту лепш было б і не пачынаць. Сыплюць у прэзідыум яхідныя запіскі — так, усё ж такі, што такое каханне і якая розніца паміж адным і другім?

Раптам слова бярэ стараста восьмага «Б», пятнаццацігадовая Таня Гайко.

— Пра што тут доўга гаварыць — гэта ж так проста! — заяўляе яна ды ставіць кропкі: — Каханне, як сказаў паэт, словамі не акрэсліш, яго трэба адчуць сэрцам! А розніца паміж адным і другім такая: калі ты з хлопцам можаш у адным пакоі спакойна рабіць урокі — гэта будзе дружба, калі не — каханне!

## НЕ ВЫТРЫВАЛА

Вячэраю ў рэстаране. Прыблізна прыкінуў, колькі плаціць, і падрыхтаваў папяровага рубля.

Падыходзіць афіцыянтка і, гледзячы на мяне нахабнымі вачыма, ашуквае на пяцьдзесят капеек. Гэта так нечакана, што я моўчкі і таропка падаю пяцёрку. Гляджу ёй у вочы ды выразна бачу — афіцыянтка выдатна ведае, што я разумею яе падман.

Бянтэжуся, бытта вінаваты. А жанчына з развязнай упэўненасцю кладзе мне рэшту, адыходзіць да суседняга століка ды пачынае чагосьці крычаць на пажылога кліента:

— З-за вас разарвацца я тут павінна? Жонцы сваёй дома ўказвайце!

«Гэтым крыкам, хітруня, хочаш мяне запалохаць, заглушыць ва мне жаданне ўзбунтавацца? Ці тлуміш у сабе голас сумлення?.. Ат, ліха цябе бяры, карыстайся маімі капейкамі, мо не збяднею!..»

Прыглядаюся да грошай на стале. Гэ! Афіцыянтка памылілася — рэшты дала з пяцідзесяці рублёў! Што ж, толькі што адбылася грашовая рэформа, і з новымі купюрамі яшчэ блытаніна.

Падзываю жанчыну і аддаю лішнія грошы. Яна раптам... расплакалася.

## «ПАГАШАНЫЯ» ЯБЛЫНІ

Цёплай восенню Т. накіраваўся да аднаго дзядзькі па матэрыял для нарыса. Гадзін шэсць прасядзелі яны ў садку. За гэты час мужчыны абгаварылі пра ўсё на свеце. Т. уважліва выслухаў пра выпадкі, якія здарыліся ў гэтай вёсцы ў час вайны; хоць здарэнні былі значныя, але ж даўно ўжо апісаныя іншымі. Журналіст усё ніяк не вывуджваў ад чалавека такога, што б ярка яго характарызавала, не знаходзіў той крупінкі, якая дае іскру аўтару, а матэрыялу — аснову, сэрцавіну. Ну, хаваў ды лячыў параненых. Ну, вадзіў партызан на жалезку, ездзіў па іх заданні ў гарнізон, як ездзілі многія, пераправіў у лес тры вінтоўкі і аўтамат.

Мужчыны выпілі ўжо не адну чарку. Паелі ўсю смажаную рыбу. Т. перакаштаваў яблыкі з кожнага дрэва, даведаўся, які гатунак найбольш стойкі ад чарвякоў і ад марозу, а які дае ўраджай кожны год...

Сядзяць яны далей ды маўчаць. Т. пачаў у душы сябе лаяць, што дарэмна пёрся ў гэтую вёску. Ён падумаў з роспаччу — трэба развітвацца, ці што? Але ж як разлічыцца з камандзіроўкай? Т. з тугой у вачах павёў вачыма па вялізным садку, у якім цяжкія галіны з налітымі яблыкамі падпіралі сучкастыя рагулі.

— Гм, а як жа вы, дзядзьку, давалі сабе рады ў

вайну з гэткай прорвай фруктаў? — пацікавіўся Т.— Іх жа тут, мабыць, столькі, што ў вагон не ўбярэш!

Гаспадар ажывіўся.

— Ай, не кажыце! Сэрца разрываецца, калі ўспомню пра той час! У 1942 яблыні, як ніколі, далі многа цвету. Прыпёрся з гарнізона амтскамісар на машыне, пахадзіў па садку, пахадзіў, палічыў дрэвы ды запісаў сабе ў блакнот.

«Гут! — гаворыць і паказвае на дошкі, што ляжалі ў мяне пад акапам.— Пойдуць на тару. Калі возьмеш да восені на што-небудзь хоць адну дошку, пасаджу адразу ў Калдычава, фэрштэен?»

«Фэрштэен, пан,— кажу яму, а сам сабе думаю: — Табе гадаваць яблыкі? Дачакаешся, гад, але — трасцы ў бок!»

Амтскамісар паехаў, а я нарабіў лесвічак, узяў жонку, дзяцей і — на дрэвы! Цэлы тыдзень начамі гасілі яблыні: зрывалі квецце ў кошык ды валаклі закопваць у яму!

— І «пагасілі»?! — жахнуўся журналіст ды так паглядзеў на гаспадара, бытта ўпершыню яго ўбачыў.

— Усе-е пагасілі! — уздыхнуў са шкадаваннем дзядзька і паказаў рукой: — Унь там брацкая магіла таго квецця. Цэлага ўраджаю. А буйное было — як ружы!.. Прыязджае восенню амтскамісар, дзівіцца:

«Нікс яблык?»

«Нікс, пан,— прыбядняюся я.— Усю завязь халерны мароз пабіў!..»

Але Т. больш не слухаў. З пачуццём шчаслівага чалавека, якому пашэнціла раптам знайсці скарб, ён усхапіўся ды памчаў пісаць нарыс.

## ЯК МЯНЯЕЦЦА ЧАС

Сяджу ў Шарамецьеўскім аэрапорце, чакаю пасадкі, з увагай азіраюся, разглядаю аэрадром.

На гарызонце — са страшэнным ды глыбокім, як акіян, громам уразаецца ў неба сталёвая і бліскучая сігара, і вось ужо за ёй толькі расплываецца інверсійны след — гэтае «факсіміле стагоддзя».

Бліжэй агромністыя скрэперы ды бульдозеры раўняюць пляцоўку.

Вунь наш МАЗ з зубром на радыятары ўчапіўся за вялізнага ТУ і, як кузурка слана, валачэ, валачэ, валачэ яго да стартавай паласы.

А там два МАЗы прыладжваюцца ўжо да наступных сігар. Адна з іх, мабыць, мая...

Дзіва! У часы майго дзеда чалавеку з якой-небудзь Тулы ў Маскву трэба было мэнчыцца ў карэце цэлымі суткамі, а ўжо да нашага Мінска ці Гродна людзі брылі па лужах, трасліся на лясных калдобінах з добры тыдзень, а то і два. Я ж нават не палячу — куды там! Мяне во гэтаксама зараз выстраліць у нябесную высь такая ж сігара па балістычнай траекторыі, і я з імклівасцю аднаго маху, усяго за гадзіну дабяруся дадому, а за гэты час на мяне не паспее сесці нават і пылінка.

— Ліха на яго, якая выгода, якая тэхніка! — дзіўлюся ўголас.

— Што-о? — насцярожваецца малады і барадаты мой сусед з моднай папачкай на каленях.

— Тэхніка, кажу, каласальная, што нельга асягнуць і душой! Як мяняецца час, з якой выгодай людзі сталі падарожнічаць!..

— Тэхніка?

— Хіба ж не?! Азірніцеся вакол, малады чалавек!.. А што будзе яшчэ праз адно пакаленне, з якой раскошай і хуткасцю нашыя ўнукі будуць лётаць? Не ўяўляю сабе!

Сусед на мяне глядзіць, як на вар'ята.

— Гм, знайшлі чым захапляцца! — бурчыць ён.— Роўна ў восем гадзін мне, хоць памры, трэба чытаць лекцыю на сімпозіуме ў Ленінградзе, а я тут цэлых паўтары гадзіны чорт ведае чаго тырчу і ніяк не выберуся! А колькі туды? Якіх-небудзь няшчасных шэсцьсот кіламетраў, цьфу!..

## ЯК Я СТАВІЎ ТЭЛЕФОН

Перабраўшыся на новую кватэру, пачаў я думаць, як мне паставіць тэлефон. Усе, ад каго гэта залежыць, добра знаёмыя людзі. Кожны пры мне некуды звоніць і загадвае неадкладна знайсці свабодны нумар ды тэрмінова ўстанавіць пісьменніку К. апарат. Звоніць

гэтак адзін, звоніць другі, трэці, але нічога не дапамагае.

Не верачы больш у нешта рэальнае, заходжу да начальніка гарадской канторы сувязі. Бачу яе ўпершыню і шчыра здзіўляюся:

— Гм, ніколі не падумаў бы, што вы — начальніца!

— Чаму-у?

— Такая маладая, прыгожая...

— Скажаце вы...

Сімпатычная жанчынка разгубілася. У той жа час я выразна бачыў, што мае словы зрабілі ёй вялікую прыемнасць і яна ўся аж засвяцілася ад радасці. Мы пагаварылі некалькі хвілін.

У горадзе я трохі затрымаўся ды пра выпадак забыў. Вяртаюся дамоў — і сам сабе не веру: у маёй прыхожай блішчыць новенькім пластмасавым корпусам тэлефонны апарат!

## СІЛА МАЦЯРЫНСТВА

Пакінула я ў Бабруйску бабцы двухгадовую Святланку, а сама — у партызаны.

Зімой адправіліся мы на заданне. Трэба было пераправіцца праз раку каля самага гарнізона. Плылі мы паміж крыгаў, стараліся нават не дыхаць, ды раптам вялізнай крыгай лодку падняло, і яна перакулілася. На мне кажух, вінтоўка, рэчавы мяшок з пяццю кілаграмамі толу ды сотняй патронаў: я адразу так і пайшла каменем на дно.

Сабрала ўсе сілы, устрапянулася, стала выплываць. Стукнулася ў дНішча галавой ды зноў патанула. Гэтак другі раз, трэці, покуль не выбілася з сілы.

Канец мне! Адчула, што млею.

І тут успомніла светлую галоўку дачушкі ды падумала — а на каго ж яе пакідаю?! Аднекуль з'явіліся ў мяне новыя сілы. Нібы адкрылася другое дыханне.

Узяла я крыху ўбок ды вынырнула побач з перавернутай лодкай. На днішчы ляжалі нашы хлопцы.

— Таня, мілая, жыва-ая?!

Сябры дапамаглі. Успаўзла я да іх, і мы, грэбаючы рукамі ваду, дабраліся да берага. Толькі тут «дазволіла» я сабе абамлець — асунулася на снег без памяці.

## У ВАГОНЕ

Іван Мікалаевіч едзе ў Маскву. У купэ ён не адзін.

Сярэдніх год жанчына распранулася, лягла на ніжнюю лаўку ды стала чытаць кніжку. На ёй паркалёвы халат без рукавоў, тугая пляцёнка русай касы па-маладому закінута на грудзі.

Іван Мікалаевіч ляжыць на другой лаўцы, разглядае часопіс. Паміма волі яго вочы зрыкаюць на белыя плечы суседкі. Ён дакладна адчувае халадок яе рук, плячэй, шаўкавістую мяккасць валасоў...

«Цьфу, ліха тваёй матары, я ж — бацька дарослых дачок!» — лае сябе чалавек за грэшныя думкі ды рашуча бярэцца чытаць абзац спачатку.

Яму ўдаецца ўлавіць сэнс артыкула, але толькі на хвіліну. Зноў яго ўся ўвага пераключаецца на суседку.

Жанчына нейкімі біятокамі адчувае, што робіцца ў яго на душы.

Яна насцярожваецца, кладзе сабе на грудзі кніжку ды пачынае з ім гутарку.

Гадзіны тры абое вельмі міла і жыва гавораць пра тое, пра сёе, аднак Івана Мікалаевіча не пакідаюць ранейшыя эмоцыі.

Спыняецца поезд у Смаленску. Іван Мікалаевіч успомніў, што трэба абавязкова даць тэлеграму ў гасцініцу. У спадарожніцы просіць прабачэння, накідвае на сябе паліто, абуваецца ды выходзіць з купэ.

У калідоры пасажыр натыкаецца на заплаканую жанчыну з вырванымі гузікамі на світэры. Правадніца якраз падводзіць да яе міліцыянера і на хаду дакладвае:

— Таварыш сержант, вось якраз да гэтай, што плача, п'яны прыставаў! Ламаў рукі, цалавацца лез! Яны толькі дваіх былі ў купэ!..

Мікалай Іванавіч пайшоў на пошту ўжо вінавата і няўпэўнена, бытта злодзей.

## СУСТРЭЧА

Зіма. Еду праз Слонім гарадскім аўтобусам. У ім поўна народу.

У цэнтры машына спыняецца — тут, здаецца, мне выходзіць. Да пярэдніх дзвярэй не прабіцца, ціснуся праз заднія.

Аўтобуса чакаюць вучні з партфелямі, жанчыны з сумкамі, а наперадзе гэтага натоўпу тырчыць круглатвары мужчына ў багатым зімовым паліто з каракулевым каўняром. Выпадаю з аўтобуса якраз у абдымкі гэтага чалавека.

— Ці ведаеш, што выходзіць трэба праз пярэднія дзверы? — яхідна пытаецца ён.

— Ага! — прызнаюся.— І яшчэ ведаю, што ў машыну спярша заходзяць дзеці, жанчыны, старыя, а ўжо тады гэткія мардатыя, як ты!

У натоўпе закрычалі:

— Пра-авільна!

— Так яму і трэ-эба!

— Во, нарваўся!..

Праз дзесяць мінут заходжу выступаць у сярэднюю школу. Адчыняю дзверы ў дырэктарскую, а там з універсітэцкім ромбам на сінім касцюме ў шэрую палосачку чакае мяне... знаёмы круглатвары мужчына.

Даўно не перажываў такіх прыкрых хвілін і час не цягнуўся так доўга: выступаю перад дзесяцікласнікамі, адказваю на пытанні, дырэктар мне дзякуе, ад імя школы дае падарунак — макет школы, а мы ўсё прыкідваемся, што паміж намі нічога не адбылося.

## МАРУСЯ

Выйшла яна з лесу на сувязь з падпольшчыкамі ў Мінску. У кошык паклала магнітную міну, накрыла яе ягадамі, кавалачкам сала. Падумала — што яшчэ піхнуць? І паклала дзесяць яек (адно спецыяльна разбіла ды развэдзгала жаўток, каб выклікаць агіду ў ворагаў), шпулечку нітак ды пачку сахарыны.

— Стой, партызанская шкура, што нясеш? — затрымаў яе на мінскай шашы замухрышкаваты паліцай.

— Ой, дзядзечка, насіла, дальбо, у вёску тое-сёе вымяняць, во!.. Дома — мужык, дзеці, усіх карміць трэба, усе есці хочуць, а няма чым, дальбо, дык во я і схадзіла з дзяўчатамі!.. Яны ідуць, і я падумала — давай схаджу...

— Брашы, брашы-ы, так я і паверыў!

— Ісціны бог!.. Пашкаду-уйце мяне, дзядзечка, пусці-іце!

Паліцай пачаў грэбацца ў кошыку. Маруся выставіла яму дваццаць рублёў. Бобік з гідлівасцю абцёр ад жаўтка палец, хапіў грошы і ўдарыў яе нагой:

— Яшчэ пэцкаць, зараза, будзеш?!

Маруся не чакала ўдару, адляцела і ўпала, а кошык перакуліўся. Партызанка роспачліва згрэбла ўсю ношу прыгаршчамі ды — зноў! зноў! зноў! — у кошык усё! Бобікі так нічога і не заўважылі.

Адыходзячы, яна чула, як паліцаі гаварылі між сабой.

— Ну і пашкадаваў жа ты яе!

— На ўсе дваццаць! — пахваліўся недаростак.— Але ж і ногі задрала — аж кашуля бліснула!..

Бобікі здаволена заржалі.

## ТРОЕ

Шасцікласніца Лена ўголас зубрыць гісторыю. Яе брату, пяцікласніку і вучню музычнай школы Ваню, страшэнна абрыдла развучваць практыкаванні «на левую руку», «на правую», «на трэці палец», «на чацвёрты»... Хлопчык заняўся імправізацыяй.

Да піяніна ён прывалок восем паўлітровых слоікаў з-пад «Рагу з агародніны», вядро вады і кубак. У першы слоік ён налівае ваду, стукае па ім кіёчкам, а пальцам прабуе клавіш «до». Пад рукі лезе настырная балонка, хлопчык бесцырымонна яе адпіхвае ды з захапленнем працягвае няпланавы занятак. Яшчэ крыху, яшчэ. Цяпер толькі кроплю... І вось ужо звон шкла супадае з гукам струны піяніна. Напоўнены слоік ён нясе ў другі пакой.

Хутка ў яго там з'яўляецца цэлая гама з васьмі пасудзін.

— ...Сяляне плацілі феадалу аброк натурай, як, напрыклад, хлебам, быдлам, грашыма, і гэта называлася аброкам,— закрыўшы падручнік, гаворыць сама сабе з прыжмуранымі вачыма Лена ды раптам спахопліваецца: — Ванька, мамка казала, каб ты збегаў па хлеб і малако ў магазін — унь грошы ляжаць!

Хлопчык з неахвотай пакідае свае слоікі, бярэ сумку і грошы, ідзе да дзвярэй. За ім бяжыць балонка.

— Моцька, сядзі дома, я — на работу! — адпіхвае ён сабаку нагой ад парога ды выходзіць.

На двары пачынае ўжо цямнець. Ад мокрага снегу стаіць лёгкі туман. На пустой вуліцы відзён адзін школьнік. У Вані ля ног шлёпаецца снежка ды абдае яго пырскамі.

— Эй, пацан, куды я табе трапіў? — цікавіцца незнаёмы.

Ваня ўвесь перапоўнены запалам творчасці, заклік да знаёмства не прымае.

— І нікуды ты не трапіў — за кіламетр ад мяне яна ўпала! — кпіць ён ды бягом кідаецца ў хлебны магазін.

Вярнуўшыся дамоў, хлопчык папрывязваў да слоікаў драцяныя дужкі, прасадзіў пад іх кіёк, абодва канцы паклаў на спінкі крэслаў і давай выстукваць гаму. На дзіва, у яго ўжо не «до», не «рэ», не «мі»...

Што за ліха?!

— Ленка, ты ваду адліла? — нападае ён на сястру.

— Прывецік! Не бачыш, што я нават ад стала не адыходжу?

Заклапочаны брат зноў валачэ слоікі да піяніна, клёпае пальцам па клавішах, далівае па кроплі ды носіць слоікі ў другі пакой. Чуваць, як сястра ўсё зубрыць:

— Добра. А цяпер мы паўторым яшчэ раз. Адрабляць феадалу працадні будзе называцца — бар-шчынай, а плаціць натурай — аб-рок. На аброк яны аддавалі пану быдла, грошы, хлеб... Ванька! — заглядвае яна ў сумку і робіць вялікія вочы: — А дзе малако-о? Ы-ы-ых, не купіў?! Бессаромны ты ўжо зусім — мама ж хутка вернецца!..

Брат нездаволена бурчыць, хапае сумку, адпіхвае ад дзвярэй балонку ды імчыць у магазін яшчэ раз.

Прынёсшы пакупку, Ваня чапляе слоікі на кіёк ды

бярэцца выстукваць мелодыю. Гама фальшывіць зноў.

— Ваду зноў ты выліла? — Ваня з кулакамі кідаецца на сястру.

Вяртаецца дамоў маці, а дзеці б'юцца. Яна іх сяк-так мірыць, ды пачынаюць яны ўсе разам шукаць прычыну загадкавай з'явы. Раптам глядзяць, а з аднаго слоіка Моця... хлябае ваду.

## ЧАРЦЯНЯКА

Быў я камендантам лагера ваеннапалонных ля Вінніцы. Немцы тады жылі амаль на свабодзе, перазнаёміліся з насельніцтвам, некаторыя нават завялі сабе сімпатыі, і ў выніку — адна ўдава нарадзіла ад палоннага дзіця.

Прыйшоў загад — і немцаў пасадзілі ў эшалоны ды адправілі ў Германію. Адправілі нечакана, за адну ноч.

Назаўтра ўбягае да мяне ў кабінет удава, кладзе на стол малога, крычыць:

— Отправыв батька, а ёму шчо робыты?! То бэры вжэ й його, бусурманэ ты! Він жэ выростымэ і по-руску понымаиы не будэ, як жэ з ным балакаты стану, як він будэ жыть?!

— Акса-ана, што ты вярзе-еш, ці пры сваім ты розуме?! — пачынаю супакойваць украінку.

— Я-то пры своім, а ты — здурів, як фашыст зробывся!.. Нэ мог одну людыну покынуты, дытыну загубыты хочэш!.. Ну, як жэ мэні балакаты з ным, колы выростымэ, як він тут компанію знойдэ?!

Адвёў я ўкраінку дамоў і давай тлумачыць, што малы стане гаварыць так, як гаворыць яго маці.

— Брэшэш?! — недаверліва ўставілася яна на мяне.— Побожысь, шчо нэ підманываеш!

— Дальбо, будзе! Успомні, Аксана, хто з тваіх знаёмых замужам за нярускім — за татарамі, армянамі, грузінамі... Як дзеці іхнія гавораць? Як маці. І твой, дурніца, будзе гаварыць так, як ты, пабачыш!

Кабета ўзрадавалася:

— Ніўжэ? От, добрэ! Бо вжэ його я, чэртэняку, люблю більшэ всёго на свіце!

## ПОГЛЯД НА МАСТАЦТВА

Прывозіць мяне старшыня калгаса на поле ды аб'яўляе:

— У гэтым годзе, брат, здорава яравыя ўрадзілі! Ты разумееш: уволю даў мінеральных, хімікатамі лётчыкі прапалолі, дажджоў было дастаткова — збажына вырасла, аж страх! Бачыш, якая салома? Кладзіся на яе, а яна вытрымае!..

— Бачу, ураджай выдатны. Віншую!

— Не ты першы мне гэта кажаш!.. Думаеш, для гэтага я цябе вёз, каб пахваліцца адно? Намалюй ты, калі ласка, мне яравыя на карціне!

— Як гэта?! Гм... Мо лепш табе фатографа запрасіць?

— Не-е, псаваць эфекту не хачу! Мне трэба фарбамі! І карціну — як найбольшую! На цэлую сцяну ў новым клубе! Чаго рагочаш? Ты толькі падумай: адзін авёс дасць на круг — мы з аграномам падлічылі — па сорак пяць цэнтнераў з га, а ячмень, а пшаніца — яшчэ больш! Калі такое было, падумай?! Разбагацеем, грошы будуць, табе не пашкадую восенню! На мастацтва? Ніколі! Малюй хутчэй, покуль не перастаялі яравыя, покуль салома наліта сокам! У тым доме жыць будзеш, з гаспадыняй я ўжо дамовіўся, каб цябе карміла, як дачніка!..

Вядома, я адмовіўся.

Знайшоўся, аднак, аматар на грошы, жыццё дачніка і яравыя «намаляваў». На дваццаці трох квадратных метрах. Наша майстэрня выканала ўсе планы!

З таго часу ў вачах былога сябра я праслыў гультаём і чалавекам несучасным.

## ІНСТРУКЦЫЯ

Дванаццатая гадзіна ночы. У рэстаране — імяніннікі, камандзіровачныя, а мо нават — звычайныя гультаі. Усе ў касцюмах, пад гальштукамі...

Нясмела ўваходзіць у бліскучай ад саляркі спяцоўцы пажылы мужчына. Афіцыянткі не пускаюць яго да стала, і ён кліча адміністратара.

— Я — экскаватаршчык,— стомлена ўздыхае чалавек.— Прыгнаў у ваш горад экскаватар з Цярнопаля, з Заходняй Украіны. Чацвёра сутак у дарозе!.. Халерную машыну заносіла, цэнтроўка ў ёй няправільная!.. Быў увесь час на сухім... Хацеў у сталовую ды, ліха на іх, усе зачыненыя!.. Мне б якой-небудзь стравы крыху ды чаю пару шклянак...

— У такім вы-глядзе?! — прыходзіць у жах франтаваты адміністратар.

— Прабачце, вопраткі іншай не маю — не вазіць жа яе мне з сабой!.. Вы мяне ў куточак прымасціце куды-небудзь, я ўсё разумею, ніхто мяне не ўбачыць!..

Адміністратар б'е сябе кулаком у грудзі:

— Не маю права!

— Хто вас цяпер таго права стане пытацца?

— У мяне інструкцыя!

Ад думкі, што і тут застанецца ні з чым, экскаватаршчыку захацелася есці яшчэ мацней. Ён з роспаччу абводзіць вачыма хмельныя твары, рухомыя сківіцы, што лянiва перажоўваюць адбіўныя ды чагосьці рагочуць, і яму пачынае здавацца: ён сніць, што на віду ў людзей тане, а праз сон да яго далятае смех і нечые словы:

«Не маю пра-ава!.. Інстру-укцыя!..»

## УЗАРВАЛА

Сваякі з Гнойніцы запрасілі на вяселле педагога з Гродна. Маладая ўперлася, каб вянчацца толькі ў царкве. Сорамна настаўніку туды ехаць, але, падпіўшы, хлопец падумаў — ніхто ведаць са сваіх не будзе, а ён жа яшчэ ніколі ў жыцці не бачыў, як вянчаюцца перад аналоем, і, мабыць, гэта вельмі смешна ды цікава.

І вось у халодным, як склеп, храме цьмяна гарацъ свечкі, тоўпяцца бабулі, бліпічаць іконы з журботнымі тварамі, бялее худзёрнае цела Хрыста на крыжы, а перад аналоем цярпліва стаяць ды мерзнуць малады з маладой, апранутыя па-летняму; бацюшка глядзіць у

пажоўклую, з закапанымі воскам старонкамі, кнігу, манатонна штосьці сабе бубніць...

П'янаваты настаўнік узіраецца на ўсё гэта і не знаходзіць нічога ні цікавага, ні смешнага, а выпітае віно робіць у ім сваю работу. Праз хвіліну юнак не вытрымлівае: ён кідаецца да бацюшкі, адбірае ў яго кніжку і крычыць:

— Ах, лодыр стары! Як табе, сівому чалавеку, не сорамна? Калі я іду на фізіку да сваіх вучняў, дык кожны ўрок ведаю на памяць, а ты, падла, усё жыццё робіш адно і тое самае ды з павагі да гэтых кабет ды бабуль не можаш вызубрыць свайго матэрыялу?! Часу ў цябе мала, гультай?!

Бабкі кінуліся ратаваць свайго духоўнага пастара.

...З той пары мінула ўжо амаль трыццаць гадоў. Настаўнік нават забыў пра ўзбучку, якую ён атрымаў на мясцкоме за тыя вясельныя прыгоды. Даўно памёр і стары поп, а тую вёсачку перайменавалі на Вішнёўку. Але і цяпер у ёй са смехам расказваюць гасцям пра даўні выпадак.

## ПРЫНЦЫПОВАЯ МАМА

Паехала мама ў Кіславодск, пакінула Танечку з бабкай дома.

Пайшла ўнучка са старой у парк.

— Бабця, а во — на дрэве грыбы!

— Апенькі, дзетка, апенькі.

— А іх можна есці?

— Чаму не? У вайну, бывала, імі адно і ратаваліся. Насма-ажу тваёй маме, калі яна гэткая была, як ты...

— А гэты чарвяк дажджавы?

— Дажджавік.

— Яго таму так называюць, бо ён з дожджыкам падае з неба?!

Унучка са старой тэпаюць, так сабе гутараць, і натрапляюць яны на схуднелае кацяня. Яно залезла ў лужыну, бездапаможна азіраецца і жаласліва мяўкае.

— Ой, коцік!.. Баба, і нямецкія каты так мяўкаюць?

Фашысты калісьці вывозілі жанчыну ў Германію, і гэта было ў іх частай тэмай для гутарак.

— Аднолькава, дзетка. І ўсе людзі аднолькава плачуць, калі ў іх гора...

— А дзе яго мамка?

— Мо сабакі разарвалі ці машына раздушыла, і сірата яно... Мо проста заблудзіла ў горадзе... Жарты — столькі дамоў, народу, мітусні!..

— Эх, няшча-асненькі ты мой кі-іса!.. Хадзі, хадзі сюды: на, коцічак, на, на, на, на!..— нагнулася над стварэннем малая.— Ой, які мо-окры, хало-одны!.. Бабуся, давай возьмем яго дадому!

— Возьмем, унучка.

Цяпер малая дома пазнавала свет праз кацяня.

— Баба, а на лапках у яго пёркі?

— Гэта ў птушак пёркі. А ў катоў — шэрстка.

— А што рабілі каты ў вайну? А чаму ён не так пахне, як людзі? І яму тое самае сніцца, калі спіць? Бабця, а лятучыя каты бываюць?..

Жылі яны гэтак утраіх месяц, і было ім вельмі добра. Кацяня стала бліскучым, рахманым і ласкавым коцікам. Як бы з-за таго, што многа выцерпеў, нібы з удзячнасцю да дзяўчынкі, ён увесь час фокуснічаў на падлозе, дурэў з малой.

Цэлы месяц радавалася і малая: у яе быў друг. Чатыры гады свайго жыцця яна толькі брала: маладая пупышка будучага чалавека ўпершыню спазнала шчасце ад таго, што яшчэ больш прыемна даваць. Малая была перакананая, што на гэтым свеце ўсё ўладкавана і добра так ёй будзе заўсёды. Разумела яе мудрая бабка, радавалася за ўнучку.

Але ўсё пайшло па-другому.

Танеччына мама не любіла катоў. Прыехала яна з санаторыя ды залямантавала:

— Фу, у яго блохі, мікробы! Ён смярдзіць! Нясіце яго хутчэй на двор!

— Мама, ма-амка, там ён памрэ! — спрабавала пераканаць яе дачка.

— Нічога не ведаю, зараз жа выносьце гэтую агіду! Ён мяне ўсю заразіў лішаямі!

Мама была прынцыповая, нічога не памаглі Таніны слёзы і асцярожныя просьбы старой. Яны мусілі слухаць.

Бабка з унучкай узялі коціка ў карзінку, аднеслі пару кварталаў ды пакінулі яго знаёмым. Вярнуліся дамоў, а ён, хітрун, ужо іх чакае. Даверліва трэцца аб ногі малой, ціха мурлыча.

Паперла іх прынцыповая мама другі раз. Ката завезлі аўтобусам ужо за Нёман, кот больш не вярнуўся.

Цяпер Таня не можа забыць сябра. Яна часта сумуе, бывае рассеянай і няўважлівай, забывае нават пацалаваць маму на ноч. Тая бачыць дзіўныя паводзіны дачкі, але не разумее, што тут робіцца. Прыдумала ёй дыету, часта мерае тэмпературу, дабілася прыёму ў прафесара-педыятара. Нічога не памагло — і яна пачала верыць у «дурное вока».

Эх, мамы, мамы!

## БАБКА І ШАФЁРЫ

Спатрэбілася чагосьці старой у суседнюю вёску. З транспартам цяпер проста, і пешшу ходзяць мала. Бабка затрымала саўгасны аўтобус і едзе. На жаль, машыне трэба неўзабаве зварочваць.

— Дзякую богаві, мой саколік, што ты хоць крыху падвёз мае старыя косці! — кажа яна шафёру, нязграбна выбіраючыся з аўтобуса.

Маладому хлопцу хочацца парысавацца перад пасажырамі. Ён па-блазенску дзівіцца:

— То каму ж ты, бабка, дзякуеш? Хто цябе вёз — бог ці я?

У аўтобусе смяюцца.

Тэпае пакрыўджаная старая далей, але больш машын не затрымлівае.

Старую даганяе аўтобус з санаторыя. Шафёр не нацешыцца сваім новенькім «рафікам». Яму яшчэ не абрыдла падбіраць па дарозе ўсіх, без разбору. Убачыўшы бабку, хлопец спыняе машыну сам:

— Садзіся, бабка!

Прыязджаюць на месца. Бабка на гэты раз выбіраецца з аўтобуса моўчкі.

— От некультурная старая! — лаецца шафёр.— Нават не падзякавала! У-у, ведзьма, баба-яга! Каб я другі раз такую браў — хай на мятле ездзіць!

## ЧОРНЫ КОТ

Ініцыятыўны дырэктар гарадскога парку ў былой аранжарэі зрабіў маладзёжнае кафэ. Звычайнае шкло ў каркасе замяніў каляровым. У фае мастакі паставілі з фанеры чорнага ката з вусамі, з прыязна задраным хвастом, з зялёнымі пражэктарамі вачэй — хітрага і смешнага. Кожнаму, хто ўваходзіў, ён як бы казаў: давай, давай, братка, смялей, мы цябе даўно тут чакаем!..

Адным словам, атрымалася арыгінальна. Моладзь хлынула ў кафэ на танцы. І хоць назва яго афіцыйная была іншая, сваё новае прыстанішча юнакі і дзяўчаты назвалі «Чорны кот».

Камусьці кафэ не спадабалася, і паступіла скарга ў гарком камсамола. У кафэ завітала адна камісія, другая, але нічога не магла сказаць. Наадварот, камсамольцы яшчэ і пахвалілі:

— Мадэрн, па-сучаснаму!

Тады ў былой аранжарэі з'явіўся самы галоўны пенсіянер. Ён удумліва курыў і доўга глядзеў то на рознакаляровае шкло, то на фанернае стварэнне, то на дырэктара. Затым рэзка кінуў папяросу на падлогу, растаптаў яе абцасам і сказаў:

— Гм — чорны кот! А вы ведаеце, што калісьці была такая банда?!

Дырэктар наіўна здзівіўся:

— Ага, кажуць, была. Ну і што? Якое гэта мае дачыненне да нашага кафэ?

— Як гэта — «што»?! Спачатку ў маладога чалавека гэтае самае кафэ «Чорны кот». Затым — чорныя думкі. А потым і — чорныя ўчынкі! Вось так у нас і з'яўляюцца бандыты! Годзе, каб не было бандытаў заўтра, кафэ трэба закрыць сёння!

— Тава-рыш пенсіянер! — узмаліўся дырэктар.— Навошта такі максімалізм? Гэтак жа сама я мог бы сказаць і пра вас: вось вы зараз тут у мяне кінулі на падлогу недакурак, заўтра можаце кінуць сваю жонку, паслязаўтра...

— Ты яшчэ замалады мяне вучыць! — затупаў стары чалавек нагамі ды ад злосці зрабіўся аж бурачковы.

І з той пары не стала кафэ «Чорны кот».

## У ХІРУРГА

Хірург Ася Майсееўна сядзіць за сталом і піша.

Адчыняюцца дзверы — неўрапатолаг уводзіць старую. У незнаёмай шырока адкрыты рот, але хірург не ў гэтым бачыць бяду. Яе напрактыкаванае да паламаных рук і ног да розных вывіхаў вока спыняецца на вывернутых ступаках кабеціны.

— Ася Майсееўна! — заклапочана просіць малады неўрапатолаг.— Паглядзіце, калі ласка, што з ёю?! Я ў гэтай бабкі ўсё-ўсё праверыла, ды ўсё-ўсё, здаецца, у норме! Тваравы нерв — эн! Рэфлекс на руках — эн! Нервы жывата — эн! Рэакцыя вачэй — эн!.. Усё эн! эн! эн! Аднак у яе параліч. У чым справа, ніяк не зразумею! Паглядзіце яшчэ і вы!

— Які пара-аліч, яна ж — хо-одзіць?! — дзівіцца хірург яшчэ раз на вывернутыя ступакі старой, а тады глядзіць ёй у разяўлены рот.— Што з табой, мі-ілая?!

— А-а-а!..— бездапаможна стогне кабеціна і тыкае пальцам некуды ўверх.

Ася Майсееўна бярэ старую за ніжнюю сківіцу ды рэфлекторна штурхае ўверх. Старая не паспела нават войкнуць, як сківіца стала на сваё месца.

Выцершы рот белай хусцінкай, старая кабеціна на каталіцкі манер — цэлай пяцярнёй — набожна хрысціцца тры разы, уздыхае ды з палёгкай кажа:

— Ну, слава Езусу Хрыстусу, усё-о!

— Гэ! Яна загаварыла?! — дзівіцца неўрапатолаг.

— Так што здарылася, скажыце мне, урэшце?! — нічога не разумее Ася Майсееўна.

— Каля нас, пані дакторка, загарэўся дом. Выбегла я на вуліцу у чым стаяла, сказала — а! — ды не змагла больш закрыць рота! Езус Хрыстус, мацер божая, за што на мяне такая кара?!

— Ввывіх сківіцы, гэта бывае! — тлумачыць хірург.— А што з тваімі нагамі, мілая?

— Ат, глупства!.. Пераблыталі ў спешцы чаравікі! Правы абулі на левую, а левы — на правую нагу!.. Нявесткі так мне іх нацягнулі, выпраўляючы да вас, калі «хуткая» прыехала!.. Нічога, у калідоры пераабуюся!

## НА ВЫКАНКОМЕ

Дырэктар гарпарку робіць справаздачу аб рабоце з дзецьмі і цярпліва пералічвае: правялі дзень птушак і павесілі сто шпакоўняў, школьнікі пасадзілі сем тысяч кустоў, нарыхтавалі тры мяшкі каштанаў, зрабілі яшчэ тое, зрабілі гэта...

На заканчэнне дырэктар хваліцца, што з Ленінграда для малых ён выклікаў цырк звяроў.

— Каб не думалі, што ліпа, вось вам фота з мерапрыемства!

Вялікія здымкі пайшлі па руках. На фота пацешныя мішкі катаюцца на шарах, ездзяць на веласіпедах, а вакол з усмешкамі да вушэй — шчаслівая дзятва. Члены выканкома разглядаюць іх, салідна маўчаць. Наступае хвіліна, калі трэба камусьці выказаць першую думку.

Дырэктар мясакамбіната, вядомы сваёй прыдзірлівасцю, нападае на дакладчыка:

— Думаю, што яму нельга дазваляць і далей кіраваць важным участкам ідэалагічнай работы! Паглядзіце, таварышы члены выканкома, куды ён хіліць! Замест таго каб весці арганізацыйна-масавую работу сярод піянераў — сярод нашай змены! — замест таго каб цесна ўвязаць іхнюю дзейнасць з сучаснасцю, надзённымі пытаннямі, чым мы ўсе жывём, дырэктар парку вядзе іх да звяроў, у тайгу, да мядзведзяў!

У падтрымку таварыша кінуў рэпліку яшчэ адзін разумнік. Стаіць бедны дырэктар, пераступае з нагі на нагу, уздыхае.

— А вы чаго маўчыце? — пытаецца старшыня выканкома.

— Думаю.

— Аб чым?

— Што б сказалі мядзведзі на гэтую дэмагогію.

Выбухае дружны рогат. Далей абмеркаванне ідзе ўжо зусім у іншым напрамку.

## ГРЫБЫ

Жыў я ў доме творчасці і выбраўся па грыбы.

У лесе спатыкаю з кошыкам у руках свайго рэдактара. Гляджу, а ён ледзь не наступіў на два баравічкі і, як нічога не бывала, паўзе сабе далей — от сляпак!

— Ай, Уладзімір Мікалаевіч, прамазалі! — папракаю яго ды ныраю падбіраць грыбы.

— Ну цябе к чорту! — раззлаваўся не на жарты чалавек.— У мяне свая сістэма збірання, я яшчэ хацеў ісці назад і падабраў бы, ды нанесла цябе якраз!

Заўтра нам давядзецца сядзець разам над маім рукапісам. Халера, каб не пашкодзіла мне гэта для кніжкі?!

— Ладна, бярыце, калі так...

Але ён паказвае фанабэрыю — маўчыць і да грыбкоў не падыходзіць.

— Тады няхай нікому не будуць! — уздыхаю са шкадаваннем.

— Ну і няхай застануцца тады! — адыходзіць абражаны рэдактар.— Вечна ты ўлезеш не ў сваё ды сапсуеш песню!

Але, скажыце, які магутны ў чалавека інстынкт збірання! Адышоўся я крыху — і мяне разабрала. На якое ліха паддаюся, чаму іх пакінуў? Ну і што, калі ён — рэдактар? З-за гэтага зарэжа мне кніжку? Хай толькі паспрабуе! А грыбы мае! Хто іх першы ўбачыў? «У мяня свая сістэ-эма!..» Проста ты слепаваты, табе дома сядзець, а не па лесе хадзіць!.. І куды гэта я ўлажу, якія песні псую?! З табой яшчэ паваю-у-ю!..

Асцярожна выбіраюся з гушчару ды крадуся да баравічкоў. Яшчэ здалёк бачу іх белыя карэньцы ды бардовыя шапкі. Зірк — а з другога боку ледзь не папластунску паўзе да іх і... фанабэрлівы рэдактар. Паўзе нязграбна, насцярожана ды ўважліва разглядаецца. Раптам бачыць мяне.

Нямая сцэна!

## ПЕРАРАДЖЭННЕ

Напалеон-консул свае войска паслаў на востраў Гаіці, які захапілі ўзбунтаваныя негры. Якое ж было здзіўленне французаў, калі яны ў абкружанай крэпасці пачулі магутную мелодыю «Марсельезы». Сотні гераічных неграў паўстанцаў спявалі яе ўзнёсла і апантана, як малітву.

Толькі тады ўдзельнікі экспедыцыйнага корпуса зразумелі, што рэвалюцыя мёртвая, іх ашукалі, яны тут выступаюць супроць таго, за што яшчэ нядаўна на радзіме ішлі на смяротны бой.

Аднак гэта ім не перашкодзіла ўзяць крэпасць штурмам і ўсіх абаронцаў выразаць. Бо з рэвалюцыянераў яны сталі звычайнымі цэрберамі.

## УРОК З НАГЛЯДНАСЦЮ

У дзевятым «Б» праходзілі якраз «Вайну і мір». Настаўніца талкавала вучням пра тое, як Леў Мікалаевіч Талстой паказвае ў рамане Напалеона. Яна разбірала сцэну, калі пасля Аўстэрліца, толькі дзеля таго каб здаволіць свае ганарлівае самалюбства, на страшнае месца разгрому саюзных армій уздумаў прыехаць сам Банапарт.

Настаўніца вобразна малюе, як гэты маленькі, нікчэмны, але ўладалюбівы эгаіст і пазёр велічна, са скрыжаванымі на грудзях рукамі азірае жудаснае поле з тысячамі ні за што ні пра што загубленых ім чалавечых істот, як, трымаючыся адпаведнай дыстанцыі, маршалы, генералы і ад'ютанты яму лесцяць:

«Сір, тут ляжыць храбрая пяхота, пасечаная тваімі непераможнымі драгунамі!..»

«Сір, а во — уся іх артылерыя!..»

«Там, сір,— адважны рускі князь...»

Моладзь успрымае карціну як жывую, і ў класе пануе атмасфера сур'ёзнай эмацыянальнай напружанасці, так пажаданай у працэсе навучання.

Ніхто і не заўважыў, калі адчыніліся дзверы.

У класе паказваюцца прыстойна апранутыя людзі, а на чале іх — вядомы ў раёне кіраўнік. Маленькая

яго фігурка для важнасці секунду затрымліваецца на парозе, а тады плыве да стала. У адпаведнай дыстанцыі за ім рухаецца і світа.

Хударлявы мужчына спыняецца пасярэдзіне класа ды робіць пыхлівую позу. Не павітаўшыся, не папрасіўшы ў настаўніцы прабачэння, ён позіркам без ніякага выразу паволі абводзіць сцены над галовамі здзіўленых вучняў і настаўніцы.

— Ну-ну, то чым вы тут займаецеся? — расцягваючы словы, унушальна пытаецца ён тонам мецэната.

— Мы?..— разгубілася настаўніца.— «Вайной і мірам»... Урок літаратуры ў нас...

— Па праграме! — падказвае ад дзвярэй завуч.

Мужчынка ва ўме як бы ўзважвае значнасць сказанага педагогамі і пасля паўзы сцвярджае:

— Та-ак!

— Напалеона праходзім...— чамусьці яшчэ больш вінавата гаворыць жанчына.

Госць тонам шчодрага дабрадзея заўважае:

— Напалеона? Гм, гэта до-обра! Гэта нічо-ога!.. Займайцеся, займайцеся сабе!..

— Тут — кабінет літаратуры, Аляксандр Восіпавіч, у іх! — паслужліва і з пачцівасцю нагінаецца да начальніцкага вуха, гаворыць — бытта вялікі сакрэт — высокі ды на цэлае пакаленне старэйшы загадчык гарана.— У іх нават тры магнітафоны ёсць!.. Вось тут, стаяць у гэтай шафе!..

«Начальства» нібы не чуе, і загадчык абрывае фразу ды гасіць няёмкую ўсмешку.

Маленькі мужчынка яшчэ раз велічна абводзіць вачыма сцены, затым гэтак жа сама важна і размерана плыве да выхада, а за ім крочаць астатнія.

Калі за імі зачыняюцца дзверы, дзевяцікласнікі, як па камандзе, выбухаюць рогатам. Хлопцы і дзяўчаты смяяліся доўга, ад душы. Разам з імі шчыра, да слёз, рагатала і настаўніца. Яна захлыналася ад трапнай выпадковасці — трэба ж, каб якраз у гэты момант зайшлі, ні раней і ні пазней, а — у самы раз, бытта іх хто падаслаў!..

Яшчэ радасна смяялася настаўніца і таму, што яе выхаванцы гэткія разумныя, ім не трэба нічога разжоўваць і з іх, напэўна, выйдуць выдатныя людзі.

## ГОЛАС

Мне скончылася шаснаццаць гадоў. Пачала хадзіць у сіняй блузе ды чырвонай касынцы. Стала ўжо неспакойна ўздыхаць, цікавіцца танцамі ды чагосьці чакаць, выглядваць...

Аднойчы вешаю на двары свой мокры камбінезон ды раптам чую голас.

Гэта — ЁН! — устрапянулася ва мне нешта, і я абмерла.

Адразу і закахалася.

Ён быў п'яніца і, здаецца, распуснік, хадзіў заўсёды [illegible] брудным каўняром на плашчы, у зашмальцаванай кепцы, але мне, такой чысцюлі, чамусьці не перашкодзіла гэта ані трошкі. Наадварот, усё ў ІМ здавалася мілым, чароўным, прывабным і значным. І стала я цяпер кожны дзень мыць ды выносіць сушыцца свой камбінезон, бялізну, абы пачуць ЯГО яшчэ раз.

Нарэшце ЁН зрабіў ласку — звярнуў на мяне ўвагу. Падараваў нават яблык. Толькі сам чамусьці ніколі больш на нашым двары не з'явіўся; мажліва, што яго ўзялі ў армію, а мо трапіў і ў турму — не было мне ў каго спытацца.

Маленькае чырванабокае яблыка я паклала ў запаветнае месца і ледзь не малілася на яго, покуль яблыка не згніло і не стлела зусім.

З той пары праляцела ўжо больш як сорак гадоў. Я ніколі не даведалася нават, як ЯГО зваць. Але выразна памятаю ЯГО голас. Памятаю яго з усімі адценнямі і нюансамі. Часамі і цяпер яшчэ імі жыву.

## СТЫХІЯ

### 1

У канцы красавіка 1958 года ў Нёмане прыбыло столькі вады, што ён выйшаў з берагоў. Кажуць, паводкі такой яшчэ не было з таго часу, як жывуць у Гродне людзі.

А разліўся так Нёман вось чаму.

У вытоках гэтай ракі ляжаць Навагрудскае і Мін-

скае ўзвышшы. Там заўсёды бывае многа снегу, але растае ён, на наша шчасце, тыдні на два пазней, чым сходзіць з палёў пад Лідай, Мастамі, Скідалем, Гроднам і Друскенікамі. Такім чынам талая вада з нізоўя ды сярэдзіны ракі паспявае ўплысці да Балтыкі ды апаражніць рэчышча для талага снегу з-пад Навагрудка і Мінска.

У гэты ж год снег растаў адначасова ўздоўж усяго Нёмана, яго прытокаў, і карыта цэнтральнай воднай магістралі раптам стала замалое, вада гвалтоўна выйшла з берагоў. Рэчка ў Гродна затапіла піўзавод, заліла лесапілку насупроць абкома партыі, хлынула на прынёманскія вуліцы, а ў вобласці апынулася пад вадой 480 вёсак ды сотні хутароў! Месцамі вада ўзнялася на 10 метраў вышэй нормы!

І вось табе наш «ціхі» Нёман.

Ён бурліць, пеніцца ды дзіка, нецярпліва і з хуткасцю 18—20 кіламетраў у гадзіну прэ аграмадную масу жоўта-бурай вады ў Балтыку. Пазносіў выступы берагоў, лавыпраствоў сабе рэчышча, захапіўшы сотні гектараў выганаў, балот і сенажацяў, злізаў масты і мосцікі, бетонныя пліты на ўзбярэжжы ў Гродне, як карова языком злізаў з паверхні зямлі тэлеграфныя слупы і мачты высакавольтных ліній — бетонныя, жалезныя, драўляныя.

Ад жудаснай стыхіі не адарваць вачэй.

То верхавінкамі, то карэннямі дагары куляюцца на плыні выносныя елкі, сосны і дубы.

Як мокрыя парасоны, плывуць уздутыя коні, каровы, свінні ды авечкі.

Бытта тысячы, дзесяткі тысяч запалак, высыпаных у ваду, плывуць, бязладна таўкуцца і падскокваюць бярвенні ад разбураных хат, свірнаў і хлеўчыкаў — круглыя, абчэсаныя, з пазамі, з абламанымі канцамі і абтрапанымі, як мачала.

Недзе размыла могілкі, і вада, нібы з цацкамі, гуляе сабе трунамі — то выставіць іх цёмным бокам, то белым нутром, то выстраліць уверх крыжам.

Галоўны мост пад нагамі дрыжыць і хістаецца, бытта ён картачны домік, а не з масіўнага бетону, бытта вось-вось абрынецца з машынамі і людзьмі ў пякельны водаварот — жанчыны баяцца да яго нават падыходзіць.

Стыхія гудзе, раве, скрыгіча і свішча — як у вайну грымела артылерыйская кананада ў часы артпадрыхтоўкі. Гэтае гудзенне, бытта вар'яцкі лямант, каторы дзень раздаецца магутным рэхам нават за кіламетр ад берага — і на Савецкай плошчы. Каб цябе зразумелі, трэба да людзей крычаць з усяе сілы.

Гродзенскія галкі збіліся ў вялізную чараду і дакладна так, як яны гэта рабілі ў вайну пад час бамбардзіроўкі горада, з дзікім і трывожным лямантам ды ў паніцы, бедныя, шугаюць то ў занёманскую частку горада, то цэлай хмарай і гэтак жа сама высока з крыкам імчаць зноў назад.

Але трагедыю не ўсе так прынялі да сэрца.

Дом ля Гараднічанкі, дзе яна ўпадае ў Нёман і канчаецца адхон старога замка, стаяў, здавалася, даволі высока на беразе, а цяпер і ён увесь пад вадой. Выстае толькі хрыбет даху са шпакоўняй. Шпачыха сабе сядзіць на яйках, а яе каханы на перакладзіне радыёантэны высвіствае нешта мажорнае і вясёленькае, бытта нічога і не здарылася. Аднекуль прыплылі стомленыя качкі. Яны вылезлі на хрыбет даху ды пачалі старанна чысціць пёркі. Шпак змоўк, нахіліў галаву ды насцярожана на іх зверху цікуе. Гэтым эгаістам — хоць увесь свет стань дагары нагамі, іхнія клопаты не перасякаюцца з нашымі.

Накіроўваюся да начальства.

У аблвыканкоме каторы дзень працуе камісія па барацьбе з паводкай. На сценах, на сталах — карта вобласці, раёнаў. Зводкі воднай і метэаралагічнай службаў мяняюцца кожную гадзіну. Безупынна звоняць тэлефоны, дзейнічаюць тры рацыі, у калідоры тоўпяцца пасыльныя — дакладна, як у час наступлення ў штабе корпуса на перадавой. Чуваць адрывістыя загады:

— Кіркевіч, бяры верталёт, грузі дзве тоны хлеба і праз паўтары гадзіны даставіш у Лунну, там людзі галодныя! Зразумела? Дзейнічай!

— Таварыш Грыгор'еў хай па дарозе завязе сто кілаграмаў цукру ў Багатырэвічы, а ў Навасёлках — гінеколага ссадзіць!

— Начальнік міліцыі, пасылай народ на хутар у Балю Сольную! Вось ён тут, глядзі на карту!.. Сектант з жонкай вырашыў, што канец свету ідзе! Перад ікона-

мі абое на каленях моляцца, аб ратаванні, ідыёты, і слухаць не хочуць, дэпутат не даў ім рады!.. Гадзіны табе хопіць? Вернешся і далажыш а 14-й!..

У членаў камісіі, пасыльных ад недасыпання і напружанай заклапочанасці твары асунуліся, вочы пачырванелі; яны, апрача тэлефонаў, зводак, карт і пасыльных, нікога не заўважаюць. Прыставаць з пытаннямі, таўчыся ля іх — злачынства. Адпраўляюся з салдатамі ратаваць хутары вёсачкі Гнойніца. Людзей адтуль вывезлі яшчэ ўчора, нам засталася толькі жывёла.

Працавітая кабыла ўся дрыжыць, ад хвалявання на ёй выступіла кожная жылачка, ад чаго бакі рабацягі нагадваюць карту басейна Амазонкі. Бедная гаротніца ў людзях адчувае ратунак, таму цярпіць ды пакорліва ўзыходзіць на амфібію. А дурны жарабец стаў на дыбкі ды сігануў за борт, ад чаго судна зачарпнула вады. Нявыспаныя ды стомленыя ўшчэнт салдаты (дзякуючы іх ахвярным старанням не загінуў на вёсках ні адзін чалавек!) з вяроўкамі ў руках ды проста ў бушлатах кідаюцца ў ледзяную ваду, каб звязаць дурня ды ўнесці на руках.

На дзіва прыстойна паводзіць сябе бугай, чаго ніхто ад быські не спадзяваўся. Пародзісты, аграмадны — тоны на паўтары — ды моцны, як зубёр, бык адразу дазволіў сябе ўзвесці на борт. Цяжка ўздыхаючы, з пануранай галавой, аднак лёгка, як балерына, прайшоў ён на амфібію нават па адной...бэльцы. І ў налітых крывёю яго вачах на гэты раз я са здзіўленнем убачыў нейкую мудрасць, цярпенне, спалох ды гэткі самы, як у кабылы, давер да людзей. Калі небарака ўзышоў нарэшце ды ступіў на жалезнае дно машыны, з яго магутных грудзей вырваўся чалавечы стогн палёгкі:

— Уф-ф-ф!..

## 2

Праз пару дзён адпраўляюся ўздоўж берага, каб чаго-небудзь пашукаць. Цяпер ля маіх ног — гладкая, спакойная і пранізаная промнямі вясенняга сонца плынь лілавата-сіняй вады. Яна ласкава і ціха плюскае, вінавата ліжа каменьчыкі на беразе, бытта саромеецца свайго разгулу ды перажывае з-за шкоды, якую прынесла людзям. Аднак на сярэдзіне яшчэ бушуюць

віры, стрыжань імкліва прэ іх у Балтыку, і калі доўга абглядзець на тое, як малыя і вялікія карусельчыкі абганяюць адзін аднаго, кружыцца галава, а ногі міжволі нясуць цябе далей ад берага.

За Пышкамі, дзе пад агнём фашыстаў у 1944-ым працавала славутая пераправа нашых войск на Захад, стаіць хутар. Ля дома крычыць і мітусіцца народ, кірую туды. Выяўляецца, пасля паводкі дзядзька ў печы тут знайшоў сома.

Вада гаспадару размыла хлеў ды пагнала ў бок Друскенікаў бярвенні, платы, рухомы набытак ды злізала ўвесь садок, а дзядзька з апошняй сілы трымае за жабры, пуды на два, вусатае страшыдла ды з радасцю, бытта на латарэі толькі што выйграў пяць тысяч, хрыплым голасам крычыць:

— Заходжу ў хату першы і — што за халера, плешчацца ў печы штосьі Выгнаў з кухні дошкай ваду, заглядаю ў чэраў, а там — ён! Дзве гадзіны мучыўся, покуль халеру злавіў!..

Такое ж шчаслівае захапленне відаць у вачах яго жонкі, дзяцей-школьнікаў.

Чалавек з камісіі па аказанні дапамогі тым, хто пацярпеў ад паводкі, вымае складаны метр, прыкладвае да аслізлай рыбіны, ківае галавой ды з зайздрасцю кажа:

— Сто сорак пяць сантыметраў!.. І забраўся ж куды?! Не, сто сорак восем!..

Сом лянiва віляе хвастом, і перапалоханыя людзі кідаюцца ад яго прэч.

Ля Балі Сольнай спатыкаю Ванду Антонаўну Савіцкую з музея. Пры дапамозе мясцовых школьнікаў яна знайшла размыты вадой скарб — залатыя манеты часоў Екацярыны. Адшліфаваныя вадой жоўтыя кружочкі на сонцы ажззяюць.

Далей натыкаюся на якіясьці мокрыя карчы, што валяюцца на голым прыбярэжным пяску. Прыглядаюся лепш — і абміраю — косці маманта! Бягу па Ванду Антонаўну, паказваю знаходку, а масіўную скіўцу ўскідваю сабе на плячо ды валаку дамоў. Прыдумваю шкляную скрынку, куды змяшчу трафей, дзе пастаўлю ў пакоі на відным месцы.

Дома цётка Насця, што дапамагала жонцы варыць абед, паведаміла:

— А такія дзве косткі мой тата-нябожчык з-пад рэчкі прывалаклі за польскім часам. То ўся вёска потым пазычала іх у нас: клалі пад ложак, каб хлопцы радзіліся...

Але з маёй памяткі выйшаў адзін пшык.

Нічога не падазраючы, я не забяспечыў костку спецыяльным растворам, і яна праз пару гадоў рассыпалася на порах.

З тых дзён у мяне засталіся толькі гэтыя нататкі.

## СІНІЧКА

Пад Новы год прыляцеў я ў Душанбе на юбілей Лахуці. Калі ноччу сябры нас везлі з аэрадрома, я заўважыў, што ў сталіцы Таджыкістана яшчэ няма снегу.

Раніцой абудзіўся я на дачы Саўміна, куды змясцілі ўсіх гасцей юбілея. У прадчуванні экзотыкі паспяшыў хутчэй на вуліцу.

Крочу па тунельчыку з вінаградных лоз. Хтосьці слівавы кампот тут выліў ці якое ліха?!

— Э-э, дык гэта ж — гронкі!.. Вінаград у свой час не абабралі, ён абваліўся і дагнівае.

Жывецца ж людзям.

Узыходжу на мокрую траву, прыглядаюся — раса на ёй!.. А вунь на клумбах красуюцца белыя ружы. У адных сукеначках ды калошыках на босыя нажаняты шмыгаюць загарэлыя і чарнавокія дзяўчынкі... Каб нам хоць крыху такога цяпла на Новы год!..

Стаю. Гляджу. Дзіўлюся. Думаю.

З густой і пышнай піхты азвалася птушка.

Сінічка?!

Аднак, яна!

Глядзі ты!.. І дзінькае дакладна так, як гэта робяць яе сяброўкі цяпер недзе ў прамерзлых ды празаных наскрозь ледзянымі вятрамі нашых прынёманскіх Пышках.

Раптам агарнула мяне чулая да слёз удзячнасць і спагадлівасць да сваёй гаротнай і такой мужнай маленькай птахі. Небарака мерзне там, не мае чаго есці, церпіць, але сюды нябось не пералятае.

# НЯЎРЫМСЛІВАСЦЬ

Лена прыйшла да нас у педінстытут проста з партызанскага атрада. Баявая і сімпатычная. Хоць рэктару, хоць дэкану дзяўчына магла сказаць, што думала, таму начальства яе асцерагалася. На курсавых занятках зводзіла сваіх выкладчыкаў пытаннямі.

— І навошта прыдумалі гэтыя коскі? У нямецкай мове — іх ставяць так, у англійскай — гэтак, у рускіх, кітайцаў — яшчэ інакш!.. Пісалі ж людзі ўвогуле без іх шмат стагоддзяў!..

— Чаму такія нудныя раманы выпусціў класік М., другой работы не меў? Дык пры чым тут студэнты, за якія грахі нам іх перачытваць?!

У двары інстытута рэктарава цешча пасадзіла агарод. Нам патрэбна была пляцоўка для гульні ў валейбол. Я, старшыня прафкома, заікнуўся рэктару пра гэта, а ён, бедны, пачаў скардзіцца, якая ў яго злая цешча. Учула гэта Лена, арганізавала зараз жа студэнтаў з рыдлёўкамі, і праз дзесяць хвілін ад агарода не засталося і следу, а хлопцы на свежаперавернутай зямлі ўкопвалі ўжо слупы.

Лена не баялася самога чорта і разводзіла ноччу па кватэрах сяброўак па разбураным і вымерлым горадзе, дзе тады можна было спаткаць усялякае. Да падсобнай гаспадаркі інстытута ў Ліцвінках было кіламетраў з васемнаццаць, там працавала яе маці, партызанская сувязная; у цёплую пару Лена туды лётала кожны дзень пехатою.

Аднойчы дамовілася з зубрылам Пташкоўскім: калі ён здасць марксізм на пяцёрку, то частуе марожаным колькі яна захоча. Я падышоў, калі Лена далізвала дванаццатую порцыю бела-сіняга ласунку, у якім тады быў у асноўным лёд. Я нават з абаіх пасмяяўся ды пайшоў сабе далей, а назаўтра мусіў ад імя прафкома ісці на кватэру да Лены з гасцінцам — дзяўчына захварэла запаленнем лёгкіх.

І вось скончылі мы інстытут, раз'ехаліся на працу. Мінула чатыры гады.

Аднаго разу стаю ля кінатэатра ў Мінску, збіраюся паглядзець якуюсьці там серыю «Тарзана». Раптам чую ўзрадаваны, меладычны знаёмы голас:

— Лё-ошка, ты-ы гэта, няўжо-о?!

І міргнуць не паспеў, як Лена прарвалася праз натоўп ды ледзь не павіснула, шчаслівая, у мяне на шыі.

— Дзе-е ты цяпер?! Няўжо і ты-ы жывеш — так, бы ўсе?! І ажаніўся, і маеш дзяцей, і ходзіш кожны дзень а дзевятай на работу?

— Што зробіш...

— Ой, гэта ж сумо-ота!

— Ну, а ты як? Расказвай, дзе і што робіш!

— Ведаеш, а я — на Камчатцы! Цудоўны край, не змяняю ні на што на свеце: калі гаварыць пра рай, то ён — там!.. Ой, Лёшка, мілы, паслухай, якая ў мяне трагедыя! Ты толькі глянь, якая бяда здарылася!

— З мамай мо? — устрывожыўся я за нашу партызанскую сувязную.

— Не-е, мама шчэ здаро-овая, жыве са мной!..

— Дак што ж там магло такога выдарыцца?

— Паслухай! Толькі вылецела з Петрапаўлаўска, а па радыё перадаюць — Ключэўская сопка выбухнула і на пяць кіламетраў радыусам заліла ўсё навокал кіпучай лавай! Ці можаш ты сабе ўявіць такое?! Мы так упрошвалі лётчыка, так усе яго малілі — ледзь яму рук не цалавалі, пяць скрынь шампанскага фундавалі, але ён, бюракрат, не захацеў павярнуць самалёт назад!.. Разумееш, столькі там пражыла — вулкан маўчаў як зачараваны! Варта ж было мне толькі ад'ехаць і — на табе! Лё-ошка, ты адно падумай, як не пашэнціла мне ў жыцці!..

## ЦАНА СЛАВЫ

Расказвае маскоўскі карэспандэнт.

Сталіца сустракала аднаго з першых касманаўтаў. На аэрадроме — стометровая істужка чырвонага дывана, сотні карэспандэнтаў з цэлага свету, апараты для здымак у кіно і тэлебачання. Потым — імклівы караван новенькіх «Чаек», абкружаных ганаровым эскортам матацыклістаў. Уздоўж высланых кветкамі Ленінградскай шашы і вуліцы Горкага — сотні тысяч шчаслівых і гордых, бытта яны ўсе пабывалі самі ў космасе, масквічоў. Людзі — на балконах, у вокнах і нават — на дахах, а хлопчыкі абляпілі нават галіны таполяў.

На прыёме ў Крамлі прысутнічалі карэспандэнты. Пасля ім дазволілі ўзяць у героя інтэрв'ю.

Толькі журналісты падрыхтавалі пытанні, раскрылі свае блакноты, як крыху захмялелы ўжо ад віна, славы і перажытага касманаўт ім і гаворыць:

— Прыкладна ведаю, чаго вам трэба. Гэтыя пытанні ваш брат мне задаваў дзесяткі разоў яшчэ ў Байкануры! Давайце зробім зараз іннтэрв'ю наадварот — спачатку спытаю я вас. Няхай кожны з вас скажа, што найбольш запала яму ў душу ад сённяшняй сустрэчы. Толькі цур, угавор: гаварыць шчыра!

Пасыпаліся адказы.

Аднаго карэспандэнта ўразіла колькасць кветак, з якімі людзі сустракалі герояў,— ён і не думаў, што такую масу цюльпанаў, гладыёлусаў ды ружаў можна сабраць за адзін дзень у Маскве. Другога ўразілі маладыя матацыклісты ў белых касках і з такімі ж белымі рукавіцамі да самых локцяў: вельмі ж прыгожа яны выконвалі свой абавязак, не парушаючы строю ні на міліметр. Трэцяга — рабочыя, што, як гронкі, павіслі на страле будаўнічага крана ля Беларускага вакзала ды махалі касманаўту каскамі.

Дайшла чарга да аднаго сівога журналіста. Ён яшчэ ў 1935 бачыў трыумфальны прыезд у сталіцу Папаніна, а затым — Чкалава і чэлюскінцаў. Тады сустракаць герояў таксама выходзіў увесь горад, толькі замест матацыклаў паабапал машын ехалі коннікі, а замест кветак з балконаў і вокан сыпалі паперкі: дзесяткі тысяч белых галубоў кружылі над галовамі герояў ды кладліся ім пад ногі.

— Мяне,— кажа карэспандэнт,— найбольш уразіў стары Папанін. Надта ж кранула ды прымусіла над многім падумаць тое, як ён, сціснуты на Краснай плошчы ў натоўпе тысяч масквічоў, выцягвае шыю ды стараецца вас разгледзець.

## ПАКУТЫ КАХАННЯ

Вучылася я тады ў пятым класе.

Рыжы Ваня, что сядзеў цераз парту, на лісціку напісаў: «Ніна, я цябе кахаю». Але ж хіба прызнанне такое хлопец мог проста аддаць ёй у рукі? Зрабіць

гэта ён папрасіў суседку. Тая першым чынам, вядома, прачытала запіску сама ды на цэлы клас засмяялася. Убачыла класная і паперку забрала.

Кожная праява жыццядзейнасці вучняў мае глыбокі сэнс. Настаўніцы варта было задумацца над запіскай ды аднесціся да яе з тактам і мудра, але яна, на жаль, на такое не была здольнай.

Класная адразу залямантавала:

— А-а, то вы такі-ія?! Ах, распу-утнікі вы, хто б на вас мог падумаць?! А ці ведаеце, чым усё гэта скончыцца можа?! Не-е? Я вас зараз жа да дырэктара завяду!.. Бацькоў паклічу!..

У гэты самы дзень на школьнай сцяне нехта крэйдай вывеў:

«Ніна + Рыжы = любоў!»

Бацькоў клікаць настаўніца паленавалася, літары неўзабаве змыў дождж, пра выпадак паступова ўсе забыліся, толькі не забыла Ніна.

Ішлі гады. Рыжы сусед больш на свае пачуцці не паспеў нават і намякнуць, не падыходзіў да Ніны і блізка. Але дзяўчына заўсёды памятала — у школе ёсць хлопец, для кога яна нешта значыць. Ніна гэтым надта ганарылася. Свет зрабіўся цікавейшы, а таямніца, якую Ніна не паведаміла б нікому ні за якія скарбы, узнімала дзяўчыну ў сваіх вачах і самасцвярджала. Калі хлопец потым перавёўся ў другую школу, яна не знаходзіла сабе месца, покуль сябе не пераканала: адлегласць абсалютна нічога не мяняе, бо як адбывалася таямніца вярчэння Зямлі, незалежна ад таго, што б яна ні рабіла і дзе б ні знаходзілася, так існаваў недзе той, хто пра яе безупынна — яна ведала пэўна — думае.

Нарэшце Ніна атрымала атэстат.

Аднойчы сяброўка шапнула:

— Рыжага бяруць да войска... Просіць цябе прыйсці на станцыю...

У запаветны час яны з маці палолі моркву ў агародзе, а бацька рамантаваў плот. Зірнуўшы праз акно на ходзікі, Ніна пачала непакоіцца, сюды-туды мітусіцца, а потым пажалілася на боль спіны. Ці ж магла яна сказаць проста так бацькам, для чаго ёй трэба адлучыцца?

З-за спіны яе, вядома, не адпусцілі. Тады дзяўчы-

на з гарачкі прыдумала, што мусіць абавязкова бегчы ў магазін — вось зараз жа, у гэтую хвіліну.

Паводзіны дачкі здаліся падазронымі, і маці паклікала старога.

— Куды-ы?! Ве-едаем мы гэтыя магазіны! — накрычаў ён на сваю дачку.— Згаварыцца хочаш, каб вечарам на танцулькі ўжо ляцець? А хто рабіць будзе?! Ты глядзі ў мяне, каб з агарода— ні на крок!

Цяпер Ніна вырашыла, што ўсё скончана і няма сэнсу больш на свеце і жыць. Некалькі сутак яна не ела, не спала і нікога не хацела бачыць. Маці прыдумала ёй хваробу, пачала рабіць дачцэ націранне, паіць настоем траў. Вінаваты бацька паклаў на табурэтку перад Нінай пяцьдзесят капеек на танцы і папрасіў прабачэння, што на хворую накрычаў.

Старыя, як часта здараецца з усімі бацькамі, так ні аб чым і не здагадаліся.

## РЭХА ВАЙНЫ

Летам 1974 г. у вёсачцы пад Гроднам здарыўся такі выпадак.

Малады інжынер з жонкай стаў на кватэру да ўдавы-полькі. Вялікая і ладная мураванка сведчыла, што ўдава некалі жыла заможна, а муж полькі не толькі піў гарэлку.

Аднаго дня інжынер купіў у горадзе карціну, прывёз дамоў ды стаў заганяць у мур цвік, каб яе павесіць. Побач на сцяне тырчаў нейкі гарбячок; інжынер з усяе маладой сілы ўлупіў па ім малатком, каб зраўняць сцяну.

З другой палавіны дома пачула стук удава. Яна як была без халата, так і ўляцела да маладажонаў, закрычала:

— Езус, Марыя, сынок, перастань!..

Толькі інжынер ужо і сам выпусціў малаток з рук. Ён з жахлівым здзіўленнем прыглядаўся да той мясціны, адкуль адваліўся тынк. Паміж цаглін глядзеў на яго падрапанай алюмініевай боегалоўкай — такой свежай, нібы ўзялі яго толькі што са склада ды заклалі

туды,— снарад ад сямідзесяцішасціміліметровай гарматы.

Роўна трыццаць гадоў таму назад, калі нашы войскі праганялі немцаў, супрацьтанкавая балванка разарвала мужа полькі. Другі снарад урэзаўся ў мур і не выбухнуў. Удава сапёраў клікаць пабаялася, бо думала, што ўзарвуць дом (так ёй сказала адна знаёмая!), замазала старанна нос снарада глінай, пабяліла ды пакінула.

Бедная жанчына тры дзесяцігоддзі ўздрыгвала на кожны стук у доме, і сэрца яе кожны раз апякаў напамін аб пякельным ладунку над галавой, а перад вачыма паўставала жудасная смерць блізкага чалавека.

## ГРЫП

### 1

Прачынаюся. Праз сырыя шыбы ў густым тумане на вуліцы расплываецца мутнае святло лямпачкі: на двары зноў вісіць, як у мяшку, ад чаго так хварэюць людзі. Ой, чаго ж я вылежваюся? Столькі спраў на сёння і нарада, ды самае ж галоўнае, у мяне — абнова!

Усхопліваюся з ложка і яшчэ раз прымяраю перад люстэркам прынесеную ўчора ад краўчыхі сукенку. Цуд! Цяпер толькі да парадку давесці галаву. Узрадаваная, пачынаю рыхтаваць Валерку ў школу, а Іначку — у дзетсадзік.

Неахвотна прачынаецца муж, бурчыць:

— Чаго так рана? Ты хвалюешся?

— Ага!

— З-за выступлення?

— Каб не было чаргі ў цырульні. Бачыў новую сукенку? Цяпер трэ зрабіць прычоску. Калі і гэта будзе, выступленне атрымаецца само сабой.

— Цьфу, логіка!

— А ты хацеў, каб я да людзей выходзіла, як ахламонка, так? Унь Галіна Маркаўна з'яўляецца на трыбуне кожны раз у новым касцюме! Між іншым, яе муж усім гэтым цікавіцца і яе ўхваляе, аднаму табе ўсё роўна!

— Ну да?!

— От табе і «нуда»!

Ой, гэтыя мужчыны нас абсалютна не разумеюць. Мы трактуем сябе на штодзень як сыравіну, а галоўнае ж не сыравіна, а — тое, што з яе выйдзе. Без фрызуры, вопраткі і макіяжу яшчэ няма жанчыны. Вось чаму многія з нас лётаюць па калідорах і прыхожых з натлушчанымі тварамі, з бігудзямі на галаве, бо гэта яшчэ не ЯНА — яшчэ стане!

Забягаю ў свой клуб, а там непарадак. Музыканты — хварэюць, загадчыца музчасткай — не прыйшла. Заўгас павінен быў трумо прывезці ў фае і не прывёз — няўжо запіў, нягоднік?

Званю яму дамоў, а ён:

— Люстэрка тваё сёння закіну, але сам на работу не прыйду. На шэсць дзён доктар звальненне выпісаў. Сам дырэктар фабрыкі хварэе, а я не магу?!

Дзівак, не адрозніць люстэрка ад трумо. Аднак, дарэмна пра чалавека кепска падумала — выяўляецца, злёг, небарака, і ён.

Пайшоў ужо студзень, марозу ўсё няма, і вільгаць прабірае да шпіку касці. Прахожыя вялыя ды змрочныя. Прадаўцы, выхавацельцы ў дзетсадзіках, бібліятэкары — у марлевых масках. Каторы дзень адно і гавораць пра грып. Ой, пайсці б і мне на бюлетэнь, хоць вылежацца б уволю, перачытаць усе кніжкі. Але ж хвароба — не малако, калі хочаш, не купіш.

Выходжу з цырульні. Цяпер толькі адзін клопат: каб хто другі сукенку такую не надзеў. Тады і за выступленне няма чаго баяцца. Хіба не маю чаго сказаць?

## 2

Усё дарэмна! З-за праклятага грыпу народ збіраўся вяла, зала так і не запоўнілася, нараду перанеслі. Зрабілася сумна і ніякавата. На рабоце так хутка мяне не чакалі, а на галаву наваліўся нейкі цяжар. На ўсялякі выпадак, кірую ў нашу паліклініку.

Доктар паставіла градуснік:

— 38,7!..

У-га, нішто сабе! Раптам адчуваю прыліў жалю да сваёй асобы. Калі б яшчэ ў мяне што-небудзь балела...

— У вас суставы ломіць і ные галава? — не то пытаецца, не то падказвае дакторка ды выпісвае рэцэпт.

Спахопліваюся: а праўда ж — ломіць і ные, ды яшчэ як!

Бяру вузенькую паперку ды крочу ў аптэку па лякарства. У сумцы налічыла 30 рублёў; накіроўваю ў магазін, купляю на пяць сутак харчоў. Адпраўляюся «бюлетэніць».

Дома пакупкі складваю ў халадзільнік — цяпер трэба зрабіць санітарную зону, аддзяліцца ад хатніх. Бяру раскладушку, развешваю прасціну і кладуся. Памерала тэмпературу сама — высокая. І дакладна гэтаксама, як суседцы, як нашай загадчыцы музычнай частакай, ломіць усё ды кружыцца галава. Адчуваю маральнае задавальненне, што ляжу нездарма.

Мабыць, таму, што я на новым месцы, дзеці менавіта цяпер лезуць да мяне, як ніколі, я ўжо і не ведаю, што рабіць, каб уберагчы іх ад вірусаў.

— Мам, а Валерка лізаў тваю лыжачку з варэннем, бо хоча захварэць! — праз шум у галаве, як праз слой вады, чую скаргу малой.

— Як табе не со-орамна! Вы зусім не шкадуеце маму! Я ж вас прасіла не трывожыць мяне!

— Мамачка, але ж я кажу табе пра гэта паціхупаціху, нават падыходзіла да цябе без чаравікаў і на пальчыках!.. Во, аблізаў, глядзі!..

Ну, што ты будзеш з імі рабіць?! Дакараю сына ды ўспамінаю — гэта ж і я некалі з хворай сяброўкай лізала адну паперку ад шакаладкі, каб захварэць ды не пайсці ў школу. Успомнілася дзяцінства, пах маліны, ліпавага цвету, нацёртыя спіртам ногі — і чаму ўспамінаецца менавіта гэта, а не боль ад хваробаў?

### 3

На трэці дзень муж пайшоў на работу, паабяцаў паклікаць доктара і забыў. Зрабілася крыўдна. Пачала сябе шкадаваць: ніхто нада мной не літуецца, ніхто пра мяне не клапоціцца, нікому я не патрэбная — так і памру! У адчаі з'ела ўсе таблеткі.

Вяртаецца вечарам муж, і тут яму я выляжыла ўсё, што пра яго думала. Мой бедны Васіль выскачыў з хаты ў адным пінжачку.

Праз нейкі час адчыняюцца дзверы і ўвальваецца ў хату незнаёмы хлопец з чамаданчыкам. Аблеплены снегам, хмурны ды незадаволены. Сваяк?! Яшчэ мне тут яго не хапала.

— Баграціёна — 14? — пытаецца. — Я — з «хуткай». Лежыце, хвароба арыстакратаў?! А ў мяне тэмпература, каму скардзіцца?.. Знімайце кашулю!

Я юркнула глыбей пад пярыну.

— Што ў вас, боль галавы? Шчэ шэсць дзён будзе балець, на столькі цяпер даём звальненне, каб не лазілі лішні раз па клініках!.. Суставы баляць? Шчэ шэсць дзён будуць ныць!.. Я мусіў за суткі гэты грып на нагах перанасіць. Бо я — студэнт шостага курса, а дэкан даў бюлетэнь толькі на адзін дзень, я мусіў улажыцца! А вам — аж шэсць сутак!.. Карыстаюцца тым, што бюлетэні даюць... Распранайцеся, гавару!

І вось ён ужо халодным стэтаскопам тыкае мне ў бок. Вядома, нічога там не чуе — і злуе. Каб хворую павярнуць, дакранаецца рукамі, і мяне апякаюць яго халодныя, як лядзяшкі, пальцы. Толькі цяпер бачу ў медыка запаленую скроню ды сінія кругі пад вачыма.

Хлопец ужо выпісвае лякарства.

— Я, можа, яшчэ больш хворы — і езджу! І шафёр з тэмпературай, а ездзіць!.. Мы адны на нагах на ўсю «Хуткую» — няма замены, усе ляжаць!

«А мой ты харо-ошы, у цябе нават язык заплятаецца! Пачаставаць цябе гарачым чаем з малінай?» — падумала я, ды хлопец з чамаданчыкам ужо выбягае, не зачыніўшы нават дзвярэй.

Робіцца сорамна.

— Мамка, мам, а ён машыну штурхае! — крычыць Іначка.

Усхопліваюся з ложка, бягу да акна.

І праўда. Каля нашых весніц — вялізныя сумёты снегу. Мой бедны доктар з шафёрам спрабуюць ні то падняць, ні то скрануць з месца «Волгу» з чырвонай міргалкай, але машына не паддаецца. Шафёр залазіць у кабіну, заводзіць матор. Колы буксуюць, а хлопец, у якога з-пад паліто цяпер вылазіць белы халат, штурхае машыну і ледзь не з плачам крычыць:

— Гена, Ге-ена, ну, давай жа ты, чорт, у нас яшчэ дванаццаць візітаў на сёння!..

Вельмі захацелася выбегчы на двор і піхнуць у багажнік машыну, ды баюся — у сумёт улез з-за мяне, яшчэ аблае.

І тут раптам адчула сябе зусім-зусім здаровай.

«Чаго я вылежваюся? У мяне там у клубе ўсе пераҳварэлі».

Вінаватая, бытта злоўленая на злачынстве, хаваю раскладушку, зрываю просціну з вяровак, валаку на кухню посуд, нацягваю панчохі і рашуча кажу малым:

— Будзем рыхтаваць вячэру!

## 4

Неўзабаве з'яўляецца насцярожаны муж.

— Быў доктар? — пытаецца вінавата.— Я званіў у «Хуткую» ад суседзяў...

Я маўчу — трэба ж паказаць яму характар! Загадваю дзецям пакласці кубкі і прыборы, а сама нясу на стол смажаную бульбу і чайнік.

— Мамка, ты больш не хворая? — дапытвае мяне расчараваная Іначка.

— Заўтра іду на работу.

— У цябе ж бюлетэнь яшчэ на шэсць дзён! — разглядвае Васіль сіненькую паперку.

— А там як без мяне? Пайду. Кажуць, грып — хвароба арыстакратаў. І ты, сыночак, збірайся на заўтра ў школу — тэмпературкі ў цябе няма!

— Твой градуснік сапсуты! — бурчыць Валерка.

— А ён гаворыць — як кашляне, так аж іскры проста з шыі сыплюцца! — дапамагае брату Іначка.

Мы з мужам смяёмся.

— Ы-ы-ых, ты шчэ й не верыш, што мне бок баліць?! У нас толькі ты адна маеш права захварэць! Ні я, ні Іначка, ні тата хварэць не маюць права, толькі — ты адна!

Мацаю ў Валеркі шыю.

— Мо ў цябе свінка? Ладна, заўтра пабачым!

А чаму новая сукенка на крэсле валяецца? Зірнула ў люстэрка: ой, ад прычоскі засталіся адны ўспаміны! Дзе электрабігудзі, што муж мне купіў на дзень нараджэння? Пашукаю іх потым і пачаплю на ноч! Эх, зусім малое люстэрка!..

Не магу дачакацца, як буду выглядаць заўтра ў новай сукенцы — патанчэлая за хваробу, памаладзелая... Хутчэй бы тая нарада была, хутчэй бы выздаравелі людзі!..

## БАЦЬКА І СЫН

— Ідзі сюды, буду цябе лупцаваць!

— О-ёй, та-атачка, баюся!

— А я кажу — хадзі! Кладзіся!

— О-ой, міленькі, не трэ-эба!

— Сам не ляжаш? Дык я табе памагу! Шчэ і брыкаеш, упіраешся? Нічога не памо-ожа, пакладзём цябе сюды во та-ак!.. Ну, трымайся цяпер, шэльма, будзе табе зараз нямала!

— Ой, ой, родненькі!..

— А што «ой», што «ро-одненькі», калі ты гэтага заслужыў?! Я ж табе, паганец, пакажу цяпер за ўсё! Я нават не пагляджу, што ты такі худы! Ну, паехалі — раз! два! тры!..

— О-ох! о-ох! о-ох! А та-атачка, а мі-іленькі, а ро-одненькі, ужо хо-опіць, не вы-ытрываю!

— А навошта кацячай бабцы акно мячом учора пабіў?!

— Я ж ненаро-окам, тата!.. Мішка Баксёр мяч падаў, а я...

— Шчэ і Мішку Баксёра сюды ўблытваеш? А двойку па англійскай ад мамы хто ўтаіў? На табе за гэта! на! на!..

— Уй-й, уй-й! Аж дыхаць не маю чым, так пячэ!.. Та-атачка, я не таіў, мамка сама не спытала ў мяне пра англійскую!.. Ой, не магу болей, не магу, не магу!..

— Не спыта-ала? А пяцёркай па фізкультуры нябось пахваліўся? Такі з цябе будаўнік камунізму расце?! Ах, хітрун ты. На! на! на! на!.. Павярніся на другі бок, шэльма, я з цябе блін зраблю!

— Ужо хо-опіць, не магу болей цярпець!

— Кажу — павярніся, я лепш ведаю, колькі табе ўсыпаць! О так! А на! а на! Будзеш болей хітраваць?

— О-ёй! о-ёй! Чэснае піянерскае, не буду!

— Ладна, паверым! Тады злазь, чаго прыліп да лаўкі, як банны ліст?! А зараз на, сячы мяне!.. Што ты мух ганяеш, добра лупцані, каб аж скура ў бацькі пасшорхла!.. Мацней, кажу, яшчэ! яшчэ! яшчэ!.. Ну, пастарайся!..

— Я стара-аюся, тата!..

— А ты яшчэ націсні, сын! Бі свайго бацьку, не шкадуй яго, абармота! Бі за тое, што мала табой займаецца, не карае цябе!.. Што адзіны раз зайшоў у тваю школу і то пераблытаў класы — не ведаў, у якім займаецца сын, бачыў ты такога? Бі, што ў рэйсах доўга затрымліваецца і мамцы мала памагае!..

— Я б'ю, тата!.. Толькі мне стра-ашна, ты ўвесь бурачковы!..

— А ты не бойся — так яму і трэба!.. О так яго! та-ак! та-ак!.. Ніжэй, ніжэй лупі яго, не шкадуй і не лянуйся!..

— Я не лянуюся, тата!..

Праз паўгадзіны я іх убачыў ужо ў вестыбюлі. Вялізны і няўклюдны, як мядзведзь, дзяцюк з мокрымі валасамі прадзіраўся праз чаргу і вёў дзевяцігадовага хлопчыка са стрыжанай галавой. Яны былі так задаволены сабой, што нічога навокал не заўважалі. Малы ў сетачцы нёс голы дзяркач — усё, што засталося ад бярозавага веніка, каб на мокрыя дубцы падзівілася мамка ды ўявіла сабе, як мужчыны яе адзін аднаго лупцавалі. У распаранага на кроў з малаком хлопчыка блішчалі ад шчасця вачаняты; ён, бы на вежу, задзіраў на бацьку галаву ды з захапленнем пытаўся:

— Уй-й-й, та-ата, як ты церпіш такую пару?! Я на тры паліцы ніжэй ляжаў, і мне аж у вухі пякло!..

## СУСТРЭЧА З ДЗЯЦІНСТВАМ

### 1

Больш за ўсё я наслухаўся некалі пра зуброў.

Ля нас была вёска Зубры. У лесе расла духмяная зуброўка. У дзядзькі Лавіцкага на акне ляжаў грэбень з зубровага рога. Цётка Кірыліха пазычала цяжарным маладзіцам магічны пояс з зубровай скуры, каб радзіліся здаровыя хлопцы. Пра гэтага звера ў нас хадзілі

легенды, ён быў абкружаны культам рамантычнай пашаны і захаплення.

Бывала, збяруцца мужчыны на вуліцы і апавядаюць:

— Калі загінуў адзін зубёр, уся вёска Масева заказала малебен у царкве. Бо стане табе на мосце і — ні прайсці, ні праехаць. Сколькі жывёлы перапсаваў!..

— Наогул яны спакойныя. Пілуем, бывала, асіну, ён зводдаль стане ды чакае. Дрэва гупне на зямлю, зубёр падыдзе і есць сабе верхавінкі. Мы абсякаем голле, а ён — хоць бы што!.. Рахманыя, калі не дражніць...

— Любімая забава яго — рагамі падкопваць дрэўцы. А рогі ў яго моцныя, выгнутыя паўмесяцам ды расстаўлены шырока — тры мужыкі сядзе свабодна — і называюцца бадала. Калі зубёр злуе, то махае хвастом і аблізваецца, халера на яго, ды хрукае, бы кныр. Не смей тады кінуць у яго сучком — так і ўзніме на бадала!

І я ўжо дакладна ўяўляў, як зубры дужаюцца з дрэвам, як траскаціць у лесе, калі бягуць гэтыя волаты.

## 2

У вайну адзін час я быў у дэсантнікаў, а стаялі мы тады ў Гута-Міхалінскім лесе. Зімой да нас у Гуту прыбыў з партызанскай брыгадай капітан Вайцяхоўскі — геройскі камандзір ды абаяльны чалавек. Разам з капітанам прыбыла і яго слава, і, доўга не думаючы, я перамахнуў у яго брыгаду.

Вайцяхоўскі неўзабаве атрымаў загад перабазіравацца з брыгадай у маю мясцовасць — лясы паміж Гродна і Беластокам. Сталі збірацца ў паход. Камбрыг звярнуўся да мяне з пытаннем:

— Парай, Алёша, дзе б нам па дарозе харчовыя запасы папоўніць. У нас — сто дваццаць едакоў, улічы...

— Го, па дарозе вёсак шмат! — здзівіўся я.

— Не падыходзіць,— уздыхнуў Вайцяхоўскі.— Раніцой вясковыя старасты пад пагрозай смерці мусяць дакладваць у камендатуру, што за ноч узялі ў сяле партызаны — кожнае яйка, кожны кавалак хлеба,

збанок малака, галоўку капусты... Маючы такія дадзеныя з цэлай акругі, дзяжурны афіцэр разносіць іх па карце. Праз пару дзён яму няцяжка вызначыць кірунак прасоўвання групы і колькасць людзей у ёй. Наш паход на Гродзеншчыну павінен стаць нечаканасцю для немцаў — ежу мусім браць так, каб фрыцы не заўважылі. У Гута-Міхаліне — тысячы едакоў, сам ведаеш, як тут усё навокал падчысцілі — хутка шышкі будуць збіраць у кацёл!..

— Та-ак, зада-ача!..— задумаўся я: мне надта захацелася зрабіць паслугу гэтаму чалавеку.

І раптам я ўспомніў, як перад Грунвальдскай бітвай кароль Ягайла з дружынай цэлую зіму ў Белавежскай пушчы паляваў на тураў, зуброў, аленяў, дзікоў ды сушыў мяса для арміі. Потым так забяспечвалі сябе мясам паўстанцы 1831 года, а ў 1863 — каліноўшчыкі. Праўда, тураў даўно выбілі, а за драбнатой не надта станеш ганяцца — тэмп жыцця цяпер іншы, затое ля Свіслацкай дачы, у Белавежы, засталося 14 зуброў. Гэта — адзінае месца на свеце, дзе яшчэ ў натуральных умовах пасвіліся стэпавыя веліканы. Адзін наш вучоны (Дземяшкевіч з Оршы) нават ахвяраваў сябе высакароднай мэце — захаванню чалавецтву апошніх магікан Беларусі, застаўся ў немцаў у тыле ды з чэрвеня 1941 г. не пакідаў запаведніка. Шкада, вядома, пераводзіць рэдкіх звяроў, але ж у зубровым стадзе — палова самцоў, і жывуць яны нязгодна. Аднаго для такой справы можна ахвяраваць.

І я ўжо з гонарам пахваліўся багаццем свайго краю.

— Мікалай Калістратавіч, заб'ём аднаго самца, тады харчу ўсім хопіць! Ведаю прыблізна, дзе іх шукаць у пушчы!..

Пачалі мы ўдвух лічыць. Трапляюцца самцы і па тысячы чатырыста кілаграмаў — пра гэта і ў школьных хрэстаматыях напісана. Выпатрашаны нават меншы волат заважыць, мабыць, з тону. Тысячу кілаграмаў мяса падзяліць на сто дваццаць чалавек — выйдзе паўпуда на брата. Зубровае мяса спажыўнае, ды і тлушч легкастраўны: васьмікілаграмовай запраўкі кожнаму партызану хопіць, прынамсі, дзён на дзесяць.

— Ладна, вядзі! — згадзіўся камбрыг.

## 3

У Белавеж валакліся мы дзён з пяць: хітрылі, блыталі сляды, разведвалі дарогу. Як часта бывае ў канцы сакавіка, пасля цудоўнага надвор'я, раптам пахаладала. Узняўся вятрыска, бязлітасна сёк нас снегам. Ад харчоў усухамятку ўсе паслаблі, а тут пайшла мясцовасць зусім вымерлая; Белавежскую пушчу вермахт «падараваў» фельдмаршалу Герынгу для палявання, і каб ачысціць яе ад партызан, вакол пушчы фашысты спалілі 87 вёсак, а насельніцтва вывезлі.

Адным словам, брыгада рухалася даволі вяла і без настрою. Самым бадзёрым сярод хлопцаў быў, мабыць, я. Не дзіва. Вёў я ў свае мясціны цэлую партызанскую брыгаду. Толькі было шкада зубра, якога мы з Вайцяхоўскім ахвяравалі. Я стараўся сябе суцешыць: гэты звер нашых людзей выручаў не раз, выручыць і цяпер. Застанецца яшчэ іх аж трынаццаць, пасля вайны развядзём...

Нарэшце, згаладнелыя, перамерзлыя і аслабелыя, апынуліся мы ў Свіслацкай дачы ля загарады з тоўстых жэрдак. Брыгада, распаліўшы вогнішча, мелася чакаць, покуль мы асвяжуем ды прывалачом з разведчыкамі тушу, але партызаны нечакана парушылі план. Сто дваццаць хлопцаў раптам ажывіліся ды на чале з Вайцяхоўскім палезлі цераз жэрдкі.

А вось і звяры.

Статак бурых аграмадзін бесклапотна адпачываў сабе на снезе. Тырчаў толькі на кароткіх ножках ды спакойна жаваў жвачку барадаты самец з абледзянелай поўсцю. За імі дурэлі шустрыя цяляткі. Трэцяе маці аблізвала, і з яго валіла пара.

Пачуўшы шастанне ботаў, зубры неяк даверліва ды з цікавасцю павярнулі да нас макраватыя мысы і не крануліся з месца. Бытта лічылі зусім натуральным, што тут апрача іх — яшчэ хтосьці. Адно цялякі пазадзіралі хвасты ды памчалі да матак. Барадаты ж волат праз хвіліну нязлосна набычыўся на нас, грэбнуў капытамі, абдаў сябе клубамі снежнай крупы і страсянуў бародкай, ад чаго заляскаталі ледзяшы на баках. Тады зубёр пругка выгнуў спіну, раскошна пацягнуўся ды гучна, нібы паравоз, уздыхнуў, бытта сказаў:

«Эх, хлопчыкі, а сілы, халера, колькі накапілася ва мне!.. Што зробіш, няма куды яе падзець!..»

Ад відоку самаўпэўненых і бяспечных волатаў партызаны анямелі.

— Да-а! — толькі праказаў у цішы начальнік нашай разведкі Міцька Табуноў.

— Гэта дык гэ-эта!..— дадаў нехта другі.

Раптам мне зрабілася сорамна: няўжо і праўда,— я думаў забіць зубра?! Усім адхацелася ўжо есці. Стала нават бы цяплей. Мы ж з Вайцяхоўскім не маглі глядзець адзін аднаму ў вочы.

Сорамна — падвёў камбрыга.

Але Вайцяхоўскі, здаецца, не злаваў. Не злавалі і астатнія. Мінут з пяць усе яшчэ падзівіліся на зуброў ды сталі пералазіць агароджу назад.

— Да пабачэння! — па-панібрацку кінуў звярам Табуноў ды памахаў ім рукой.

...Неўзабаве наша брыгада размясцілася дняваць у ельнічку. Я з разведчыкамі адправіўся на месца спаленых Борак шукаць адзічэлых кароў.

## ТОЛІК

Паміж Нетупай і Юзафовам, у лесе, стаяў хутар, дзе цяпер толькі кусты дзікага бэзу ды астаткі цэментовага калодзежа. Гісторыя хутара такая.

З пачатку вайны па юзафоўскай дарозе вялі палонных. Адзін баец уцёк і забег на гэты хутар пераадзецца.

Праз гадзіну на веласіпедах ехалі жандары з паліцаямі. Дзядзька запіхнуў байца ў падполле.

У хату ўвайшоў спатнелы паліцай напіцца вады, а пяцігадовы Толік яму кажа:

— А от я цябе не баюсо і не сказу, сто ў насай яме дзядзя хаваецца!

Жандары вывалаклі ды расстралялі палоннага.

Затым вывелі з хаты ўсю сям'ю — бацькоў, хлопчыка, дзве дзяўчынкі і паставілі пад гумно.

Мацеры захацелася ўратаваць хоць сына. Яна ўпрасіла немцаў дазволу пасласць яго па ваду. Малое, вядома, уцячы не здагадалася.

Хлопчык падышоў да калодзежа, дзе два паліцаі стаялі ля веласіпедаў, ды пачаў дужацца з калаўротам. Бабка Тэкля якраз несла з лесу ягады; жанчына з-за плота давала хлопчыку знакі, паказвала на густое жыта, але ён упарта спрабаваў крутануць корбу.

Паліцай, які выдаў палоннага, моршчачыся ад сваёй дабраты, наліў паўвядра свежай вады. Затым падаў бляшаную конаўку ды буркнуў:

— Бацька твой думаў, што надта разумны, а хтосьці дурны!.. Цяпер будзе мець!.. Нясі, хоць нап'ецеся шчэ!..

Ужо крыху разумеючы, што ён натварыў, Толік пацікавіўся ў другога паліцая:

— Дзядзя, а вы таксама за немцаў? Ці вы за рускіх?

Знаёмы бобік гыркнуў:

— Ідзі, заменак, хутчэй назад, калі натрапіў на добрых немцаў!..

— А ты, старая ведзьма, чаго тут растапырылася? — пагнаў другі старую Тэклю.— Хочаш таксама яму засквартыць?!

Ля гумна два жандары — мажныя мужчыны ў жоўтых мундзірах і ў касках са ссечанымі вярхамі — нарыхтавалі ўжо аўтаматы ды з нецярпеннем азіраліся. Калі Толік, нарэшце, прыйшоў, адзін з немцаў дзелавіта, бытта збіраючыся падсадзіць хлопчыка на каня, падагнаў малога:

— Ком, ком! Прэндко! Шнэль!

Вядро і кружку Толік паставіў на мурог пад ногі звар'яцелай ад гора, заплаканай маці. Бацька зачэрпаў вады і напаіў малых. Калі ўсе напіліся, фашысты скасілі сям'ю з двух аўтаматаў ды пачалі падпальваць будынкі.

## ПРАЧНУЎСЯ

У Мастах наведаў я жанчыну, якая служыла ў падліпскага бацюшкі. Пад вечар спахапіўся, што не спытаў імя святара, і накіраваўся да жанчыны зноў.

Ужо бралася цямнець, калі я завярнуў на вуліцу, што аж танула ў прысадах. Стаяла восень. Дрэвы губ-

лялі апошняе лісце, і сталі відны забытыя там-сям на галінках антонаўкі. Паміж крон — прасторныя дамы з вялізнымі вокнамі. Працавітыя сяляне з наваколь-ных бедных вёсачак аснаваліся тут з выгодай, грунтоў-на, на кожным квадратным метры атрыманай плошчы насадзілі не толькі груш ды яблынь: у іх тут сапраўд-ныя абрыкосы растуць!

Адчыніўшы масіўную брамку, увайшоў я на бетон-ную дарожку, якая хавалася ў тунель з вінаграднай лазы ды вяла да свежапафарбаванага ганка. Сюды мне ці не сюды? Тут жа ўсе дамы, ліха на яго, з такі-мі ж ганачкамі, сенцамі і, бытта ў Малдавіі, з густым перапляценнем вінаграднай лазы, а ўсе падворкі з ад-нолькавымі дарожкамі.

Ад брамкі крочыць нейкі дзядзька — у ватніку, з сумкай цераз плячо; ага, ёсць у каго спытацца.

— Добры дзень! Шукаю Марыю Макараўну. Ска-жыце, калі ласка, тут яна жыве?

Нізкі і моцны, як сасновы корч, стары з пілавін-нем на ботах стараецца схавацць ад мяне, што выпіў.

— Ма-ры-я Мак-ка-раў-на? — цэдзіць словы ды круціць галавой.— Не-а, такой тут няма. І не было. І ў суседніх дамах таксама не чуваць, каб была такая.

Выходзіць, я пераблытаў вуліцу?! У які ж цяпер бок падацца?..

У вінаградзе я раптам убачыў дзіцячую каляску без аднаго кола — яе запамятаў яшчэ днём.

— Аднак яна тут жыве, вы проста не ведаеце! — заяўляю чалавеку ўпэўнена.

— Я-ак, Марыя Мак-ка-араўна? Яшчэ вучыць мя-не будзеш?! — зазлаваў стары.— Гэта мая хата, і хто ў ёй е, ведаць мне лепш!

Здзівіцца я не паспеў.

З сянец адчыніліся дзверы, і на парозе з'явілася знаёмая поўная жанчына ў зялёнай кофце. Твар у гас-падыні гасцінна распрамяніўся, яна ва ўсмешцы пака-зала ўсе свае моцныя зубы. З-за дашчанай сценкі ся-нец яна, напэўна, чула нашую размову, таму цяпер мужчыну — свайго мужа — не заўважала сумысна.

— Вы, мабыць, што-небудзь забылі? А-а-а!.. То за-ходзьце, захо-одзьце, калі ласка, я адно электрыку вам уключу!

Гаспадыня кінулася ў памяшканне.

І вось ужо знаёмыя мне пакоі шчодра залівала святло ды ззяла, аж пераліваласся, на свежай фарбе халадзільніка, на тэлевізары «Гарызонт», лакіраванай мэблі ды на ўкладзенымі ў «шашачкі» пластмасавымі квадратамі падлозе. Я пачаў дадтаваць свой блакнот, але ўспомніў пра чалавека і азірнуўся. Забыты намі мужчына сіратліва стаяў у сенцах ды, бытта ўражаны маланкай, усё дзівіўся на нас. У яго, здаецца, нават і хмель ужо выветрыўся. Аднак гаспадыня не заўважала мужа і далей, злавала.

Але ж як гэта здарылася, што ён, дзівак, не ведаў, як завуць жонку?!

І тут раптам да мяне дайшло, чаго чалавек гэтак уражаны.

Сорак гадоў таму назад яму прыйшла пара жаніцца. Як рабілі ўсе на вёсцы, так і ён наняў свата ды адправіўся шукаць нявесту. Ездзілі яны ўдвух па сёлах цэлы «мясаед», выбіралі жонку старанна, каб умела шыць і прасці, не была кульгавай ці аднавокай, каб і пасаг неблагі мела. Зазірнулі ў Дубна, дзе за Канцавую Анюту давалі паўгектара, адтуль накіравалі ў Забагоннікі, там за Рыжую Соньку прапаноўвалі карову і авечак... Усе дзеўкі адпраўлялі іх з носам, бо выбіралі і яны: якую будучыню мог ім абяцаць жаніх на двух гектарах пясочку?

Якраз падліпскага бацюшку пасадзілі ў турму, засталася без работы яго служанка, што рада была выйсці нават за такога кавалера. Тут жа сыгралі вяселле. Ездзячы цяпер на «шарварак», на кірмашы ці да вывазкі лесу, ён быў спакойны: дома заставаўся надзейны работнік, гаспадыня, а неўзабаве і — маці. Каб адрозніць ад другіх маладзіц, новую гаспадыню людзі сталі зваць Марысяй з Падліпак, але ён называў сваю палавіну, як і ўсе аднасяльчане,— «ты», «баба», бо мужу яе імя не было патрэбным зусім, як непатрэбным было яно адзінай яго кабыле. Ён нават сродкі перакакання для іх меў аднолькавыя: на кабылу сам віў добрую пугу з каноплі, а калі вяртаўся з кірмаша п'янаваты і жонка станавілася папярок, даваў бабе куксачоў, і таксама быў парадак.

Так і цягнуў бы дзядзька свой век, гаруючы ўпарта на адной «таўканіцы» і крупніку, покуль не падраслі б дзецi, з-за якіх ты хоць жывым кладзіся тады ў магілу

ды аслабані гаспадарку. Нечакана падзеі перавярнулі яго жыццё...

На фанернай фабрыцы ў Мастах спатрэбіліся людзі, і дзядзька забраў сям'ю з перапоўненай вёскі, перавёз яе ў горад. Памалу яны з жонкай абсталяваліся, пабудавалі дом, выгадавалі дзяцей ды пусцілі іх у людзі — адно аж ва Уладзівасток, другое на Брацкую ГЭС, трэцяе на аўтазавод у Тальяці. Цяпер дома ў яго багацця — куды больш, чым у падліпскага папа. Дзядзька даўно мог пайсці на пенсію, як яго жонка, але на ФАНДОКу не хапала сталяроў, і сам начальнік цэха ўпрасіў яго пачакаць з адпачынкам; зрэшты, столяр не ўяўляў сабе і дня без цэха. Адным словам, дзядзька яшчэ меў сілы радавацца спрытам сваіх мазолістых рук, упарта тэпаў кожны дзень на фабрыку ды чакаў цёплай пары, калі з'едуцца пад яблыні ўнукі.

Ого, ён цяпер быў чалавекам сучасным — кожны дзень у канцы работы наведваў душ (на фабрыцы — свой, бясплатны!), любіў выседжваць, як пан, перад тэлевізарам, у рабочых ботах не ступаў нават у кухню, прычашчаўся не якой-небудзь самагоначкай, а «Экстрай» ды «Сталічнай», у нядзелю апранаў імпартную кашулю, адно жонка па-ранейшаму была для яго бабай. Гадоў з дваццаць таму, калі іх абоіх настаўніца запісвала на выбары, спатрэбілася ведаць імя і імя па бацьку яго гаспадыні, аднак болей агітатары не прыставалі, прозвішчы пераносілі са старых спісаў, а пра той выпадак ён паспеў забыць. А сёння — на табе навіну, яго баба — Марыя Макараўна, бы дакторка з ФАНДОКа ці якая адвакатка!!!

У беднага дзядзькі ў галаве адбываўся цэлы пераварот.

Гэтым часам жонка шчодрым сэрцам мнагадзетнай і мудрай кабеты па яго вінаватых вачах ужо даўно ўбачыла, што да мужа нешта такі дайшло, і вырашыла — пакарання хопіць. Яна па-мацярынску ўсміхнулася яму ды, падаючы тапачкі, сказала, як малому:

— Волесь, а ты будзеш там ўсё стаяць, бы чужы? Вешай торбу, пераабувайся, мый хутчэй рукі ды ідзі ў хату, госць во які ў нас!

# СУСЕДЗІ

У доме цёткі Насці калісьці партызаны ў любы час знаходзілі не толькі сала ды квашаную капусту — яна лясных хлопцаў лячыла, абмывала, а калі трэба, то аж у Маладзечна, у Смаргонь хадзіла на разведку. Падраслі дзеці — і гэты самы дом зрабіўся цесны ад моладзі. Выехала на цаліну старэйшая дачка, пацягнула за сабой другую, і абедзве выйшлі там замуж. Затым шафёр [redacted] суседняй вёскі павёз у Карэлію самую маладзейшую, а сын застаўся ў войску кадравікам. Пахаваўшы мужа, цётка засталася адна. Не раз забівала яна ў хаце вокны ды выязджала назаўсёды да дзяцей, але няўмольная сіла як магнітам цягнула бабку назад. Нацешыўшыся ўнукамі, яна пасылала зяця на станцыю даставаць білет ды вярталася зноў у вёску.

Побач [redacted] хаткай цёткі Насці вырас дом начальніка нейкай канторы — размаляваны, як цацка, з двума ганачкамі, з адмысловай тэлевізійнай антэнай ды спляценнем правадоў на белых ізалятарах. Яго гаспадара цётка бачыла два-тры разы, бо ён вечна калясіў на сваім «газіку» па раёне, затое часцей траплялa цётцы на вочы яго жонка, Лілія Барысаўна,— дыпламаваны спецыяліст.

— Ал-ла, на дварэ халаднавата, ідзі дамоў і адзень бручны ансамбль! — крычала яна часамі дачцэ з ганачка.

У гарачыню ж мажная кабета ў калматым халаце часта выходзіла ў агародчык і да непрыстойнасці агаляла сваё тлустае цела. Цётка Насця спрабавала з суседкай загаварыць, але размова не атрымалася, і бабка сябе пераканала, што, вядома, вучонай жонцы начальніка гаварыць [redacted] простай сялянкай няма пра што і нічога ўжо на гэта не параіш.

Яшчэ часамі на двары ў іх бегаў за пакаёвым сабачкам сямікласнік ды ўсё лавіў момант, каб сфатаграфаваць свайго бобіка, калі той падыме нагу на слупок. Убачыўшы гэтую сцэну, бабка кожны раз плявалася, ківала галавой ды спяшалася дамоў, каб не паганіць сваіх вачэй.

Усё пачалося мінулай вясной, калі бабка ў баковачцы пасадзіла на яйкі квактуху. На праданне цётка не трымала нічога — хапала пенсіі; куранят ёй заха-

целася мецъ проста для таго, каб насалодзіць душу жывымі галасамі.

І вось настаў запаветны дзень. Пад квактухай пачулася спачатку кволенькае ціўканне, а неўзабаве кураняты зазвінелі на ўсю хату; жанчына заснула ў гэты дзень шчаслівая, як у дзяцінстве. Раніцой прыпякала сонца, і цётка квактуху з дзеткамі выпусціла на двор — хай яны парадуюцца сонейку, пагрэбаюцца ў пяску.

Рыхтуючы на сняданне бульбу, бабка пачула нейкі лямант. Яна выцерла падолам рукі, выглянула на парог.

За плотам з куранём у руках стаяла Ліля Барысаўна.

— Гэта тваё?! — раз'юшана закрычала суседка.— То курыца твая лезла мне ў агарод, а цяпер цэлы вывадак сюды наслала? Будзеш цяпер ведаць, другі раз не пускаць!..

Маладая жанчына хапіла куранятка за ножкі, разарвала жоўты камячок на дзве палавінкі ды жывыя кавалачкі шпурнула цётцы пад ногі.

Старая спачатку не паверыла сваім вачам. Апрытомнеўшы, яна загаласіла на ўсю вёску:

— Ах, вы-ылюдак ты-ы, што ж ты нарабі-іла?! Так толькі немцы ў вайну з людзьмі-і рабілі-і!.. Ах, фашыстка ты пракля-атая!..

Збегліся людзі, пачалі бабку супакойваць, але яна галасіла больш гадзіны. Лілія Барысаўна зводдаль назірала за ўсім гэтым, нарэшце загадала сыну, які вярнуўся якраз са школы:

— Жоржык, бяры магнітафон і гэтую ідыётку запішы мне на плёнку!

У той самы дзень кабета падала на бабку ў суд за абразу. Народны суд адмераў ёй 30 рублёў штрафу. Бабка адразу падала апеляцыю і на вызначаны тэрмін адправілася ў вобласць са сведкамі — былымі партызанскімі сувязнымі. Яшчэ наняла і адваката.

На разборы справы ў Гродне бабчын адвакат Лілію Барысаўну абазваў цывілізаваным пітэкантропам ды складна і пераканаўча гэта абаснаваў. Суддзі доўга раіліся, тады загадалі прынесці магнітафон, пракруціць плёнку. Старшыня аб'явіў:

— Аднак ты, бабка, грамадзянку Пятрову, спецы-

яліста з вышэйшай адукацыяй, непрыстойным словам «фашыстка» абазвала? Абазвала! За гэта табе і вынеслі правільнае пакаранне — штраф, і мы яго ўхваляем!

— Лю-удзі, тава-арышы начальнікі, паду-умайце,— узмалілася цётка Насця,— дак яна ж маё куранятка на два кавалачкі разадрала, як той... бы тая... Унь і сведкі сядзяць, прыехалі са мной!..

Законнікі параілі:

— А ты бяры гэтых самых сведкаў ды падай у суд на яе, Пятрову мы аштрафуем гэтаксама.

На гэтым справа скончылася.

— Дак я ж не хачу з ёю судзіцца, хай яе халера возьме, я хачу адно пра-аўды! — скардзілася мне потым у адчаі пажылая жанчына ды паказвала жмут дваццаціпяцірублёвак: — Грошай мне шкада? Іх у мяне во колькі! Я дабіваюся, каб штраф знялі, бо гэта несправядліва! Тая сцерва — і праўда як фашыстка! Дыплом мае? Дык і фашысты вучанымі былі, па сем разоў на дзень мыліся!..

Я поўнасцю згаджаўся з цёткай Насцяй, аднак дапамагчы ёй нічым не змог.

## ПЯРСЦЁНАК

Столькі я выступаю, што пара, здаецца, і прызвычаіцца даўно, аднак перад кожнай лекцыяй я хвалююся, бытта іду на яе першы раз. Вось і сёння.

Перад адыходам з дому я паскардзілася:

— Ой, Леначка, я так баюся! На гэты раз лекцыю чытаю ў нейкіх інжынераў-будаўнікоў! Каб хоць не апрахвосціцца на ўвесь горад перад гэтымі тэхнакратамі!.. Зірні на мяне, можна так да людзей вылазіць?

— Здаецца, нармальна! — уважліва разглядзела мяне дачка.— Ой, мам, у цябе «босыя» рукі! Ты ж — кандыдат навук, амаль дацэнт, а не жабрачка якая! Вазьмі мой пярсцёнак! На, бяры, серабро цяпер моднае! І ён шчаслівы, з ім я ўсе дзяржаўныя экзамены здавала ў Мінску!

Пярсцёначак Ленін быў просценькі, сямірублёвы (свой, залаты, на пляжы я выпусціла ў Нёман ды ўсё не сабралася купіць новы). Узяла я даччын талісман,

каб толькі Лене зрабіць прыемнасць, ды падумала: калі пачну за трыбунай блытаць, зірну на яго, і ўжо лягчэй будзе.

І вось перада мной аўдыторыя магутнай будаўнічай арганізацыі, дзе адных інжынераў — некалькі соцень. Жанчын мала, у зале яны толькі дзе-нідзе, аднак яшчэ да лекцыі я паспела заўважыць, што на іх блішчаць залатыя завушніцы, гадзіннікі і пярсцёнкі. Што ж, жывём цяпер багата, хай пакрасуецца наш брат, а мне падабаецца гэта!» — паднесла я да вачэй сціплы талісманчык. Зрэшты, пра гэтую дробязь хутка забылася. Перада мной чынна сядзелі салідныя мужчыны, глядзелі жывымі дапытлівымі вачыма, і па ўсім было відаць, што збіраліся слухаць мяне ўважліва. Я хутка асвоілася ды пайшла гаварыць свабодна і ўпэўнена, не заглядваючы ні ў якія паперкі.

Тэма маёй лекцыі — выхаванне падлеткаў; папрасіў яе партком. Сакратар партарганізацыі скардзіўся, што дзеці некаторых супрацоўнікаў кепска вучацца, адбіліся ад дому і ёсць нават выпадкі, калі траплялі п'янымі ў міліцыю. Мне трэба з навуковага пункту гледжання растлумачыць бацькам механізм непажаданай з'явы і паказаць, у чым іхняя памылка.

Славуты А. Х. Коні рэкамендаваў лектарам ў аўдыторыі выбіраць падатлівага слухача і з трыбуны звяртацца толькі да яго, бо гэта, маўляў, прыцягвае потым увагу слухачоў астатніх. Эх, шаноўны Аляксандр Хведаравіч, відаць, што вы не былі настаўнікам — вам адразу астатнія вучні ўзлезлі б на галаву, каб вы паспрабавалі правесці так урок! З дваццацігадовай практыкі ў школе я вынесла сваю методу: гаварыць да слухачоў шчыра, трымаць іх арыгінальнымі фактамі, будзіць у іх уяўленне і эмоцыі, адчуваць аўдыторыю ўсю як адну масу; калі ў мяне ў зале хто паварушыцца, я адразу адчуваю.

Убачыўшы даўганосую жанчыну з пышным парыком, якая паспешліва перасела да групкі сяброўак, я адчула ў ёй салідарную балельшчыцу, асмялела яшчэ больш ды пачала мужчынам гаварыць усё, што пра іх думаю,— біць гэтых тэхнакратаў неабвержнымі фактамі і мужчынскай логікай.

— Чаму падлеткі пачынаюць цяпер піць так рана? Даражэнькія таты, задумайцеся самі! Вашым сынам

покуль што няма патрэбы штучна ўзбуджаць апетыт, як не трэба спецыяльных сродкаў, каб узняць настрой і стаць вясёлымі,— яны маладыя, здаровыя, і ўсе гэтыя якасці атрымалі ад маці-прыроды ды яшчэ не паспелі іх страціць, а ў нашым грамадстве для п'янства няма, як мы кажам, і сацыяльных прычын. Каб хутчэй стаць дарослым, вашы сыны проста пераймаюць татаў, бо менавіта такую якасць яны найчасцей бачаць у вас і звязваюць яе з дарослацю!

— Наш інстытут правёў цікавы эксперымент. У сваё распараджэнне мы атрымалі на цэлы дзень дзіцячы сад. Вучоныя адклікалі ўсіх выхавацельніц ды скрытай камерай знялі ўсё, што пакінутыя самі сабе дзеці рабілі. Фільм гэты — жахлівы абвінаваўчы дакумент супроць нас! Першым чынам хлопчыкі пабілі дзяўчынак і прагналі іх ад сябе. Затым з кухні нанеслі шклянак, прыцягнулі поўнае вядро ды завялі гульню. Малыя расселіся за сталы, пачалі наліваць у шклянкі ваду, чокацца ды гаварыць тосты...

Па аўдыторыі пракаціўся самакрытычны рогат. Яшчэ некалькі жанчын перабегла да асобнай групкі, а ўзбуджаная актывістка з пышным парыком склікала і астатніх. Мне здалося, што ўсе кабеты цяпер глядзяць на мяне з удзячнасцю, а я бытта чытала ў іхніх вачах пераможны здзек над другой палавінай: «Ага, ліха на вас, калі мы вам гаворым пра гэта, то вы і вухам не ведзяце! Вось, слухайце цяпер вучоную! Так вам і трэба!..»

— Для стварэння сямейнага мікраклімату,— загаварыла я смялей,— дзе фарміруецца малады парастак, патрэбна, каб жонка з мужам былі заадно, жылі душа ў душу і разумелі адно аднаго з паўслова. Давайце, мужчынкі, успомніце, калі вы са сваёй жонкай пагаварылі хоць бы з паўгадзіны? Пагаварылі не пра рамонт кватэры, не пра грошы, а проста так, з-за неабходнасці душэўнага кантакту? Маўчыце! Часу ў вас не было, праўда? А колькі вы яго траціце на пустую гутарку з сябрам у «забягалаўцы», на абрыдлыя ўсім нарады, забіванне «казла», выседжванне з вудамі каля рэчак, калупанне ў маторы свайго матацыкла ці «Масквіча»? Хіба нельга было б зрабіць, каб ваш Толя ці Віця бачыў вас не толькі ў часы застолля, а і над чарцёжнай дошкай, за пультам, ля станка... адным сло-

вам — за працай, як некалі бачылі вы сваіх бацькоў за плугам ці касой?.. Адкуль жа той мікраклімат будзе, калі ў сям'і няма той сілы прыцяжэння, якая б, гаворачы вашай тэрміналогіяй, трымала малады парастак у сваім гравітацыйным полі?! Вось чаму жыццёвая арбіта іншага юнака і дае зігзаг, а параметры яе крывыя!..

Перайшоўшы гаварыць аб шкодзе выпівак, я ўключыла плёнку, на якой запісаны ў мяне галасы са спецыяльнай школы-інтэрната, дзе знаходзяцца дэбілы — дзеці, зачатыя п'янымі бацькамі. Слухаючы каторы раз гэтыя дзікія завыванні «дзяцей карнавала», я нават сама спалохалася. А што гаварыць пра маіх інжынераў? Слухалі, уражаныя, вінаватыя, бытта злачынцы: нездарма плёнку я заўсёды запускаю пад канец — на закуску.

Сама адчувала, што лекцыя атрымалася. Парторг не знаходзіў слоў, калі дзякаваў мне ў канцы. Ён уручыў мне нават кветкі, а партфель і магнітафон паднёс аж да тралейбуснага прыпынку і ўсё дапытваўся — ці не магла б я выступіць так яшчэ і на... антырэлігійную тэму. Я толькі ўсміхнулася.

На другі дзень пайшла я ў горад і зазірнула ва універмаг. Убачыўшы знаёмы парык на даўганосай жанчыне, пачала ламаць галаву — адкуль я яе ведаю?

— Здрасце! — узрадаваная маладзіца загаварыла раптам да мяне сама.— Я з будтрэста! Вы ў нас лекцыю ўчора чыталі! Здрасце!.. Ой, ведаеце, вы нас гэтак усіх задзелі, столькі шуму ў нашым трэсце нарабілі!

— Ну-у? — растала я, чакаючы кампліменту. Бо чалавеку часам не трэба той платы, абы тваю працу ацанілі добрым словам.— Дык вы слухалі маю лекцыю? Ну і што?

— Слухала!.. Ой, вы ведаеце, так прыгожа выглядала серабро на вашай руцэ, што мы вачэй не маглі ад яго адвесці! А сёння нашы кабеты пазнімалі з сябе золата ды кінуліся ў магазіны шукаць такія пярсцёнкі!

— Што?

— Ой, якое шчасце, што вас спаткала! Скажыце, дзе вы свой купілі?..

## ПСТРЫЧКА

Падземны пераход ад станцыі метро Свердлава да Ахотнага рада якраз пуставаў, таму сцэнку гэтую Макар Кірылавіч бачыў у развіцці.

Па мармуровых плітах ішла пажылая кабеціна з абшарпанай сумкай пад пахай, якія калісьці называлі рыдыкюлем, а бліжэй да Макара Кірылавіча, з моднай сумачкай цераз плячо, крочыла дзяўчынка-падлетак. Міні-спаднічка ў дзяўчынкі зусім адкрывала цыбатыя незагарэлыя ногі. Яна крочыла лёгка, бытта не нагамі яна перабірала, а двума, добра пеленгаванымі пальчыкамі.

Макар Кірылавіч вызначыў, што перад ім — васьмікласніца.

Такія падлеткі ўжо многа чаго ведаюць, аднак веды іхнія яшчэ не сталі перакананнем. На пяцёрку такія прадэкламуюць перад класам «Маналог Любы Шаўцовай перад расстрэлам» і на вуліцы не прапусцяць ні адной вітрыны, каб не палюбавацца на свой адбітак. Яны вельмі чулыя на крыўду, а найбольшым аўтарытэтам для іх з'яўляюцца чамусьці ўжо не бацькі і настаўнікі, а — такія ж цыбатыя Люські, Светкі, Галькі. Адным словам, у галаве ў такіх яшчэ гарох з капустай, і што з іх вырасце, ведае адзін толькі бог.

Макару Кірылавічу прыйшлі на памяць яго дочкі. І яны не зналі ні бяды, ні гора, ды ўмелі яшчэ толькі браць. Чалавеку чамусьці зрабілася трывожна.

Уперадзе ўжо загулі трыбы на эскалатарах, а сярод залы паказаліся нікеляваныя парэнчы — там пераход апускаўся ўніз. Бабка пачакала падлетка ды паскардзілася:

— Дзевачка, я надта баюся ўзыходзіць на рухомую лесвіцу, галава кружыцца!.. Ты мне паможаш, дачачка, добра?

Дзяўчо са здзіўленнем хмыкнула, як бы спалохана азірнулася, ці не бачаць такой ганьбы сяброўкі, але хударлявая кабеціна з прамяністымі маршчынкамі лявачэй ужо ўшчаперылася ў яе тонкую руку.

Макар Кірылавіч здзівіўся, чаму старая не звярнулася з такой просьбай да яго. Што ж, даглядаючы недзе вось такіх унучак, мабыць, мыючы, гатуючы ды прыбіраючы за імі, бабка захацела цяпер сплаты,—

разважаў ён і пра незвычайную пару на нейкі час забыўся.

Пераход скончыўся. Макар Кірылавіч пакрочыў механічна да гафрыраванай дарожкі, якая збягала ўніз, зірнуў убок і зноў убачыў знаёмых.

На правы эскалатар, бытта збіраючыся нырнуць у калодзеж, намервалася ўзысці тая самая кабеціна. Зводдаль паказаліся матросы; цыбаты падлетак трымала бабку так, каб яны бачылі, якая яе спадарожніца недарэка, але што яна, дзяўчынка, тут ні пры чым.

Нічога яшчэ не падазраючы, Макар Кірылавіч спакойна ўзышоў на лесвіцу.

Не адпускаючы дзяўчыны, баязліва, бытта ў агонь, ступіла, нарэшце, на рухомую сходку і старая ды свабоднай рукой хутчэй цапнула за гумавы пасак. Пасак гэты ў самым пачатку ідзе не сінхронна з лесвіцай, калёсікі перадач, бытта тракі гусеніц на танку, нясуць гуму ўверх.

Жанчына спалохалася: ногі яе ехалі ўніз, а руку імчала ўгару. Урэшце яна здагадалася адпусціць гумовы пасак, але адразу страціла раўнавагу і ўпала на гафрыраваную дарожку. Разам ■ бабкай паляцела і сумка, з якой са звонам пасыпаліся бутэлечкі з лякарствам, бігудзі, акуляры. На падмогу старой зверху кінуліся матросы.

Як толькі старая пачала падаць, маладая пстрычка са жвавасцю козачкі адскочыла назад і апынулася на другім эскалатары. Часта перабіраючы нагамі, яна ў момант дагнала Макара Кірылавіча і, бы вінаватая школьніца, зыркнула ўбок.

Там бабку трымаў ужо рыжы матрос у бесказырцы, а яго сябры ў чорных бушлатах спрытна збіралі бабчын скарб ды запіхвалі яго ў старэнькі рыдзікюль.

У жанчыны Макар Кірылавіч заўважыў дакладна такі самы выраз, які бывае ў яго цешчы, калі яе пакрыўдзяць унучкі і крыўду старая пераносіць у сабе. Ён перавёў позірк на суседку.

— Я ж яе зусім не ве-едаю! — ні то паскардзілася, ні то паведаміла дзяўчо голасам, разлічаным і на тое, каб яе пачулі матросы.

Яна нявінна пацiснула худзенькім плечуком, сваімі падсіненымі вачыма пашукала ў Макара Кірылавіча спачування ды заявіла ўжо больш упэўнена:

— Прывязалася да мяне нейкая, от яшчэ!..

Чалавека разабрала злосць.

Адчуваючы бяссілле ад таго, што пстрычку гэтую зараз не пераканаеш ніякімі словамі, Макар Кірылавіч механічна, як гэта рабіў не раз са сваімі дочкамі, калі тыя з-за яшчэ адной моднай кофты ці новых басаножак давядуць маці да слёз, з усяе сілы шпарнуў падлетка па худой попе.

Яна не азвалася, толькі ў спалоханых вачах дзеўчаняці ён улавіў так добра знаёмую нянавісць. І раптам усвядоміў сабе толькі цяпер, што дамастроем у такіх выпадках нічога не даб'ешся. Адчуваючы непапраўную страту, ён падумаў і пра сваіх дачок: дзе ён, калі іх выпусціў са сваіх рук?

## БАЛАДА ПРА ВАВЁРАЧАК

Гэты дом творчасці размясціўся ў сасновым бары.

Некалькі гадоў таму назад яго дырэктарам стаў дзейны адстаўнік, які меў сабе макулу* — разводзіць вавёрак. У сваю макулу чалавек уклаў шмат энергіі ды сэрца, абараняючы першых звяркоў ад браканьераў ды катоў, покуль яго падапечных не распладзілася столькі, што яны стварылі адпаведны экалагічны мікраклімат са сваёй сістэмай сігналізацыі і ўжо нават аб ежы клапаціліся самі.

З той пары для ляснога будынка, які носіць імя народнага пісьменніка, настала як бы новая эра — хто б у ім ні жыў, адразу трапляў пад чары хвастатых істот.

Знайшліся людзі, што з-за рыжанькіх звяркоў нават пуцёўку бралі не на мора, а ў гэты дом творчасці.

Дзеці і ўнукі пісьменнікаў знайшлі радасную забаву — частаваць вавёрачак арэхамі.

Вядомая аўтарка, назіраючы за жвавымі стварэннямі праз акно, напісала некалькі апавяданняў.

Другі аўтар прынадзіў іх да сябе на веранду і ўвыніку — вавёркі далі яму тэму на цэлую кніжачку...

---

* Гэтае слова ў маёй вёсцы азначала тое самае, што англійскае «гоббі».

Раптам у доме замянілі дырэктара. Памянялі і загадчыка гаспадаркі. Ім стаў малады энергічны хлопец, якому — што там дом творчасці! — першым чынам захацелася паказаць сябе ў вачах дзяўчат, якія загаралі ля рэчкі. Дзеля гэтага хлопец не прыдумаў нічога лепшага, як справіць сабе з вавёрчыных шкурак... плаўкі.

На незвычайную абнову заўгасу пайшло адзінаццаць звяркоў, і, кажуць, эфект на пляжы быў каласальны.

Тады загадчык гаспадаркі з такога ж матэрыялу вырашыў пашыць і куртку.

Не хачу затрымліваць увагу чытачоў падрабязнасцямі, як малады гіцаль лавіў звяркоў і які ў яго потым быў выгляд — з магнітафонам ды ў рыжай курточцы з дваццаццю пяццю вавёрчынымі хвосцікамі. Скажу толькі, што ўсё гэта рабілася на вачах перапоўненага дома творчасці.

Зрэшты, нагаворваць лішняга на людзей не стану, жыхары слаўнага дома ўсім гэтым абураліся.

Аўтарка некалькіх апавяданняў пра вавёрак мелася ўжо нават ехаць у горад, каб паскардзіцца на гіцля ў Саюз, але якраз у машыне заставалася мала бензіну ды адпачынак у гэтым годзе яна мела кароткі. Яна пашкадавала траціць цэлы дзень немаведама на што ды псаваць сабе настрой.

Аўтару ж кніжачкі пра вавёрак жонка не дазволіла думаць пра тое, што рабілася за сценамі, бо пры хваляванні ў яе мужа павышалася кіслотнасць, здавалі нервы, а прафесар ёй казаў, што клеткі нерваў болей не аднаўляюцца. Жонка ледзь уталкавала яму, што надта смешна рабіць дабро кожны дзень, яшчэ нават — і ў час адпачынку; жыццё чалавека даражэйшае за нейкіх там смярдзючых катоў, сабак ці нават — вавёрак!

Толькі афіцыянтка Зіна спрабавала дзейнічаць.

Бачачы, як загадчык гаспадаркі вынішчае апошніх вавёрачак, а ніякія ўгаворы на яго не дзейнічаюць, Зіна спадарожным «рафікам» адправілася ў Саюз, каб паскардзіцца на сучаснага варвара.

У горадзе, на жаль, афіцыянтка нікога не застала. Дзяжурны сакратар Саюза ў той дзень, кажуць, быў якраз на пасяджэнні Камітэта па ахове прыроды.

# У ЗААПАРКУ

Макака-рэзус нарадзіла мёртвае малое, а ў вальеры запанавала ўзбуджаная весялосць, бытта яно на свет з'явілася жывое. Сяброўкі падлізваліся да маці, спрабавалі яе іскаць, каб тая адно дала ім патрымаць дзіця; да малога падбіраўся самец, каб яго ўшчыпнуць, і ўсё дзівіўся — чаму яго сын не пішчыць, не дурэе; спрабавалі з ім пагуляць падлеткі — маці не падпускала нікога.

Два дні малпа не выпускала дзіця з рук, туліла да грудзей, цалавала ды лашчыла, а то піхала маломy ў роцік сасок і скуленнем як бы клікала ў сведкі сяброўак, што вось — стараецца, робіць усё, а гэты няўмека ўпарціцца, хоць ты трэсні. Яна і спала з ім так, што трупік нельга было адабраць.

Калі я падышоў да вальера, там збіліся якраз уражаныя прыбіральшчыцы, а ветэрынарны ўрач адмыкаў дзверцы. Бабкі ў сініх камбінезонах не спускалі спагадлівых вачэй з няшчаснай маці ды паціху абменьваліся заўвагамі.

— Бедная, як мэнчыцца,— бы парадуха!..

— Ого, не ўсе так убіваюцца і парадухі! Іншая знясе малое ды стараецца хутчэй у дзіцячы дом спіхнуць!.. Тыцнуць бы носам такую верціхвостку ў гэтыя краты ды сказаць: «Во як трэ дзіця любіць!..»

Прыбіральшчыца вальера не прамінула пахваліцца сваімі ведамі:

— А гэтая мартышка якаясь надта важная — амэрыканцы на ёй адкрылі хваробу рэдкую! Ой, дальбо, забыла, як называецца...

— Не хваробу, а — рэзус-фактар! — кінуў малады хлопец у белым халаце ўжо з вальера.

— Во-во. Ён — спірант, лепш ведае...— апраўдвалася бабка.

Толькі цяпер я разглядзеў, як у маці ад малака набрынялі грудзі. Ад болю мартышка не знаходзіла сабе месца і каторы раз запіхвала сасок у маленькі роцік. Няўклюдна падышоў важак, стаў абнімаць самку ды заглядваць ёй у вочы; палёгкі ад яго залётаў малпа не адчула і маркоўнага колеру сасок яна ўзяла ў рот ды з прагнасцю пачала высмоктваць малако сама.

У гэты момант ветэрынар у белым халаце спрытна

выхапіў у малпы трупік, скочыў назад ды зашчоўкнуў за сабой дзверцы.

Што тут пачалося! Макака-рэзус кінулася на краты ды так закалаціла імі, што нельга было зразумець, адкуль у маленькім цельцы бярэцца такая сіла. Малпа ўзняла такі гвалт, што ўзняла на ногі ўсіх звяроў заапарка. Тонкія малпіны пальчыкі на жалезных прутах, жудасны мацярынскі крык ды звар'яцелыя вочы мне і цяпер часам сняцца.

## ГІМН ПРЫГАЖУНІ

Кожная жанчына хоча быць прыгожай.

— Мяне, вядома, завуць Маняй,— прызналася адна,— але ў душы я — Брыжыт Бардо!..

Другая запэўніла:

— А мне куды прыемней было б пачуць ад міністра, што я прыгожая, чым атрымаць вестку, што мяне назначылі міністрам!

І вы не смейцеся!

Гэтай уласцівасцю прырода надарыла жанчын, каб абуджаць у нашага брата творчасць для прадаўжэння роду. Таму для стварэння Жанчыны нябёсы ўжылі ўсялюткія запасы, якія знайшлі ў сваіх свяшчэнных скарбонках.

Кажуць, у Індыі багі калісьці сабралі вялізны кансіліум барадатых брамінаў, і тыя доўга ламалі свае сівыя галовы — з чаго ж яе, гэтую самую Жанчыну, зляпіць? Параіўшыся, яны ўзялі журботнасць Месяца, трапятанне сцяблінак травы, голас салаўя, чароўную красу кветак, прыцягальную сілу магніта, лагодную форму слановага хобата, вясёлую радасць сонечных промняў, солад мёду, позірк лані, гарачыню галавешак, нясмеласць трусіка, цвёрдасць дыямента, вернасць дзікай качкі, а тады яшчэ — учэпістасць вусікаў уюнка, згуртаванасць пчалінага рою, плач ліўневых хмар, ганарлівасць павы, холад снегу, гаркату палыну, мсцівасць асы, майстэрства павука, халодную мігатлівасць зорак, хітрасць лісы, дурман опіуму, вераломства жураўля, лютасць тыгрыцы...— і яшчэ шмат чаго — і ўсё гэта старанна перамяшалі, перамяшалі — усе гэтыя

семдзесят тры шчадроты — і вылепілі Жанчыну ды падарылі свету.

І вы толькі гляньце, што атрымліваецца!

Жыве сабе такі зухаваты фарсун. Бойка круціць абаранак самазвала, спрытна шліфуе на станку дэталі ці ўпарта грызе граніт навукі, ходзіць на танцы, у кіно...

А трапіць яму раптам на вока дзяўчына — і пацягне з беднага залатыя нітачкі!

Праз дзень успомніць ён усмешку, завіток валасоў ды са здзіўленнем адчуе ў сабе перамену. Хлопцу хочацца завалодаць гэтым скарбам! Але ж розум падказвае — ну, куды ж табе, такому няўклюдзе, завалодаць незямным цудам?!

І пачынаюцца пакуты ды сумненні, покуль ён не скісне ды не апусціць носа так, што і сяброў не заўважае! І от, скажыце, парадокс: прыродзе патрэбны былі мільёны гадоў эвалюцыі, каб чалавек стаў чалавекам, а такая сабе гарэзлівая рагатуння знявечыла ўсё тварэнне прыроды ў адзін момант!

Нарэшце хлопец сабе кажа: ну, няхай гэтая прыгажосць недаступная, дык можна ж марыць аб ёй: сон і мроі — адзінае, адкуль цябе ніхто не прагане! І ён акунаецца ў шчаслівыя мары.

Тым часам хараство дзяўчыны абудзіла ў былым фарсуну і высакародныя пачуцці. Яму неўзабаве хочацца стаць слаўным, каб яна хоць раз зірнула ў яго бок. З-за гэтага ён ужо свет перавярнуць гатовы!

Так, браточкі, самы звычайны цяльпук ператвараецца ў генія.

Каханая выявіла патэнцыю хлопца. Кранутая яго слабасцю, захацела ім апекавацца — абдарыла незямнымі шчадротамі. Наступіла збліжэнне.

Толькі ж рана хлопец узрадаваўся. Не скончыліся, далёка не скончыліся яго пакуты. Яму патрэбен стымул, калі мужчына зміры́цца з усім, то табе ляжа і памрэ або сап'ецца. І жонка потым ўсё жыццё яшчэ пілуе, зліць мужа — будзіць у яго энергію да дзеяння:

у інтарэсах сям'і,

для барацьбы за праўду,

на змаганне з ворагамі Радзімы.

Няма дзяўчыны, у якую не закахаўся б хлопец. Бывае — ва ўсім свеце адно ён убачыць яе прываб-

насць. Бо кожная Жанчына становіцца прыгажуняй у перыяд здольнасці да мацярынства.

Мой гімн прыгажуні — гімн Маці.

Няважна, што які-небудзь пустальга свой каштоўны дар выкарыстоўвае для іншай мэты; такія падобны на атлёта, што сілу траціць на ламанне саломінак.

То няхай у нас менш будзе векавухаў, якія точаць зубы на дзяўчыну, калі тая падкароціць спаднічку, лішні раз паглядзіцца ў люстэрка або сэканоміць на хлебе ды купіць модную кофтачку: гэта птушкам прырода раз і назаўсёды дала прывабныя пёркі, а прывабнасць кабеты залежыць і ад яе самой! З-за чароўнай Алены загінула Троя, з-за Евы праперлі Адама з раю, з-за прыгажунь былі братазабойчыя войны, але ж прыгажуні далі і пачатак шэдэўрам.

О сімпатычныя, усемагутныя Ярослаўны!

Покуль існуюць на Зямлі людзі, смялей давайце волю святому інстынкту прадаўжэння роду і — скарайце, на ратныя подзвігі натхняйце гэтых грубых, непаваротлівых, таўстаскурых і цельпукаватых мужчын, каб яны ўволю паспыталі:

пакутаў сумнення,
барацьбы,
пошукаў!

Няхай у Вас ніколі не пакрыюцца пылам усе семдзесят тры шчадроты мудрых брамінаў — насіце «міні», апранайце «максі», выдумляйце прычоскі, так і гэтак чапляйце свае банты, мяняйце ўзоры на панчохах, а вашыя хітраватыя вочы няхай то падманваюць позіркам лані, то абдаюць холадам ільду, то прамяняюць сонцам рафаэлеўскай мадонны, то скоўваюць прыцягальнай сілай магніта — нават каханне без узаемнасці вельмі карысна нашаму брату!

Мамы, не бойцеся за сыноў! Няхай яны па вушы ўлюбляюцца ў прыгажунь! Няхай тыя цягнуць з іх залатыя ніткі, і тады болей стане Ньютанаў, Рэпіных, Курчатавых і Шолахавых!

Няхай не будзе скульптараў, якія страцілі пачуццё прыгажосці і запрудзілі, унь, нашы паркі спартсменкамі-сланіхамі!

Дырэктары тэатраў, артысты, стаўце п'есы пра сапраўдных Жанчын, і ў вас будуць перапоўненыя тэатры!

Пісьменнікі і паэты, пішыце творы з Наташамі Растовымі ды Аксіннямі Астахавымі — і вашы кніжкі не залежацца!

Мастакі, хочаце славы? Малюйце прыгожых жанчын!

Зняць усім шапкі перад Жанчынай! Яна на свет пусціла, выкарміла ды на залатых руках вынасіла сакратара абкома і настаўніка, інжынера і будаўніка, касманаўта і ўвесь свет — хвала ёй і павага мужчын цэлай планеты!

Як сказаў Расул Гамзатаў:

О Женщины!
Мне Ваши косы чудятся тугие,
Мне Ваши речи нежные слышны.
Но все, что здесь сказал Вам, дорогие,
Храните в тайне от моей жены!

## СОН

Апошні час я зусім нічога не рабіў. І было пра што пісаць. Мне ўдалося знайсці багаты матэрыял пра віцебскіх партызан і нямецкага штурмана. Матэрыял быў з вострым сюжэтам, нікім не крануты, але ж было вышэй маіх сіл пераадолець якісьці бар'ер ды ўзяцца за пяро. Я знаходзіў сабе прычыну — то непрачытаную кніжку, то непрагледжаны часопіс, то чакаў пошту, спадзеючыся атрымаць які-небудзь выклік ды паехаць у камандзіроўку, каб адно не брацца за работу, то ўкрадкам ад сваіх хадзіў у кіно...

Я не знаходзіў сабе месца. Зрабіўся няўпэўнены, раздражнёны, сам сабе абрыд, а пры гэтым ведаў дакладна, што варта адно пераскочыць нябачны рубеж, акунуцца ў работу — і адразу апынуся ў атмасферы цудоўнага творчага ўздыму ды буду зноў насіцца па горадзе, бы закаханы, а знаёмыя, як заўсёды, будуць пытацца, куды так спяшаюся.

Мінуў цэлы месяц, а я ўсё не знаходзіў сабе месца.

І вось па тым, мабыць, прынцыпе, па якім галоднаму сніцца хлеб, у юнака бываюць палюцыі, а здароваму чалавеку, што жыве аднастайна, прысніцца, бытта ён ляціць з гары ці трапіў пад машыну,— і ў маім,

гадамі прызвычаеным да творчасці арганізме спрацаваў засцерагальны механізм і ўскалыхнуў ссумаваную па рабоце душу: ноччу падкінуў незвычайны сон. Раніцой я прачнуўся шчаслівы і ўражаны — бачыў сваю першую настаўніцу, пані Стражынскую з мястэчка Гарадок!

Я і не падазраваў, што мая душа гэтак адданая гэтай польцы — бы роднай маці!

Дакладна так, як перад мамай, калі б яна раптам аджыла, я захацеў пахваліцца пані Стражынскай сваімі справамі, дзецьмі, сябрамі, поспехамі, кватэрай; захацеў расказаць ёй перажытае ды паскардзіцца на кепскіх людзей.

Прачнуўшыся, я пачаў успамінаць Стражынскую ды з жахам спахапіўся, што не магу сабе ўявіць яе твару. Кінуўся я да шафы, разгарнуў альбом з фатаграфіямі ды прыгледзеўся да настаўніцы праз лупу. Няўжо мой любімы чалавек меў такі вялікі рот, доўгі нос і няўжо была яна аж такая худая?!

Што ж, у тым узросце людзей запамінаюць па паху цукеркі, якую ён табе даў, па шаўковай кофце, бліскучай брошцы, пярсцёнку; мяне пані Стражынская падкупіла душой. Усе гады вучобы ў сямігодцы яна перажывала маё няўменне, радавалася поспехам, падбадзёрвала, нечага ад мяне ўсё чакала, бараніла і ратавала, і ні разу не абразіла.

Бараніць нас было перад кім; разам вучыліся дзеці багацеяў і чыноўнікаў, але пані Стражынская якраз была на баку пакрыўджаных і абяздоленых, слабых і знямоглых.

А вось пад лупай і я. Падстрыжаная галава з кірпатым носам ледзь выстае з-над плячэй школьніц. У класе я быў, бадай, самым малым, да таго ўсе астатнія вучні былі абутыя. Каб не відаць было босых ног і я не сапсаваў здымка, фатограф уціснуў мяне паміж Валяй Савіцкай і Соняй Цукерман.

Валін брат, Шурка, стаіць у другім радзе. Праз восем гадоў гэты самы Шурка з Цыклопам канваіраваў Соню Цукерман ды пані Стражынскую на конскія могілкі. Цыклоп для фашыстаў быў знаходкай, ад яго можна было спадзявацца ўсяго, але ж я не магу і да сённяшняга дня зразумець, як на ганебную службу да немцаў трапіў Шурка. Нармальны, здаецца, хлопец,

сын прафсаюзнага дзеяча і «грамадоўца», паважанага ў Гарадку чалавека. Шурку не падвядзеш ні пад якія шаблоны.

Сонін бацька быў хірургам. Калі ў маёй вёсцы захварэў на заварот кішок Дзямідка і страшаўца без грошай не прынялі ў бальніцу, Цукерман зрабіў яму аперацыю бясплатна...

На фатаграфіі нас трыццаць двое — дваіх не захацелі. Сашку К. бацька забараніў фатаграфавацца, каб не плаціць за здымак трыццаць грошай.

У Гарадоцкай сямігодцы заіклівы Сашка быў для мяне апорай. Сашкаў брат удзельнічаў у забастоўках, паходах на штрэйкбрэхераў, і ўсе гэтыя падзеі мы перажывалі разам. Потым Сашку ўзялі ў Чырвоную Армію. У першы дзень вайны на граніцы немцы яго злавілі і да дня Перамогі пратрымалі ў палоне. Вярнуўшыся дамоў, Сашка ажаніўся, пусціў на свет гурбу мурзатых дзяцей ды гэтаксама, як яго бацька перад вайной, ходзіць няголены, а падворак яго зарастае травой. Праўда, Сашка ўжо тым-сім розніцца. У яго вельькай хаце вісіць заседжаная мухамі электрычная лямпачка. Сашкава поўная кабета карыстаецца пральнай машынай...

Бываючы ў ПНР, кожны раз я імкнуся ўбачыць сябра, але Сашка заўсёды ўхітраецца ўцячы ды схавацца. Я на сябра не крыўдую. У Сашкі не столькі зямлі, каб разварнуць гаспадарку на сорак кароў, купіць трактар, наняць работніка, што ў ПНР дазваляецца, але ж у яго няма і характару, каб кінуць бацькаў надзел ды куды-небудзь падацца. Зрэшты, з сямігадовай адукацыяй куды Сашка пайшоў бы?! І ён, бедны, цягне панылую лямку, зняверыўшыся ў сабе, як цягнулі яго продкі.

Стражынскую ў сне спаткалі мы разам. І вось мы водзім настаўніцу па Гарадку — адбудаваным, з новым гмахам Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага, з фабрыкай трыкатажу... Водзім, шчаслівыя, бы імяніннікі, сябар перастаў нават заікацца і ўвесь час гаворыць. На гэты раз па-польску гаворыць чыста, мовай інтэлігента. Мы абодва ведаем, што ніколі не перайшлі б з класа ў клас, каб не Стражынская. Колькі ёй даводзілася змагацца за двух беларусаў на педсаветах, даводзіць, прасіць і ўгаворваць настаўнікаў!.. І мала-

ды, прыгожы Сашка ўзахлёб здае цяпер ёй справаздачу за гады выпрабаванняў. А чаму і не пахваліцца яму? Чыноў ён, праўда, не нажыў, ордэнаў не мае таксама, але, дзе б ні знаходзіўся, я ведаю пэўна, Сашка быў чалавекам і Стражынскую не падвёў. Мне вядома, што ў Стражынскай засталася сіратой дачка, трэба было б спытацца ў маці пра лёс малой, але мяне аж падмывае гаварыць пра сваё.

Мы абодва ведаем, што Стражынская расстраляна, ведае і яна сама, але пра гэта ніхто з нас не гаворыць. Пані Стражынская мамінай посцілкай прыкрыла на грудзях свежыя раны ад куль Цыклопа ды слухала Сашку так, як гэта ўмела рабіць толькі яна: ■ жывой, непадробнай і сардэчнай зацікаўленасцю, спагадліва і цярпліва. Бо яна, як маці, любіла ў нас свой боль, свой страх, начное ўставанне для нас. Яна любіла нас так, як скупы любіць сваю скарбонку. Любіла нас у сабе, сябе ў нас — мы мелі шмат супольнага, што нас яднала, а яе скарбонка дала потым плёны, і яна цяпер хацела ведаць якія.

...Я ўсё разглядаю здымак. Для цяперашніх дзяцей фота гэтае ўжо такой даўнасці, бытта для нас былі малюнкі з часоў Напалеона. Трыццаць два чатырнаццацігадовых хлапчукоў і дзяўчынак — палякаў, яўрэяў, немцаў, беларусаў, рускіх і татар — пазіраюць са здымка ў аб'ектыў зусім не так, як глядзелі б цяперашнія дзеці. Вочы і твары ў маіх аднакласнікаў не па ўзросту сур'ёзныя, у іх няма бяздумнасці і тупога самазада́вальнення. Усе яны бытта ведаюць, што для пераважнай большасці з іх гэты пажоўклы здымак — адзіная магчымасць пакінуць па сабе след. Сямёра загінула ў гета. Пяцёра склалі свае галовы на фронце (двое ў нямецкай арміі, адзін у польскай, двое ў савецкай). Двое выпадкова трапілі пад бомбы. Чацвёра памерлі ад звычайных хвароб, Шурка Савіцкі ўцёк у Швецыю, яго праклялі свае людзі...

Пані Стражынская сядзіць у цэнтры, побач з кіраўніком школы. Я каторы раз дзіўлюся, што настаўніца зусім не такая, якой я запомніў, якой яна да мяне з'явілася ў сне. З ночы ў мяне застаўся нядосып: мы доўга хадзілі па Гарадку. Сашка, бадзяга, усё гаварыў ёй пра сваё, я намагаўся перахапіць ініцыятыву, але так і не здолеў. Увесь час я не адводзіў вінаватых вачэй

ад мамінай посцілкі, пад якой у настаўніцы былі крывавыя раны.

Яе забіў Дыгендышаў пляменнік — вучань нашага класа. Яго імя я не памятаю. Ведаю толькі, што ён быў сіратой і жыў у дзядзькі, Дыгендыша. Правае вока хлопчык меў змешчанае на сантыметра паўтара к цэнтру лба. Дзеці прыдумалі для яго здзеклівую мянушку Цыклоп, а пані Стражынская толькі і мела клопату яго бараніць. Але ж не магла настаўніца хадзіць за няшчасным крок за крокам. Таму Цыклоп не прыйшоў і фатаграфавацца.

«Вы шчэ пра мяне пачуеце!» — крычаў ён у тую хвіліну да нас цераз плот. Мы тады абыякава слухалі пагрозы, бо да яго выхадак прызвычаіліся. Напрыклад, пасадзім з мужам Стражынскай у агародчыку пад акном кветкі, а Цыклоп іх павырывае. Аднойчы знішчыў цэлую выстаўку нашых малюнкаў, арганізаваную панам Стражынскім...

Муж настаўніцы, пан Станіслаў, быў высокім брунетам. Гэта ад яго я навучыўся вастрыць аловак доўгімі, смелымі зрэзамі, маю ўяўленне аб гарызантальнай і вертыкальнай перспектыве, ведаю ноты ды асновы нямецкай граматыкі...

Мама аднойчы вярнулася з мястэчка, усхвалявана гаворыць бацьку:

— Ой, слухай, Нічыпар, то ж Стражынская развялася з мужам! Увесь Гарадок толькі пра гэта і гаворыць!.. Такі файны пан, а яна — захацела і кінула яго!.. Ты чуў калі-небудзь пра такое?!

Я ўпершыню бачыў маму такой. У яе бойкім голасе было захапленне ўчынкам настаўніцы ды выглядала на тое, бытта ва ўчынку Стражынскай — частка і мамінага геройства.

Так і я не дазнаўся потым, ці Стражынская разводзілася з мужам сапраўды.

У канцы 1942 з беластокскага гета ўцяклі Цукерманы. Дабраўшыся нейкім чынам за ноч да нашай вёскі, на світанні дачку і жонку хірург павёў грэцца да Дзямідка, якога некалі выбавіў ад смерці. Дзямідавы бабы ўзнялі гвалт ды выперлі гасцей з хаты, а гаспадара пагналі на паўстанак у нямецкі бункер. Хутка два салдаты з аховы пуці, дапіўшы сваю каву, ускінулі карабіны на плячо ды адправіліся па свежых сля-

дах Цукерманаў. Стомленую сям'ю немцы дагналі за тры кіламетры ад Страшава, пад лесам Дубава...

Я ўжо не памятаю, за што тады бралі ў Гарадку заложнікаў, у лік якіх трапіла і Стражынская. Потым арыштаваных павялі на конскія могілкі і далучылі да іх сям'ю хірурга. Дыгендышаў пляменнічак, які ў ролі паліцая для фашыстаў быў знаходкай, папрасіў дазволу ў фельдфебеля расстраляць настаўніцу. Стары Цукерман над ямай трымаў аслабелую жонку, а яго Соня абнялася з настаўніцай...

Тое ўсё адбылося вельмі даўно, але сёння Стражынскую ўбачыў я так выразна, што нават разгледзеў кожную нітку на посцілцы, а ў вушах яшчэ гучыць яе голас. Сон разварушыў ва мне злы боль, аднавіў страсці, гукі і пахі дзяцінства ды так мяне ўскалыхнуў, што ляніўства ды неспакой некуды ў момант выветрыліся, увесь я напоўніўся прагай да працы ды з жахам падумаў: «О-ей, як я мог цэлы месяц біць бібікі?!»

## ВЫПАДАК З ХЛОПЧЫКАМ

### 1

Удава сынам давала наказ.

— Мішка, нá грошы, схадзі ў палітмахерскую ды пастрыжыся, покуль шчэ рана і калейка там малая. Паедзеш у Ваўкавыск на экскурсію з настаўніцай, то хоць на чалавека падобны будзеш! А ты, Вася, пагуляй у двары з Коляй! Толькі не лезце да рэчкі! Вернецца Мішка, папасеце на выгане карову!

Шчарбаты брат з круглымі ад жаху вачыма ўдакладніў:

— Мам, а ў палітмахерскай будуць Міску дусыць духам?!

— Духі, сынок, для жанчын выдуманы. Для вас, мужыкоў,— адэкалон.

— А генералам пырскаюць на валасы «Шыпр»! — пахваліўся сваімі ведамі суседчын Коля.

Удава ўзяла з этажэркі скрыначку ад халвы, стала перабіраць у ёй капейкі.

— Дзесяць, дваццаць, трыццаць, трыццаць пяць... Мо даволі? — жанчына заклапочана паўзіралася на

сына і пяць капеек прытрымала.— За такія грошы і праўда генералаў стрыгуць з гэтым самым «Шыпрам», а ты ж у мяне шчэ не генерал, хопіць з цябе і «Трайнога»?.. Ладна, бяры ўсе, калі застануцца — рэшту прынясеш!

— Мам, хай мне марозанае купіць! — падказаў Васіль.

— Я ж табе ўчора купляла — не такі пан, каб кожны дзень прысмакі выядаць!.. Мішачка, толькі не згубі грошай! І не баўса там! Памятай, што ўжэ не маленькі — у другі клас перайшоў і цяпер у мяне гаспадар ты!.. А захочаце, хлопцы, есці — каструля ў духоўцы!..

Маці вярнулася ўжо ад парога:

— А-га, а што ты, Міша, скажаш, увайшоўшы туды, там жа на цябе розныя людзі глядзецімуць!..

Навучыўшы сына, як у «палітмахерскай» казаць «дзеньдобры», як спытацца, хто апошні ў «калейцы», ды правёўшы з ім яшчэ і рэпетыцыю, каб размова з людзьмі ў сына выглядала хораша, маці кінула:

— Ну, я пайшла!

## 2

Адзіная ў пасёлку цырульня змяшчалася ў цэнтры — паміж магазінам і сельпо.

Калі Міша адчыніў шкляныя дзверы ў вестыбюль, там у «калейцы» стаяў толькі дзядзька Барыс, які гэтаксама, бы Мішаў бацька, на самазвале вазіў з кар'ера на камбінат жвір. Калі Мішаў тата трапіў у аварыю, дзядзька Барыс быў на памінках, саджаў братоў на калені і суцяшаў. Цяпер ён тырчаў ля вушака ды гаварыў у другі пакой да абкладзенага прасцінай чалавека.

Дзядзька Барыс на прывітанне не адказаў, бо голасна выхваляўся, як з сябрам учора раздабыў паўлітра і што з гэтага атрымалася. Размовы такой хлопчык не любіў, а мама казала — каб не праклятыя паўлітры, тата з машынай не перакуліўся б. Міша не стаў пытацца пра «калейку», бо і дурань разумеў бы, што стрыгчыся яму пасля дзядзькі.

Хлопчык з цікавасцю пачаў азіраць залу.

Пасярэдзіне вестыбюля тырчаў голы стол, за ім на

сцяне вісеў градуснік. Хлопчык падышоў і прыглядзеўся.

Дакладна такі самы красаваўся ў іхнім класе — з чырвонай кропелькай на канцы шклянога аловачка. А Колька гаварыў, што ў горадзе, адкуль ён з мамай пераехаў, маразы бываюць па тысячы градусаў! Яшчэ Колька расказаў, бытта там пры такіх, як тут, маразах — трава зелянее і людзі ў кашулях ды босыя ходзяць, а градуснікі там вялізныя, бы тэлеграфныя слупы!

Няма таты, не спытаеш, ці можа такое быць.

Зрэшты, звычайным тысячу градусаў напэўна не змераеш. Нават школьны градуснік яны выносілі зімой на снег, і ён ніякага марозу не паказаў — чырвоная сэрцавінка некуды апала, і ўсё...

Са жмутам газет з вуліцы якраз зайшоў сярдзіты дзядзька.

— Хто апошні? — спытаўся ён.

За дзядзькам Барысам цяпер стаялі два мужчыны.

— Я! — кінуў крайні з іх, бытта Мішы тут і не было.

— Буду за вамі! — чалавек паднёс стол да акна, прысеў да яго, выняў акуляры і пачаў гартаць газету.

Пакрыўджаны Мішка паўзіраўся на вішню за акном, пачаў лічыць зялёныя пупышкі, але пасля сотні збіўся. На сучку застыла бліскучая смаляная кропелька...

Тут Міша праз акно заўважыў Васю з Колем і кінуўся займаць «калейку». Цяпер у ёй тырчала аж пяць заклапочаных мужчын, хлопчык вымушаны быў далучыцца да іх.

Праз хвіліну адчынілся раптоўна дзверы, і на секунду паказалася Колькава галава.

— Генерал! — крыкнуў ён у залу, і вось ужо Колька з Васем давалі драла за магазін. Сярдзіты мужчына, які дагэтуль чытаў газету, зыркнуў з-пад акуляраў і хітравата яму ўсміхнуўся, ад чаго хлопчык адчуў у сабе прыліў гордай сталасці ды на момант спазнаў, як прыемна быць дарослым.

Увайшоў дзядзька з новай касой. Мужчыны як бы ажылі, пачалі кончыкам касы стукаць па батарэі ды вызначаць — мяккая ці цвёрдая, а тады яшчэ сталі на касу хукаць ды прыглядацца — ці хутка зыходзіць з

яе раса. Нагледзеўшыся на ўсё гэта ўволю, Міша пайшоў да вушака, зазірнуў у другі пакой.

Чалавек у белым халаце нарабіў з парашку мыла і на бараду ды шчокі дзядзькі Барыса наклаў ужо столькі пены, што можна было ёю кідацца. Пена была белай-белай. Хлопчык здзівіўся.

«Ты глядзі, а зробленая з жоўтага парашку — як гэта атрымліваецца?! Альбо яшчэ большае дзіва — як у каровы з зялёнай травы атрымліваецца малако?!»

Міша пашкадаваў, што не спытаўся калісьці ў таты. Ён многа пра што не паспеў спытацца. Напрыклад — пра «кнігу», якая, кажуць, знаходзіцца ў кароўім жываце. Да Красулінага боку на днях ён прыкладваў вуха і доўга прыслухоўваўся, як у неабсяжным чэраве нешта перакатвалася і грымела, булькала ды напружана скрыгітала...

А малако робіцца ніжэй.

Мішу раптам прыйшло ў галаву пусціць карову на выган ды прыкласці да вымені вуха. Не можа таго быць, каб ён не падслухаў які-небудзь сігнал вялікай таямніцы!

Мішу ўжо не цярпелася дамоў, толькі ж абавязкова трэба было пастрыгчыся, інакш маці не пусціць на экскурсію.

Хлопчык адно цяпер спахапіўся, што ў «калейцы» стаяла ўжо чалавек сем. Дзядзька, які з'явіўся з касой, жаліўся суседу, што ў яго зламалася брытва і ён вельмі спяшаецца. З гаспадарчай сумкай у руцэ зайшоў яшчэ чалавек і спытаўся:

— Хто апошні?

## 3

Жыў тады я ў Свіслачы на правах дачніка.

Адной раніцы зайшоў я ў цырульню ды заняў чаргу. Неўзабаве маю ўвагу прыцягнуў хлопчык, які з бездапаможнай паныласцю таптаўся ў вестыбюлі. Калі ж малы заплакаў ды пайшоў на двор, я адклаў газету ды кінуўся следам.

Мішу ўдалося перапыніць за магазінам.

— Пусці-іце! Пусці-іце!..— выбухнуў хлопчык яшчэ большым плачам ды забарабаніў кулакамі мне ў грудзі.

Нямала я патраціў часу, покуль малы выдавіў з сябе сваю крыўду.

Выйшлі мы потым з цырульні сябрамі ды адправіліся шукаць Мішавага брата. Васю з Колем удалося знайсці ў полі. Хлопчыкі прывалаклі на мяжу літровую бутэльку з вадой і, бытта цераз лупу, разглядалі цераз яе мурашак. Яны так захапіліся сваім доследам, што нас не адразу і заўважылі.

А што было б, калі б і я ў цырульні вельмі спяшаўся ці меў кепскі настрой, што часта са мной здараецца?!

Ці менавіта не з такіх выпадкаў, які перажыў Міша, хлопчыкі пачынаюць адыходзіць ад дарослых, а то яшчэ і горш — рабіцца кепскімі людзьмі?

# ЗМЕСТ

Карпюк А.
К 26 Свежая рыба: Аповесці і апавяданні. Мн.: Маст. літ., 1978.— 368 с.

Кнігу складаюць дзве аповесці, апавяданні і вялікі цыкл нявыдуманых гісторый. Аповесць «Свежая рыба» — пра сённяшні дзень нашых людзей, сям'ю настаўніцы і вучонага, пра іх працу і клопаты.

Аповесць «Па кветку шчасця» напісана на матэрыяле з жыцця Заходняй Беларусі і расказвае пра падзеі, сведкам і ўдзельнікам якіх быў сам аўтар.

У апавяданнях раскрываюцца лепшыя рысы нашага чалавека, высмейваецца мяшчанства і перажыткі мінулага ў свядомасці людзей.

К $\frac{70303-081}{М 302(05)-78}$ 10—78 Бел 2

*Алексей Никифорович Карпюк*

СВЕЖАЯ РЫБА

Повести и рассказы

Издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар У. М. Дамашэвіч. Мастак А. А. Вятанава. Мастацкі рэдактар А. І. Труханава. Тэхнічны рэдактар З. Г. Сень. Карэктар А. Т. Глушчанка.

ІБ № 105

Здадзена ў набор 11.08.77. Падп. да друку 12.04.78. АТ 09656. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура школ. Друк выс. Ум. друк. арк. 19,32. Ул.-выд. арк. 18,82. Тыраж 14 000 экз. Зак. 561. Цана 1 р. 40 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.